# МАКСІМ ГАРЭЦКІ



ТОМ

2

## АПОВЕСЦІ

## ДРАМАТЫЧНЫЯ АБРАЗКІ

МІНСК
«МАСТАЦКАЯ ЛІТАРАТУРА»
1985

# МАКСІМ ГАРЭЦКІ



## ЗБОР ТВОРАЎ У ЧАТЫРОХ ТАМАХ

Рэдакцыйная калегія:

А. М. АДАМОВІЧ, С. А. АНДРАЮК, Д. Я. БУГАЁЎ, Г. М. ГАРЭЦКАЯ, Г. І. ГАРЭЦКІ, В. А. КАВАЛЕНКА, М. І. МУШЫНСКІ, І. Я. НАВУМЕНКА, Б. І. САЧАНКА

Рэдактар тома

М. І. МУШЫНСКІ

Падрыхтоўка тэкстаў і каментарыі

Т. С. ГОЛУБ, М. П. КЕНЬКІ

МІНСК
«МАСТАЦКАЯ ЛІТАРАТУРА»
1985

Бел 2
Г 21

Гарэцкі М.
Г 21 Збор твораў. У 4-х т. Т. 2. Аповесці. Драматычныя абразкі.— Мн.: Маст. літ., 1985.— 416 с., 4 л. іл.
У пер.: 2 р. 90 к.
Другі том складаюць аповесці «У чым яго крыўда?», «Меланхолія», «Ціхая плынь» і драматычныя абразкі.

Г $\frac{4702120200-038}{М 302(05)-85}$ падпіснoе

ББК 84Бел 7
Бел 2

# У ЧЫМ ЯГО КРЫЎДА?

## I

— А дзе тое мора?
— Краскамі зацвіло...
(З дзяцінай песні)

Гэта дзеялася тады, калі яму, Лявону, Рыгораваму сыну, на прозвішча Задума, ішоў дваццаты год, і ён быў ужо ў апошнім класе сельскагаспадарчай школы. І гэтым разам, як кожны год, прыехаў ён на каляды дамоў і бавіў свой гулявы час у роднай вёсцы Цёмналессе.

Цёмналессе — невялічкае, усяго там хат з дваццатак, і дужа, можна сказаць, глухое. Гісторыя чалавечага развіцця пасадзіла яго сярод вялікіх лясоў і прысунула да яго першы знак цывілізацыі — царкву, у канцы васемнаццатага веку, вёрст за дзесяць (як кажуць, але, мусіць, з добрым гакам). Другі знак цывілізацыі — валасную канцылярыю, у палове дзевятнаццатага веку, адчыніла яна ў мястэчку вёрст за пятнаццаць. Там жа, дзе канцылярыя, у мястэчку Целяпенічах, ёсць цяпер і пошта, але калі яна тут цвёрда абсталявалася, сказаць цяжка і нават немагчыма, бо адчынялася і зачынялася, пераводзілася ў іншыя месцы і ізноў варачалася назад — шмат разоў. Нарэшце, самы ўжо відавочны знак цывілізацыі — чыгунка — прале́гла ад Цёмналесся пакуль што, на пачатку нашага веку, за добрую сотню вёрст.

Выпадала б яшчэ адзначыць і манапольку, бо адна красавалася сваёй сіняй шыльдай побач з царквою, а другая такая ж самая побач з валасною канцылярыяй — ці, лепей кажучы, не зусім побач, а на дазволенай законамі адлегласці. Але гарэлкі можна дастаць, і колькі хоця, і ў самым Цёмналессі, толькі з-пад палы, і пералічэнне знакаў цывілізацыі робіцца тут, галоўным чынам, з мэтаю паказання, як далёка жыў Лявон Задума ад культурных асяродкаў і наогул ад розных такіх пунктаў, дзе мог бы ён пабачыцца з большым лікам і з большай разнастайнасцю людзей. Гарэлкі ж ён, супроць паведак свайго роду, зусім не любіць, і, прынамсі, не пойдзе ён купляць яе ў тых манапольках.

Праўда, і ў справах веры быў Лявон Задума дзіцяцем свайго часу,— часу між дзвюх эпох, калі багі старых бацькоў трацяць свой аўтарытэт ці, проста кажучы,— павагу, уваччу нават малых дзяцей. Але з тае пары, як пазачыняліся нашы старасвецкія карчомкі, найлепей у царкве можна цёмналесцу ўбачыцца з людзьмі, хоць ад большага да большага свята. Тут усе — свае родныя людзі, і зусім мала паноў у чорным,— дзеля таго няма ніякай гэткай прыкрасці. Тут высокія, быццам у паноў, сцены і стаўпы, залатыя, толькі па назову «царскія», дзверы, вялікія на сценах абразы,— адным словам, не так, як у сваёй, цесненькай і чорнай хаце, а разам з тым усё тут як бы сваё — супольнае, чамусьці як бы пераважна мужыцкае, хоць пання і давала лесу на рамонт. Тут няма спрыкленай штодзённай неахайнасці, заместа смараду — прыемна пахне ладанам, воскам і фарбаю, а царкоўная адправа гаворыць цёмналесцу, як і другому такому ж парафіяніну, што ён звязаны аднакаваю дзейнасцю з усім шырокім светам. Толькі клопату, што ў адправах гэтых невядома, што і на што,— было б куды ўцячы ад будняў, было б куды пайсці на людзі. А ўлетку ж тут можна і сесці на цвінтары пад ліпкамі пакурыць, пазюзюкаць, пачуць навіны і пажаліцца, калі ё,— няхай яго не будзе! — гора... Узімку ж можна ўбіцца ў калавурку, што пры царкве, і разам з усімі людцамі пускаць з піпкі дым.

Для мужыкоў на тыя пагулянкі служыць свята. Але хлапцу вучонаму можна і ёсць куды пайсці з глухога Цёмналесся — хоць бы і не ў свята. Дзе ёсць царква, там ёсць і поп; у воласці ж ёсць пісар і памочнік; на пошце — паштавы начальнік; а для вучоных — «неперавучоных», ці тое не чытаўшых «Хітрае механікі» і з паліцыяй не гордых, тут ёсць і паліцэйскі ўраднік, быўшы фельдфебель гвардыі, чалавек адукаваны, які быў бы нават дужа задаволены ад знаёмасці з другім адукаваным чалавекам, а злашча жыўшы ў той глушы.

На жаль ці не на жаль, але Лявону было да іх не толькі падалёка, асабліва пры худаватай пары бацькавых коней, а і не любіў жа ён «усіх гэтых чарцей», як толькі можа не любіць усякага начальства наш мужык. Праўду кажуць, што прырода і навуку адалявае!

Далёка да мястэчка, дык далёка і да яўрэяў — гэтай самай лічнай і больш дэмакратычнай, чым паны-хрысціяне, інтэлігенцыі нашага краю, толькі што лішне адгароджанай ад мужыка сваім сацыяльным станам і яшчэ бо-

лей сваімі каставымі забабонамі, часта прыкрытымі нават у яе лепшых прадстаўнікоў толькі бедным фігавым лістком. Ды не ў тым была б бяда,— вось ніводная вучоная яўрэйка не разумее Лявонавай адраджэнцкай беларушчыны — і не будзе гаварыць з ім па-мужыцку. А можа, і Лявон — не без тых каставых і наогул сацыяльных забабонаў? Вотта ж, у кожным местачковым яўрэйскім доме, самым бедным, вокны з фіранкамі, чаго спрадвеку не вадзілася ў Цёмналессі і не было цяпер нават на вокнах у яго бацькі. Не яўрэйская ж у тым віна, але сядзеў у ім мужык, і з гэткае драбніцы, як фіранкі, думкі зусім не лагічна, не справядліва і ў гэтым жа прыпадку ганебна для дэмакрата, сацыяліста, хоць бы і беспартыйнага, якім быў Лявон, пералятаелі на абраз, зусім паважны ў справе: вось сядзіць гандляр у крамцы, як слабенькі, але ўсё роўна подлы, павучок, і чакае на ўбогага, безграшовага мужыка, як на тую здохлую муху, каб з тым большай лёгкасцю, па сваіх сілках, высмактаць рэштачкі соку, не дбаючы аб якой іншай, цяжэйшай працы... І хоць вучоныя яўрэйкі маглі б троху прагнаць Лявонаву вучоную нуду і смагу,— яго шляхі да іх былі таксама перагароджаны мужыцкаю крывёю ў жылах ці тым, што хоць ні ў якім разе не ёсць і не было ніколі юдафобствам, але ж не сведчыць і аб рэвалюцыйным поступе... Праўда, у горадзе саромлівы Лявон з прыемнасцю, хаця і ўкрадня, заглядаўся на гожанькіх дзяўчат іудзейскага народу, і буржуек, і пралетарак, і звычайнага серадовага стану. І ўва ўсім горадзе найболей паважаў за рэвалюцыйныя ідэі свайго былога настаўніка іудзея-бундаўца.

Ёсць тут у ваколіцах і шляхта. Па праўдзе кажучы, у сваёй культуры, узятай, як той казаў, «у цэлым і агульным», шляхта гэтая не вялікае што супроць самых акаянных мужыкоў,— значыцца, працуе яна, як чорны вол, есць яна бульбу, у пісьменнасці яна ні бэ ні мэ, абуваецца яна ў лапці і анучы... Але ж у свята, ідучы ў царкву (тут шляхта праваслаўная), накладаюць шляхтуны на свае, па-мужыцку змуленыя шыі вялікія каўняры, хоць і не надта чыстыя і ўжо пажаўцелыя ад пераклонных лецяў, але ўсё ж, знакам тым, на іхны розум — панскія, а на Лявонаў — агульнаеўрапейскія; шляхцянкі ж напінаюць на свае, не ў крыўду будзь ім казана, потныя і немаленькія працоўныя рукі ніцяныя белыя пальчаткі і бяруць з сабою парасоны, не столькі дзеля сонейка і дажджу, колькі дзеля хараства. Нават на Лявонаў мужыцкі смак, парасоны

гэтыя больш прыгожы на музейны погляд, бо маюць часам гадоў па дваццаць, а можа, і болей (наогул цяжка сказаць дакладна, колькі яны маюць гадоў); але як нешта з еўрапейскае матэрыяльнае культуры, а злашча ў прыгожае шляхцяначкі, маглі б яны, разам з не зусім мужыцкімі азнакамі і разумовае культуры ў шляхецкім жыцці, пацягнуць к сабе вучонага Задуму, ну хоць бы (падумаем, як ён), ну хоць бы для цікаўнасці. Аднак і шляхта, якую нават прыемна было яму дагнаць па дарозе да царквы і ўспомніць, гледзячы на тыя ўборы, усё, што дадзена было яму ў расійскай школе з гісторыі культуры ў яго родным краі, нават і яна грэбуе чорнай мужыцкай косткаю і прымае ў сваю кампанію вучонага мужыцкага хлапца толькі за яго вучонасць, паказаную навочна звездкаю на шапцы і бліскучымі, у два рады, гузікамі на форменнай тужурцы, бо за той яго вучонасцю ідзе і панскасць. «Дык няўжо ж хадзіць да іх,— думаў Лявон Задума,— дзеля тых іх каўняроў, пальчатак і старавечных парасонаў?»

## II

А хто там ідзе, а хто там ідзе
У агромністай такой грамадзе?
Янка Купала

Лявон нікуды не хадзіў і цэлы дзень, скрозь цэлыя каляды, сядзеў у хаце.

А каб не выпусціць на волю злосці і не пасварыцца з хатнімі, абнізіўшы тым свой вучоны гонар,— ён цэлы час глядзеў у кніжкі. Такое там было і чытанне: больш таго злослівага, але ж бясплоднага думання і наракання, бо ўсё наўкола не так, як яму хочацца.

Але чакайце, не кажыце пакуль што: «Эх, Лявон, Лявон Задума! Махнеш ты, мусіць, на ўсё рукою, кінеш роднае балота і з'едзеш у чужы вясёлы край... Не ты ў нас гэткі першы, не ты ў нас гэткі і апошні». Не кажыце, бо трапілі ж яму да рук «Песні жальбы» — Якуба Коласа і «Жалейка» — Янкі Купалы, а гэтыя-то кнігі многіх той парою зусім збілі з даўнага тору, а некаторых, прынамсі, звялі з яго на ўбочныя дарожкі і працягнулі іхнае блуканне на тых убочынах на значна большы час, як тое магло быць у перадгэтую эпоху.

Дык пакуль што Лявон, як пэўны адраджэнец, ані мысліў нават пра тыя ўцёкі, толькі запёрся на ўсе каляды ў бацькавай хаце.

Хіба ж увечары, і то не ўсякі дзень, уздзеўшы не чорнае сваё паліто з жоўтымі гузікамі і зялёным кантам, а напрануўшы буры (і цяплейшы) бацькаў кажух ды ўзяўшы ў рукі качарэжку (бывае, на ўсякага сабаку), вылязаў ён гэткі на вуліцу. У такім убранні лепей яму хадзіць у Цёмналессі познаю парою, бо ніхто не ўбачыць яго вучонасці (а на яго вучнёўскае паліто сабакі надта брэшуць).

І тут жа, ля свае хаты, стаяў нямала часу і паглядаў ува ўсе сумныя бакі. Глядзеў — і, пэўна, думаў: куды ж бы гэта пацягнуцца?

Хоць і слабы загад з раздуманай галованькі, усё ж, нарэшце, зрушаў нагу і плёўся ён абы-куды: хоць да канца хат.

Калі ж не бачыў ён на вуліцы ні чалавека, ні сабакі, калі не чуў нідзе нічога, а тут падобная ціша — не дзіва,— дык пускаў адну нагу і другую пераступаць самохаць далей за край хат. І яны пераступалі, як той мужыцкі конь з калёсамі, на якіх ехаў-ехаў чалавек дый задрамаў ад невясёласці або заснуў ад лішняй кварты, пусціўшы коніка па яго добрай волі.

Тым часам свежанькія, беленькія сняговыя завеі, на няўезджанай за хатамі дарозе, спынялі абутую ў не дужа лёгкі казённы бот нагу (вучыўся ён на скарбовы кошт, бо бацька толькі спачатку троху пасабляў). І вучань, можа б, зараз і прыстаў бы, каб вось ужо зімовая пустэльнасць засыпанага снегам поля не пацягнула яго зморaных і кніжным друкам, і сядзеннем цэлы дзень у хаце воч яшчэ троху наперад, пад недалёчкі змёрзлы лес. І рух, наўздзіў самое волі, не спыняўся.

Пустэльня, як заўсёды, цямнелася па-свойму гэтым вячэрнім часам ягоных пагулянак: цямнела яму ў вочы ціха і без дум. Яна не ведала, бо не чытала ў кнігах, што ёсць шырэйшы свет з вышэйшаю культураю. Яна быццам і ведаць не хацела шпаркасці жыцця і клопатаў далёкае адгэтуль цывілізацыі, зусім чужой і непатрэбнай дзеля пустыннага спакою. Пустэльня маўчала цяжка, сцюдзёна і безуважна. Маўчала так, каб і атручаны чужнінай сын яе забыўся тут, на родненькіх улоннях, на ўсё тое, што ўдзень казалі яму кнігі, а нават і на тое, што час да часу даводзіла яму так пільна нецярпліва чаканая і так марудная ў сваім жыцці і яшчэ больш у сваім паштовым падарожжы газета адраджэнцаў «Наша ніва».

Даплёўшыся патроху аж да лесу, ён разглядаўся, што тут канчаецца прасцяг хады.

Каб не паддацца, няведамай як мае быць самому, супраціўнасці прастору ці то, можа, каб не вярнуцца ніякава дамоў, а задаволіць першым яўным чынам сваё жаданне перавярнуць на свой капыл усё жыццё гэтай пустэльні,— хлапец схадзіў, на два разы ступіць, з дарогі.

Тут, падкомкаўшы аднак жа пад сябе дзеля цяпла кажух, садзіўся ён, як добрая квакуха, толькі не ў рэшата, а на пухова-снежнае сцюдзёнае гняздо. Паклаўшы побач кій, а рукі сашчапіўшы ў касматых рукавах, узводзіў вочы на бедны месяц, спавіты нудным туманом.

Галава яго была цяпер тым целяпнёвым мужыцкім пірагом, які так шчодра накрапаны сваім хатнім добрым мясам ды пераперчаны да вомігу новым, дагэтуль не ўжываным гатункам перцу.

Месяцу ж было ўсё роўна: ці там хоча завыць сабака, з высокім апетытам і нізка падтуленым ад голаду хвастом, ці там хоча пяяць свой хвальны гімн пустэльнай адзіноце вучоны хлопец, з сваім высока ўзнятым ідэалам над нізка апушчаным жыццём.

— А-а, калі ж табе ўсё роўна, дык вось і мне ўсё роўна,— распінаўся ў сваіх думках вучань.

— А-ву-у! А-ву-у! — дзеля смеху стараўся ён удаць сабачае выццё як можна лепей.

— А ву-у-у! А ву-у-у! — чуў ён сам сваё, а быццам нечае чужое, вельмі слабенькае супроць сабачага, выццё. І ізноў са смехам,— праўда, не вялікім смехам,— думаў: як бы рагаталі цяпер, убачыўшы яго, тыя людзі, што лічаць яго за такога заўсягды паважнага маладога чалавека.

А месяц, які свяціў цяпер і там, над той вышэйшаю культураю, хаваўся гэтым часам яшчэ глыбей у свой туман.

Каб болей не сядзець на холадзе няведама чаго, Лявон браў кій, усхопліваўся раптам на ўсе ногі і бег, не гледзячы, угрунь, як той ліхі казак на ворага ў атаку, з выстаўленым, як ражон, кіём, замест пікі, і распусціўшы кажуховыя полы па волі ветру. Бег і пяяў на ўсю сілу:

А хто там ідзе, а хто там ідзе
У агромністай такой грамадзе?!
— Беларусы!!!

Слова «беларусы» крычаў ён што ёсць духу, дзіка, праразліва, быццам склікаючы другіх падобных неўрастэнікаў на страшэнны гвалт.

І бег так, халяруючы, аж пакуль не выбіваўся з духу. Тады ўжо прыставаў, збаяўшыся, што можна прастудзіцца, бо аж да поту ўвагрэўся і ляціць з разяўленаю глоткаю.

І ішоў паціху, з весялейшым сэрцам, але з маленькім сорамам. Як трошку вінаваты, без злосці пазіраў на хаты, а там гарэла ціхае сялянскае святло і гулялі святам людзі.

## III

Не гарыць, а цьмее...
Народн[ая] прымаўка

І так быў не першы і не апошні звычайны калядны вечар даўнага рэжыму, калі ўдзень можна працаваць, а як сцямнее — грэх, дзеля чаго бабы не прадуць, мужчыны не плятуць лапцей, а хлопцы і дзеўкі збіраюцца на вечарушкі.

Бацька ляжаў наўзнак на печы, паклаўшы ў голавы старэнькі армячок. Матка сядзела ля яго на запечку, падпёршы схіленую набак ад маўклівасці і зробленае за век працы галаву праваю рукою, а локаць паставіўшы на далонь левае рукі,— адным словам, так, як сядзяць усе старэйшыя ці збедаваныя славянскія, а ў нашым краі нават і яўрэйскія, жанчыны.

Лявон, вядома, сядзеў на зэдліку пры стале, узняўшы галаву троху вышэй, пад цямнявую малую лямпу (бо дарагоўля на карасін),— і чытаў. Вочы бегалі па кнізе, а думкі ішлі сваім шляхам.

У хаце ж былі толькі яны ўтраіх: бацькі і ён, бо ўсе няўчоныя маладзейшыя пабеглі гуляць.

Бацька думаў сваё, Лявон сваё, а матка думала аб сыне: як бы гэта яго развесяліць?

Калі ён, няўпрыцям сабе, цяжанька ўздыхнуў, яна прамовіла, асмеліўшыся перабіць яго чытанне:

— Сыночак!..

— Ну, што? — з ніяк няскрытай злосцю ў голасе перабіў пытанне сын.

— Трэба ж ткі табе сядзець цалюткі дзень у хаце! — яна перамяніла рукі і прыхінулася прасцей да цёплай печы.— Прайдзіся ты на вечарушкі, пагуляй з людзьмі...

— Што я там знайду? — адказаў сыночак, мімаволі натапырыўшыся, як той індык.

— Ну што: вядома, што... усе гуляюць.

— Ну так: вядома, што...— гэтак сказаў Лявон, а тое, што хацеў бы сказаць далей, тое толькі падумаў.

«Знайду тупагаловых дзевак,— падумаў ён,— буяншчыкаў-хлапцоў, [...] брыдкую лаяніну, гульню на грошы ў карты, гідкае скалазубства, насміханне над маімі думкамі аб лепшым, зусім не гэтакім жыцці».

— Усе гуляюць, а ты сядзіш адзін у хаце,— сказала матка.

— Я не адзін, [redacted] з вамі...

— Што — што з намі? Ты з намі нічога не гамоніш.

— Пытайцеся ў мяне, калі што хочаце пытацца...

Матка памаўчала, падумала, а падумаўшы, сказала:

— І дзеўкі ўжо дзівіліся, чаму гуляць не ходзіш. Што гэта, кажуць, з вашым Лявонам? Быццам людзей баіцца ці ўжо сароміцца нашых простых ґульняў.

— Ат, мама! Гаворыш...

Тады і бацька павярнуўся.

— Што ты, старая, прычапілася к яму з сваімі дзеўкамі? Што яму, вучонаму, тыя твае дзеўкі? К настаўніцам няхай бы з'ездзіў, усё ж яны вучоныя — і ведаюць, што як нашто...

— Ага, паеду к настаўніцам! Як слова я ў іх што лепшае знайду? — так сказаў, а тое, што хацелася дадаць яшчэ, тое толькі падумаў. «Настаўніцы з паповічамі круцяцца,— падумаў ён,— звяжыся я, скажуць цёмналесцы: навучыўся на сабачы брэх, запанеў, да мужыкоў — ні блізка, а да папоў стаў ліпнуць». Падумаўшы, не ўцерпеў і дадаў уголас:

— Усе скажуць на мяне: запанеў! Ведаю ўжо я...

— Што ты ведаеш? Ніхто йшчэ гэтак не казаў на цябе і не скажа, калі і пагуляеш з настаўніцамі,— ужо стараўся бацька сціхамірыць узлаванага без бачнае прычыны сына.

— Прайдзіся ты, сыночак, хаця да дзядзькавых,— бярэцца ізноў матка,— прачытаў бы ты што дзядзіне: яна ж, бывала, дужа любіла цябе слухаць, як ты чытаў ёй змалку.

— Ага, пайду! А там ужо сядзіць гэты свяценькі Халімон, пачне прасіць (Лявон з'ядліва ўдаў старога Халімона): «Прачытайце, Рыгоравіч, што-небудзь бажэсцвенае...»

— Ну дык што, калі папросіць? — дзівуецца на яго нездаволенне матка.— І дзядзіна папросіць, каб прачытаў ёй што-небудзь слёзна-жаласнае. Хто што любіць, той таго і просіць. Ну дык што?

— Нічога!

Доўга ўсе маўчаць. Бацькі чакаюць, ці не скажа сын

чаго яшчэ. А сын гаворыць толькі ў сваіх думах: «Мінуўся час, калі я быў усякаму Халімону дурным чытакам».

Але змякчыўшыся і перайшоўшы з злосці на пакуту, якая горш яшчэ з'ядала яму сэрца, ён разважае ў думках: «Праўда, чаму я стаў такі крывы?» І каб хоць трошкі абязвініцца, не столькі перад бацькамі, колькі перад самім сабою, і тым зменшыць прыкрую пакуту, ён нарэшце парушае нуднае маўчанне:

— Не хацелі мяне малога нікуды пускаць, вось я і адзвычаіўся.

Тады крыўдзіцца бацька. Ён нават узнімае галаву.

— Хто цябе не пускаў? Як пачаў вучыцца, калі хацеў — гуляў...

— Не хачу я з вамі спрачацца. Вось падушку ўзялі б сабе пад галаву.

— Я падам! — падлівае ласкі матка.

— На печ падушку?! Хм!..— чмыхае бацька.— Каб яна тут упылілася, ці што?

Ён папраўляе пад галавою свой армячок і кажа сыну з наўмыснай бесклапотнасцю:

— Э, што там куды хадзіць і ездзіць! Як сабе ведаеш. Во, дзякуй табе, што сядзіш з намі старымі. Прачытай-ка ты хоць нам... Што ты там такое чытаеш?

— Гэта вам будзе нецікава слухаць.

— Чаму нецікава? Што там такое? — не маўчыць бацька.

— Ну, песні розныя, наскія, запісаныя ад народу вучонымі людзьмі.

— Дык нашто гэта яны запісвалі? — дзівіцца матка і просіць: — Прачытай-ка ж нам іх, Лявонічка!

Лявон ведае, што просяць яны так сабе, абы наладзіць з ім нейкую духовую сувязь і разагнаць яго невясёлыя думкі. І ён чытае, нудна і нецікаўна, пару-другую жніўных песень. Бацька спачатку слухае, ды зараз галава яго сцішаецца на армячку ў дрымотным супакоі. Матка ж баіцца і руку перамяніць, а калі чытаннік азірнуўся, яна сумысля падпіраецца другою рукою, каб паказаць, што не заснула, слухае! І з далікатнасці, як думае Лявон, яна гаворыць:

— А сыночак мой! Гэта ж і ў нас іх пяюць. Глядзі, га! Вось жа нехта не паленаваўся, аддрукаваў у кніжцы. Схадзі, Лявонічка, прачытай іх дзядзіне. І я пайду з табою, калі адзін не хочаш,— хапаючыся, дадае яна.

— Не пайду.

— Чаму? Сходзім.

— Сяння ўжо позна...

— Ну во: не пайду і не пайду. Сядзіш цалюткі дзень у хаце.

Сказаўшы так, матка ўжо безуважна маўчыць. І бацька даўно маўчыць, бо спіць.

Лявон моўчкі лістае кнігу — і гастрэй пакутуе, калі таксама безуважна шумяць лісты паперы.

— А можа, і праўда — схадзіць? — раптам аклікае ён матку.

— Як сабе хочаш, сынок,— ухільна кажа яна, змораная дрымотаю.

— Не, сяння ўжо позна,— ізноў раздумаўся ён сам.

...Цемнавата, сцюдзенавата і ціха ў хаце.

— Зараз, мусіць, будуць расходзіцца з вечарушак,— кажа сонная матка, яшчэ раз пераменяючы руку, а не кладучыся, каб не разаспацца.

## IV

Ад зямлі адарваўся і неба не дастаў...
Народная прыказка

У Цёмналессі дзве лазні: адна старая — усіхная, а другую, новую, паставіў сабе гаспадар, які робіць сані, каткі, гне дугі, і свая лазня патрэбна яму скрозь усю зіму сушыць дрэва. Мыюцца цёмналесцы зазвычай у сваёй старой супольнай лазні.

Хто не толькі ніколі не мыўся ў старой цёмналескай лазні, але нават ні разу нічога такога і не бачыў, хто наогул думае, што ў Цёмналессі — гэта яму і як у Вільні або ў Мінску: калі заманулася, тады і пайшоў у лазню,— дык той, пэўна ж, не зразумее, чаму Лявон цэлы дзень не мог надумацца — пайсці яму ў лазню ці не пайсці?

Было гэта ўжо ў самым канцы калядных святак, калі дзядзька яго, Якуб, дамяў сваю пяньку і выпаліў лазню так, што ўсе, хто толькі быў там на дамінках ці так хадзіў у лазню, мімаходам даведацца, ці ўжо гатова, усе казалі: «Ну, братцы, сяння-ткі лазня з духам!»

Увечары бацька, падаваўшы нанач скату і напаіўшы коні, прыйшоў у хату, дастаў з-пад лаўкі свае карэлыя апорачкі ад старых ботаў і сеў на калодачцы, каля полу, разуваць лапці.

— Ну, я ўправіўся,— сказаў ён.— А дзе ж гэта Лаўрынька? — трэба ж на вышкі па венікі ўзлезці... А Лявон чаго гэта сядзіць? Ай ты не пойдзеш сяння ў лазню? —

спытаўся ён у сына.— Ідзі, лазня з духам, дзядзька дроў не пашкадаваў.

Лявон устаў з лаўкі, паклаў на паліцу кніжку, нечага задумаўся, трохі памаўчаўшы, адказаў:

— Я і сам не ведаю: ісці мне ў гэтую лазню ці то ўжо не пачынаць. Паеду ж, дык памыюся ў горадзе. Але не вадзіла б і сяння схадзіць: цела пачынае свярбець.

— Што ты гэта, Лявонічка,— умяшалася матка,— чаму ж табе не схадзіць у сваю лазню, пакуліцька там той горад? Праўда што, гразнява троху яна, вады цёплае нядума, але ж у канаўцы на канаве ё сцюдзёпая вада і не дужа мутная, ды ўсё ж ткі папарышся, костачкі пагрэеш свае, і на душы табе палягчэець... Ідзі, сынок, ідзі!

Стары цёмналесец, ласун парыцца, прачнуўся на момант у свярбячым Лявонавым целе і пасобіў хлопцу вынесці пастанову на карысць цёмналескае лазні.

Бацька тым часам напрануў старэнькую дублёнку, уздзеў на голыя ногі апорачкі — і мусіў пастаяць, пакуль Лявон вымаў з кішэні ключык, ножык, партманецік і ўсякую дробязь, каб не згубіць у лазні.

— Барзджэй! — крыкнуў яму Лаўрынька, паспеўшы злазіць па венік і стаўшы з гэтым венікам у руках, як салдат на варце, і босы, не гледзячы на жаночыя матчыны ўпросы, каб не бег у лазню па снезе галаногі.

— Паспееш з козамі на торг,— жартаўліва адказаў яму Лявон, уздзяваючы старыя валенкі, пададзеныя маткаю, каб ён, адзвычаены ад цёмналескай простасці, не прастудзіўся ў лазні з сваімі маруднымі на ўздзяванне ботамі.

— Паслухаў бы во мамы ды абуўся, цёмналескі дзікун,— нібы ізноў жартам, але з асадкам цывілізованай горычы дадаў Лявон.

— Лазня блізюхтанька, буду я абувацца! Што я — пан? — пакрыўдзіўся за сваю ўдачу Лаўрынька, бо вядома, што кожны цёмналесец такога веку ходзіць у лазню, хоць пры якім надвор'і, канешне босы.

— Калі не абуешся, я не пайду ў лазню,— цвёрда сказаў Лявон і падаў яму свае боты: — Абувайся!

Бедны Лаўрынька, з слязьмі на вочах, мусіў улезці ў іх, бо дужа любіў брата, хоць ужо і заўважаў у ім некаторыя непатрэбныя прыхамаці.

Урэшце Лявон адчапіў свой кішэнны гадзіннік, адзяг матчын кажух, каб не запэцкаць у лазні свайго пальта,— і пайшлі ў лазню.

Лазня была за гоні ад хат, каля заплыўшае канавы, што была некалі, пакуль яшчэ паны лясоў не прадавалі, даволі добрай рэчкаю. Чорная ўся прост на вугалле,— бо шмат разоў на сваім вяку гарэла, але заўсёды шчасціла ўратаваць яе ад агнёвай навалы,— ліпела сабе тая лазня на ўзгорачку. І пакуль Лявон узглабаўся на гэты ўзгорачак, паваліўся, бедны, два разы і абскробаў правую руку аб мёрзлы снег. Лаўрынька павесялеў, чуючы цяпер у сваім спрыце перавагу, падбег к яму, крыкнуў:

— О, які ўжо пан стаў — не ўзойдзеш! — падняў яму ўронены кавалак мыла, якое таксама прыкра сведчыла яму аб тым братавым панстве, бо ніхто не мыецца тут з мылам,— і шыбка, па-сабаччу, пакаціў за ўсіх наперад к лазні, хоць праклятыя боты звязалі яму ўсе ногі. Там кумільгам упаў ён у прымыльнік і прывітаў сабраных так, як тое водзіцца ўва ўсіх добрых людзей.

— Пара-лазня, лёгкі дух!

— А, Лаўрынька! А бацька ідзець? — спытаўся дзядзька.

— А вун жа ён! Сяння і Лявон ідзець! — пахваліўся Лаўрынька і зараз завінуўся распранацца і скідаць перш нагавіцы, чым кашулю, бо калі зрабіць наадварот, хлопцы абліюць вадою,— такі спрадвеку звычай у Цёмналессі.

Бацька спачатку пайшоў к канаўцы, неглыбокай гразнай лужынцы ў канаве, зачэрпнуў асцярожна беражком, каб зусім не скаламуціць, поўнае вядро мутнае з лёдам вады, утапіў у яго венік, каб размяк, бо тады ляпей яго спарыць, і, схіліўшыся над тым вядром і венікам, паважна, як стары, пайшоў следам за Лявонам у прымыльнік.

А ўжо Лявон убачыў у цямноце, што там — хто распранаецца, хто спачывае на мяліцы, папарыўшыся досыць,— адным словам, варушацца, і людзей многа. Каб паказаць, што ён тут свой і роўны чалавек,— хоць не зусім то добра, што бацька, а не ён нясе вядро з вадою,— Лявон, на колькі можна весялей, сказаў, як вымагала цёмналеская людскасць чалавека:

— Пара-лазня, лёгкі дух... Добры вечар! — і азірнуўся, дзе б яму прыхінуцца.

— Міласці просім, міласці просім, Рыгоравіч,— адказаў яму за ўсіх Мікіта сваім заўсёды жартаўліва-ласкавым голасам.

— Капеек на восем,— не ўцерпеў, каб не пажартаваць з такіх цырымоній, Лаўрынька і кінуўся ў лазню, ужо гатовы, голенькі.

— Садзецеся, Лявонька: во тут можна добра прыхінуцца,— як можна далікатней запрашаў вучонага пляменніка дзядзька, здаволены, што і пяньку дамяў, і духам дагадзіў усім, і Лявон памыецца перад выездам у школу.

І ізноў варушыліся сабе голыя, барадатыя мужы ў цямноце ў прымыльніку, бо святла там не палілі — быццам дзеля таго, каб не спаліць лазні, а сапраўды дзеля таго, што кожны хацеў, каб гарэла чыя-небудзь лучына, а толькі не яго. Так і варушыліся, хто як мог, упоцемку.

Прымыльнік быў плятнёвы, і скрозь пляцень дзьмуў сцюдзёны зімовы вецер. Пад нагамі калолася мялле. Каля сценак ляжалі, раскірэчыўшы ногі, самадзельныя мяліцы. З лазні ў прымыльнік, то і глядзі, выскаквалі чырвоныя, распараныя і здаволеныя парцы. Адтуль нёсся гул...

Лявону было непрытульна. «Ліха іх ведаець, як яны тут мыюцца,— думаў ён, шукаючы лепшага куточку, дзе б схаваць сваю вопратку і валенкі, скручаныя ў матчын кажух адным комам.— Але чаго ж гэта я злуюся? Ці ж я сам не цёмналесец, ці ж я сам не купаўся змалку ў гэтай гразі?»

І ўбіўся-ткі скрозь нізенькія дзверы ў лазню. Як увайшоў, вачам стала горка ад дыму, а нагам было ёдка стаяць на гразнай сцюдзёнай зямлі. Галава, як сляпніца, ударылася аб шост, не разгледзеўшы яго ў парнай цямноце. Горача было наверсе, як у пекле. А найгорш тое, што няможна было нічога разгледзець.

— Жчах-жчах, жчах-жчах!..— працавалі венікі.— Огого-го! — рагатаў нехта, лезучы на палок.— Паддай, паддай... Яшчэ горстачку... Ліні паўкружачкі на печ...— Браточкі, аджалейце поўчаўхірачкі, дайце духу!..— Духу мала! Духу няма! Гэй, духу! — аж стагнала поўная лазня.

Павярнуцца хацеў Лявон,— няма як... Унізе ў гразі — блазнота. Іншы плакаў ад дыму ці яшчэ ад чаго, цёр вочы і плёскаў сцюдзёнаю гразнаю вадою, але і тую яму нехта другі забараняў браць, адкідаў яго руку і казаў: «Не трасцу трасеш — сам прынясеш»... Іншы сядзеў непарушна, ушчаміўшы галаву між сагнутага, выпнутага султыжкамі калення. Той шчыпаўся, той штурхаўся, той жартаваў: мацаў суседа абпэцканаю мокраю рукою па ваччу, а калі той круціўся, сціскаў на ўсю сілу яго нос у сваіх кіпцях і ласкава пытаўся: «Ну ці бачыў, братка, Маскву?»

— А та-а-тачка! А-а-я-яй! А до-о-ос, дос, дос! — верашчэў малы хлопчык, як яго толькі мага, на ўсе жылухны. А добры бацька трымаў яго леваю рукою за тоненькую

шыйку, з пэўнасцю, што нічога яму не зробіцца, а пакуль малы, то і крычыць, і праваю рукою, гарачым, як полымя, венікам абняў яго з усіх бакоў, хлястаў, шугаў, гладзіў і прымаўляў: «Дай спінку, дай жываток, дай жа ножачкі мае дробныя... Ну йшчэ трошку, ну-ну-ну, дурненькі, не плач жа... дос-дос-дос, не бойся... А то я цябе камлём пагладжу, ведаеш?» — з лаянкаю дадаваў ён урэшце і адпускаў малую душу на пакуту.

— Во-охці, охо-хо-о...— ледзьва жывенькі пакаціўся з палка ў прымыльнік кароценькі Халімон.

— Як тое было, як тое будзе, вось табе на! — крыкнуў Ёзка, і раптам, знецяйку для ўсіх — бах вядро вады на печ. Аж каменне загурчэла, засіпела вугалле, паляцеў з клубам гарачае пары дробны попел,— і з палка пасыпаліся, як бульба, слабейшыя. А дужэйшыя, стойка ведучы справу сваю, яшчэ пільней запрацавалі венікамі.

— Вот-та как ашалелі мужычкі-ста! — адгукнуўся стары салдат Захар Какста, цёпаючыся, як мокрае гарыць, але расцягнуўшыся на самым версе, у самым духу. Празваны ён быў Какстаю за частыя прыбаўкі слоў: как і ста, якія навекі прыліплі к яму, як азнака ўспрынятай некалі цывілізацыі.

— Лаўрыньчык! Збегай, сынок, вады: згарэў я, зусім згарэў! — крычаў стары Задума аднаму сыну.— А ты, Лявон,— казаў ён другому,— ча марудзіш: лезь на палок, парся... самы, братка, дух... у-ха-а!..

— Дайце, Рыгоравіч, я вас лёгенька пацёпкаю,— як умеў, набіваўся вучонаму пляменніку сваёю ласкаю дзядзька Якуб.

— Ды не, не, не... я сам! — не ведаў хлопец, як адчапіцца ад прыкрасці, што родны дзядзька кажа яму і «вы», і «Рыгоравіч».

Махнуў на ўсё рукою і палез на палок. Абпёк кволыя месцы аб гарачыя палкі, плакаў ад горкага тут уверсе дыму, махаў і так і гэтак, каб не дужа пяклося, цяжкім нейкім венікам — і праклінаў сваю родную матэрыяльную культуру.

«У-у, жывуць жа людзі,— думаў ён,— лес пад бокам, паны ўлезлі ў даўгі і зводзяць яго ў пень, а яны, штогоду пускаючы на гарэлку не адну добрую лазню, мыюцца ў такой, што... каб яна згарэла на чыстым полі гэткая»...

— Духу ж паддайце! Гэй, хлопцы! — са скуры выпінаўся Мікіта, ізноў ужо просячы духу.

— Ужывай, дзядзька! Пагрэйся! — адказаў яго пля-

меннік Яхім, што меў мянушку «Вясёлая галава, а гнілыя кішкі»,— і чох! поўны карэц на печ.

— Сцюдзёна! Зябну! — вырабляўся Мікіта, ведаючы сваю славу, што ніхто яго не пераседзіць у самым гарачым духу.

— І так гарым! — буркнуў, не ўцерпеўшы, Лявон, седзячы каля яго і паліваючы сцюдзёнаю вадою галаву. Ён са злосцю ўздумаў на тое, што Мікітаў сын, Панас, п'е смярдзючую ханджу, як ваду, а сама старая Мікіціха мажа ёю ногі ў лазні. Во і сёння насмярдзіць тут, што не прадыхнуць, як будуць мыцца бабы... Уздумаў ён, што і яго матка корміць вяпроў у хаце, а не ў свінарцы, што ў хаце ў іх ніколі не можа быць чыста. Адным словам, дрэнна з усіх бакоў.

— Запанеў наш аграном! — жартаваў Мікіта.— Духу баіцца Рыгоравіч... А мне, мужыку, любата,— крычаў ён.— Дай бог да веку!

Лявон мусіў, сцяўшы зубы, маўчаць. «Які тут чорт запанеў,— з вялікаю крыўдаю ў сэрцы злаваўся ён на ўсё Цёмналессе,— свінні, а не людзі... Я вёз дамоў кніжкі, каб чытаць ім, а яны кожны вечар, кожнае свята гуляюць у карты ў Мікітавай хаце, а на кніжкі не звярнулі ніякае ўвагі. Яшчэ казалі,— разумцы! — што некалі ім займацца панскімі справамі... І вось павінен слухаць ад іх гэтае бязглуздае: запанеў, запышэў, гардзіцца...»

— Пастой, Лявон, куды ты? — гукаў бацька.— Зараз вады прынясець Лаўрынька, будзем абдавацца.

— Добра, добра! — сказаў, а сам, не маючы ўжо сілы вытрываць усіх крыўд для цела і думак, выйшаў, як п'яны, у прымыльнік, схапіў адзежу і рупна, як толькі служылі рукі, пачаў, не абдаўшыся чыстаю вадою і з прыліпшымі на целе лісцінкамі ад веніка, адзявацца.

Калі трошку пахаладнеў на свежым паветры, ён ад злосці патрошкі пераходзіў у сум і горкую пакуту. «А нягожа мне казаць: бязглуздае, дзе толькі цемната,— сядзела яму ў галаве.— Скуль жа ведаць гэтаму старому вяскоўцу, прыгонніку яшчэ — Мікіце, што ён вучыцца не дзеля таго, каб толькі заграбаць грошы; што ён жа іншы, не цураецца вёскі, любіць яе і паважаець, як родны сын; што ён будзе кіравацца на ўсе сілы, каб бачыць яе цвярозаю, светлаю, здаволенаю жыццём; што ён «запанеў», але зусім не так, як думае Мікіта. І лацвей ім,— думаў Лявон далей,— страляць у вочы: запанеў! — калі яны ведаюць вагу свае векавечнае працы мужыцкае, а хай бы яны па-

бачылі боль у сэрцы і смутак у думках у мяне, прымака ў тым «панстве» і пасынка ў вёсцы,— і яны валей згодзіліся б ехаць з сошкаю на родныя шнурочкі, чымся так запанець...»

Кашуля не надзявалася, мялле налiпала і калолася, нечым дрэнным пахла. Шапку шукаў-шукаў Лявон, каб прыкрыць ад ветру мокрую галаву, і ніяк не мог знайсці ў дакучлівай, прыкрай цямноце прымыльніка.

— Браточкі, што ж гэта, я ж акалеў зусім... Кажыце, хто ўзяў мае штаны? — пытаўся дзядзька Якуб, хныкаючы з лазні ў прымыльнік і назад у лазню ў адной кашулі без штаноў.— А хто тут яшчэ скруціўся пад нагамі? Ай табе месца мала? — узбіўся ён на Лявона.

— Я...— адгукнуўся Лявон ціхім, сумным і злым голасам.

— Ах, гэта вы?! Даруйце, Рыгоравіч!! Гэта я няўмысля патурбаваў вас...— не ведаў, дзе яму дзецца ад сораму, дзядзька, і якраз тут, сагнуўшыся, каб што-небудзь падаць пляменніку, знайшоў сваю адзежыну: Лявон ці хто затаптаў тут яе нагамі.

А Лявону было так прыкра і так яму балела, і такая злосць брала яго на нікчэмную, падлыжніцкую далікатнасць цёмнага дзядзькі — такога змалку дзён любага, дарагога, бо нешчаслівага ў жыцці, дзядзькі Якуба.

У цяжкім настроі варачаўся Лявон з лазні.

Быў ціхі вечар. На высокім небе ззялі зорачкі, ліў месяц сваім сярэбраным, хоць і пазычаным, святлом. Скрыпеў пад нагамі марозны снег. А Лявону было цяжка.

«Беларусь, Беларусь! Што ты цяпер ёсць?» — звінела яму адна думка. «І што з табою будзе»,— плыла другая.

А зорачкі блішчэлі так хораша на небе, і скрыпеў снег. І мерныя тужлівыя вершы ляцелі знедкуль.

Мой родны край, краса мая,
З табой навек расстаўся я!..

«Не, не расстаўся я з табою, мой родны край,— думаў Лявон,— не расстаўся, але ў вялікай нязгодзе ўжо мы з табою... Ты не разумееш мяне, а я не магу згодзіцца з табою і з тваімі парадкамі».

«З якімі парадкамі? — вытыркнулася з'ядлівае джала мудрага змея з самага свайго закутачку душы,— што ў мужыцкай лазні табе ўжо невыгодна мыцца, дык усё Цёмналессе павінна перакуліцца перад табою?.. Падумаеш, які важны, вучоны, разумны, цывілізаваны зрабіўся! А чаму

Цёмналессе такое, ты ўжо менш думаеш! А як лёгенька дастаецца мужыку і той быт, які ён мае, ты ўжо менш думаеш!.. Ты ўжо забываешся, забываешся!..»

Тады струны сэрца задрыжэлі вялікім жалем. Маркотна-маркотна паняслісія ў памяці іншыя радкі прачытанага нядаўна верша:

> Мой родны край, як ты ж мне мілы!
> Забыць цябе не маю сілы...

«Ага, вось так...— закруціўся ў сваім закутку з'ядлівы мудры змей,— самае лепшае: забыцца на яго! Забудзь, забудзь!.. Не ты ў нас гэткі першы, не ты ў нас гэткі і апошні...»

«О, не! — змагаўся хлопец,— о, не! Ніколі я не адарвуся ад цябе! Але што рабіць, за што ўхапіцца, адкуль пачынаць?»

У мазгах адным момантам прамільгнула «Наша ніва» і невядомыя людзі, што яе пішуць, і Якуб Колас, і Янка Купала, і свае больш рэвалюцыйныя таварышы — вучні, з якімі на фермскім полі, а часам ціханька і ў пансіёне пяяў «Вихри враждебные веют над нами...» ці «Адвеку мы спалі і нас разбудзілі...», і быўшы яго рэпетытар — бундавец, які рэвалюцыйна настрайваў свайго вучня, але ніколі словам не заікнуўся ні аб якай партыйнай арганізацыі ў сваім горадзе і як туды паступаць...

Адным момантам прамільгнула — і было пуста. А так хацелася зараз узяцца, зараз пачаць будаваць усё на іншы лад, зараз нешта рабіць!

«Але што рабіць, за што ўхапіцца, адкуль пачынаць?..»

## V

> — Расці, хмелю, глыбока.
> караніста, высока!..
>
> З народн[ай] песні

Лявон меўся паехаць у школу на посную куццю, перад вадохрышчамі, але стары конь нешта кашляў, а малады, як на тое, намуляў сабе троху плячо, дык прыйшлося адлажыць выезд на пару дзён.

І вось вадохрышчы, па волі сляпых багоў — прыпадкаў, зрабіліся пераломным днём у Лявонавым настроі. Нават можна сказаць, што самы дзень вадохрышчаў яшчэ належаў да старых парадкаў, а новыя пачаліся толькі ўвечары.

Пэўна ж, Лявон у царкву не паехаў. Але пасля паўдня, добра паабедаўшы, надумаўся ён схадзіць у Залужжа к Лейзару па свае бацінкі. І схадзіў, і ўзяў бацінкі, былі ўжо наладжаны, і ішоў ужо назад. Аж на вуліцы стаяў сват іхны залужанскі (яго дачка ды была замужам за дзядзькавым пляменнікам). Убачыўшы Лявона, ён пераняў яго, прычапіўся да беднага хлапца, як якая смала, і прост гвалтам пацягнуў к сабе ў хату на чэсць.

— Ну хоць пасядзіце ў мяне, калі ўжо нічога ніякага не хочаце,— цягнуў ён Лявона за рукаў і за гузік.

І каб не сорам было перад людзьмі тузгацца з гасцінным сватам на вуліцы, Лявон пайшоў на часінку.

Сваццця зараз саскочыла з печы, збегала ў клець, нарэзала поўную латушку сцюдзёнага сырога сала і паставіла на стол. А меншага сына паслала к Лейзару пазычыць самавар.

Неўспадзеўкі трапіў наш Лявон у нуднае сіло і з цярплівай боязню меркаваў, колькі яшчэ прыйдзецца сядзець на гэтай чэсці, пакуль паспее самавар. А вядома, што ў Залужжы, як і ў Цёмналессі, не можа паспець самавар раней як цераз добрую гадзіну, не гледзячы на самае пільнае паддзьмухванне яго самаю шырокаю халяваю.

Тым часам не драмаў і сват. Ён ведаў, што Лявон, як чалавек нябы-які, гарэлкі піць не будзе, дык, папрасіўшы прабачэння ў госціка і даручыўшы жонцы вартаваць яго, каб не надумаўся бы часам уцячы, сам кінуўся, стары, да Лейзара па піва. І не паспела сваццця сказаць з гасцём і пары слоў і накраіць пяць скібак хлеба, як сват, маўклівы ад пышнага пачуцця, пераступіў парог з распёртымі кішэнямі, з выпнутаю пазухаю і нават з рукава дастаў адну бутэльку.

Сваццця паставіла на стол пару нямытых шклянак і адзін шчарбаты кубак, а сват наліў.

— Ну, сваток! Давай бог... вып'ем жа хоць піва, калі гарэлку зневажаеце...— і ўзяў адну шклянку сабе ў рукі, другую падсунуў ён Лявону, а на шчарбаты кубак мігнуў вачыма жонцы.

— Будзьце здаровы!

— Піце-ка на здароўе!

Піва было нішто сабе,— трошачку гаркавае дзеля непрывычкі.

— Закусіце ж, сваточак, нашым салам! — абцёршыся, прыстала сваццця.

«Ай божа мой! Не хочацца мне сала!» — хацеў ад-

прашвацца госць, але тут жа прачытаў у іх вачах нецярплівае ўпрашальнае чаканне: ці ён будзе есці сала, ці ён не?

І ўкусіў ён троху таго сцюдзёнага сырога сала пасля піва і нядаўнага добрага святочнага абеду,— і з душы стала яму вярнуць ад гэтага сала. Не хацеў ён яго есці, дужа не хацеў.

А сват і сваццця, дзеля свае святое беларускае гасціннасці, проста з нажом прысталі, каб ён еў дый еў.

«Грэбуе намі і нашаю ядою»,— ужо стаў ён чытаць у іх сялянскіх, не прызвычаеных маніць вачах. І ён спалохаўся, што во ізноў, не хочучы, а-ткі пакрыўдзіць простых і сваіх людзей.

Ад безвыходнага становішча ён накінуўся на піва... Піў столькі, што сват і асабліва сваццця нават здзівіліся, што гэтак упадобіў Лейзарава піва. «Мусіць, ад вучонасці так,— падумалі яны абое,— усё ж вучоным прыямней піць піва, чымся простую гарэлку».

Выпілі ўсё піва, а самавар яшчэ толькі-толькі пачынаў заводзіць ноты на грубейшы голас.

Язык Лявону тым часам троху развязаўся, вочкі пасалавелі, і хітры, зусім цвярозы сват тут добра сцяміў, што вось цяпер то можна хоць і пляшку гарэлачкі на стол паставіць.

— Э, я ж думала, што сваток пагрэбуеце намі, доўга сядзець у нас не будзеце, дык гэта я, шату-бату, паставіла сырое сала... Я ж магу дзеля такога госціка і яешанку спрагчы.

І завінулася прагчы яечню.

Пасля падышлі сваццціны браты, маладзенькая і прыгожая дзяўчынка — сватава пляменніца, два сватавы сыны, яшчэ і другія блізкія людзі,— і бяседа была вясёлая і без ніякіх прыкрасцей нікому. Адным словам, ніхто і нават сам Лявон ніякае завады або клопату, што нешта ёсць не так, не чулі.

Калі ж усё паелі-папілі і арэхамі пачаставаліся,— было на двары цёмна. І хоць да Цёмналесся ад Залужжа і дзвюх вёрст не будзе, аднак здаволены сваток запрог кабылу, і сам павёз яго дадому, і даставіў шыбка і добра з тымі яго бацінкамі.

Вось гэтак то і стаўся перакрут у думках.

І калі сват, напіўшыся і ў іх гарбаты (а то ж была і пляшка), пацалаваўшыся з усімі, і найпрыемней з самім

Лявонам, паехаў сабе на сваёй кабыле да свае хаты,— тады вечны сляпы кірунак у жыцці людзей і далей пайшоў тут сёння тым сваім торам...

Перш-наперш наш Лявон, паслухаўшы загаду няведамае сілы, дастаў з скрыначкі крухмальны каўнярок і паддзеў яго пад каўнер кашулі сабе на шыю.

— Мусіць, наш Лявон сяння гуляць мае пайсці: хамуток надзеў,— жартліва сказаў Лаўрынька, прыглядаючыся к выпіўшаму брату.

Лявонька засмяяўся.

Тады хлопчык заскакаў на адной назе і пяяў насмешным, але радасным тонам і голасам: «Хамуток! Хамуток! Хамуток!»

— Лаўрынька, ты памыляешся,— сказаў вясёлы Лявон,— белы каўнярок ёсць знакам цывілізацыі... толькі дзікуну ён здаецца хамутком.

— Ну, добра, добра! Будзь сяння панам,— дазволіў яму патураючы Лаўрынька.

Потым зайшоў у іхну хату кавалёў сын з Салаўёвых Машкоў, зайшоў ён мімаходам, трошку выпіўшы, але пагаманіць аб справе. Стары Задума наказваў яго бацьку, цераз людзей, што будзе насталіваць сякеру і мяняць каню падкову,— дык ці яшчэ думаюць ці раздумаліся, а калі не, дык калі — у пятніцу ці ў суботу?

Зайшоў кавалёў сын з гармонікам. За ім ці, праўду кажучы, за тым гармонікам убіліся ў парог два хлопчыкі, бо думалі, што, можа, кавалёнак тут зайграе. Якраз за імі прыйшлі зараз і дзве бабы і яшчэ дзядзіна пасядзець з маткаю — і селі на палу. За бабамі з'явілася дзвёх маладух, два большых хлопцы і адна дзеўка — толькі паглядзець, бо думалі (з вуліцы ім так здалося), што сёння тут гуляюць. Пакуль жа яны разглядаліся ў сваёй абмылцы ды жартавалі з кавалёвым сынам, просячы яго пайграць ім сёння там, дзе збяруцца гуляць,— прырынулі к Задумавым, ну як бы па чыйму заказу, усім кагалам, хлопцы і дзеўкі, а потым і старыя і дзяцвішча... Набухталася поўненькая хата.

Зазвычай адбывалася гульня ў Мікітавых або яшчэ ў каго, ды толькі ж не ў Задумаў. А тут вось гэтак.

Спачатку бацька быў скрывіўся, бо яму здалося, мусіць, што і Лявон, як і заўсёды, не вотта ласкава глядзіць на няпрошаных гулянцікаў. Аж не: Лявон загаманіў — як бы не той быў чалавек.

А потым, ну, а потым... Лявон наш гэтак разгуляўся,

што ўся яго філасофія развеялася дымам, прыпамсі ж, на гэты вечар, а там будзе відаць далей.

Кавалёў сын, не доўга думаўшы, зайграў.

— Паскачце, маладыя! Чаго вы стаіцё? — сказала ім Задуміха.

І скокі пачаліся.

Пакуль тое ды сёе, Лявон ад столу перайшоў да свайго паложка, у правым куце ад дзвярэй, ля самага парогу, пасядзеў там, адылі перасеў на суднік, што пры печы.

Дзеўкі і хлопцы, забыўшыся за той вясёлаю гульнёю па асаблівую да яго ўважнасць, заступілі яго сваім грудам,— і нейкім дзівам побач з ім сядзела курносенькая, але бойкая, нішто сабе дзяўчына — Лёкса Леваноўна. Лявон з ёю, некалісь быўшы малым, вадзіў на пасту коней. Яна вадзіла, бо ў бацькі не было сыноў, дык канюшкамі ў яго былі дочкі.

— Чаму ты гэта, Лёкса, сядзіш, не скачаш? — надумаўся, асмеліўся Лявон пачаць з ёю гаворку. Непрызвычаенае сэрца, у пэўнай меры адгароджанае ад даўнай простасці цывілізацыяй, чамусьці ў ім, разоў колькі, як дурное, тыхнула! Але нічога: зараз абляглося.

— Во каб з Рыгоравічам, дык бы пайшла! — адказала хітрая Лёкса.

Хаця тое «з Рыгоравічам», заместа казаць *ты*, было яму пачуць нялюба, а выявіць ёй фальш, што не гаворыць з ім, як з кожным цёмналесцам, было ніякава,— аднак жа яе бойкасць яму заўсёды падабалася.

— Не ўмею скакаць,— адмовіўся Лявон.

— Невялікая ж навука! Э! — шчупянулася яна.— Можа, Рыгоравіч, умееце і не гэтакія скокі, толькі сароміцеся гоцаць з намі — мужыкамі па-мужыцку...

— Ну, Лёкса! Як табе не сорам так казаць? Што я? — не той самы мужык? І, дадушы, кадрылі я скакаць не ўмею.

— Дык пойдзем: я навучу! — схапіла яго жартам за рукаў.

— Ой не, не, не! — адбіваўся хлопец.— Усе будуць смяяцца з маіх скокаў, усім ногі адтапчу...

— Не будуць! Пойдзем! — учапілася дзяўчына.

— Ой не, не, не, Лёксачка! Толькі не цяпер.

— Ну а калі?

— Пасля, пасля калі-небудзь, пасля!

— Калі ж пасля? А-а! — раздумалася Лёкса.— Можа, дзеля таго не хочаш, што са мною? Паскач з Рыпінаю!

Рыпіна была троху ў свеце і лічылася прыгожаю.

— Не, ні з кім не буду, толькі з табою,— пачаў ужо на смешкі біць і ён.— А ты са мною хочаш паскакаць?

— Дый як яшчэ! Сама не ведаю, як хочацца!

Так жартавалі яны, але скакаць усё ж ткі не пайшлі. Троху потым, калі Лявон спыніў гаворку і паглядаў, хітрун, у бок ад Лёксы, бо музыка маўчала і ўсім усё было відней,— падышоў да Лёксы Банадысёў батрак, схапіў яе за рукі і пацягнуў на польку, бо музыка якраз сарвалася, як з ланцуга,— самым вясёлым хадуном.

Ужо тая цёмналеская батракова простасць была не вельмі даспадобы Лявонавай культурнасці і далікатнасці з дзяўчатамі, але што ж? Лёкса ж была невінавата, што Атрахім схапіў яе за рукі і пацягнуў.

Затое справа наладзілася добра апасля, калі кавалёў сын змарыўся і сталі гуляць у лёпушкі. Папраўдзе, гульня дзяцінная, але гуляюць у раздураны час і большыя.

Можа, хто з людзей высокае цывілізацыі не ведае тых нашых «лёпушак» ці паспеў ужо забыцца, што гэта за штука, дык уявіць сабе іх дужа лёгка. Адзін, а найчасцей адна — званая «бабаю» — сядзіць на лаўцы, а ўсе гуляюць. Кладзецца тварам у калені «бабе» адзін хто з гулянніказ або гулянніц і кладзе адзаду на сябе руку дагары далоняю. Другі нехта з іх б'е яго па руцэ, «лёпае». Хто ляжаў, павінен угадаць таго, хто біў, каб ён лёг замест яго. Калі ж не ўгадае, кладзецца сам ізноў.

Ніхто б ніколі не даў веры, што і Лявон будзе з усімі разам гуляць у лёпушкі. А нейк гэтак сталася, што стаў гуляць. Спачатку шлёпаў яго найчасцей Лаўрынька, бо чужыя саромеліся. А з дзяўчат найсмялей першая шлёпнула Лёкса... Шлёпала яна шчыра, з смакам, і, нарэшце, ён мусіў класці руку троху ніжэй, каб не балелі пасля храсткі. Не дзіва, што яе руку ён мог пазнаць адразу, і мусіла часта класціся і яна. Шлёпаць Лёксу было шмат ахвотнікаў, і як перасталі саромецца Лявона — шлёпалі яе па дзве і па тры асобы наперабой і толькі: лёп-лёп-лёп! Лявон лічыў, што гэта нарушае правілы гульні, але дараваў і часам шлёпаў наперабой і сам, толькі што не гэтак дужа, як другія, бо шкадаваў яе храсткоў — храсткоў яшчэ худых, бо маладых дзявочых.

Пасля лёпушак гулялі ў далікатнейшую гульню, у споведзь, што навучыўся нехта ад настаўніц ці то з гораду яе прывёз хто. І ізноў жа нейк выйшла, што Лявон быў зроблены папом, а Лёкса была ў яго спаведніцай.

— Ну чым жа ты, сястрыца, грэшная? — з наўмыснаю жартліваю паважнасцю, але [redacted] трошку тыхаючым сэрцам спытаўся ён, апынуўшыся з дзяўчынаю вочы ў вочы пад адной вялікай хусткаю на галаве, замест папоўскае эпітрахілі.

— А во чым!! — куснула яго раптам Лёксачка за вуха і з вясёлым смехам скочыла з-пад хусткі. І хоць Лявон быў збіты гэтым з панталыку ў сваёй саромлівай надзеі пацалаваць яе пад хусткаю, але і гэта балазе!

Гулялі ў Задумавых тым вечарам і доўга і ўва ўсе ўсякія гульні. Між іншым, «сеялі хмеля»: хадзілі гужам, узяўшыся адзін за аднаго, па хаце, «хмелем» быў Лявон, і ён стукаў чапялою па зямлі, як павадыр кійком, а ўсе пялі:

Расці, хмелю, глыбока,
Расці, хмелю, глыбока,
Караніста, высока,
Караніста, высока!

А Лёкса дужа шчыпала «хмеля»...

Пасля ж, калі хадзілі карагодам і пялі: «Падушачкі, падушачкі ды ўсё пухавыя: каму хачу, каму хачу — таму падарую, каго люблю, каго люблю — таго пацалую»,— усе чуць не гвалтам — прызмушчалі чырвоную, [redacted] бліскучымі вачыма, Лёксу пацалаваць Лявона, але ён, на жаль, хацеў гэтага так нясмела, так нясмела, што і яна рабілася нясмелаю — і не важылася пацалаваць яго.

## VI

Вучыся, нябожа, вучэнне паможа
Змагацца з нядоляй, з няволяй...
Янка Купала

О, вы — шчаслівыя і нешчаслівыя дзянькі ў людскім жыцці! Няма рады ўсцярэгчыся ад вас, бо схаваным ёсць ад людскога ведання, на які час вы прыпадаеце, калі вы прыходзіце і калі адыходзіце. А, мусіць, прыйдзе залатая пара, што перастане людское племя верыць у вас, і тады ўжо згіне ярмо, якое ўскладаеце вы дагэтуль на тое племя.

На жаль, Лявон жыў у малакультурную эпоху, калі, не хочучы, многія людзі мелі веру ў шчаслівы і нешчаслівы дзень.

І вось прыйшоў падобны дзень, хаця Лявон спачатку думаў, што ён будзе яму шчаслівы, і ў яго працягу ён не лічыў належна бяду бядою...

Аднак не варта забягаць наперад, бо што такое шчасце і што такое няшчасце — пазнаецца заўсёды ў канцы ўсякае справы.

...Ах, ну ці ж гэта не нуда сядзець на лекцыях першы дзень пасля каляднага канікулярнага гуляння, толькі ўчора прыехаўшы з свайго родненькага Цёмналесся і ўлюбіўшыся там у дарагую, слаўненькую Лёксу?

Лекцыі — такія ж доўгія, цягнуцца яны, цягнуцца... званка чакаеш не дачакаешся.

На першай лекцыі — лекцыі жывёлагадоўлі — выкладчык Пашкін, кароценькі, але вагою на пяць пудоў, і з вялікаю, буйнаю галавою, ён жа старшыня і кіраўнік тутэйшага гуртка эсперантыстаў, родам вельмі окаючы расіецкастрамец, сорак пяць з зацяжкаю хвілін пералічаў усе адзнакі, па якіх найлепей пазнаваць малочную «ко-ро-ву». І ў беднай галаве,— не гледзячы на Лёксачкін абраз, які засеў там на ўсе вякі і на ўсе часы,— усё ж ткі мусілі застацца з лекцыі тыя галоўныя адзнакі: «вялікае малошнае люстэрка», «глыбокія малошныя равочкі на баку» (дзе якраз праходзіць нейкая жыла) і «гэткія ж равочкі на хрыбціне» (бог святы спомніць, паміж каторых там пазвонкаў). І яшчэ застаўся, як з кожнае пашкінскае лекцыі, кастрамецкі спосаб вымаўлення — о, о, о: корова, солома, молоко...

Другая лекцыя — расійская літаратура. Выкладчык Дуб-Дубовіч, па прозвішчы-то, мусіць, беларус папоўскага або шляхецкага карэння, а з пераконанняў заядлы вялікарасійскі патрыёт і афіцыяльны сябар тутэйшай арганізацыі «канстытуцыённа-дэмакратаў», сорак пяць хвілін — праўда, без зацяжкі — расхваліваў як мог дзяржавінскую оду «Бог». І ў беднай галаве,— не гледзячы на Лёксачкіны песні, якія заселі там пасля гуляння на вадохрышчы, мусіць, на ўсе вякі і на ўсе часы,— усё ж ткі засталося: «Ода «Бог», напісаная геніяльнаю рукою расійскага паэта слаўнае кацярынінскае эпохі, Гаўрылы Раманавіча Дзяржавіна, перакладзена на ўсе культурныя мовы Еўропы і нават на мову прабуджаных да культурнага жыцця сыноў Усходзячага Сонца — мову японскую!»

О, вы — шчаслівыя і нешчаслівыя дзянькі ў людскім жыцці...— можна было б на гэтым месцы ізноў завесці цэлую рацэю. Ды ці не лепей адкінуць «старыя словесы» і не «па замышленію Баяню», а зусім проста сказаць: трэба ж было пад гэты час трыумфавання оды «Бог», трэба ж было Задуме неасцярожна заварушыць пад партаю

апошнім нумарам «Нашае нівы» — так што заўважыў Дуб-Дубовіч. Заўважыў назвапейка газеты і, замест усякай іншай кары, сказаў гэтак: «З пэўнага повaду я прымушаны дадаць, што на мовах некультурных ці такіх, прыкладам, як... (ён тут асабліва націснуў)... як беларуская падгутарка паўдзённа-вялікарускай гутаркі ў мове адзінага вялікага расійскага народу, выказаць магутнасць, веліч хараства, патужнасць гэтае слаўнае оды слаўнага паэта — немагчыма!» Пачырванеў Задума, як макаў цвет.

Трэцяя лекцыя — глебазнаўства. Выкладчык на імя Глеб Глебавіч Рамашкін, а па камплекцыі вялікі, светлаўласы і з белымі, як без вачэй зусім, расніцамі дзяцюк, родам з матушкі Масквы, надаваў чамусьці надзвычай важнае значэнне слову «глеба». І, пераходзячы якраз да гэтага раздзелу, ён сёння хвілін сорак паўтараў, расхінуўшы свой вялізарны сіні камзол з арламі на жоўтых гузіках і ўзяўшыся за камізэльку абедзвюма рукамі каля пахаў, ходзячы і прыгінаючыся, як артыст, паўтараў сіпатым тэнаровым басам так:

— Поччва... поччва... поччва... это есть верррхній, более ілі менее рррыхлы... да-а, более ілі менее ррыхлый слой землі, покрррыты дерефьямі, кустарррнікамі, полллукустарнікамі, трррравамі.

І тут шыбка-шыбка пералічаў, якімі травамі і чым яшчэ — травамі: однолетнімі, двулетнімі і многолетнімі... грррібамі! лішаямі! мхамі!... пофторіте, кгаспадін Задума!

О, бедны ты наш Задумачка! Загіпнатызаваны артыстычным рррыканнем і артыстычнымі рррухамі кгаспадзіна выкладчыка Рррамашкіпа, ён мог паўтарыць толькі гэтак:

— Почва... гэта ёсць... больш ілі менш верхніх...

— Тпрфу-у-у! — рагочуць хлопцы.

— ...Пажалста, без шуму! Продолжайте, кгаспадін Задума! Да-а, ррразумеецца, верррхній...

— Больш ілі менш рыхлы слой, пакрыты адналетнімі, двулетнімі і многалетнімі дзярэўямі...

Хлопцы ізноў фыркаюць. Усміхаецца і Рамашкін. Дужа міла апчэрыўшыся, а потым артыстычна сціснуўшы ў канцах разрэзу рот, ён ціханька жартуе:

— Да-а і фамілію вам кгасподь дал... задумываться... да-а! — Аднак, дзеля свае добрае натуры, ён не робіць больш ніякае ўвагі, а пачынае сам казаць яшчэ разок, што ёсць такое глеба. Ды зараз трашчыць званок і рэшту лекцыі Глеб Глебавіч просіць («Прррашу... да-а!..») вывучыцца па

яго запісках, друкаваных на шапірографе і паступіўшых у продажы ў кніжнай краме мадам Хейфец.

Чацвертая лекцыя — хімія, колькасны аналіз — была самая нешчаслівая. Граза — выкладчык прыйшоў, выпіўшы таго, што ў арганічнай хіміі вядома пад назовам «цэ два аш пяць о аш» ($C_2H_5OH$). А выкладаў і ён таксама па запісках,— не дзеля асабістае славы, не! — а таму, што хоць і прызнаваў патрэбу падручнікаў у сучаснай школе, але ўсе, існаваўшыя ў расійскай мове, раз і назаўсёды зганіў, шануючы толькі нямецкі. Быў ён родам з Пазнані, зваўся Ян Янавіч фон Заёнц, палітыкай цікавіўся мала, але так ненавідзеў палякаў, што запісаўся ў «Саюз рускаво народа» і быў там самым акуратным платнікам сяброўскіх складак. Прадыктаваўшы без краю-крайняга даўгую формулу, ён сонным злюшчым і па-нямецку пэўным ува ўсім чыста голасам узяўся растлумачыць, што мела значыць формула ў вялікіх тайнасцях навукі хіміі...

А Лявон, узгадаваны на ціхіх дробнаўласных сялянскіх ідэалах, тым часам так салодзенька задумаўся! Ён летуцеў: вось каб адкупіць у пані балота «Мох», што побач з цёмналескім полем, правесці там канаўкі, залажыць дрэнаж, асушыць, паскарадзіць, пасеяць розную траву... Вось ён будуе сабе чысценькую хатку — і будзе жыць там з Лёксаю. Увечары, калі заходзіць сонейка, яны будуць адпачываць ад працы, вячэраць пад зялёнаю бярозаю на цёплым вольненькім паветры.

— Пофторіте, Задума, как, следофательно, получается эфта кіслая фосфорно-кіслая соль?

Збялеў Лявон, як тая беленькая крэйдачка ў вечна дрыжачай п'яніцкай руцэ фон Заёнца, узняўся, стаў, стаіць...

— Не слушаете? — сказаў фон Заёнц.—Коемфуждо по делом ефо...— дадаў ён славянскі тэкст у ісціна-расійскіх вуснах абнямечанага паляка, што азначала: «кожнаму па яго заслугах», і цвёрда, толькі трошку дрыгнуўшы рукою, вывеў нешчасліваму Задуме страшную, асабліва для скарбова-коштных вучняў, двойку.

Пасля лекцыі вечна вясёлыя сябры, каб супакоіць засмучанага Задуму, абступілі і развесялілі яго так:

— «Не слушаете?» А, закахаўся, галубок! (Казалі наздагад, а лучалі ў самае сэрца, гады.) Замаркоціўся коцяваркоця! Так-так! Ну, якая ж яна? Чарнявенькая? (Тут троху мыляліся, бо Лёкса ж русявая.) Як зоркі, вочкі, румяны шчочкі? Ай ды наш Лявон! А дзе ж яна вучыцца?

Мусіць, папоўначка, епархіялка? Ай шляхцяначка? Ай яўрэечка?

Так жартавалі вечныя дуронікі, а Лявон сумна разважаў... Не аб двойцы, не! — усё гэта палепшыцца! Ён разважаў аб тым, што бедная Лёксачка засталася без навукі і нават невядома, ці здолее прачытаць яна і яго ліст, калі ёй напісаць, як сумненька яму тут без яе... Вось аб чым былі развагі. «Ат, няма нічога! — зміры ўся ён нарэшце,— друкаванае ж у кніжцы яна добра разбірае... толькі што піша не вельмі...ць! Э, ці ў пісьменнасці ўсё шчасце? Каб было можна, пэўна ж і Лёксачка не засталася б без навукі... О, гэтая беднасць, гэтая несправядлівая сацыяльная няроўнасць! Будзьце вы праклятыя ўсе, хто ў чарнасотніцкім «Саюзе рускаво народа». Хай жыве сацыялізм! Слава ўсім змаганнікам за лепшую будучыню чалавецтва!»

Так разважаў Лявон, пайшоўшы вялаю хадою на абед, так разважаў ён і абедаўшы, разважаў [redacted] нямалым біццём сэрца. Ён так узварушыўся, што ледзьва стрымаў слёзы, калі еў з супам піражок і думаў, што ні бацькі яго, ні Лёкса, ні ўсе цёмналесцы, апрача яго, як і цэлыя тысячы і мільёны бедных людзей, не маюць магчымасць на тыя піражкі... Такія рэфлексіі былі ў яго заўсёды, калі прыязджаў у горад з вёскі.

Па абедзе, калі ў працягу дзвюх з паловаю гадзін у пансіёне павінна быць ціха, сонна, нудна, закаханаму чалавеку найлепшы ратунак — хадзіць аднаму па шашы ў полі і, наставіўшы каўнер ад ёдкага ветру, слухаць і як гудзяць далёкім светам тэлеграфныя стаўпы, і строіць бясконцыя развагі па сваёй натуры. Паціху сунецца звычайны, а ўжо паслякалядны зімовы вечар, і сцюдзёная меланхалічная паэзія сціскае сэрца.

Лявон так і зрабіў. Ён хадзіў там сёння, аж пакуль добра не пазяб, што-ткі прысілён быў ісці назад у пансіён.

Яшчэ раз к астатняму стаўпу прыпаў ён левым, укушаным Лёксачкаю, вухам — і з асабліва войстрым і глыбокім сумным пачуццём зліўся мыслячай душою з гэтым аграмадным лікам розных дзіўных, маркотных, абняўшых увесь свет, гукаў-шумаў у гудзеўшым ад ветру тэлеграфным стаўпе.

— Гу-гу-гу! — пяяла там сусветная гісторыя ў сугалоссе з яго ўласнымі думкамі.

— Бом-бом-бом! — жалілася, як вецер і дождж, і плакала, як бяздольны чалавек ці хворае дзіця, бедная бацькаўшчына Беларусь, просячы аб сваім вызваленні, аб адраджэнні свае культуры.

— Шу-шу-шу...— шапталася там людское гора, людское шчасце...

І, адным словам, гаманілі там усе змыслы вечнасці, журба раскіданых прастораў і трудныя шляхі на іх ідэйнага чалавека.

— Кахаць, вучыцца і працаваць дзеля вызвалення Беларусі! — сказаў сам сабе Лявон Задума і пайшоў у пансіён.

Усе вучні пасля каляд ужо з'ехаліся, і ўвесь будынак пансіённы ад чацвертай гадзіны да шостай — па абедзенным адпачынку да падрыхтоўкі лекцыі — гудзеў і грымеў.

Можа быць, горды і самотны дэман, пралятаючы над пансіёнам гэтаю пароно ў горняй чорнай вышыні, чуе тут толькі такі самы шум, які бывае ў пчаліным вуллі, калі па ім стукнуць увечары колькі разоў, а тады прыкласці вуха і слухаць. Шум бывае досыць музыкальны, але ціхі, мізэрны. (Між іншым, добры зямец сам гэтага не зробіць і другога не пахваліць.)

Але на мове невысокіх ад зямлі стварэнняў будзе лепш сказаць, што пансіён у гэтую пару шуміць, — часам, як бабы ў цёмналескай лазні, часам, як багамольны «стары закон» у іудзейскай сінагозе, а часам, як сябры беларускай грамадскай установы на агульным сходзе або нават паседжанні.

У гэтую пару пансіянерам дазволена пяяць, іграць, скакаць і наогул «шумець».

І пансіён шуміць, заняўшыся хто чым... А ёсць тут хлопцы розных нацый і народнасцей і розных сацыяльных укладаў жыцця ў вялікай расійскай імперыі; яны прыехалі здабываць навуку ў Беларусі дзеля таго, што беларусы, па сваёй класічнай беднасці і гэткай жа цямноце, не займаюць тут на школьных лавах асабліва (дый не асабліва) шырокага месца...

Вось акуратны як у навуках, так і ў выпіўцы, так і ў музыкальных справах, белабрысы латыш Бэрзінь ужо добрую гадзіну выводзіць у пустым класе на скарбовай скрыпцы і па скарбовых нотах гамы. Ён пільнуе, каб локаць левае рукі быў чуць-чуць-чуць відаць правым вокам; каб шыйка скрыпкі была ў пальцах левае рукі, а не ля-

жала б на яе далоні; каб правая рука згібалася б толькі ў кісці, а не ў локці... І бедная скрыпка раве, як зарэзаная.

Вось пэўны, але не самахвальны ў сваіх здольнасцях эстонец Янсен іграе таксама на скарбовай, але добрай мандаліне вальс «На сопках Маньчжурыі», што ўвайшоў у моду пасля расійска-японскае вайны,— і аж у сентыментальнага Янсена блішчаць на вачах слёзы, пэўна ж, ад сумнай музыкі, а не ад вайны.

Вось данскі казак Рысякін, на мянушку «Бегемот», галёпае ў ніжнім паверсе, у зале з плінтусоваю падлогаю, як той кавалерыйскі конь на кордзе. Ён самастойна вучыцца скакаць мазурку, каб не плаціць без асаблівае патрэбы за скочную навуку ў школе скокаў знамянітага на ўвесь тутэйшы горад артыста з самае Варшавы, Ісака Шпрынглера.

Вось кіраўнік школьнае царкоўнае капэлы, прыгожы элеганцік Пеця Мальцаў, спачатку ходзіць і бурчыць, каб мець навекі ў слабой памяці парадак дыезаў і бемоляў...— «фадосольрэлямісі, сімілярэсольдофа... фадосольрэлямісі, сімілярэсольдофа!..» — чуецца ад яго хуценька-хуценька, многа-многа разоў. Потым, салодка задуманы, ён ціханька курняўкае маркотныя рамансы, пэўна, уяўляючы сябе ў пакоях самога пана дырэктара на імянінах маладзейшае дырэктаравае дачушкі.

Вось чорны, як жук, украінец Яўхім Грыцюк, заклаўшы рукі за спіну, грэе ля грубачкі плечы і апавядае, як хадзіў ён калядамі ў залатаноскім павеце на вечарніцы... Наўкол яго найбольшы груд хлапцоў і часам гэткі рогат, што ажно столь дрыжыць і з яе сыплецца аблезлая пабела, а святло ў вялікай круглай вісячай лямпе фірмы «сонца» мігае і мітусіцца. Толькі сам Яўхім не смяецца, а трошачку ўсміхаецца.

А вось мяшанец з расійскай і беларускай народнасці, троху сухапары, але здаровенькі сынок паўпанка з Рослаўшчыны, Ражкоў, забраўся ў гардэроб, бясконцу перабірае ў сваёй скрыні дабро і кніжкі і безупынку, рупліва паядае то кончык каўбасы, то кавалачак пампушкі, то мачоны яблык, то камочак салодзенькага сыру, то ўсяго таго патроху, чым надарыла смаленская прырода яго мілых і не скнарых для свайго сыночка бацькоў-падпанкаў.

А вось і ён, наш стоўп пальшчызны, дваранін з барысаўскай засцянковай шляхты, сам пан Апалінары Лапць-Лапцеўскі, з якім вучні [...], не ўзгадаваныя па-далікат-

наму, маюць звычай дражніцца тымі словамі: «Благадару, я не куру, бо ваш табак, як трапка»... (каб паказаць яго цвярдое для іх «р»). Пагаліўся, пачысціў баціначкі, памыўся (раз на тыдзень) дарагім «Сакрэтам хараства», зачасаўся, як цырульнік або ангельскі прэм'ер-міністр, уздзеў манішку і манкеты, абліўся незвычайна пахнючаю парфумаю, абгарадзіўся партамі з усіх бакоў, паставіў ля сябе яе картку ў асадцы з чарвівых чарапашак... і піша... піша ёй... уздыхне, падумае, салодка закоціць маленькія і глыбокія вочкі... і піша... Сцеражэцеся ісці там гэтым часам! Пан Апалінары зробіцца з вамі заклятым ворагам навекі, калі вы хоць троху кінеце смяшлівым вокам.

Ну, а Лявон?

Ходзіць ён, ходзіць як непрытульны, з кута ў кут, па ўсім пансіёне ходзіць... Часам падыдзе да акна і, як замучаны паэт, пажурыцца ў незамёрзлы кавалак шыбы, як там, на дварэ, ужо цямнее рана-невясёла, бялеецца сіня-сыпучы снег, круцяцца ў паветры марозныя сняжынкі, дзьме-замятае касякамі снегу замятуха,— і смутна ж яму, смутненька на сэрцы, і нудна ж яму, нудненька ўсё навакол.

Охо-хо-о! Сярод гэтага пансіённага тлуму і гоману, а злашча паглядзеўшы на снег і на пустую вуліцу, стаіць яму ўваччу дарагая Лёксачка, як другім часам, калі б не былі заняты думкі, стаяла б яму ўваччу двойка, што-ткі заляпіў нягодны Заёнц па хіміі.

Праўда, не столькі, можа, стаяла сама Лёксачка, колькі тая салодкая, паміма волі троху ліслівая думка, што вось і ён так дужа пакахаў, мучаецца... Сэрца прыемна млела ад успамінкаў, як сядзелі яны ўдваіх на судніку першы раз, як стаялі потым у сенцах, у куточку, як... ай, ой, што гэта было... пацалаваў яе... як ён асмельваў яе ў тым іхным такім харошым, чыстым, уазвышаным каханні, бо яна ўсё, дурненькая, баялася, што ён вучоны, а яна простая...

## VII

Што напісана пяром —
не вырубіш тапаром.
Народная прыказка

Гардэробная лямпачка на століку-шафцы ціха і змрочна, жаўтава свеціць, у коміне вецер паціхеньку свішча, унізе, у першым паверсе, на гітары іграюць, і тужлівыя,

прыгожыя, пустыя гукі так і лезуць ■ нейкай ціхай пакутай і ў вушы, і ў сэрца, лезуць і жмуць пад грудзьмі...

Пад уплывам тых гукаў так хочацца адчуць у словах на пісьме сваё каханне, так хочацца асвядоміць яго ў сабе, як нешта першае самае важнае ў жыцці, прычым ідзе ён, Лявон, справядлівым шляхам ідэйнага і сумленнага чалавека, шляхам дабра, праўды і хараства...

*12 студзеня 1910-га году.*

Ці здарова ты, мая даражэнькая, мая любенькая, мая прыгожанькая Лёксачка?

Ах, чаму я гэтакі шчаслівы, што спазнаўся з табою, Лёксачка мая, і нешчаслівы, што жыву так далёка-далёка? Здаецца, кінуў бы тут, рынуў усё чыста і паляцеў бы да свае Лёксачкі хоць на адну-адну хвілiначку.

Не есца мне тут і не п'ецца мне тут без цябе, Лёксачка! Усё думаю і думаю, калі то ўбачу? Доўга як чакаці...

Як то жывеш ты цяпер? Ці здаровенька? А ці бываюць вечарыны? Ці прыязджалі к нашым цёмналескім дзеўкам сваты? А можа, хлопец наш каторы высватаўся? А к Банадысёвым у супрадкі хадзіць табе не раю: іхны батрак мне надта не спадабаўся,— такі буян. І мяне дзівіць, што ты так любіш скакаць з ім польку. Ці мала лепшых хлопцаў ёсць? Але ты не падумай чаго-якога, гэта я толькі так, бо я ж павінен цяпер клапаціцца аб табе і пад сваёю абаронаю весці цябе па жыццёвым шляху сярод усякіх ворагаў. А людзі калі смяюцца — няхай смяюцца, ці каму закажаш не смяяцца? Але ведай, Лёксачка, што ты, ты ў мяне адна, мая першая і апошняя... Лепшай за цябе не знойдзецца мне ў цэлым свеце! Не будзь смутная, прашу цябе,— што сказаў, на тое не забудуся, вось толькі скончу школу, ужо ж нядоўга.

Марку я пасылаю табе ў гэтым заказным лісце. Паперы купіш у краме ў Мэндаля, у Целяпенічах. У яго ж і напішы мне ліст,— сама, каб ніхто не ведаў. Адрас напіша табе Этка, яго дачка. І лісты мае будзе перадаваць яна, бо я буду пісаць на яе імя з перадачаю табе. А дзеўкам ты нічога не кажы. І майго лісту Этцы чытаць не давай, а чытай сама, я пішу так, што павінна разабраць усё.

Ну, а затым і аставайся здаровенька, мая красачка, мая журавіначка! Цалую цябе, Лёксачка, на ўсю сілу. Абшчапіўшы за шыйку, жалею, мілую на ўсю сілу. Люблю цябе, люблю! Лёксачка любая! Лёкса, Лёксачка!

*На векі вечныя твой Лявон.*

Так пісаў Лявон у той самы дзень, першы па сваім прыездзе з Цёмналесся, калі і Рамашкін з хлопцамі над ім насмяяўся, і Дуб-Дубовіч цяжка мову яго родную зняважыў, і фон Заёнц двойку па хіміі заляпіў, і ўвечары замучыла любоўная журба. І аднак жа не лічыў тады Лявон, што дзень той, 12-га студзеня, нешчаслівы для яго дзень.

А хітры, мудры змей, што сядзіць у самым сваім закутачку душы, хацеў-ткі пашаптаць неспрактыкованаму хлопцу: «Ой, Лявон, Лявон! Ужо колькі бед прыняў ты ў працягу аднаго дня за любоў сваю. Дык хоць жа ты ёй сёння не пішы... пачакай троху, абдумайся. А то, братку, ад шчасця да няшчасця дужа блізка... А што, калі яна сама не расчытае і пакажа твой ліст каму другому?..»

І ганіў сам сябе Лявон за такія нехарошыя думкі, а яны, як знак эгаістычнае прыроды і благога ўзгадавання, самі, супроць яго волі, лезлі яму ў галаву. Гнаў іх, як брыдкую непатрэбшчыну, як тое, што псуе новага лепшага чалавека, як тое, чаго не павінна быць у ідэйнага і сумленнага чалавека...

А пракляты той мудры змей шаптаў: «Няўжо ж ты гэткі малады ажэнішся? Гэта ж табе не кіслая фосфарнакіслая соль...»

І хацелася пісаць яшчэ, каб выпісаўшы на паперы — зацвердзіць яшчэ лепей усё тое, што бараніла яго погляды, што паказвала яму шлях у жыцці.

*12 студзеня 1910-га году.*

Насмешлівы Максіме, мой даражэнькі таварышу!

Вітаць цябе Новым годам у гэтым лісце не буду, бо я паслаў табе адкрытачку з Цёмналесся. Ці дайшла яна, ай не?

Як жылося мне ў нашым глухім куце, пісаць не хочацца,— сам добра ведаеш, як жыву я там, калі прыязджаю з школы.

Ведаеш... Не, браце, насмешлівы Максіме, не здагадаешся, што стала з тваім Лявонам: ён цяпер зусім другі чалавек!

Я цяпер і сам дзіўлюся, як гэта я мог даўней, у тыя гады, а нават яшчэ троху і сёлета, праседзець у сваёй хаце цэлыя каляды, нікуды не паказваючы носу? Бывала, у царкву не езджу,— хоць і не хочацца тым крыўдзіць пабожных бацькоў,— бо сучасная вера — ашуканства; у

радні свае не бываю, бо радня мая — з рабскімі пoглядамі, бачыць ува мне будучага пана і прыкра тым выстаўляецца; на ігрышчы не хаджу, бо што я там знайду? — тупых дзевак, буянаў-хлопцаў, [...] лаянку і ўсякую брыдоту, карты, гідкае скалазубства, насмяханне над маімі словамі аб лепшым, зусім не гэтакім жыцці; у дровы з татам і то не хочацца, бо лыжкай гора не накорміш; і так далей, і так далей... і так далей. Валяюся сабе тыдні тры ў хаце за кніжкаю ў гордай адзіноце і гняту маладыя, здаровыя імкненні горкімі развагамі: «Такая доля мужыцкага сына з вёскі, што пайшоў вучыцца». Скваруся сам у сабе, не бачачы следу...

Вось была філасофія!

Чырванею цяпер: які ж я дурус быў!

І адна злая ўцеха ў мяне: ці я адзін такі задаўся? Многа ў нас такіх дурусаў. І ты, насмешлівы Максіме, і ты... Памятаеш? Цяпер, жывучы ў іншых умовах, забыўся, можа, на тое? Цяпер, за сваімі шырокімі паглядамі маіх маленькіх, вузенькіх, сялянска-беларускіх, можа, і не ўбачыш? Эх, многа аб чым маю пагаманіць з табою.

Я адрадзіўся! У мяне новая платформа... Толькі, Максіме, не смейся, што я йшчэ дужа малады і яшчэ вучань. Памятаеш, ты і сам кідаўся ў розныя бакі.

Дык я адрадзіўся!

А ўсё ведаеш хто? — Адна цёмналеская дзяўчынка... Толькі ты не смейся: ну я, здаецца, улюбіўся... і ўсё.

Бліжэй, бліжэй — пасядзеў я з ёю, пагаманіў,— якая слаўная дзяўчынка! Як я раней таго не бачыў? Заклуміў галаву кніжкамі сам сабе, дык затым хіба.

А цяпер... Кніжкі то чытаю, не бойся. Але і на ігрышчы пайду; і ў царкву, хоць бы для пацехі бацьком, з'езджу; і к свату ў госці пайду; і ў дровы з татам, а то і адзін, паеду... І ўжо за гэтых колькі дзён троху паправіў справу. Вясёла! Мама рада. Толькі тата трохі не разумее мяне. Ну, нічога: яшчэ болей папраўлюся, як паеду ў Цёмналессе на вялікдзень, і тата зразумее, што я новы, што я іншы, што я лепшы.

У гэтым уся паэзія нашага народу. Толькі мы гадуемся на чужым грунце і забываемся добра разумець свой уласны грунт. Не смейся, што я йшчэ вучань, а бяруся так развважаць. Як пазнаўся я з сваёю любаю дзяўчынкаю, я многа ўцяміў. А то мы не ведаем, у чым паэзія нашага жыцця, хараство нашага жыцця. Бо што ж? — Тое лепшае, чалавецка-беларускае, што ўзгадавала ўва мне сям'я

(і то не ўся наша сям'я), тое даўгі час выкараняла ўва мне [...] школа. Ну ці ж навучыла мяне школа любіць сваё беларускае, даражыць хараством роднае прыроды, праняцца гармоніяй родных з'яў? Чаму нас вучылі?

Во і вісі паміж неба і зямлі. Ці рві з душы роднае карэнне і адракайся роднае хаты, ці ўцякай ад панскай вопраткі і цягайся за прымітыўнаю дзядоўскаю сахою.

О, трудна, браце Максіме, нам, беларускім мужыцкім сыном. Мы выпаўзаем з сваіх хат і, папраўдзе (толькі не смейся), маем жа нейкую зямельную сілу ў сабе, гэта не мая навіна, але хаваемся з сваімі ідэаламі, нясмела азіраемся на новай дарозе, шукаем вачыма прыпынку і, не патрапіўшы злучыцца грамадою і пайсці сваім шляхам, расплываемся патроху ў гнілым балоце з'едзеных молем чорных польтаў...

Выўчыліся! Выйшлі ў людзі! Сталі панамі...

Я не хачу так!

Дык вось, браце, пішу табе, а йшчэ іграюць мне ў вушох скамарохі, яшчэ пяюць дзяўчаткі родныя песні, прад вачмі так і мітусяцца хлопцы і дзеўкі ў скоках. Не горш нашы Лёксачкі, з якімі мы выраслі, за перашпіленых ненатуральных гарадскіх паненак. Ай, што я... у горадзе ёсць слаўныя дзяўчаты. Дык вось... Сціснула яна ў адказ маю руку і на пытанне маё хлапецкае засаромілася, засмуцілася, схіліла галоўку. «Ага... ты ж бачыш...» — кажа. Зашчымела, зашчымела, браце, мне сэрца!

Я і скакаць навучыўся, з ёю польку скакаў,— скокі не такі ўжо грэх...

Толькі табе хвалюся, даражэнькі Максіме: люблю яе, і яна мяне любіць, любімся мы дужа. Ніхто не ведае.

Цераз паўгода, ці троху пазней, паскачаш, братку, на вяселлі, бо ёй у наскім быце не можна доўга чакаць. Калі і ў вышэйшую школу пайду,— нічога, рукі ёсць, фах будзе, абы здароўе, пражывём.

Працаваць і вучыцца! Так, браце. Што там хавацца, будзем самі сабою, будзем самі здабываць сваё жыццё і долю. Працаваць і вучыцца! Не хачу я фальшывіць: калі я пакахаў і даў слова, яна мая і перад богам, і перад людзьмі. Мы самі творым жыццё, дык сорам нам звальваць, калі што не так, віну на ненармальнасці сучаснага сацыяльнага парадку.

Ну, бывай, насмешлівы Максіме! Але не смейся і хутчэй адкажы мне, як ты глядзіш на такія справы. Адказу ад цябе буду чакаць з вялікай нецярплівасцю. А то я тут

адзін, зусім адзін на свеце. Дык будзь здаровенек і не забывайся на твайго смешнага

*Лявона Задуму.*

Пансіён спіць, усе спяць. Толькі ён сядзіць і піша... Не можна сказаць, каб вельмі добра падрыхтаваў ён і лекцыі на заўтрашні дзень. Але ён чуў вялікае маральнае задаваленне ад усяго перажытага, перадуманага. Каб не пакрыўдзіць і бацькоў, ён пастанавіў напісаць і ім сёння ж, перш, чым пакласціся спаць, і такі ж самы добры ліст, як і Лёксачцы, і міламу таварышу.

*12 студзеня 1910-га году.*

Добры дзень тату ў хату! Як жывіцё? Як маецеся? Я здароў. Даехаў аж надта добра. Вучуся. Шкадую, што выязджаючы так заюшыўся, што не схадзіў к дзядзькавым развітацца. Я дзядзінкі старой прашу прабачэння, што нічога не прачытаў ёй на каляды,— цяпер шкадую, бо яна ж мне маленькаму столькі казак казала. І маме вялікі-вялікі дзякуй за ўсё тое, што напякла і нарыхтавала мне сюды. Ехаў — не хацеў браць, а цяпер у пансіёне дык і спатрэбілася. Пішэце, якія навіны ёсць, і ўсё, усё... Няхай Лаўрынька піша часцей, як ён вучыцца, і інш. Тата, даруйце, што ў каляды было тое-сёе.

*Ваш Лявон.*

Прачытаў ліст і ўбачыў, што ён дужа кароткі і нейкі сухі. «Няма ў мяне да іх такой любові, як у іх да мяне»,— падумаў і засмуціўся... «Бедныя вы мае, родныя мае! — падумаў Лявон.— Век-вяком вы цяжка працуеце. А калі я прыязджаю, ніякай працы ад мяне не вымагаеце, а нават не хочаце, каб я працаваў. І ўсё вы мне даруеце, усе крыўды, якія раблю вам цераз розніцу ў нашых поглядах. З астатніх магчымасцей вучыце мяне... Добра, што назначылі мне скарбовую стыпендыю, а то як бы вам цяжка было вучыць мяне. Спадзяіцёся, што выўчуся — пасаблю вам. А калі яшчэ тое што будзе? А ўжо несправядлівы сацыяльны парадак аддзірае мяне ад вас, як кусок жывога цела. Ёсць справы, у якіх не сіла мая пасобіць вам...»

Лявон уздумаў на свае перажыванні на вучнёўскім балі — сапраўды, сапраўды панскім балі. Мусіць, мала хто з вучняў адчуваў там тое самае, што Лявон, бо ўсё гэта найбольш дзеці розных падпанкаў, панскіх аканомаў і самі пнуцца ў панства. Былі паны — настаўнікі з сваімі жон-

камі, былі імянітыя грамадзяне з гораду, уся чорная сотня, і ўсе разубраныя, чыстыя, гладкія, багатыя. І Лявон між іх — і з выгляду як свой... І думаў ён тады: «Вось я — пан, гуляю тут з панамі, забыўшыся на Цёмналессе, а калі б і ўздумаў на яго, дык не магу прывесці сюды свайго бацьку-мужыка, сваю маці-мужычку, з іхнаю простаю мовою, з іхным усім, не дурнейшым, чым усё тут панскае, але пагарджаным тут, недапушчальным... О, пашлі нам, доля, наша, сваё жыццё, нашу, сваю культуру, каб усе мы свае ў сваім родным краі маглі збірацца тут, з сваімі звычаямі, сваімі ідэаламі. Мы працуем, мы можам, мы спрадвеку тут свае, мы маем права. Што супольнага ў нас з гэтай грамадою чорнага груганьня, што нібы складае мазгавую частку Беларусі? Паміж Цёмналессем і гэтай грамадою — вечнае, непраходнае бяздонне. Далоў гэтых чарцей, бо тут наша месца!..» Кіпеў тады Лявон бяссільнаю варожасцю да ўсіх, хто быў тут. І нават цяпер, як уздумаў, у яго накруціліся слёзы... Але ж не гадзіцца плакаць! Трэба змагацца, а не плакаць! Лявон пачуў у сабе цвёрдую волю, адвагу, упэўненасць у сваіх здольнасцях і сілах. Ён дастаў з парты «Песні жальбы» Якуба Коласа, разгарнуў свой агульны сшытак і на чыстай старонцы, якраз пасярод, напісаў буйнымі літарамі, каб заўсёды мець гэты надпіс перад вачыма:

Адно мы добра ведаем:
Хоць вечна мы блукаемся,
А ўсё ж такі, хоць некалі,
А праўды дачакаемся.

## VIII

Тут абойдзецца без эпіграфу, а можна было б паставіць гэткі: «Свядомасць азначаецца быццём...»

І пацякло яно — звычайнае, штодзеннае, будзённае жыццё... І ў школе, і ў горадзе, і ў Цёмналессі.

Вучні вучыліся. Шмат часу ў іх лабараторыі адбіралі, але вучні любілі там працаваць і з прыемнасцю рабілі і якасны, і колькасны аналізы і аналіз глебы. Фон Заёнц прыйшоў аднойчы дужа ўпіўшыся, доўга гаманіў з імі на патрыятычныя тэмы і ні з тога ні з сёга ўзяў журнал і перапраівіў усе двойкі на тройкі з мінусам. На лекцыях вучні таміліся, а настаўнікі былі, як сонныя, хоць і калядны перапынак толькі што мінуўся. Вучні, на жаль, многія, асабліва тыя, што на прыватных кватэрах, пілі гарэлку, гулялі

ў карты. Потым начальства ўволіла аднаго за п'янства, у другога адабралі стыпендыю за карты,— сам дырэктар аб 1[illegible] гадзіне паехаў па кватэрах і злавіў яго.

У гарадскім клубе, на Дваранскай вуліцы, быў наладжаны спектакль-баль. Дружына тутэйшых аматараў тэатральнага мастацтва ставіла п'есу Раскатай-Раскатайскага «Дон-Жуан» з Глебам Глебавічам Рамашкіным у галоўнай ролі. Пасля п'есы быў багаты дывертысмент, у якім выступала з цыганскімі рамансамі праслаўленая тутэйшая пявуння, швагерка начальніка пошты. Потым былі скокі, бой канфеці, серпантын, фанты і шмат чаго іншага. За буфетам падавала гімназістачка, дачка буфетчыка. Гімназістачку тую запрасіў на вальс яе стрэчны брат, вучань сельскагаспадарчай школы, у якой вучыўся і Лявон. І на пасярэдку залы, у самы разгар вальсу, падышоў да гэтай пары старшыня клубу і папрасіў дзяўчынку выйсці з залы або не працаваць за буфетам. Дзяўчынка пачырванела, брат яе пачырванеў, прасіліся, але не ўпрасілі, мусілі выйсці — ну і болей нічога.

У Цёмналессі і каля Цёмналесся навін асаблівых не было... Паны ізноў людзям грошы за падзёншчыну не аддалі. Вось паны! Судзіся з імі, калі хочаш! Лес чысценька зводзяць і каля цёмналескага поля Гаёк аднавокаму Хвальзону аддалі за даўгі. Целяпеніцкага папа жонка ў захвіцэнні (летаргіі) была доўга, троху за чым жывую не пахавалі... Целяпеніцкія яўрэі краму Саўчанку спалілі, каб не перабіваў ім гандлю. Мэндаля пасадзілі ў астрог, бо на яго думаюць, але, мусіць, нічога не будзе, выпусцяць, бо як гарэла, Мэндаля ў Целяпенічах не было. А Саўчанок зусім зжыўся, грошы, якія былі, на тавар пусціў, усё дымам пайшло. І сам быў на круку ў пятлі засіліўся, але ў час выхапілі... Вось і натаргаваў, наскакаўся той дужа разумны Саўчанок. У Халімона ў Цёмналессі воўк аўцу з пуні вывалак, але Халімон не бедаваў, казаў, што гэта «жэрства (ахвяра) богу». Ваўкоў у гэтым годзе панабегла з Цёмнага Лесу — бяда! А забабонныя галовы кажуць тут, што гэта ехаў вясельны поезд каля чараўніцкага двору дзе бы то — дый абмінуў закінутага зайца, не пачаставаўшы ведзьмака. Вось ён іх усіх і пракляў — і ўвесь поезд пусціў ваўкалакамі, таму і ваўкоў многа. Дураць людзі галаву. А Лаўрынька ўжо і казку аб гэтым ад дзядзіны запісаў, хацеў Лявону пасылаць, ды бацька грошы на марку не даў, затым што няма чаго яму, малому, многа ведаць ды грошы на глупства траціць.

Усе ў Задумавых былі здаровы, толькі матка, ішоўшы з царквы на той нядзелі, застудзілася і дзён пяць праляжала на печы. Лаўрынька з Ганулькаю з самага рання выхадзілі ў школу ў Залужжа, і бацька заставаўся адзін у хаце з хвораю. Яму было шмат работы, і ён гневаўся.

Матка, бачачы, як яму цяжка аднаму цягнуць на двор цэбар з мешанкаю свінням, саскаквала з печы, як маладзенькая, і бегла хоць дзверы за ім зачыніць.

А ён гневаўся, і злаваўся, і крычаў на яе:

— Ляжы ты ўжо, калі хворая ляжыш! Што я, сам не зачыню дзвярэй? Пасобіш ты мне гэтым!

Яна ж мала таго, што саскаквала з печы зачыняць дзверы, часам не магла ўцерпець, каб не выбегчы на падворак паглядзець, ці добра ядуць свінні. Тады пачынаў біць яе кашаль, як у кадушку, і яна праганяла яго сцюдзёнаю вадою, бо ў варанай, казала, няма ніякага смаку.

Бацька за гэта сварыўся на яе.

Ды-ткі і досыць даставалася яму: вады прынясі, скаціне корму падавай, дроў няма — дроў насячы, а ўсё як сам дык сам, проста хоць ты гвалту чалавек крычы!

— Будзе мне з вашае навукі пацеха, хто там ведае. Вучоныя — за бацькавым каркам,— бурчэў ён часам пад павеццю; але трэба адзначыць, што ён сам дужа хацеў, каб Лявон вучыўся, а бурчэў — дык толькі так сабе, каб спагнаць злосць і паказаць, што стыпендыя — стыпендыя, а бацька ж таксама нешта значыць з сваёю дапамогаю, і бацьку тым часам няма палёгкі.

І як жа не злавацца: каровы галодныя рыкаюць, авечкі бляюць, свінні скігочуць,— ну не дай божа яшчэ і бабскую работу спраўляць. Быццам ведаюць нягодныя жывёліны, што гаспадыня хворая, і ад сіроцтва пяюць у вушы гаспадару.

Папрасіў бы каго з сваіх, хоць трохдзеннікам на час, дык Антон жупаны пайшоў шыць, Панас канаплі ад Іцкі Броўды ў Смаленск павёз,— і мужчын няма, і бабам іхным таксама некалі.

У сераду гукнуў старую Міхасіху печ тапіць, дык яна, як пастаралася, рана юшку зачыніла, напусціла чаду паўнюхтанькую хату. Як на ліха, улучыў ён вольную часінку, прыйшоў у цёплую хату з марозу і пачаў задоўку віць. Чуе сморад, кажа матцы:

— Ідзі-тка ты паціху, напрануўшы кажух, пасядзі ў каго, а то на хворую галаву ўчадзееш зусім.

Выйшла яна з Міхасіхай, а ён, надзеўшы на галаў

шапку, каб дужа не ўчадзець, сеў віць задоўку, думае — не возьме яго чад.

Тым часам, не паспела вярнуцца хворая, аж тут другі хворы... Спачатку пачала яго забіраць млявасць, пад абед жа так заламіла яму ў галаве, так пачаў казлы драць, што, як вярнулася яна,— думала: канчаецца яе чалавек. Затым і не сказала яна адразу аб навіне, якую пачула. А навіна была цікавая.

Дзеля таго, што да Мікітавых было бліжэй, чымся да Якубавых, Задуміха з старою Міхасіхаю зайшлі пасядзець у Мікітавых. Там жа была ў супрадках і Лёкса. І яшчэ да іхняга прыходу была там такая гаворка... Гаманілі пра Лявона.

— Запанеў ужо Лявон, з нашымі дзеўкамі займацца не хоча,— сказала Мікітава нявестка.

— Ды ў Лёксу ўлюбіўся,— падміргнула на Лёксу Мікітаўна.

— А ідзі ўжо ты!..— крыкнула, пачырванеўшы, Лёкса, ураніла верацяно і парвала нітку.

Яна хацела бараніць Лявона, як родненькага брата, хацела казаць, што ён зусім не запанеў, але саромелася.

— Ці ён сабе не знойдзе жонкі ў горадзе, пад брыльком? Нашто яму, вучонаму, нашы дзеўкі ў хустачках? — з пэўнасцю, каб падражніцца, казала ізноў нявестка.

— Купіць Лёксе шляхецкі капялюш, вось і будзе...— зарагатала Мікітаўна, а за ёю і нявестка. І Мікіціха не ўцерпела ад смеху, нават самой Лёксе зрабілася смешна...

— Во і хадзі к табе ў супрадкі,— паказала, аднак, крыўду Лёкса,— ты ўсіх толькі прасмяхаеш...

— Ай, мае вы дзетухны! — сказала тады Мікіціха.— Усё вы жартуеце, а я дык не жартамі іму веры, што Лявон, хоць і вучоны, а можа ўзяць каскую, простую. Добры хлопец, дай бог яму здароўя. Гэта ж другі хамула няўчоны пабудзе ў свеце, дык ужо к яму не прыступіцца: «какста», ды «что-ста», «я-та ста ўсё прайзашол, а вы-та ста няўчоная дзеравеншчына»... Бліскучыя боты гармонікам уздзене, дык думае, што ўжо ён несусветнай далікатнасці. А глядзіце, Лявон заўсёды з намі, як свой. Ні ён гэтых «как-ста», ні ён гэтых «что-ста»...

— Ён наўмысля прыстаўляецца, а ў ім гордасць, як у злым, сядзіць,— запярэчыла нявестка.

— Ай, няпраўда твая! — бараніла Лявона Мікіціха.— Ён і любіць усё сваё простае, ён і пагаворыць з простым чалавекам, як чалавек...

Мікіціха хацела і яшчэ многа чаго добрага сказаць пра Лявона, але якраз на гэтых яе словах у хату ўвайшоў стараста.

Ён даў дзеньдобры, аббіў гальнём снег з лапцей і сказаў:

— А дзе ж вашы мужчыны і хлопцы?

— А ў дровы паехалі, Самсонавіч! Ай справа якая? — зацікавіла Мікіціху.

Стараста вясёла ўсміхнуўся.

— Ды такая справа, што бачу адных баб і дзевак, а людзей нікога няма...

— А мы ўжо і не людзі, Самсонавіч? — засмяялася Мікіціха.— Што ж гэта цягнеш там з-за пазухі, ці не ліст каму?

— Жартую, цётка Мікіціха, жартую! Як жа вы не людзі, калі ўжо і дзеўкі нашы ў людзі ідуць... Во, ужо лісты адзержваюць! Не ведаю толькі, ці ўмеюць самі чытаць? — і падаў Лёксе ліст: — Маеш, курносая!..

— Ад каго ж гэта? — пачырванела, як каліна, Лёкса.

— Ад каго? — пэўна ж ад маладога, не ад старога! — правіў свае жарты стараста.— Шкода, што няма нікога з хлапцоў, а то зараз бы даведаліся, што там такое табе пішуць.

— Можа, гэта не мне? — як не плакала Лёкса, разбіраючы па складах адрас.— Тут нешта напісана «Эсфір» нейкая...

— Эсхвір?! — зарагатаў стараста.— Заказное, на імя Эткі Мэндалеўны, а табе з перадачаю. Яна адзяржала, а мяне папрасіла, каб табе аддаў і нікому не казаў. У Целяпенічах сяння быў.

— А па чым цяпер соль, Самсонавіч? — зараз запыталася Мікіціха, і гутарка пабегла ў другі бок.

Стараста пакурыў, пасмяяўся і пайшоў, а тады ўжо прыйшлі Лявонава матка і старая Міхасіха. Бедная Лёксачка! Што б ёй было выйсці трошку раней...

Мікіціха пахвалілася Задумісе, што соль недарагую прывезлі ў кааперацыйную краму, а Задуміха спыталася, ад каго яна чула. А такім чынам размова дайшла да старасты, да ліста, да Эткі Мэндалеўны і да Лёксы. Задуміха пахвалілася, што Этка заўсёды пытаецца ў яе пра Лявона, а тут-то і асяніла думка Мікітаву нявестку.

— Лёксачка! — плёснула нявестка далонямі.— А я ведаю, ад каго табе гэты ліст.

— Ну ад каго? — ужо стоячы па парозе, мусіла адказаць Лёкса і пачакаць.

— А вот ад іхнага Лявона!

— А пакажы-ка, Лёксачка...— закашлялася Задуміха.— Хоць жа я і няпісьменная, а няўжо ж рукі свайго Лявонькі не пазнаю? Акхі! Акх-ха-аха, аха... Ён, ён, ён! — усцешылася матка, што як бы і пазнала сынаву руку, калі Лёкса паказала ёй адрас на лісце.

Тут для Лёксы наступіў самы гостры сорам, і ёй было «хоць бы скрозь зямлю праваліся», як казалі пасля Мікітаўна і Мікітава нявестка.

— Як прачытаеш, Лёксачка, пахваліся ж хоць нам, як яму там паводзіцца,— ласкава папрасіла Лёксу сама Лявонава матка.

І тут бяседа разбілася. Лёкса пабегла з лістом дамоў, як ашпараная, Задуміха пайшла к дзядзькавым, каб пасмяяцца з дзядзінай, Мікітава нявестка пайшла з навіною па ўсім Цёмналессі, а Мікітаўна чамусь зажурылася і без прычыны навалілася на матку, нашто яна выдала Лёксін сакрэт.

Задумісе не сядзелася ціха ў дзядзькавых. І кашаль троху адпусціў яе. Папрасіўшы дзядзіну прыйсці сёння к ім увечары пасядзець, яна пайшла з Міхасіхаю дамоў абедаць.

Абед быў нецікавы. Міхасісе было прыкра, што рана зачыніла юшку і Задума так учадзеў. Задуміха дужа хацела пахваліцца навіною, але бедны бацька ўсё яшчэ так мучыўся, што ён месца сабе не знаходзіў.

Тым часам спусціўся на зямельку вечар.

Прыйшоўшы дамоў, Лёкса насілася з лістом, як кот з салам. На жаль, сама расчытаць ніяк не магла... Увечары сабраліся хлопцы і дзеўкі. Гукнулі Цімоха, печкуровага сына, найбольшага цёмналескага грамацея пасля Лявона. Лёкса, закрываючыся хустаю, чырванеючы і як бы не хочучы, паказвала той ліст усім. Нарэшце печкуроў сын Цімох сеў на зэдлік, пад самую лямпу, і стаў чытаць.

«Ці здарова ты, мая даражэнькая, мая любенькая, мая прыгожанькая Лёксачка»...

І ўся хата, як ёсць, палягала ад смеху.

А Лёкса, у цішэйшы перапынак, з каліўцам гневу казала:

— Ну дык што? Чаго вы рагочаце? Гэта ж так у лістох пішацца...

Ліст быў чытаны і перачытаны. Банадысёў батрак зазлаваўся і пры ўсіх людзях ціха, але моцна, злаяў Лявона «вучоным дурнем». Лёксіна матка адну паловіцу ліста адабрала, схавала на грудзі за кабат і, давячыся смехам, пастрашыла дачку:

— А каб вас ліха! Панясу Лявонавай маці дый пакажу. Во тады будзеш ведаць...

А Лёксін бацька злаяўся і плюнуў з печы аж на мост, на вольную мясціну:

— Сораму не маюць. На галаве пачынаюць хадзіць.

Дзеўкі смяяліся і казалі Лёксе:

— Лявонава жонка! З намі, дурнымі, гаварыць не захочаш...

— А ідзіце вы ўжо ад мае галавы! — гневалася Лёкса без гневу.

Навіны ў Цёмналессі расходзяцца шыбка. На вуліцы ў той вечар, калі Лаўрынька, разам з другімі дзяцьмі, прыехаў на каўзель і пакаціўся з гары, ён меў вялікую прыкрасць. Наехаўшы няўмысля з сваёю маразянаю казою на маразянае рэшата Мікіцёнкавае Ходачкі, ён пачуў:

— Лёксін дзевярочак! Едзе прост на маразянку, як сляпіца дурная.

Лаўрынька счырванеў, як рак, і кінуўся біць Ходку. Але яна ўцякла, а ўсе малыя каўзельнікі сталі смяяцца і крычаць:

— Лаўрын, Лаўрын — Лёксін дзевярочак, далігойда! Лаўрын, Лаўрын — Лёксін дзевярочак, далігойда!

Лаўрынька заплакаў, завярнуўся з сваёю казою і пацягнуў яе дамоў.

Калі ён увайшоў у хату, матка з дзядзінаю сядзелі на запечку і таксама гаманілі пра той ліст. А бацька ляжаў на палу з мокрым ручніком на лобе і, заглушаючы боль, сварыўся:

— Пісьмы дзеўкам уздумаў пісаць. Заказное! Ці прыслаў нам хоць калі заказное. Ці тут разумеюць што? Ведама, мужыцкая дурата. Адно — людзі будуць выскаляцца і разлахаюць па ўсёй воласці. Скажуць: даўчыў сына!

— Хто там табе што скажаць? — смяялася матка.— Пажартуюць і перастануць. Лёксе сорам — не яму.

— А ўжо ж... заступайся за яго. Даўчыўся... гаворыць па-мужыцку,— дурань другі падумае, што ён і не ўмее па-кніжнаму. За ўсе святы носу нідзе не паказаў сярод паважнейшых людзей, а з гэтаю пагапкаю паспеў дружбу

наладзіць. Чым далей, тым горшы. Слухае самакратаў усякіх (так бацька называў усіх дэмакратаў і наогул вальнадумаў). Самакрацкія кніжкі чытае!

— У яе на руках кароста! — зганіў Лёксу Лаўрынька.

— Яна сабе дзеўка працавітая,— уставіла сваё слова нейтральная дзядзіна,— толькі што язычлівая троху...

— Працавітая! — страшэнна загневаўся Задума.— Працавітая, дык роўная Лявону? Мужыку якому працавітая, а не яму!

Сумна скончыўся гэты дзень у Задумавых, але горшыя прыкрасці былі наперадзе.

На другі дзень раніцаю, калі Задума ішоў па ваду, ён пачуў, што ля калодзежу нейкая сварка. Прыстоіў, прыслухаўся...

— ...Ды ўсё роўна не возьме Лявон твае курносае пляменніцы,— наругаўся стары Хомка Лёксінай цётцы,— ці ён жа гэта ўжо сабе вучонай не знойдзе, што ўсю сваю навуку сабацы пад хвост пакладзе... Ай яму паненак мала ў свеце?.. Пад брыльком?.. Ці што?

— Сам ты стары брыль! — крычала звяглівая Лёксіна цётка.— Чорт стары, куды ты вядро ставіш? — і Хомкіна вядро пад яе рухавымі рукамі без міласці забарабаніла на лёд.

— Ды не возьме! Ды не возьме! Чым маё вядро вінавата? Я тваё так стукну, што і клёпак не сабярэш!

Задума ціханька завярнуўся і з пустымі вёдрамі, як абсмеяны туляга, паплёўся дамоў.

А троху пазней, але ў той жа дзень, бедны Лаўрынька меў клопат у школе. Пасля даўгіх душэўных мук ён дастаў з торбачкі спісаны сшытак, што настаўніца яму аддала назаўсёды, і, аглядаючыся, падышоў к Просьцы, Лёксінай меншай сястрыцы.

— Прынясі мне, Проська, той Лявонаў ліст, дык аддам табе гэты сшытак...

— Наўсягды?

— Наўсягды. Толькі прынясі.

Проська пакруціла ў сваіх руках Лаўрынькін прыгожа спісаны сшытак, пакруціла яго з усіх бакоў, вочкі ў яе загарэліся, і яна сказала:

— Я выхаплю яго ў Лёксы і прынясу.

— Ну, во, во... Добра! Дык глядзі ж! Сшытак будзе твой.

Лаўрынька павесялеў. Цэлую лекцыю цешыўся ён, як падзярэ гэты ліст на самыя дробныя кавалачкі, каб ніхто

ўжо яго ніколі не злажыў і не прачытаў,— каб і знаку ад братавага сораму не засталося.

Але не пераскочыўшы, не кажы: гоц! На другім перапынку, пасля гэтай лекцыі, Проська падбегла к Лаўрыньцы і сказала яму:

— Ай, што мне твой сшытак. Дай, Лаўрынька, кніжку з людзьмі, дык прынясу Лявонаў ліст.

Як ні любіў Лаўрынька брата, але з кніжкаю, у якой ёсць рысункі, расстацца дзеля таго праклятага лісту не мог.

— Курносая ты, і Лёкса курносая, і ўвесь род ваш курносы! — засіпеў ён на Проську ад гневу.— Сказала, а тады не хочаш... якая ты! Ты ж узялася прынесці той ліст!

— Як я ўзялася? Я йшчэ не ўзяла сшытку. Дурны ты, і брат твой дурны, хоць і вучоны, усе так кажуць! — крыкнула Проська і пабегла.— Я і без твае кніжкі абыдуся.

«Нічога,— з малой пацехаю падумаў Лаўрынька,— калі-небудзь, як будуць чытаць гэты ліст на вечарушках, выхаплю яго з рук і падзяру...»

На тым ён і спыніў пакуль што справу, але пастанавіў усё ж напісаць Лявону аб усім і ўкрадня ад усіх.

## IX

Не ўсё ж тыя вянчаюцца,
Што вясною распускаюцца,
Не ўсё ж тыя вянчаюцца,
Што любяцца ды кахаюцца...

З нар[однай] песні

У адзін прыгожы дзень прыйшло Лявону некалькі лістоў і адкрытка. Схапіў Лявон у рукі: на адкрытцы і на адным лісце адрасы напісаны зусім непісьменна і незнаёмымі рукамі. На адкрытцы намалёвана: адзін пан цалуецца з паняю, а другі пан цікаецца да іх з вялікім кіем... А на другім баку адкрыткі, побач з адрасам, напісана гэтак:

«Не бегай ты за дзеравенскімі, а хопіць з цябе гарадскіх. А то як прыедзеш на вялікдзень,— так адлупцуем цябе, вучонага, што і сваіх не пазнаеш. Мы цалуемся цяпер з ёю колькі хочам, балазе ты наўчыў».

Лявон збялеў, ногі занямелі, а рукі марудна разарвалі канверт лісту з незнаёмаю рукою. Ліст быў ад Лёксы. Нехта свецкі пісаў за яе, малапісьменную, так:

«Рука мая пісала, не ведала — каму, а сэрцайка сказала, што міламу свайму. Пішу пісьмо ад скукі, ляці, пісьмо, майму міленькаму ў рукі. Пісьмо ад вашай Сашы драгацэннаму другу Лявонцію Грыгорьевічу Задумаву. У першых строках маяво пісьма паклон ад белага ліца аж да сырой матушкі зямлі. І яшчэ звяшчаю вас, што мы, ваша Саша, жывы і здаровы і вам таво жалаім ад господа бога, здароўя і ўсякага ўспеху ў дзелах рук вашых. Пра жывём найбольш у сваёй хаце, то на Банадысёва батрака вам не сумлявацца. Патаму как мы тожа панімаюшчыя. Но што з міне смяюцца, как мы няўчоная мужычка і болі нічаво. Можа вы толькі прасмяхаеце, но я вас буду любіць да грабавой даскі. А з таво нічаво ня можаць быць, так што бог вам суддзя, а мы чым былі, пры тым і застаёмся. У вас ёсць багатыя і прыгажэйшыя. Но прыязджайце на святую пасху, будзем гуляць, як і гулялі. Цалуем вас няшчотна раз. Не забывайцеся ж на нас. Ваша любезная навекі Саша Лявонцьеўна Далігойдава».

Лявон ад прыкрасці плюнуў, тады засаромеўся, схапіўся ад жалю і крыўды за галаву і глынуў паветра, як шчупак, выкінуты з рэчкі на сухі пясок.

Ліст ад бацькі чытаў ён няўважна, а там пісалася так:

«Даражэнькі сынок Лявон! Твой ліст мы адзяржалі, дзякуем табе за яго. Жывём па-даўнейшаму, усе здаровы, толькі матка была троху прастудзіўшыся, і кашаль яе дужа мучыў, а цяпер троху кашляе, але здарова. І за «Нашу ніву», што выпісаў,— дзякуй, толькі некалі чытаць, і няма ў нас пісьменных на гэты мужыцкі язык. А Лаўрынька чытае, ды рана яму ламацца па ўсе языкі, няхай спачатку навучыцца чытаць па-правільнаму, як у школах вучаць... Мой сынок! Нарабіў ты і сабе і нам вялікага сораму. У другі раз цёмналескім дзеўкам пісьмаў не пішы. Разлахалі цяпер пра тваё пісанне на сто вёрст і брэшуць немаведама што. А нам трэба ў вочы людзём глядзець. Дык будзь ласкаў, Лёксе болей не пішы, бо дурная дзеўка ад гонару і на сорам забылася. З яе слоў усе кажуць, быццам ты дакляраваў ёй ажаніцца, але якая ж табе з Лёксы пара, і ніколі гэтага не можа быць».

Яшчэ далей была патайная прыпісачка, ад Лаўрынькі:

«Лявонічка, брахненька! Дагэтуль я пісаў тое, што казаў мне пісаць тата. А цяпер я пішу сам, каб ты ведаў, што на руках у яе кароста і яна дзеўка дрэнная. Усе смяюцца і дражняць мяне «Лёксіным дзевярочкам». Тата злуецца дужа. Лёкса аддавала твой ліст чытаць усім.

Проська іхная хоча за твой ліст кніжку з людзьмі, [redacted] мне шкода. Калі-небудзь на вечарушках, як будуць чытаць, выхаплю з рук і падзяру. Толькі ты болей не пішы. Цалую цябе на ўсю сілачку. Твой брат Лаўрынька».

І ў маленечкім канверціку была такая картка ад Максіма:

«З Новым годам, закаханы і задуманы Задума! Чакаю, браце, працягу і канца трагікамедыі, а тады і напішу свой погляд. Дужа не задумвайся! Твой насмешлівы, але далёка не заўсёды, Максім Г.».

Лявон схапіў два аркушы чыстае паштовае паперы і напісаў:

«Лаўрынька! Кніжак не шкадуй. Сам чытай і другім давай. І кніжачку з людзьмі якую-небудзь аджалей. Або, калі не ўдасца, рабі так, як надумаўся. На вялікдзень не прыеду. Пісаць ёй больш не буду. Твой Лявон».

«Дарагі Максіме! Дужа-дужа прашу цябе: калі захаваў мой ліст, што я пісаў табе пасля каляд (даўгі такі), то ці спалі, ці падзяры, ці — што найлепей — прышлі мне яго. Не дзіві і не смейся; спаткаемся калі — вытлумачу ўсё. Твой скрыўджаны жыццём Лявон Задума».

# МЕЛАНХОЛІЯ

> Под тым же часом... человек мудрый и великого захованя у людей... ово не ведет, з чого впал в меланхолию, о всем собе зле тушачи, же мыслил о учинене якой смерти собе.
>
> Т. Еўлашэўскі

## 1. СУМНЫЯ ЛІСТЫ

Мой любы таварыш!

Ну, вось, у нас ужо позная, троху засмучоная вясна і пачатак гарачага лета. Скончыліся, нарэшце, апошнія практычныя заняткі, і ты можаш павіншаваць мяне: я скончыў школу...

З якою нецярплівасцю чакаў я гэтага часу! З якою радасцю мроіў аб ім, асабліва два апошнія гады. І вось, калі ўсё гэта, нарэшце-ткі, прыйшло,— нейкая безуважнасць, пануранасць і нават сум агарнулі мяне.

Што рабіць далей? — яшчэ раз, мімаволі, паўстае перада мною балючае пытанне. Паступаць у Межавы інстытут у Маскве ці на палітэхніку ў Кіеве, як мы некалі з табою змаўляліся, я цяпер канчаткова раздумаўся. Не ведаю, ці ўдасца, але яшчэ і дагэтуль я ўсё ж не страціў надзеі вывучыць чужаземныя мовы, набыць атэстат спеласці і паступіць на гісторыка-філалагічны факультэт. Я думаю, што ў нашым вызваленчым руху настаўнікі і літаратары яшчэ доўга будуць больш патрэбны, чым каморнікі і аграномы.

Я пастанавіў папрацаваць гадок на каморніцкай службе, падрыхтавацца да гэтае самае «спеласці» і зарабіць троху грошай, каб і самому было з чым далей ісці ў навуку і бацьку троху дапамагчы, каб канечне вучыў Лаўрыньку.

Я шукаў і знайшоў сабе пасаду ў Віленшчыне, бо вельмі хачу, як ты сам ведаеш і разумееш, пабыць у Вільні, паглядзець на самы асяродак нашага вызваленчага руху, а потым, на вёсцы, пазнаёміцца з жыццём нашага заходня-беларускага селяніна, якое мне, дый табе, як усходнім беларусам, застаецца зусім невядомым.

У Цёмналессе, нават на кароткі час, я не паеду. Шкадую часу. Адпачну і пагуляю там, дзе буду ўжо на працы.

Сёння ўвечары развітаюся з сваёю школаю назаўсёды

і паеду на станцыю. Цэлую ноч буду трэсціся ў балагольскай будзе, бо аўтобус, аб якім столькі казалі, так яшчэ і сёлета не ходзіць...

Без жалю пакідаю гэты няшчасны глухі горад, дзе праўчыўся чатыры доўгіх гады і дзе ўсе мы мелі столькі думак і жаданняў, надзей і планаў, ціхіх радасцей і ўцех, юнацкага сяброўства... Усё тое цяпер — адзаду, і вылятаю ўжо на новыя прасторы...

Ну, бывай мой дарагі! З дарогі напішу яшчэ.

*30 чэрвеня 1913-га году.* *Твой Лявон.*

Мой любы таварыш!

Дагэтуль нідзе не быў я далей за М. і Г., і вось сёння, першы раз у сваім жыцці, убачыў я вялізарны вакзал, аграмадныя паравозы, машынны свет, няўпынны людскі рух і ўсякую іншую цывілізацыю...

Убачыў я таксама ў першым класе процьму багатых дарожных паноў, пышны цвет расійскае панскае культуры на Беларусі, і побач з гэтым, толькі ў другім канцы будынку, у трэцім класе, убачыў я Беларусь, нашу беларускую мужыцкую культуру, прадстаўнікі якой, як няшчаснае, бруднае і затуканае быдла, валяюцца покладам на падлозе, у лапцёх, у лахманох, у мэтлухах, з убогімі торбачкамі і з прыцішанаю, схованаю ад чужой пагарды мовою на засмяглых вуснах.

Зашчымела, браце мілы, маё сэрца, успомніў я цябе і наш гурток у школе, хочацца мне бегчы да вас, гукаць ратунку або кінуцца тут на сценку і драпаць яе рукамі... Замест гэтага пішу табе.

Як на злосць, я завёў за сталом у буфеце гутарку з адным маладым чалавекам у новенькай студэнцкай шапцы і ў новенькай студэнцкай тужурцы з пятлічкамі і жоўтымі гузікамі. Ён таксама чакае цягніка на Вільню, жаліўся, што яму нудна чакаць, і першы, знісходліва, загаманіў са мною. Ён думаў чамусьці, што я настаўнік. Не вельмі я люблю гэтых студэнтаў-панічкоў, але чуў, што акцэнт у яго беларускі, дык думаў, што троху ўсведамлю яго. Дагэтуль я прызвычаіўся ўяўляць сабе студэнта як перадавога чалавека, рэвалюцыянера — калі не на справе, дык хоць на словах. На жаль, я наскочыў на такога расійскага патрыёта, з ліберальнаю фразеалогіяй, і па такога ворага беларускае мовы, што ўсе мае словы прысталі да яго як да сцяны гарох.

І я пастанавіў ні з кім больш гутарак на беларускія тэмы ў дарозе не мець... Буду сабе ехаць ціха і супакойна, сяду ля вакна, буду любавацца на свой бедны родны край і буду бясконцу песціць думкі аб яго адраджэнні...

*Твой Л.*

*7/VII 1913.*

Таварыш мой і аднадумец, паслухай ты мяне з дарогі!

Як люба, як прыемна сядзець у вагоне пад расчыненым вакном у ясны, цёплы, сонечны, пагодлівы дзень і ехаць па Беларусі. Не чуе цела, што прыціснулі яго шчыльна да самае сценкі і што душна. Не чуюць косці, што мулка сядзець і нязручна. Вушы забываюцца і не чуюць ля сябе гандляроў з іхным паўсёдным гаркатаннем аб гешэфце, грашавой карысці і ўсякай мінушчай дрэні. Вочы не хочуць бачыць нічога ў нячыстым вагоне і не адлічваюць ад таго свайго, што сунецца і сунецца спераду назад міма вагоннага вакна.

Ляціць машына, і прад вачмі сцелецца бязмернае поле з курганкамі, лагчынкамі і раўкамі. Калышацца ніва, і васількі ў ёй міленька сінеюць, кукобяцца. І бяжыць тое мілае свежае поле далёка, далёка, аж да цёмнага, блізкага неба, лесу. Заблішчэла ў зялёнай пасцелі рэчка, ціхая, звілістая. Сенажаці разляглiся... Уніз, да рэчкі, збягаюць хаткі, вышэй на схоне самотна паселі гумны, а водаль ад усіх будынкаў, сярод вербалозу, над саменькай вадою прыгнулася адзінотка-лазня. Крыніца вылівае крыштальную вадзіцу па каменнейку і жвірку ў невялічкае жаральцо ў зрубе.

Вялікі пакат дарогі. Цішэй бягуць вагоны. Выспы ля дарогі засцяць даль. Алешнік і бярэзнік... Кусточкі невялічкія, кусточкі, хмыз...

Пераезд, будка, шлагбаум. Кавалачак бульбы пасеяны. Капа сена. Ручай, вялікае балота — з трысніком, латаццю, лялеямі.

Жанчына з сіненькім сцяжком стаіць, а за прыпол ухапіліся дзеці. Мілыя, родныя дзеці!

На беразе таго балота, на лагавінцы, што жоўтым казельцам парасла, дзяўчынка ў матчынай капоце карову бурую, вымястую, са збітым рогам пасвіць. З васількоў, і дрэмы, і рамонку, і званочкаў звіла вяночак, усміхаецца. Вочкі, як тыя цвецікі, на вагонныя вокны глядзяць...

Ой, дзетка мая, сястрычка мая! Ужо не вернецца тая любая пара маленства майго. Дзякую табе за ўсмешачку

таю дзіцячую. Праз яе ўздумаў [redacted] на свае гады маленькія, на сваіх браткоў, сястрычку...

Дзе вы, леты, калі бегаў я з малечаю без аніякага клопату? Дзе ж і вы, дзеці-таварышы? Тыя церпяць жыццёвую пакуту, а тыя на гаю пад пахіленымі крыжыкамі, пад белымі бярозкамі, пакой вечны знайшлі.

Далей, далей. Далёка тая будка з пераездам, далёка засталася. Машкі і машочкі, балотцы, купінкі. Пакошаная траўка. Стажкі стаяць сярод каравенькіх сасонак на багне. Купнік і купнік. А сушэй мясцінка — дзяўчаты з грабелькамі ў шырокіх лёгкіх спаднічонках. Грудок іхны — быццам кусток красачак: чырвоных, сініх, белых. Смяюцца, жартуюць, хусцінaчкамі махаюць.

Лес вялікі, гусценны. Трапыхаецца шызая асіна. Гутаецца гібкая, стромкая, быццам дзяўчына, беластволая бяроза. Дубок прыкарэў да зямлі сярод пасівелае травіцы, а глыбей у лесе ельнік раскапусціўся. Не чуваць за гулам колаў птушынага пяяння, а скачуць па галінках. Грыб сядзіць. Сцежачка вузенькая. Чалавек са стрэльбаю — ляснік тутэйшы.

— Тру-гу, тру-гу, ту-ту-гу...— скрозь гук машынны чуваць, як трубіць весялуха пастухоўская, наводзіць прыемную журбу...

Чаму журуся, гукі тыя чуючы, далёка чутныя? Ці не маленства маё мне голас падае?

Песня дарагая!

І чаго ж смутна мне? Адкуль туга мая, адкуль жаль той па нечым немажлівым, недасяжным, ці то мінулым, ці то неўзваротным?

Зямелька родная! Няможна без тугі жыць на табе. З журбою нарадзіўся... Няўжо з ёю і ў труну лягу? Так у нас паводзіцца, так нам спрадвечнасць дала...

Ну, але годзе! Даруй мне, браце, за гэтае лішне доўгое лірычнае адступленне, на твой погляд, можа, нават зусім і непатрэбнае, і чакай ліста ўжо з Вільні, нашага слаўнага стольнага места Вільні, якое ўбачу праз колькі гадзін, а чакаю гэтага моманту з нейкім сардэчным заміраннем...

Адтуль ужо пастараюся прыслаць табе не толькі лірыку, але і хоць якія-небудзь факты. Дык выбачай!

*Твой Л.*

Дарагі таварышу!

Пішу табе з Вільні, з тэй Вільні, адкуль свяціла магутным святлом наша старадаўняя культура [...].

Нага мая ступала ўжо па тых вуліцах, дзе за колькі сот гадоў ступаў вялікі сейбіт гуманізму і асветы доктар Скарына і дзе яшчэ так нядаўна вялі бязлітасныя каты на кару смерці адважнага праўдадыра паўстанцаў Каліноўскага...

Тут пяяў свае мужыцкія песні бацька нашага адраджэння Мацей Бурачок...

І цяпер тут, за Лукішскім пляцам, стаіць пануры, абнесены вялікаю сцяною дом, у якім шмат невялічкіх ваконцаў, а на кожным ваконцы тоўстыя краты...

Пад Вільню пад'язджалі мы ўчора позным вечарам. Я мімаволі ўзрушыўся, сэрца маё было неспакойна ад невядомае трывогі, я ўглядаўся ў бліскучыя наперадзе агні і думаў: дык вось ты, Вільня. І я буду жыць і хадзіць там, дзе жылі і хадзілі вялікія сыны краіны... Я ўбачу твае вызваленчыя сілы, я буду з імі, я ўсяго аддам на тую працу, што будзе ўпісана ў новую старонку гісторыі. Мне хацелася плакаць і смяяцца, мне было чагосьці сорамна перад самім сабою і чагосьці смешна з самога сябе.

Увечары горад здаўся мне вялізарным, бліскучым, шумным, незвычайным. Прыехаўшы ў гатэль, я хацеў зараз пабегчы на вуліцу, але было ўжо позна...

Сёння ўстаў я вельмі рана, мне спалася салодка і разам неспакойна, і, устаўшы, я першым чынам адчыніў вакно: вялікі і прыгожы горад убачыў я з свайго трэцяга паверху: чарапковыя дахі, высокія і стромкія касцельныя вежы, сады, над усім — высокая зялёная гара (я здагадаўся, што гэта летапісная Замкавая гара), на ёй вежа, а далей трошку відаць была шырокая рака — Вялля. Тамсям, асабліва за Вяллёю, убачыў я і вялікія фабрычныя каміны, з якіх слаўся чорны дым. Хацелася, аднак, каб тых камінаў было хоць трошку болей...

І потым, калі я хадзіў па вуліцах і садох, па беразе шырокай і плаўнай Вяллі і быстрай, бурлівай Вялейкі, каля Панарскіх гор з голымі кручамі,— усё мне незвычайна падабалася сваім маляўнічым харастовом.

Агульны выгляд места, архітэктура шмат якіх будынкаў, асабліва гэтыя чарапковыя дахі, і ўсё наогул — здавалася мне праўдзіваю Заходняю Еўропаю, хоць бачыў я Еўропу тым часам толькі па малюнках...

На панскіх вуліцах я чуў найбольш расійскую і польскую мовы. У нячыстых, крывых і вузенькіх-вузенькіх вулках яўрэйская беднаата гаворыць між сабою сваёю мовою, а з іншымі людзьмі па-расійску, а зрэдку і па-поль-

ску. І толькі на рынках, ад сялян, а часам на вакзале ад рабочых і на вуліцах ад дворнікаў і фурманоў чуў я сваю родную мову і ў такім прыгожым і чыстым дыялекце, як быццам усе гэтыя людзі супрацоўнічаюць у «Нашай ніве».

Але з жалем я заўважыў, што зараз, як толькі з імі загаварыць хто апрануты па-панску, яны стараюцца гаварыць яго моваю, моваю, значыцца, па-расійску ці папольску.

Аднак часу я меў вельмі мала і хоць трошку болей агледзець Вільню не паспеў. Нарэшце, зрабіўшы свае службовыя справы, пайшоў я шукаць Завальную вуліцу, дом № 7, і трапіў у недалёкі ад галоўных вуліц, ды ўсё ж не бойкі, нават глухаваты і якісьці пыльны закутак гораду.

Падыходзячы, я ўбачыў праз шырокую вуліцу шыльду — высокую і бачную, хоць і невялікую: на цьмяным полі буйныя пазалочваныя літары: «Беларуская кнігарня». І ледзь не заплакаў ад радасці і жалю... Чамусьці мне было неспадзяванкаю, што на вуліцы, адкрыта, на шыльдзе можа быць напісана па-беларуску. Першы раз такое бачыў... [...]

На жаль, кнігарня, за позным часам, была ўжо зачынена, і я толькі паглядзеў на выстаўленыя за шклом, даўно ўжо мною чытаныя і перачытаныя кніжкі і календары. Каля дзвярэй, у рамцы за сетачкаю вісеў апошні нумар «Нашае нівы», і я стаяў, пакуль не прачытаў яго ад пачатку да канца. Была тут і мая маленькая карэспандэнцыя.

Хацеў я пажыць яшчэ хоць дзень-другі ў Вільні, але мушу, на загад губернскага каморніка, сёння ж увечары выехаць ужо на працу ў вёску. Пасылаюць мяне да нейкага каморніка, які вельмі зацягнуў землеўпарадкаванне, супроць вызначанага яму летняга плану працы. Дык буду яму дапамагаць, каб ён хутчэй скончыў у гэтай вёсцы і пераязджаў у другую.

Я спытаўся, ці беларуская там насельнасць, дык ніхто ўва ўсёй рысавальні не ведае. Дзівіліся нават, чаму гэта мяне цікавіць. Толькі швейцар казаў, што там, мусіць, жывуць і беларусы і літоўцы.

Ну, дык бывай, братка! Напішу з вёскі.

*2/VII 1913 г.*

*Лявон.*

Братка ты мой, братка!

Не шанцуе мне. Паслалі мяне на самую мяжу Бела-

русі з Літвою, дзе жмудзяцкія вёскі клінам уваходзяць у беларускую зямлю, і трапіў я не ў беларускую вёску, а ў гэтыя жмудзяцкія Радзівілішкі.

Жывуць тут сяляне бедна і нецікава. Цяпер яны ўвесь час спрачаюцца і сварацца, каму і дзе мець хутар. Быт іхны зусім падобны да беларускага. Але разгаварыцца можна толькі з мужчынамі, і то ломаным расійска-польска-беларускім жаргонам; жанчыны і дзеці гавораць толькі па-свойму. Сяляне з намі, здаецца, вельмі ласкавыя і прыветныя, а бачу я, што глядзяць яны на нас як на чужых людзей, як на расійскае начальства, і часам тая прыветнасць выглядае вымушанаю пакораю і навіт падлягліннем, каб дастаць лепшы хутар.

Ужо праз колькі дзён заўважыў я, што не толькі ад гэтага старога каморніка з паповічаў, з якім я працую, але і ад мяне яны адгарадзіліся кітайскім мурам, хоць я бачу ў іх тых жа самых сваіх родных цёмналесцаў і абходжуся з імі як селянін з сялянамі.

На працы ў полі, як толькі гутарка адыходзіць ад іхных хутароў, яны размаўляюць са мною без усякае ахвоты і цікавасці.

Іх дзівіць, што я хаджу ў шэрым сялянскім жупанку. Іх дзівіць, што раніцаю, калі яны прыходзяць па інструменты ісці ў поле, я вітаюся з імі за руку.

А каморнік мой меў смеласць цынічна сказаць мне: «Не смяшыце вы добрых людзей... З ручкаю не падходзьце і шэрых жупанкоў не напранайце, а то не будуць вас баяцца і яшчэ калі-небудзь, не разабраўшыся, прывітаюць вас каменем па галаве...» Як табе гэта падабаецца?

Наогул каморнік гэты забулдыга, п'яніца і стары дзявошнік. У яго поўная безуважнасць да сялянскага гора, дый да ўсяго на свеце, апрача выпіўкі і баламуцтва з дзяўчатамі. Працуем мы і ў будні і ў святы, наганяем «задзельную плату», але праца ў яго ідзе вяла і няспорна і пасуваецца наперад надта марудна.

Кожны дзень у нас або цяганіна ад рана да позняга з інструментам у полі, на гарачыні і ў самы пільны сялянскі летні час, або прывод гаспадароў да згоды, злосць, спрэчкі і лаянка ў людзей, сціснутых нястаткамі да краю, або камеральная праца, марудная, цяжкая і ўсё роўна без ніякага сэнсу, бо ні зямлі, ні праўдзівага землеўпарадкавання яна не дае і даць не можа. Незвычайна цяжка і проста немагчыма спраектаваць тут хоць што-небудзь такое, каб кожнаму хутараніну было добра.

Сумна тут, мой ты даражэнькі. Сам не ведаю, што рабіць. Хіба ўцячы куды?

Дык пішы мне хутчэй,— падвесялі мяне...

*8/VII 1913 г.* *Твой Л. З.*

*Вёска Радзівілішкі.*

Здароў, здароў табе, маўклівы таварышу!

Я табе пішу, а ты маўчыш. Вось ужо каля двух тыдняў жыву я тут, як у нейкім засланні ў чужы і варожы край, без выхаду, без выезду і з непрыемнасцю штодня.

І дагэтуль не атрымаў яшчэ ні ад цябе, ні з Цёмналесся, ад сваіх родных, ніводнага ліста, і не ведаю, чым гэта вытлумачыць.

Дык сумна мне. І прыкра на сябе самога, што паддаюся суму.

Жывецца нецікава. Нават газет мы блізу што не бачым. Каморнік мой, праўда, іх і не выпісвае і не чытае... Няма кніжак і няма часу чытаць іх, няма дазволу і выехаць хоць на які дзень у Вільню.

Але заўтра я пайду ў мястэчка на пошту... Бачыш, прыйшла афіцыйная папера ад губернскага каморніка з паведамленнем, што адтэрмінавання адбываць вайсковую павіннасць каморнікам даваць больш не будуць... Такім чынам, на лета мне трэба выбіраць налюбкі: або вышэйшая школа і там адтэрмінаванне, або салдатчына ў працягу двух гадоў... Загубіць цэлыя два гады! Ты падумай толькі. А як жа я падрыхтуюся ў універсітэт, калі працаваць мы будзем тут да снегу, а вясною ізноў трэба выязджаць на вёску, як толькі сойдзе снег. Тут рыхтавацца немагчыма,— я быў вельмі наіўны, калі меркаваў тут рыхтавацца. Якая нуда!

Дык вось надумаўся і пішу сёння ў Маскву, у народны універсітэт імя Шаняўскага. Пытаюся, ці можна паступіць туды без атэстату спеласці і ці даюць там адтэрмінаванне ад вайсковае павіннасці. Адным захадам пішу і табе, хоць ты і не варт, каб табе пісаць, бо сам дагэтуль не напісаў мне...

* * *

Між іншым, вось табе гутарка, якая толькі што была ў мяне з маім патронам (так я заву свайго каморніка).

Я цвёрда заявіў яму, што сёння болей працаваць не буду, буду пісаць лісты, а заўтра, у нядзелю, таксама на

працу не пайду, хоць бы мяне азалацілі «задзельнаю платаю», а пайду ў мястэчка на пошту, занясу лісты, прынясу газеты, пагуляю...

Я думаў здзівіць яго сваёю забастоўкаю, чакаў, што ён будзе супярэчыць. А ён сказаў мне зусім іншае...

— Паўдня пісаць лісты! Хіба вы хочаце ўсушыць сваю паненку такім бясконцым лістом,— пажартаваў ён і ўсміхнуўся.

Потым, падумаўшы, гаворыць:

— Гм, елкі-палкі! Чаго ж вам хадзіць пехатою, тупаць у полі? Любы мужык з найвялікшаю прыемнасцю запражэ вам каня і хвост яму дудою закруціць, і завязе вас, куды вам толькі трэба, яшчэ і напоіць у мястэчку... Толькі без ног назад не прыязджайце.

— Не, я пайду,— кажу я цвёрда.

— І ў сваім шэрым жупанку?

— І ў сваім шэрым жупанку.

— Ну і дзівак!

— Не большы, чым іншыя дзівакі.

— Можа сабе, але такога першага бачу.

— Калі-небудзь пабачыце і другіх.

— Хіба пасля другое рэвалюцыі.

— Не будзьце так пэўныя, што яе не будзе.

— Па мне хай сабе яна будзе хоць заўтра, я каморнікам быў, каморнікам і застануся. Але вось вы, баюся, што сядзеце без пары ў дзіравую калёшу.

— А што я такое раблю?

— Праўду кажучы, ні храна вы і не робіце, толькі халяруеце, чорт вас ведае, чаго.

— А вы што робіце?

— Што я раблю? Ого-го! Важную дзяржаўную справу, пане мой! Сталыпінскія хутарочкі... Гэта не фунт ізюму... Але годзе нам гэтае філасофіі, палкі зялёныя! Сядайце во абедаць, ды выпіце добрую чарку, ды з'ешце бараноў азадак, ды пайшлі б з дзяўчатамі падурэлі, дык будзе з вас чалавек і каморнік, а не дзівак нейкі ў шэрым жупанку...

Гэтак мы размаўляем з ім даволі часта. [. . .]

* * *

Дык вось у які шырокі свет, на якія вальнейшыя жыццёвыя прасторы трапіў я, мой ты любы таварышу! І кожнага з нас чакае той самы шлях,— памятай гэта, мой даражэнькі.

Напісаў табе і быццам троху супакоіўся, абгледзеўся, абдумаўся, нібы троху і павесялела.

Але, наогул, нуда, нездаволенасць і сум агарнулі мяне тут, як благі туман. Хочацца бегчы, уцякаць, і, мусіць-ткі, я не вытрываю, папрацую месяц-два, зараблю троху грошай — і ўцяку... Толькі не ведаю, куды ўжо пагоніць мяне ліха. А ці не ўсё роўна? Хоць у вір галавою!

Бывай здароў і жыві без усякіх паганых меланхолій. Гэта цяпер маё самае шчырае табе жаданне.

*11 ліпеня 1913 г.*
*Вёска Радзівілішкі.* *Твой Лявон Задума.*

## 2. НА ПОШЦЕ

Было яшчэ вельмі рана, калі паспеў Лявон прайсці добры кавалак дарогі да мястэчка.

Сонца прыпякала мацней, і слабеў пах жыта і румянкі. Высыхала астатняя расінка, вышэй узнімаўся важкі пыл.

Шнуры былі яшчэ не ўсе пажатыя. Спелая ніва часам ціха калыхалася і шаптала. Ад спакойных, троху пахіленых каласоў дыхала прыемная радасць. Цёплае паветра пераліваласся на сонцы.

Лявон наганяў нейкіх сялянак, відаць, жмудзінак. Яны ішлі ў саматканых спадніцах, босыя, з кошыкамі — значыцца, у лес, у грыбы ці ў маліну, а не ў мястэчка на кірмаш.

Яны ўсё гаманілі, жартавалі і смяяліся. І Лявону павесялела, гледзячы на іх і слухаючы іхныя лагодныя сялянскія галасы. Потым ён хацеў падысці да іх і загаманіць, але пасаромеўся... І мімаволі засмуціўся, адчуўшы сябе вельмі самотным у чужой староне.

Нейкі малады хлапец, што ляжаў, схаваўшыся галавою ў жыта, а ногі спусціўшы ў канаву, устаў і пайшоў з імі разам. І хлапец быў босы, відаць, і ён ішоў у лес.

А лес быў ужо блізка наперадзе. Часцей лёталі і гудзелі авадні, ужо адтуль, здаецца, цягнула лесавым пахам і прахалодаю.

Нарэшце, вось і лес...

Дарога пайшла вузенькім праходам між дрэў, над якім павісла густа сплеценае вецце. Супакой, ціша і прахаладзь панавалі тут.

Там-а-там па дарожцы траплялася і лезла пад ногі карэнне шматгадовых дрэў-волатаў. Косы сонца не прабіва-

ліся скрозь ператканае вуччо бяроз або шырокія лапы хвой,— і густы сцень ляжаў на дарозе. Гушчары ляшчыны, дробнага альшэўніку, маладых асінак і лазы пры канаве абступалі дарогу, і ўсё страшэнна парасло і сплялося.

Асаблівае пачуццё выклікалі спрадвечныя лесавыя асілкі сваёю веліччу, гушчынёю, паўсёдным цёмным холадам. Яны давілі чалавека, шапталі яму аб яго адзіноце і слабасці. Але яны ж давалі і супакой таму, хто ад зямлі і лесу ўзяты...

Жанчыны і хлапец павярнулі з дарогі, пераскочылі цераз канаву і схаваліся недзе ў гушчэчы. І Лявон заўважыў, што каля дарогі даволі часта сядзяць малінавыя кусты з тонкімі, пад колер сасны, былінамі і з бялявымі падыспадам лістамі. Ён сашчыпнуў колькі малінін, пачуў у роце свежасць і салодкасць, і яму раптам зусім праўдзіва здалося, што гэта ён у сваім родным Цёмным Лесе, прыйшоў у маліну і радасна, без усякага клопату, здарова і вясёла, як у маленстве, ходзіць між дрэў, у халадку. Нават здзівіўся свайму гэтаму адчуванню, але і ўспомніўшы, дзе ён і што ён, спакойна ішоў цяпер адзін, у вялікім і добрым лесе, і здаровая, з даўных часоў, лёгкасць разлівалася яму ў сэрцы.

* * *

Потым ён пільней пачаў прыглядацца, каб не мінуць той ледзьва бачнай, як яму казалі, сцежачкі, што вельмі скарачае дарогу ў мястэчка. Яна павінна была адхадзіць ад невялічкага прагалу, на якім стаіць вілкаватая і дужа кучматая сасна, зазвычай троху ацёсаная дзеля знаку і ўся аблітая смалою. У такой гушчэчы так лёгка можна прамінуць і сасну і сцежачку. Ён усё ўглядаўся, і яму зрабілася, нарэшце, прыкра, што ўсё няма і няма ні той сасны, ні сцежачкі.

І раптам, неспадзявана для сябе самога, збачыў пад куст ляшчыны, разаслаў жупан, лёг дагары, расцягнуўся, расправіў плечы, выпраставў грудзі, прыклаўся ўсім целам да зямлі, а думкамі і сэрцам зліўся з усім лесам.

«Ці зразумеюць яны, інтэлігенты, а на просты сялянскі погляд,— проста паны, ці зразумеюць яны маё шчасце ляжаць у лесе на вясковым жупане?» — падумаў ён трошку з сумам і трошку з пагардаю...

І чуў, як адпачывае цела ад дарожнае зморапасці, адпачывае салодка і здарова. І вось толькі ніяк не можа ён

змагчы нейкую маленькую, але мімавольную і ўпартую прыкрасць.

У кавалачках мімалётных, адарваных успамінаў прамільгнула цьмяна, невыразна даўно забытая дзяўчына, што бачыў яе дзесьці і падабаў яе... Яе вобраз меў штосьці агульнае і з Лёксаю, і з Мусяю... А потым усё сплылося, і ў думках стаяў адзін, агульны, дзявочы вобраз, цьмяны і невыразны, але такі любы, родны і блізкі... Ніколі яе не бачыў і не ведае, хто яна будзе, а ўжо мае на яе вялікі жаль і крыўду... Ён так балюча, так бязмерна кахаючы, душу сваю гатоў зліць ■ яе душою, усё сваё аддаць ёй, бо нікога ў свеце няма яму даражэйшага за яе, а яна, так па-дзявоччу легкадумна, гоніцца за ўсякаю пустотаю і ў той пустоце знаходзіць сабе здаваленне і забываецца на яго, з яго непатрэбнымі ёй думкамі і мукамі.

«Не, яна ніколі б не зразумела мае прыемнасці ад пылу ботаў і варсаватае грубізны простага вясковага жупана»,— з нудою ўздыхнуў Лявон... І раптам, крутка і нервова, перавярнуўся ніц, прыпаў усёй істотай да зямлі, распасцёр крыжам рукі, прытуліў правае вуха да травы, да паху зямлі, і слухаў, як шуміць лес, слухаў, слухаў, слухаў, аж сонца ўрэшце нейкім дзівам прабілася да яго і прыпякло шыю.

І ўсхапіўся, каб не спазніцца на пошту, пачуў дур у галаве і з прыкрасцю і злосцю голасна сказаў:

— Я ж бы яе ўзненавідзеў...

Злаваў страшэнна, што барзджэй гэты гнілы пень, куст ляшчыны і зломаная бярэзіна зразумеюць яго, чымся яна... наогул яны, інтэлігенты, а на сялянскі погляд — проста розныя, не зусім панскага роду паны.

Дзікая злосць ахапіла яго, быццам сапраўды ўжо, наяве, быў у яго гэты балючы разлад з каханаю дзяўчынаю. І здавалася яму, што і пушча з сваім спрадвечным супакоем адхінулася ад яго, папсаванага, як ад якой заразы, і ніколі ўжо не дасць яму свае ціхае, супакойнае лесавое радасці.

Знайшоў тую сцежку і ішоў па ёй як непрыкаяны, як адарваны ад разумнае гармоніі і кінуты ў страшна прыкры непарадак, дзе брудна-каравае ніколі не зробіцца стройным і правільным.

Ішоў сцежачкаю сярод гусценнага ляшчынніку, і да вушэй даляцеў глухі няясны гук, пачуліся людскія галасы, і выйшаў на палянку. З высокіх і густых кустоў малінніку вытыкалася, то там то там, белая ці чырвоная

МАКСІМ ГАРЭЦКІ

# ГІСТОРЫЯ БЕЛАРУСКАЕ ЛІТЭРАТУРЫ





КОШТ. У. ЗНАМЯРОЎСКАГА і Э. БУДЗЬКІ
ДРУКАРНЯ КООП. ТАВАРЫСТВА „ДРУК“
ВІЛЬНЯ — 1920.

Вокладка
«Гісторыі беларускай літаратуры» М. Гарэцкага



М. Гарэцкі. Вільня. 1920 г.

хусціначка, і чуўся прыглушоны, радасны ад прагавітасці гоман: гэтулькі маліны, ай-я-я-я!

Той самы хлопец, што ляжаў у жыце на дарозе, выйшаў з кустоў, якраз насупроць Лявону, і паглядаў, муліўся, каб нешта, мусіць, спытацца. І спытаўся па-беларуску, з літоўскаю вымоваю:

— Здалёка, браце?

— Здалёка... Ну, а што?

— Нічога, так сабе... І мы здалёка.

— А...

Сказаў Лявон гэтае «а...» ужо без злосці. А тое, што вырвалася няласкава і нават груба «ну, а што?» — тое ўжо не паправіш, хоць і шкода...

* * *

На паляне хадзіла рыжая карова, скубла траву, круціла хвастом, чмыхала мордаю па баках ад мошак, разам дрыгала-тупатала нагамі і мяла траву і званіла балабонам.

І, паглядзеўшы на яе, можна было зусім супакоіцца і нават пачуць здаволенасць, што жыве карова сваім здаровым, нармальным жыццём.

Недалечка наперадзе відаць была хатка,— мусіць, тут жыў ляснік, і гэта была яго карова.

Зірнуўшы ўбок, убачыў Лявон, што на пні сядзіць маленькая пастушка, дзяўчынка гадкоў з дзесяць, худзенькая, беленькая, у кароценькай лінялай спаднічоцы.

І калі ён праходзіў міма, яна ціханька запяяла... І круціла ў руках недавіты вянок, быццам пільна занятая сабою і нецікавая, хто там ідзе. Слоў нельга было разабраць, а цягнула такую нудную мелодыю, што ён з прыкрасцю прыспешыў крок, каб не чуць яе. Запяяла дужэй, і, малая, душу цягнула з цела сваім спевам. «І гэтак у нас спяваюць дзеці»,— падумаў ён і не мог ізноў стрымаць сябе ад прыкрасці і злосці.

— Ста-а-аська-а! Гой, го-о-ой! — кінуўшы пяяць, знецяйку закрычала тая дзяўчынка, і звонкім і вясёлым дзіцячым голасам.

Аж ён азірнуўся. Але раптам страшэнна спалохаўся...

— Гр, гр, гр! Гаў, гаў, гаў! — кінуўся на яго з-за хаты ганчак.

— Вось я табе пагойкаю, свавольніца! — лагодна крыкнуў у дачкін бок сівавусы ляснік, сходзячы з ганку

на дарогу.— Не бойцеся, не бойцеся, ён не кусашчы... Пайшоў ты прэч! — адагнаў ён сабаку і запытаўся:

— Ці не ў мястэчка?

Гаварыў па-беларуску.

Сабака вінавата завіляў хвастом і адбегся троху ўбок.

— Але, на пошту,— адказаў, прыстаўшы, Лявон. Сэрца білася,— так напалохаўся.

— Ай, як добра...— сказаў ляснік і, завярнуўшыся назад, крыкнуў у хату:

— Стасюшка! Давай ліст... Ідуць на пошту... Можа, вадзіцы? Прагнаць смагу? — спытаўся ён і, не чакаючы адказу, пайшоў па ваду.

Назад ішоў ён з дзяўчынаю. Ён нёс ліст, а яна чысценькую бляшаную квартоўку вады.

— Калі ласка, укіньце там у скрыначку,— папрасіў ляснік і падаў ліст.

Дзяўчына трымала бліскучую квартовачку і трошку канфузліва, але так міла прамовіла, падаючы:

— Проша...

Была ў просценькім, напалову гарадскім адзенні, як прыбіраюцца настаўніцы, дачкі сялян. Усё ў ёй было сярэдняе, простае і здаровае: крэпкі, працоўны стан, круглыя рукі, чысты, загарэлы на сонцы твар, вясёлыя карыя вочы. Была прыгожая. Стаяла і ўсміхалася.

Лявон смагла піў ваду і паверх квартоўкі пазіраў на Стасю-лесьнічанку. «Вось бы мне такую жонку»,— прамільгнула смешная, але прыемная думка.

Яна ўзяла квартоўку, усміхаючыся паківала яму галавою і пабегла сабе...

Ляснік прайшоў троху з ім па дарозе.

— У нас там на пошце і чалавек свой ёсць,— не ўцярпеў і пахваліўся ён Лявону.— Як жа, памоцнік паштовага начальніка... Сватаецца да мае Стасюшкі... што ваду вам падавала. Думаю аддаць.

— А ваша дачка настаўніца? — чамусьці сурова спытаўся Лявон.

— Блізу таго ўгадалі... Даглядае дзетак у ахронцы ў Вільні... А пан таксама ці не з настаўнікаў? — з большаю далікатнасцю і ласкаю спытаўся ляснік і пагладзіў сівы вус.

— Гэта, значыцца, у польскім прытулку, ці што? — яшчэ з большаю няласкаю спытаўся, замест адказу, Лявон і скоса паглядзеў на старога.

— Усе мы браця,— пакорна сказаў той.— Польскія,

рускія... Усе ў аднаго бога веруем... Дык вы ўжо там укіньце ліст у скрынку, калі ласка,— дадаў ён і астаўся.

Сабака яго азірнуўся наперадзе, падумаў і, задраўшы хвост, вярнуўся назад за гаспадаром.

«Значыцца, значыцца...— чамусьці горка і іранічна ўсміхнуўся Лявон,— значыцца, ужо засватана за добрага чалавека...»

І з невясёлаю ласкаю ўздумаў на Лёксу і з прыкрасцю на Мусю.

* * *

Выйшаўшы з лесу і ідучы старым шляхам, пад прысадамі з рэдкіх старых і пакалечаных бяроз, увесь час намагаўся ён супакоіць сябе і павесялець і, аднак жа, ніяк не мог пераламіць настрою так, як бы хацелася.

Мястэчка было ўжо зусім блізка.

«А не магу супакоіцца, дык і не трэба»,— мільгнула яму ў галаве, і без усякае думкі і без усякага жадання, зусім неспадзявана дзеля сябе самога, ён раптам, істэрычна, зарагатаў, як конь, прыстаўляючыся вясёлым і дурным і ўважаючы, што ніхто яго не чуе:

— Іга-га-га! Іга-га-га! — страшэнна зарагатаў ён, аж сам спалохаўся свайго дурнога выбрыку.

Маладыя гандляры, што ехалі не дужа блізка, але і недалёка спераду, скрозь гук колаў пачулі яго конскае ірзанне. Той, што сядзеў на каленках бліжэй да хваста і паганяў вараную кабылу хлабасцінаю з усохлае бярозы, закруціў галаву назад і спытаўся ў таго, што ляжаў, абапершыся на саламяны куль, спусціўшы ногі за лучок: «Чуеш?» Спытаны адсунуў шапку з воч вышэй на віхрасты лоб, нічога не сказаў і глядзеў назад па дарозе.

— І-га...— абарваў свой новы рагатлівы прыпадак Лявон, бо з сорамам заўважыў, што ў канаўцы, за кустом, як дамахнуць каменьчыкам, сядзяць і абуваюцца дзяўчаты перад увойсцем у мястэчка.

— Палохае, нібыта мы яго і не бачым,— сказала адна (па-беларуску), засмяялася і адвярнулася.

— Не чапайцеся з гэтым! — ціха запярэчыла другая і таксама пасміхнулася.

— Чаму гэта «з гэтым»?! — не ўцерпеў Лявон.

— Таму, што, відаць, дужа разумны... З глузду з'язджае...— адказала яна яму, і ўсе вясёла і дружна зарагаталі.

Ён таксама засмяяўся і прыветна памахаў ім назад рукою:

— Не бойцеся, дзяўчаткі, не з'еду...

Ён падумаў нават, што добра было б пачакаць іх і прайсціся з імі разам, але не насмеліўся, паддаў хады і неўзабаве ішоў ужо па мястэчку.

Паны і заможныя крамнікі, відаць, яшчэ спалі. Вакенніцы ў лепшых дамах, з высокімі ганкамі і бляшанымі фарбаванымі і толькі зрэдку гонтавымі дахамі, былі зачынены.

Ля больніцы стаялі сялянскія фурманкі; адпрэжаныя коні елі пакладзеную ў калёсы зялёную траву і ўжо тупалі ад ранішняга сонейка. Тут жа, на калёсах, на зямлі, на ганку, сядзелі ўсякія хворыя небаракі, старыя дзяды і бабулі, маткі з дзеткамі на ўлонні, барадатыя мужчыны. Адна хворая старая ляжала на фурманцы, напрануўшыся ў бурую кажурыну, быццам і не ўлетку.

Ля воласці таксама ўжо боўтаўся і пачынаў галдзець розны народ.

Прыбраныя людзі ішлі ў касцёл.

Ля некаторых крамак быў рух, і нават даволі бойкі, асабліва ля адной, а некаторыя, паважнейшыя, былі яшчэ зачынены.

— Куханы! Куханы! Смасныя куханы! — спакушала Лявона старая яўрэйка-перакупка.

— Што купляеш? Гэй, ты, хлопец? — запрашала другая.

Паліцэйскі стражнік важна, як вялікі індык, хадзіў тут, залажыўшы рукі за спіну.

Але вось з той люднай крамы сыпнулі ўсе грудам, а перад усімі выскачыла, уцякаючы, босая, дробненькая і ўжо немаладая сялянка, уся збялелая ад перапуду і ад сораму, а следам за ёю наступаў кароткі, грубы і сыты крамнік.

— Зладзейка, пся крэў! — крычаў ён на яе па-польску.

Яна маўчала і, азіраючыся, адыходзіла, а ён ужо спыніў крокі і толькі трос ёй услед кулаком. Потым спакойна і важна павярнуў у сваю краму.

Жанчына схавалася ад гвалту, ад людзей за рог будынку і прытулілася ля сценкі. Да яе падступіўся толькі адзін нейкі дзядзька, бедны таксама, у дзіравым жупане і ў скураных лапціках, падвязаных вяровачнымі аборкамі, што былі абкручаны дужа нізка, ля самых костачак.

— Каб жа я хоць мысліла красці...— нарэшце прамо-

віла яна па-беларуску, а потым пачала штосьці казаць яму горача і шыбка па-літоўску.

Дзядзька пыхкаў люлькаю, пазіраў задуманымі вачыма і нічога не казаў, але ж быў усё ж ткі побач з ёю, пакрыўджанаю.

— Што за шум, а дракі нет? — з жартам узышоў на прыклетак каля крамы стражнік.

— Глупства, пане стражнік! — вясёла адгукнуўся і засмяяўся, выходзячы яму на спатканне, крамнік і выставіў перад ім свой расчынены партабак з папяросамі.

І сяляне, якія там былі, таксама засмяяліся, быццам сапраўды нічога асаблівага тут не было.

— Ай, сто там, не цапайце вы яе,— падала свой голас і тая старая яўрэйка, што прадавала куханы.

І ўсё ізноў пайшло сваім звычайным ходам.

* * *

Толькі гэта і пачуў і пабачыў Лявон, падышоўшы да пошты. А сам быў белы і ціскаў сэрца, каб не білася так дужа. Ашаламеў троху і не ведаў, чаму так, без нічога, прайшоў міма.

Асцярожна пераступіў цераз маладзіцу з дзіцянём, што расселася на прыступачках паштовага ганку, прайшоў па калідорчыку і апынуўся ў цемнаватай паштовай пачакальні.

Тут, на ўслончыку, сядзелі дзве старэйшыя сялянкі з пасылкамі на каленях; трэцяя, маладзейшая, стаяла з імі побач і трымала ў руцэ ліст.

Паштовыя акенцы былі зачынены, ніводнага паштавіка яшчэ не было.

Лявон аддаў «дзень добры» і таксама прыхінуўся ля сценкі збоку.

Зараз за дзвярыма на гадзінніку прабіла палова дзявятае...

— Мае цётачкі, калі ж гэта прыймо пачнецца? — нахінулася маладзіца з лістом да тых з пасылкамі.

— А не нам ведаць, калі панічкі прыйдуць,— цярпліва адказала адна, і зноў увесь пакой доўга маўчаў.

Уголас гаварылі яны па-беларуску, а ціханька шапталіся, як відаць, па-літоўску.

Хвілін цераз дзесяць-пятнаццаць паказаўся малады чалавек з чорненькімі прылізанымі вусікамі. Ён адамкнуў дзверы, увайшоў у канцылярыю і зараз адчыніў акенца.

Усе ўзняліся. Ён сеў там за стол з паперамі і сказаў гусценькім, сыценькім, ужо троху панскім голасам:

— Гаспада, прашу!

Ніякіх гаспадоў тут не было, надышло толькі яшчэ некалькі сялян і бедных яўрэяў, першая прысунулася да акенца маладзіца з лістом.

— Панічок, напішыце вы мне адрэс,— ціхенька і ласкава прамовіла яна і памкнулася пакласці ліст на акенца. Але паштавік крутнуўся ўбок.

— Я не абязан пісаць вам адраса!

Яна ніякава адышла назад.

Тады пачалі здаваць свае пасылкі тыя старыя цёткі.

Лявон чакаў і паглядаў... «Мусіць, ты і будзеш Стасюткін муж»,— з нянавісцю думаў ён пра гэтага чыноўнічка. Калі прыйшла да яго чарга, ён паклаў перад прылізанымі вусікамі свае лісты (хацеў паслаць іх забяспечанымі) і сказаў:

— Дайце мне асадку, я напішу адрас гэтай жанчыне.

Але якраз, як ён сказаў, увайшоў другі чыноўнік, і хтосьці ў пачакальні пачціва і прыглушана азнаёміў: «Сам начальнік...»

Гэта быў даволі высокі чорнабароды чалавек з злым, але боязкім поглядам.

Ён пачуў Лявонавы словы і, ідучы, сказаў сварлівым голасам, чыста па-расійску і з петутэйшаю, асабліваю вымоваю:

— Нікакіх там ручак не даватьǃ.. Была паложапа, стянулі, пу так пушчай тіперь пішут пальцам...

Лявон пачырванеў, але змоўчыў.

Зараз следам за паштмейстарам, калі ён сеў і пачаў вымаць з стала паперы, увайшла чорненькая, курносенькая паненка, а за ёю чысценькі студэнцік, вельмі падобны да таго, з якім паспрачаўся Лявон на вакзале, калі ехаў з школы на працу.

— Ізвініце! — далікатна, але грэбліва сказала паненка за Лявонаваю спіною і разам з студэнцікам увайшла ў канцылярыю.— Ці няможна паслаць грошы? — зусім іншым, прыяцельскім і какетліва-жартлівым тонам звярнулася яна да паштмейстара.— Дзень добры, пане начальнік!

— Ваш пакорны слуга! — адказаў паштмейстар, расшаркаўся, патрос ёй і студэнту ручкі і падставіў крэсла. Зараз у іх палілася мілая, вясёлая гутарка.

Тым часам паштавік з чорненькімі вусікамі спярша

ўстаў і раскланяўся з імі з-за стала, потым напісаў, што трэба для забяспечаных Лявонавых лістоў, і панёс квітанцыйную кнігу, мусіць, на подпіс, начальніку. І там яшчэ раз раскланяўся і прывітаўся за ручку.

Лявон цярпліва чакаў квітанцыі, але паштмейстар ўсё быў заняты размоваю і прыманнем ад паненкі грошай.

Тады ён адышоў ад акенца і сеў на ўслончык.

На сэрцы ж у яго кіпела, і мімаволі складваліся словы і сказы таго, што захацелася напісаць аб пошце ў друк. Рэдакцыі мяняліся, ахвота скрытыкаваць паштавікоў у газеце то раптам прападала, то зноў пякла яму сэрца.

Потым ізноў падышоў...

— Яны гамоняць і гамоняць,— студэнцік рохкае, паненка — чорны жучок — ад подсвісту аж захлібаецца, начальнік ківае барадатаю галавою і часам злёгку падрагатвае, аж паштавік, што ля акенца, і той, як свой да сваіх, галаву назад закруціць і ўхмыляецца моўчкі.

— Дайце квітанцыю! — нядобрым голасам сказаў Лявон, прасунуўшы ў акенца галаву.

Усе азірнуліся...

Паштмейстар нешта напісаў, паглядзеў у кнігу, устаў і падышоў да самага акенца. Ён падкаціў злосныя вочы, кінуў Лявону квітанцыю і гыркнуў:

— Ты не нахальнічай, хлапец. У міня гатовых квітанцый нет...

На Лявона яшчэ раз усе азірнуліся, і ён з замлелым ад крыўды і гневу сэрцам сеў ізноў на ўслончык, гледзячы і нікога не бачачы.

«Што я ў сялянскім жупанку, дык ты смела мяне зневажаеш...— слаба, вінавата, быццам шукаючы да сябе спагады і жалю, падумаў ён.— А як ты даведаешся, што я ж каморнік, дык табе будзе сорамна... А селяніна табе можна зневажаць... Пачакай жа...» — быццам пагражаў ён, але сам ведаў, што нічога ён не зробіць гэтаму паштмейстару; і было сорамна і брыдка, што наляцеў-ткі на скандал. І ўсё сядзеў і сядзеў, як прыкуты, і не мог скрануцца з месца.

Прабіла дзесяць гадзін.

— Гаспада, пошта закрыта,— сказаў паштавік з чорненькімі вусікамі і зачыніў абодва акенцы.

Людзі разыходзіліся.

Пайшла паненка з студэнтам.

Вось выйшаў і чорненькі прылізаны паштавічок у пальцечку нараспашку, кінуў здзіўленым вокам на Лявона, што

адзін застаўся ў прымальні, і выскачыў на вуліцу. «Мусіць, спяшаецца ў касцёл або на шпацыр»,— няўважна, між іншым падумаў Лявон і ўсё сядзеў, быццам прырос да гэтага ўслончыка ў прымальні.

Вось урэшце і паштмейстар хлопнуў дзвярмі з канцылярскага пакою, пачаў замыкаць іх, але яшчэ не замкнуўшы, азірнуўся і ўбачыў Лявона.

— Ты пачаму не ўходзіш? — падазрона і груба спытаўся ён у гэтага дзёрзкага вясковага хлапца, якім паказаўся яму Лявон.

— А во чаму...— зменены́м, сіпатым голасам, ціха адказаў Лявон, узняўся з месца і як у тумане, але цвёрда і лёгка падыходзіў да самае чорнае барады. І сам не ведаў, як і чаму рука мімаволі мятнулася, пальцы ў момант скла́ліся, і ён пстрыкнуў паштмейстара па носе.

Той збялеў, распасцёр рукі, потым крутнуўся назад, за дзверы, ляпнуў імі і тады ўжо, адтуль, крыкнуў з болем і небяспекаю:

— Што вам тут трэба?

А Лявон, атупеўшы, не ведаў, што далей рабіць, узяў і пайшоў за парог, на вольнае паветра.

Ніхто не даганяў яго.

«А во чаму...—шаптаў Лявон,— і во чаму...» — сціскаў кулак, успамінаючы, і шпарка ішоў сярод людзей ля крамак, дзе ад торгу быў ужо немалы гук і пыл...

### 3. ПАВАРОТ

Мой любы таварышу.

За ўвесь час атрымаў усяго два тваіх лісты: адзін у вёсцы Радзівілішках, дзе я быў на працы, і адзін тут, у Вільні, бо яшчэ не паспелі пераслаць мне яго з губернскае каморніцкае канцылярыі.

Ты пішаш, што не разумееш майго настрою. Ты навучаеш мяне быць моцным і патужным у жыцці. Ты ганіш мяне і кажаш, што ныццём і хныканнем мы ніколі не возьмем жыцця ў свае рукі.

Што ж, ахвотна згаджаюся з табою і ахвотна сам навучаў бы каго-небудзь так, як ты навучаеш мяне... А тым часам — вось я ўжо ізноў у Вільні, працу кінуў і заўтра ўвечары еду дамоў, у сваё роднае Цёмналессе. Нічога не разумееш? Я і сам нічога не разумею...

Апошні ліст я пісаў табе тыдні два таму назад. На другі пасля таго дзень я хадзіў у мястэчка на пошту і там на-

скандаліў, як самы апошні блазень. Я пасварыўся з паштавіком і, не стрымаўшыся, пстрыкнуў яму лёгенька па носе. Нікога пры гэтым не было, паштавік, відаць, нікому не пахваліўся, ды ён і не ведаў, хто я такі, дык ніякіх вынікаў скандал гэты для мяне не меў. Нікому, нават свайму патрону, я таксама аб гэтай брыдкай гісторыі нічога не сказаў — не хапіла духу, дый нашто? У моманты найбольшай слабасці з'яўляўся быў намер напісаць пакрыўджанаму ліст з просьбаю аб прабачэнні... Але не пісаў і толькі мучыўся: нашто было гэтак рабіць? Нашто зняважыў чалавечка? Што я гэтым каму давёў, што я гэтым палепшыў? Паказаў толькі сваю азіяцкую натуру і некультурнасць... Такія разважанні не давалі мне супакою. І мне страшэнна захацелася выехаць адтуль, уцячы хоць на край света, абы толькі ў іншае месца.

Землеўпарадкаванне, якое мы рабілі, абрыдла мне да смерці. Абрыдлі мне гэтыя няшчасныя жмогусы, абрыд мне мой патрон-каморнік, а галоўнае — я абрыд на гэтай працы самому сабе.

І я кінуў працу. Так, братка, кінуў і ўцёк...

Калі я выязджаў, патрон мой так расчуліўся, што абляпіў мяне ў сваіх абоймах і пусціў слязу. Чорт ведае, якая сентыментальнасць у такога старога каня і такога апошняга цыніка! Прасіў мяне пісаць яму аб сабе, дзе і што буду рабіць далей, і, калі што, ізноў прыязджаць да яго на працу. Пацешыў нават, што, скончыўшы працу тут, ён пераязджае ў беларускую шляхецкую ваколіцу, дык там, казаў, будзе мне прыемна і цікава.

Але даруй, братка. Калі садзіўся пісаць табе, дык думаў, што знайду ў пісанні салодкасць і напішу табе шмат і аб усім... А вось раптам страціў ахвоту пісаць. Дык на гэтым і канчаю.

Увечары пайду на беларускую вечарынку, аб якой выпадкова даведаўся, зайшоўшы ў кнігарню купіць кніжак.

Цікава — што я там убачу.

Заўтра, калі буду мець настрой, апішу табе ўсё падрабязна.

Жыві, братка, працуй, вучыся і будзь вясёлы, каб не давялося калі каму навучаць цябе так, як ты навучаеш цяпер мяне... Бывай! *Твой «слабы» Лявон...*

* * *

Было ўжо пасля дзевятай, калі ўзбіраўся ён па цесненькіх усходцах у Беларускі клуб.

«Цікава, што я тут убачу»,— з якойсьці салодкаю трывогаю шаптаў сабе самому і сябе самога ўмаўляў не разлічаць на штосьці асаблівае.

«Што ж, беларусы — народ бедны, свядомых людзей — жменя, дык вядома, адкуль жа будзе ў іх багаты клуб? Хоць надта ўжо чамусьці бедны выбралі закутак і нават не змялі смяццё на сходах».

«Цяпер — лета, людзі ў раз'ездзе, можа, нікога з выдатных і не ўбачу, але ўсё можа быць — і вось, на маё шчасце, будзе тут Купала, Колас ці яшчэ хто з паэтаў ці з рэдакцыі «Нашае нівы» — пагляджу хаця на іх, паслухаю хаця як збоку, як яны гавораць...»

Так думаў ён — і здзівіўся, што дзверы ў клубе зачынены і нікога пры іх няма, ніхто ні ўпушчае, ні выпушчае, Што такое? Можа, трапіў не туды? Але ж адрас быў дадзены такі, і вось вісіць яшчэ кавалак здзёртае паперыны, і на цьмяным святле маленькай электрычнай лямпачкі таксяк можна было прачытаць пісанае па-беларуску.

Прыслухаўся — за дзвярамі тупат, скачуць.... Іграюць на раялі і на скрыпцы.

Ціханька піхнуў рукою дзверы — адчынена... Не ведаў, ці ўвайсці, і заўважыў беленькую пупку электрычнага званка. Узняў руку, каб пазваніць, і тады заўважыў, што дрот ад пупкі даўным-даўно ад'ехаў далёка ўбок і баўтаецца аддзёртым і загнутым запыленым і брудным кончыкам.

«Ну і парадачкі ж у вас, браты мае беларусы!» — падумаў з нялюбасцю і піхнуў дзверы і паглядзеў, ці ёсць там хто жывы.

У бедным пакойчыку, з правага боку, стаяла раскірэчаная вешалка, і на ёй вісела колькі польтаў, а згары, на пыльнай, пэўна, дошцы ляжалі шапкі і капелюшы; у кутку, з левага боку, сядзеў за голым столікам хлапчук і трымаў у руках каранькoвую білетную кніжачку.

— Пятнаццаць капеек з вас,— сказаў ён Лявону.

— За што? — спытаўся Лявон.

— Што вы, не ведаеце, за што? За ўваход...— адказаў хлапчук, нібы баяўся, каб гэты новы чалавек не скруціў яму пятнаццаці капеек і не прайшоў у залу так.

Лявон заплаціў і, распранаючыся, спытаўся:

— Ці ёсць тут сёння хто з беларускіх пісьменнікаў?

Хлапчук падумаў,— як відаць, не зусім добра зразумеў,— і сам спытаўся:

— А хто яны? Якіх вам трэба?

— Купала ёсць?

— Не ведаю... Мяне пасадзіў тут дзядзька Булгак. Калі вам трэба, ён зараз выйдзе, я паклічу...

— Не, не трэба...

Лявон увайшоў у другі пакой. Тут было пуставата, стаяла колькі бедных крэслаў, а ля дзвярэй у залу прыхінулася колькі маладых хлапцоў. Яны курылі і глядзелі ў залу, а дым пушчалі, адвярнуўшыся назад, у гэты пусты пакой.

Лявон падышоў да іх і пачуў, што гавораць яны па-расійску. «Вось табе і спатканне з беларусамі»,— падумаў ён.

У невялічкай зале хлопцы і дзяўчаты танцавалі вальс. За раялем сядзела якаясь пані, а пры ёй на скрыпку рэзаў малады музыка, як відаць, вучань з якой-небудзь школы ці студэнт.

Танцавалі бурна і вясёла. Усіх вадзіў за сабою сухашчавы белабрысы чалавек, яшчэ даволі малады, як і ўсе тут, але ўжо з лысінкаю. Ён быў франт у кургузым пінжачку і пры манішцы. Зрабіўшы салодкі твар і топнуўшы нагою, ён крычаў: «Агош!» ці «Адруа!» — і цягнуў сваіх слухмяных скакуноў то направа, то налева.

Нарэшце, усе фігуры былі скончаны, людзі прытаміліся, і раяль і скрыпка сціхлі. Усе загаманілі, і хто садзіўся, абціраючы пот, хто ішоў у сумежны пакой і на балкончык.

Міма Лявона праходзілі дзяўчаты ў нейкіх асаблівых касцюмах і гаварылі па-польску.

Лявон адышоўся ў куток. Тут стаяў адзін хлопец, з выгляду чалавек просты, і Лявон спытаўся ў яго:

— У якіх гэта касцюмах некаторыя дзяўчаты?

— А вы, мусіць, першы раз тут? — адазваўся хлопец па-беларуску.— Гэта беларускія касцюмы.

— Ніколі б не падумаў, што беларускія,— здзівіўся Лявон.— У нас, у Магілеўшчыне, дзяўчаты зусім не так прыбіраюцца...

— Ну, дык якая там у вас Беларусь! [...] Там чыстых беларусаў ужо няма.

— А чаму гэтыя паненкі гавораць па-польску, калі яны ў вас тут такія чыстыя беларускі? — мімаволі заўважыў Лявон.

— Якія там яны беларускі! — зусім спакойна гаварыў хлопец.— Ходзяць сюды паскакаць.

— А хлопцы-беларусы ёсць? — спытаўся Лявон.

— Пара чалавек ёсць... Вось гэтыя, што каля дзвярэй, беларусы.

— Гэтыя? Дык яны ж, я чуў, гавораць, здаецца, па-расійску?

— От, троху па-расійску, троху па-беларуску. Тут усе гэтак.

— А з «Нашае нівы» тут хто-небудзь ёсць? — спытаўся Лявон.

— Не, яны сюды заходзяць рэдка. Але калі вы так цікавіцеся — паглядзіце: вунь беларускі паэта, дзядзька Булгак...

І ён паказаў Лявону на таго белабрысага дырыжора.

— Нешта я не чуў пра такога,— сказаў Лявон.

— Ён піша пад псеўданімам Трахім Сталёвы. Нішто сабе піша вершыкі...

— Дык гэта Трахім Сталёвы! — успомніў Лявон пару вершыкаў, падпісаных гэтым імем, і сам сабе падумаў: «Ну і сталёвы!»

— Яго, бачыце, у «Нашай ніве» заціраюць, дык ён піша больш у расійскія і ў польскія газеты.

— Відаць...— прамармытаў Лявон і змоўк у мімавольнай цяжкой задуме.

Ізноў пачаліся скокі, ізноў салодка крычаў Трахім Сталёвы свае «агош» і «адруа», ізноў тая ці іншая паненка зрэдку казала якое-небудзь беларускае слова з асаблівым, дзеля жарту, націсканнем.

Лявон выйшаў на балкончык і сумаваў там адзін, часам мімаволі шэпчучы сам сабе: «І гэта наш культурны асяродак!.. Той наш асяродак, аб якім мы так марылі ў сваёй глухой школе, у сваім глухім беларускім кутку!.. Дзе ж яна тут тая «агромністая грамада», дзе ж яна тут тая свядомая моладзь, дзе ж яны тут тыя правадыры?»

Роспач агарнула яго. Яму цяпер здавалася, што беларускае адраджэнне не мае пад сабою ніякага грунту, што ў «Нашай ніве» сядзяць сляпыя людзі, адарваныя ад жыцця, што нічога з гэтае беларускае мовы не будзе і быць не можа...

Ізноў прыйшоў у залу. Папураны, пазіраючы з-падлоб'я, стаяў у кутку і глядзеў, як скачуць вясёлыя людзі, гэтыя зусім яму чужыя людзі...

«Мусіць, гэта самы цяжкі вечар у маім жыцці»,— падумаў ён, і аж на сэрцы зрабілася сцюдзёна ад страшнага цяжару. Страціўшы ўсякую ахвоту жыць, механічна завярнуўся ён і пайшоў напранацца.

А следам у дзверы ляцела вясёлая музыка і дружны тупат скакуноў.

* * *

Наўкола і скрозь быў сон, нават коні самых позных рознікаў ужо не пляскалі на вуліцы па каменні, і вельмі расслабела жаўтавае святло ад сумнага ліхтара, што стаяў у нізе на рагу вуліцы. У пакоі было ціха і цёмна, як і ва ўсім гатэлі.

Лявон ляжаў і думаў і не мог заснуць; толькі ўсё глыбей і глыбей пагружаўся ў тую прыемна-хваравітую млявасць, што бывае між сонным і не сонным станам, але ніяк не мог заснуць і толькі мучыў сябе тым ляжаннем і думаннем.

Першая скрыпка ў акампанеменце раяля ўсё яшчэ плакала і лямантавала, безупынна апавядаючы невядомую тугу. І яна варушыла ў думках тое балючае ці проста прыкрае, на што хацелася забыцца, каб заснуць.

То раптам падскаквала і гікала яна, быццам уцяміўшы ўсё, што ёсць, і быццам захмялеўшы ад радасці жыцця, але сапраўды толькі вястуючы яшчэ большае расчараванне і сабе і ўсяму, што ёсць.

І таго ж часу ізноў, скрозь прыхаваныя слёзы, цішэй ад нясілы і няздольнасці, жалілася хто ведае дзе-якому жалосніку: о-ё-ё... о-ё-ё... о-ё-ё...

Гэта быў той самы вальс, размераны і плаўны, толькі ўспрымаўся ён ужо іначай: з лёгкаю датклівасцю, такою блізкаю да безнадзейнасці, калі сэрца на момант смяротна сціснецца і адпусціцца, каб ізноў, можа, яшчэ страшней, сціснуцца.

Цяпер, троху абдумаўшыся, як паляжаў адзін у ціхім пакоі, у сонным гатэлі, ён мімаволі шкадаваў, што выйшаў з вечарыны, добра не прыгледзеўшыся, не пагаварыўшы, не пазнаёміўшыся, і толькі папсаваў сабе настрой. Тады варушылася злосць.

«Чаго я туды ішоў? Чаму я не паехаў сёння?» — думалася часам, і не ведаў, спіць ён гэта ці не спіць, і ніяк не мог супакоіцца і заснуць добра.

* * *

Ён заснуў, калі ўжо светла было за акном, і спаў да паўдня. Прачнуўшыся, не хацеў уставаць, не хацеў нікуды ісці, не хацеў нічога рабіць.

Ляжаў — як хворы. Браўся пісаць ліст, і не мог. Узяўся чытаць, і не чыталася.

Марудна ўстаўшы, пайшоў абедаць і трапіў у нейкую брудненькую страўню, дзе над буфетам вісеў вялікі абраз «маткі боскай астрабрамскай», а за касаю стаяў тоўсты, тлусты, з нахабна-ліслівым выразам гаспадар. Падавала бедная дзяўчына, што была, як відаць, яшчэ нядаўна ў горадзе, і ёй цяжка было гаварыць па-польску і яшчэ цяжэй па-расійску. Яна ўсяго баялася, і падаваць на стол было ёй вялікаю пакутаю.

Не мог есці, пайшоў пасядзець у скверы і не мог дачакацца вечару, каб ужо ехаць...



З абодвух бакоў каменнай гарадской вуліцы, па тратуарах, міма бліскучых, ззяючых акон і шкляных дзвярэй у вялізарных крамах, адтуль і туды, мітусілася, варушылася чорная хваля людзей у чорных вопратках, брылях, капелюшах, шапках, шапачках, картузах, хустках. Пасярод грукаталі па каменню няўломныя ламавозы з вялікімі вазамі гломазду, усялякіх кулёў, скрынак і нейкага жалеззя. Борзда чахалі і ляскалі падковамі, аж агнявыя іскрачкі сыпаліся з-пад іх, беглі коні лёгкіх вознікаў, што вязлі паноў, мужчын і жанчын, у сваіх зручных экіпажах. Званіла, гудзела і пнулася гулам сваім у вушы конка. Ад вакзала ляцелі сюды гудкі машын, крычалі над горадам у змроку на розныя галасы: груба, сіпата, каротка, адарвана і тонка, звонка, з працягам. Канаючыя гукі разам з няроўным, па момант, блісканнем святла ў вялікіх, высокіх ліхтарах над вуліцаю, у хвілінку, калі раптам з'яўляўся і выў знекуль згары сцюдзёны, ужо троху восенны вецер,— выгукалі ў сэрцы невядомую трывогу, незразумелы клопат, чуццё адзіноты і засмучэння.

«Няхай жа астатні раз падзівуюся на сумяціцу»,— прашаптаў Лявон і не хапаўся, спакваля ішоў сярод бясконцае людское чарады, троху замінаючы каму сваім партпледзікам з коўдрачкаю і падушачкаю (кошык свой ён здаў на схаванне на станцыі, калі прыехаў з вёскі, і ў гатэль яго зусім не браў).

Прыбраныя прыгожа і не дужа прыгожа людзі, здаецца,— вясёлыя, а то і смутныя, а найболей раўнаважныя, людзі беглі-спяшаліся, быццам на далёкі, чужы пажар. І відаць было Лявону па іх вачах і па ўсім твары, па

нейкай грэблівасці і нездаволенасці, відаць было, што немалая частка гэтых афіцэраў у бліскучых гузіках, з звіпячымі банькамі на ботах і шаблямі пры баку, і немалая частка гэтых паненак з белымі, чырвонымі шчочкамі і з такімі люба-прынаднымі вочкамі, што аж не ймецца веры, ці ўсё тут без фальшу,— відаць было, што немалая частка гэтых людзей, на погляд такіх паважных,— толькі гуляюць у спрадвечную, раз зачатую камедыю, і яшчэ не ведаюць добра, ці варта гэтак бегчы, бо пуста ў душы, бо не сапраўдны смех, а толькі так, дзеля гадзіся.

На рагу Вакзальнай вуліцы гудкі былі яшчэ дужэйшыя. Яны зліваліся ў адным агульным, шырокім, ды рэдкім канцэрце з ражкамі стрэлачнікаў і часам сеялі ненадзейную, кароценькую бадзёрасць. На тратуарах тут не было той панскай куламесы, а раз у раз імчаліся экіпажы з людзьмі і падарожнымі скрынкамі і пакункамі — ад вакзала і на вакзал. Абапал вуліцы цягнуліся прысады старых ліпін. Вецем сваім абхінулі яны вуліцу з нясветлымі ліхтарамі. Ужо сыпалася лісце. Тужліва шумелі дрэвы, сцёбалі галінку аб галінку і ранялі на вуліцу першы пажоўклы ліст. Здаецца, яны слухалі воддальны шум і ўзіраліся ў адзінокія фігуры, хаця ім, дрэвам, усё роўна.

— Мэм... мэм... мэм... Джушшу!..— шпарка каціўся аўтамабіль з вясёлаю кампаніяй.

— Сляпо-о-ому, убо-о-огаму, пано-о-очкі даражэ-энькія! — цягнуў ля сценкі адным вагам старац у чорным падраным паліце, з кіем у руках і з насунутаю на вочы кепкаю. І выстаўляў перад сабою пакамечаную і запэцканую паперку, што сведчыла аб яго слепаце і ўбогасці. Даволі рэдка траплялася, што кідалі яму ў бляшаную пушачку грошык, не прыстоіўшы, як мае быць, і не зірнуўшы ў той бок. І праміналі. Сляпун заўчона стагнаў і стагнаў, канькаў і канькаў. Можа, і не думаў аб тых, што беглі міма, хто яны: старыя ці маладыя, мужчыны ці жанчыны, ці далікатная генеральская дачушка, што магла б і залатоўку кінуць, ці разубраная і прычапураная агульная палюбоўніца, што дарыла дзеду мядзяную манетку, долю з запрацаваных ёю грошай. Старцу было цёмна і цёмна. Прад ваччу выплывала і стаяла чорная сцяна з серабранымі іскаркамі, што сыпаліся з вечнае цямноты. Роіліся і роіліся абразы мінуўшчыны, у якой быў дзед з вачмі і не вызначаўся так сваёю ўбогасцю з агульнае людское гушчы. А ўжо зрабіўся і глухаваты, звінела ўвушшу, і па хадні не ўгадваў, хто абмінаў яго з той гушчы.

Ліпы шумелі, бо ўверсе гуляў вецер.

Лявон сеў на лавачку, ля шырокага тратуару, з таго боку вуліцы, дзе ліпы сядзелі густа і дзе мала хто хадзіў. Вочы зморана плюшчыліся. Павекі былі цяжкія і зліпаліся. Няясныя думкі, навейшыя, плетухаліся сярод даўно думанага і знаёмага, як нешта цьмянае на сумным полі, у чорны і непагодны восеньскі вечар.

«З гарадскога віру — у родную хату,— каторы раз было ў галаве.— Навошта? І што гэта мне?» — паўставала нешта на душы, ды цяпер Лявон не меў цярплівасці меркаваць аб тым; хацеў аднаго: доўга-доўга сядзець пад тымі вялізнымі старымі ліпамі, у ціхаце, без тлуму.

Павеяў ветрык і строс з суччча за каўнер некалькі дробных капачак, як бы расы. І непрыемна і потым прыемна разам. «Калі ісці пасля дажджу па мяжы, сярод буйнага жыта, дык таксама пырскае вада на твар, прыемна і вясёла ад яе»,— уздумаў Лявон, шчыльней заплюшчыў вочы і перакінуўся на сваё поле. «Уранні раса, ядрана, сонца яснае, а ўжо не цёплае, як з пачатку лета... Бабы жнуць авёс. Так спакойна ўсё. На пажатым, на ўзгорачку, хлопчыкі пусцілі пасвіць коні, а самі, блытаючыся ў аброцях, пачалі дужацца. Дзядзька з касою на плячы ідзе дакошваць балота. Сліўкі паспелі, аж чарнеюцца, зліўшыся на суках; а бялосліўкі, такія празрыста-ружовыя на сонцы, вісяць спакусліва, трэба сашчыпнуць іх і паспытаць, смакуючы...» І Лявону салодка ў роце, як тады, на Івана Галаварэза, калі хадзіў з маткаю да цёткі ў госці і еў там мёд з яблыкамі і незвычайна смачныя, буйныя і прыгожыя бялосліўкі. «Жніво... Досвіткамі малоцяць. Цапы: тра-та-та! тра-та-та! За гаем, у шляхты, гудзіць малатарня, гудзіць і дрыжыць...» Вось і тут Лявон — сярод гуку, але гарадскога, дурнога, з начавым смехам і начавымі слязьмі нервовых дзяўчат і хваравітых хлапцоў, з млоснасцю пад лыжачкаю і заўсёдным чадам у галаве. Адно што — ён у гэтым гуку быў заўсёды чужы і самотны.

— Дзынг! дзынг! дзынг!..— дробна рынуўся ў вушы вакзальны званок. І не хочучы ні сядзець, ні хадзіць, устаў Лявон з лавачкі і пасунуўся паціху на вакзал.

Даўжэнны рад вознікаў, з markрознаю гутаркаю, спакойнаю, моцнаю і шумна-сумятліваю, стаяў усцяж ля ганку. Коні тупалі, доргалі, бразгаталі. Збоку быў гоман: у будках, за сталамі з кілбасою, хлебам, яблыкамі, цукеркамі, папяросамі і ўсякім дробным таварам сядзелі, як куры,

мяшчанкі. Назбой гукалі і запрашалі яны да свайго гандлю мімаходжых, сварыліся паміжсобку гостра і звягліва, але сапраўды толькі язычліва, але не злосна. І гэтых бедных будачак было без концу. У канцавой будачцы сядзеў аднарукі дзед і старанна тлумачыў бязвусаму, гостранькаму, з птушыным носікам маленькаму салдаціку, што ў суседкі дзедавай яблыкі гнілыя і горкія, а ў яго добрыя і на капейку дзешавейшыя. Салдацік той, аднак жа, зараз завярнуўся і пайшоў, нічога не купіўшы ні ў той суседкі, ні ў бязрукага дзеда. І суседка, грубая і з грубым голасам баба-мяшчанка, пасміхалася дзеду.

З дзвярэй вакзальнага будынку даходзіў гул і гоман. Шмыхарылі газетнікі, бегалі нашэльнікі, а ў парозе, дзве здаў Лявон на схвы кошык, цэлая банда розных людзей, з надпісамі гатэляў на залатых абручах чырвоных шапак, крычала падарожным назвы тых сваіх гатэляў на ўсялякія галасы і з усялякімі падходамі, толькі ўсе аднолькава аглушаючы. І рабілі дзікае выццё. А падарожныя асцярожна абміналі іх. У багажнай каморы з скрыпам і грукатам працавала падымальная машына. У чысцейшым куце пахаджвалі аж прыбіральні да буфету, і назад, і далей, паны. Тут былі паненкі, хлопчыкі ў форме, грубы пан з аграмадным сабакам на ланцузе, нейкія пані. Да акенца ў касу трэцяга класа, воддаль з другога боку, цягнуўся доўгі хвост, дэмакратычна-мізэрны. Абмінуўшы яго, Лявон выйшаў у трэці клас, адкуль ірваўся гук, шумны гоман, падобны да салдацкага спірання ці да сваркі, плыў важкі пах, смурод і холад з адчыненых дзвярэй. На лавах і на запэцканай падлозе, на скрынях, пакунках, кашолках, па ўсіх кутах ляжалі, быццам абшарпаныя, шэрыя, калматыя, часам п'яныя і нейкія хваравіта-бяссонныя людзі: сяляне з барадамі і без барод, а з вусамі, як шчотка; салдаты, майстры з інструментамі ў торбах. Там буйны, рослы здаравяка-жандар хадзіў і скаліў зубы і саромна жартаваў з маладзіцамі, а потым яшчэ з нейкім п'янюгам ля кучкі салдатаў і двюх расхрыстаных дзевак ці баб у гарадской адзежы. У хвасце ля акенца ішла спрэчка і тузганіна.

— Ты па-польску кгаварыш! Ты — рускі воін, а! Какой ты воін, хаціш ты знаць?..— гэтак распінаўся гарбаты, мусіць, выпіўшы, чалавек, надзеты па-гарадскому і ў картузе, абшытым па-маскоўску, і лез на салдата, што гаманіў з маладзенькаю дзяўчынкаю па-польску і энергічна не дазволіў гарбатаму падысці без чаргі.

— А што каму да таго, як я гаманю?.. Марш у хвост! — ціха, але цвёрда і ў злосці агрызнуўся салдат.

— Кгаспадзін жандар! Кгаспадзін жандар!

Узяўшы білет і здаўшы кошык, Лявон пайшоў да кніжнага кіёску. Там было шмат усякіх кніжак, часопісаў і газет, але беларускага нічога не было. На ўсякі выпадак ён спытаўся ў папенкі, што прадавала, ці няма «Нашае нівы». Яна паглядзела на яго, сагнулася пад столік, пакапалася там і выцягнула некалькі даўных, выпушчаных месяц і болей таму назад, запыленых згары нумароў «Нашае нівы». І калі ён забраў іх усе і расплачваўся, яна ўсміхнулася і сказала ці то з высмешкаю, ці то спагадна, сказала па-беларуску: «Дзякуй»... І ён паглядзеў на яе і ўсміхнуўся горка, не могучы зрабіць свой твар звычайным і весялейшым. Але яна ўжо занялася з другімі.

Пачуўся шум, зазваніў званок, а потым раптам моцна запыхцеў, засіпеў магутны цягнік. Вакзальны паслугач, у вышываным жоўтымі стужкамі жупане, вагам адбіваў нагамі такт сярод публікі, з канца ў канец, і вугнава пяяў:

— Пе-е-ершы звано-о-ок... Менск, Барысаў, Во-о-орша!..

Лявон пайшоў на платформу. «З гарадскога віру — у родную хату»,— ізноў пачуў усёю сваёю істотаю, і з цяжкім і тужлівым нечым у сэрцы ўзняўся на прыступачкі ў свой вагон.

Калі цягнік пайшоў, ён лёг на лаву, але яму не спалася. Рытмічна, бесперастанку колы грукалі і калыхалі. Ляжаў заплюснуўшы вочы і не бажаў нічога. Горад застаўся адзаду. Не звоніць у вушах яго тлум, яго шум. І лепей.

Цягнік сярод прахалодлівай начной цямноты грукатаў і грукатаў, сыплючы іскаркамі і пускаючы дым, ляцеў і ляцеў. Наўкол жа быў сон прыроды, што адпачывала пасля пагоднага дня.

## 4. ПРЫЕХАЎ

Сам ён прыехаў, а багаж яго яшчэ не прыйшоў. «Мусіць, па перасядцы забавіўся»,— сказалі яму зусім нядбайна ў багажнай каморы.

Што ж, трэба чакаць, пакуль прыйдзе другі цягнік з таго боку. Гэта шмат часу, дык затое можна, хоць і ў нудзе, пахадзіць па станцыі, паглядзець, падумаць і супакоіць занадта руплівыя нервы... Ну або яшчэ болей ускалатнуць іх.

* * *

Станцыя, як і ўся чыгунка, выглядае ў нашым краі кавалкам нейкага чужога краю, толькі троху-троху звязанага з намі праз службу і работу ў яго панстве нашых простых людзей: счэпнікаў, стрэлачнікаў, нашэльнікаў або хоць падзённікаў і падзённіц, што ходзяць правіць палатно дарогі.

Станцыя ў нашым краі — маленькае акенца з нейкага другога, святлейшага і багацейшага жыцця.

І на станцыю, як на акно мухі, паўзлі сяляне, калі ім дужа дакучалі свае ўбогія хаты, а працы пільнае не было.

Яны ішлі падзівіцца на вагоны міжнароднага таварыства, збудаваныя водле апошніх дасягненняў тэхнікі. Яны ішлі пагледзець на шчаслівых людзей, што ўсё некуды едуць і заўсёды маюць грошы на білет і на смачную яду і выпіўку ў буфеце.

А стоячы і пазіраючы, як жабракі ў парозе, гаманілі яны аб гэтым панскім і машынным свеце то з наўмысным, няшчырым захапленнем, то з беспрычыннаю, здаецца, і вельмі злою лаянкаю.

І калі ўжо цягнік раўкне, пойдзе і схаваецца далёка, любілі яны часам, у форме прыгожага слоўнага адступлення, паздзекавацца з убогасці свайго роднага свету. А потым, калі было свята і было за што, любілі яны выпіць, каб весялей было цягнуцца назад туды, дзе тэхніка і ўсё жыццё не варта ані пса...

Станцыйка тая — маленькая, нячыстая і п'яная станцыйка. Калі гасцей шмат, абдасць яна вас цяжкім духам, мужыцкім гамам і прастуднаю праймаю ад няшчыльных дзвярэй.

У куце ў ёй — вялікі і бліскучы, як у царкве, абраз, і кожную суботу ўвечары прыязджаў сюды поп з бліжэйшага сяла, правіў набажэнства, гарэлі бедныя жоўтыя і мажнейшыя белыя свечкі, а ў нядзелю на лавах і ля лаў і проста на падлозе валяліся п'яныя людзі, мужчыны, а часам і жанчыны, у брудных і калматых вопратках. І было там у той час таму, хто не выпіўшы, дужа цяжка і паскудна.

Ля буфету людзі ў чорным пілі піва і закусвалі з талерачкі і з відэльцам. Зрэдку падходзілі туды і мужыкі. Зрэдку — бо тут дарага, лепей напіцца з манапалькі, дзе-небудзь за ражком глухога будынку, а сюды прыйсці і глядзець. І калі яны пілі ў буфеце колькі чарак гарэлкі, дык нічым не заядалі. Тады стаяў хрыпаты і сіпаты го-

ман, п'яны тлум. Круцілася буфетніца і, прыкідаючыся, бедавала, перад людзьмі, што ў чорным, што ніякім чынам не можа яна ўпільнаваць, каб мужыкі чаго з-пад рук не ўкралі. Але кралі ў яе вельмі рэдка і невядома якія людзі.

Так заўсёды і жыла тут сумная затуканасць і крыклівая пустота, а за імі следам ішло троху схаванае, але няўхільнае псаванне нерваў.

* * *

Было ўжо пасля паўдня, калі прыйшоў другі цягнік, і яму выдалі багаж — невялікі кошык, не ўзяты з сабою ў вагон толькі дзеля ідэалістычнага погляду на справы і малога ведання розных магчымасцей у дарозе.

У зале 1-га і 2-га класа было ўжо пуста. Паглядзеўшыся ў пыльнае люстра на сцяне, Лявон з нялюбасцю адхінуўся, пастаяў і пайшоў на ганак наймаць падводу. Там ля плоту было ці мальска нейкіх коні. Хадзілі і ўсякія людзі. Фурманы хціва пазіралі на скрыпушчыя надворныя дзверы і грудам падступалі да ўсякага, хто, выходзячы, выглядаў пасажырам, падступалі і лезлі з пугамі ў руках, у даўгіх шабадраных польтах-халатонах, што былі ім добрыя ад сонца і ад ветру, ад пылу і ад дажджу, і ў некаторых халатоны гэтыя былі яшчэ падпяразаны паясамі, быццам трапкамі. Яны падступалі, і штурхаліся, і сварыліся, і крычалі:

— Паніц, паніц! Кудой вам следуіт?

— Ну сто, паедзем, паніцок?

— Хур, хур! На Целяпенічы? Ну едзем, ну!

— Я магу падвезці вас схадней, калі недалёка,— набіваўся нейкі ні вясковы, ні местачковы дзядзька, такі сціпленькі і рахманы з выгляду, але з дзесяткам мужыцкіх д'яблаў пад гэтаю сумыснаю рахманасцю. І Лявон ужо ведаў, што заўсёды прыямней ехаць з балаголам, чымся з мужыком, які адарваўся ад зямлі і гаспадаркі, не прыстаў у месце да фабрыкі і зрабіўся прамысловым д'яблам на беднай станцыі.

Ён умовіўся з стараватым і маўклівым балаголам-яўрэем, падобным з усяго абліччя на селяніна-земляроба, і балазе нарэшце-ткі паехаў.

Калі фурманка павязла яго, загрымеўшы ад вакзалу па каменню, гнёт нудоты, аднак жа, так і цісnуў яму сэрца.

Але вось пачуў, што іграюць на гармоніку... І паюць. Гэта ж было якраз нейкае свята і перад нядзеляю, два дні свят, і самы час, калі працоўная моладзь, са станцыі і блізкая да станцыі, гуляе тут па вуліцах, лузгае семячкі і заляцаецца. І яму ад таго іграння і ад тых гуляў раптам і дужа-дужа захацелася павесялець, забыцца на маркоту, пайсці па вуліцы абняўшыся з дзяўчатамі і гаманіць з імі пра абы-што, ведаючы, што ўсё будзе добра, што не асудзяць і не зганяць, а разгарнуць сваё сэрца простаю сяброўскаю ласкаю. А што ж на свеце можа быць лепей за сяброўскую дзявочую ласку? Каханне вымагае мукі і няволі і выпіваецца, як чарка хмелю,— сяброўства з дзяўчынаю дае радасць і прыемны супакой. «Ды што ж,— горка падумаў ён,— калі мы, адарваныя ад родных гоняў панскаю культураю, можам толькі ў думках расчульвацца ад гармоніка і прыпевак, ад жадання пайсці па вуліцы абняўшыся, і ў пыльных ботах і ў белым жупане, і паяць, як там, як вось яны...» Дык што ж, калі тая культурнасць у ім не дазволіла яму нават пажартаваць з дзяўчаткамі, едучы міма, калі яны глядзелі на яго і пасміхаліся. Ён толькі скоса зірнуў на іх і праехаў міма моўчкі, як пан. А недалёчка, хлопцы-гульцы, вясёла паялі пад гармонікавае рыпанне:

Колькі богу ні маліўся,
А ў святыя не папаў,—
Колькі з мілай ні вадзіўся,
Ані раз не цалаваў...

І песня іхная абудзіла ў ім абраз яго адносін да любае дзяўчыны. «Так ні раз не цалаваў»,— у злосці на яе і на самога сябе падумаў ён, калі песня так проста назвала ўсе рэчы.

І яшчэ болей захацелася яму хутчэй выбрацца з цеснае вуліцы на вольную прастору, хутчэй агарнуцца тым, што ёсць у полі: сумным супакоем, ціхамірнасцю і свежасцю.

* * *

Аднак жа, потым, Лявона вельмі змучыла гэтая даўгая і нарэшце нудная дарога канём, на мулкіх і дрогкіх балагольскіх калёсах і ў дакучлівай цямноце з вечара да позняе ночы, і на сцюдзёна-росным золку раніцы, і пад пылам і ветрам удзень.

Пасля невялікага соннага прыпынку ў брудным местачковым заездзе, на цвёрдай клапінай капапцы, балела галава.

І калі-ткі пад позны полудзень, на другі дзень, уз'ехалі ўжо на цёмналескае поле, быў Лявон трывожна рады, што бачыць усё сваё роднае, і ўжо не шавяліўся, чакаючы, што зараз адпачнуць яго пабітыя і змуленыя косці.

Выехаўшы з лесу, вёскі яшчэ не відаць, бо яна стаіць у доле, ▪ абодвух бакоў канавы. Тырчаць толькі стрэшкі, з двума-трыма камінамі, і купкі дрэў. Толькі ўз'ехаўшы на бліжэйшы ад хатак курганок можна ўбачыць перад сабою хмурыя і ціхія гумны, абгарэлыя лазні і паснулыя хаты.

«Пад родным небам... Прымеце мяне, сценкі любыя, свайго валачобніка няўдалага!»

Сэрца заныла ад убоства роднага месца і ад чакання сустрэчы з роднымі.

Але каб уз'ехаць на вуліцу, трэба было прашчаміцца між плоту і Юркавага саду, вузенечкім закавулкам-каўдобінаю, дзе было вечна мокра ад вузкасці і засені, і цяпер стаялі брудныя лужы ў глыбокіх калюгах, не паспеўшы высахнуць пасля дажджу, што няма ўжо ведама калі быў.

Колькі гора было тут малым паваждаём, на талацэ, як вазілі гной. Ніяк няможна было размінуцца двум вазам, няможна было і завярнуцца, не зачапіўшыся за рагавую шулу ці за кол у плоце, не парваўшы атос і не заплакаўшы горка, каб большыя беглі ратаваць.

Эх, закавулачак, які быў у гады маленства, такім і застаўся, калі ён, Лявон, вырас і пазнаў іншыя дарогі, і застанецца такім самым, мусіць, яшчэ на многія-многія, такія шпаркія ў сваім лёце, гады... Ат, няхай!

Сонна і пуста было на вуліцы, не гледзячы на свята. Ні жывое душы не сустрэлася ля чужых хат.

Вось і родны двор!

* * *

Балагол спыніў каня і азірнуўся на свайго пасажыра. Лявон, зморaны, з замлелым целам, рухава, аднак, выскачыў з калёс, увесь у пыле, і пабег адчыняць вароты. Не паспеў ён узяцца за клямку ў фортцы, як яму пад ногі, з радасным гаркатаннем і салодкім прыгібаннем да зямлі, кінуўся знедкуль Буян, нюхнуў яго, скокнуў вышэй, на грудзі, вясёла гаўкнуў і закруціўся.

Прыемна, што пазнаў сабака. Але чаму ж нікога няма?

Адкінуў завал, адчыніў вароты, махнуў балаголу, каб уз'язджаў на падворак. Балагол занэкаў, зацмокаў, і конь

рушыў, упіраючыся нагамі ў салому на дворы, бо цяжка везці. Тады Лявон неяк мімаволі азірнуўся і ўбачыў, што з саду ішла маці.

Ён пайшоў ёй пасустрэчу.

— А Лявонічка мой!..

— Добры дзень, мама!

Ён прыпаў да яе рукі, а яна саромелася, што рукі зашэрэлыя ад працы, і адбірала іх. На ўсю сілу, асмеленая, пацалавала свайго Лявонічку ў адну шчаку і ў другую... Тады немаведама чаго, мусіць, ад радасці, заплакала, ды спахапіўшыся, што ён таго не любіць, хуценька абцёрла вочы крайчыкам фартуха.

— А дзе ж усе нашы?

— Усе, усе зараз збяруцца, мой сынок! Пойдзем у хату. Я забяру, я! — кінулася яна наперабой сыну да фурманкі, каб узяць яго рэчы.

Завёўшы сына ў хату, яна не ведала, што рабіць, і зараз выбегла назад на двор і схапілася пасабляць фурману прыбіраць фурманку. Разам з ім пакаціла яе пад павець: балагол цягнуў за аглоблі, а яна адзаду падпіхала.

Лявон бачыў яе ў акно і на вачах сваіх пачуў слёзы. Зморшчыны, глыбокія, старыя, што толькі вось цёпла прыцісkаліся да яго сцюдзенаватых шчок, зрабіліся раптам балюча любымі і дарагімі.

«І колькі-колькі гэтых зморшчын у нашым нешчаслівым краі»,— мільганула думка і паглыбіла яго боль.

У сенцах затупалі маладыя ногі, дзверы шыбка і дрыжача адчыніліся — і паказалася белавалосае, радаснае і быццам трошку нясмелае Лаўрынькава аблічча.

Сярод агульнага старога ўбоства, дарагі браток здаўся большым, як раней, і святлейшым за ўсё. Чынна падышоў ён да Лявона і з дзяцінай яшчэ прастасцю пацалаваўся з ім.

Потым ізноў прыйшла матка.

— Нашто гэтак хату запусцілі? — спытаўся ў яе Лявон, азіраючыся па хаце і супроць волі спыніўшы погляд на гальні, што валяўся кінуты мёўшы і не дамёўшы.

— Як запусцілі? — не зразумела яна спачатку, а тады паправілася: — Усё за работаю, некалі... Хваліць бога, што ты прыехаў, Лявонічка, цяпер ужо пачысцім.

— Неканешне дзеля мяне: наагул добра, як хата чыстая, а не запушчаная,— сказаў ён і змоўк.

Сказаў мякка, без абурэння, зусім не так, як у бывалыя свае прыезды, калі казаў казанні, не паспеўшы пе-

раступіць парогу: «Нашто хату запусцілі? Гэта ж яна згніе без пары. А вапроў трэба карміць па двары ці ў свінарцы, а не ў хаце. Курыца на лаве напаскудзіла і міску пабіла,— навошта пушчаеце курэй у хату? Чаму балонку не ўставілі? Ці ж гэта хораша выглядае, калі вакно заткнута нейкімі анучамі?»...

Цяпер вось гэтак не сказаў бы: не мае ўжо смеласці дый не бачыць патрэбы... Дык абдумаўся і весялейшым голасам, пасля першых, троху даўгаватых і дзеля таго ніякавых моўчак, запытаўся:

— Ну як жа вы ўсе тут... жывы-здаровы? Чаму нічога не кажаце?

— Усё, усё, сыночак мой, скажам. Во дай троху справімся... Ага, цётка ж Марына памёрла...— раптам дадала яна.

Цётка Марына была замужам у далёкай ад іх вёсцы, і Лявон дужа любіў яе за вялікую дабрату.

— Цёткі Марыны ўжо няма?..— з нейкім неспадзяваным жахам пахіліўся ў яе бок Лявон. Потым, паглядзеўшы міма людзей, у пустую невядомую прастору, з крыўдаю сказаў:

— Чаму ж мне не пісалі, што памёрла?

— А не ведаю, мусіць, неяк забыліся...

* * *

— Пойдзем, Лявон, у сад! — запрасіў Лаўрынька.

— Дай ты яму пасядзець з дарогі... у сад ужо! — запярэчыла маці.

— Не, чаму? Пайду пагляджу, які цяпер наш сад.

Лаўрынька пабег наперад, а Лявон прыстоіў на падворку, дзе балагол карміў каня ахрап’ем, што ласкава падкінула маці. Балагол меў супакойны выгляд працоўнага чалавека і супакойна гладзіў каню шыю. Лявону зрабілася сорамна за свае нервы. І тут жа мляўкі халадок незлавімым маменцікам ахапіў яму сэрца: шкода было жыцця, адчуў, што моцна любіць жыццё...

Калі пераступаў высокі парог у фортцы, што была з двара ў сад, ля ног з тою ж нястрыманаю радасцю праскочыў Буян і пабег, задраўшы хвост, наперад пад яблынькі. Палётаў там, пакруціўся, але стаў «колам» і глядзеў назад, зводдаль, глядзеў з чаканнем, куды пойдзе і што цяпер робіць госць.

Госць марудна ішоў па вузкай сцежачцы, макравай, з прыліплымі і ўтаптанымі ў зямлю гнілымі лісцінкамі.

Сумна ўжо было па-восеннаму ў садзе. Не было ўжо тут чырвонага макавага цвету і жоўтых галовак сланечніку. Мінулася ўжо тая пара, калі здавалася тут так густа, так багата і так шчасліва. І ўздумаў Лявон на свае даўнія леці, калі так смачна была вырваная рэпка, што елі яны з Лаўрынькам напалам, калі так прыемна было пакаштаваць яблычка з-пад кожнай яблынькі. Бедным і пустым здаўся яму цяпер сад. І не захацелася яму цяпер леці пастаяць пад страхою ля гумна, з дымным і пыльным ад старога курава пахам.

— Пойдзем, Лаўрынька, у хату! — гукнуў ён брата.

— А дулек не хочаш? — са зменшанаю радасцю спытаўся Лаўрынька.— Глядзі, якая спеленькая... на! — падаў яму дульку, вылазячы з малінавых кустоў, дзе знайшоў яе.

— З'еш сам... Я не хачу,— сказаў, і шкода стала, пагледзеўшы ў Лаўрынькавы вочы.

— Чаму не хочаш? Яна спеленькая... Мы ж цэлае лета елі, а ты не еў. Ну, з'еш, братка... Яна смачная.

— Ну, дай сабе! — узяў і схаваў у кішэню.

Так ішлі з саду — Лявон спераду, а Лаўрынька адзаду.

* * *

— А! Во дзе ён пахаджае! — загаманіў, ідучы насустрэчу, бацька.— Здароў, здароў! — І як цалаваліся, Лявон пачуў, што ў бацькі з роту пахне гарэлкаю. Бацька быў выпіўшы.— Хадзі ж у хату, будзем абедаць. Там і сват сядзіць.

У хаце ля столу сядзеў сват, а ў парозе стаялі грудком суседскія дзеці, прыйшоўшы падзівіцца. Матка падавала страву на стол.

Лявон прывітаўся з сватам, а тады абышоў дзяцей і даў ім па цукерцы.

— А цяпер марш дахаты! — скамандаваў ім бацька. І яны пайшлі, худыя, саплівыя, бедна апраненыя.

— А гэта вам гасцінца! — сказаў Лявон, кладучы мяшочак з цукеркамі на стол перад бацькам і сватам.

— Ат, гэта салодкае матцы аддай... Лаўрыньцы... Нам каб ты чаго горкага прывёз.

— Я прывёз...— і Лявон паставіў на стол прывезеную пляшку гарэлкі, хоць і дужа не любіў п'янства і п'яных, як было ім усім добра ведама.

— Во, гэта гасцінец! Ну, сядай жа сам,— павесялеў

бацька. Лявон мусіў залезці на кут, між бацькі і свата, і пачалося частаванне. Толькі маці ўсё тупала і не мела часу прысесці.

— Скажы мне, Лявон, што цяпер дзеецца на свеце? — пытаўся бацька, выпіўшы чарку.— Бунтуюцца?

— Хто бунтуецца?!

— Ну, хто... вашая ж брація,— троху колкімі вачмі ўскінуў ён на сына.

— Не, ужо сціхла, як далі троху перцу жыдкам,[1] — патураючы на словы бацькі, заўважыў сват і няшчыра засмяяўся. Адылі ўбачыў, што Лявону гэта непрыемна, і, каб усё было добра, дадаў: — А па-мойму, хай сабе бунтуюцца, ці нам гэта клопат.

— Забыўся я на тое, што вы ведаеце...— хмялеючы мармытаў бацька і ўсё наліваў чарку.— Вучоныя! Бунтуюцца! Эх! Слухаюць жыдоў і самі парабіліся, як жыды. Ну, ды ўсё добра! Балазе во ў госці прыехаў. І за тое дзякуй. Ці карміла ты балагола? — раптам павярнуўся ён да маткі.

— Малака давала. Стравы ж ён есці нашае не будзе. З салам.

— А, ён законны жыд, маладзец. Трэба яму чарку гарэлкі даць, калі п'е.

— Пі ўжо сам. Яму ехаць трэба,— запярэчыла матка.

— А, ну, няхай едзе. Жыд нам не кумпанія. Колькі — тры рублі ўзяў? Во, дзяруць... Лаўрынька, ідзі выпі чарку.

— Я не хачу.

— Што?!

— Я не буду піць,— упарта адказаў Лаўрынька.

Бацька метануў на яго погляд з захаванаю злосцю і пагрозаю, але змоўчыў, адкладаючы, відаць, расправу на пазнейшы час.

— Дык ідзі гукні дзядзьку ды спытайся, ці не засталося ў яго ад талакі гэтага зелля. Хай пляшку прынясе, пазычыць.

— Ай некалі мне... Па каня пара ісці ў поле,— увесь аж пачырванеў Лаўрынька. Ён не хацеў, каб на стале з'явілася яшчэ адна праклятая пляшка.

Бацька выскачыў з застолля і кінуўся да яго.

---

[1] У тэксце некаторых твораў пісьменніка, прысвечаных паказу дарэвалюцыйнага жыцця, сустракаецца слова «жыд». Паколькі гэтае слова ўжывалася тады як бытавое і за ім не стаяла знявага чалавека яўрэйскай нацыянальнасці, рэдкалегія палічыла магчымым пакінуць яго ў творах даўно памёршага аўтара без змен.

— А я табе што кажу? — закрычаў ён і схапіў яго за руку.

— Я пайду, пайду...— прасіўся Лаўрынька, каб не было большага скандалу.

— Пасароміўся хоць бы Лявона! Не бачыў ён тваіх п'яных штук! — уступілася матка.

— Што такое? Бацькі не слухаюць! Я вам пакажу! Бунтаўнікі, самакраты!.. Саплі яшчэ не ўмее абцерці па-людску, а ён ужо з сваімі законамі.

Лаўрынька, чырвоны, збянтэжаны, з захаваным дзіцячым гневам і крыўдаю, пайшоў з хаты.

* * *

— А чаму, Лявон, нічога не ясі? — весялейшым і сумысля звычайным голасам першы ізноў парушыў цішу бацька.— Ці можа не ў спадобу бацькавыя навучанні?

Лявон маўчаў. Ён сядзеў маўклівы і смутны у самым куце. Усе прыціхлі.

— Ну што? Вясёла? — з мяккім насміханнем паглядзела на бацьку маці, прымаючы з столу талерку.

— Ат, мала што бывае,— лагодна сказаў сват.

— Ідзі, а то во як кіну, што і чарапкоў не падбярэш,— ці то жартам, ці то як п'яны ў злосці гыркнуў на яе бацька і зусім ціха піхнуў пустую талерку, але талерка ўсё-ткі паляцела, і матка ледзь паспела яе падхапіць.

— У-у, сораму ты не маеш,— ужо гнеўна абурылася яна.

— Сораму не маю... Сораму не маю... Вып'ем, сваток. Бачыш, якую пашану маю за сваю працу, за свой клопат. Як я сораму не маю, дык усе бачаць, а як я век-вяком капаюся ў гаспадарцы без усякае падмогі і прасветласці, дык ніхто таго не бачыць. Назаўтрае во малацьба... Ці пойдзеш з намі малаціць, сынок? — раптам звярнуўся ён да Лявона, з захаваным злым смехам у дужа далікатнай жартаўлівасці.— Ды не, не... Я пажартаваў! Каб ты і хацеў пайсці, дык я не дазволю. Няхай ужо мы, няўчоныя, век чорныя ходзім, а цябе ж я не на тое вучыў, каб ты пыл наш гуменны глытаў. Ці надоўга ж прыехаў у госці? Хоць бы раз даўжэй пажыў, а то ўсё толькі пакажашся дый назад.

— Сам не ведаю... Можа, і надоўга. Я кінуў службу.

— Што? Ці ты гэта праўду кажаш? — праўдзіва і трывожна здзівіўся бацька.

— Як жа гэта так? — сказаў і сват.

— Пасля аб гэтым пагамонім,— ухільна адказаў Лявон.— Старую службу кінуў...— дадаў падумаўшы.

— Пасля дык і пасля...— невясёла згадзіўся бацька.— Але зноў нейкія самакрацii тут ёсць... Эх, дзеткі мае. Не па мыслі маёй нешта робіцца... Што ўжо будзе з Лаўрынькі? Я яму пакажу, як бацькі не слухаць, я яму пакажу! Ужо ён у самакраты лезе. Не, пачакайце!

«Нашто я сюды ехаў? Нашто я сюды ехаў?» — думаў Лявон, выходзячы з застолля і не ведаючы, перахрысціцца яму дзеля віду ці не, і адышоў так: ат, няхай болей гневу і разбурэння...

## 5. МАЛАЦЬБА

Душа маўчыць, душа схавала ў сабе той сум і сама замкнулася... Устаць, не ўстаць? Трэба ж устаць. Не, трэба рабіць тое, дзеля чаго прыехаў. А калі ж няможна во цяпер уявіць сабе патрэбы ў гэтым учынку. Здрабнеў чалавек зусім. Э, было б сапраўды свінства, каб яны прыйшлі запрацаваныя і знайшлі б яго акачуранага, самагубцу. Фэ, гідасць! Але вось прыехаў... Яны малоцяць — ён ляжыць. Як абед, дык яму лепшы кавалачак. Усю затаўку паесць. Навошта ж прасіў учора, каб яго будзілі? Устаць, не ўстаць? Не хочацца ўставаць...

Добра жыць на вёсцы позным летам, перад самай восенню, калі так прыемна ляжаць ціхімі досвіткамі ў цёмнай хаце, пазіраючы праз мутнае святло акна на высокае і далёкае зорнае неба.

І ляжаў Лявон, і думаў, і ўспамінаў свой мінулы, неўзваротны час, сваё далёкае маленства....

Зіма, досвіткі, на двары сцюжа і шугае вецер, а ў хаце троху цёпла, гарыць сумная лучына, сядзіць бацька і маці — даўно ўжо ўсталі і працуюць.

Прачнуўся і Лявонька, але маўчыць, нібыта і спіць, і добра ляжаць яму на палу пад цёплаю дзяругаю і кажушком. Цёпленька... На печы, ля дзеда, было б яшчэ цяплей. Паміж комінам і дзедам. І трэба ж паглядзець там тую дошчачку, што сушыцца на траме і што будзе з яе скрыпка... Толькі ж дужа не хочацца ўставаць і бегчы з полу на печ,— пакуль дабяжыш, дык і пазябнеш...

Варочаецца дзед на печы, побач з лучынаю, што паклалі там, каб сохла. Варочаецца па пасцеленым жупанку,

грэе старое зябкае цела. Бядуе, што жыве так доўга, не ўмірае. Шэпча:

— Калі ж ты ўжо прыйдзеш па мяне, мая ты смертухна? Вось і яшчэ аднаго дня прыждаў, яшчэ адну ночку перажыў...

Слухае Лявонька, як шугае вецер за сцяною, і дзівуе дзеду: навошта ён так хоча паміраць? На могілках жа цяпер дужа-дужа глыбокі снег, цёмна там і страшна, мароз і вецер, бегаюць ваўкі і выюць...

«Ай, любы дзедзя! Не ўмірай ты! Жыві і жыві...» — падумаў і раптам — хоп! Усхапіўся і забарабаніў па палу на печ, да дзеда.

— Цішш! Куд-ды ц-цябе так рана падняло! — жартуе бацька.

А ён ужо зграбіў свае лататы і ўзгробся на печ, перакуліўся цераз дзеда і прытуліўся там, між ім і комінам.

Патурбаваны кот падняўся, сагнуў дугою хрыбцінку, пастаяў у задуме, закруціўшы хвост, прымаючы пастанову, і скокнуў на комін, на бацькавы валенцы.

Маўчыць Лявонька, і прыемна яму чуць пад сабою цёплую печ, ды згары — халаднавата без дзяругі. І сляпы дзедзя, як бы тое ведаў, замацаў упоцемку ўнукаву галоўку і гладзіць яго ад вуха да калена.

Добры ён, гэты дзед. Ён любіць свайго маленькага Лявоньку. І хлопчыку хочацца жалець дзеда — ду-у-жа, ду-у-жа жалець! Хай бы сабе жыў дзед, думае Лявонька, хай бы жыў, пакуль трэба калыхаць каго-небудзь у калысцы. І навошта ён усё просіць сабе смертухны?

— Дзед! Гані яго ад сябе! Чаму не спіць малы? Заўсёды ўскруціцца без пары,— жартуе бацька, паглядаючы на печ.

— Дык я ж выспаўся...

— А выспаўся, дык ідзі ў пограб па бульбу, капусты гаршчок прынясі,— кажа маці.

— Дык я ж баюся...

— А ты не бойся, ваўкоў там няма.

— А калі ж я баюся, што цёмна. Мама, скажы ты мне казку.

— Прасі бацьку,— адмаўляецца маці.

— Не, ты скажы. Ты ж умееш,— хоча ён, каб казала маці, а не бацька.

Бацька наогул не казачнік, а калі што і раскажа, дык надта проста, так, як усё дзеецца наўкола, дзе халодна, снег, параная бульба, чад, свінні скігочуць і дзеці пла-

чуць. А маці ўмее заляцець думкаю ў залатую старонку, дзе ўсе дарожкі абсаджаны салодкімі яблынькамі ў два рады, а на тых яблыньках пяюць птушачкі залатапёрыя свае песенькі вясёлыя...

І пачынае маці плясці свае доўгія і цікавыя пляткі. Бясконцу цягнуцца яны пад безупыннае трынканне верацяна, трэск і сіпенне лучыніны ды шыбанне аб сцену зімовае завірухі. Супакой і нерухомасць распаўзаюцца па хаце. Ой, выйдзе з хлопчыка нерухомы летучонік, што будзе толькі ў думках сваіх сніць залатую старонку, і пражыве ён жыццё сваё нерухома, як курэц опіуму... Ой, будзе так!

Ужо хлопчык троху зморавы доўгім слуханнем, хочацца яму нечага іншага. Але тая нерухомасць маркотная ахапіла яго і не пускае яго з месца ўстаць.

Ды матка сама раптам ірве залатыя нітачкі:

— Ну, до мне казаць, а табе слухаць. Ідзі-тка мыйся, а ў суднічку ў паўміску мяса ад учарашняе вячэры стаіць.

Мяса тое — хлопчыку надта ўсмак. Сцюдзёненькае, цвёрдзенькае. Але ж трэба абуцца спярша... Э, што там! — паспеецца! І ён басаногі бяжыць мыцца каля лаўкі ў парозе.

Матка зняла яму з загнету чыгун з цёплаю вадою. А то ён быў ужо занепакоіўся, што прыйдзецца мыцца сцюдзёнаю з сянец. І пялешчацца хлопчык у цёплай вадзіцы, каб пасля баяцца ў жыцці ўсякага холаду,— доўга пялешчацца. Матка баіцца, што ён босы прастудзіцца.

— Ці не до табе пялёскацца, Лявонька? — казала яна.

— Сарокі знясуць, калі доўга будзе мыцца,— падсабляе матцы бацька.

Толькі ён таго не чуе, ён задумаўся.

— Дзед! — пытаецца ён у старэйшага за ўсіх у хаце.— Дзед, а хто лес насадзіў, скажы ты мне, а?

— Сам вырас, маё дзетка,— ласкава адказвае дзед.

— Дык як жа гэта? Чаго ж гэта ён вырас?

— А вось пасеялася насеннейка, дык ён узяў дый вырас.

— Чаго ж яно пасеялася?

— Ат, прычапіўся, як смала,— мяшаецца ў размову бацька і кажа маці: — Гані ты яго ад вады, дакуль ён будзе там пялёскацца.

Лявонька мігам абціраецца, узлязае за стол на лаву і сашчапляе рукі, каб хутчэй адбыць гэтую дзіцячую пакуту: маленне богу. Моліць яго бацька ці матка. Матка

моліць прыгажэй і цікавей, але даўжэй за бацьку. А маленне наогул выходзіць даволі маруднае і да прыкрасці даўгое, бо два разы паўтараецца кожнае слова.

— Выйміцца...— кажа маці, што мае азначаць: ва імя аццa.

— Выйміцца! — галасна адгукаецца Лявонька, а пакуль маці зрыхтуецца казаць далей, ён сам сабе ціханька шэпча: «Выйміцца, акацілася аўца...» І, скоса паглядаючы на хату, усміхаецца.

— Маліся добранька, не галузуй! — сурова заўважае бацька, напранаецца і выходзіць з хаты, бо ўжо світае і пара выйсці паглядзець, што там дзеецца на падворку, у хлеўку і ва ўсёй гаспадарцы.

Без бацькі можна маліцца весялей,— не так будзе нудна...

А пакуль дабіраюцца да «Верую», Лявонька то пераступае з ножкі на ножку, то крычыць словы на ўсю хату, то гаворыць ледзь чутна, то сашчэплівае рукі на ўсю сілу, то зусім расшчэплівае іх. Забаўляецца — колькі можна ў рамках чалавека, пастаўленага весці гамонку з самім богам. Матка занята ўжо справамі ля печы, і ён, спачатку здзіўлены яе няўвагаю на яго дурэнне, потым, каб скарыстаць выпадак, пачынае, молячыся, гоцаць так, што аж лава гутаецца пад ім... А ўрэшце заглядаецца на абраз, на сівога чалавека з нейкім вялікім гарбузом у адной руцэ і з кіем у другой. Думкі рояцца ў галаве: чаму гэты, падобны з твару да іхнага дзеда, але неласкавы сівы дзед, чаму ён — бог?

Ад акна ж, абсыпанага на балонках і ў шчылінах снегам, цягне сцюжаю, і патроху ды ўсё болей святлее — пачынаецца невясёлы зімовы дзень.

Як тое ўсё даўно-даўно мінулася! Памёр дзядуля, пастарэлі бацька і маці, павырасталі дзеці...

О, мілыя часы маленства!

Ізноў такія ж досвіткі... Авечкі трэба рэзаць.

З лучынкаю пад гарцам ці ў гарлачы, каб вецер не згасіў, ідуць па двары ў пуню. Чорна... У хлеве карова стаіць і жвачку жуе. Авечкі ляжаць грудком ля сценкі. Вось адна жуе саломку, шыбка ўбіраючы яе бяззубым ротам, губамі. Павярнула галоўку на святло. Вочы блішчаць, як у таго ката ў цямноце, як быццам у іх гарыць крывавабліскучы агонь. Трэба лавіць: расставіўшы рукі, трэба хапаць за бакі, за воўну... Уцякаюць... Шурай іх! Злавілі.

Б'ецца ў руках, ірвецца... Вядуць, ушчаміўшы шыю праміж ног. Ці ведае то яна, што на смерць вядуць? У хаце тупае капыткамі па масту, бляе. Дзеці прачынаюцца. Яны хочуць глядзець, а на іх крычаць, і яны лезуць на печ, дзе можна ляжаць на цёпленькім і глядзець, як будуць рэзаць. Нож нагостраны. Карытца падстаўляе матка пад шыю. «Бяры за пярэднія ногі»,— трывожна кажа бацька. Адагнуў галаву авечцы крута назад... Адхінаецца на печы Лявонька — цяпер няможна глядзець. Трапечацца зарэзаная авечка слабей. Ледзь-ледзь. Пусцілі: асвяжылася авечка. Галава з парэзанай глыбока шыяй адхіснулася, ногі дубеюць, выцягнуліся. Бацька стаіць з закасанымі рукавамі, з нажом у крыві. І пальцы яго ў крыві — як які душагуб, нават насупіўся і сапе носам. Глядзіць уніз на авечку, адпачывае, чакаючы, пакуль яна зусім асвяжыцца. Узяў за нагу, за капыток, і абрэзаў скурку колцам, як хлопчык абразае кару на лазіне знімаючы дудку. І другую ножку так, і ўсе ножкі. Потым закасаў на нагах скурачку. Мяса белае... Прасадзілі палку ў заднія ногі пад жылы, прывязалі вяроўку да палкі, закінулі на курчыну і пачалі цягнуць. Падцягнулі авечку за ногі высока, галавою крываваю ўніз,— вышэй, ніжэй, каб зручней лупіць. Прывязалі. Галава баўтаецца і крывяніць. Бацька падперазаўся матчыным фартухом і разразае скурку па бруху ад шыі аж да хваста. Потым падсаджвае ножыкам, пальцамі і кулакамі паміж скуркі і мяса. І скурка ўсё болей адлупліваецца, як адсачалая кара вясною. Тады яна зрабілася смешная,— аблупленая авечка... Разаслалі скурку на зямлі, воўнаю ўніз, пасалілі голы бок буйною соллю густа-густа; склалі і покуль што пакінулі ляжаць пад лаваю. А потым павесяць яе на шост, а розныя скурчаныя кончыкі: ножкі, галаву, хвасток — разапнуць лучыначкамі, каб добра сохлі. Шост пад столлю, каля печы, дзе цёпла. Высахне скурачка — аддадуць выдубіць аўчынку, будзе Лявоньку кажушок.

Яшчэ ж трэба патрашыць... Маці падстаўляе ночвы...

— А-я-я! Акотная! — лямантуе бацька.

— Як жа гэта ашукаліся? — дзівіцца маці.

Бацька дастае з нейкім пузыром разам і выкладае на зямлі, дужа асцярожненька, парачку слізкіх ягнятак. У іх чорная прыгожая, як у паноў на каўнярах, кароценькая курчавая шэрстачка. І дужа вялікія, буйныя галоўкі.

Разглядаюць іх, і бацька кажа: «Бараны былі б... не шкода!» І Лявоньцы прыкра ад гэткай жорсткасці.



Жонка М. Гарэцкага Л. У. Чарняўская-Гарэцкая
з дачкой Галінай і сынам Леанідам. 1925 г.




Вокладка зборніка апавяданняў «Досвіткі».

Вось так, не пры тым казана, і людзі... Як тыя рэзаныя авечкі. Фу, страшна, непрыемна... Лепей жыць, лепей жыць, пакуль жывецца.

О, мілыя часы малецтва!

Пайшлі малаціць. Адзін дзядуля сляпенькі, каб не быць гультаём і дармаедам, сядзіць над ночвамі: джыр-джыр-джыр!..— дзяре на драчку бульбу. Абмацае ў місцы ў кадзе і возьме з вады, абтрахне бульбіну і па дзёрцы: джыр-джыр-джыр! — пакуль не застанецца ў руцэ гэткі маленечкі кавалачак, што можна і відушчаму пальцы паабдзіраць, і тады ўжо кіне яго ў цэбар.

Драная бульба паўзе ў ночвы мяккім, шэра-чырвоным печывам і з жыжкаю на сподзе.

Эх, чаму гэта дзядуля, мужчына, не сароміцца займацца бабскаю работаю? Яго ж ніхто не прымушае, і нават гневаецца, што ён не слухае ўпрашанняў і не шануе сваю старасць, сваю слабасць.

Лявонька прачынаецца, прыслухоўваецца да таго джырчання, ляжыць ціха і думае...

Даўно мінулася тая пара. Даўно памёр дзядуля, не дачакаўся лепшых дзён...

Вырас яго любы Лявонька, набраўся сілы, пабачыў свету...

А што можа змяніць ён у жыцці? Дзе тыя лепшыя дні?

Ізноў ляжыць, вось, як некалі, ціхімі досвіткамі ў цямнявай хаце, ляжыць і думае, але не мае ўжо той радасці жыцця.

— А дзе ж тыя надзеі, а дзе ж тое змаганне? Сорам, сорам!

Не, трэба яшчэ жыць, трэба яшчэ рухацца наперад. Трэба вось устаць, пайсці да іх на гумно, памагчы ім малаціць.

Прэч усе думкі!

Лявон устаў — і быў адзін ува ўсёй хаце, аж нейк жудасна. Знайшоў упоцемку на судніку карэц і выйшаў у сенцы напіцца.

Смага разабрала за ноч, пасля дарогі і вясковае вячэры. Са смакам напіўся. Выйшаў на ганак, паглядзеў на неба. Прыгожае надвор'е, зоркі мігцяць, дрэвы дрэмлюць, стрэхі спяць... Ахоплены за ногі халадком, вярнуўся ў хату.

Сорам спаць, хоць і дужа хочацца. Трэба ж пайсці на гумно, падмяніць у рабоце матку. Пачаў абувацца, напрануў замест свайго пальта бацькаў жупан, бо там будзе пыл. Старанна зачыніў дзверы і выйшаў на двор, а тады цераз фортку пайшоў у сад, на гумно.

Сад ціхі, сонны... І яблынькі спяць, і лісцікі на дульцы трызняць паціхеньку, праз сон... Але няма ўжо той салодкасці, што была ў маленстве, няма, няма... Прытупілася ўспрыманне, прыйшла проза жыцця.

* * *

Але на гумне: пук-пук-пук! пук-пук-пук! тра-та-та! тра-та-та! Малоцяць. Прыемна слухаць. Хутчэй пайшоў туды.

На сасе збоку цьмела жоўтая лямпачка. Пыл лез у нос і ў вочы. У пыльным павучынні былі жоўтыя торпы. Ад варот жа да асеці, на таку — жоўтая снапяная дарога, поўны пасад. Снапы яшчэ цёплыя, нядаўна скінуты з цёплае асеці, так ад іх цяплом і вее пасля надворнае свежасці.

— Тра-та-та! — малоцяць у тры цапы: з аднаго боку ідзе бацька, а з другога маці і Лаўрынька. Лянь! А хто ж гэта, дзяўчына, ідзе з цэпам ад асеці? Лёкса! Яму не сказалі, што яе гукнуць малаціць. Лявон троху спыніўся: гэта ж ёй пісаў ён той бязглузды ліст, і яна яму адказвала. Няўжо ў іх было каханне? А ён яе адразу не пазнаў. Яна супакойна падышла да малацьбітоў з сваім цэпам, супакойна сказала: «Гэты ўжо будзе ямчэй» (відаць, мяняла каля асеці цэп),— і стала малаціць з імі разам, у чатыры цапы. Матка перайшла на бацькаў бок, а яна стала з Лаўрынькам. Эх, некалі Лаўрынька пісаў, што ў яе на руках кароста.

— А, устаў-ткі! — дужа ласкава прывітаў Лявона бацька, не кідаючы махаць цэпам.— І ахвота ж была. Я думаў, што ты жартуеш. Спаў бы сабе пасля дарогі.

— Лявонічка, што ты гэта выдумаў,— таксама не спыняючы работы, толькі мяняючыся на руку, сказала і маці.— Бацька табе смехам учора казаў, а ты ўзяў ды прыйшоў. Ідзі ты спі.

— Не, мама, дай мне твой цэп, а ты ідзі ў хату.

— Пайшоў ты, дам я яму цэп! — смеючыся адбівалася матка.

— Дай сабе, няхай троху пасобіць, калі яму дужа хочацца заняцца мужыцкаю работаю,— смяяўся і бацька,

Учорашняга хмелю як бы і не было ў яго ніколі.— Ідзі, ідзі, гатуй там снедаць. Сяння пасады невялікія, справімся і без цябе.

Матка выпусціла цэп яму ў рукі і адышла, а ён, старанна трапляючы ў лад, замахаў гэтым цэпам.

— Ну, дык пайду,— сказала матка і пайшла з гумна.

* * *

Лявону адразу здалося, што ён зараз саб'ецца з ладу. І ён пакладаў усю ўвагу, каб гэтага не было, і пільнаваў ударыць цэпам то дужэй, то цішэй, каб якраз прыйшлося добра.

— Раўней, раўней! — заўважыў бацька.

Трэсь! — ударыў нечы бічук, здаецца якраз Лёксін, па Лявонавым бічуку,— і Лявона ўзяло на поты, што ўжо троху збіўся. Было сорамна і перад Лёксаю, што не ўмее малаціць. А чаму не ўмее? — бо ніколі, бывала, не працаваў, прыязджаючы з школы дамоў, а пайшоў вучыцца, яшчэ не ўмеючы малаціць. І задумаўся, што Лаўрыньцы яшчэ рана хадзіць на малацьбу, каб сям'я была большая.

— Ну, ну! — крыкнуў ізноў бацька, ні то з дакорам, ні то асмельваючы яго, няўмелага.

Тра-та-та!.. Тра-та-та!..— Бацька біў так, што аж снапы варушыліся. Лёкса малаціла па-дзявочаму: яе цэп не лятаў высока, але бічук лажыўся ўвесь і лажыўся ёмка, дзеўка была здаровая. Толькі бедны Лаўрынька «гладзіў», хоць і стараўся паказаць перад братам і сваю сілу і сваё ўмельства. Так наглядаў Лявон, махаючы то дужа высока, то калі хапаўся, каб не астацца, дык зусім нізка, і ўжо пачуў, што морыцца... Аж раптам — стаўся зусім брыдкі перабой. Тра-та-та! — і зноў трэсь! — ён няўмысля ўдарыў па цапу Лаўрынькі і цэп яму выбіў з рук. Лёкса ўсміхнулася, хоць і не хацела.

— Дык ты ж, братка, і ў чатыры не ўмееш,— сказаў Лаўрынька, падхопліваючы цэп.— Ці малаціў ты калі ў пяць?

— Кінь, Лявон: збіваемся! — прыхільна, але паважна сказаў бацька.— Кінь, брат, не твая гэта работа.

— Гэткія госці — добрыя. Што і малаціць ходзяць,— першы раз прамовіла і Лёкса і першы раз паглядзела на яго. Але як бы спалохалася, ці не сказала дрэнна.

— Не, не... Яшчэ трошку прайду... Гэта я няўмысля. Ужо болей не саб'юся,— выбачаўся і прасіўся Лявон з ніякавасцю ў голасе.

Ён напружыў усе свае сілы, каб болей не збіцца, каб паказаць, што і ён не горшы малацьбіт. Малацьбіты цяпер былі павярнуўшыся і ішлі ўжо ад варот, назад пад асецъ. Усе бачылі, што Лявон стараецца, і самі стараліся, каб ён не збіўся і каб не было яму сорамна. А ў яго ўжо лоб быў мокры, і ён чуў, што і на спіне, пад кашуляю, мокра. «Не дайду да канца»,— са страхам думаў ён, бо ўмеў малаціць толькі на правую руку, а яны ўсе, і Лаўрынька, часта мяняліся, то на правую, то на левую. І так дайшлі да пасяродку, да сахі, каля якой нязручна было яму прайсці, бо тарпа дужа нахілілася.

«Не дайду стараны,— някла прыкрая думка,— пастаю трошку, пакуль саху абойдуць». Ён паважна выйшаў з строю і абцёр пот.

— Лезь ты, Лявон, скідай з асеці на новы пасад, што там засталося, а гэтую старану мы ўжо адны дойдзем,— сказаў яму дужа ласкава бацька.

* * *

І хоць няхораша было, што ён, а не Лаўрынька адходзіць на лягчэйшую працу, і ўсе разумелі, нашто бацька так яму кажа, але быццам само сабою так зрабілася, што ён пайшоў да асеці, павесіў свой цэп і палез па драбінках у асетнае акно. Як улез, там было цёпла і пахла густым зямельна-жытнім пахам, які застаўся ў памяці з той пары, калі дзед пёк бульбу ў падасеццi і даваў яе маламу Лявоньку. Цапкі, на якія садзяць снапы, былі чорныя, спрадвечныя, можа, яшчэ дзед зрабіў іх у сваёй маладосці. Лявон сеў на цапкі, рассунуўшы іх троху і спусціўшы ногі на гліняны под, і ўзяўся за лёгкія сухія снапы; паволі скідаў іх скрозь аконца на ток. Адчуваў спачатку салодкасць працы і ўспамінкаў, звязаных з такою ж працаю ў даўных часах маленства. Але нейкі, перш надта маленькі і слабенькі, клубочак прыкрасці, нездаволення і жалю цяпер усё рос і ўзнімаўся вышэй. Лявон і сам не сказаў бы, адкуль гэтая крыўда і гэтая прыкрасць. Ці хацелася, каб малацілі машынаю, а не цэпамі? Ці хацелася, каб малацілі толькі дарослыя людзі, а не дзеці, як Лаўрынька? Ці прыкра было, што ён сам у іх вачах — нейкі недалуга, пан не пан, мужык не мужык? Можа, найболей было жалю, што ён адарваны ад простага, роднага... Што ён мае гэтыя думкі, якія мучаць яго? Можа, хацелася скінуць з сябе той смутак, тую хваробу духа, каб быць здаровым чалавекам?

Работа здавалася механічным ківаннем, яго жыццё — падобным да таго ківання. А што Лёкса тут, яму было зусім усё роўна. Толькі малюсенькае засмучэнне ахоплівала, што некалі быў такі наіўны, легкадумны, выабражаў сабе, што мог бы з ёю жаніцца... Пустота нейкая засцілала яго ўсяго. Найлепей было б зрабіць сабе смерць, і нават там, на чужыне, не едучы дамоў; брыдка было, што і ў гэтай справе казаўся ён такі непаважны, што і думку аб самагубстве зрабіў цяпер такою мізэрнаю, дурною думкаю. Пустота, пустота... Болей няма нічога. А некалі ж глыбока-глыбока адчуваў салодкасць жыцця, калі бывала скарадзіў папар і надвечар, змарыўшыся, садзіўся на барану і пад залатымі касякамі сонейка на заходзе з вялікім здаволеннем аглядаўся навакол, з вялікім смакам еў засохлы за дзень кавалачак хлеба з салам, маючы на тое за сваю працу поўнае заслужанае права. Дзе яно тое ўсё цяпер?

Калі развіднела, калі дамалацілі, зграблі ў кучу, адбілі агору, калі прыйшла матка і, вясёлая, гукнула снедаць, калі ўсе йшлі спрацаваныя, абкураныя вялікім сівым пылам, ды вясёлыя, здаровыя,— ён ішоў чысцейшы за іх ды панураны і разбіты. Усе будуць мыцца сцюдзёнаю, прыемнаю вадою... У Лёксы чорна ад пылу пад носам, а яна тым часам прыгожая, лёгка і супакойна ідзе снедаць і перад снеданнем будзе з асабліваю спаміж усіх рабачаёў прыемнасцю мыцца сцюдзёнаю, толькі што прынесенаю з калодзежа вадою. Лявон ідзе чысцейшы за ўсіх, яму нават няма патрэбы мыцца, даволі памыць толькі рукі, але затое на сэрцы ў яго так дрэнна, як ні ў кога.

* * *

І селі снедаць, і ён разам з усімі. Лёкса сядзела на ўслоне, супроць яго, з гладкім трохі чырвоным носікам і з круглымі, здаровымі і трохі далікатна-пакатымі плячмі пад дзешавенькаю паркалёваю блюзачкаю. Усе елі, усё ішло як трэба, як заўсёды ішло.

— Можа, Лявон еў бы сала? Чаму ты яму не адрэжаш? — сказаў, зірнуўшы на матку, бацька.

— Зараз, зараз... Толькі ад солі абчышчу.

— Дайце сабе...— нудна сказаў Лявон, безуважна думаючы, што сала ў іх мала; каб было досыць, дык усім малацьбітам далі б па кавалачку, і кожнаму хацелася сала, хоць і хавалі гэта ў сваіх сялянскіх вачах.

— На і табе, Лёксачка,— адрэзала трошку матка Лёксэ, а перад ім паставіла ўсё сала на талерцы.

— Што гэта вы? Нашто? — засаромелася дзяўчына і пачырванела.

— Ты ж у нас не свая, запрашоная малацьбітачка,— жартавала матка.

— Лаўрыньцы ж дайце,— сказаў Лявон.

— Ды ўжо ўсім адрэж па кавалку... што там! — загадаў бацька.

І ўсе сталі есці сала, адрэзанае ад таго самага кавалка, што ўчора стаяў на закуску побач з пляшкаю гарэлкі.

«Не свая, а чужая малацьбітачка,— падумаў Лявон.— А была б добрая мне жонка, каб я не ўчыўся і сядзеў на мужыцкай гаспадарцы... А падумай я зрабіць гэта цяпер, усе будуць супраць мае думкі».— Ён пільна, хоць і як бы няўзнаку, паглядзеў на яе чыстыя, круглыя і крэпкія рукі, засуканыя троху,— «зусім не карослівыя»,— уздумаў ён,— і далей узвёў вочы на яе не дужа прыгожы, але малады і прыемны твар. Яна адчула, што ён глядзіць, і шыбка ўзняла і паволі адвяла свае ціхія і па-дзявочаму ласкавыя вочы, прыгожыя, сінія, як у дзіцяці, вочы. Сонейка восені паказалася ў акне з-за надворнае страхі, асвяціла заліты капкамі, без абруса, стол, міску з гарачаю, з скваркамі, бульбаю. І Лёкса зрабілася нейкаю бледаю на сонейку, нясвежаю, а стан яе быў пахілены і быццам не дзявочы. «А пажыве пяць год з мужыком, у цяжкай працы, родзіць дзяцей — і зусім будзе непрыгожая, старая маладзіца»,— падумаў Лявон. А яна, як і без сонейка, старанна і сціпла сёрбала бульбу, кусаючы хлеб белымі роўнымі зубамі.

Лаўрынька маўчаў, і толькі з'еўшы сала, спытаўся ў Лявона, ці можна ўзяць з сабою ў поле «Нашу ніву», што ён прывёз.

— Якія табе там «Нашыя нівы» цяпер: трэба ж ехаць жыта завалачыць на ўзмошчы,— сказаў бацька паважна, але без злосці.

— Пакуль звееце кучу, я паспею газету прачытаць і каня прывяду,— не згаджаўся Лаўрынька.

— Чытака ты ўжо ў нас! — пасмяялася маці, а бацька маўчаў.

— Ну, а ты ж, Лявон, можа, пройдзешся ў поле ці ў лес пагуляць? — спытаўся ён, памаўчаўшы.

— Пагляджу... Можа, пайду...— Так сказаў, а падумаў, што трэба зараз пасля снядання аддаць бацьку дзесяць рублёў грошай, толькі пры матцы або нават ёй у рукі, хай бы яна іх і схавала... Бацька любіў выпіць.

І настрой Лявонаў за сняданнем мала зрабіўся лепшы. Хацелася спаць, чуў нейкую зморанасць, а думкі траплялі ўсё ў тую ж самую пустоту...

Лявон ішоў цераз пустое, голае поле.

На курганку хадзілі дыбатыя авечкі, у нізіне рыліся брудныя свінні, там і там цягаліся худыя каровы.

Пастух у старэнькім кажушку і з палатнянаю торбаю цераз плячо сядзеў на высокай мяжы і нешта рабіў.

— Добры дзень! — прывітаў яго Лявон, падышоўшы.

— Дзень добры,— ласкава, але невясёла адгукнуўся яму пастух і зараз пахіліў галаву ізноў на работу. З вялікага, мусіць, бярозавага, палена ён звычайным ножыкам выразаў лыжку.

Лявон з глыбокім жалем глядзеў на яго худы твар з рэдзенькаю бародкаю, на ўсё яго ссохлае цела ў старэнькім кажушку, з зжаўцелымі кудламі воўны ў незашытых новых і распайсаных старых дзірках, на яго бурыя сіваватыя валасы, што панурымі хвастамі тырчэлі з-пад замасленае і лёгкае ад зношанасці шапкі і прыгіналіся да тонкае, зморшчанае шыі... Сядзець яму было нізка, і ён выцягнуў доўгія, але сухія ногі, у жыдзенькіх ільняных штоніках і разбітых, раскалмачаных лапцях. А каля ног ляжала ў яго вялізная сабраная пуга, мусіць, доўгая-прадоўгая, бо дужа тоўстая спачатку і цянюсенечкая на канцы.

— Даведацца прыехалі?.. Ці надоўга ж, там, хаця пусцілі? — спытаўся ён у Лявона, як відаць, дзеля ветласці. Потым раптам усхапіўся на ногі, зірнуў вакол і крыкнуў на ўсю сілу пісклявым і сіпатым голасам: а юс, а юс ты там, ты там, а юс!.. Адылі схапіў пугу, спрытна размахнуўся і шлэснуў, як са стрэльбы. Ізноў сабраў — і сеў.

Лявон не ведаў, што сказаць, хацеў падзівіць яму, нашто мучаецца над лыжкаю з простым ножыкам, чаму не пазычыць сабе ў каго разца, але замест таго мімаволі падумаў: ці даўно быў гэты чалавек маладым і здаровым з выгляду мужчынам — і во ён ужо зусім дзед, і, напэўна, не паходзіць доўга па свеце... Падумаў і ўздыхнуў, нічога не сказаўшы.

Аж дзед загаманіў сам пра сваё, пра сваю жальбу, быццам бы яны ўжо вельмі шмат гаманілі ў гэтай справе.

— Ат, дурныя былі мужыкі! Не ўзялі, там, гэтых краюшкаў ля панскага балота... А цяпер, там,— дзе толькі троху расце, дык і не наша, а ўсё, там, панскае.

— Чаму ж яны не ўзялі?

— Дык я ж кажу, чаму, там: дурныя былі... Міравы пасрэднік ацаніў высока, бо вядома ж, там, за пана цягнуў. Ну, баяліся, што, там, не сплацяць, грошы трэба, там, многа, а дзе іх возьмеш, там, на гэтых голых бубачках.

Дзед пачаў нервавацца, усё часцей прымаўляў «там», кінуў работу і спярша задраў галаву, паглядзеўшы на Лявона маленькімі, але чыстымі і прыгожымі светла-шэрымі вачамі, а потым зусім устаў.

— А ў нашым балоце — ці і тады так дрэнна расло?

— Дзе там! Цяпер во не родзіць, там, балота, там, згарэла, спусцела...— Ён безнадзейна махнуў рукою і перакінуў сабраную пугу на другое плячо.— Дзе там! А на маёй жа яшчэ памяці трава, там, кучма расла, бывала, там, аж у пояс. Каровы пагоніш у балота — і не відна, там! А цяпер — што! Гразь, патапеча, не падысці, там... А-а-а! — раптам закрычаў ён, узняўшы галаву і паглядзеўшы далёка на ўвесь статак,— ізноў цябе... цябе, там, халера пагнала цябе, там, куды не трэба! А юс, а юс ты там, ты там, а юс!..

Шлэскаючы пугаю, пастух пабег далёка ў дол, зганяць свіней, а Лявон пайшоў на сцежку.

* * *

«Чаго я тут хаджу, чаго я тут браджу?» — мімаволі і дужа горка, што аж сэрца на момант замлела, падумаў Лявон, адыходзячы ад дзеда. «Чаго я тут хаджу, чаго я тут браджу?.. Не кукуюць тут мае зязюлюхны, не шчоўкаюць мае саловухны...»

Нястрыманы жаль разліўся ў грудзях, што аж цяжка было ісці.

## 6. НА МОГІЛКАХ

Ды ішоў, абы ісці.

Мінуўшы свае гароды і ўзняўшыся на ўзгорачак, блізка шляху, спыніўся, гледзячы,— куды лепей пайсці.

Навакол па ўсім логу, ад сцежкі, што выходзіла на шлях, да канавы, што тут ужо рабілася падобнай да рэчкі, быў купнік.

І ўздумаў Лявон, як у яго маленстве дзеці, ходзячы тут у школу, казалі, быццам чулі ад старых, што ўсе гэтыя купіны — магілы французаў.

Тут жа было некалькі сажалак, заплытых і зарослых гуткім пакрывам з моху, асакі і карэпня, на які не ўсходзілі ні хлопцы, ні коні, бо можна было праваліцца, а злашча ў познюю пару.

І казалі, што ў адной пейкай сажалцы ёсць грошы і заклятае машыннае дрэва... Кавалачкі гэтага дрэва, цьмяныя і цвёрдыя, іншы раз траляліся на лагу, калі хлопчыкі, закасаўшы калашыну, лезлі ў багна зрываць лілеі.

Казалі, што ў купальскую ноч і ўвосень у рабінавую ноч, а таксама і ў іншыя страшныя ночы, здаецца тут нейкае святло, баран без галавы, чорненькі сабачка і ліха ведае што...

З ціхаю думаю прыгадаў сабе Лявон, што некалі верыў жа гэтаму містычнаму страхоццю... Як даўно ўсё гэта мінулася і забылася!

Мілыя, дарагія часы маленства! Колькі страху набраўся ля таго мосту, ходзячы адзін позна вечарам са школы, колькі настаўнік кідаў да цёмнага за дуронства. Мост — могільнік — два пераходы, на якіх баяўся Лявон і глядзець у бакі, хоць дужа цягнула зірнуць.

Так пазнаваў ён свет у сваім маленстве.

* * *

Узышоў на масток, складзены з круглякоў, няроўных і абы-як збітых. Вось сляды панскага самакату: шырокая паласа елачкаю ад кола. У дажджавое надвор'е, а злашча і ўвясну, і ўвосень, часта тапілася тут на гаці машына, і з вясковых хат ішлі мужчыны і хлопцы, няслі задоўкі і лейцы, зачэплівалі яе і са смехам і гойканнем цягнулі яе на сухое, як бурлакі лайбу, за што пан даваў рубля. А гаць і мост так і векавалі непапраўленыя і непраезныя.

Наўкола было прыгожа, як заўсёды ў канцы лета, хаця ж было ціха-ціха і пуста, аж нудліва. Улева, у адзін бок, назад, разляглося аж пад далёкі лес голае поле, ужо выбітае пасля жніва статкам, паласатае ад вузенькіх шнуроў і бурых межаў і такое маркотнае.

Па той жа бок шляху, але ў другі бок, наперад, цягнулася зжатая ярына.

Дзе-нідзе яшчэ стаялі ўслоны з аўсяных снапоў. Па адным шнурочку былі бабкі і копы. Па шляху тарарахаў нехта на калёсах з жэрдзю, з'язджаў убок на сценку і

пад'язджаў да таго шнурочку: не адпрагаючы каня, станавіўся сярод бабак і, беручы адразу ў абедзве рукі шмат кароткіх снапоў за калоссе,— клаў на воз. Яшчэ далей выдзяляўся сярод жоўтага поля зялёны гарох і пажоўклы лапік бульбоўніка.

Хутка пусцее яравое поле і зробіцца, як і тое, жытняе.

Лявон пайшоў па лагу, ля рэчкі, уздоўж засеянага жыта. На душы было пакутна, і, мусіць, праз тое, тры бярозкі пры дарозе, першыя з логу, здаліся цяпер адзіноткамі, хоць і шумлівымі, як і раней, у маленстве, але быццам не такімі прыгожымі і нават мізэрнымі...

* * *

Край жыта загібаўся дугою, і за паваротам Лявон убачыў хлопчыка і дзяўчынку з граблямі. Яны падскрабалі камлыжкі з логу на раллю і разбівалі іх грабільнішчам, перавярнуўшы граблі дагары зубамі, і потым заскароджвалі.

Хлопчыка Лявон не ведаў, а дзяўчыну бачыў калісьці, калі была яна невялічкая, і ўжо забыўся, як зваць. Павырасталі ўсе за той час, пакуль ён бадзяўся па чужой старане. І дзіўна было цяпер адразу ўбачыць вялікай ужо і нявестай, ці замужняю, тую дробную дзяўчынку, што бегала некалі басенькая, у даматканай спаднічцы, накрыж матузкамі падвязанай на плячах, і ў памяці такой засталася.

Калі ён падышоў, хлопчык, маючы граблі на рабоце адною рукою, другою падцягнуў прызвычным рухам штаны і глядзеў на Лявона пільна з-пад шапкі. Жупанок быў расшпілены; чысты дзіцячы тварык і кончык кругленькага носіка трошку пачырванелі.

Дзяўчына хацела паказаць, што не прыкмячае, і руплей падграбала камкі. Рабенькая хустачка, шэры хатні паўсвітачак, падвязаная пояском, даматканая старэнькая спаднічка і лапці. Была ў тым свая самабытная прыгожасць, ды хацелася Лявону ўбачыць яе ў той бы спадніччы, ды скроенай складней... ну, і ў хустачцы, ды завязанай шырынкаю... і ў баціначках... Але ўжо не будзе тады свае старой прыгожасці.

Так думаў, калі падходзіў да іх.

— Дзень добры! — сказаў ён ім, жадаючы сказаць такім тонам, як казаў гэтае прывітанне ў вёсцы даўней, калі яшчэ не быў у свеце.

— Дзень добры...— з пералівамі, працяжна адказала яна, не зірнуўшы.

Шырокія шчокі, шырокі нос, чорныя бровы.

— Дзядзька! Дайце мне запалку,— папрасіў хлопчык.

— Нашто табе? — спытаўся ў яго Лявон.

— Пайду ў лес — вогнішча раскладу.

Лявон зразумеў яго жаданне і палез у кішэню па карабок. Якая любота пайсці на ляда і паміж зарасняў, ля пня, назбіраць трэсак, зложыць і падпаліць. Налажыць хворасту, і калі агонь праб'ецца на гару і абхопіць жоўтымі языкамі сучча — легчы тут, грэцца, глядзець, як агонь шугае, ліжа галінкі, дыміць і яснее; і думаць аб восені, ціхім змрочным вечары, доўгай чорнай ночы; успамінаць леташні год. І Лявон ахвотна даў хлопчыку некалькі запалак, бо ён пачуў родны дух... Абодва яны, і Лявон і хлопчык, былі сыны народу, душа якога праз гісторыю і жыццё на балотных і лесавых абшарах зрабілася падобнай да таго ціханька шугаючага цяпла сярод цемнаватага ціхага восеньскага надвор'я на пустым і адзінокім пакінутым лядзе... Так падумаў Лявон.

— Не давайце вы яму: у карты прагуляе,— сказала дзяўчына, шпарка зірнуўшы і паправіўшы хусцінку.

— Дадушы ж, не,— праўдзіва скрыўдзіўся хлопец,— я качарэжкі буду гнуць сабе ля коняй.

— Даю, даю веры,— усміхнуўся Лявон, прыемна гледзячы на дзіцячыя ясныя вочкі, праўдзівыя, скрыўджаныя.

— Яна сама падбіла папрасіць, каб зачапіць вас, а цяпер вунь!

— Што ж ты маніш? — засаромелася дзяўчына; скоса збоку зірнула на Лявона смяшлівымі вачыма ды пасунула хустачку наперад, а потым назад.

Пайшоў Лявон далей, на недалёкі ўжо могільнік, і рад быў, што ўбачыў таго хлопчыка. Прыемна было ўздумаць, што сам быў такі і быў шчаслівы. Пасвіў коні, ведаючы, што гэта — яго праца да зімы, да навукі. І быў горды, што коні ні разу не былі ў шкодзе, ні разу не заблудзіліся, былі гладкі. Быў рады, што жыве па-людску і мае права гнуць качарэжкі, класці цяпло і пячы бульбу. Увесь свет быў яму тады цікавы і поўны чароўнасці і прынаднасці; як лёгка было жыць! Праўда, былі незадачы, калі прагульваў у карты ўсе запалкі і гузікі, але было спадзяванне ізноў вярнуць. Праўда, было не дужа добра калець на дажджы, ды якія ж затое пасля добрыя ўспаміны. А цяпер?.. Чаго жыць, чаго жадаць, чаго шукаць?

* * *

Могільнік быў абкопаны зарослаю, неглыбокаю канаўкаю. Тут жа ад яго пачынаўся лог, і яшчэ ніжэй — цякла тая рэчачка. Старыя бярозы, як зялёны груд, вылзялялі яго на ўсім полі.

Лявон узышоў і здзеў шапку, чуў ціхую маркотнасць. Пайшоў туды, дзе была дзедава могілка сярод могілак усяе радні.

Толькі адзін, вялікі і высокі, нядаўна выцесаны крыж над свежаю, з бурых камкоў зямлі, магілаю і два-тры ўжо старэнькія меншыя крыжы стаялі, а то былі паваленыя, з адгнілымі канцамі, з выкінутымі крыжавінамі, заімшэлыя, трухлявыя, што ўжо адстаялі свой век. На іншых могілках былі гнілыя церамкі, адна-дзве дошкі, а то не было нічога. Могілкі рэдка ішлі ў парадку роўна, побач, а больш былі раскінуты як пападзя,— карацейшыя, даўжэйшыя, вузенькія і шырокія, усе нізкія. А дзе былі яны абы-як накопаны, там ужо цяжка было пазнаць: ці то згладзілася могілка, ці то так, проста зямелька вышэй.

Лявон падышоў туды, дзе, памятуе, маленькім быўшы, прыходзіў на радуніцу з усімі разам, і тут во, здаецца, абедалі. Пазнаваў мясціну, пахаваную ў памяці.

На радуніцу абедаюць людзі, сышоўшыся колькі сямей аднаго роду, на могілцы апошняга нябожчыка ці, калі то было дзіця, дык на магіле апошняга старога чалавека.

Старая, з выкручанаю дзіркаю (нехта не пасаромеўся і тут бярозавік падпушчаць), пахіленая бяроза, і каля яе — шырокая, нізкая магіла, абкладзеная старым, гнілым церамком і з дошкаю згары, пасярод. Дзедава, здаецца.

Хацелася кінуцца на яе ніц, прытуліцца блізенька грудзьмі і галавою і заплакаць. Выплакаць любенькаму, роднаму дзеду ўвесь жаль, усю крыўду, усю незадачлівую долю. І хліпаць так, хліпаць, чуючы мокрыя вочы,— хліпаць горка, цяжка, глыбока... А потым, пасля плачу, ляжаць тут, з палягчэннем уздыхаючы, і прасіць у дзеда рады і ласкі. Хоць бы і легчы тут з ім навекі...

Ці даўно тое было, як сядзеў ён, сляпенькі, з белаю бародкаю, старымі, выпетранымі, як сівы пыл, валасамі, у льняных белых штанах і беленькай кашулі з завязаным на шыі чырвонаю стужачкаю каўняром (сівыя валасы на грудзях віднеліся), сядзеў на запечку ля пука бобу і лускаў яго, складаючы ў кухлічак, а Лявонка, уткнуўшыся

яму ў падол, выплакваў горкую крыўду, што не ўзялі на калёсы, не павязлі ў поле, ехаўшы па снапы.

«Цыц, мой даражэнькі, цы-ыц!» — казаў тады дзед, і якая салодкая апора ў дзіцячай бядзе — гэтая дзедава спакойна-ласкавая гутарка і халаднаватая, худая рука на галоўцы.

Хацелася кінуцца і плакаць, як толькі можа плакаць душа чалавека, на гэтым замуравелым курганочку.

«Дзядулечка мой сляпенькі, ці чуеш ты, як ізноў шукаю твайго любага подалу, і ласкавай рукі, і пацехі ў жыццёвых незадачах?»

Сціснулася ў горле, і гатовы былі заплакаць вочы. Апусціўся на зямлю і прыхінуўся тут да магілкі з сваім сумам...

* * *

Паміраў дзед у позную восень. Ноч была, усе спалі, а дзед квохтаў і шаптаў ці думаў: «Калі ж ты па мяне прыйдзеш, мая ты смертухна?» І вось прыйшла яна ўслед за доўгаю хваробаю. Мусіць, пачуў яе... Злез з печы і з полу, ніхто не чуў, калі і як. Па хаце да парогу здолеў дайсці, і яшчэ за клямку ўзяўся, і троху дзверы адчыніў, а тут ужо захісталіся ногі, абвяла ўсё, і асунуўся на парог.

— Тадора! Та-до-ра! — слаба гукаў цётку Тадору, старую дачку, што даглядала яго перад смерцю.

І казала потым, успамінаючы і горка плачучы, цётка Тадора, што і сабакі тады на вуліцы загаўкалі трывожна.

Саскочыла яна, ускаркнула брата і нявестку, узялі яго, канаючага бацьку, на пол прынеслі, паплакалі, лучынку ўздулі, свечку запалілі. Лёўка прачнуўся і радасна-пажна сядзеў, і бачыў усё малы, і спагадаў дзеду, што хаценне яго здаволена, што паслаў-ткі бог смертухну... Тры ўздыхі глыбокіх; выцягнуўся, рукою свечку сцяў, другую з натугаю на грудзі ўзлажыў, яшчэ выцягнуўся, бязмоўна каўкнуў шырокім ротам апошні раз і заціх.

Так паміраў дзед. І божа ж мой, як борзда прабеглі гады!

Згнілі дошкі на церамку. І крыж той высокі, дубовы, цяжкі крыж, што збіў яго дзядзька Міхалка, і крыж той ужо падгніў; пахіліўшыся, стаіць адна палка, а папярэчына валяецца сярод сухазелля пад бярозаю. Мох парос, грыбкі параслі, чарвяточына сыплецца.

Жывыя аб жывым клапоцяцца, забываюцца на магільнік. Толькі на радуніцу так-сяк абпраўляюць магілачкі.

Вось незабавам і дзедава магіла зруйнуецца, а ці даўно ж тое было?

Ах, каротак час, а вось ужо ён, Лявон, дзедаў любы ўнучак Лёвачка, прыцягнуўся сюды, згнецены жыццём... Прымі, дзед, унука свайго...

* * *

Тут ціха, супакойна... Вось ужо колькі іх тут ляжыць, што знайшлі сабе вечны прыпынак, вечны спакой.

Вечны. Якое страшнае і вяліка-спакойнае слова... Вечны спакой...

Ляжаць старыя і маладыя, дзяды і дзеці, мужчыны і жанчыны. Ляжаць ворагі і другі. Усе ляжаць тутака пад бярозамі, побач ляжаць.

Усе ляжаць, многа іх ляжыць, вечна... Ноч, дзень, зіма, лета. Люты мароз скуе могілкі, сумётамі глыбокімі засыпле іх. Бярозы ў шэрані прыгожай непарушна, не шалохаюць, над імі стаяць. Дзьме замятуха, пішчыць, па полю круціцца; па шляху мужыцкія санкі паскрыпваюць; абмёрзлы конь цюхае, а яны ляжаць ужо... Ні сцюжы лютае, ні скрыпу, ні замятухі,— вечны спакой.

Звечарэе; у цямноце вецер снегам мяце, гудзе; можа, воўк дзе блізка прабяжыць, завые і на вёсцы сабак спалохае — мёртва тут, на могільніку мёртва... Чорная ноч.

Павее цяплом; збяжыць снег у дол цуркамі веснавымі, заззяе сонейка; лог жоўтымі, белымі краскамі зацвіце; бярозы зазелянеюць; прыйдуць людзі зрання з сякерамі, з грацоўкамі, бярозак маладзенькіх [illegible] лесу прынясуць і тут пасадзяць; дзёрну наскрыляюць, ляпаць тут будуць. Ды глуха ў магіле. Не пачуюць яны там гэтага ляпання...

А пасля абеду прыйдуць сюды старыя, малыя, прынясуць гарэлкі, яец свянцоных і ўсякай яды: пампушак, драчон, яечні, пячыстага, варыстага,— загамоніць, зазвініць гай. Пачнуць там-сям на свежых курганках выць жаноцкія зніцлыя фігуры... Паплачуць, пагаруюць, супакояцца, пачастуюцца... І надвечар пойдуць усе да хат: там будуць скокі і песні, музыка, а тут ізноў усё заціхне, апусцее, ноч зляціць ізноў чорная; у цямноце толькі лісточкі на галінках бярозавых пад ветрам варухнуцца; у вас ізноў вечны спакой.

Так і лета надыдзе; жыта забуяе, на лядах гар дымны пойдзе, зазвініць каса, серп шарпне; песня пакоціцца па полі, даляціць сюды... А тут толькі бярозы шумяць. А пад імі вакол хаткі ўбогай і пустой — вечны сон.

Так і восень ізноў. Ліст сыплецца... Хто жывы, здаровы, шчаслівы ўспомніць на вас, на заціхлыя магілкі?

Хіба часам руплівая дзяўчына прыбяжыць на матчыну магілу, сыпне на сохлую траву буйнымі слёзкамі: «Мамулечка любая! Благаславі на жыццё ў сямейцы чужой».

Хіба часам хлопчык з дзяўчынкаю ад статку з пужкамі, з торбачкамі прыбягуць жаліцца: «Мамулечка родненькая! Узяў тата жонку маладую, ах, у нас кашулькі нямытыя, у нас галоўкі нячэсаныя, хрыбцінка худзенькая, вочкі запалыя...»

Хіба часам яшчэ каго на вечны спакой прынясуць з плачам, ціхім гоманам; камкамі зямлі забарабаняць па беленькай, звонкай сасновай труне...

Зірнуў на гадзіннік Лявон. Позна, а куды хапацца? Няма куды, як ім во тут. Ужо няма клопату; не паедзеш у дровы, не павязеш нічога на торг, не трэба солі, не трэба газы, не трэба грошай у воласць вязці. Адзелі цябе ў кашулю чыстую, падперазалі тонкаю стужкаю; у лапцікі слабенькія, не носкія, абулі цябе, рукі табе зложылі, хустачкай звязалі, рукі жоўта-васковыя; падложылі пад галоўку падушачку лісцяную; астатнім цалаваннем цалавалі цябе,— і ляжы: вечны спакой!

Звонка, гулка труна, хатка вечная, зачыніцца.

Нахадзіўся, набадзяўся...

Могілку насыплюць. Дзякуй, як крыжык на колькі год паставяць.

І ўсё згінула, мінулася, расліна вырасце...

Чаму не скажаш, ці ёсць там што, чаму? Страшная твая загадка.

— Даруй, дзядуля мой,— зашаптаў Лявон,— што ў вадаверці тэй рэдка калі помніў на цябе.

Як быў у горадзе на могільніку — успамінаў свае гэтыя бедныя могілкі і думаў тады, бо яшчэ меў ахвоту жыць,— пастаўлю на дзедавай могілцы камень цвёрды з надпісам.

Не давялося, і нашто яно? Ці не ўсё роўна? Вось прынясуць і яго на вечны спакой. Хутчэй забудуцца, і лепей...

* * *

Адтуль пайшоў да хаткі-каплічкі. Дзверы віселі на адной завесе. На памосце ляжала жоўтае бярозавае лісце і шмат было лятучак — бярозавага семя. Адно цемнаватае акенца, пад самай столлю, з пабітай шыбаю. Вецер улятаў

туды праз дзверы да акна і калыхаў вытыканы махрасты кончык белага ручніка, што было падвязана драўлянае, старэнькае уніяцкае распяцце, прыбітае ў куце. Збоку ля яго быў чорны абразок Юрыя, што калоў доўгаю пікаю вужаку з трыма галавамі, а з другога боку — на адной руцэ вісела меншае чорненькае распяцце. Другая рука, разам з кавалкам крыжа, на якім была яна прыбіта, валялася кінутая на лаве,— вось і ўсё, што тут было.

Лявон узяў гэтую руку і прыгледзеўся, як старанна была выразана яна ў старыя гады пабожнаю рукою прыгоннага чалавека.

Крануў лаўку, нага вывалілася. Так было ўсё апушчана і ўбога.

І Лявон з нейкай нават радасна-злой прыемнасцю, якая бывае ў дзіцяці, калі яно пасля крыўды выстагнецца і надумаецца, як памрэ і ўсе будуць па ім плакаць, гэтак Лявон падумаў: «Няхай жа не спраўдзіліся тыя ранейшыя летуценні аб вышэйшай культуры краю і аб тым могільніку з мураванаю агарожаю, з падрэзанымі дрэўцамі, кветкамі, помнікамі, пясчанымі і чыстымі сцежачкамі.

Няхай жа. Вось нічога не збылося, не здалося, і ўсё застанецца, як было соткі год. Заваленыя крыжы, зрытыя свіннямі магілы».

І ён тут ляжа з усімі. І яго магілку зрые падсвінак, а крыж, чухаючыся, заваліць.

Яшчэ раз азірнуў убогае, роднае кладзішча.

— Спіце, родныя! І мяне чакайце да сябе...

Пераскочыў цераз канаву і пайшоў па мяжы да шляху.

* * *

Не то дым, не то туман быў далёка-далёка на небасхіле, пры лесе.

Слалася часам белая павучына. Ужо засохлі камкі на скароджаным шнурку жыта. А на другім, калі прыгледзецца, ужо вылезлі чырвоныя малюпаценькія расточкі — рунь.

Калі падходзіў бліжэй да шляху, з-пад лесу заклубіўся пыл. Ехалі паны на парцы стаеннікаў. Зляцелі з гары на гаць, затарахцелі па гаці, па хворасту і мяллю і забабэкалі па масту.

— Вось яны, гаспадары краю, будзь яны праклятыя! — горка падумаў Лявон.— Жывуць, замкнуўшыся ў сваіх гнёздах, а што ёсць вакол гэтых гнёздаў? Быццам толькі што пракладзеныя, гразкія, вузенькія дарожкі, там-сям

шырэйшыя, абсаджаныя па загаду царыцы-немкі бярозамі; гаці, ляды і балоты; куча хатак, як куча гною; цераз дзесятак вёрст — убогая цэркаўка мужыцкая ці касцёл,— і ўсё, і ўся спадчына, што мае краіна ад гаспадарання бацькоў, дзядоў і прадзедаў іхных. А гэта ж іхная родная краіна! І як ім не сорамца жыць у такой краіне?

Фаэтон лёгка пракаціўся міма яго. Маладзейшая паня, уся ў чорным, сумнымі, далікатнымі вачмі трошку павяла ў яго бок. Старая паня, пад чорным вуалем, і галавы не павярнула.

Нейкаю трагічнасцю і разам гніллю павеяла на яго ад іх.

І раптам з'явіўся ў яго складаны клубок пачуццяў, у якім была і пагарда да паноў, і крыўда за свой край і народ, і жаль на сябе самога...

Сорамна зрабілася, што ён, каго тут першага высунула спаняволеная і цёмная мужыцкая грамада бліжэй да волі і навукі, да праваднырства і змагання, што ён ходзіць тут як непрыкаяны, наракае, тужыць і думае аб смерці.

«На каго ж я наракаю, хто ж мне вінават? — з балючай яснасцю праляцела думка.— Што мне такое зрабілася, адкуль гэтая хвароба? Ці тут якая нездаровая спадчыннасць? Дык, здаецца ж, у раду маім усе былі здаровыя, цягучыя ў недагоднасцях жыцця, і жылі намнога. Чаму без прычыны робіцца мне так цяжка, так сумна, што калі-небудзь у ліхую гадзіну я, сапраўды, магу на сябе і рукі налажыць.

Фу, брыда! Прэч, нарэшце, гэтую нягодную думку. Ці ж я жыў? Ці ж я змагаўся? Ці ж я шукаў якіх новых шляхоў, калі тыя, якімі ішоў дагэтуль, не вядуць да мэты? Навошта я сюды прыехаў, каб наводзіць на ўсіх нуду сваім цяжкім настроем? Чаму я з усімі крывы, надзьмуты, нервовы, няласкавы? Чаму я распушчаю сябе? І ў гэтым уся мая «вучонасць» і ўся мая «інтэлігентнасць»... Фу!»

Ён мімаволі пачырванеў.

«Людзі ідуць за народ на смерць, сядзяць у турмах, пакутуюць у Сібіры, усімі сіламі падкопваюць той гнёт, які прыдушыў нас. А я? Што я раблю? Чым я, паглядзеўшы на мяне збоку, чым я лепшы за гэтых паняў, якія праехалі міма мяне, сумныя, чорныя, надзьмутыя?»

Жаль і прыкрасць разліліся ў сэрцы.

«Неўрастэнік я няшчасны...» — прашаптаў сам сабе, і слёзы пырснулі з вачэй.

Пайшоў шыбчэй і чуў, што з'яўляецца ўжо бадзёрасць і рашучасць, жаданне жыць і змагацца.

«Дзядуля мой родны! Я йшчэ пампучуся за цябе, за ўсё тваё гора, пакуты. Зубамі буду грызці той гнёт, які душыў цябе! Краіна мая родная! Мы, твае верныя сыны, яшчэ перабудуем цябе! Не будзеш ты такая сумная і ўбогая!»

І ішоў усё шыбчэй і шыбчэй, шаптаў сам сабе словы радасці і ўцехі, чуў сябе моцным і адважным, хацеў ляцець...

Надумаўся ўзяцца за сялянскую працу, працаваць да поту, гаварыць з людзьмі, казаць ім аб вызваленні і лепшым жыцці, усведамляць іх... Адпачнуўшы троху ў бацькі, паехаць зноў у свет, на сваю працу, а там ужо будзе відаць, што і як...

## КАЛОНІІ

### I

Была ўжо чорная брудная восень, калі каморнікі, патрон [1] і аплікант [2], усё яшчэ білі хутары, ці, па-тутэйшаму, калоніі, у глухім куце на захадзе Беларусі.

Аплікант намагаўся, каб канечне нарэзаць хутары да зімы і барзджэй уцячы з гэтай убогай шляхоцкай ваколіцы ў горад на зімаванне.

Патрон жа нядбала марудзіў і цягнуў дзяльбу зямлі да снегу...

— У жыцці сваім бядовым працую ў трынаццатай губерні, братку мой,— казаў ён у бясконца цёмны, як магіла, вечар, калі пасля невялічкага, мутнага і сцюдзёнага дня восені гудзеў за вокнамі вецер, хвастаў і церабіў у садзе галлё на яблыньках і ігрушах.— Дык хапацца нам няма чаго, у чатырнаццатую пасцею за маё пачтэніе,— дадаваў ён, моршчыў стараватыя голеныя вусны і дужа дзьмухаў на планы...

Калі кур-пыл ад попелу і табакі патроху палягаў, патрон выпраставўся, стаяў нейкі час, грубы, асадзісты, ля столу; расставіўшы ногі і ўзяўшыся ў бокі, з жартлівым сумам у вачах аглядаў працу сваю і жалоснаківаў галавою.

— Эх, братку мой, робце віхор, як я, дый па ўсім! —

[1] Галоўны каморнік.
[2] Практыкант.

казаў ён і даставаў з паліцы трохрадны венскі гармонік; садзіў потым цяжар свой на ложак, што аж крактаў, і сыпаў вясёлую полечку.

Апліканту было горача. Чуў ён сябе быццам пасля спрэчак.

З расшпіленым каўняром, шчупнуўшы далоняю лоб, ішоў ён на двор на мокрую цямноту. Там, у кінутым, пустым садзе, прытуляўся да мокрае кары ясакара. Часам слухаў, часам мімаволі чуў гуд яго безупыннай маркотнай гутаркі па-над сабою, адкуль зрэдку скідалася прыемна-сцюдзёная кропля за шыю; глядзеў і глядзеў у чорнае начовае правалле, не маючы на чым застрэміць вочы.

І выходзіў патрон. Мацаў рукою па вушаку і разважаў галасна і быццам здаволена:

— Маць часная! Хоць вока выкаль!

Пашлёпаўшы па гразі каля ганку, гукаў ён апліканта і ішоў сабе назад у хату.

Гаспадыня, старая і згалелая шляхцянка-ўдава (яна жыла з дзвюма дачкамі, а сын быў у свеце), напускала тым часам паўнютку хату смуроду і чаду, пакуль насмажвала бульбы і прыходзіў час вячэраць.

Тады патрон, скончыўшы «танго з уласнымі дадаткамі», кідаў гармонік на збітую коўдру, хрустаў пальцамі, пазяхаў, пацягваўся, гаворачы: «Ат! усё, братку мой, тло на свеце»,— і ішоў за стол.

З нейкай асаблівай круткасцю, уласціваю п'яніцам, сагінаўся, знаходзіў пад столлем і бракаў ля міскі пляшку; потым праціраў ражком абруса чарачку, паважна і моўчкі наліўшы, жартаваў: «Землямеры п'юць без меры»,— і перакідаў чарачку ў шырокі рот. Дзеля гадзіся, каротка запрашаў безнадзейнага ў гэтай справе апліканта: «Можа і вы? Проша!..» З'еўшы добры кавалак бараніны і паўмісак смажанае бульбы, ён наліваў сабе яшчэ, выпіваў да дна (але ўжо не так крутка), заядаў, выпіўшы, скарыначкаю хлеба з соллю, рабіў вялізную кручонку, зацягваўся ўсмак, з хітрым усміханнем, пазіраў на апліканта і мармытаў сабе пад нос: «Ат, усё, братку мой, тло на свеце...»

За пераборку, дзе жыла гаспадыня з дочкамі,— з меншаю, чарнамазаю і смяшліваю, Міхасяю і з большаю, тоўстаю і шапяляваю, з слінкаю ў ражках вуснаў, Стэфцяю,— штовечару прыходзілі шляхоцкія дзяўчаты. Яны там спярша паціху жартавалі, потым стракаталі, як сарокі, нарэшце, драпаліся па пераборку, да шчылін і раптам, зарагатаўшы, уцякалі, калі аплікант узпімаў галаву.

Гармонік у патронавых руках пад той час, ужо проста як жывы, галасіў кракавяка, ці полечку, ці кадрылю.

Во — дашчатая сценка хілілася ў каморніцкі бок надта значна; дзявочыя босыя ногі шамалі па земляной падлозе, як пацукі, а вочы бегалі ў шчылінах.

І гаспадыня прыглушона, але, каб чулі і каморнікі, сіпела на свавольніц: «Дальбог жа ж, паломіце! Што гэта вы робіце? Ідзіце тудою, калі вам трэба...»

Патрон заўзята-весела перакідаў гармонік з калена на калена, а кудлатую галаву крутка адкідаў набок і зычна запрашаў, пакрываючы ўвесь гук:

— Ходзьце, ходзьце, паненкі, да нас! Полечку таньчыць...

За пераборкаю чулася радасная тупаніна басанож па зямлі. Пераборка трашчэла і хілілася, лямпа там чагосьці гасла. Малады сквіл і рогат зліваўся з гармонікавым рыпаннем і з лямантам старой гаспадыні.

Тады патрон паважна злязаў з скрыпучага ложка, не гледзячы ўніз, выблытваў нагу з коўдры, што злезла і валаклася за ім, іграў і, іграючы, ішоў за пераборку (ход быў цераз сенцы), ішоў вагам, без аніякага паспяшання, грубы і сыты, асадзісты,— «навадзіць парадак»,— казаў ён.

Аплікант укручваў кнот у лямпе, трошку адхіляўся і па-зладзейску, каб хто не ўбачыў, даставаў з кішэні фатаграфічную картачку. Прыгожы дзявочы тварык цягнуў да сябе яго вочы...

— Аей! Не вырабляйцеся! — далятаў з-за пераборкі голас і выводзіў апліканта на часінку з сумнае задумы. Там, адбіваючыся ўпоцемку ад патрона, пішчэла чарнабровая Карольця (бровы ёй быццам звёў хто чорным вугалём).

— Жартаўнік наш пан, жартаўнік,— кажа гаспадыня, калі рогат троху ўціхае.— А паніч адзін там слухае, не хочуць да нас зайсці,— зварочваецца яна ў другі бок за пераборку.

## II

У пахмурна-імглістую раніцу адбывалася іншая музыка.

Быццам мокрае балота бясконцу паўзло з усіх бакоў і наліпала на людзей, на голыя дрэвы, на змоклую курыцу, на няўважна-маркотную карову, што трымае забытую ў роце саломіну і стаіць, схаваўшы перад тулава пад павець, а худыя храсткі аддаўшы на волю безупынным капкам і дробным цурочкам з гнілое страхі.

Імжа, рось, якая нават усё нутро вымачыць,— сыплецца згары, з бакоў і немаведама адкуль яшчэ.

Ваколіца, як пастух у дзіравым жупане па дажджы, прынікла і маўчыць.

Але трэба ж варушыцца, бо мокра ўсюды, і ппецца ў хату шэрае ранне.

І шляхота варушыцца...

Вось на двор, дзе жывуць каморнікі, бяжыць сабака; поўсць дыбарам, падуздухі мокры і запэцканы. Следам за сваім сабакам ідзе выбарны пытацца, ці пойдуць з ланцугом у поле і колькі трэба людзей. Ён і сабака абтрахаюцца ў гаспадыні. Сабака застаецца там, а выбарны цераз сенцы прыходзіць да паноў каморнікаў, тупае ля дзвярэй і кажа:

— Няхай будзе пахвалёны Езус Хрыстус!

Патрон маўчыць.

— На векі вякоў,— гаворыць з далікатнасці аплікант.

— Амін! — дадае тады патрон і, усхапіўшыся, моцна крычыць:

— Здароў, абраны паўнамоцны!!

— Здравім жалавім! — выпроствае той свае высокія, але спушчаныя плечы; усміхаецца, сягае адзін раз бліжэй — і яшчэ раз, весялейшы, дадае:

— Здравім жалавім, пане каморнік!

Потым доўга, зводдаль, дзівіцца на планы і троху-патроху няўпрыцям ізноў схіляе свае худыя плечы. Маўчыць і нарэшце знаходзіць патрэбны сказ:

— А божа ж наш мілы, якое сушэнне галавы гаспадом...

Аплікант нецярпліва чакае, калі ўжо абраны здыме з іх прастасэрды погляд сваіх шэрых, выцвілых сялянскіх вачэй. І-ткі абраны выходзіць пабавіць час у гаспадыні і пагаманіць троху пра будучыню, пра жыццё на калоніях. Ён здаволены, што за хлябаю ў поле не ісці.

А ў гаспадыні сядзіць ужо стары Казюк: чуваць яго грудны назаўсёды прастуджаны і сіпаты голас. І аплікант чакае: зараз пакажацца яго высокая худая постаць з сівымі невялічкімі і рэдкімі валаскамі замест вусаў і барады.

Казюк з жонкай — бяздзетныя, жывуць зазвычай дзесьці на заробках ля чыгункі, а зямлю іх урабляе Казюкоў брат — Стась. Цяпер, цэлае лецейка, увесь час памеру зямлі, сядзелі старыя ў ваколіцы — пільнавалі, каб не было ім якой крыўды. Яны нічога не зарабілі і таму злавалі.

Калі аплікант нервова пазірае на дзверы, чакаючы Казюковага прыходу, патрон, на часінку ўзвесялёны выбарным, а цяпер ізноў маўклівы і аспалы, як тое бязгоднае ранне, непрыемна буркае:

— Чаго вас разбірае? Што ён нам? Ну прыйдзе, ну вытурым, і па ўсім...

І Казюк прыходзіць. Ён кажа «пахвалёны» і робіць выгляд, што лезе цалаваць у руку паночку-каморніку. Але той махае, каб не лез.

Тады Казюк заблытана, марудна, часам хліпаючы і абціраючы слязу, просіць, каб яму сялібы не знасіць, нават каб прырэзаць кавалачак зямлі пры хаце, а з далёкай сенажаці яго долю не чапаць, бо ён тамака ўдвох з сваёю старою тры гады рышты капаў, прыходзячы на тое здалёк, з Савіцкага Поля, а калонію яго каб далучыць да зямлі суседняй ваколіцы, дзе жыве жончын пляменнік, і яму ён адкажа зямлю, і каб зрабіць у паперах моц, што пляменнік за гэта і яго і яго жонку, а сваю цётку, да смерці будзе карміць і даглядаць, а як памруць, — пахавае палюдску.

— А яшчэ, даражэнькі паночку, няхай ён мне пашые боты за маю ласку. Вось жа сам пан бачыць уборы мае,— трасе Казюк перад каморнікам сваімі лахманамі.

— Мая хата з краю, нічога не знаю,— кажа каморнік на ўсю яго каніцель і коле яго прыкрай жартлівасцю, захованаю пад паважны тон,— як прыедзе член камісіі, што завецца не-пра-мен-ны член, вось ты і прасі яго, толькі ён адзін і можа даць тут рады...

— Беспраменны...— без яснай думкі мармыча тады Казюк.

— Так, так... Ну, ідзі ж, ідзі, братку мой,— кажа каморнік,— а то замінаеш нам сваімі размовамі.

Казюк стаіць. Ён хліпае, ціскаючы, як усе старыя, калі плачуць, рукавом капоты свае няўзоркія ад лецяў, змучаныя маленькія вочы, і мармыча, патроху падвышаючы сіпаты свой голас.

— Божухна-бацюхна! Каб яна ўся гэтая проклятая зямля праваліласся наскрозьдоння. А нашу ваколіцу каб і зямля не прыняла. Каб яны дзетак сваіх пахавалі, хто падаў прашэнне на калоніі, каб іх пярун папаліў на чыстым полі!

Тады паціху адчыняюцца дзверы і спачатку вынікае шчэрба ў разяўленым роце, а потым уся галава і патроху

ўся гаспадыня. Следам маячыць абраны паўнамоцны. Яны з двух бакоў дыргаюць адзаду Казюка, каб выходзіў.

— Пятрунэля! Не чапайце мяне! Мне і смерць не бог ведае што,— бярэ ў гэты час самую высокую ноту Казюк, абараняецца, адштурхваецца, але патроху тым часам пасуваецца бліжэй у парог.

За пераборкаю дзяўчаты аж клаліся са смеху. Пэцканая Міхася, амягаючы, крыўлялася перад сястрою, строячы Казюка, яго шал, а Стэфця, шапялявячы, з слінкай у ражках вуснаў казала:

— Дзядзька Казімер — хітры, халера! Як мы, дурныя, будзема крычаць пасля памеру, а ён дык цяперака мардуецца... Спрабуйце яго пакрыўдзіць, калі ён гэткі грозны асэсар, ха-ха-ха!

— Я да ампэратара дайду! Не такіх яшчэ паноў начальнікаў з пасады скідалі, а вы нам мала значыце! То, пане, табе не вёска! — грыміць Казюк на вуліцы, шлёпаючы па глыбокай гразі...

Патрон маўчыць і сапе. Аплікант у смяротнай тузе механічна поркаецца над планам і думае: «Пэўна ж, прыйдзе яшчэ і Сымончыха».

Мужык Сымончыхін памёр у гэтым леце, вярнуўшыся з Амерыкі. Ён кінуў жонцы ўбогую гаспадарку, старэнькую хацінку і груд дробных дзяцей. Сымончыха і цяпер была цяжарная, грубая; уся ў рабацінні, але з тварам, як тая ліпіна, збялелым, з вялікімі, назаўсёды спалоханымі шэрымі вачмі. Прыходзіла яна заўсёды з дзяцьмі: самы большы — Франак, ішоў «за мужчыну», як гаспадар. «Цяперака Франак у моду выйшаў: як па вуліцы ідзе, усе сабакі брэшуць»,— шкелілі хлопцы. Малога нясла ў сябе на ўлонных, а хударлявенькую дзяўчынку ў братавай, з даўгімі рукавамі, капоце прыводзіла за руку. Ёй з калоніяй выйшла добра: аставалася на сялідзьбішчы, на ўпагноенай гароднай зямлі, з сенажаткай і рэчкаю. Аплікант не мог зразумець, чаго яна прыходзіць штодня выць і канькаць. Ці жадала ізноў і ізноў пачуць ад людзей, якую добрую калонію будзе мець яна, і пайсці дамоў супакойней, смеючыся скрозь шчаслівыя слёзы?

Сёння яна не прыйшла, затое прыходзіць Стасюк.

Стасюк, малодшы Казюкоў брат, высокі і маўклівы мужчына, залучаў да каморнікаў рэдка, але быццам пільнаваў таго часу, калі якраз цягнулі за прыпалы яго брата з каморніцкага памяшкання. З вялікаю каменнаю крыўдаю грымеў той адным ладам і Стасюку: «Слухай, братка, век

з табою не спаткаюся. Век буду клясці!» Адпак жа на другі дзень цягаў ён разам з братам сталёвую каморніцкую стужку, капаў капцы — і быў ціхі і добры.

Сёння Стасюк, прыйшоўшы да каморнікаў, азірнуўся, падышоў бліжэй і паніжонай шпаркай гутаркай папрасіў:

— Папочкі. У мяне дзеці дробныя... Я, гэта, вось... можа, вам патрэбна свежае масла або яйкі... У мяне дзеці, а яны старыя, толькі ўдвох: ён ды жонка... Калі будзеце маю з братам калонію напалам дзяліць, як запісана ў пратаколе, дык ці няможна б, гэта, мне трошку перапусціць? Папочкі... я ні за чым не пастаю...

І калі Стасюк так казаў, яго невялічкая круглая шапка-варшавянка бегала з рукі ў руку.

## III

Быўшы смутному, трэба развесяліцца...

З народнае песні

Даўно мінуліся тыя рэдкія сонечныя пагодлівыя дні, калі ўранні хрусталі пад нагамі ільдзінкі, як шкло; калі адтайвала груда на вуліцы і калі празрыстае, ядранае паветра, сіняе неба і прыемны, араматны дымок яленца ў полі, дзе пастушкі клалі цяпло, калі ўсё гэта бадзёрыла і асвяжала і паддавала весялосці ўдзень і ахоплівала засмучонай кволай прыгажосцю ўвечары; мінуліся тыя дні, калі, бывала, садзілася чырвонае сонца, а залатое лісцё, падхопленае ветрам, шуршэла і мільгала з-пад голых, смутна-спакойных дрэў, далёка-далёка па невясёламу раздоллю, па полю халоднаму, голаму, блізка што зімоваму; ах, мінуліся тыя дні.

Размачылі зямлю бясконцыя дажджы. Мокры, хлопам, белым роем снег штодня зрэдку злятаў на зямлю і знікаў у гразі.

З надвор'я людзі і жывёла пахаваліся ў хаты, пуні і цёплыя прытулкі, бо дзьмухала не жартам сіверка і сцюжа.

А ў гэты час, з акалелымі, чырвонымі і неслухмянымі рукамі, бегаў яшчэ аплікант па полю з тэадалітам, шукаў нявязку ў з'ёмцы і горшай долі не мысліў сабе... Марудна цэнтраваў ён інструмант на размоклых ужо капцах з пахіленымі слупкамі. Работнікі, нудныя і пакорпыя, цягалі сталёвую стужку, часам клалі цяпло і тады троху ажывалі. Аплікант таксама садзіўся на кукярэчкі і грэў рукі, хухаў на пальцы; а пальцы, як граблі, не ўладалі алоўкам, і чырванелі, як буракі, і балелі.

Кароткі дзень шпарка мінаўся.

Дым, і мгла, і змрок ахінулі далечу. Прыдарожны альшэўнік згубіў выразнасць контураў і зліваўся непрыкметна з тою муццю і шэрасцю, што была наўкола.

А полымя шугала, і работнікі ажывалі.

— Учора па абедзе,— казала смяшлівая Міхася, каб сагрэцца,— дзядзька Казюк ледзь не сканаў. Уважыў дзядзьку Стасюку свае зямлі два сажні і пасварыўся з цёткаю, дык яго і хапіла за жывот. Пайшоў да Стасюка, упрочкі ад цёткі, лёг на лаўцы пад абразамі... Людзі думалі — памірае. Насыпалі яму ў бутэльку лыжку сажы, лыжку солі і набухторылі вады,— пі! — кажуць яму. А ён: «Не хавайце мяне тутака. Вязіце мяне да Савіцкага Поля».— «А тутака?» — пытаюцца. «А нех тут усё возерам сойдзе: і хаты, і людзі, і могільнікі. Аей, аей! Няхай, кажа, во так пакруціць (Міхася круціла карэлымі застыглымі рукамі, моў Казюк), памуціць во так... во, ды ў балота. Во, панясу гэны рубель да маткі боскай вострабрамскай, каб яны счарнелі, як сажа, усе гэтыя парахвіі наўкола». А сам чорны, чорны ад сажы... Ляжыць, стогне...

Усе смяяліся, і сам Казюк, слухаючы гэтую камедыю, смяяўся.

— Ат, дурніца! — казаў толькі ён і спакойна стаяў, трымаючы рукі над цяплом і адхіліўшы вочы набак ад горкага дыму.

— А Карольцін бацька ўначы па полю бегае,— убіўся Франак у гутарку.— Карольцін бацька,— казаў Франак далей,— калі зямлю ціанілі, з поля ўцёк, а цяпер, як нарэзалі замест дзесяцёх толькі чатыры з паловаю дзесяціны, дык учора ўночы мераў крокамі калонію ўдоўжкі і ўшыркі. Лічыць-лічыць, саб'ецца, падхопіць полы, як кінецца ўгрунь назад.

Так намагаўся развесяліць кампанію Франак, але ніхто не засмяяўся.

— Ат, блазнюк, мелеш, як дурань! — злосна зірнуў на яго стары Казюк, і хлапчук змоўк.

«Восень на сходзе. Калоніі зроблены, зроблены...» — разважаў аплікант, слухаючы тыя размовы, і паўсёдная апошніх дзён туга забірала яго ўсё глыбей.

У самым прыкрым настроі, які надходзіў да крызісу, цягнуўся аплікант з поля дадому сярод змрочных павеваў. Следам ішлі работнікі; Казюк, самы пэўны на тое, нёс на плячы трыногу з прышрубаваным тэадалітам («квакуху», як ён казаў).

Во перайшлі па каменні бурлячую рэчку. Абмінулі каменныя груды на межах шнуроў і гусценныя парасні яленцу, што зялёна-чорнымі купамі падбягаў па долу аж да самай ваколіцы.

Ужо заміж вакаёму быў цёмны вечар, гаўкалі ў ваколіцы сабакі і маркаталі загнаныя ў пуню авечкі...

«Зроблены, зроблены...— разважаў аплікант.— Рабіце як лепей,— казаў непраменны ў часе размеркавання зямлі і ізноў са смакам апавядаў аб паляванні ў лясах Кастрамское губерні, адкуль сам родам.— І вось зроблены, зроблены... І як цяпер будуць разжывацца гэтыя няшчасныя шляхтуны?..»

Ён ішоў па вуліцы, прыгнецены сваім сумам, і ведаў, што ўвечары, пад патронавы полечкі і кадрылі, будзе зусім блага на душы і захочацца стаяць доўга-доўга ў садзе пад ясакарам.

Вуліца не цешыла.

Раптам і зняцейку з Сымончыхінага двара выкацілася, як бомба, пялёса-рудая лычкастая свіння, за ёю, з закруткаю, раз'юшаны і спуджаны, імчаўся Франак. А за імі з двара пацягнулася балючае бабскае выццё:

— А божа ж мой, божа! А божа ж мой, божа!..

«Што гэта? Забіваюць каго, рэжуць? Забілі?» — гэткая думка праляцела ў галаве кожнаму.

«Нехта з дзяцей сканаў,— падумаў аплікант.— Але па малых дзецях так горка тут не плачуць... Нейкае большае гора».

А баба галосіць а галосіць. Галосіць страшна, жудасна...

Накінуўшы капоты, схапіўшы шапкі, выбягалі людзі. Ляцела ў сваёй расшпіленай блюзцы тоўстая шапялявая гаспадыніна Стэфця.

Аплікант узышоў на Сымончыхін панадворак. У пустой цёмнай пуні, ля сцяны, схіліўшыся над нечым, як над нябожчыкам, выла Сымончыха.

Свіння, выбіваючыся з духу і скігочучы, памчалася праз панадворак. Франак з паломленым кійком, важка дыхаючы, падышоў да апліканта.

— Чаго матка вые?

— Свіння ніткі пагрызла...

А гаспадыніна Стэфця, усё асачыўшы, шапялява дадала:

— Сухотніца ніткі на кросны аспавала, павесіла сушыць, а свіння іх пажавала і троху парвала...

— І ўсё? — запытаўся аплікант.

— Дык яна во і вылічае,— быццам бязвініла сябе Стэфця перад ім, што навіна зусім невялічкая. І смяялася з сваёю вечнаю слінкаю на вуснах.

Сымончыха выйшла з пуні, трымаючы ў хударлявых руках перад выпнутым цяжарным жыватом пажаваныя ніткі — губкі дзве-тры,— аснаваныя ўдзень на кросны. Яна ледзь жывая, як пахаваўшы самага дарагога і любага чалавека, сударжна і бяссільна ўжо хліпала, ні на кога не гледзячы, і пахіленая цягнулася па смуроднай патапечы панадворку да разбуранага ганку хаты.

Аплікант з пераломаным настроем прыйшоў на кватэру, калі гаспадыня смяхотна апавядала аб пракудзе патрону, запальваючы лямпу; выглядаў з-за дзвярэй Казюк і нейкія жанчыны. Усе смяяліся, былі дружней паміж сабою і смялей з патронам, а болей за ўсіх заходзіўся стары Казюк. Аж захлібнуўся, ніяк не мог адкархацца і выцерці слёзы. Рагаталі за пераборкаю дзяўчаты.

Аплікант таксама засмяяўся, падумаўшы.

Калі каморнікі вячэралі, патронава «проша» першы раз не засталося без увагі з яго боку. «Чаму ж не сагрэцца пасля такой працы? — разважаў ён.— Што я ўсё бядую, як тая Сымончыха?..» Калі ж цяпло прыемна разлілося па жылах, быццам нейкі чорт дыргаў яго пахваліцца, што яму... добра і вясёла.

Пасля вячэры патрон зайграў полечку. Дзяўчаты, штурхаючы адна адну, прыйшлі ў каморніцкі пакой, і таньчылі колькі хацелі, і зусім не саромеліся апліканта. І калі чорт ведае хто ўшчыкнуў Міхасю, нават звярнулі на яго. Патрон падміргнуў яму і сказаў, кідаючы гармонік на другое калена, а галаву набок:

— Брава, брава, «пан Тадэвуш»! Што панна, што Ганна...

Аплікант на гэта не надта ўзлаваўся; толькі падумаў: «Дае чаму веры стары цынік...»

Позна клаўшыся спаць, сярод дыму ад тытуню і пылу ад скокаў, ён неяк выкінуў з кішані фатаграфічную картачку; блізка пад ложкам стаяла скрынка, і ён кінуў картачку туды.

— Усё тло...— буркнуў ён пад коўдраю і ўсміхнуўся: не то свіння ўцякала перад вачмі, не то было так сабе нешта...

Прабегла ў галаве: кінуты, апусцелы сад; шуміць мокры ясакар...

І на тым соладка заснуў.

# ЦІХАЯ ПЛЫНЬ

## ЗАБЫТЫ КРАЙ

З левага боку Дняпра, за дзень летняе хады ад яго, абнятае з трох бакоў балотамі ды хмызнякамі беднай Плёскі, прытулілася тое Асмолава пры вялікім некалі шляху з Вялікага княства Літоўскага на Масковію.

Мялее і нядужае стары нябога Дняпро. І потым таго выбілася з духу Плёска. Дзе зусім парвалася, усохла, кінуўшы знак калішняй магутнасці — глыбокі замуравелы равок-рэчышча; дзе расцяклася далінoю, зрабілася багнам, вязкім і непраходным, зарасла купнікам і вербалозам; троху-троху блішчыць яна абы-дзе рудым, як помаз, іржавеннем спаміж зялёнай асакі, залатога балотнага казельцу і кураслепу. На высокіх купінах — багун, медуніца. Тхне жалезам... У цёмную восеньскую ноч страшыць Плёска нямою глухатою адзіноту-падарожнага; быццам нешта чорнае з купніку вылязае, стаіць...— так здаецца яму.

Заглушэў зусім вялікі стары шлях. Размыты з бакоў веснавымі ручаямі, пакарбачан даўнымі засохлымі калюгамі; дзе вышэй — парос калматай муравою, дзе ніжэй — шурпатай маці-мачыхай. Спустошыўся і змоўк. Дзень і ноч, зіму і лета, маўкліва-патаённа думае думы, якім борздым лётам ляціць усё ў вечнасці. Пабіты перунамі прыдарожныя бярозы. Дагубілі іх сваімі вогнішчамі начлежнікі і пастушкі. Якія ж нeяк яшчэ ацалелі,— быццам сіроты маячаць яны, бедныя, старыя, дупло на дупле, каржавыя. І яшчэ болей нaганяюць пустэльпаму шляху смутных успамінаў; ціхім, роўным векавечным гоманам веццяў свайго яшчэ болей дадаюць тут глухаты, пустэльнасці і маркоты.

У кутку крутой дугі, якою выгнулася Плёска, спіць гара, а на гары там — гарадзішча. Нейкія курганкі і могілкі; заімшэлыя каменныя крыжы, раўнабокія, грубыя, са сцёртымі ад даўных часоў нейкімі літарамі і ўсякімі зусім незразумелымі насечкамі; яны ўехалі ў зямлю, а вакол іх валяецца пакрышаная цэгла, чырвона-буравaтая, старая,

чорны аскялёпак дрэва; дзікае зелле з былінкамі, у якіх глуха звоніць вецер,— і больш няма нічога.

Ніжэй, на шырокім зялёным сухадоле ўжо ў пазнейшыя часы паставілі шчырыя цёмныя людзі над крыніцаю каплічку. У ільінскую пятніцу бывае тут адправа. З усяе акругі з'язджаюцца спаленыя летнім сонейкам сяляне. Увесь луг, з лёгкім і прыемным водарам накошанай травы і пахам дзёгцю, уся дарога і гарадзішча застаўлены вазамі, конямі і белымі шатрамі, поўны людскога натаўпу з ягоным вясёлым і гуллівым, а разам жа і сумным гоманам і шумам. Да трох дзён грымеў тут некалі кірмаш з бойкім торгам і ўсякай весялосцю... Апошнія гады ўсё меней збіраецца народу, цішэй гудзіць дуда і цішэй галосяць дудкі-пасвісцелі (так завуцца тут падвойныя жалейкі); не так дужа і не так шчыра пяюць сляпыя старцы пра таго божага ўгодніка Лазара і толькі дзеля гадзіся пагражаюць пякельным агнём грэшнаму люду. Пагрыміць часам новенькі венскі гармонік; не зважаючы пройдзе сярод барвіста прыбраных дзевак і сапрэлых хлопцаў разудалы гарманіст у лакіраваных бліскучых ботах, троху запыленых; там яшчэ пакажацца музыка ў шэрым жупане нараспашкі з скрыпкаю пад пахаю і азука-хлапчук, музыкін памагачы, з бубнам у адной руцэ і булдавешкаю ў другой. Не даючы веры, падзівіцца моладзь на тры-чатыры столікі з убогімі, занадта сходнае цаны, ласункамі, і, мінаючы Асмолава, усе пацягнуць надвечар у Лугвенева, дзе ёсць гасціныя каморы з прыемнай прахалодаю і не дужа цёплым «баварскім» півам для вясковых госцікаў.

Старыя граматы і акты гаспадарства, у кругабегі вялікіх разбурэнняў пазаглабаныя ў бібліятэкі чужых краёў, нямала пішуць пра вялікае Лугвенева ў сівой мінуўшчыне. Цяпер яно — забыта шумным светам і ціха спіць... Разбурылася старыннай архітэктуры сінагога з дахам, падобным троху да цікавых дахаў на азіяцкіх пагадах і кумірнях,— яе зняў на фатаграфію сваім чорным кадаком даўгі, як прасла, з нагамі, як у бусла, сухапары ангелец у гетрах, што гасцяваў у князя ў палацы. Патрошку разбураецца, за рэчкаю, на ўзгорку, у ліпах і клянах, стары аблуплены палац дурнаватых князёў Кандыб-Лугвенічаў, недалужненькіх патомкаў лугвенеўскага заснавальніка, князя Лугвеня, пра якога пішуць хронікі, што быў гэта выдатны розумам і вайсковым спрытам князь. І сумятлівая яўрэйская галота, з адубелым або ж і па-гандлярску

ахіжаным біблейным сумам уваччу, і п'янаватыя, у беленькіх магерках, падобных да турэцкіх фесак, мужыкі Асмолава, Гарадца і ўсяе воласці, з такім самым застыглым смуткам у ціхім або і пахавана-злосным выглядзе — няўважна месяць гразь на вуліцах Лугвенева, чвякаючы дзіравымі бацінкамі і калматымі лапцяміатопкамі або шалёпаючы падкованымі ботамі; а то ўздымаюць шэры, важкі пыл з пахам поту і дзёгцю, уздымаюць там, дзе некалі, як пішуць вучоныя гісторыкі, шумела вольная рада магутных і ганарлівых продкаў нашай белай косці, там, дзе гудзеў звон рады і бразгала гострае шабелле. Можа, і так! У самым пасяродку Лугвенева прысела, быццам квакуха, памалёваная летась, як ездзіў архірэй, царква; вакол яе — усцяж крамы з дзвярмі пад агульнаю паветкай-галерэяй, і там гнілы памост, увесь у дзірках, і тыя дзіркі якраз перад дзвярмі. Ля крам туляюцца галодныя рабрыстыя сабакі і ходзяць або бегаюць, збіраючы раструшанае сена і ўцякаючы ад пугі ў руках пакрыўджанага дзядзькі, спрытныя і хітрыя старыя козы і такія ж, але яшчэ спрытнейшыя малыя козкі. Яшчэ ж далей зляпіліся адною кучаю розныя будынкі, манаполька і шаўцова хата. Шаўцова хата — без варот, з адною шулаю, і адтуль хлопчыкам вельмі зручна кідаць з-за шулы шубінаю ў сабак і коз.

Прыязджаў яксьці па вясне, з даўганогім сябрамчужаземам, князь; прадаў нейкім паезным з Смаленску ці адкуль яўрэям і ў кампаніі з імі лугвенеўскаму Лейбе Бруднаму кавалак лесу паміж Асмолава і Гарадца, што завецца Зуброў Загон; а яшчэ скінуў старога аканома-латыша, пасадзіўшы на яго ваканцыю новага чалавека, нейкага эстонца; паклаў у садзе, на магіле свайго дзеда, новы плінтус з напісам па-польску і па-латыні; і пасля першага пад восень холаду з'ехаў ізноў у свет, адкуль быў прыехаўшы.

Скрозь цэлае лета, як толькі святы дзень, хадзілі да князя асмолаўцы, каб даброи дайсці да ладу з несправядлівымі абрэзамі і выпрасіць палёгку на пашу і на ўругу. «Навёз ваш аканом каморнікаў ды грабароў,— з жалем выкладалі яны князю сваю крыўду,— прырэзаў вокрайкі нашых шнуроў да лесу вашай светласці і па ўсёй новай лініі канавы пакапаў... дык дзе ж тут якая праўда?» — «Пачакайце,— ласкава казаў ім князь, аглядаючы новенькую, прывезеную з чужога краю стрэльбу ці лезучы з тым чужаземам на даўгія дрожкі і балбочучы з ім па-чужазем-

наму (а стаенныя коні тупалі і не стаялі),— пачакайце...» Даведаліся асмолаўцы, што князь ізноў (надоўга, мусіць) з'ехаў,— і без ніякай цырымоніі, узлаваныя, пасунулі будзёным мокрым днём, такою хлюпаю, у кантору гаманіць з эстонцам. Зазлаваўся і эстонец, новы аканом, пачырванеў, вяхнуў: «Будзем пачакаць!» — і пайшоў па гаспадарцы: на стайню і ў абору. Ці за ім ганяцца?

А ганей за двое ад палацу, за клянамі і ліпамі, у старых вялікіх вербах, што параслі над Плёскаю, высачэе над нізкімі будынкамі закураны, высокі-высачэнны цагляны комін — тут князеў бровар.

Усю зіму асмолаўцы і гарадчане пояць ля бровару, у шырокай студні пад круглаю гантоваю павеццю, сваіх дробных, калматых, замардаваных коней, ускачваюць на сані па дзвюх дошках важкія бочкі з спіртам і скідаюць парожнія. І на старым шляху ўзімку троху тлумней і весялей. Інагды цягнуцца даўжэнныя абозы з хлебароднай Амсціслаўшчыны. Вязуць людзі, апрануўшыся ў вялікія шэрыя армякі з шырокімі каўнярамі, падбітыя белымі і нават чорнымі аўчынамі, вязуць ад месцячковых скупшчыкаў сваю і панскую пяньку, лён, канаплі і семя, і з нейкім, грэблівым, зняважлівым падзівам паглядаюць на кароткія, «на вілачках», белыя світкі ў асмолаўцаў; яны пільнуюцца свой свайго; а калі едуць назад, лёгкімі вазамі з бакалейнымі і краснымі таварамі, дык не варочаюць з дарогі перад цяжкімі вазамі асмолаўцаў: ім карціць, каб сцебануць даўгою пугаю чужую кабылёнку; а на заезным двары ў Лугвеневе яны жартуюць і дурэюць, маюць сябе запанібрата з самім Ёськам, гаспадаром заезду, п'юць гарэлку цэлым грудам, ядуць сала і драчаны з салам; яны са смехам міргаюць той таму, калі высокі, худы і белабрысы асмолавец, з дзвюма-трыма валасінкамі замест людскай барады, і ў сваёй світцы — «на вілачках божы страх», і ў сваіх жыдзенькіх, не па сцюжы, пасконных штанах, туляючыся і хаваючы вочы, адзінцом вып'е сотку, згрызе сухі таран, прымасціцца рачыкам у дзіравых «копаніках» (санках, з не гнутага, а копанага ў лесе, з крывых карэнняў, вобаддзя) — і патурыць хударлявую сваю кабылку, з белымі ад шэрані бакамі і выпнутым калматым брухам, па дарозе на паспулае Асмолава... Міргаюць і смяюцца.

Тое, што блізка Лугвенева з яго корчмамі і броварам,— губіць асмолаўцаў. Стары «літоўскі» шлях можа пасведчыць, колькі змёрзла на ім нядбалых спіртавозаў, едучы з Харошага — станцыі за Дняпром, куды цягаюць спірт.

з яго першага вялікага кірмашу, з яго першых заляцанняў да дзяўчыны і з таго адарванага абцаса. Ён выцягнуў абцас з Хомчынай кішэні, шпурляў яго далёка наперад па дарозе, станавіўся ракам, станавіў і Хомку так жа сама ракам — і абодва паўзлі па траве, курняўкаючы, як каты. Паўзлі да таго месца, дзе шпякнуўся абцас, знаходзілі яго, і Пятрок ізноў кідаў, і ізноў яны, п'яныя, вытвараліся катамі...

Хомку было ўсё 'дна. Тупое і цяжкое адурэнне найшло на яго, прыціснула яго, згняло яго...

Ён пакараўся Петраку, ішоў, поўз, смяяўся, крычаў, і пяяў, і хацеў плакаць... І з такім жа тупым подзівам заўважаў патроху, што няма ўжо дзённай духаты, што ўжо распаўсюдзілася прыемная вечаровая прахалода і налягае змрок з цёмнаю начою...

## ПАРОГІ

### I

Выйшлі роднай вёскі дзеці
Паміраць на белым свеце,
Рассяваць па свеце косці
Праз кагосьці, за кагосьці.
Засталіся нівы, сёлы
На той сум-жаль невясёлы,
Засталіся, ой, сіроты
З горкім горам, з адзінотай.

Янка Купала

Вайна заспела раптам: каго ў полі, каго на сенажаці,— і адгукнуліся на страшную навіну нейк легкадумна і вясёла. Запаснікі папакідалі косы, цалюткі вечар пілі і елі, быццам вялікім святам, гаманілі дужа многа і абы-што, і ўсё з адбіткам незразумелай хваравітасці, быццам усіх схапіла трасца.

А рана-параненьку па ўсіх дарогах пацягнуліся ці вельмі гаманлівыя, ці зусім нямыя фурманкі з мужыкамі і жонкамі, братамі і сёстрамі, бацькамі і сынамі — на зборны пункт у горад.

Так пачалася тая страшная вайна, і ўва ўсіх тады была толькі адна пацеха: вайна, як пішуць, будзе вельмі караткая, скончыцца яшчэ нават, можа, да зімы.

Ды вось была ўжо і зіма, ішлі бясконцыя паборы некрутаў, і запасных, і ратнікаў, за новыя і новыя гады,

прыйшла вясна, другое лета,— і здавалася, канца гэтай будзе не будзе...

Людзей паменшала, дзяўчаты пасмутнелі без хлапцоў і вясёлых кірмашоў, старыя ж былі ўсе раздражнёныя і цераз сілу ўстрыманыя, як перад споведдзю ў вялікі пост.

Тужлівасць і нуда запанавалі ў хатах. Зацяглая і безнадзейная вайна, як хмара, павісла кожнаму, і пад яе шэрай заслонаю не хапала даўнейшага сонейка і вясёлых яго кос.

Не давала рады прысілёная пабожнасць дзядоў і бабулек. У царкве было пуста на мужчынскім правым баку і засмучона на дзявочым левым. Не карціла цяпер і дзяўчатам хадзіць сюды: там цяпер кожнае свята адпраўлялі малебны за здароўе, а часам, і ўсё часцей, і паніхіды.

Дзяўчатам прыямней стала хадзіць у валасць і на пошту, дзе было можна хоць што-небудзь пачуць аб іхных судольніках даўнейшага жыцця.

Дзяўчаты мяталіся цяпер з лістамі, як бы ўсе яны былі пісьменныя... Але штораз, то горшыя прыходзілі навіны: гарадчаніна Хвядоса, што некалі разбурыў торг у Малкі, забіла дзесьці бомбаю з аэраплана. Петраку трохі пашчасціла, бо трапіў у палон здаровы (Аўдулю дражнілі векавухаю); пра многіх жа хлапцоў не было ніякіх вестак па цэлых месяцах — мусіць, яны былі ўжо забітыя.

Хомка цяпер рупліва спраўляў усю гаспадарскую работу: за сябе, за Петрака і за старога. Як забралі адзінага сына, стары на ўсё махнуў рукою, не дбаў аб гаспадарцы і здаўся на парабка. І Хомка чуў на сабе павіннасць дагледзець усё чыста, як сваё.

Яшчэ два гады аставалася да Хомчынага году, аж вось аднойчы ўвечары прыйшоў да ягонага гаспадара ўстрывожаны, аж пахудзелы, бацька і сказаў, што і Хомку запісалі.

Усе людзі наракалі на парадкі ў валасці: як можна гэтак памыліцца, каб запісаць хлапца раней на два наборы? Усе казалі, каб Юрка сам схадзіў у валасць.

— Як жа ж так? Яны самі павінны агледзіцца, нашто ж яны вучоныя? — жаліўся Юрка, цягнуў-цягнуў і ткі сабраўся неяк схадзіць.

— Усе ведаюць, пане пісар,— з не яго мяккасцю і ўпраслівасцю казаў Юрка,— усе ведаюць, калі радзіўся мой сын Хама...

— Ах, што мне да ўсіх? — адганяўся, як ад мухі, лысы пісар.— Ну, дзе ж ты быў дагэтуль? Памеціў бацюшка пад

1896 годам, дык што я вінават? Трэба ж было казаць! Во са спіскамі не ўпраўлюся, бадай яно трыкраты сацьмела на чыстым полі... Адкасніцеся вы, дзеля бога, ад мае беднае галавы! Не лезьце ў канцылярыю, чакайце ў зборнай! — крычаў ён на ўсіх мужчын і баб агулам.

Калі Хомка пакідаў гаспадара, каб дні са два пажыць у бацькі, стары адпускаў яго не горш, як некалі выпраўляў свайго сына Петрака. Усё ён нагінаўся да подалу даўгой кашулі абціраць слёзы. Даў Хомцы сярэбраны рубель, пацалаваўся — і зараз маўкліва паплёўся на гумно трэсці салому. Безгаловая малеча дапільнавала дзеда, што ён там немаведама і з кім брахаўся, крычаў, як баба, біў саху мятлою. Малеча кінулася ад гумна ўцякаць, каб з радасцю пераказаць у хатах, што дзед, мусіць, здзяцініўся. Але маткі не патуралі іхным навінам, прыстрашылі іх матузамі і, самі невясёлыя, маўчалі.

Два дні прагуляў Хомка ў сваёй хаце. Маці спрагла яму яечню, наўмысля для яго, і Хомцы было надта сорамна, што яму такая чэсць. Ён падзяліў яечню на сем роўных частак: як сабе, так і бацькам, і меншым брацітках і сястрычкам. Пакаштаваў трошку — і аддаў і сваю частку малой Тацянцы.

Начаваць ён пайшоў у сяніцу, на свежым сене, пад бацькавым кажухом.

А ўжо звечара надвор'е пачало хмарыцца; курыў і пыліў дождждык.

Хомку не спалася. Дождж аднастайна, ціха і прыемна, безупынку шуршэў па страсе, зрэдку пыхала нядужая бліскаўка, і шугаў рабінаю вецер. Вада сцякала цурочкамі і бурбоніла ў падстаўленую маткаю даёнку. І Хомка слухаў, слухаў — і думаў.

Ён меўся абмеркаваць усё з усіх бакоў, усё ўцяміць, што і як... І сам не ведаў: жаль яму ці не?

І толькі лезлі ў галаву ўспаміны, як раней здалося б радасцю не весці ў такую хлюпу гаспадаровых коні на начлег у поле, а ляжаць пад стрэшкаю на сухім сянцы, акрыўшыся цёплым кажухом, і пад гоман дажджавых капак думаць, што наша доля яшчэ не дужа дрэнная.

І вось ён у бацькоў; дзеля яго праглі яечню, як для дарослага і паўнапраўнага; ён слухае сабе спакойна, ляжачы ў сухім, як ідзе дождж... Але даўнейшай радасці зусім няма.

Ён цяпер прыбярэцца ў прыгожую «форму», штодня, як кажуць, будзе есці любовае мяса, убачыць вялікія га-

рады, шмат усякіх паноў з іхнымі штукамі, убачыць трамвай і электрычнасць. Ды нейкае «ўсё роўна» ахоплівае думку... Няма цікавасці. «Усё роўна» ахоплівае думку аб сваім хатнім, дарагім і любым, ды як падумаць — жалкім і ўбогім. «Усё роўна» звязана і з будучыняй — невядомай, страшнай, а цяпер неяк і мала ўжо цікавай.

Калі ж Хомку выпраўлялі, надвор'е і дарога папсаваліся ўканец, было гразка і сцюдзёна. З неба то лілося як з вядра, то сыпаўся дождждык, дробненькі, як пыл. «На добрую долю вяшчуе»,— сказаў нехта аб пагодзе Хомчынай маці, але маці яшчэ болей засмуцілася.

А за гаем, ужо на ростанях сустрэлі мокрага настаўніка. Спыніліся. І настаўнік цалаваўся з усімі хлопцамі і з Хомкам. Ён упусціў заплаканыя непагаддзю акуляры з рук у лужу, і Хомка падняў іх яму. Усе глядзелі сёння ўбок, і настаўнік глядзеў таксама ўбок, міма Хомчыных воч. Можа, ад жалю, а можа, дзеля свае няўзоркасці.

Паехалі. Пабрыў у школу настаўнік, паставіўшы каўнер ад дажджу, а яны паехалі.

Домна галасіла на цэлае Асмолава, і гэтае матчына выццё гучэла Хомцы ўвушшу, як нешта непатрэбнае і прыкрае, да самага гораду. Не выхадзілі з галавы Нупрэіхіны словы: «І Хомачку бяруць — саўсім пісклёнка. Ці здолеець ён стрэльбу, бедненькі, насіць...»

Казарма і муштра заглушылі тое выццё і тыя словы. Ат, што! Тут жа было ў сто рэдзь горай, чымся ў батраках. Кормяць горш, як гаспадар Курту; заўсёды нечага не хопіць: порцыі мяса ці кашы. Спаць хочацца незвычайна. Цела ные і свярбіць, як бы што па ім беспярэч глабаецца. Палаці або нары — нязручныя і брудныя. Цесна,— у невялічкім бараку дзвесце з гакам чалавек. «Восьмая рота, літара Б, барак № 29»,— мармыча сабе Хомка. Асмолава — як сон. Не імецца веры, што было яно ў яго жыцці. Яно балюча прыходзіць у галаву толькі тады, калі заможным таварышам прысылаюць з дому грошы і пасылкі. Хомка нікому не шле лістоў, і яму ніхто не шле. Шыбка пісаць ён не ўмее, а лежачы на палацях, упоцемку, пісаць — дужа нязручна і марудная справа.

І думак не збярэш, калі навокала гыркаюць: не так сеў, не так крутнуўся, не так адказаў. А гэтыя жудасныя, на кожным кроку, зняважанні маткі — крояць сэрца. Здавалася, ніхто не разумее, не спачувае. Аднак, нешта аднаго разу, навабранец другога ўзводу, нязграбны, сутулаваты і з тварам у рабацці яўрэй з Дуброўны, што некалі пры-

язджаў у Асмолава скупліваць яйкі і баравікі, екатліва закрычаў у адказ аддзялённаму: «Мая маці не сучка!» — загуў і выскачыў з строю. Хомка ўцяміў, што ён не адзінокі ў сваіх думках. Хлопчык-прапаршчык, сам ужо добра заўчоны на тую лаянку, пры гэткім выпадку пачырванеў і засумяціўся, а Хомка здаволена зразумеў, па чыёй старане праўда.

Дні здаваліся тыднямі, тыдні — месяцамі, а калі адбілі ў полк тэлеграму з Рыгі, здавалася, працёк адзін дзень — даўжэнны, але парожні. Хомка з таварышамі ўсцешыўся, што паедуць на пазіцыю,— было цікава, хоць троху і страшнавата. Увечары ішлі яны ў новенькіх, з пахам дзёгцю ботах, у шынялях з пахам молі ці бальніцы, ішлі з песняю па мокрай брукаванай вуліцы, і было надта дзіўна, што вуліца мае звычайны выгляд,— снуюцца экіпажы і хапаюцца пешаходы, як быццам то маршавая рота на пагулянцы, а не ідзе на вайну. Усю ноч гармідэрылі на вакзале, а ў золак пад іграннe палкавога аркестра цягнік пайшоў. Камандзірша ў жоўценькіх гладзенькіх скураных пярчатачках махала беленькаю насаткачкаю; нейкая цётка ў стаптаных лапцях, прыпаўшы на плячо збялелай маладусе, раўла і смаркалася, а з цяплушкі няслося «ўра», шматкі прыпевак і зык гармоніка. Міналася спусцелае поле і голыя гайкі, і мільгалі на спатканне тэлеграфныя слупы. Міма надта адлеглых хатак плыло бліжэйшае, зважаючы на сябе Хомчыны вочы...

І так паехалі.

## II

> Вазьмі, маці, пяску жменю,
> Пасей, маці, на каменю:
> Як прыжджэшся пяску ўсходу,—
> Тады верне сын з паходу...
>
> З народнай песні

На трэці дзень прыехалі на глухую невядомую платформу з незразумелаю назваю і чарапковымі дахамі на будынках.

Вёрст пяць ішлі па шашы да баронскага двору, дзе знаходзіўся штаб корпусу. Там пасілкаваліся. Выходзіў корпусны і прамаўляў да іх, кусаючы канцы жаўтава-сівых вусоў. Ён віншаваў іх, што малайцамі прыехалі на фронт, і жадаў ім стойка бараніць веру, цара і ацечаства...

Потым ізноў некуды пацягнуліся, і ноч мінулася ў дарозе, сярод вялізнай цёмнай пушчы. Збіваліся ў каўдобі-

нах, з'язджалі па коўзкіх убочынах дарогі ў глыбокую канаву. Там-сям у лесе цьмелі чырвоныя вогнішчы, акамянелі прыкручаныя вуздзечкамі да дрэў казачыя конікі, цямнеліся фурманкі, кухні. Хомка знямогся і ледзь пераступаў нагамі. На прывалах ён валіўся на намоклае лісцё, як забіты, і каб не ласкава-насмешлівы покрык і лёгкі выспятак таварышаў, ён бы не ўзняўся. Хомка меўся абмеркаваць усё з усіх бакоў, усё уцяміць, што і як, што і як... жаль яму ці не? І толькі лезлі ў галаву ўспаміны, здавалася вялікім шчасцем, як некалі ляжаў на начлезе пад густою елкаю, калі буйны дождж шамацеў у яе лапах... Цяпер хатыль і амуніцыя да нуднага болю гнялі яго. І толькі халадок рання крыху ўзбадрыў. Развіднелася. У шэрай імгле паветра чулася глухое дрыжачае гудзенне матора. «Аэраплан! Аэраплан!» — пракінулася па радах. Задраліся галовы. «У хлябу і то каланіца яго носіць» — прабурчэў нехта. Хомка насілу згледзеў у небе плямку самалёта і падумаў: «Во падзівіліся б асмолаўскія бабы і дзяўчаты на такую штучку,— не далі б веры». Пад абед дайшлі да штабу палка, дзе іх аглядаў палкоўнік і таксама павіншаваў, што нарэшце дабраліся да яго, і прамовіў сур'ёзна: «Ну, хлопцы, покуль што ў нас заціш, а скора, скора будзе гарачая справа... прывыкайце!»

Пачалася гарачая справа раней, чым тое думаў сам палкоўнік.

Яшчэ навенькія воіны не агледзеліся ў акопах і бліндажах, начальства не ведала іхных іменняў. Толькі Шпака прыкмеціў фельдфебель, звярнуўшы ўвагу на яго мізэрны выгляд, і спытаўся: «Ты з хахлоў?»

— Не,— адказаў высіленым голасам Хомка на начальніцкую блізкасць і меў ад свайго ўзводнага дакор, што трэба казаць: «Нікак нет!» — і не забывацца на вайсковую навуку. Рыхтаваўся Хомка дадаць: «Магілеўські», ды яны ўжо пакінулі яго.

Ён улез у нізенькую, цесную зямлянку, прытуліўся ў куточку на зямлю і, адпачываючы, зусім шчыра і здаволена падумаў: «Казалі, што будзе дужа дрэнна... А тут, як пад асеццю: і цёпла, і прытульна, ні ветру, ні дажджу...»

Ён задрамаў, але, нягледзячы на зморанасць ува ўсім целе, ніяк не мог заснуць глыбока.

Бясконцаю і хваравітаю чаргою заварушыліся не то ўспаміны, не то сненні....

* * *

Зіма. Досвіткі. Авечкі трэба рэзаць...

З лучынкаю пад гарцам ці ў гарлачы, каб вецер не згасіў, ідуць па двары ў пуню. Чорна... У хлеве карова стаіць і жуе жвачку. Авечкі ляжаць грудком ля сценкі. Вось адна жуе саломку, шыбка ўбіраючы яе смешным ротам. Павярнула галоўку на святло. Вочы блішчаць, як у таго ката ў цямноце, як быццам у іх гарыць крывава-бліскучае святло. Трэба лавіць: расставіўшы рукі, трэба хапаць за бакі, за воўну... Уцякаюць... Шурай іх! Злавілі. Б'ецца ў руках, ірвецца... Вядуць, ушчаміўшы шыю праміж ног. Ці ведае-то яна, што на смерць вядуць? У хаце тупае капыткамі па масту, бляе. Дзеці прачынаюцца. Яны хочуць глядзець, а на іх крычаць, і яны лезуць на печ, дзе можна ляжаць на цёпленькім і глядзець, як будуць рэзаць. Нож нагостраны. Карытца падстаўляе матка пад шыю. «Бяры за пярэднія ногі»,— трывожна кажа бацька. Адагнуў галаву авечцы крута назад... Адхінаецца на печы Хомачка: цяпер глядзець няможна... І ўжо трапечацца зарэзаная бацькам авечка слабей-слабей... Ледзьледзь... Пусцілі: асвяжылася авечка. Галава з парэзанай глыбока шыяй адхіснулася, ногі дубеюць, выцягнуліся. Бацька стаіць з закасанымі рукавамі, з нажом, абпэцканым у кроў. І пальцы ў яго ў крыві — як які душагуб, нават насупіўся і сапе носам.

Узяў за нагу, за капыток, і абрэзаў скурку колцам, як хлопчык абразае кару на лазіне, знімаючы дудку. І другую ножку так, і ўсе ножкі. Потым закасаў на нагах скурачку. Мяса белае... Прасадзілі палку ў заднія ногі пад жылы, прывязалі вяроўку да палкі, закінулі на курчыну і пачалі цягнуць. Падцягнулі авечку за ногі высока, галавою крываваю ўніз,— вышэй, ніжэй, каб зручней лупіць. Прывязалі. Галава баўтаецца і крывяніць. Бацька падперазаўся матчыным фартухом і разразае скурку па бруху ад шыі аж да хваста. Потым падсаджвае нажыкам, пальцамі і кулакамі паміж скуркі і мяса. І скурка ўсё болей адлупліваецца, як адсачалая кара вясною. Тады яна зрабілася смешная,— аблупленая авечка...

Яшчэ ж трэба патрашыць... Маці падстаўляе ночвы...

— А-я-я! Акотная! — лямантуе бацька.

— Як жа гэта ашукаліся? — дзівіцца маці. Бацька дастае з нейкім пузыром разам і выкладае на зямлю, дужа асцярожненька, парачку слізенькіх ягнятак. У іх чор-

ная, прыгожая, як у папоў на каўнярах, кароценькая, курчавая шэрстачка. І дужа вялікія, буйныя галоўкі. Разглядаюць іх, і бацька кажа: «Бараны былі б... не шкода!»



— Што вы, братцы, разлягліся спаць, як бараны? Жыцця не шкода? — кажа трывожным голасам узводны, будзячы і выганяючы ўсіх людзей з зямлянкі.— У госці вы прыйшлі, ці што? Бяжы хутчэй у акопы... Немец наступае!

Быў ужо вечар, было цёмна.

Затукалі недзе з бакоў кулямёты, і пачалі бухаць гарматы.

Загудзела ў паветры; першая граната з страшным трэскам, глушачы ўсё, разарвалася ў драцяной загарадзі, раскінуўшы подалек камы зямлі.

У Хомкі затыхала сэрца, ён машынальна прысеў і прытуліўся ля бойніцы. «Нічога, нічога, браткі! — казаў з мімавольнаю пярэрваю ў голасе ротны.— Будзем адбіваць атаку, не бойцеся, дасць бог, прывыкнеце... Нічога, нічога...» Чорнабароды туляк бурчэў, калі ротны троху адышоўся: «Табе нічога, нічога, як у цябе ў Расіі, можа, маёнтак ёсць, а ў мяне — што? Галодная баба і пяцёра малых». Ніхто не падтрымаў тульскага, ніхто не асудзіў, а ўзводны зусім не ўзлаваўся, а толькі буркнуў: «А, брэшаш, не ведаючы: наш ротны сам з мужыкоў».— «Пасля вайны нарэжуць зямлі»,— сказаў другі. «Нарэжуць тры аршыны, можа, каму яшчэ сёння»,— не маўчаў тульскі, адварочваючы ўвагу ад страшэннай кананады.

Яшчэ некалькі снарадаў, адзін па адным, вухнуліся блізка за акопамі. Хомка адхіснуўся ў куток і зрабіў крыж дрыжачаю рукою, трасучыся ў гнятучым чаканні.

З глухім гулам ляціць яшчэ. І на момант раптам усё змоўкла. «Міма, міма!» — здавалася ўвушшу. А грымотны крэх захістаў бярозы і зямлю, задрыжэлі і пасыпаліся зямлёю акопы, калаціліся і тыхалі рукі і ногі, а тады знямелі. Хомка прыціснуўся, прытуліўся, а нешта балюча таўханула яго ў жывот. «Што гэта такое?» — падумаў ён, спалоханы. Яго ўкінула ў пот, замлявіла, бажалася вады. Прамільгнуў воблік маткі, Ганүткі, завіляла хвастом Курта. Ён трапіў у глыбокі сумёт, праваліўся ў снег,— і ўсё глыбей... А ўзлаваны гарадчанін шпурляе і шпурляе ў яго бальнымі крамянымі снежкамі. «За што? — са слязьмі і

так ціха, што не чуваць і сабе самому, пытаецца Хомка,— за што?!» — шэпча ён усё цішэй. І глыбокая, распачлівая крыўда кроіць яму сэрца.

Жах абняў хлопчыка, і ён валіцца наскрозьдоння, глыбей і глыбей. Высока, хто ведае дзе, крычыць на краі фельдфебель: «Насілкі!»

І змоўкла ўсё, няма нідзе ані гуку.

— Нашто тут насілкі? — кажа ротны.— Ён забіт. Падбірайце толькі раненых!

У чорнай імгле блішчаць, іскрацца гострыя іголкі, тупеюць, знікаюць і зліваюцца ў нішто....

# АТРУТА

**(Кароткі жалобны абразок)**

Людзі:
- Дзед.
- Раман, яго сын.
- Ганна, жонка Раманава.
- Аўдулька, 8 г. — Дзеткі Раманавы.
- Косцік, 6 г. — Дзеткі Раманавы.
- Яначка, 8 м. — Дзеткі Раманавы.
- Хрысцёна, цётка Ганніна.

Усё дзеецца ў старэнькай, закопчанай вясковай хаце. Налева ў ёй — дзверы ў сенцы і дальш у вуглу печ і качарэжнік. Ад печы — пол аж да правае сцяны, у каторай два акенцы; ад полу каля гэтай сцяны ідзе лаўка. Перад лаўкаю воддаль ад полу — стол, на стале ляжыць нож, а хлеба няма; к столу прыстаўлен зэдлік. Над сталом у куту — абразы з палічкай дзеля свечак.

На палу — сувалка, на ёй ляжыць дужа хворая Ганна пад дзяругай. Каля Ганны вісіць калыска на круку, убітым у столь; у калысцы спіць малы Яначка. Пасярод хаты на падлозе — калодачка, на ёй сядзіць дзед, даплятае лапаць і за пачопку, калі трэба, калыша Яначку. У хаце надта бедна.

## ПРАЯВА ПЕРШАЯ

Дзед, Ганна, у калысцы Яначка.

Дзед. Божухна-бацюхна! Ці будзе ж гэтаму калі канец? П'янства кожны дзень, кожну ноч... Дзеткі плачуць, Ганна хворая ляжыць,— як ёй, матцы, глядзець на гэта? А ён? Охо-хо-о... Пакараў ты мяне, справядлівы божа! За грахі мае брудныя пакараў ты мяне, бо калісь і я не меў сумлення, цягнуў-піў зелле паганае, будзь яно проклятае навекі... *(Бярэцца за спіну.)* А-ай, усе костачкі ломюць. Мне, старому бацьку, трэба араць ехаць во, а ён... ён п'ець. Яму і клопату мала. Не-е, сынок, дап'ешся, апомнішся, ды каб не было ногды позна... Нікому ніколі не падаруюцца слёзы дзетак, ой, ніколі! А ён п'ець, крычыць, б'ецца, глуміць, дзіцячы хлеб прапіваець. Будзе грэх, чую, усімі думкамі чую...

Ну, хіба ісці саху прыснадзіць. *(Паклаў лапаць, устае.)* Эх, Раманька, Раманька... *(Да Ганны з ласкай у гаворцы.)*

Ганна! Ці чуеш, Гануля? Мо ты з'ела б чаго-небудзь? Хлеба кум Аўрам пазычыў, учарашняе поліўкі з ложку стаіць. Сербанула б, Гануля!,

Ганна *(кранулася, гаворыць-стогне).* Ці-і Раман прыйшоў з карчмы? А-ах...

Дзед. Зара прыйдзіць... Дык з'еш чаго крыху, Гануля. Як жа гэта, божа мой, трэці дзяпёк у цябе крошкі ў роце не было. Смагу, балазе, прагнала б.

Ганна. Не-е-е... Не трэба. Касцючку, Аўдульцы няхай поліўка. Дзетачкі вы мае-е... *(Загадалася.)* Сусолачку зрабі дзіцёнку, нечым карміць яго, майго Я-на-чку. *(Дзіця ў люльцы заварушылася і закугакала жаласна.)* Калышы, калышы, та-ту-леч-ка...

Дзед *(калыша).* Забыўся сынок на бога, забыўся. Змяняў на гарэлку і сумленнасць, і сямейку, і ўсё, усё. Што яму? Абы пляшку купіць, а іншае,— цямся яно! На маткіну памяць забыўся: на імшу не даў, а прапіў грошы... Чую грэх-бяду. Доля-доля... Дажыліся... *(Мармыча нешта далей, не можна расслухаць.)*

Ганна. Ня-ма, ня-ма Рамана, не йдзець... Тата! А дзе Аўдулька, Косцік? Дзетачкі мае-е...

Дзед. Усё чыста прапіў сынок. Мусіць, забыліся на бога людзі, не дбаюць на таго, што свет яго. У коршмі днююць, у коршмі начуюць... Ат, што — бацька ж дурань, бацька нічога не знаець, нашто яго слухаць?.. Не слухай, сынку, не слухай...

Ганна. Тата! Ці ёсць у нас дошкі на... *(з натугай і праз сілу)* на тру-ну? Акх!..

Дзед *(спужаўшыся).* Не думай пра... пра гэта. Ганна! Божа воля на ўсё — на бога і трэба думаць. *(Закалыхаў дзіцёнка і адзявае дзіравы жупан.)* У цябе дзеткі, Гануля, маленькія. Ось лецячка ідзець, падзівуйся, як вясёла на дварэ, як сонейка свеціць, птушачкі прыляцелі, лясок зарунеўся, Гануля... Кінь тое думаць... Дзеткі ў цябе; што я, стары, з імі рабіць буду? Мне трэба туды збірацца. А-а, а ты... Сонейка во, грэець, а ты, ты...

Убягаюць у хату Касцючок і Аўдулька; абодва босы, чуць адзеты; у Аўдулькі жмуток першых вясенніх белых красак, у Косціка мядзяныя грошы.

## ПРАЯВА ДРУГАЯ

Дзед, Ганна і дзеці.

Косцік. А ў мяне грош! А ў мяне грош!

Дзед. Што?

Аўдулька. Ды не: гэта ў яго пяць, ажно вун, капеек; гэта, гэта... А ў мяне вун што,— краскі! На табе, мама! *(Кладзе кветкі к матцы.)*

Дзед. Адкуль грошы?

Косцік. Каморнік даў... Мама, у мяне грош, глянь!

Ганна. Аддай, Косцік, грошы дзеду. Аддай, сынок. Ён піражок купіць табе... Аддай, дзіцятка, згубіш... *(Косцік бегае, не аддае грошы і крычыць: «Грош, грош! Каморнік даў!»)*

Дзед. Ну кажы нам, Аўдуля, дзе вы былі, хто грошы даў? А ты, Косцік, ці-ху! Яначку ўзбудзіш.

Аўдулька. Мы... мы хадзілі ў гаёк вун кветкі рваць. Там многа ўжо кветак... і... і там каморнік ходзіць... З ланцугом, у акулярах, але не страшны. А нейкая труба блішчыць-блішчыць...

Косцік. А гузікаў жа ў яго!..

Аўдулька. І зайца спудзілі! Як пыхнуў уцякаць!

Косцік. І я бачыў.

Дзед. Ну-ну?

Аўдулька. Мы яму з вёскі вады заняслі.

Дзед. Каму? Зайцу?

Аўдулька. Не, вун, каморніку. Ён, вун, сказаў нам: «Малайцы!» А як пачуў ад дзядзькі Карпы, што наша, вун, мама хварэіць, дык нешта гаманіў, а тады выняў грошы, даў Касцюку і кажа: «На табе, хлопчык, на бублікі».

Ганна. Дзетачкі ма-е-е...

Дзед. Ці падзякавалі ж вы пану за ласку?

Аўдулька. Мы і яму пралескі рвалі... Я хацела ў руку, вун, пацалаваць, дык ён кажа: «Не трэба, не трэба... Я ж,— кажыць,— не поп і не абраз». І не даў, вун...

Дзед *(успомніўшы)*. Пара, пара араць. Паеду, Косцік! Твае грошы цэлы будуць, дай — я схаваю іх. *(Паклаў грошы на палічку перад абразамі, яны з хаты відны.)* Ну, Аўдулька, прыглядай матку, Яначку тута калышы, вады маме падай, калі пабажаіць. Доля наша, доля... Грахі нашы. Пойдзем, Косцік, і я табе дудачку выражу з лазы... *(Дзед і хлопчык пайшлі за дзверы.)*

## ПРАЯВА ТРЭЦЯЯ

Ганна і Аўдулька (калыша Янку).

Ганна *(маркотна)*. Дачушка мая любінькая, памру я, чую сваю смертухну... Слухайся, шануй дзеда. А мо-

жа ж, і татка твой апомпіцца, агоўтаецца, піць гарэлку перастанець... Даглядай Яначку, Косціка... Дзеткі мае-е... Хораша жыць, калі ўсё ладна... *(Ей трудна гаварыць.)* Дай піць. *(Аўдулька падае карэц з вадою; Ганна, напіўшыся, гаворыць крапчэй.)* Якія прыгожыя красачкі. Каб мне разок яшчэ пабачыць, як жытцо каласіцца, а там... памерці...

Аўдулька *(плача)*. Мама, не кажы ж ты так, не кажы пра смерць,— мне страшна... Не трэба нікому ўміраць...

Ганна. Не бойся, дачушка, не плач... Так ужо бог даў... Што я сніла сяння? Быццам нябожчыца мама, такая светлая, ясная, у беленькай світачцы, прыйшла к нам і да таго ж жаласна і сумна кажыць мне: «Ганначка,— кажэ,— галубка, чаго ты так счарнела ды высахла, выпятрыла ўся? Рыхтуйся,— кажэ,— бо табе ж пад вянец пара, заждалася я цябе...» *(Маўчыць крыху, слёзы коцяцца, як боб.)* Тут я прачхнулася, і страшна мне, і лёгка-лёгка неяк зрабілася...

Аўдулька. Мамачка, і я памру...

Ганна. Жыві, дачушка. Будзеш мне на магілку кветачак прыносіць... На радаўніцу з яечкам прыйдзі хрысто-са-вацца-а-а... *(Горка-горка плача.)*

Аўдулька. Мама! Мамачка!..

Чутна п'яная песня пад вокнамі.

Ганна *(адышла крыху)*. Нічога, нічога, я так... Што гэта?

Аўдулька *(падбягае к аконцу)*. Тата йдзець! Ай, п'яны,— будзе біцца... *(Палезла на пол к матцы.)*

Ганна. Забыўся на ўсё чалавек. А некалі ж кляўся, бажыўся. Ці даўно тое было? І што гэта з ім; ці не паддаў яму хто? О-о-о...

Адчыняюцца дзверы, і, дзержачыся за клямку, хістаецца на парозе п'яны і, як слова, вясёлы Раман; пяе і прыстаўляецца пракудай.

## ПРАЯВА ЧАЦВЕРТАЯ

Тыя ж і Раман.

Раман *(пяе далей)*. За-аўтра, за-аўтра, не-е сягоння,— ко-ожны п'яніца пяе-е... *(Спыніўся.)* Добры дзень тату ў хату! Хвароба ў лес, здароўе ў косці! Стуку-груку, хто тут? *(Ідзе па хаце, вугнава прыпявае.)*

Адна думка у Рамана,
Што кішэнічка падрана!
Няма грошы, няма дроў,—
А як выпіў — ўжо й здароў!

Не! Йшчэ адна думка ёсць: каб мая сухотніца падняласл! А то, калі-і ўжо скрэмсалася! *(З ласкай да Ганны.)* Ганна! Ганначка! Жоначка мая любая! *(Тужліва.)* Хварэіш? *(Жаласна і безнадзейна.)* Усё хварэіш... Пара ачуняць! Лепшай, галубка мая, а я, я... Во табе святы крыж,— досі жлуктаць гарэлку! Дос, дос і дос. Маё слова свята! Не буду й не буду, назаўсёды заракуся... *(Садзіцца на зэдлік і крыху маўчыць.)* А дзе ж тата? Дзе Кастусь? *(Ніхто яму не адгукаецца.)* А? *(Пачынае злець.)* Аўдулька! Куды пайшоў дзед? Чуеш? Злазь адтуль тэйчас, нячыстая каланіца, а то я табе! Янку калышы! Я вас! Што вы мне? Што хачу — то й раблю. Ось яшчэ! Соткі ўжо выпіць нельга? Што такое значыць?! *(Ходзіць-хістаецца па хаце.)*

Аўдулька *(калыша Яначку)*. Дзед з Касцючком пайшоў у поле... Дзед араць будзе...

Ганна *(стогне)*. Божухна! Няма сумлення ў чалавека... Апомніся, Раман! Смерць мая, дзеткі нашы малыя, ах...

Раман. До, дос ужо! Не стагні, не гнаі ты майго сэрца. Чуў тваю песню. А тата... Як жа ён араць будзе, калі хамут, хамута... Я сам успашу. Няхай стары не турбуецца, час ёсць. Успашам. Не сяння — заўтра. Сяння галава баліць, спахмяліцца б хіба цяпер. Гануля, дзе твая суконная хвустка? Дай на сотку! Не сярдуй.

Ганна. Раман!

Раман. Ну што, што? Ну на, забі мяне! Ну на́, на́, зарэж мяне, а дай жа ты мне на сотку, трэба ж мне апахмяліцца!

Ганна. Пабойся бога, Раман! На хлеб дзеткам няма; што ты сабе ду-ма-еш?

Раман. Не стагні! Голая костка! Ад заможнага бацькі браў, а што ты мне ў гаспадарку прынесла? Сабаку печапага... Во захварэла, падла! І здохнеш хутка, падажджы... *(Ганна ані слова, Аўдулька пачынае плакаць.)* Не румзай, Аўдуля! У матку ўдалася! Заступніца... Я табе пакаж-ж-жу! На калені! Маўчы! Штоб тваго духу не чутно было!

Аўдулька ціха хліпае і становіцца на калені.

Ганна. Божа! *(Таигнуе.)*

Р а м а н. Сыду і кіну, кіну... Прападайце тут, хвароба па вас. Ссушылі мяне... П'ю — дык я ж вас і кармлю. Ы-ы-ы! *(Скрыгоча зубамі ад злосці.)* Пілуюць-пілуюць, смурыжуць за кожную чарку, ці выпіў, ці не выпіў... З'ешце мяне! Назло прап'ю, усё прагуляю! Зарэжуся! Задаўлюся! Зарэжуся!! *(Хапае са стала тупы нож і шмуляе па горле; Аўдулька крычыць, Ганна стогне дужэй. Але нож сагнуўся, і Раман са злосцю кідае яго на зямлю.)*

Г а н н а. Кепска мне, кепска мне... Ай, мляўка... Смертухна мая... Аўдулька, па цётку Хрысцёну... па дзеда... А-а-а... Раман, свечку, грам-ні-цу...

Р а м а н *(схапіўшыся)*. Што? Што? Уміраіць? Хіба ж праўда? Аўдулька, бяжы, бяжы, дзетка, па цётку!

А ў д у л ь к а п а б е г л а.

## ПРАЯВА ПЯТАЯ

Няма А ў д у л ь к і.

Г а н н а. А-а-ах...

Р а м а н. Ганначка, пастой... Што, што ты гэта? Прасці, прасці мяне, гэта гарэлка пашкодзіла... *(Схіляецца над жонкай.)* Мо даць вады?

Г а н н а. Ай-ай... Падкаціла пад грудзі... Вады...

Раман пабег у сенцы па ваду, насустрач зняцеўку дзед. Раман адскочыў.

## ПРАЯВА ШОСТАЯ

Г а н н а, Р а м а н, д з е д і Я н а ч к а (пачынае варушыцца, Раман калыша).

Р а м а н. Татуля, вады, вады! Нешта з Ганнай... Слаба яна...

Д з е д. Цяпер «татуля»! Апокуль ты, аторва, лежань ты пятроўскі! *(Бярэ карэц і, зачэрпнуўшы ў сенцах вады, нясе.)* П'янюга, згубіў жыццё маладзіцы, дзяцей абяздоліў... *(Дае ваду Ганне.)* Пракляну, дажджэшся, што пракляну, сынок, папомні! *(Маўчыць трохі.)* Раман!!! Дзе хамут? Куды хамут дзяваў? Прапіў! Усё ў карчму занёс!..

Г а н н а *(напіўшыся)*. Ох, тата, адлягло-о... Раман, памру я. Калі а-а-ажэнішся ў-у-удругі — жалей маіх дзетак, не крыўдзі і не дазваляй крыўдзіць. Кінь выпіўку... *(Раман стаіць, утупіўшы галаву ўніз, і цяжка дыхае.)*

Д з е д. Каня возьмуць за даўгі, каравёнку прадалі, хамут быў — няма. Усё на гарэлку пайшло. Раман, чуеш

ты? Зямлю прадам, сам кіравацца буду, пакуль сілы хопіць, а ўнукаў пракармлю, а цябе... пракляну, калі не забудзешся шляху да карчмы...

Р а м а н. Тата!

Д з е д. Да старэцкага хатыля бацьку давёў! У старцы астаецца хіба мне ісці? Ты ж адзін у нас быў, матка як цябе неставала, а ты як успамянуў нябожчыцу? Горэ ты маё... Вёсначка на дварэ, жаўранкі пяюць, людзячкі з вяселосцю на полі за сахою ходзюць, а мы, мы праз цябе тут, як у смале кіпім! Горэ ты маё...

Р а м а н. Тата! Досыць вам, даволі... Апахмялюся я толькі і навекі заракуся! Ці мне ж не тошна? Атруціла мяне гарэлка, згубіла жыццё...

Г а н н а. Ты малады йшчэ, Раман. Устрапяніся. Ці хочаш, крый божэ, каб і я з таго свету прыходзіла да цябе за дзетак спрачацца, Рамане! Дай мне спакой.

Р а м а н *(пацверазеў)*. Татуля! Ганна! Ці я ж нічога не разумею? Ці мне ж не баліць? І ці я ж не заракаўся? Але ж яна, як тая салодкая атрута... Як тое святло бягучае купальскае, заводзіць яна чалавека ў такую круч, адкуль няма ўзвароту... Адбярэць і розум, і сумленне, і жаласць... Ці я ж не разумею, тата? Ратуйця мяне... *(Замарыўся.)*

Д з е д. Праўда! Кара божа, Раманька! Казаў мне пакойны Габрыель: не трэба слухаць тых, што кажуць: «Разумны п'еці, ды вум не прапіваіць, а дурань і вадою абап'ецца...» І разумнага, і моцнага, і вялікага пана, і апошняга мужыка, і пісьменнага, і працавітага, і цёмнага чалавека — усіх адзінакава калечыць яна, ува ўсіх адбіраіць сілы... Праўда. Бо то ж кара божа! За тое, што праз гарэлку чалавек губіць розум, губіць абраз божы, робіцца самагубцам... Чуеш ты, Раман?

Р а м а н *(ташнуе праўдзіва)*. Што мне рабіць? Я не маю сілы, я не змагу сябе! Цяжка мне... Хаджу як шалёны... Не хачу іці, не хачу піць, а... іду і прапіваюся да ніткі... На панахвіду па роднай мамачцы грошы прыблюў і пра-пра-піў-у-ў... *(Гудзе.)*

Д з е д. Маліся, Рамане...

Р а м а н *(агоўтаўся ад плачу)*. Але ж прыспеў мой час... Татуля! Ганна! *(Бразнуўся на калені перад абразамі і склаў перад тварам рукі далонямі.)* Божа міласэрдны! Ты ўсё бачыш і ўсё ведаіш! Памажы мне, навышні! Клянуся табе, што ад гэтага часу ніколі...

Д з е д *(страшна гаворыць)*. Сынок! Не грашы. Не

падманяй бога! Колькі разоў, шмат разоў ты ўжо заклінаўся, бажыўся — і ўсё дарма... Дык не трэба ж! Не трэба прысягі, калі няма пэўнасці яе споўніць.

Г а н н а. Раман, не хітруй з богам! Пакарае-е... А-а-а...

Р а м а н *(творыць сваё)*. Няхай буду я праклят, калі з гэтага часу не кіну піць паганае атруты да самае смерці!.. Не меў я долі, шчасця, калі... *(Убачыў на палічцы грошы, усхапіўся.)* Што там? Скуль тут грошы? *(Хоча ўзяць іх, але дзед схапіў раней і пайшоў да Янachкі, каторы плача.)*

Д з е д. Рамане! Бог усё відзіць! Успомні, што ты казаў! *(Вымае спавітага Янachку і дзяржыць яго каля сябе толькі на левай руцэ, у каторай і грошы, а праваю папраўляе ў калысцы.)*

Р а м а н. Тата! Дай, дай грошы, мне толькі апахмяліцца... Дай, больш ніколі, ні разу не буду, дай — галава баліць... *(Падскочыў да бацькі і рвануў з рукі грошы і маланкай пабег за дзверы; Янachка скаўзануў з дзедавай рукі і грукнуўся галоўкай аб падлогу.)*

Г а н н а *(усё бачыла)*. Ай! А-а-а... *(Раптам апынулася на падлозе, крыкнула, захліпнулася.)*

## ПРАЯВА СЁМАЯ

Д з е д і н я б о ж ч ы к і.

Д з е д *(схапіўшы мёртвае ў крыві дзіцянё)*. О-о-о!.. Што гэта? Божа! Дзе ж праўда? Пакарай, навышні, губіцеля свае крыві і цела, не дай яму спакою ніколі за смерць непавіннага дзіцяткі... Няма ў мяне больш сына... Праклінаю! Праклінаю!!! *(Плача. Тым часам шпарка бяжыць, бразнула дзвярмі цётка Хрысцёна.)*

## ПРАЯВА ВОСЬМАЯ

З ц ё т к а й Х р ы с ц ё н а й.

Х р ы с ц ё н а. Сваточак, чаго ў вас плак, крык? Што з Янachкам? *(Дзіка крычыць.)* Памёр?! Кроў... А Ганнуся? *(Падбегла да Ганны.)* Нежыва?! *(Дзед здрыгануўся.)* А божа ж мой, што ж гэта? Прачыстая матка!.. Вады, вады!.. *(Пачынае выць.)* А ма-е ж вы дзетухны, а ма-е ж вы любы-я...

Д з е д. Кара божа! *(Паклаў к маці Янachку, схапіўся за галаву, страшна глядзіць на абразы і нешта шапоча ўсё дужэй.)*



Дом у Горках, дзе ў 1926—1928 гг.
жыла сям'я М. Гарэцкага.



Максім Гарэцкі з братам Гаўрылам. 1926 г.

# АНТОН

**(Абразы жыцця)**

## I

— А ты што за чалавек?
— Я не чалавек, я — пінчук.

Пагаворка

Яшчэ саўсім рана... Неба сіняе-сіняе, ані болачкі, і прыгожая без меры кветня паноў Іванецкіх абліта сонейкам і ўся чыста скрозь абхоплена веснавым цяплом, лёгкім і прыемным.

Пасыпаныя мяккім жоўценькім пясочкам акуратныя сцежачкі замыславата раскіданы і накрыж, і так, і гэтак і быццам бягуць у цянёк, пад гушчыну кустоў.

На зялёнай мураўцы калышацца няроўна сцень сонца, бліскі і цекі яго патроху, чым яно вышэй, прабіваюцца праз лісцё.

Белыя ляпёстачкі і схілыя жаўтавыя і пыльныя пруцінкі цвяткоў язміну такія пышна-сочна-ядраныя ўвечары, цяпер, навідне, аслаблі, але таксама пояць і пояць паветра тонкім, рэзкаватым мляўкім араматам. А язміну многа: кусты, кусты...

У цвітучай сірэні пах веснавы...

У цвітучай акацыі звон звініць: дзынг... дзынг... Там і пчолы, там і шчамялі, малыя і вялікія, жоўтыя, касматыя. Ой, якія лёгкія, добрыя пахі!

А на лавачцы, за столікам, у халадку, перад клумбай белых, жоўценькіх, сізенькіх, галубенькіх, чырвоненькіх кветак, сядзіць удовая пані Іванецкая, кароценькая, грубенькая, пухленькая і з шэранькімі вірлячымі вочкамі. Каля яе, з французскай кніжкай у руках, касавокенькая пляменніца Клава. Тут жа бегаюць шэсць беленькіх, як снег, падобных адзін да аднаго, невялічкіх сабачак; сёмага, тлустага таксіка, чорнага, з крывымі, як карчы, нагамі, водзіць на ланцужку хлапец Лёнька Белакурчык...

Воддаль стары белы панскі дом, размалёваная, зарослая дзікім вінаградам мураваная сцяна, а там дарога, пякарня, а далей рэчка, возера, абсаджанае вербамі. А на дарозе, пад горкай, дзве пакаёўкі ў белых хвартучках возяць у павозачцы паралічную генераліху, Клавіну матку.

За кустамі, каля варот, шныхае без шапкі, і са стрэльбай, і з торбай стары ляснік Аўтух. Ён не можа адважыцца падысці бліжэй; кашляе і перхае.

Пані *(да Лёнькі)*. Што ты ўсё тут круцішся, хлопчык? Я табе, байбус, што прыказвала? Попіку патрэбен мацыён! Вядзі яго дальш і доўга вадзі. Пагуляў бы з ім у Англійскім парку. Ага, паглядзі там, зайдзі на стайню, ці вычысціў Селівон Буйнага і Хахутку. Ну, ступай, ступай. Няма чаго табе тут тарчэць. Марш!

Клава. Як сянні хараша, цётачка! А нашто праганяеце Лёньку? Я з ім буду ў любоў гуляць... *(Звонка за-*

*рагатала і крычыць услед хлопцу.)* Лёнчык! Лёнчык мой! Лёнчык!

Пані. Клавачка! Падумай, дзіцятка, што ты гаворыш! Ну што гэта такое!

Клава. Цётачка, гэта мае жарты. Ды калі нудна. Ну хто тут каля нас ёсць? Чарняўскі — дурны, Казеллы — дзікія, Ёдкі — скнарыцы. Нудна. Цёця, а ў Лёнькі вочы, як у Вово Барацінскага, праўда? Што?

Пані. Клаўдачка! Клаўдачка! *(Заткнула вушы пальцамі.)* Гэта проста жах, што ты гаворыш. Я гэтага мурзу Лёньку заўтра ж аддам у падпаскі свінарніку Хадосу, а табе стродка-настродка забараняю гаварыць аб князю і аб гэтым... гэтым байбусу адначасна. Жах, жах, Клаўдачка!

Клава *(смяецца)*. Цётачка, а хто нас сягоння павязе ў Дуброўкі: гэты стары грыбазвон Стэсь ці Селівончык?

Пані. Ой-ой-ой, Клаўдачка. Не муч мяне! *(Узіраецца.)* Эй, хто там за аградаю? Ты, Яўтух? Што табе?

Аўтух *(кланяючыся, падыходзіць)*. Добры дзень, добрае ранейка, вяльможная пані! Дзічынкі прынёс, грыбкоў, таго-сяго. *(Падыходзіць бліжэй, ставіць ля куста стрэльбу і кладзе шапку; цалуе пані ў руку, памыкаецца пацалаваць Клаве, тая — круць! — адвярнулася ад яго.)*

Пані. У пякарню занёс?

Аўтух. А ўжо ж, у кухню, пані наша дарагая! Дзічынкі, грыбкоў, таго-сяго.

Пані. Ты, Яўтух, мала адбіраеш грыбоў і ягад. За гарэлку ў цябе, мусіць, увесь лес поўны мужыкамі. Памятай, Яўтух, калі ты мне ды не сабярэш дзве кадушачкі баравічкоў на марыноўку, я цябе пратуру са службы...

Клава. Уй, цётачка, сорам! Саўсім упудзіла дзядулю. Хмы-хы-хэ!..

Пані. А парубак няма?

Аўтух. Аб пакражах, паня шаноўна, не клапацiця. У мяне мужыкі аж вішчаць; бо як мы, значыцца, да чаго прыстаўлены... Сваё няхай гарыць, а панскае пільнуем, дзеля таго, як...

Клава *(не то жартуючы, не то напраўду)*. Слухай, дзядулька, вот ужо колькі разоў мы ездзім у лес, а я ніводнага шчэ разу не бачыла там маладых хлопчыкаў?..

Аўтух *(не паказваючы віду, што не паняў)*. А паненачка мая залатая, дык як?.. Ці ж я гэтых хамулаў? Хіба як лажкі там будуць абкашываць?..

Пані. Каго сяння ў лесе напаў, Яўтух?

А ў т у х. Залясянскіх дзвюх дзевак і бабу, бельскіх хлапцоў... На самай граніцы, панечка залатая, удвору ўжо ішлі; адны, потым і другія шэльмы. Тут я іх і злапаў. Адну хвустку здзёр, адзін хвартух, тры карзіны з ababкамі адабраў, два карцы з суніцамі, кашолачку з чарніцамі.

К л а в а. А-ёй, дзядуга, які ты жорсткі!

П а н і. У пякарню занёс?

А ў т у х. А ўжо ж, у пякарню, панечка. Занёс, аддаў там Ягоравічу.

П а н і. Добра, Яўтух! Ось што, Яўтух: ты, гэта... патурбуйся, скажы тым дзеўкам, няхай прыходзяць за сваімі хвусцінкамі; памогуць у нас бяллё адціраць, і хвусткі будуць мець...

А ў т у х. Добра то добра, панечка, ды калі ж яны, казінае племя, не пойдуць, пабаяцца... Ведама, дзеўкі.

К л а в а. Дык гэта і я — «казінае племя»? Фэ, які ты, дзед, няладны!

А ў т у х *(схапіўся за патыліцу)*. Ды, паненачка мая прыгож...

П а н і. Чаго ж яны пабаяцца?

А ў т у х. А так ужо пабаяцца, ведама,— у панскі двор, гэта ж не абы-куды...

К л а в а. Дзядулька! А што ж ты, жанаты? Маладая жоначка ў цябе?

П а н і. Клава! *(Глядзіць збоку на пляменніцу.)*

А ў т у х. Э-э, маладая... Пахаваў я сваю жонку. На тэй нядзелі во ўжо сёмыя ўгодкі справіў.

П а н і. У яго сын жанаты, дзяцей мае... Дураньчык такі... Праўда, Яўтух? Што, сварышся цяпер са сваім Антонам?

А ў т у х. Што грэх хаваць, паня наша вяльможная! Дурня не перaробіш і сваёй рады не дасі. Паслаў мне бог сыночка...

К л а в а. А што?

А ў т у х. Няўдалы сын мой, паненка любая. Да бацькі пашаны не мае, падбівае мужыкоў на мяне, што панскі лес сцерагу, панскім сабакам навучае гукаць мяне, за кожду сотачку выкарае, а сам нібы святы які прыстаўляецца... Эт, ведама, пустая галава зарадзілася...

К л а в а. А ты ж не ўжэш, дзед?

П а н і. Ну, Клаўдачка, кінем гэту размову, я табе ўсё после калі раскажу. А ты, Яўтух, ідзі сабе. Сцеражы лес, прынасі грыбоў, ягад. Мужыкоў не бойся, Антона не слухай. А вось табе за дзічыну. *(Дае дробных грошы.)*

А ў т у х. Дужа, дужа дзякую, шаноўная панечка. *(Цалуе ў руку.)* Давай вам божачка. *(Хоча пацалаваць у руку і Клаве, але тая ізноў з ухмылкаю — круць!)*

П а н і. Ну ідзі, ідзі, не марудзь; беражы лес.

А ў т у х *(бярэ стрэльбу і шапку)*. Супакойцеся, панечка даражэнькая, залатая: сваё будзе гарэць, а панскае прыпільпуем. Дзеля таго як мы, значыцца, пры чым састаім...

П а н і. Добра, добра, ідзі!

А ў т у х. Дзякуй вам... *(Кланяецца, пайшоў.)*

К л а в а *(піскліва крычыць)*. Дзядок! Лясная стража! Лясны цацярлюк і аратар! Які ты дурны, дзядок! *(Рагоча і жартуе з паняю.)*

П а н і *(села за вузлы)*. Ах, Клаўдачка, цяжка жыць у гэтай мядзведжай бярлозе, сярод гэтай дзічыны, ай цяжка! І што яшчэ, гэтыя тутэйшыя, самыя... самыя... самыя немажлівыя, самыя дрэнныя мужыкі... Асабліва ў астатнія часы; гультайё, п'янюгі, картэўнікі, а зладзюганы якія — толькі б красці ды красці ў паноў.

К л а в а *(нешта думае)*. Цёця. А наша фамілія беларуская, праўда? Наш род беларускі... Іванецкія... Іванецкія-Дубягі... Клаўдзія Іванецкая-Дубяго... І дзядзька-нябожчык таксама быў з Літвы... Цёця, твой...

П а н і. Ай, Клава, я не разумею, што ты гаворыш... Так цяжка воддаль ад вялікага свету, сярод гэтых хамаў! *(Перш стаіць, закаціўшы вочы на неба і злажыўшы рукі, а пасля поркаецца над вузламі, забылася.)*

К л а в а. А цікавыя тыпы. Хоць бы ось гэты ляснік стары. Толькі нейкі дурны... ці хітры. Папраўдзе, як я за гэтыя гады жыцця ў сталіцы далёка-далёка адсунулася ад дзярэўні. А тут радзілася, тут расла, гадавалася ў Беларусі, а цяпер — ну, саўсім жа не разумею і дзіўлюся, як можна пражыць доўга-доўга сярод тутэйшых «пейзан», хаха! *(Цягне словы.)* Нудна, нецікава, цёця, у вас, а-ёй — ну-удна... Прырода, праўда, любенькая, але простая, простая, таксама — нудная...

Ой, што йта цяпер у Пецярбурзе? Вово Барацінскі... Вясна... не-э, і там цяпер пуста... Дачы, дачы... І тут так, у гэтай глушыні, у гэтым «народзе», сярод гэтай «зямельнай сілы»... Неціка-ава, ей-ей...

Дзіўлюся, як жывуць мужыкі цэльнае жыццё, такое ж безыдэйнае, нецікавае, дурное, беднае... фу!

Цётачка, ну што вы там капаецеся! Нецікава, уй... Цёця, а хто нас павязе сягоння ў Дуброўкі: гэты стары гры-

базвон Стэсь ці Селівончык? *(Сама сабе.)* Селівончык грубейшы за Лёнькі, а які, усё ж ткі, мускулісты... Апалон, дадушы Апалон! Тра-та-ля-та-та-ля... *(Пяе нешта.)* Жыццё, жыццё, што ты такое ёсць? *(Ірве кветку.)* Любіць, не любіць... *(Пяе.)*

Захачу — палюблю,
Захачу — разлюблю...

Цёця! Я радзілася быць прынцэсай... Праўда? Што?

Захачу — палюблю...

Вясна, вясна, і так ну-у-удна...

Пані. Ну, Клаўдачка *(паднімаецца над вузлом)*, палічыла... Пойдзем па мамульку — і чай піць. Так, ведама, цяжка дый нецікава жыць сярод потных сярмяг, цяжка, Клаўдачка. Вучышся, вучышся... інстытут, балі, свет... і якаво-то потым сярод дурнога мужычча!..

I глаўнае, што аніякай жа цікавасці... *(Пайшлі.)*

Сонца ўжо — пад паўдзён, пачынае прыгграваць. Пастухі ўжо даўно прыгналі статак на паранкі.

За рэчкаю, па дарозе, некаторыя хлопчыкі і дзевачкі ўжо панясли наповірку абед касцам.

Душна... і пчолы ля акацыі глушэй гудзяць...

## II

Гарэлка не дзсўка,
не саромеючысь п'ецца.

Прыказка

Добры жыд! Хоць грошы любе,
А згубіць зусім — не згубе.

Сымон Рэўка

Свята. Надвечар. Сонца на захадзе ляхі на тры ад лесу. Людзі святкуюць. Па дарозе каля карчмы ідуць хто з гасцей, хто з лесу, хто з поля. А карчма не ціха: там выпіваюць, і сварацца, і цалуюцца, і болей усяго крычаць.

Вот у бакоўцы з пабеленымі сценамі, закапчонымі, брудна-жырнымі і чорнымі там, дзе выцерты яны галавамі і плечамі мужыцкімі і жыдоўскімі, з адвечным гарэлачным і піўным затхла-прыкрым духам, за столікам сядзіць Аўтух, а поплеч з ім Мірон Блошка, з чорнаю кудлатаю галавою і востраю, клінком, рыжаю бародкаю; ён удушлівы, хрыпіць, такі мізэрны, а п'яніца горкі. На ўслончыку, воддаль, хлебны і паньковы купец, ягомасць Іцка Броўда. Аўтух і Мірон п'юць гарэлку, заядаючы хлебам і соллю, а Іцка сядзіць каля іх з ухмылкаю, залажыўшы нагу за нагу, курыць. У дзверы іншы раз лезе рудая сукрыстая галава, а за дзвярмі хлёпаюць пантоплі карчмара Еселя. У дальняй каморы гомап, ляскаюць бутэлькамі, часам маркотна-звонка пачынае іграць гармонік. На вуліцы таксама чутны галасы, смех.

І ц к а  Б р о ў д а. Ну, Аўтух,— хаўрус? Надумаўся?

А ў т у х. Слухай, Іцка! Ты мяне ўжо не вучы, дзеля таго што я сам адукован нямала, розныя адукацыі прайшоў. Хочацца табе справіць справу — так і так, слухай мяне *(паніжае голас)*, дужа не гамані, і ўсё будзе ладна і добра... Не хочаш так — як ты сабе хочаш, дзела такое... А службу траціць з-за драбязы, з-за якога там глупства я не магу...

М і р о н *(на яго не звяртаюць увагі)*. Дзядзька Аўтух! Дзядзька Аўтух! Дзела дзелам, а гаварыўшы трэба ж, як тое кажуць, смагу праганяць... Дзядзька Аўтух! *(Наліў яму чарку.)*

І ц к а  Б р о ў д а. Аўтух?! Што? З цябе таго мала яшчэ, што я даю? Ты болей выхадзіш у пані Іванецкай? Фэ! Дзе твая галава? Я лічыў Аўтуха разумным чалавекам.

М і р о н *(яму хочацца выпіць, але пачаць першаму нібы не выпадае, і ён паднімае чарку і ўсё здароўкаецца да Аўтуха)*. Дзядзька Аўтух! Будзь здароў! Трэба ж смагу...

А ў т у х. Слухай, Іцка! Не знаеш ты Аўтуховай галавы, о-о-ох, не зна-аеш! Я ўсё віджу... Ты ведаеш, як я з панамі гавару? Не раўнуючы, як з табою ці з ім... О-го! Паны, брат, за тое мяне любяць і даражаць мною, што я знаю абхаджэнне. Я табе не Мірон які, не хамуйла. Я знаю, к каму як падайці. І ў які час падайці...

І ц к а. Ніхто не гаворыць, Аўтух — чалавек...

А ў т у х *(з абурэннем перабіваючы)*. За што летась усіх леснікоў турнулі, а я, Аўтух Жабон, астаўся? А? Што тут к чаму, як ты цяміш? Вун, як у Сасонніку шулы і гонт пакралі... Усіх па шапцы, а я астаўся! О-го! Я ўсё ведаю. Мяне старынцы пабіць хацелі. І аб Купалле пільнавалі ў Жаб'і, і на Красны торг на кірмашы прычэпку маскоўскую рабілі... Пабілі? Не-е, раней сам сканае, хто Аўтуха абойдзе. У мяне галава — не Міронава.

М і р о н. Гэ! Ну, дзядзька, будзьце жывы... Каб бог... Трэба ж смагу...

А ў т у х. На здароўе. *(І сам п'е.)* Дурню выпіўка — шчасце вялікае. Не-е, ты пі, ды галаву мей на плячах. Праўда, Іцка! Прапіў калі Аўтух галаву? Я п'ю, ды дзела разумею, за тое мяне і паны любяць і даражаць мною. Праўду я кажу, гаспадзін Іцка Броўда, ай не?

І ц к а. Чаму не? Хто гаворыць, што не? Ну дык слухай, Аўтушок,— Мірон жа свой чалавек,— дубкі, што пры Доўгім Балоце, мае? Добра?

Аўтух *(зап'янеўшы)*. Свой не свой, мой не твой, мог ба ты і другім разам спытацца: дзед мой казаў, што і сцепы часам чуюць, і ваўкі па-сабаччу брэшуць...

Мірон. Дзядзька Аўтух! Ды ці ж гэта вы на мяне што якое? А ці ж я калі хоць на грэх аб чым якім. Ды няхай жа таму язык адсохне: і мы, хваліць бога, да людзей, і людзі да нас. Каб я за хлеб-соль ды тое-гэта... Хай жа той дзетак сваіх не ўвідзіць...

Іцка. Мірон! Мірон! Ты не кляніся, скрыўджан не будзеш і ты. Чуеш, ну? Гэта гаворыць табе Іцка Броўда, можаш быць пэўны! А клясцца — грэх, дос.

Аўтух *(роўным голасам)*. К аўторку штоб было чыста ў свята. А ты, Мірон, ведай, ты — бедны мужык, можна сказаць, гной, дурань і болей нічога, а людзі з табою кампанію водзяць, не цураюцца цябе; дык разумей, што к чаму.

Мірон. Дзядзька Аўтух! Я вам заўсёгды, як роднаму бацьку, каб таму язык адсох. Ці праўда, пан Іцка Броўда?..

Іцка. Ёсель, Ёсель, нясі яшчэ гарэлкі... *(Дальш гаворыць Ёселю па-жыдоўску, што гешэфт зроблены, бо агой за гарэлку і родную матку аддасць.)*

Аўтух. Я ўсё знаю! І жылі і жыць будзем. А бельцам я таксама не падамся! Не-е. Коні забраў — не паўзі ў чужое, бо яно чужое. А папаўся — прасі, а не тое што... За грудзі не хапай... Аўтуха і не такія людзі прасілі. Я, к чаму прыстаўлен, таго пільную, і ўсё маё.

Ёсель *(прыносіць гарэлку)*. Аўтух, Аўтух, а ў пані ты даўно быў. Аддала пенсію!

Іцка Броўда *(насміхаючыся)*. Аддадуць. Паня Іванецкая аддае на лета, ды не на гэта... *(Рагоча.)* Каб у яе было што аддаваць. Лясы прадае, прадасць і зямлю... Тады аддасць...

Аўтух. Наша ў нас будзе, заплоціць.

Іцка Броўда. Ось праўда! Маладзец Аўтух! *(На вуліцы падбліжаецца шум: гармонік, бубен, скрыпка, гоман... Ідуць хлопцы, дзеўкі, жартуючы.)* Каго там ліха нясе?

Ёсель. Бельцы з лесу ідуць. Шахцёры... Гэта хвароба што за мальцы, гібелі на іх няма... *(У акно з-за сцяны, знадворку, нехта грукнуў кулаком.)* Гэй, халерыя! Хто там шалее?

Іцка Броўда *(адчыняе акно)*. Хто тут жартуе? А-а, гэта Іван! Як жывеш, брат Іван?

*У акно выстаўляецца вусаты від шахцёра.*

Шахцёр *(грубым голасам)*. Жывём, як жыды. А тут добрая кампанія. Аўтуху, лясной стражы, наша распранейшае! І пашанаванне і віншаванне! І «чужая душа» тут! Здароў, Мірон Блошка!

Аўтух *(надуўся, прымоўк)*. У ўсякага свая воля, а тым часам і дарога: спасенніку рай, шалёнаму поле, а шахцёру — ідзі куды ідзеш ды не лезь, дзе цябе не пытаюць, гэтак яно выходзе найлепей.

Іцка Броўда. Гэ, ці мала прыказак. Мы з Іванам вып'ем, каб святкі часцей траплялісся. Ну, вып'ем, Іван! Выпі, Іван! *(Падае яму ў акно чарку.)*

Шахцёр *(саркастычна глядзіць на Аўтуха)*. Аўтух, Аўтух! *(Ківае галавою.)* Стары ты хрэн, панскі сабака. І калі ўжо ты здохнеш? За што, слухай, забраў нашых коні? Патраву зрабілі вялікую, пожню збілі, шкоду нашкодзілі? Га?.. Ускочылі толькі ў лес... Сабака ты, сабака, стары сабака, аблезлы...

Аўтух. Машэльнік, катаржнік! Што ты лезеш? Што ты лаешся? Дэмакрат ты няшчасны!..

Іцка і Ёсель. До-до-до... Ну паўздорылі дзеля гадзіся троху, мала што бывае. Пусці, Іванька, зачыню акно, бо ўжо нярана, сцюдзёна на дварэ.

Шахцёр *(адступаючы)*. Помні, Аўтушына праклятая! Я цябе напаю, што і піць болі не захочаш, і дзесятаму закажаш, і тату з таго свету пазавеш... Цьфу! *(Плюнуў са злосцю.)* С-сабака панскі, падліза! Я шчэ з акружным пазюкаю аб табе, я ведаю твае штучкі, пададжы... *(Пайшоў.)*

Аўтух. Праўду людзі кажуць — сабака брэша, вецер носіць. Ды шкода: сабачы брэх да неба не даходзіць... Га, бунтаўшчык, сібірака, з ланцуга сарваўся... Іцка, станаві яшчэ палавінку!

Мірон. Ну нашто сварыцца? Лезе другі блазен. Усё б мірам, усё б ладам. Сяння тваю бутэльку, другім разам маю. Сядзеў бы змірна. Ты — шахцёр, я — Мірон, ён — ляснік, той — жыд... Што гэта к чаму? Ці мала мясціны ў карчме, не стоўпімся? Дык не. Каб без сваркі — то не можна. І што за свет наступіў?

*На вуліцы крык, гам. Іграюць, скачуць, галдзяць. Іван бушуе. Часам некаторы хлапец-буян тахае кулаком па акне. Ёсель тады дробненька гаворыць: «Галоўкаю, каб ты здох! Галоўкаю, малецькі!»*

Іцка Броўда. Ну, Аўтух, я буду спадзявацца. Чуеш? *(Хлопае па плячы; пастаяў трохі і пайшоў за дзверы.)*

А ў т у х *(узіраецца ўслед яму)*. А ідзі ты ў ростані ад мае галавы. Ці ведаеш — паднёс там якую чарку, дык забрытаў Аўтуха. Ашуканцы, круцялі... *(Звесіў галаву і задумаўся.)*

Ё с е л ь *(падышоў)*. Не тужы, Аўтух! Ты — разумны чалавек. *(Забраў бутэлькі і пайшоў.)*

М і р о н *(настройваецца на гумар)*. Будзем жывы, дзядзька Аўтух! Э, дзе наша не гіне — яшчэ па маленькай. Зірні — яшчэ колькі засталося. *(Устаў, выпіў і скрывіўся.)* Выпілі сабе, не каму... А на здароўе нам...

I піць — памром,
I не піць — памром...

*(Таемна да Аўтуха.)* Яны, жыдаўё, галавою працуюць; яны, дзядзька, нашага брата каля пальца во так *(паказвае)* абаўюць. Дзеля таго што мужыцкая галава на ўсякія рыхмецікі, крутню-матню,— слабая. Хай яно згарыць — пісаць ды лічыць, ці ж гэта работа? А я табе лепей асецъ жыта змалачу, а чымся драбязу якую злічыць, галаву ўсушаць. Гэта не гарэлку піць, а на гарэлку таксама са слабой галавою схавайся... *(Шэпча.)* А без іх, болматаў, не пражывеш, дзядзька. Хоць яны, праўда, не пад'ядуць, пакуль нашага брата не ашукаюць. «Борухатаданаі [1], борухатаданаі — кабылкі не маю...» А тым часам — ну як без іх пражыць, ну, скажы, дзядзька, ну я-як без іх пражыць? Каб я быў царом, я сабе б і Ёселя і Іцку Броўду ў міністры б узяў, хварэй іх галава... Круцяць, не круцяць, а што ты без іх?

А ў т у х. Я ўсё знаю... *(Праз дрымоту.)* Каб-ткі мой сын задаўся ладны... *(Паднімае голас.)* Я — ляснік, я — ляснік, а яго б, на чом бы ні стаў, у лакеі б яго вывеў... Ага! О, каб майму Антону хаця палавіна таго, што ў маёй галаве... Э-эх! Дурань ты, Мірон. Што, што ты п'еш гарэлку,— нічога ты не разумееш. Вось і гавары з табою, мужыком... А-а *(уздыхае маркотна)*, я ўсё знаю!

---

[1] Б о р у х - а т а - А д а н а і — слава табе, божа!

## III

Не мур навіпеп храмам звацца,
А цэлы свет, зямелька, зоры...

Напаю цябе атрутай,
Аж патомак будзе п'яны.

Да бога звярнуся — маўчыць нема бог...

Я. Купала

У цэркві абедня... Шэпчуць людзюхны, моляцца; свечкі жарка гараць прад святымі абразамі. Поўна людзей, і дзверы, і вокны адчынены, і душна... А праз рознакалёрнае шкло, зверху, ад купала, выступаюць і льюцца стаўбы-косы свету на галовы людскія, і па сцены разрысаваныя, і на таўсценныя, круглыя белыя стаўбы, што ўвесь дах дзержаць. І мост памыт, аерам пасыпан, і зялёны «май» каля вуглоў, каля стаўбоў, каля «пратэсаў» настаўлен: вясёла і прыгожа. А дзяўчын, дзяўчын колькі! І шляхцянак, і дзеравенскіх... Ой, ёсць прыгожыя: зірнеш — сэрца б'ецца... У паркалёвых, вышываных рознаю гурынаю (гарусам) і ў самыя пекныя ўзоры, кашулях, з доўгімі каснікамі і мілымі стужачкамі ў косах, з кружэўнымі каўняркамі... Вочкі іх вясёла так і бегаюць па цэркві, наўмысля так і забягуць направа, дзе хлопцы стаяць, альбо набожна-набожна застановяцца на абразах, на свяцейшай царыцы нябеснай, што з бясконцай любоўю і нейкім святым сумам пазірае на юр-дзяўчынак і туліць да сябе хлопчыка-сына.

І на двары, на цвінтары народу нямала, аж мітусіцца ўсё пад старымі ліпінамі, і ў звонніцы бабулек стаіць і сядзіць даволі, і на звонніцу хлопчыкаў-галузаў панабівалася, і ў царкву аж дабіцца не можна. Направа мужчыны найбольш... Каля сценак старыя, сівыя, каля кліраса і пасярод — сярэдніх гадоў бацькі, а ў праходзе хлопцы — прыбраліся, у новых пінжаках, у жупанах, у ботах, у прыгожых кашулях, а «свецкія» ў чорным і нават пры манішках. Блізка да кліраса, каля сценкі, прад абразом Міколы святога стаіць **Антон Жабанёнак** са сваім маленькім сынам **Іванькам**. Антон яшчэ малады, русавалосы, з невялікаю барадою, з глыбокімі вачамі, паглядам падобен да Хрыста на абразах. Ён у новым жупане, у новых лапцях з нядаўна забарсанымі белымі аборамі, у белых штанах; пояс на ім прыгожы старасвецкі, што нябожчык дзед адказаў. І Іванька ў белай кашулёнцы; ах, трудна ўжо яму стаяць, па баках пазірае ды з ножкі на ножку перастулае.

Антон з пашыранымі вачамі глядзіць на св[ятога] Міколу, шэпча і шэпча, шырока хсціцца і ў зямлю кланяецца, і на каленях стаіць.

**Антон.** Памілуй нас, госпадзі! Спасі мяне, госпадзі! Злітуйся над намі, госпадзі! Божа міласэрны! памажы нам! Святы Мікола-ўгоднік божы, мацер божа...

На клірасе пяюць аб пакуце, аб царстве нябесным, аб міласці божай.

**Поп** *(кадзіць, і глядзіць угару, і шэпча).* Ісусе Хрысце! Дай мне веру вялікую... Ісусе Хрысце! Не дапусці захлібнуцца мне ў моры малавернасці... Вялікі сын чала-

вечы! Ты — сын бога — дык пашлі мне веру крэпкую... Дух святы! Злітуйся, пазбаў духа майго ад мук няверыя... О, божа мой, божа маўчлівы, божа далёкі!

Н а с т а *(шэпча)*. Зірні, зірні, Польцінька, які харошы вось мой шляхцюк малады са Стараселля... Дадушы, ён сюды ўсё пазірае...

П о л ь ц я. Не шапачы ты так, гэта ж мы ў царкве...

Н а с т а. Пойдзем на цвінтар у цянёк пад ліпнік, і ён выйдзе за намі, вось пабачыш...

П о л ь ц я. Глядзі, як увабралася вун тая шляхцянка... Ай, каб такія каралечкі мне...

Н а с т а. Чаму ёй не быць прыгожай, калі яна жыруецца ў бацькі змалку, чаму ёй не мець такое чыстае лічка, калі яна жаць ходзіць і то пад зантом. І жне ў пяршчатачках...

П о л ь ц я. Ці-шы ты, пачуе... Будуць смяяцца, што мы так дужа шэпчам у царкве...

Н а с т а. Ну пойдзем на цвінтар...

Пайшлі з цэрквы; за імі доўгім паглядам кінуў шляхціц Маліноўскі, пераксціўся і таксама пайшоў.

Ш л я х ц я н к а Ф р у з а. Манечка, угледзься на таго, што каля дзяка ў бліскучых гузіках, чарнявенькі... Вусікі прабіваюцца. Гэта ж гімназіст... На цябе ўсё, ей-богу, на цябе глядзіць...

М а н я *(чырванее, вочкі чорненькія засвяціліся)*. А можа, на цябе... пазірае...

Ф р у з а. Трэба сказаць брату, каб запрасіў яго на вечарушкі. Ён пяе ладна, а што ж «Юрачку» скача — каб ты ведала...

М а н я. Адкуль ты знаеш?

Ф р у з а. Ён быў на вяселлі ў Ханеўскіх...

М а н я. Уй, ківае, здаецца, сюды... Не шапчы... *(Абедзве пабожна і змірненька стаяць і глядзяць прад сабою; шчочкі пышуць, броўкі — дужкі чорныя — нявідна часам шавеляцца, пухлыя губкі цвітуць чырвоным макам, косы русыя цяжкія звіслі на круглых плечках. На шляхцянак кваплiва глядзіць з-за слупа Юрка Музыка. Ён учора ўзяў у хадзяіна грошы, схадзіў к жыду па боты, сёння прыбраўся; служыць батраком у шляхціца.)*

А н т о н. Ксціся, Іванька! Скора, скора пойдзем... Божа міласэрны, прасці нам... Божа праведны, памажы нам!.. Цару нябесны, уцяшыцелю... Божа! злітуйся... Божа! злітуйся... *(Гаворыць так разоў сорак.)*

Д з я к. Дзяцюк! *(Шэпча гімназісту.)* Падзівіся, як

наш ацец Васіль сяння задзірае вочы на неба... Мусіць, з матушкаю пасварыўся ўранні. А ты думаеш, ён так веруе?.. *(Спахваціўся, дае тон.)* До-мі-до-о-о... Го-спадзі, памі-луй...

Гімназіст *(прыслухваецца сам да сябе, як цягне маладым баском: «у-у-у...»)*. А ты вялікую веру маеш?

Поп. Аб спасенні душ нашых госпаду памолімся...

Хор. Госпадзі, памілуй!

Дзяк. Ён, ацец Васіль, ён, брат, атэіст... Толькі табе кажу... Чэснае слова. У мяне ёсць адзін таварыш-поп, што з ім у семінар... *(Махае рукой к хору.)*

Хор. Госпадзі, памілуй!

Дзяк. ...казаў, што яны там належалі да гуртка вучанікоў-арыяністаў... Хрыста за бога не прызнавалі, лічылі яго толькі незвычайным, вялікім чалавекам... *(Махае рукою.)*

Хор. Госпадзі, памілуй!

Дзяк. А цяпер наш ацец Васіль, як той казаў, ані ў бога, ані ў чорта...

Гімназіст. Ах-ах-ах... А ён, брат, мучыцца без веры... Горш няма, як веры не мець... У нас на ўроках законавучыцель...

Дзяк. І гарэлку пачаў піць а[цец] Васіль...

Гімназіст. Дык чаму ён не расстрыжэцца? Хаця што ж...

Дзяк. Во сказаў... Чаго яму? І горшыя папы ёсць. Дый дзяцей трэба вучыць, гэта ж не што... *(Махае рукою.)*

Хор. І духаві тваяму!..

Гімназіст. А ты, слухай, «како веруешь»?

Дзяк. А ты?

Гімназіст. Я сам не ведаю, як табе сказаць. Мне здаецца...

Хор. Амін!..

Поп *(выходзіць на амбону з лістком у руцэ)*. Ва імя аца, сына і святога духа! *(Пачаў казаць пропаведзь.)*

Гімназіст *(шэпча дзяку)*. Мне здаецца, нештанейкае ёсць, высшае, адкуль усё пайшло... А што яно, мы не можам пазнаць сваім розумам... і гэта-а... гэта... ну і можам маліцца нечаму невядомаму... як бы сказаць... Вот у нас на ўроках па закону божаму...

Дзяк. Дык бог то канешне ёсць, але цікава — дзе ісцінная вера, вот што.

Поп *(гаворыць казанне далей)*. Вера без дзела, добрага дзела,— мёртва...

Антон *(аж увесь напнуўся напярод і ловіць словы папа, у вачах хваравіты агонь ад вялікага набожнага панучуцця).* Так, бацюшка... так... за грахі нашы... Ціху, сынок! Слухай... Памілуй, госпадзі...

Дзяк *(таўхае гімназіста).* Глянь на таго вун мужыка ў шэрым жупане... Антон Жабанёнак...

Поп. Звярніце аднаго на пуцявіну ісціны, і праўды, і дабра,— і спасёны будзеце...

Дзяк *(гімназісту).* Бачыш? Вот забабонны мужык! Набожны, як жыд падарожны... А ты думаеш, разумее што? Куды там — яго чорт — мужыцкі, з рагамі... Ну што як гаварыць, ты сам відзіш, якія бараны мужыкі нашы... цемната, брат,— жыць тошна, пагаварыць няма з кім...

Гімназіст. А ты чытаў Льва Талстога?

Дзяк *(замяўся).* «Князя» чытаў... ці тое — «Князя Сярэбранага»... Вун, вун, Міця, шляхцяначкі сюды зіркаюць...

Гімназіст. Якія?

Дзяк. Каля стаўба... Галяхоўскія... за аднэй бацька дае тысячу...

Гімназіст *(быццам і ў той бок не глядзіць).* Жаніся.

Дзяк. Не аддадуць... Каб я семінарыю скончыў...

Поп. Хто не мае ў сабе страху божага, не жыве той, а хіба гніе... Без страху божага людзі лаюцца, забіваюць, распуствуюць... Без страху божага людзі п'юць, губяць сумленне... А страх божы, гэта не страх смалы пякельнай...

Іванька. Тата! Што п'юць? Ці гарэлку, а? Тата!

Антон. Слухай, слухай, дзетка!

Іванька. Як дзед, а? Тата!

Антон. Маўчы, не бунтуй...

Поп. Яны папраўдзе не ведаюць, што твораць, бо губяць і свае душы і душы сваіх унукаў... Навукаю дайшлі, што ў сёмым калене п'яніц родзяцца калекі, дурныя, малавумныя... Ці ж не ўгодней богу і ці ж не здаравей для цела і душы чалавецкай капейку, што нясеш на гарэлку, аддаць на храм божы? Час апамятацца, братцы парахвіяне, і...

Шахцёр 1-шы *(шэпча не дужа ціха таварышу).* ...і несці капеечкі на спадніцы тваёй матушцы...

Шахцёр 2-гі. Не лезь, не шапчы мне...

Антон *(уражаны навіною).* Госпадзі! Няўжо дзетачкі ў чым павінны? Спасі і забарані, божа! Святы Мікола-ўгоднік!.. А госпадзі ты наш!..

У вутлу дзяды пачулі словы папа.

Адзін. Э, каб мы так пілі, як нашы дзяды-прадзеды, святыя радзіцелькі, няхай святыя ляжаць... Не хварэлі б мы так ды па сто гадоў жылі...

Другі. Бог жа ведае... Ці мы, цёмныя людзі, можам што разумець? Няхай бог прасціць грэху, як не выпіць?

Антон *(мімаволі слова-другое шэпча, а ўжо не чуе таго, што поп гаворыць далей, думкі яго пабеглі сваім шляхам).* Чым я вінават, што бацька мой п'янствам сваім жыць сям'і ўсёй не дае? І чым бы вінаваты былі мае ўнукі, каб я п'янствам арэшаў іхнае жыццё? Чым будуць вінаваты дзеткі мае, калі зародзяцца за грэх бацькоў сваіх малапамятнымі? Значыць, калі й навука так дайшла і бацюшка так даводзіць, значыць... як жа гэта? Нашто ж так бы даў бог? Бог бы так не сатварыў, не ўстанавіў бы парадку такога... Мусіць, тут яны[1] ўмяшаліся... Як гавораць, што і казу яны зрабілі. Адно што яна валілася, не хадзіла, пакуль бог не дунуў у яе... і тут, можа, яны як нашкодзілі?

Ды ці бог дапусціць да таго. Ці ж так можа быць, ці ж так патрэбна? Ой, што кажу? Грэх, грэх... А я бацьку прасіў, а я бацьку маліў, я худога слова яму не сказаў, а ён пад старасць яшчэ горш пачаў... У лесніках служыць... Людзём крыўду робіць... А хто з добрых людзей з ім у згодзе? А смяюцца толькі ўсе. А хто яго «панскім сабакам» не лаяў? А сваркі тэй, а слоў брудных, ды на старога... А за што мяне, сына свайго ядынага, не любіць, дурнем заве? А можа, і сапраўды я не поўнага вума, ды не ведаю сам таго? А дзе бацькін розум? Людзі ў вочы яму насмешкі робяць, а ён на тое быццам і не ўважае; знявагі той як бы не цяміць... Божухна! Што йта з ім? А колькі ж разоў Домну крыўдзіў. За што? Ці вінавата яна, што заможныя браты адракліся яе? Нікога татка не любіць, злуе... Толькі па лесе са стрэльбай, як той воўк, як той чараўнік, адзін-адным ад золак да познага цягаецца-бадзяецца... Абы б гарэлка! І ўсе п'юць, і ўсім клопату як бы няма, шчэ й з мяне кпінкі кпяць... І ніхто ўжо веры не мае; у каго наўчыцца, у каго рады папрасіць? А можа ж, і канец свету скора, калі так? А можа, і памерці лепей скарэй, калі так? Няхай Мусіяш-Антыхрыст не здзекуецца, калі зыдзе. А грэх! А й маліцца тады па мне не будуць, бо па такіх не моляцца... Дык што ж гэта к чаму? Няўжо ж і поп не знае,

[1] Нячысцікі.

няўжо ж і ў кнігах не напісана, як усё, што к чаму, адкуля яно, што будзе? *(Ташнуе Антон.)*

Поп. І царства божае будзе на зямлі. Амін.

Усе ксцяцца: поп пайшоў к алтару.

Антон. Ксціся, Іванька! Ну стань на каленькі ды пасядзі, калі ножкі млеюць... Божа! Настаў нас... Божа! Памілуй мяне, грэшнага, памілуй... *(У яго на правым воку павісла слязіна.)*

Хор. Во ве-ек ве-ка...

Дзяк *(гімназісту)*. А вун, вун... Вот лёгка можна развінціць мужыка страшнымі ды жалобнымі славамі! Зірні, Міця: Антон як не плача...

Поп *(выйшаў з крыжам; абедня канчаецца, людзі страшна паціснуліся ўперад, каб пазнаймавацца скарэй)*. Братцы! Не ламіцеся так! Усе, усе паспееце...

Стораж *(хрыпла)*. Адступіце!!

Дзядзька *(заціснуты хлапцамі)*. Не давіце, што гэта? Пастойце!!. Пусціце... гой!..

Хлопцы *(здавілі яго сумысля яшчэ болей)*. Не лезь уперад, нехалюзы!

Антон *(адышоў з Іванькам к вуглу)*. Мы паспеем, дзетка. Кланяйся. *(Сам ксціцца і кланяецца.)* Святыя мучанікі, прападобныя ангелы й архангелы, святы Мікола-ўгоднік, маліце бога за нас, грэшных. Божа! памілуй мяне... Госпадзі...

Іванька. Тата, якая гэта птушачка над залатымі дзвярамі?

Антон. ...і ачысці нас... Дзе? То дух святы...

Іванька. А чаго яна галоўкаю ўніз? А, тата! Што на ёй блішчыць?

Антон. Не зюкай... бо зараз пойдзем... пазалота...

Хор. І сахрані іх на многая лета... *(Басы аж равуць.)*

Людзі расходзяцца. У царкве пусцее і пахне дымком ад пагашаных свечак. Староста з памочнікамі бразгае грашмі каля свячнога стала. Бабулькі шчэ поўзаюць па ўсіх вуглах і цалуюць кожны абраз, каторы не высок, дастаць можна, тры разы: вышэй, каля галавы, у ручкі і ў ножкі. У алтары поп даядае, што асталося ў чашы, і потым дзеліць з дзякам грошы. У вуглу прад сумным раскрыжаваннем, прад столікам з чорнаю шырынкаю стаяць людзі, што закуплялі паніхіду. Тут жа і талерачкі з капунам і з прылепленаю к брыжу свечачкаю. Нейкая маладуха клепчыць і плача, але — каб ніхто таго не заўважыў. Бабулька нейкая пытаецца ў старасты, чаму з абыходам не хадзілі?..

На цвінтары гоман вясёлы, смешкі там-сям. Знаёмыя хлопцы і дзеўкі рыхтуюцца разам ісці ўдвору.

Некаторыя старыя пацягнуліся пад мапапольку...
Уверху звонніцы, пад дахам, пішчаць стрыжыкі. У ліпніку вераб'і:
«Ціў-ціў! Ціў-ціў!..»
Сонца пячэ... Сонна і пуста...

## IV

Затым сляпы плачыць,
Што сцежкі не бачыць.

Прыказь

Закасіўся, заараўся...
Дурнем памрэ, як радзіўся,
Сам сабой дурным зрабіўся...

Мацей Бурачок

Адышла абедня, і сыпнулі па ўсіх дарогах людзі ад сяла да сваіх хатак. Цягнецца патроху, з боку ў бок, раздзельская дарога; каля рошчы папоўскай, каля царкоўнага зялён-гайка, пад горку каля возера панскага, па лагу, праз грэблю, сярод вербалозу, а потым з горкі, налева, і пайшла, і пайшла... Вот і ў Сасоннік забегла; тут старыя калюгі, а там карэнне, а ўжо тут убіта і ўкачана яна, толькі шышачка старая колка пад нагу пападзе.

А сосны, сасонкі спакойна стаяць і ў просветах,— дзе дарога, дзе палянка, дзе балота,— грэюць на сонцы свае прыгожыя колкія кучмы. Сярод сасняку захавалася зялёна-цямнейшая елка. Балота... Парасло купнікам, асакою; на самай сярэдзіне, мусіць,— іржавінне, вада мутная і цёплая, і жаб не чуць... А збоку тонкая, гнуткая лаза, а за ёю, на луговінцы, расце невысокая, курчавая такая бяроза; вецця-веццячка! Венікі б — ох! Дый рэзаць неяк шкода ажно. А пад бярозай — баравікі, а шчэ далей, дзе ўжо лог, сенажаці, там па краях суніцы, буйныя, салодкія...

Трава тут добрая, высока і густа; быццам спіць мятлюга, нявідна дрыжыць канапелька, дзятліна белая сядзіць, званочкі калышуцца, здалёку, з лесу а-брат-сястра бялее, сінее мясцінамі.

Спакойны і ціхі лес. І птушкі аб абедзе змоўкліся, пяюць неяк не дужа галосна, а паціху і паважна, а то і саўсім моўчкі пырхаюць сярод лісця, скачуць на суччы. Абедня ўжо даўно адышла, а шчэ чутна тут, па Сасонніку, у дарозе — звоняць ва ўсе званы — паніхіду хто закупляў. Па дарозе ідуць з царквы. Блізка што ўсе ўжо пайшлі ўперадзе, і толькі Антон з Іванькам ды з дзедам Кузьмою ідуць адзадзі паціху, бо шчэ паспеюць прыйсці, а ножкі ў хлопчыка слабыя.

Кузьма *(дае Антону палавінку бліна)*. На-ка, на-ка, укусі троху, што там...

Антон. Дзякуй вам, дзядзька, але я ўжо не буду грашыцца да хаты... Можа, Іванька?.. Таму гасцінец...

Кузьма. Іванька! Ідзі во блінка пакушай...

Антон. Я браў хлеба, ён падкрапляўся на цвінтары.

Кузьма. Ідзі-ка, бяры, весялей ногі будзеш падніmаць, не будзеш ад ветру калыхацца...

І в а н ь к а. Вецерам? Вет... ветрам калыхацца?! А вот жа не. Я не хачу бліна, тут суніцы. *(Ідзе воддаль ад дарогі, каля дрэў.)*

А н т о н. Бяры, сынок! Грэх табе, дзіцёнку, не ўзяць, калі дзед са свае ласкі дае. Дай твой вобуй падиясу; заморышся да хаты.

І в а н ь к а. Не-а.

К у з ь м а. А што яму? Ён во сабе разуўся, босенькі, лёгенькі, як тая плісіца: скок! скок! *(Дае яму бліна.)*

І в а н ь к а. Татка! А хто Сасоннік насадзіў?

К у з ь м а *(смяецца)*. Бог насадзіў, бог усё даў...

І в а н ь к а. А чаго дуплы ў дубу? Дупліны... Там птушанядкі нечыя...

А н т о н. Якія дуплы? Шчэ сам ты дуплінка. Табе ж кажуць — бог усё даў. Ступай пашукай там ягад пад кустом, разгарні траўку...

І в а н ь к а. Татка, во каб цэркву на нашым гародзе паставіць, усе б к нам тады хадзілі. У званы б званілі! Ах! А то во ідзеш-ідзеш... *(Аддаў бацьку лапцёнкі, трохy пабавіўся, даеў блін і пабег к ягодніку.)*

К у з ь м а. Дзяціны розум — дзяціная гаворка. А во кажы-ка ты: гэткаму піскляёнку, яму ўжо цікава, адкуль тое, што тое? Бог святы ведае, ці чалавек усё можа згадаць. Нашто ёсць адукаваныя галовы — папы або з паноў другі выўчыцца, з начальства, а й то запытайся пра што — не ведае.

А н т о н *(закінуў вобуй на плячо; магерку ссунуў набакір, леваю рукою дзяржыць на спіне жупан, каб не было так душна; рад, што закранулі яго думкі)*. О, каб то людзі ўсё ведалі, што б тады было? Калі й так часам бывае, чалавек поўчыцца і дурэе, а то што б з таго было?

К у з ь м а *(усміхаецца)*. Ці ты помніш нябожчыка старога бацюшку?

А н т о н. А чаму ж. Ён жа памёр, мне ўжо было гадоў дванаццаць.

К у з ь м а. Я вазіў яго на сваіх коні, калі трэба куды далёка. Вып'ім, бывала, мы — любіў, няхай свят ляжыць,— едзем ды зюкаем: «Скажыце вы мне, бацюшка,— пачынаю,— ці праўда гэта, што мертвяцы па начах хадзіць могуць, чараўнікі... гэта ёсць... Ці можа быць, каб гэта праўда?» Пасмяецца ён: «Гу-гу, гу...— грубы голас меў,— недапека ты, брат Кузьма! Пяклі цябе, ды недапяклі... А нашто табе тое ведаць? Ці хлеба дзецям тваім з таго прыбавіцца? Калі я, ацец твой духоўны, баюся і жахаюся знаці пра ўсё,

тым горш табе, мужыку, гэта непатрэбна... Гу-гу-гу... Недапека ты, Кузьма!» Разумны поп быў, дарма што піў. Цяперашні маўчыць усё, хто яго ведае, што ў думках мае, не патрапіш і слова яму сказаць, з гаворкі мала чаго ўцяміш... А нябожчык разумны быў, ой разумны! Ён табе нізашто не скажа, чаго не можна... А то б мала-мальскага захацеў дапытацца наш брат пра набажэнства ці пра чорныя кнігі. Яны знаюць, усё знаюць, а мужыку не скажуць...

А н т о н *(расчуліўся)*. Скажыце вы мне, дзядзька, калі ласка... Чаго йта, як пад'ясі ўдварэ да абедні і пойдзеш у цэркву, дык так нудна, цяжка-цяжка на душы, як слова, ты — не ведаю што... проста чуецца нейкі цяжар на сэрцы, нейкі грэх, во як часам скрыўдзіш каго, чуеш брудзь нейкую на целе, нібы то мыўся дужа даўно... Так дрэнна — у цэркві трудна ўстоіць...

Запяюць «Херувімы» — такі сон клоніць, глядзець не можна, самі вочы так і ліпнуць...

А як пойдзеш нашча — так лёгка чуешся, так табе вясёла, радасна; у цэркві стаіш, аж палягчэеш увесь, быць на крыллях, і сэрца прыемна-млосна б'ецца... Удвору пойдзеш — самі ногі бягуць.

К у з ь м а. А во праўда, ці чуў ты праяву? І дзе б ты ні быў, а калі ў цэркві ідзе абедня, дык спаць хочацца... Так ужо і спрадвеку гавораць. Як запяюць на крыласе «Херувімы» і людзі пастануць на калені і дужа-шчыра маліцца пачынаюць, тады яны [1] не могуць у цэркві быць, ангелы іх выганяюць бізунамі агнявымі, і яны альбо наводпрамець бягуць вон з цэрквы, альбо хапаюцца ўлезці ў такіх людзей... Ты ж, братка, пэўне, чуў аб Хоўры-бабылцы? Яна такая была таксама хваравяка; так звычайна здарова, троху хіба не дужа разумна. Як толькі «Херувімскую» запяюць — яна й бразь! аб зямлю і ну калаціцца і галавою, і нагамі, і рукамі... Скрыгоча, аж пена з роту, а вочы выкаціць. А то як кінецца ў аўтар ці к абразам. Гэта, кажуць, ён у яе хаваецца. Хаваюцца яны, мабыць, і ў таго, хто ўдварэ да абедні пад'еў ці ноччу прад тым святам грашыўся.

А н т о н. Божа наш! Як яны абходзяць чалавека... А во я аб Хоўры многа разоў чуў, а неяк не даваў веры; думаў, проста хвора на гэту хваробу, на падучую... Ці вы, дзядзька, самі калі відзелі?

[1] Нячысцікі.

Кузьма. А ўжо ж. Леташні год аб Ільі. «Прастол», кірмаш... Народу-народу з'ехалася. Лета гарачае, людзей паўнюхтанька цэрква, а не ўлезці, душна... Здароваму чалавеку і то мляўка робіцца, а хвораму і потым — таго... А свечкі гарадь-гараць, многа іх. Ля мяне, агледзеўся, і Хоўра моліцца. Запелі «Херувімы»... Людзі — гуррр-гургур!..— на калені, а яна, гляджу, сперша бела-бела, як тая крэйда, і раптам у аўтар кінулася, але пароду — сцяна, заступілі ёй, яна пазад — і бразь! на погі аднэй дзяўчыне. Тая, бедная, як не самлела сама, а Хоўра пену пусціла, галавою — трах! трах! — аб мост, а ў жываце ў яе нешта — пі-ісь! Тут я барзджэй за ногі, Мікіта Пацкоўскі за галаву ды вон з цэрквы на ганкі; палажылі, вады ў від пырскнулі.. Ачуняла! Зараз паднялася, пайшла, толькі жалілася, што галава дужа баліць.

Антон. Ён маўчыць... Божухна, што на свеце дзеецца!

Іванька. Татка! Якая то птушка паляцела?

Антон. То? Сіўка-варонка...

Іванька. А-а, знаю, што мама Ходзі пела: «Сіўка-варонка далігойда! А дзе была? У Янкі на дварэ!.. Што Янка робіць?..»

Кузьма *(глядзіць у лес)*. Эх, сасонкі вун пад той бок! Хата б хата была... Палацы, панскія пакоі...

Антон. Дораг цяпер лес. Аб такой хаце і не гадай, калі нашто там што — солі недакупіцца, карасін, і то па шэсць капеек ужо, а ўзімку шчэ быў па пяць.

Кузьма. Ну вам соль хіба што не трэба купляць. Бацьку ж паны даюць штомесяца паёк... Глядзі, поліўку пасаліць і ёсць чым.

Антон *(іранічна)*. Ёсць... Усё чыста к Ёселю запясе альбо другім дваровым перапрадасць. Як толькі дадуць...

Кузьма *(жалосна)*. Ах, ты думай! Гарэлка, усё гарэлка?

Антон. Каб вы ведалі, дзядзечка! Другі раз да таго даходзіць, як падумаеш, да чаго мы дажывёмся, да чаго мы дажыліся, што такая нуда абхопіць, такая туга абгарне. Каб не грэх, ужо лепей памерці. Дадушы, ужо лепей...

Кузьма. А што ты гаворыш! Ці ты гэта здурэў, дзе твая галава, пабойся бога! Адкуль ідзеш, а ці не ён [1] к табе падскачыў; ці мала што бывае ў жыцці, як гэта можна так сказаць? Грэх, братка, вялікі грэх! Богу маліся...

---

[1] Нячысцік.

Антон. А калі ж у жыцці шчэ болей награшыш і другіх у грэх не раз не два ўвядзеш. Чаму мяне маленькага мамка не пахавала? Вот плачуць, як маленькія ўміраюць, а мне здаецца, што не можна па іх плакаць; іхныя душачкі чыстыя к богу ідуць. Мой Іванька: ён цяпер, пакуль малы, што ён знае, многа ён награшыць? А і то, і ён далёка не той, што як быў у калысцы. Глядзі, ён цяпер то птушанятак пабярэ, то жучку крылкі адарве, то ў хаце з Ходаю паб'ецца, а далі-болі, божухна-бацюхна, колькі шчэ грэху набярэцца? А дабра? Многа ён дабра ў жыцці пазнае? Жыць трэба, працуй, біся, як тая плотка аб лёд, клапаці ўвесь век аб тым, як бы пражыць,— калі ж тут аб душы падумаць? Дзед п'е і п'е, бацька, я ўжо з духу выбіўся, я ўжо сілу сваю страціў, я ўжо зжыўся, як тое гавораць — быў конь, ды з'ездзіўся; зямелька не дужа ўрадліва... Ды гэта ўсё нішто б, а ты чуў — у сёмым калене — дурныя?.. Што сягоння бацюшка казаў з амбоны? Як не думаеш, дык і не думаеш, а як падумаеш, дык што ты думаеш! О-ё-ё...

Кузьма. Ат! Мала што кажуць. А чаго яны самі п'юць? Табе здаецца, папы ды паны не п'юць? Ого, шчэ як! Ужываюць па-другому, лепей...

Антон. Цяжка, дзядзечка, калі чалавек не мае прытульнага чалавека ў жыцці. Мяне мама-нябожчыца толькі любіла, хай свяценька ляжыць... А потым ажаніўся, Домну ўзяў... Так у нас усё неяк так, ды не так... А каб не мама, даўно б наша сямейка ў старцах з торбаю хадзіла. Дасада ў мяне, дзядзька, на сэрцы, каб вы ведалі, што за дасада...

Кузьма. Дасада не расада, на градку не пасодзіш... Пакінь ты, усяк людзі жывуць, а жывуць... Ага, праўда, ці вашы там старыя ўжо косяць разкі, ай не? Пагода ўстаялася, трэба рупіцца, трава сама што ўвайшла, каб не перастояла.

Антон *(у задуменні)*. А косім... З чэцвера ўзяліся...

Выходзяць з лесу на лог. Цячэ ціхі ручэй, аброс вербалозам, альшэўнікам, асакою, аерам... Ціха, цёпла.

Іванька *(нарваў аеру і ссе мяккую беленькую сярэдзіну)*. Скора прыйдзем... *(Прыглядаецца ў ручэй.)* А татулечка, колькі рыбкі маладзенькай! О — шусь! шусь! — пабегла некуды... Каб тут ракаў у пячурах пашчупаць...

Кузьма і Антон сціхлі і задумаліся.

Кузьма *(схапіўся за галаву)*. Во каб ты згарэла! А каб цябе! Гэта ж я забыўся ў краму схадзіць, табакі бабе сваёй узяць. А хварэй твая галава! Ці нада ж ткі!

Антон *(са святою ўхмылкаю, каторая даводзіць, што ён і не хоча крыўдзіць чалавека, тым часам даўжон сказаць праўду)*. Гэта бог даў так, што дзядзька забыліся, бо грэх нюхаць табаку, з сабакі яна зарадзілася. Ад дзеўкі і ад сабакі.

Кузьма *(смяецца)*. Што праўда, то не грэх. Хто курыць, таго ў пекла турадь, а хто нюхае, той сам цюхае... Ну, братка, мала як — святлей у вачах бабе, як панюхае, што ты парадзіш. Ну й дасць яна мне чосу — забыўся. А прах цябе бяры! Слухай, слухай! А кажуць і так: «Хто нюхае табачок, той добры мужычок; а хто не зажывае табакі, не варт сабакі».

Антоп задумаўся; думкі яго паляцелі туды, дзе жудасны Копша [1] складае торпы касцятрупаў, а дзе калісьці рагатыя з бізунамі, хвастатыя, капытатыя на тонкіх ножках і са свінымі лычамі гоняць звязаных ланцугамі людзюхнаў у... агонь неўгасімы... Усе тут ёсць: і каралі, і царыцы, і міністры, і генералы, і губернатары, і паны, і папы, і жыды, і цыганы, і ўсякія другія народы, і мужыкі, і бабы, і маламожныя, і заможныя, і ўсякія, усякія. І тыя, што бацек не шанавалі, і тыя, што дзетак распусцілі, і тыя, што бога не баяліся, у сераду, у пятніцу мяса елі, дарма кляліся, з чужымі жонамі распусту рабілі, і што нюхалі, і курылі... і... Божа, божа!

. . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . .

Вот ён, Антон, як хлопчыкам быў, занёс лусту хлеба Дзёміным украдня ад бацькі, бо яны з імі былі сярдзіты, а хлеба ўжо не мелі ў спасаўкі. Як Дзёміха старая дзякавала пеяк дзіўна, а яму, Антону, было стыдна-стыдна, шчокі гарэлі... Чаго стыдна? А бацька усё ж ткі даведаўся после і абсек яго вожкамі.

Кузьма. Ну, хваліць бога, недалёчка ўжо, Іванька, радуйся...

Сонца ніжэе. Перайшлі праз масток з патрупехлымі парэнчамі, падняліся на ўзгорак, ідуць міма магільніка, здзяваюць шапкі і ксцяцца. Над магілкамі шумяць галлём бярозы, шэпча ціхая сасна, ліпа ліпае лісцікам... Пахіліліся крыжыкі, сівым мохам абраслі. А дзе-нідзе і заваліліся крыжыкі, і не знаць: ці тут магілка, ці тут так якая курганінка. Спяць радзіцелькі... Спіце, родныя, жджыце нас, памром, каб з атамаў нашых геній нарадзіўся і палепшыў роднае жыццё... Жджыце нас!

---

[1] Копша — па беларускай міфалогіі страшны магільшчык, гаспадар магільнікаў.

# V

Ці багамольны, ці бажавольны?

Прыказка

Чалавеча! Шкада мне цябе...

З. Бядуля

На тым жа суку сеў...

Пагаворка

Вечар у Жабонавай хаце. У вокны лезе цёплая летняя цямнота, а часам бліскае маланння. За сталом п'яны Жабон і другі ляснік Панас. П'юць чай (вар бяруць у бляшанцы; самавара няма). Гарэлка на стале, сырое сала ў талерцы.

Тут жа на зэдліку Антон. На палу Домна Антоніха, Іванька і Хода.

Гарыць лямпа.

На дзярэўні ўжо некаторыя ляглі спаць. Каля Лявонавага двара яшчэ мардуюцца начлежнікі. Гармонік завядзе-завядзе адважна вясёлую песню таго, каторы загуляўся — бо ўсё роўна, і сціхне. Батрак Карпекін, чутна, разгуляўся, пяе і на гром не дбае.

Прасці мяне, выбачай,
Што я улюбіўся...

А гарманіст (Максім Сухі, ідзе, мусіць, з кірмашу з Басценавіч) падводзіць сабе на другі, маркотны лад:

Прашу ж цябе — не гневайся,
Учора п'ян быў — прамовіўся...

Надходзіць граза, і начлежнікі не ведаюць, ці весці коні к Сасонніку, ці пусціць ля гумён, на парыні, а самім схавацца ад дажджу ў гумно.

Дугае і ціха грукоча гром...

У хаце пад столлю, каля трама, звіняць мухі ў духаце, а ў сенцах акуратня цыркае цыркун: «Цыр! Цыр! Цыр!..»

Домна хоча ўжо лажыцца спаць, рана ўстане, ды няма як, пакуль леснікі не разойдуцца. Яна гаворыць дзецям, каб спалі, а яны, вытрашчыўшы сонныя вочкі, слухаюць, што гавораць за сталом, і не спяць. Антоніха зявае, і тады яшчэ болей нейкая худая, бледная, сухарлявая; а і цяпер даволі прыгожая; яна ўцяжку.

Панас. Вот і сядзі на зямлі. А што мне твая зямля, калі я лепшы хлеб знайду? Зямля працу любіць, а праца дурня любіць, і як не было мужыцкага царства, так яго й не будзе...

Антон. Ці ж, дзядзька, так ведаеце?

Панас. Ведаю... Я тое ведаю, што браток мой жыве на зямлі, бо ён мужыком зарадзіўся, такім і рукі сашчэпіць па бацькавай лаўцы. Яму гэта бацькава лаўка, бацькаў кут. О! Няможна, няможна з карня схадзіць, прападзеш... А на адном паўпадзельчыку раскашуешся? Выразалі цяпер, хутар: трох дзесяцін няма! Панком зрабіўся,

засценак свой мае, ха! Хітра, мудра, з невялікім коштам. Жыві, жыві! Добра ж — цяпер паны ў рэнду аддаюць аблогі, а не будуць — пракормішся ты з хутара свайго? Бульбы насадзіш ды пану ў бровар завязеш па залатоўцы чацвярык. Накупляешся хлеба! А зямлю карміць чым? Зайцы табе ўпагнояць яе, ці што? Я, брат, віджу...

А так сказаў я: «Бяры, брацішка, і маю долю і сваю... Жыві, як тое кажуць: «А дзе, чорце, прывык? — А ў балоце...» А я хлеба сабе знайду. Не на бацькавай лаўцы рукі сашчаплю, затое дзеткі мае без хлеба, пакуль бог дае, не плакалі...

А ў т у х *(есць сала)*. Хву... хва-ла богу...

П а н а с. Ці ж ён лепей за мяне жыве? Гаспадар, хадзяін, а хлеб а маслянцы купляе! Я — ляснік, службу выпаўняю, што скажуць, спраўлю, і хваліць бога: грошы грашмі, а паёк даюць штомесяца, а там яшчэ адтуль-адсюль, прамадзеем, прамудруем. Вот цяпер, Аўтух, і скажы, хто разумнейшы: я ці мой брат Пятрок? Ну?

А ў т у х *(выпіў добра, але яго яшчэ не разабрала)*. Я ўсё знаю... На зямлі жывеш — калі ладна, дык усё ладна; у лесніκі пайшоў — калі разумны, дык не будзеш дурнем без хлеба. Ат, што там! Я і ў лесніках служу, а пад бацькінымі абразамі хлеб-соль ем... Хто вас, братоў, разбярэ. *(Здароўкаецца да Панаса з чаркай.)* Будзь здароў!

П а н а с. Піце на здароўе! Яно так, ведама... *(Ён не ўсё зразумеў, што казаў Аўтух.)* Мой дзед-нябожчык, ён жа быў шляхціц не абы-які, а йто за хартоўняй дагляда ў вяльможнага Вішнявецкага; ён за харта душу б аддаў, любіў. Так і ляснік: што ляснік? Ці я горшы за другіх людзей? Ляснік — адно: розум мей. Кажуць: «А-а, Панас абдзірае, Панас тое-гэта...» Не-э, падажджы-ка шчэ ты такіх леснікоў, як Панас Хартоўня альбо дзядзька Аўтух.

А ў т у х. Ну-у, бяры, пі ды закусвай. *(Яму напрыклíла Панасава красамоўства.)*

П а н а с *(к Антону)*. Будзем жывы-здаровы!

А н т о н *(невясёла і ціха)*. На здароўе.

П а н а с *(ізноў за сваё)*. Ідзеш ты ў грыбы ці ў ягады, ці коні твае нашкодзілі — падумай жа ты, дурная галава, на лесніка. Не леснікоўскае ж гэта — панскае. Такі ж я бедны чалавек, як і ты; няхай сабе ты мужык, няхай сабе дзед мой дагляда ў хартоўню ў вяльможнага Вішнявецкага. Што да чаго належыць? Мне тваіх коні забіраць ці хвустку здзіраць — вялікая карысць? Гэ! Ты шануй лесніка, шануй...

Д о м н а *(сама сабе)*. Напіўся, гаворыць, гаворыць... Ішоў бы ўжо,— дык сядзіць, спаць не дае...

П а н а с. Мала што я на цябе затукаю, затупаю, пастрашу, раз-другі злаю. На то мая служба. А па-людску: няма ў Панаса бульбы, не хапіла да налецця, успомні ж ты на тое, што забажаецца табе грыбоў пасмакаваць, прыйдзецца табе ж часці касіць у паноў, здарыцца ж і ў ягады схадзіць...

А ў т у х. Ат, што тое казаць. Я служу, дык я ведаю, чаго я служу. А прыйдзецца да каго зайсці чарку выпіць, затое цябе не забуду... *(П'е гарэлку.)*

А н т о н *(ташнуе, што яны так гавораць, маўчыць усё, думае)*. «Не, нешта не так у іхнай размове... Нешта не па правільнаму... А як жа б трэба, як?»

Д о м н а *(паціху)*. А ўсе леснікі прысягаюць богу-Хрысту і лазоваму кусту...

А н т о н. Грэх...

А ў т у х *(пільна ўглядаецца на Антона)*. Грэх...

І в а н ь к а. А як «лазоваму кусту»?

Д о м н а. Схаваецца сам за куст ад таго, каго не хоча абадраць...

Заблiскала маланння, і зараз загрымеў дужэйшы гром; мухі каля траму звіняць цішэй, цыркун змоўк.

П а н а с *(дапіў чай і перавярнуў чашку)*. Ну, дзякуй жа вам... Дзякую... *(Па чароду жме руку Аўтуху, Антону і Домне.)* Дзякуй за вячэру, дый пара ўжо мне. *(Глядзіць шапкі.)*

А ў т у х. На большае прабачай... А можа, пасядзелі б шчэ, дапілі, пагаманілі...

Д о м н а *(сама сабе)*. Во яшчэ нахаба...

П а н а с *(да Аўтуха)*. Пасядзім, дасць бог, другім разам. А цяпер *(хітра і мнагазначна)* — чуеш, рагаталі каля Лявона, шэльмы, сціхлі... Думаюць: леснікі ў дварэ, граза — усё можна. Ашукаецеся, дзеткі...

А ў т у х *(ужо добра напіўся, пакуль той гаварыў)*. Ты прайдзі... гэта... каля логу... у Сасонніку... *(Рыгае ад гарэлкі ці ад сала.)*

Д о м н а *(сама сабе)*. Душою рыгаеш...

А ў т у х. Я золкам устану...

Д о м н а *(сама сабе)*. Устанеш, устанеш, глядзі што.

А ў т у х. К Жаб'ю прабягу... *(Паклаў галаву на рукі, п'яны.)*

П а н а с *(узяў стрэльбу)*. Ну, бывайце здаровы! *(Узяў-*

*ся за клямку і п'яна баўтануўся.)* От ты, хвароба, заседзеўся як... *(Бурчыць у сенцах і на дварэ.)* Цямнота ж, цямнота, матачка навышняя! Недарма духата гэткая... А... ту... гэ... Цюцечка, цюцечка... *(Сабака там гаўкае.)*

Аўтух *(к Антону)*. Чаму чаю не п'еш? *(Есць.)* А ты, Домна, што дзяцей спаць не вядзеш? Ці рана...

Домна *(на палу сцягвае дзяругі, сама сабе)*. Няго ж не рана... пакуль жа нальліцёся, шлунння сваё нацэдзіце. *(Дражніць.)* «Не магу без чаю... без хлеба буду, а чаю дай...» Пан вялікі, ляснік... Круп купіў бы...

Аўтух *(дрэмле, а ўсё чуе)*. Хы... хы... у каго там жывот бурчыць? Маладзіца моліцца... хы...

Домна. Ходачка! Хода! Пойдзем спацькі ў сенцы. Заснула... Іванька! Ідзі памаліся ды ў сенцы спаць... Божухна, як душна стала, а маланачка так і свеціць. *(Бярэ Ходу на рукі і нясе ў сенцы.)*

Іванька *(пацягнуўся, устаў, злез)*. А я не баюся грому... А мама з намі ляжыць?

Антон. Пераксціся, Іванька, ды марш у сенцы. Ну, ацькі божку! Каўнярок расшпілі, а то заснеш зашпілены, прыляціць ангел і стане плакаць... Ідзі... ідзі... *(Іванька пайшоў.)*

Аўтух *(праз п'яную дрымоту)*. Галуза... З курамі б лёг... Сеч... Розгамі такіх... Я ўсё знаю... Дурні, машэльнікі... Што вы мне... *(Спіць седзячы.)* А-хы-ы... хы-ы...

У хаце моўчкі; на дварэ патроху, а безупынна грукоча гром, цыркун зноў часам цыркне, мухі толькі сонна капашацца, духата ў хаце, лямпа цёмна гарыць, за акном шапоча лісце і тахае аб сцяну шост, але рэдка.

Антон *(усё думае, даўно нешта наўме мае, што яго гняце... Патроху пачынае дыхаць часцей, часцей, захваляваўся, запыхаўся... Колькі часу сядзіць звесіўшы галаву на грудзі, а грудзі дышуць цяжка. Потым, калі Домна з дзяцьмі, мусіць, заснула, раптам ціхенька стаў прад сонным бацькам на калені і палажыў яму рукі на нагу... Той заківаў нагою.)* Тата, татуля! *(Голас дрыжыць і жалобны.)*

Аўтух *(спужаўся)*. Што ты! Што ты! Што?.. А?.. Чаго табе?.. *(Вытрашчыў здзіўленыя вочы, мутныя, п'яныя, і адкінуўся к сцяне.)*

Грыміць дужа гром.

Антон. Тата! Прашу я вас, пакіньце піць гарэлку і расчытайцеся ў паноў...

Аўтух *(стаў сам сабою).* Дурань! Дурань! Дурань! А-а-а ты, багамолле дурное! Ізноў некага наслухаўся!

Антон. Татачка, прашу ж я вас... *(Плача і хапае руку бацькі, каб пацалаваць.)* Бо ў сёмым калене ўжо дурныя...

Аўтух *(грэбліва адхоплівае руку і ногі).* Адлезь ты ад мяне, сатана дурнаватая... Пень! Во чалавек! Ашалеў саўсім, тпфру ты, адлезь, табе кажу... *(Насмешліва і шмат п'яней.)* Кінуўся, выдумаў... *(Ізноў палажыў галаву на рукі, дрэмле.)* Га, ты... Не піў з бацькам у хаце, а во нейдзе ўпіўся... Ну й надумаўся... Не піў, ды ўпіўся...

Антон *(перш стаіць галаву звесіўшы пасля незадачы; патроху паднімаецца, сцяў на ўсю сілу зубы, адходзіць, прыціскае кулак к грудзям).* Не ўпіўся я, не ўпіўся, а так здурнеў... а можа, уп'юся... *(Шэпча.)* Прападзі ты ўсё...

Гром сціхае.

Аўтух *(паднімае галаву і бярэцца за бутэльку).* Камедзь, га! *(Выпіў чарку.)* Ну, даў бог сынка, га... Хоць бы ж палавіну бацькінага меў у галаве, хоць ба палавіну... А я гадаў: у лакеі выведу... Куды з дурнем паткнешся? А вывеў ба,— паны мяне любяць і даражаць мною... *(Ізноў паклаў галаву на рукі.)* Але ж саўсім, саўсім дурэць пачаў, га... Дагэтуль такога не было-о, не было-о... І слёзынькі... здзяцініўся, га... Камедзь! *(Усё болей пачынае дзівіцца.)*

Антон *(сеў на калодачку, разуваецца).* «Нашто мне было? Колькі разоў — і ўсё роўна. Нічога не выйдзе, нічога на свеце не зменіцца, памерці... Няхай пашкадуюць... Будуць ведаць... А Іванька і Ходачка, сіротачкі, памучацца...» *(Схаваў вобуй у печаркі, укруціў агонь у лямпе і лёг на сяннік; яму душна, цела свярбіць. У вокны барабаніць дождж, рэдка асвеціць усё малання, ціхі гром пачуецца.)* «Нічога, татка, не разумееш, не хочаш разумець, а некалі зразумееш... Прападай усё, чымся так жыць... Не, не прападай, а гэтак будзе найлепей... Бог усё знае... Спаць... Памалюся. Бацька сядзіць...»

Аўтух. Ці чуў: сорамна сынам панскага сабакі быць? А прыгоншчыны, сынок, не хацеў бы спазнаць? Га... Усе мы панскія сабакі... Мала што забастоўшчыкі пайшлі хадзіць, дурата адна... Га... Камедзь!

У акно зпяцейку стучыць вартаўнік; Антон хваравіта здрыгануўся.

В а р т а ў н і к. Стук! Стук! *(Гаворыць як з падпечча.)* Ці не спіцё яшчэ? Выйдзі, Антон, каня вазьмі. На пачлег не павялі, граза, дык хлапец прасіў каня вашага завесць удвору. Выйдзі, Антон, вазьмі... *(Антон пайшоў.)*

А ў т у х *(упоцемку налівае чарку і п'е; бармоча сабе).* Я ўсё знаю... Нашага каня аддалі, а самі ў панскую пожню... Бура, цыні... А я п'ян... А дурань Панас заваліцца пад куст ды засне... Я ўсё знаю... А што ты мне: «Не пі, не пі...» А калі мяне нуда заядае, калі я не ведаю тады, за што мне ўзяцца, рукі вянуць, а вып'ю — забываюся на яе, праклятую... Ты любіш у цэркву хадзіць,— хадзі сабе на здароўе, не дакарай жа мне, што я не хаджу... А я не хачу ісці, я, цыні, і не пайду. А там не малітва, яго[1] толькі пацяшаюць... Смяюцца, шэпчуцца, а ён сядзіць сабе на сценцы ды на валовую шкуру грахі піша... Га-а, шальмоўства. Я за асецць пайду маліцца, чараўніком няхай завуць... Каб я ўмеў чараваць, я падчараваў бы вам... *(П'е.)* А ў лясу я адзін, без людзей, дык мне спакою даволі, мне спакайней, сэрца не рве сын дурнаваты і суседцы добрыя. Я п'ю, дык мяне нуда не гложыць. А я не магу... Адзінота... Трэба выпіць дзеля здароўя, дзеля вясёласці... А ён надумаўся, ашалеў, захныкаў... Камедзь, га... Дурні, машэльнікі... Я ўсё знаю...

Лямпа згасла, мухі спяць. Аўтух сапе і храпе.

А н т о н *(завёў каня ў пуню, выйшаў і ўбачыў зарыва на небе).* А госпадзі міласцівы! Гарадь, гараць людзі... Закрый, забарані... К чаму бог дае? Хаця б там дожджык буйнейшы... Прымета людзём, каб дбалі на яго... Як жыць? Як жыць?.. *(Успомніў, як стаяў перад бацькам на каленях, і цяжка ўздыхнуў.)* Ці піць, ці не піць, ці пасварыцца ды памірыцца, ці што — усё роўна... Няма толку... Дурніца няшчасны я... *(Ксціцца і ідзе ў хату, там становіцца каля лаўкі на калені і пачынае маліцца: пераганяе колькі раз заўчоныя малітвы, кланяецца і кланяецца і з здаваленнем пачувае, што на сэрцы лягчэй.)*

Дзярэўня спіць.

[1] Нячысціка.

## VI

— Гыр-гыр-гыр!..
— Кусі, кусі, кусі!.. На тое ж вы людзі, а прычэпку знойдзеш і за шчэпку, прычынку і за лучынку...

Пагаворка

Яшчэ рана-ранепька. На траве раса блішчыць. Сонца не пячэ. Спакойна стаяць на лагу рэдкія бярозы, дубкі, лазовыя кусты, а воддаль, за дарогай, панскі лес яшчэ добра не прачнуўся. Ні к лесу, ні к полю не відаць аніводнага чалавека, толькі ў просвеце мітусяцца далёка-далёка на Казіным Лагу коні начлежнікаў, скачуць спутаныя.

Антон косіць тут сваю пожню. Ён без шапкі, без пояса, расшпілены, з мокрымі на лобе валасамі; шыбка махае касою. Ён увесь увайшоў у смак працы, яму прыемна сярод красак, але думкі не пакідаюць яго. З яснымі вачамі, з добраю лёгкасцю на сэрцы, кожны раз, як узмахне касою, гаворыць Антон: «Госпадзі, памілуй, госпадзі, памілуй!..» Так ён працуе і моліцца.

Ціха, цёпла, і неба яснае.

Антон *(прыстояў, выцер лоб рукавом, абцёр касу травою, убіў канцом касаўё ў зямлю і пачаў тачыць (вайстрыць) касу: «Вайстры-касі... Вайстры-касі...» Думае).* Каб так у жыцці помніў на бога і маліўся шточасу, колькі б можна маліцца. А то калі памаліўся ўранні ды ўвечары, дык і ўсё. І што ўжо за маленне. Учора Домна: моліцца, а ўбегла свіння ў хатку, яна выганяе раскарачом і шэпча: «Верую я ва ядынага бога айца...» Грэх адзін. Вот жыды: яго з малітвы не зрушыш, хай дзіцёнак з лаўкі зваліцца.

Вот гэта малітва... *(Абглядзеўся каля сябе, зайшоў пад дуб, дзе стаіць пясчанка і ляжыць жупан, пачаў ксціцца і ўсё гаворыць: «Госпадзі, памілуй! Прасці нам, госпадзі!» Потым стаў на калені і, глядзячы на ўсход, шэпча і ксціцца, але прымеціў, што каля лесу нехта ходзіць, устаў і, узяўшыся за касу, пайшоў на пакос.)* Ці балюча травіцы, што яе косяць? Чаму-то ёй не дано голасу? А мусіць, і ў яе душа ёсць? Не, хіба дрэву і травам не балюча, калі іх рэзаць? А каню вот балюча, рабіць конікам цяжка, а бог ім не даў раю... Конь здох — і ўсё яго. Дык нашто ж яму боль дана ад бога, калі раю не дано? Іншы конь болей і лепей за чалавека працуе, а вот... гм? *(Косіць, далёка адмахваючы касу.)* Няхай маё суседу пяройдзе, закашывацца ў чужое грэх, і не буду...

Ад лесу, са стрэльбай і па калені намачыўшыся, ідзе Аўтух; Антон косіць, пакуль бацька не падыходзіць аж к самаму яму.

**Аўтух.** Памагай бог!

**Антон.** Дзякуй... *(Косіць.)*

**Аўтух** *(моўчкі ўзышоў да пакошанага і ўглядаецца ўдоўж па мяжы).* Ці ты гэта многа так сенажаці маеш, галубец, што свайго адракаешся, ці што? Паглядзі, зірні, падзівіся — гэта ж ты на палавіну пакоса пакінуў свайго Банадысёвым... Ах ты, дурань ты... *(Аўтух спахапіўся, што сказаў ужо «дурань».)* Адкасі тую ж гадзіну, чуеш?

**Антон** *(дос касіць, выцірае лоб рукавом).* Ат, будзе з нас, тата, перакашу няўмысля, дагледзіць Банадысёнак — сварыцца пачне...

**Аўтух.** А глядзець на яго сваркі? Няхай сабе горла дзярэ, а ты — сваё адкасіў, і ніхто да цябе нічога не мае. Адкасі цяпер жа...

**Антон.** Ну, дадушы, тата, будзе сварка... Клок тут сена, бярэмца не збярэцца... Мяжа, здаецца, так ідзе.

**Аўтух** *(насмешліва).* Жалобнік ты ў мяне абабраўся... Дурань! Пакінь з аднаго боку Банадысю на паўпакоса ды Ахрэму з другога столькі, і касіць не трэба, бо рэз шырокі, што там... Той час адкасі, табе кажу, ну, пры маіх вачах...

**Антон** *(няпэўна думаючы, просіць).* Ай, тата, ну што гэта вам зарупіла? Каліва сена... Наша пяройдзе — перад богам спакайней. Сваркі гэтыя...

**Аўтух** *(скідваючы стрэльбу і вырываючы з рук сына касу).* Ану ж цябе к ліхой гадзіне з тваім спакоем! *(Косіць.)* Зарадзілася дуплё на маю галаву! *(Зайшоўся, залязае ў чужое.)*

**Антон** *(спуджана).* Татачка, яй жа богу, закасіліся... *(Забягае і глядзіць па мяжы.)* Казаў я... *(Прыпомніў, што няўмысля пабажыўся.)* А прасці, госпадзі, ажно пабажыўся ні за што... От ён, грэх, пайшоў... Тата! Ну, праўда ж, закасіліся...

**Аўтух** *(косіць).* Адкасніся ты ад мае галавы, багамолле дурное... Уступлю я свой пакос Банадысёнку нейкаму, хварэй ён, нячыстая сіла. За тое, мусіць, што ў маё вечна лезе. А ці косіць, ці арэ — гэта ўжо закосіцца, гэта ўжо мяжу здзярэ, каб яго па шкуры драла... Го-о-о, уважу я сваё? Няхай падажджэ...

Тым часам, як назло, з-за дубоў, з-за кустоў паказаўся большы Банадысёнак. Таксама ідзе касіць свой рэз, бо на плячах каса і кашэль. Ён патроху падыходзіць к мяжы, каб па лініі зірнуць, ці добра адагналі мяжу Жабоны.

Антон *(убачыў Банадысёнка і ціха да бацькі)*. Ну ідзець жа Езка, пачне лаяцца, ах, ці варта было...

Аўтух. А маўчы ж ты! Во жвінда, звяга тая... Ну няхай пачынае, язык мае не куплены, чорт яго не ўхопіць.

Езка *(перш паціху, а потым усё дужэй)*. Ну і што гэта, ныні, за работа, каб хто спытаўся? Аслеп, чужога не ўвідзеў, каб ты так, брахненька, дзетак сваіх не ўвідзеў. *(Глядзіць па мяжы.)* Не адсохлі ж ручкі старэнькаму ці маладзейшаму, не павылезлі ж вочкі на той час...

Аўтух пакуль што маўчыць, толькі пачынае хвалявацца, рукі трасуцца. Антон спужаўся і шэпча з дасадаю: «Ах ты я-я-я-яй».

Езка *(падыходзіць блізка к Жабонам, а глядзіць усё па мяжы)*. Каб вы пазарэзаліся гэтаю коскаю, як мала з вашае глоткі, як вы пазаграбалі б усюдых. *(Злосна.)* Сcса-а-бакі панскія, ліха вашай матары!.. І ў панскім як тыя свінні, і ў суседскае гнятуцца... *(Крычыць.)* Халерыя на вашу галаву!..

Аўтух *(схапіў касу і раптам замахнуўся на Езку)*. Маўчы!! *(Страшэнна запыліўся.)*

Антон. Татулька... т...т... *(У яго калоцяцца зубы.)*

Езка *(шалеючы)*. А што ты за маё добрае рэзаць мяне, стары дур...

Аўтух. Маўчы! Маўчы, табе кажуць! *(Махае касою.)*

Езка. Дык шчэ так? А-а... *(Падскочыў і схапіў Аўтуха за грудзі.)*

Аўтух. Антон! Антон! Хапай стрэльбу!..

Езка. Дык так! *(Выхапіў касу з рук Аўтуха і адкінуў. Водзяцца.)*

Антон. Божа мой! Пакіньце вы... Езачка, дзядзечка...

Бегае, быць авечка, потым схапіў стрэльбу і дзяржыцца з ёю.

Езка. Ды не-е... *(Хрыпіць; паваліў Аўтуха і душыць яго за горла.)*

З-за кустоў выязджае на кані акружны (ляснічы) пані Іванецкай.

Аўтух. Антон... тонька, рат... *(Хрыпіць і малоціць нагамі.)*

Антон *(наводзіць стрэльбу)*. Езка! Пабойся... *(Кінуў стрэльбу і валачэ Езку з бацькі за плечы, той саўсім збэсціўся.)*

Акружны *(падганяе каня)*. Гэта што такое? Аўтух!

*(Пад'ехаў і, калі Антон адбег, перавёў разы два бізуном па Езку.)* Ах ты, сібірака! Гэта што за разбойства! Здурэлі вы?

Е з к а *(зляцеў з Аўтуха, схапіў сваю касу і кашэль і пабег к дарозе)*. Ра-туй-це, хто богу ве-ру-е!.. А-я-ай! *(Сумысля крычыць жалобна, як яго рэжуць, быццам яго там забіць хацелі.)* Ра-туй-це... *(Бяжыць, толькі пясчанка аб кассё — брын! брын!..)*

А к р у ж н ы. Ай, Аўтух, Аўтух! А ты, Антон, чаго ж тут глядзеў, не разбараніў?

А н т о н. Калі ж я...

А ў т у х *(злосна, саркастычна і скрыўджана)*. Дзякую, дзякую, сыночак... Любіш бацьку...

Навокала прыемнае лёгкае паветра. Звялая трава дае арамат. Пачалі стракатаць скакунцы. Сонца вышэй і вышэй і жарчэй. У балоце кракнула вутка; паляцелі шпакі, у полі капашацца людзі...

## VII

Намерся, ды не ўдар.

Старасвецкая мудрасць

Ці саву аб пень, ці пень аб саву —
усё саве баліць.

Прыказка

Кепска зрабіў, што радзіўся.

М. Бурачок

У Аўтуховай хаце ізноў гарэлка. Сам А ў т у х ужо даволі выпіўшы, а д з і н с л я п ы с т а р а ц таксама, д р у г і, трохі відушчы, цверазей. Тут іхнія хатылі, і кастылі, і на круку ліра. А н т о н у вясёла-святым настроі. Д о м н а смутна. І в а н ь к а заплаканы. На стале паўбутэлька і сырое старэцкае сала.

На двары дождж ідзе і йдзе бесперастанку. Ужо многа налііло. Вецер сцюдзёны пакалаціў з ігрушы невялічкіх ігрушак.

У хаце ад непагоды цемнавата, пахне мокраддзю, сырасцю і гарэлачным духам.

Х о д а ч к а *(сядзіць на палу каля маткі, глядзіць у аконца; тут жа, на акне, усе ляльні яе)*. Сцэ будзіць дозс, мама, бурбалкі скацуць на лузынах... *(Яна ўвесь час так картавіць, бо шчэ саўсім дзіцёнак.)*

Д о м н а *(шыючы нешта)*. Будзе, будзе дождж ык, дзетка. Ёп, як слёзкі, пройдзе-пройдзе, спыніцца дый зноў...

Х о д а ч к а. Мамка, а ці пусціце тады мяне з Іванькам цуркі прапускаць, калі сопіка заблішчыць? А, мама? Ці пусціце?

Д о м н а. Пушчу, пушчу, каб прастудзіліся. Чуеш, вун Іваньку старцы ўзяць хочуць,— і цябе ў хатыль забяруць.

Х о д а ч к а. А я ўцяку ад іх. Мама, а дзе йта пчолкі, а? Пахаваліся, а? А зроб мне новую лялльку, мама, а?

Д о м н а. А сціхні ж ты, назолачка... Слухай во, я табе песню спяю, ну слухай... *(Пачынае паціхеньку, нахіліўшыся над шыццём, пець Ходзе. Іванька зарумзаны стаіць ля маткі і стругае кіёчак. Домна тоненька, як нітку выводзіць, пяе.)*

Дарогаю ды шырокаю, дубровою ды зялёнаю,
Туды б ішла ды сіротачка, туды б ішла ды маленькая...

У пярэрвах яна гаворыць з Ходай. За сталом сваім чынам.

С т а р а ц 1 - ш ы *(бас, сляпы)*. Ён можа даць раду ад усякае хваробы, ад усякага паддавання, усё, што патрэбна...

С т а р а ц 2 - г і *(тэнар, троху відушчы)*. Гэта ж ён летась пасобіў нашаму Яхіму ўзяць за сябе Прэску... Гэ-гэ-гэ... Абое цяпер у кучы добранька збіраюць. Узімку накані ажно пяць мяхоў жыта нажабравалі, а які другі старац тое выхадзіць?

С т а р а ц 1 - ш ы. Ужо і наследніка маюць... Ай наследніцу?

С т а р а ц 2 - г і. Наследніка, гэ-гэ-гэ... Маюць, а як жа. Зарадзіўся ладны жабрачок: па матцы сухарукі, па бацьку — без воч. Яхім рад. А то, брат, задумаў ён жаніцца — Прэска ані блізка! «Што ён, гаворыць, слепанджа, што з ім выхадзіш? Я прыгожа, а са сваімі сухімі рукамі я за лепшага ў губерні старца зайду». Яна, чуеш, мецілася за аднарукага Аўласа, ён хлапец гладкі, а на кірмашах сухую руку як выставіць ды псалму як зацягне, дык грошы так яму і сыплюцца. От яна за яго і кіравалася, гэ-гэ-гэ...

С т а р а ц 1 - ш ы. А дзед Янка як даў раду — стропаная пайшла. Ён, брат, гэты Янка, усё чыста можа...

А ў т у х. А на стрэльбу загавора не ведае...

С т а р ц ы 1 - ш ы і 2 - г і. Не ведае? Ха-ха-ха! Гэ-гэ-гэ!.. Так *(шэпча 1-шы)* закляпе — без аніводнага промаху, ластаўку на ляту! Ён жа пачараваў пану Ступяркоўскаму, бо той не пусціў яго ў хату начач. Сохне цяпер пан Ступяркоўскі... О!

А н т о н *(хмарнеючы)*. Грэх вялікі! Вялікі грэх! Усё чалавеку даруецца, а чараванне — ніколі... Не вадзіся з



М. Гарэцкі і Ул. Дубоўка.
Масква. Лета 1928 г.



М. Гарэцкі ў Харкаве.
Ліпень, 1928 г.

імі, божымі ўрагамі. Прадаўся ім — канец. Вялікі грэх, дзядзькі!

А ў т у х. Ці чуў? Спасеннік запеў. А як бацьку выратаваць ад дурнога сабакі — таксама грэх, можа?

А н т о н *(утупіўся)*. Богу відна, дзе грэх.

С т а р а ц 1 - ш ы. Э, братка мой! Грэх у мех, а спасенне наверх.

С т а р а ц 2 - г і. Ці ў торбу ды аб вугол.

С т а р а ц 1 - ш ы. Цяпер толькі мы, простыя людзі, баёмся грэху. Паны, брат, дый з нашых разумнейшыя грэху ўжо не баяцца. Дзеля таго, што яны цяпер так дайшлі, братка: Хрыстос хадзіў па вадзе — і я пайду па вадзе, Хрыстос...

С т а р а ц 2 - г і *(перабіваючы)*. ...Хрыстос лятаў — і я палячу. Дык каго ім баяцца? Няма каго баяцца, дык што за грэх будзе, калі няма каго баяцца? Ён не баіцца, што яму грэх! Грэх... гэ-гэ-гэ...

С т а р а ц 1 - ш ы. Хрыстос робіў сляпых відушчымі, а заграніцкія дактары па навуках дайшлі: сабачае вока чалавеку ўставяць, і чалавек бачыць усё чысценька, дай бог усякаму дабраму.

С т а р а ц 2 - г і. Чаму не? Гэ-гэ-гэ...

А н т о н *(вытрашчыў вочы)*. Як жа гэта яны? Ці ж так?

С т а р а ц 1 - ш ы. А што чараўнікі чаруюць, дык на то ім сіла даецца. Без гэтай сілы і людзём пражыць было б трудна. Скажам, чалавек занядужаў, карова захварэла, вужака ўкусіла ці сібірская муха джыгнула — хто раду, братка, дасць? Дзед Янка, болі ніхто. Без дзеда не можна, ён сілу мае, яму дзяды пераказалі.

С т а р а ц 2 - г і. Поп казаў: «Грэх». А як пачала здыхаць цёлка, скотны доктар не даў помачы, дык і бацюшка хлапца па Янку на кані прыслаў. І карова цэла! Гэ-гэ-гэ...

С т а р ц ы 1 - ш ы і 2 - г і. І карова цэла!

А н т о н. А ўсё ж ткі грэх, калі ён у загаворах да іх моліцца, грэх... Няма грэху, калі бог памінаецца, святыя, цар Давід... А так — то грэх.

А ў т у х. Ат! Што мы ведаем...

С т а р а ц 1 - ш ы *(п'е з Аўтухом)*. Грэх, можа, не грэх, а спрадвеку так паводзіцца... *(Глядзіць у акно.)* А дожджык як закурыў, як запыліў, дык і курыць і курыць...

А ў т у х. У пані сена коп па сто гніе.

8 Зак. 419

Старац 2-гі. Коп на сто! Добра табе, панечка! Гэ-гэ-гэ...

Старац 1-шы. А ты думаў...

Антон. Бог як захочыць: ці высушыць, ці намочыць. *(І ён асцярожненька есць старэцкае сала з хлебам.)*

Аўтух. Ну, вып'ем яшчэ па аднэй, ці што. *(П'юць. Антон адыходзіць, каб не піць.)*

Домна *(задумалася)*. У каго людзечкі рупяцца, працуюць. Дождж — лапці хаця плятуць, граблі ладзяць, косы клепюць, вяроўкі віюць, ці што. А нашым мужчынкам нічога не трэба. Ці хто йдзе, ці хто едзе — грым! — к Аўтуховым ды за гарэлку. Антон! Ну ты ж бы хаця хамуціну тую направіў...

Аўтух. А маўчы! Бабскі розум... Бярэшся не за сваё.

Старац 1-шы. А не чапай ты яе, ведама — раставацца з сынам усякай матцы тошна. На тое ж матка. А ты, Іванька, рыхтуйся.

Домна. Вот, дзядуля, з гэткаю гаворкаю памаўчы. Каб я, даў бог, сканала, колькі я сына свайго ў павадыры аддам. А дзед разумны ўнука ў павадыры аддае! Дзе ўжо той і гонар леснікоўскі?..

Аўтух. Маўчы, сучка, табе кажуць. Не лезь не ў сваё! Што ён у хаце выседзіць? Каня мы самі дагледзім. У Гаёк паня дазволіла пускаць... *(П'е.)* Я каб к лепшаму, а мне ж і знявага. Гэн! Ён жа хоць на лапці ад гэтых дзядоў заробіць, свету паглядзіць.

Старац 2-гі. А ведама, што паглядзіць усякіх людзей, усякага свету, бо мы аж за Магілева часам ходзім. Гэ-гэ-гэ...

Домна. Свет вялікі, ого!

Аўтух. Ніхто цябе, бабы, не пытаецца...

Домна. Не дуры ты, свёкарка, мае галавы. За дурною галавою мужыком жыву, а дзетак сваіх забараню.

Аўтух *(п'яна-грозна)*. Домна!! Каго ты будзеш слухаць?

Старац 1-шы. Не сярдуй, лябёдка, трэба ж і старца сляпенькага каму вадзіць; за гэта ж бог і грахоў адпусціць і сыну, і матцы яго. Раней паводзілася так, што і заможныя людзі дзяцей у павадыры пасылалі, як бы ў навуку добрую.

Домна. Дужа табе карцяць мае грахі. Хвароба вас ведае, прасці, госпадзі, што вы за людзі — з віру, з балота? Ці вы яго чаму добраму навучыце. У старыну ж дык і старцы-ткі былі, а вы што — п'янюгі нейкія.

Аўтух *(затаіў злабу да Домны)*. А ты, Антон, што скажаш?

Антон. Малепькі шчэ надта Йванька, шкода, беднага. А старца вадзіць — дзела добрае, бог грахоў прасціць. Па-мойму, няхай бы сабе і пахадзіў... *(Вінавата, але цвёрда глядзіць на жонку і на Іваньку.)*

Домна. Ачмурэў ты, Антон! Гэта ж ты роднага сына не шкадуеш. Што крошку сала старэцкага з'еў, дык гатоў ужо Іваньку прадаць. Божа мой! Божа мой! *(Пачынае хныкаць.)* Гора са свёкрам, а цяпер і ты гэтакі. Будзеш, будзеш, як відна, бацькаўскай удачы. Навучыся яшчэ гарэлку піць, будзеш татухна...

Антон. А што ж я? *(Плюскае вачамі, як недалужны.)*

Старцы 1-шы і 2-гі. Гм! Гм! Гэ-гэ-гэ... Што там за дамова, дзе быка бадзець карова? Гм!

Аўтух *(каб прымеў, дык бы разарваў Домну; чырванее, выкачвае вочы і паднімаецца з застолля)*. Што? Што ты сказала? Дык табе свёкар нос ірве? *(Наступае на Домну, п'яна баўтануўся.)* А-а ты, сучка брахлівая! Ты ў чыёй хаце сядзіш? Вон!!! Штоб мае вочы цябе не бачылі, чорт цябе бяры з тваёю заможнаю раднёю! Вон! *(Бярэ з крука пугу.)*

Домна. Божухна! Што гэта яшчэ такое? *(Плачучы, глядзіць на Антона.)* Антонька!

Аўтух. Я табе роўны, нягодная баба? Апрыкляцца будзеш? А во! *(Замахнуўся, вот-вот дасць...)*

Іванька і Ходачка. А-я-я! Дзед! А мама!

Старцы. Пакінь... Ахвота яшчэ. Матцы дзіцёнка жалка: свая кроў, сваё цела. Пальчык ён парэжа, ужо матцы баліць...

Антон *(як дурны, кінуўся к бацьку і схапіў яго за грудзі)*. Не чапай, тата!! Не чапай! *(Трахнуў за грудзі, выпусціў, сеў на зэдлік, палажыў галаву на рукі і з сударагамі гудзе.)* Ы-ы-ы... На... нашто я на... све-ет на-радзі-ўся... О-ё-ё...

Аўтух *(спусціўшы амбіцыі)*. Ну й дурань, ну й дурань... Вот і завыў. Бабу напудзіць трэба, каб сілу над сабою чула, а ён — слёзынькі, ці чуў, які далікатненькі. Ну й дурань, ах!

Домна *(аправілася)*. Хто яго задурыў, калі не родны бацька, разумец гэткі. Ты яго ссушыў, не хто, усе кажуць.

Аўтух. Што?! Ізноў! Домна!

Д о м н а. А што там — Домна! Я табе маўчала-маўчала, няхай табе бог аддае. Я ж не за цябе, за твайго сына ішла. Ты мне мала значыш, п'яніца горкая, а я цябе шанавала, абмывала цябе, абчышчала, няхай табе божачка аддае... *(Хныкае.)* А ў людзей жа старыя знаюць на печы сядзець ды дзяцей забаўляць, а наш жа...

А ў т у х. Ну, дзеткі! Пагадзі, Домначка, калі ўжо ты пачала кіпцікі паказваць, значыць... ыгм... так... Значыць, не паласа табе, Аўтух! Турыце, турыце, дзетухны, бацьку жывога ў яму, турыце! *(Да Антона.)* А ты, сынок, на каго руку падняў? А? Ты роднага бацьку зняважыў? Мне ў жыцці не было гэткай знявагі, якую ад роднага сына заробіў. Дык за грудзі яго, старага сабаку? Я ж цябе пракляну, дурня? Хто цябе на свет пусціў? Прасі бацьку! *(П'яна байтануўся.)* Ну?! *(Выстаўляе руку Антону, каб цалаваў.)*

А н т о н. Я й так проклят... Адлезьце ад мяне, пакіньце мяне... Што гэта, што гэта? *(Хліпае, за ім і дзеці.)*

А ў т у х *(няўдала спусціў руку, жылістую, чорную, з чорнымі кіпцямі)*. Так... дык так...

С т а р ц ы *(уздзяваюць свае хатылі, ліру; да Аўтуха)*. Другім разам ужо, дзядзька, калі што... *(Становяцца к абразам.)*

С т а р а ц 1-ш ы *(бас)*. Во імя аца, сына і святога духа. Амін...

Антон устае з зэдліка, каб не быць паміж старцаў і абразоў.

С т а р ц ы 1-ш ы і 2-г і *(іграе на ліры)*. Памілуй, госпадзі, а ўсю сямейку-хатку, спасі і сцалі скацінку і стаднікаў ад усякага ўпадку і сахрані іх, госпадзі! *(Першы, бас, цягне на ўвесь час, а толькі іншыя словы раўне, лупне бельмамі і прымоўчыць, а другі, тэнар, вядзе і вядзе тонка-высока, без аддыхі)*... на векі вечныя. Амін.

С т а р а ц 1-ш ы. Бывайце здаровенькі, хай вам бог дае...

С т а р а ц 2-г і. ...на ўсіхную і на старэцкую долю...

Троху відушчы тэнар уперадзе, а сляпы, хрыпаты бас, адзадзі стукае кійком аб зямлю і дзяржыцца матузком за пярэдняга.

А ў т у х. Пайдзіце здаровы.

Д о м н а. У ростані вы ідзіце, п'янюгі, гультаі няшчасныя, мала шчэ было без вас бяды.

Аўтух пайшоў услед за старцамі і нешта гамоніць на двары.

А н т о н. Домначка, ці дужа я таўкануў бацьку?

Д о м н а. Дужа?! Яшчэ што! Ці ты сам не помніш?

А н т о н. Не. *(Сагнуўся, палез на печ, падлажыў там пад галаву жупанок і адвярнуўся к сценцы; закамянеў у нейкай жалобе.)*

Д о м н а. Не ляжы, Антон! Не выдумвай! Ты бацькаву павадку даўно знаеш...

А н т о н *(не адгукаецца і шэпча сабе).* «Чаго мне жыць, нашто мне жыць? Адны крыўды, адна няпраўда... Ці ж я хацеў зняважыць тату? За што мне так наканавана ад бога?..»

Іванька і Ходачка перш цёрлі вочкі кулакамі, а потым з цікавасцю ўглядаюцца на печ, што бацька робіць, чаго ляжыць, як хворы.

Д о м н а. Ну во: адзін наругаецца — крычыць, а другі дзяцініцца-стогне, а ты, баба, хоць галавою аб сцяну біся...

## VIII

Нібы смоўж да апенкі,
прырасла ка мне нуда мая.

З. Бядуля

Чорныя думы заснуць не даюць...

Я. Купала

Жизнь есть сон,
а смерть пробуждение.

Л. Толстой

А што такое сон?

Звычайнае пытанне

Два святы ўзапар. Першы дзень свята. Зрання дужа прыгожая пагода. Снапы залатога свету залілі ўсю зямлю, і дзярэўню, і сады, і вуліцу і скрозь шчэлкі блішчаць у пунях, праз балонкі цякуць у хату, убіліся на пол і жартуюць з дзяцьмі, што па-святочнаму ляжаць яшчэ і хаваюць лічка, вочкі ад сонца, адкідваюць ручкі ці пакладуць пад галоўку, смачна смокчуць і, тропаючы ножкамі, скідваюць з сябе дзяругу. Бабы-гаспадыні ўправіліся каля печы, прыбраліся і гурткамі, як кучы красак, пайшлі па Сасонніцкай дарозе ў царкву.

На Банадысёвым двары конь — іга-га-га...— іржэ, бо адзін; прывялі хлопцы з начлегу — Банадысь у мясцечка паедзе.

У Аўтуха на двары ціхамірна. На саломцы, на прыпёку, рохаюць і порскаюць парасяткі. Пчала каля ганак — джынг! — звініць-звініць, набярэ нечага і ляціць цераз страху ў сад к вуллю.

Цёпла, светла, прыгожа, ладна...

Але такое надвор'е, дужа яркае сонца з самага рання бываюць перад нягодаю.

А н т о н не паспеў яшчэ даволі пабыць па сонцы, седзячы на ставах каля сцяны пад стрэшкай, як па небе, над лесам, ужо пава-

лакліся рэдзенькія фарботкі шэранькіх, рабенькіх балачынак... Яшчэ, яшчэ... Свяжэй ужо паветра, халадней ужо паветра. Першая болачка набегла на сонца, па зямлі сцень бяжыць... О! Ізноў ярка,— прабегла...

Час ідзе. Антон не ў цэркві, у двары. Хода з маткаю ў цэркві. Іванька пайшоў з хлапцамі ў лес, бацька ў лесе.

Антон пахадзіў, пахадзіў. Паслаў пад павеццю на калёсах; лёг, знізом укрыўся, задумаўся, сагрэўся. Заснуў...

А сабака пакінуў Аўтуха ў лесе, уцёк у двор, падлез пад вароты, павіляў трохі дый звіўся пад калёсамі; часам трасе галавою і цапае зубамі мух, думае, хто-та яго накорміць. Домны няма ў хаце. Парасяткі клычаць салому: схопяць у зубы — баўціль! баўціль! у абодва бакі; пужаюцца сабакі, кусаюцца і скігочуць.

Салома на калёсах у перадку ківаецца ад вецярку, а то не ківаецца...

Антон *(думае мімаволі)*. Домны няма, Хода з ёю, а Іванька дзе? І бацькі няма... Гукнуў, можа, унука з сабою ў лес, быццам у ягады, і карэц з бяросты падакляраваў сагнуць, а павёў Іваньку к старцам на Глухую Паляну. Яны там часта па дарозе пасядзець заходзяць. На ліры іграюць, гарэлку п'юць, сала прагуць, цераз цяпло скачуць, псалмы пяюць, «Лявоніху» скачуць пад ліру... Няма Іванькі... Ён ужо старчык-павадырок. Валасы доўгія, шапка дзіравая, зімавая, хлоп'е павылезла з яе. Кіёк у маленькіх худзенькіх ручачках доўгі-доўгі, вышэй хлапца самага ўдвайне. Ідуць старцы па дарозе, сярод маладога лесу.

Птушкі пяюць. Краскі па баках дарогі цвітуць, пахнуць, калышуцца. Іванька напярод з хатыльком на плечах,— ён усё па баках зіркае. За ім на матузку троху відушчы з белым вялікім хатылём на плечах і з торбаю на баку, а на самым задзе дзяржыцца за матуз сляпы. Ён, старэйшы, сагнуўся пад сваім хатылём, валачэ ногі, кійком дзюбае цвёрда, ліру падтрасае, падпраўляе на сабе. Жартуе, каб весялей было, Іваньку бадрыць.

Сляпы старац. Ну, Іванька, дайдзем зараз да Баркалабава, к старой пападдзі пойдзем за нябожчыкаў маліцца — пірог табе дасць... А за скацінку памолімся — другі.

Троху відушчы. Толькі ты, хлапец, калі прыйдзеш, дык ці вочы на вышэйшыя абразы паднімай, пад лоб закачвай, ці ў зямлю ўпірай.

Сляпы. Па баках не зіркай, яна незалюбіць, скажа: «Што вы за старцы, ваша малітва да бога не даходна...»

Троху відушчы. Ды тоненька падцягвай, калі дзед змоўкне, усё з перадышкаю лягчэй.

С л я п ы. Ану, братцы, сядзем троху ды папрактыкуем...

Т р о х у в і д у ш ч ы. О, захацелася бабе маку — пасядзім. А калі ты ў Баркалабаве апынешся? Усе лепшыя мясціны займуць другія старцы, спрытнейшыя... Ідучы можна.

У с е *(цягнуць; Іванька, як толькі чуцен, хрыпіць тоненька).*

Спасі, госпадзі, жыватоў!
Статку ад усякага ўпадку.
Святы Хрол коні, а Барыс свінні...

Пяюць і далей, толькі Антон не разбярэ слоў, бо ён гэты псалом умее толькі дагэтуль.

С л я п ы *(аддыхаючы).* А што будзем вучыцелю пець, калі запросіць да сябе? Ды пэўне запросіць, можа, й госці будуць. Хіба тую, што дзяўчына бога не пазнала?

Каля Антона пад калёсамі скігоча сабака, мухі яму вушы ядуць, і дуе ветрык.

У с е *(цягнуць, сляпы маркотна падводзіць на ліры).*
А ў нядзельку вельмі рана,
Раней таго званы білі.
І ў крыніцы вада грала,
Вой, там дзеўка ваду брала...

І пяюць далей, ды Антон таксама не прыпомніць, як гэта пелі старцы, калі ён быў у вучыцеля і слухаў.

Т р о х у в і д у ш ч ы. А ты, Іванюга, запаведзі заўчыў?

І в а н ь к а. Трошку заўчыў...

С л я п ы. Кажы за мною. Першая. Аз есь госпадзь бог твой на небе, каторы вывеў цябе з Егіпецкай зямлі...

І в а н ь к а. ...з Іпецкай зямлі... *(Не ўмеючы гаворыць за ім і бунтуецца.)*

С л я п ы. Другое. Не ўзывай пана бога па йменню дарма. Трэцяе. Помні: дзень свяціць нядзельны. Чацвёртае. Шануй матку і бацьку: пражывеш даўгалетне...

Далей Антон успомніў, што ён бацьку ўжо не шануе, і яму стала трудна дыхаць, як бы хто на яго наваліўся; ён з'ехаў на калёсах уніз, галава закрылася знізам.

Ай не, гэта Банадысёнак... Ай не, гэта ён, Антон...
А во — што йта за лес? Там, дзе касіў той раз сена... Не, мусіць, гэта Глухая Паляна...

І старцы тут, на Глухой Паляне, адпачываюць. А сын-павадыр узлез на старца-бацьку і душыць яго... А дрэва валіцца-валіцца... вот кахне на сына, не будзе ён жыць даўгалетне, бо бацьку душыць. Не, ніхто нікога не душыць — старац адзін абуваецца, а лазовы куст ківаецца...

Вот Іванька пад арэхавым кусцікам, жупанок падаслаўшы, хатылёк уголавы падлажыўшы, спіць; а старцы раду радзяць, хочуць нечым, што чараўнік Янка даў, мазаць вочкі маломy Іваньку. Ой, будзе старчык сляпы... Уставай, уставай, Іванька, хапайся, хапайся, бяжы...

Уцёк, уцёк... У сваёй хатцы. Матка кашулю яго вашывую ў печ у агонь кідае, цёплаю летняю вадзіцаю цыпкі на ножках абмывае, сінячкі яго гладзіць, ручкі, ад сіверкі пашчэпаныя, аліваю масліць, за шыйку абшчапіла, жалее...

А дзед пугу падняў,— высока-высока замахнуўся-намерыўся... Не дам! Не дам Іваньку біць!..

А Іванька ляжыць, уміраe, лобік беленькі ад мукі-болі ў складачкі моршчыць, слязу роніць...

Заб'е бацьку за Іваньку! Уздзяюць зялезы на рукі, на ногі, вязуць у Сібір далёкую, у катаргу векавечную!.. Прыкуюць тамацька к камню пад зямлёю і аж да самае смерці на свет не пусцяць... Не ўбачу я болей ні бацькі... (Ах, бацьку пахавалі...), ні Домны, ні дзетак, ні свае хаткі, ні свайго коніка, ні свайго сабачку, не ўбачу ніколі, ні разу, ні разу... А сямейку маю будуць зневажаць без мяне, сібірнікам зваць...

А Домна залівaецца-плача, горка плача, як тады, калі на дзяжу садзілі, касу расплятaлі, пад вянец рыхтавалі і выпраўлялі...

Цалаваўся з Домнай... Салодка, крэпка-крэпка, на ўсю сілу... Сорамна... прад богам...

Едуць к вянцу... «Антон! Антон!» Хто там заве? Поп цябе гукае. Праспавядаць трэба цябе, кажуць, што к штундыстам за Дрыбін ездзіў ты...— Бацюшка, бацюшка! Я Домну бяру за сябе? — А нашто бацьку набіў? Не будзеш даўгалетні, бо крыўдзіш бацьку, не шануеш, абразіш!..— Бацюшка, бацюшка! — Ах ты, ах ты, дэмакрат ты, у вастрог цябе забраць на цэлую ноч, п'яным стражнікам на здзек аддаць, як Дудзячонка з Несцерава... Няхай выспяткамі ў самы від б'юць, гваздамі з падашоў па вачах, і плююць табе, кархаюць няхай... Каб кроў, кроў... Каб змясіць у гразь, у бруд...— Біце, біце! О-лё-лё... Свісь! — Ратуйце!.. Кусі, кусі, кусі!.. Петуй яго каламі! — Ой!.. Ай! Мазгі, мазгі цякуць! Затапчы іх у пыл...— Ой, не

выйце, бабулькі, не званіце, званы...— Едуць, едуць на конях з бізунамі...— Не паддавайся, стой, братцы! — Што вы, што вы, то ж бацюшка з крыжам...— Бацюшка, я Домну бяру... Я хацеў бы дапытацца, вы з кніг усё ведаеце, дзе канец свету? Што, каб так ішоў ды ішоў цэлы век, ці дайшоў бы ў такую мясціну, дзе бераг зямлі, а далей крута-крута, абрыў, зямля сыплецца, корні ў ёй, як тая гара Багумільская, а там бяздонная прорва, туман, цёмна-цёмна, цямнота спрадвечная, і ўсё... А што там у тумане? А пекла дзе? А чаму не чутна, як там стогнуць?

Адлезьце ад мяне, дзядзька Кузьма, не дакучайце! Як гэта поп можа не ведаць. Ён усё ведае, толькі не хоча сказаць... А бог Саваоф у Піліпа на абразе ў куце, валасы і барада сівенькія-сівенькія, зверху над галавою вока, страшнае такое, вялікае, а руку далонню выставіў і пільна-грозна ўзіраецца. А ён вялікі-вялікі, расце-расце, каля яго свет, і глядзець не можна, блішчыць усё, блішчыць...

Антон дрыжыць; час ідзе; сонца павярнула і залезла пад павець на калёсы.

Вялікае, тоўстае, цяжкое нешта стала прад вачамі, ногі растуць, доўгія-доўгія. (Так пачувалася нешта Антону, калі маленькі хварэў і ўжо пачаў лепшаць.)

Пахне нечым чыстым, як краскі на лагу вясною, і рэзкім... І маленькаму, даўно-даўно, пахла так... Галава трошку балела... І цяпер якраз так... Во, няма...

А поп усё глядзіць і глядзіць у самую сярэдзіну... Не міргае, вочы яго чырванеюць, кроўю наліваюцца... Чараўнік! Нясіце грамніцу і свянцоную ваду, выкапайце калючага дзеда, асінку і крапівы-жыгучкі нарвіце... Ніхто не чуе, няма нікога... Значыць, свету канец... Страшны суд, светапрастаўленне. Тужліва, тужліва... Так нудна, ай як нудна, сэрца баліць, горка ў горле, плакаць-стагнаць хочацца, ды ўжо позна — нічога, нічога не парадзіш... Канец, канец, не паспеў спакутавацца, прапаў жа, прапаў... Агонь! Што яшчэ за агонь, то не сонца ўгрэла, не... І смурод, чад.

Гэ! То ж нашы канюшкі цяпло ў панскім лесе разлажылі і коні пасуць. Ад паноў зямлю адабралі, бедным людзём аддалі, нікога ўжо не баяцца... І Аўтуха не баяцца... Бацька стрэльбу наводзіць, а яны ўсе на яго накінуліся, усім раптам сваім, і каламі, каламі... На сяле сабакі выюць, смерць чуюць... А бацька крычыць: «Антон! Антон! Рат...»

Прачнуўся. Каля яго бацька. Прыйшоў з лесу, стрэльба на плячах. Сабака хвастом віляе і віхчыць. Антон страшэнна ўстрывожаны; галава яго быць нечым — свінцом, чым — наліта.

А ў т у х. Антон! Дабудзіцца не можна. Лёг на сонцы і пад вецер: і галаву напячэш і прастудзішся...

А н т о н. А што — я спаў?

А ў т у х. Во пытаецца! Спаў, але і стагнаў, хіба сніў што дурное...

А н т о н. Добра не помню.

А ў т у х. Агоўтаешся, дык прыпомніш. Уставай, зараз з абедні папрыйдуць... Ідзі, дай мне ўкусіць, што там ёсць сяння...

Захадзіўся ў лесе. А сабака мяне кінуў, здыхата. Трэба будзе ўзяць шчанючка ў пана Будагоўскага ў Дубасні.

А н т о н. А гэтага куды? *(У яго гнёт на сэрцы, і ён ідзе як не саўсім прытомны чалавек.)*

А ў т у х. Знайду дарогу, здохні ён...

Абодва пайшлі ў хату.

## IX

Абы б бяда, а шыя будзе.

Прыказка

У простага сына натуры пануе толькі адна кароткая філасофія: «Гэтак трэба...»

З. Бядуля

Марна пад кроквай ржавее каса.

Я. Купала

### ДА ВЕЧАРА:

Д о м н а *(прыйшоўшы з царквы і выстаўляючы гаршкі)*. Антон, што ты гэткі белы і быццам плакаць рыхтуешся, ці мне так здаецца...

А н т о н. Табе здаецца... так я.

А ў т у х. Ну, лезь за стол, будзем палуднаваць, ты ж і са мною нічога не еў...

А н т о н. Не хачу есці... *(Бярэ шапку.)*

Д о м н а. Што з гэтым чалавекам? Куды ж ты?

А н т о н. Пайду... каня глядзець у лесе.

А ў т у х. Што ты гаварыць не хочаш з намі?

А н т о н. А? *(Пайшоў за дзверы.)*

Х о д а ч к а і І в а н ь к а. Чаго татка пайшоў?

**А ў т у х.** Спытайся, калі патрапіш, у свайго таткі, куды ён пайшоў...

**Д о м н а.** Во чалавек, чалавек...

Усе паціху ядуць кулеш і потым, перакасціўшыся, расходзяцца хто куды.

ПОЗНА ВЕЧАРАМ:

**Д о м н а.** Спіце, спіце, мае дзеткі, а то дзед сварыцца будзе, што не даецё заснуць яму, ён заўтра раненька на аблаву пойдзе.

**І в а н ь к а.** У Цёмны Лес?

**Д о м н а.** У Цёмны Лес, толькі спі...

**Х о д а.** Мамка лямпу загасіла, а таткі няма і не вячэраў...

**Д о м н а.** Спі, ён к некаму зайшоў.

**Х о д а.** Не-а, татка прыйдзе.

**Н е х т а** *(шамае на вуліцы каля сценкі, потым у акно).* Ляп! Ляп! Ляп!

**Д о м н а.** Ці ты, Антон?

**Н е х т а** *(глуха, з-за акна).* Я... Адчыні...

**Д о м н а.** Ляжыце, не бойцеся... *(Пайшла на двор, гаморыць там з Антонам.)*

**Д о м н а** *(уваходзіць).* Дзе ж гэта цябе насіла божа помач у такую пару? Каб у свята аддыхнуць, бадзяешся цівесь дзе... і цалюткі дзень... *(Чыркае сернікамі.)*

**А н т о н.** Аддыхну... *(Садзіцца на лаўку, мокры, змучаны, вочы ўваліліся.)*

**Д о м н а** *(ставіць яму на стол міскі з крупеняю і варывам).* Еш ды лажыся, адпачывай... *(Палезла на пол.)*

**А н т о н** *(маўчыць; паменшыў агонь у лямпе і разуваецца, потым памыў рукі, сеў за стол, пачэрпаў ложкі дзве варыва і сядзіць).* Домна!

**Д о м н а.** *(паўсонна).* Што?

**А н т о н.** Бацька спіць?

**Д о м н а.** Спіць у сенцах, і ты спі...

**А н т о н.** А-га... *(Тушыць агонь і моліцца богу.)*

НОЧЧУ:

**А ў т у х** *(паўзе ў хату і мацае на лаўцы).* Згыркалі карэц... і дзе яны яго хаваюць... Не набгом жа піць мне з вадзянкі... А тут хто?! Хто ля акна?..

**А н т о н** *(ціха).* Я...

А ў т у х. Ці ты позна прыйшоў? Чаго ж ты сядзіш, кладзіся спаць...

А н т о н. У акно гляджу... дождж ідзе...

А ў т у х. Ужо зарае, чаму не спіш, кажу? *(Стукае карцом.)* Во куды запёрлі, на суднік, знайдзі ўпоцемку... Лажыся, Антон... Што ты вытвараеш?..

А н т о н (маўчыць). Ы-к-ы... *(Уздыхнуў.)*

А ў т у х. Не сядзі... *(Пайшоў у сенцы.)*

А н т о н *(пасядзеў яшчэ)*. Ой-ой-ой... *(Мімаволі паойкаў і пайшоў на двор.)*

Д о м н а *(прачнулася)*. Іванька, Іванька, Ходачка! Ходка! Можа, вонкі хочаце? Устаньце...

Х о д а. Ы-мы-мы... Я не хачу...

Д о м н а. Ну хадзі ты, Іванька! *(Пайшлі, цупаючы ў цямноце.)*

А н т о н *(на спатканне)*. Гэта я, ідзіце, йдзіце...

Д о м н а. Чаго ты ўсё ходзіш? Я не ведаю, ці лажыўся ты?

А н т о н. Лажыўся, спаў... *(Кладзецца на лаўцы, але зноў, калі жонка з сынам прыйшлі і пазаснулі, устаў і ходзіць па хаце, а то ў пуню пойдзе, то з сабакам на двары пагамоніць, то сядзе за стол і ўзіраецца праз акно ў цемень; дождж перастаў, толькі са стрэх капліць і цурбоніць у цэбар ля ганак.)*

Ціха ў хаце. Домна часам варушыцца і моніць карову праз сон, дзеткі цяжка дыхаюць і стогнуць.

### ДОСВІТКАМІ:

Антон пашукаў бацькаў вобуй на печы, унёс вады і ўздае, той мыецца, пойдзе на аблаву.

А ў т у х. Пырсь-пырсь-пырсь!.. Не лі многа... Спаў бы, я і без цябе пайшоў бы.

А н т о н. Усё роўна...

А ў т у х *(выціраецца)*. Няхай сабе ўсё роўна... *(Ксціцца і моліцца.)*

А н т о н *(шавеліць губамі)*. Та-тулька... Татулька... *(Прычэпна ўглядаецца на бацьку, потым шукае яму шапку, кладзе ў скурацяную ахотніцкую торбу скібку хлеба.)*

А ў т у х *(памаліўся, сабраўся, пераксціўся перад абразамі)*. Ну, пайду... Не забудзься на разок схадзіць, каб не патравілі там нашага. *(Пайшоў, Антон услед.)*

А н т о н. Схаджу, схаджу... *(Шэпча.)* Та-туль-ка... Татулька... *(Доўга глядзіць услед бацьку на вуліцы, аж пакуль той не схаваўся за гарою.)*

ДЗЕНЬ:

Антон. Домначка! Пасядзі ты сяння ў хаце, сходзіш, даведаешся цёткі другім разам...

Домна. Ай, не выдумвай.

Антон. Ну дык вазьмі ты з сабою Іваньку і Ходачку.

Домна. Пасядзяць і з бацькам у хаце.

Антон. Нудна мне сягонні, Домначка...

Домна. Яно ж і відаць: «Домначка» ды «Домначка»... Разлашчыўся...

Антон. Дужа мне не хочацца аднаму аставацца...

Домна. Ці ты гэта хворы чым, Антон, ці што з табою? Нешта ўсё дно як маленькі. Ну ты скажы мне, прызнайся, што табе, а? Баліць што?

Антон. Нічога мне не баліць. А так, не ведаю, дасада нейкая... Дык ідзе сабе к цётцы, ідзі. *(Уздыхнуў.)* Я пабуду з дзяцьмі. Ды не баўся ж там, скора варочайся. Чуеш?

Домна. Чую... *(Завязвае хустку).* Няўжо ж я глуха?

Хода. Мамачка, вазьмі мяне з сабою, вазьмі, вазьмі...

Домна. Ты маленька, не дойдзеш.

Хода. Я ўжо бліноў пад'ела, дайду, а вот жа дайду.

Домна. А не дойдзеш! Я табе гасцінца ад цёткі прынясу. *(Прыбралася, апранулася.)* Ну, не пускайце ж сабаку...

Іванька *(узяў скарыначку хлеба).* На, Буян, на!.. Цю-цю-цю!..

Буян. Гаў-ву-у... *(Вые і не ідзе ў хату.)*

Домна. Што гэта яму яшчэ? На, цюцька, на... *(Буян убег у хату.)* Ну, дзяржыце ж яго, пакуль далёка зайду, а то збяжыць. *(Пайшла.)*

Антон. Не пусцім... *(Глядзіць у акно за Домнай.)*

Ранне было пагодлівае. Кроплі дажджу павіслі ў садзе на лісці, сонца ў іх блішчыць... Вада з бацвіння на гародзе добра не сцякла, вада на лажку, на нізінках. Па небе ёсць аблокі, але мала. Сонца грэе, ды не надта. Вее вецер ціхенькі, і шуміць бяроза веццем. Антон каня ў поле завёў, парасяткам сывараткі наліў у карытца, памыек сабаку ў чарапку даў, вароты запёр... Нудны, смутны, невясёлы, аб нечым думае. Робіць усё чыста механічна.

ПАД ПАЎДЗЕН:

Пакарміў дзяцей, сказаў, каб ішлі пад ігрушай пагулялі, сам пахадзіў па двару, па пунях, па гароду, па гумно схадзіў, прыйшоў у хату і стаў па калені прад абразамі. Кланяецца, кланяецца, глядзіць на абразы, цьмяны такі стаў, паклоніцца, пацалуе зямлю ды ізноў. А нічога не шэпча...

А н т о н *(у акно)*. Ходачка! Ці ведаеш, дзетка, дзе дзед брусок схаваў?

Х о д а *(з вуліцы)*. Што, тата? Брусок? Які?

А н т о н. Што нажы, косы вострыць...

Х о д а. Можа, у заложачніку?

І в а н ь к а. Не! Мама ў суднік схавала.

А н т о н. А... Ну, ладна, ладна, гуляйце сабе... *(Пайшоў і дастаў брусок, паклаў на лаўку, потым пайшоў пад павець, адчапіў касу ад касаўя і нясе ў хату; пераксціўся і пачынае тачыць касу. Прыходзяць дзеці; дзіваяцца.)*

І в а н ь к а. Тата! *(Здзіўлена.)* Ці касіць пойдзеш, а сягоння ж святы дзень?

А н т о н. Ды не, гэта во пойдзем каня глядзець к лесу, дык там каля крыжа сакі ў балоце нарэжу кароўцы к вечару.

Х о д а. Татка! І я пайду?

А н т о н. Трэба, дачушка, і цябе ўзяць, пойдзеш і ты...

На вуліцы пачынае выць Буян.

І в а н ь к а *(спуджана)*. Чаго йта наш цюцька ўсё вые?

А н т о н. Збегай згані, дык перастане... *(Натачыў касу.)* Ходачка, уздай мне вадзіцы на рукі.

Х о д а *(уздае ваду)*. Чаго ў цябе, татулька, чорна пад кіпцямі, а? Гразь?

А н т о н. Гразь, дачушка. Трэба вымыць. *(Вымывае мазалістыя рукі, чорныя ад працы, дастае бруд з-пад кіпцяў, каб было чыста; мые і від.)*

Х о д а. А чаго ж, татулька, удзень мыешся?

А н т о н. А ў свята можна. Памыйся і ты. *(Прыходзіць Іванька.)* І ты, Іванька, памыйся.

Дзеці мыюцца, пырскаюць, забаўляюцца. Антон абціраецца адным канцом ручніка, ім дае другі.

І в а н ь к а. Пойдзем?

А н т о н. А ўжо... *(Ксціцца на абразы.)* Трэба Буяна ў хату паманіць, а то збяжыць за намі, астанецца двор адзін. *(Бярэ скарынку і, адчыніўшы дзверы, пачынае з дзяцьмі маніць сабаку ў хату; віхліць, а не ідзе.)*

А н т о н. Ну, прах з ім. Няхай бяжыць і ён з намі... *(Пайшлі; Антон схаваў касу пад палу.)*

Х о д а. І ягад, тата, а? І ягад?

А н т о н. Што «і ягад»? Ну добра, добра...

Ідуць па гародзе, па мяжы, сярод канапелек, потым па полю між маладога жыта, ірвуць васілёчкі.

І в а н ь к а. Татка, жыта каласіцца?

А н т о н. Каласіцца. Ты ж глядзі.

Х о д а. Татка, я вянок спляту.

А н т о н. Спляці, дзетка. З калосся і з васількоў. Прыгожа будзе.

І в а н ь к а. Татулька! І я сплятў...

А н т о н. Табе не падыходзіць, ты ж хлопчык.

Буян забягае наперад і пачынае скігітаць.

І в а н ь к а. Ізноў цюцька...

А н т о н. Гэта ён так... *(Маўчыць.)*

Х о д а. Есцькі хоча, а?

Узышлі на лог. Дзеці рвуць званочкі, канапельку, божыя слёзкі, рамон, мыльца, казелец; патроху-патроху падыходзяць пад лес. Уперадзе відаць нізіна, рэчка, а з-за рошчы далёка-далёка бялеецца панскі бровар. Навокала з аднаго боку дарогі жыта, з другога парыня.

Тут на ўзгорку пры дарозе,
Пры адным-аднэй бярозе,
Патрупехлы, пачарнелы,
Стаіць крыжык анямелы.

Ён парос сівым мохам і пахіліўся. Антон садзіцца каля яго.

І в а н ь к а. Ці тут сядзем? А каня глядзець?

А н т о н. П-после... п-пагля-дзім... *(Пачынае няроўна дыхаць.)*

Х о д а. І сакі после нарэжам?

А н т о н. П-после. *(Дастае касу з-пад палы і кладзе каля сябе.)*

Хода пляце вянок воддаль троху, занялася там.

А н т о н. Іванька! Х-хадзі, сынок, я... я табе ў галоўцы п-пашукаю...

І в а н ь к а. А ў мяне мама ўчора шукала... *(Падыходзіць і кладзе галоўку на ногі бацьку.)*

А н т о н *(калоціцца, як у трасцы)*. В-во так, ляж, ляж...

І в а н ь к а. Татка, ці табе сцюдзёна?

А н т о н. Н-не... н-не... *(Сціскае зубы і водзіць левою рукою па белых валосіках сына, другою бярэ касу.)* П-павярніся, дзетка, во-о т-так... *(Павярнуў дзіцёнка за галоўку і раптам — шах! — касою па шыйцы.)*

І в а н ь к а. Та-та-о-у-мэ-у... *(Тропнуўся, кроў забіла цуркам, галоўка закацілася набок.)* Хр... хр...

Сабака адскочыў убок і брэша, наставіўшы вушы.

Хода *(моўчкі азірнулася і, страшна вытрашчыўшы вочы, глядзіць з жахам, не могучы парушыцца)*. А-е-а...

Антон *(на Ходу)*. Хадзі сюды! *(Хоча падняцца, каб злавіць Ходу, не можа.)*

Хода *(зірнула ўбок і непрытомна закрычала)*. А Іванька?!. *(Пабегла па дарозе з усяе сілы, але не шпарка, бо ногі заплятаюцца; сабака — услед, скігоча і хвост падагнуў у ногі.)*

Антон. Дзе-е-ткі... Б-божа... *(Высока падняўшы галаву, водзіць касою сабе па горле, перш тупым бокам; рука трасецца, увесь ён калоціцца; перавярнуў касу і шмуляе па глотцы... Кроў чырвона-чорная палілася цурочкамі па жупане. Выкаціўшы вочы, патроху схіляецца набок; каса валіцца, абпэцканая ў кроў. Белы-белы, дзе няма крыві, ляжыць і стогне. Ліцо сказілася ад мукі. Кроў цячэ... Многа крыві... Яна патроху чарнее і заняkaецца на сонцы, хоць яно ўжо на захадзе.)*

У лесе пяюць дзеўкі і хлопцы.

## X

На тых ігрышчах і гульбішчах
бясоўскіх умыкалі жон сабе...

Сівая старына

Гандзя-душка, не чурайся
Дый на божу волю здайся;
Прыгарнісь да сэрца мога
І не зважай на нікога...

З нейкай песенькі

— Што такое жыццё?
Замест адказу ён адкасаў рукаво з лахмоцця на сваёй руцэ і паказаў страшную гнілую, смуродную, глыбокую рану...
А каля іх пелі салаўі; лілі арамат, красавалі пышныя, белыя і чырвоныя ружы.

Успамін В. Гаршына

Недалёчка адгэтуль, каля лесу, пад рэчкаю, на скошаным лажочку гуляюць хлопцы і дзеўкі. Разлажылі цяпло, скачуць цераз яго, ірвуць каля рэчкі неабкошаныя ў кустах незабудкі, а вышэй, каля дрэў, белы рамон; прыняслі і васількоў, і калосся і ўюць вянкі і пушчаюць у рэчку; некаторыя гутаюцца на веццi, іншыя частуюцца тым, што прыняслі. Пяюць, смяюцца, рагочуць, жартуюць. Пагода ладная, мясціна прыгожая. Адгэтуль добра відаць удаль дарога, абсаджаная дрэвамі, панскі бровар, хаты, бліскучы крыж

па царкві, і пры дарозе, з-за жыта, каля парыні, выглядае вяршына анямелага крыжыка прыдарожнага.

Шахцёр *(сядзіць пад бярозай са сваёй Настулькай, тут жа піва ад Еселя і далікатэсы)*. Ну, слухай, Насця, смех-смехам, торба з мехам, а я не жартуючы кажу табе — дасць бацька за табою гнядога жарабка, дык справім вяселле без аніводнай застановачкі... А то, брат, трудна адразу разжывацца... Як мы будзем?

Наста. Я не ведаю... Вы пагаманіце з таткам.

Шахцёр. І пагаманю. Але ты мне скажы, могуць вашы аддаць жарабка? Не будзе гэта цяжка для свайго двара? А там я падумаю, а Насцёха-лісцёха ткі будзе мая...

Наста *(заірдзелася)*. Можа, брат скрывіцца, ды толькі не... Ай, вы ўсё смеіцёся...

Шахцёр. Каб я жыў... Ну, слухай, з'еш от гэту цукерачку, смачней будзем цалавацца...

Наста. А йдзіце вы...

Шахцёр. Пайду, пайду... *(Цалуюцца.)*

**ПАД АРЭШЫНАЙ:**

Максім *(да Зены)*. От ужо і пажартаваць з табой не можна... Паненка... Запышэла, загардзілася...

Зена *(падпускае алегорыю)*. Калі ў цябе дурныя жарты... У людзей гэтак не паводзіцца... *(Палажыла яму руку на шыю і ласкоча.)*

Максім. Цап!! *(Яна адхапіла руку.)* А, ну-ну, пажартуем. *(Лезе, каб і яе паласкатаць.)*

Зена. Нахабства! Зухвальства! *(Б'е яго па руцэ і смяецца.)*

**РАСХОДЖВАЮЦЬ ПА ЛАГУ:**

Міхалка *(«масковец», але Масквы бачыў мала; у лакіраваных ботах, «какае» і «благародзіцца»; прыхахуліўся да меншай старастоўначкі Ганны; тая ад сораму аж гарыць)*. Да как-ста вы, Анна Хомаўна, располагаіце, віць у наша ўрэм'я не то ўж, как мы-ста, собственно говора, па сімпаціі і так жа далее, а оццы тока уш: «Благаславіце, папаша да мамаша-та, выдайце прыданае, ці как лі па-дзеравенску пасаг празываецца, што уш прэдназначэна, і тока ўсіво...» А ўсё супружэственное прадпалагаіцца к таму, как, значыцца, мы, я да вот вы уш, Анна Хомаўна, па сімпаціі і ўсё такое, алі что жа ня-

склопная анціпацыя можаць быць, как вы панімаеце... Скажыце: жысць ці лі смерць?

Міхась *(крычыць з бярозы, убачыўшы Міхалку)*. А-а, ці-лі, ці-лі, выліцелі...

Міхалка. Какое здзеся ў нас неабразованіе, можна сказаць, і цемната... Нікакого абрашчэнія, как хуліганы, ці лі уш... *(Круціць вусікі і пазірае на мыскі сваіх ботаў.)* Так рэшайце, Анна Хомаўна...

Ганначка. А ў нас усё, ведама, па-дзеравенску, а я не ведаю, што як татка. Я і гаварыць правільна папанску не ўмею, вам будзець сорамна з-за мяне, мужычкі...

Міхалка. Да что-ста, я, можна сказаць, мужык, навук велікіх не проходзіл, как говорыцца. Сперва сміются, конечна, і поляком ругаюць, дражняць могілёўскім мякіннікам, а потом нічаво, совершэнна как па-горадскому. А вы как жа, што разумеіцца, дзеравенскія, ды ўсё жэ, как ваш папаша стараста, у доме самавар і ўсё такоя...

Ганначка *(ідзе, уздыхаючы, не ведае, што гаварыць; з гарашчымі шчочкамі глядзіць уперад, не звяртаючы асаблівай увагі ні на што, расчулілася)*. Ах! Так... і што...

Міхалка. Анюта-точка, так как-ста уш? *(Нежна залязае ёй у вочкі. Ёй пачынае рабіцца трохі брыдка.)*

## НА ЛАЖКУ:

Ягор. Го-го-го! Падажджы... падажджы... *(Доляецца з Мархвай, адбірае персцень, хоча паваліць, ды яна не слабейшая; абое ўваўрэлі і расхрысталіся.)*

Мархва. Ягор!.. Ці чуеш ты? Адлезь!! Я ж табе не маленькая... х... ж... х... *(Сапе.)* Ягор? Што гэта за наруга? А ма-а-ма!

Хлопцы глядзяць і заліваюцца, мягнуць са смеху.

Андрэй *(падскочыў да Полькі і схапіў за хвартук)*. Ненагляда мая!

Полька *(невялічкая, вірлавокая занадта)*. Ой! Шалёны! *(Дала яму добрага каршня.)* Страмнік ты, дурань!

Хлопцы. І то балазе! Га-га-га... Во скасавурылася: капейку дала... Гэ-гэ-гэ... Лацвей з такою паненкаю любіцца... Ха-ха-ха! А найзлашча Андрэю... Андрэй, не дурэй!.. І-га-га-га...

Андрэй *(кумільгом пракаціўся ад таўхаля Полькі*

*і пачаў яшчэ вытвараць).* **Ай ты, шуціца-маркуціца мая!** Зазлавалася й шчупнуці не дала!..

Хлопцы. Іга-га-га!..

Полька. Агідкі! Гульняў лепшых не ўмееце... *(Пабегла да груда дзяўчын.)*

Хлопцы. Іга-га-га!..

**БЯГУЦЬ К ЦЯПЛУ:**

Мікола. Гэй-гоп! Хлопчыкі!.. Гэй-гоп, дзевачкі!.. *(Скача цераз цяпло, за ім хлопцы, і, як козы, дзеўкі.)*

Аўгінка *(разбеглася, подхапіла спадніцу).* О-лёп! *(Пераскочыла, заблыталася і завалілася, на яе пачалі сыпацца адзадзі.)*

Хлопцы і дзеўкі *(валяцца сумысля, і адзін другога валяць).* Задавілі! Ой! Пусціце! Не лезь, гад, па руцэ дам! Груд малы! Груд малы! Пацалуй, дык пушчу... Ці ты ашалеў? Не цісніце, ай! ай!! *(Капашацца, як ракі; дзеўкі найбольш зверху, каб не запэцкацца ў зелень на траве.)*

Антося *(на веццi).* Гу-та-шы... Дурні хлопцы нашы... Гу-та-рэ-лі — хлопцы паздурэлі...

Ігнат. А дзевачкі ачмурэ-элі... *(Гутае яе, аж спадніца раздуваецца ад ветру.)*

Над рэчкай другія дзяўчыны хапаюцца, пакуль не прыбеглі хлопцы, пусціць вянкі...

Збоку падыходзіць яшчэ груд хлапцоў з суседніх дзеравень, мусіць, духам чуюць, дзе дзеўкі: яны з бубнам і скрыпкаю...

Дзеўкі *(пяюць).*

Вы дзеўкі-дзевачкі,
Пойдзем у лужочкі,
Пойдзем у лужочкі,
Мы заўём вяно-о-чкі...

Хлопцы іграюць і бубняць; адзін наперадзе ўсіх скача, пяе прыпеўкі і прыстаўляецца:

Не па небу хмара ходзіць —
Па нябеснай высаце.
Не па дзеўках хлопцы плачуць —
Па дзявоцкай красаце...

Матруна. Хлімапёнак пабыў у свеце, дык толькі й знае свае паскудныя прыпеўкі...

Лёкса. Звык... Не, сяннi так сабе, а то як пачне непрыгожыя пець... і лаяцца.

**Мартын.** Братцы, цяпло добрае: нясіце яйкі, яешанку спражом; бабы ў Залужжа пайшлі прэгч...

**Дзеўкі** *(не зважаючы на хлапцоў, паўплятталі розныя каснікі ў вянкі і здзяваюць перстні і пяюць жалосна).*

Ой рана-рана русалкі сядзелі,
Русалкі сядзелі дый дзевак гукалі:
— Дзевачкі, красачкі, дайце нам кашулі...
Ой рана-рана, дайце нам кашулі —
Сядзем у халадочку дый заўём вяночкі...
Ой рана-рана...

**Хлопцы** *(мардуюцца, лезуць к дзеўкам, ірвуць перстні, пяюць, скачуць, іграюць, жартуюць).*

**Навум** *(дражніць дзяўчат).*

Сватай мяне, такі-сякі,
Не ўводзь у худу славу...
Ой, гоп, уха-ха-ха...

**Касцюк.**

Ох, і што каму за дзела,
Што дзевачка з хлапцом села...
Ой, гоп, уха-ха-ха...

**Змітрок.**

Хлопчык з дзеўчынкай злюбіўся,
А ўжо й волечкі рашыўся...
Ой, гоп, уха-ха-ха...

**Цімох.**

З бацькам, з маткай пасваруся,
Грэху набяруся —
З мілай, любай сустрэнуся,
Не нагаваруся...
Ой, гоп, уха-ха-ха...

Хапаюць кожны сабе сваю і пачынаюць парамі круціцца і пець прыпеўкі. Потым адны пайшлі ў кусты, другія к цяплу, трэція пускаюць вянкі на рацэ і пяюць.

**Адна.** Мой паплыў, паплыў, сястрычкі!

**Другая.** Патануў... патануў... Гой, ліха маё, лі-іха...

**Таццянка.** Кідзёх! Ой!!! О-ё-ій...

**Скалазубы.** Таццянка, Таццянка, што з табою здзеецца да вянца, чаго твой вяночак парваўся, гэткі прыгожы развязаўся?

**Дзеўкі** *(пяюць, ведучы абабраную «Лёлю» ў вянку, сыплюць на яе краскі).*

А што ж ты, ружа, адна ў гародзе?
Ружа мая чырвоная!

Няпраўда ж твая, я ж тут не адна —
Што ёсць красачкі, то ўсе са мною, перада мною...

Хлопцы *(наперабой)*.

Гуляй, гуляй, красна ружачка, адна,
Бо ёсць у мяне шчэ й палепей за цябе,
І вачамі і броўкамі пачарней,
Гой-гой, гой-гой, шчэ й лічанькам крумяней...

*(Большая частка дзеўчын рыхтуецца ісці дахаты.)*

Ой, дамоў, дамоў!
На дварэ нярана,
На дварэ нярана,
Раса прыпала...

*(Ідуць па дарозе, па лажку, абшчапіліся, ірвуць васількі, пяюць.)*

Зося. Сястрычанькі! Хто ж там бегае, зірніце туды, наперадзі каля парыні?

Стэпка *(блізарукая)*. Авечка ад статку адбілася...

Вулька. Дзевачка бяжыць.

Яхім. Гэта наская... Чаго яе хапіла?

*(Пабеглі к ёй угрунь.)*

Ганна. Ай, божухна, там нешта нядобрае... *(Ірвецца бегчы.)*

Масковец *(дзяржыць яе за рукі)*. Да што-ста мы за дурачкамі пабягім? Мы ўш і па-малому дойдём-с... Ерунда какая прэпалагаіцца...

Хлопцы і дзеўкі *(бягуць)*. Гэта Хода леснікова! Хто яе скрыўдзіў? *(Запыхаліся і прыбеглі к Ходзе.)*

Хода *(зарумзаная, асіпла, хрыпіць грудзьмі, гаворыць як толькі чутна)*. Та-та... І-вань-ка... та-ам... кро-оў... гу-гу... ы-ы... *(Стогне і плача-сіпіць.)*

Усе. Што такое? Што такое? Ходачка, хто цябе? Ай дзе татка? Што Іваньку? Чаго ж ты плачаш? Скажы нам, а?

Хода. Ка-со-ю... кроў... вун там...

Шахцёр. Братцы, тут нешта важнае... Гэй, хто — бяжым туды як магчымасці... Гэй! Дзевачкі, вазьміце Ходку, паднясіце... *(Пабеглі па дарозе да крыжа.)*

Антон *(слаба рушыць адною рукою і хліпоча горлам)*. Сю-ую-хлю-схлю-джы... *(Хоча сказаць «сюды»; абхапіў рану на глотцы.)*

Шахцёр. Браткі, бяда!.. А-я-я... Хто ж гэта іх?

Навум. Іванька... Іванька...

Нехта. Па ўраднікa...

Другія. Ой-ой-ой!.. А божачка! *(Анямелі.)*

Ш а х ц ё р. Ну, хлопцы, хто шпарчэй за канём, а вы, эй, бярыце дзядзьку Антона... Што ж, павядзём, пакуль конь, падпашкі ў бальніцу да мястэчка... За вадою, Касцюк! Жыва, гэй!

Д з е ў к і *(плачуць)*. Іванька, Іванька... Нежывенечкі... Кроў... *(Не могуць глядзець і цягнуцца глядзець.)*

А н т о н *(кратаецца)*. Брл... бжрл... брыць-крл-кі-хр...

З м і т р о к. Маўчы, маўчы, дзядзечка Антонька, кроў пачынае ісці...

Ш а х ц ё р. За ногі, за ногі... А ты, Іван, за галаву!

А н т о н. Крлых-хліп... *(Вернецца да трупіка Іванькі, дзірка ў горле адчыняецца.)*

Ц і м о х. Ён хацеў сказаць: «браткі»...

Ш а х ц ё р. Не глядзі, не глядзі... Дзеўкі, бяжыце шпарчэй дахаты... Каб там прырыхтавалі...

Д з я ў ч а т ы *(абціраюць слёзы, іншыя бягуць)*. Што прырыхтаваць... Ай-ай-ой...

Х л о п ч ы к і. Што т-ты думаў... *(Нясуць ужо з балота вады ў шапках.)*

Каля Іванькі асталіся хто сцярэгчы. Вулька пакрыла сваім паркалёвым фартушком; плача, аж заходзіцца. У Ганначкі сударгі ад плачу, накрывае Іваньку хусткаю.

М а с к о в е ц *(спакоіць Ганначку)*. Да ўж бросця-та плакаць, Анна Хомаўна... Да віць у Маскве на дні-та сколькі раз так бывает, ці лі хто наплачытца?..

М у з ы к і - с к а м а р о х і *(інструменты пахавалі пад пахі)*. Як ты ў Маскве ўцэліў?

М а с к о в е ц *(не чуе)*. Неабразованнасць...

С к а л а з у б *(сумна)*. Эх! Падгуляў дзядзька Антон: такое надвор'е, і дзеўкі ў лясу, а ён увесь гумар напсаваў...

Ш а х ц ё р *(і другія ўжо колькі ганей адышлі, вядуць рэзаніка, горла абкруцілі паясамі і абвязалі дзявоцкімі стужкамі; потым нясуць, бо аслабеў)*. Яшчэ, яшчэ, брацікі, каб даў бог да бальніцы... *(шэпча)* жывога... *(Дужэй.)* Толькі не зюкай, дзядзька Антонька!..

Насустрэчу ў карэце, на пары,— п а н і  І в а п е ц к а я і К л а в а.

К л а в а. Селівончык! Ць-шы... Стой. Што гэта? Што... каго нясуць?

П а н і. Паганяй, паганяй, дурань! Зарэзалі буяны некага... Ды паганяй жа, ёлуп!

К л а в а. Цёця, цёця! Мы дайдзем, саўсім жа недалёчка, няхай барзджэй вязуць гэтага гаротніка ў бальніцу... Ой, цёця мая...

Ш а х ц ё р. Каб вам даў бог здароўечка, паненачка дарагая! Замарыліся, а пакуль падводу падгоняць... *(Шэпча.)* Хоць бы па дарозе не памёр...

К л а в а. Нічога, нічога... Кладзіце, брахненькі, яго... Цётка, вылязайце, не можна марудзіць...

П а н і. Клавачка! *(Цішком да яе.)* Не выдумвай, davядуць... Антон гэта... рана... *(Шэпча.)* Усе падушкі выпэцкаюць...

А н т о н *(заварушыўся на зямлі)*. А ух-грп-дш...

К л а в а. Цётка! *(Крычыць істэрычна.)* Вылязайце, кажу вам!.. *(Заплакала.)*

П а н і *(патроху выпаўзае, хлопцы ёй асцярожна памагаюць)*. Чыя ж гэта работка? Клавачка! Нервы... ізноў... Такое спатканне... Ай, хуліганы, хуліганы... За Аўтухом спасылайце ў Цёмны Лес, аблава канчаецца. Ах, далёка...

Х л о п ц ы. Добра, панечка, вялікі дзякуй... *(Сцелюць пінжакі ў карэце на падушкі і потым кладуць Антона. Селівон заварачваецца. Шахцёр і Навум селі абапал, паехалі.)*

К л а в а *(прыціснула белую насатачку к вочам і пайшла па дарозе, не дажыдаючы пані)*. Бедныя людзі, жалобныя людзі... і цёця... і я... і мы... сорам, сорам нам! Жыццё... што робіць?

П а н і *(яе вядуць хлопцы пад пашкі)*. Клавачка! Клавачка! Мон... *(Хоча гаварыць па-французску, каб хлопцы не ведалі. Клава не адгукаецца.)* Во й кажды раз гарэлка вас да чаго няладнага давядзе... Разгульталіся, толькі водку...

Х л о п ц ы. Не мы ж тут панеч...

П а н і. Значыцца, грошы многа зарабляеце... Касцы ў мяне, у пані сваёй, па рублю, а?.. А хто ж яго? Клавачка!

К л а в а *(смуткуе)*. Пецярбург... студэнт Міця... Гутаркі... белыя ночы... ідэі.. дэмакратызм... Няма нічога... Смяялася... Гады зацішша... Дзе тое захапленне... Нуда... Сорам... Мужыкі... Як жыць?.. Цёця... Ляснік... Абдзіранне... Драбяза... Брыдота... І так прашлындаць... да смерці... І ўсё...

# XI

Упокой, господи, души усопших раб твоих...

Цямнее. У Жабопа каля хаты, пад акпом, заткнутым анучкаю, стаіць царкоўны стары крыж і падраная старая пратэса. Каля хаты і ў хаце гомап. У хаце пахне мертвяцом і воскам. На лаўцы ляжыць прыбраны Іванька з чорнаю наміткаю на галаве і з венчыкам паверх яе па лобе. Псалтыр чытаюць вучанічкі земскай школкі папераменку. Бабы сядзяць, ходзяць, моляцца, плачуць. Домну ўнімаюць, хворай Ходачцы бліноў даюць,— не есць,— ды вады падносяць. Хаўтуры... мужыцкія хаўтуры...

Чытака. Упокой, госпадзі, душу новопрестаўленнаго раба твоего Іоанна... *(папраўляецца)*... младенца Іоанна, ідеже несть болезні, печаль...

Домна *(выбілася з духу, пакуль прыйшла, цяпер ад гора зайшлася, прыпадзе да ножак сына і вые)*.

А маё ж ты дзіцятачка,
Куды ж ты проціў ночачкі выбраўся,
Не пашкадаваў жа нас твой татачка,
А бог жа святы ведае, што ён меў наўме...

Суседка. Ну дос, дос, мая кумачка.

Чытака. Блажен муж, іже не іде на совет нечестівых, і на путі грешных не ста, і на седалішче губітелей не седе...

Домна *(ізноў)*.

А цяпер жа аб нас людзечкі будуць судзіць і гаварыць,
А дзе ж яны былі, чаго маўчалі раней таго...

Бабулька *(скрыпіць)*. О-о, людзюхны... хацела б ты, лябёдка... Цяпер і радня — баляваць хоць да дня, а як не пір, дык хоць ты ў вір... Людзюхны.

Домна. А мой жа ты зязюлёк,
А мая пралесачка кволая,
Сыночак даражэнькі,
А я ж цябе выхварала, вымаліла,
Пад сэрцам насіла, бога прасіла...
Цяпер жа ты, мая ягадка недаспелая,
Адкацілася ж ты без пары...

Бабулькі. А ведама, праведныя душачкі і богу ўгодны... К нам во, старым, ішла б ты, смертухна-матухна, дык не...

Домна *(хліпоча з сударгамі)*.

Хто ж цябе там будзе прыглядаць,
Да каго ж ты там прыхінешся,
А што ж гэта твой татачка задумаў,

А ці жывенек ён сам тамыцька,
Ці за сыночкам пайшоў?..
Бог жа святы ведае яго,
А за гэта мне бог паслаў,
А баліць-ломіць мая галовачка,
А што дзеецца, а што будзе, а-я-ай...

*(Ажно хістаецца ад плачу.)*

Суседкі *(адводзяць яе)*. Ну, дос, дос, кумачка, Домначка, родненькая, богу маліся, лягчэй яго душачцы будзе ад матачкі атарвацца... Даволі, досыць... Ах, божа наш, божа наш... Усякай матцы гора ды гора: то дзетачак вынасі, выхварай, то іх узгадуй, сілачку пакладзі, а то яны ў свет пойдуць, на нас забудуцца... Дзе там... Ну хадзі ж ты, кумачка, выпі во вады, ну пакінь плакаць, родненькая... *(Домна плача і ламае рукі, суседкі хліпаюць.)*

У парозе паціху. Стары Аўтух у мястэчка кінуўся... На аблаве быў...— Ах, ах, добра, што яму адразу ўсяго не сказалі: кажуць, застраліцца хацеў, як дачуўся...— Не можа быць, не такі чалавек, камень...— А наўрад ці выжыве Антон, усё горла перашмуляў... на адным храшчычку засталося...— Дактары зашылі; о, брат, узяліся, паненка запіску прыслала...— Якія дактары? Галўнага няма, паехаў у госці. Адзін хвэльчар...— І што тая запіска, крыві сцякло многа... А яшчэ каб ён маўчаў, а то пачане гаварыць, а горла... дзірка... рана расчыніцца, раззявіцца, дык яму не можна дыхаць... Пакуль хлопцы даўміліся прывязаць галаву цясёмкамі пад пахі, а то загаворыцца, а галава кідзёх! — ад'едзе,— і дзірка вялікая... Уй! Толькі кроў адтуль точыць і точыць...— Касою... А-я-я...

Мужчыны.— Ці труну майструюць? — А пайшоў Езка Банадысёнак на панскі двор, паненка дошчак дала, там зляпае дый прынясе...— Езка? Ці паміры́ліся? — А не кажы... Ці праўда то, паненка і грошы на хаўтуры колькі там дала? — А можа, толькі пэнсію Аўтухову, не плацілі ж акуратне...— Не, паненка ад сябе дала; кажуць, і Ходку хоча ўзяць на ўзгадаванне, вучыць будзе.— Ці ж Домна аддасць? Матка...— Пані старая не захоча...

Банадысёнак *(прыносіць у сенцы гробік)*. Едуць, здаецца, з-пад мястэчка...

Хлопчыкі *(бягуць у хату)*. Памёр! Памёр! Дадушы, памёр! З мястэчка прыехалі...

Хатнія. Што? Што?

Хлопчыкі. Антон у бальніцы памёр, кроў сышла...

Домна. Э-эк... *(Завалілася.)*

Бабы. Вады! Вады! Бярыце... паднімайце... *(Нясуць яе на пол.)*

Адзін *(шэпча ў парозе другому)*. Без папа... Не прыняў папа...

Другі. Што? Хто? Антон?

Першы. Так памёр, не захацеў спавядацца...

Другі. Ах-ах-ах! Што б то значыла? Тут нешта ёсць. А поп?

Першы. А што ж поп? Сказаў, быццам Антон быў ужо непрытомен, калі гаварыў, што не трэба яму папа.

Другі. І пайшоў? А хаваць дзе?

Першы. І пайшоў. Пахавае на магільніку... на гаю...

Уваходзіць Жабон, чарней зямлі, на людзей не глядзіць, ксціцца...

Жабон *(раптам валіцца на калені прад Іванькам, шэпча, а можа, думае)*. О, навышні! Пакараў ты дом мой... цяжка пакараў... За што? За што??. *(Колькі часу стаіць-ляжыць знямеўшы.)*

Усе ўзіраюцца, хлепяслівыя плачуць, чытака зажалобна чытае, Домну адхайваюць, Хода на палу нешта трызніць.

А ўжо тым часам саўсім позна, цёмна. На вуліцы гамоняць.

Якаў *(спадціха, зласліва)*. Даскакаўся Аўтух, жывога сына ў магілу ўвагнаў...

Гаўрыла. Ён і нябожчык змалку нябога нейкі быў... Хто разбярэ іх, бацьку з сынам? Грэх, братцы, і на дзеда, на Аўтуха навальвацца надта! Што праўда — то не грэх, гарэлка губіць яго дужа, ды хто ж не п'е ў наш, у век дурны? Цяпера з ім, ой, гэткая бяда!.. Як ён аправіцца?

Якаў. Ладзен, ладзен ён, твой добранькі Аўтух, сабака панскі, абдзірала... Паліцыя няхай возьмецца яшчэ, не падаруецца яму...

Карпа. А што ж паліцыя? Паліцыя? Па-мойму, паліцыя нічымчагенька не зачэпіць. Хлапчышку пахаваюць тут, Антона там, бо там жа і выпыты рабілі... Шчэ гаварыў ён троху... «Сам,— шэпча,— сам...» — хрыпіць на ўсякае пытанне, а як пачалі дабівацца чаго, за што, з якіх прычын,— гаротнік запямеў, ні слова не прамовіў: дыхнуў, як рыба, разы тры, паціху пацягнуўся, крыж-накрыж рукі сашчапіў, скапаў...

Гаўрыла. Ага, брат, трудна раскапаць, ад чаго бывае што на свеце! З-за бацькі? Дык а ці мала ж іх, ці ма-

ла ж іх, дурных бацькоў? Трываюць дзеці іншыя, трывай і ты. І, хваліць бога, бачым мы — цяпер сынкі на бацьках ездзяць... І ён, нябожчык ба паехаў, каб захацеў... Другі сынок даўно б і з хаты вытурыў старога Аўтуха. Не, мусіць, наш Антон такім нялюдскім зарадзіўся. Планета ў яго такая...

Банадысь. А і праўда. Бывала, маленькі Антонька — як той ваўчок. Адзін, ваўчком, адзін заўсёды... Ад тлумлівай блазноты воддаль... Галузаваць, гарэзаваць ён не любіў, рахманы быў хлапчышка. Але часінай плача немаведама чаго — то ўжо загана. І сам Аўтух казаў: «Што гэта за дзіцёнак: дурны — дык не дурны, каб хваравяка — не, а штосьці ё такое». Падрос Антон, Аўтух інакш і не сварыўся, як толькі: «Ах, дурань! Ну і дурань жа ты!»

Гаўрыла. А так падумаць, што за жыццё яго было? Аўтух заробіць дый прап'е, а не заробіць — з хаты цягне дый ўсё і прагуляе. А то к сабе ўсякай шабадрэні араву прывядзе і п'янствуе. Заўсёды сварка, непрыемнасць, а хлеб — адкуль ён? Дзеткі малы. І Домна высахла, аж выпятрыла ўся... Заможныя браты па смерці бацькі і нос вярнуць пачалі ад яе, што за такога на сухоты пайшла яна.

Банадысь. Каб то знаццё, як калі будзе. Антон ёй дужа ўпадобіў, што гэткі змірны, ціхі, сціплы, што не гуляшчы...

Гаўрыла. А можа, і сапраўды пайшоў ён на той свет таго, што так ад бога было яму ўжо прадзначана...

Дзёмка *(сам недалужны чалавек, асмеліўся сказаць)*. Во-во-во... Яно, напэўна, у галаве было такое, як тое кажацца, такое распалажэнне... Пачаў, гэта, задумвацца ён: «А што й к чаму? Чаго я буду жыць? А дай-ка я вот так і так...» Ну вот, як яно гэта... дык і так...

Хведар. Няхай іх бог святы рассудзіць, не нам гадаць.

Якаў. А будзе добра ведаць дзядзька Аўтушок, як коні забіраць, як хвусткі абдзіраць, як лаяцца, здзікацца і копы як дзяліць... Усё, усё прыпомніцца... Бог не цяля, бачыць круцяля... Без сына дый пад старасць... Няхай, няхай...

Другія. І як табе не сорам, Якаў? На каго бог, на таго й людзі. Не варта гэтак. І без цябе вялікае няшчасце...

Адзін *(узбурыўся)*. А ты... а ты... Якубка, будзеш

помніць, як... як табе дубкі вазіць... праз ноч... і з лесу панскага... а ці будзеш помніць?.. А?

Якаў. Лес божы, а не панскі... І мой таксама, як пані Іванецкай...

Той. А каб хто ссек дубок твой, што пад Мохам? А?

Якаў. Сячы ў таго, у каго многа, а мне і самому адзін патрэбен...

Той. А... а... а...

Ідуць з хаты маладзіцы і гамоняць паміж собку, што Домна пачала загаварвацца, ладна, калі мінецца так...

Якаў. Няхай ведае лясніk, як гарэлку піць людскую... *(Дражніць.)* «О, я ляснік! О, я разумны! І што вы мне! Хто мне ўкажа?» А што? Вот і ўказка, брат. Ану-ка пакракчы... Мне што? Бог яму аддасць, як ён лясвічаму назводзіў на мяне... Ну, а нябожчыку — то рай прасветлы, спакой вечны... А дзядзьку Аўтуха я вызукываў добра, што ён за птушка ёсць такая!

Усе *(углядаюцца ў цемені на дзверы)*. Маўчы, маўчы... Здаецца, ён... Здаецца, ён ідзе...

Сапраўды ідзе Жабон, як цар, з пасаду скінуты; каля яго, хоць і ніхто не бачыць, душа Іванькава калышацца ў паветры, і ад жалобы нікне, і безгалосна енчыць, і мітусіцца паміж тым і нашым светам.

## XII

Спешна табе!
Прывітанне ткаллі, калі яна за кроснамі.
Дурны паспех — людзём на смех.

Прыказь

На пастаці нечага стаяці.

Таксама прыказка

Пасеяла зара ключы,
Каля пастаці ідучы.

З песні

— Папаў пальцам у неба...
— Папаў не папаў, а ў неба пападаў...

Пагаворкі

— Не тлумач другім таго, чаго сам добра не разумееш...
— Дык няхай мне тлумачаць...

— Гутарка — срэбра, а моўчкі — золата!
— А што [redacted] таго волата, што ў гарах ляжыць, нікому карысці не дае?

У брыльках і розных шапках, элеганцкі стукаючы кіёчкам, ідуць і йдуць па асфальтнаму тратуару, і іншы касавурыцца ўбок, як бя-

гуць адзіноткамі і парамі у мяхох, у шапачках, з муфтамі прыгожыя, дый ой! якія прыгожыя, а то і саўсім такія сабе, і ў дарагіх — уух! — пальто, і ў памятых пальто, старэнькіх, а электрыцкі свет заліў мёртва-вясёлым мігаценнем вокны і вуліцу, а коні звознікаў ляскаюць, а звознікі лаюцца, а самакаты гудзяць і бягуць на людзей... але звіляюць... Вуліца грыміць і звоніць. Стрэлка гадзінніка на вуглу вуліцы падбіраецца пад поўнач. А прыкра-ненармальнае для прышэльца жыццё кіпіць. Зірнуць тут на неба — яно нейкае чорнае, а зоры не ззяюць.

Ідуць, ідуць, ідуць... Чалавек у чырвоным, абшыты залатымі гузамі і шнуркамі, з паглядам маючага крадзеную душу адчыняе і зачыняе шкляныя дзверы пад белымі буйнымі літарамі «Славянская кафейня» Блазя. Ідуць... А ўсярэдзіне нясецца ззаду музыка, і за столікамі людзей-людзей, бесталач, гам, шум, і ўсё музыка стройна-прыгожа сквярэцца сярод яго, бегаюць ува ўсім белым з праборамі на аблізанай галаве чалавекі, носяць...— Што закажаце? Кофе, чай, вада, піроожныя, цукеркі, шакалад? — Тэ-тэ-тэ... Э? Нэ-нэ-нэ... Та-оу... Газеты... Палітыка... Нуда...

## ЗА СТОЛІКАМ НА ВІДНЕ:

А д н а *(нарумянена, бровы падсмурыжаны чорным, губы намазаны чырвоным, скасіла вузкія вочкі на афіцэра і гаворыць да другой даволі голасна)*. У мяне сянні вечар сцёрся... Ха-ха, сцё-ёрся... У тэатр позна, знаёмых не спаткала. А жадалася б... ведаеш чаго?

Д р у г а я *(такая самая)*. О-хэ-хэ, ці мала чаго бажаюць маладыя дзяўчынкі? Адзінокі... як мы. Ад каго залежыць? А? Так... так-так... А ў тых, ад каго залежыць — камні замест сэрданька, мне здаецца... *(Кідае вочкам мнагазначна на афіцэраў.)*

## АФІЦЭРСКІ СТОЛІК:

В у с а т ы *(да таварыша, бразгаючы ботамі)*. Трохрублёвыя...

М а л а д з е й ш ы *(часам не ведае, куды схаваць вочы, рукі і шаблю; грудзі выпінае)*. Кепства... Дрэнь... І ўсё дрэнь... Нічога асаблівага...

В у с а т ы. Псіхалогіі шукаеш, чыжык? «Плюнь, пойдзем купацца»,— сказаў Чэхаў. Лаві мамэнт! — лепшая «псіхалогія» і філасофія.

Л ы с ы. Патрывайце, маладзічок, не ўгледзіце, як вялікага псіхолага пераробім на прававернага армейца...

М я ж д ж э р ы с т ы. А то, ведаеце, паедзем цяпер, а? Што?

С у х а ш ч а в ы. Ці варта? Цела няма... хаця тая, што... формы, формы — вот у чом усё...

В у с а т ы *(ціха)*. А грошай маеце столькі, як смаку?

Маладзейшы. Надакучыла... *(Кідае вокам у той бок, круціць газету і гаворыць, каб гаварыць.)* Кепства... А на палітычным небасхіле... у палітычным паветрыку свяжэй запахла... Немцаў... прыйдзецца... падраць за вуха... за культурнае вуха... Заносяцца... немчурышкі... і дрэнь... усё дрэнь... Нудна мне, маё вы хрысталюбівае...

СТОЛІК ГАЗЕТНЫХ РУК:

Адзін. Плоціць кожны за сябе...

Другі *(звоніць булдавешкай кійка па брыжу століка, крычыць).* Чэ-а-эк!! *(К таварышу ціха.)* У мяне медзь... Пакладзі і за мяне беленькіх... аддам на вуліцы...

СТОЛІК ЗВЕЗДАНОСЦАЎ:

1. — І на службу не явіўся; ноч да віднага рэзаўся.

2. — Банк загроб, усіх абчысціў... І ўсё спусціў і далажыў свайго...

3. — А жонка атрахнула пыл ад мініяцюрных ножак, дала забулдыгу волю і... і з князем круціцца, ха-ха-ха!

4. — Я баюся за яго... Кажуць, казённых грабануў... Каб не пайшоў да прадзедаў, да мінскіх мужыкоў... Ён з мужыкоў; радня ўжо не паддзержыць; кляпсік паднімі і трэсь! Са духі ўпакой...

5. — А чорт з ім...

СТОЛІК РАМАНТЫКАЎ:

1. — Слухай, варта жыць? Я — адзінок! Ніводнай здаровай душы... Балота, дрыгва, гады, няма людзей.

2. — Ты саўсім не ведаеш жыцця. Ты ідэаліст, ты, чорт цябе ведае, што ты за чалавек, спазніўся ты радзіцца.

1. — Даволі зведаў, ну, а калі гэты Цялёпіч і Шылоўскі, дый Дзюбко, калі яны... гэткія жулікі... гэткая дрэнь лепшай маркі... І Вайткунская... вужака падкалодная... не падарую!

2. — Ты сам троху вінават: трэба ж асцярожна...

Музыкі цягнуць «Серэнаду» Шуберта; нейкая прыгажуня з журналам «Музыка» ў руках наставіла вуха, віяланчэліст загледзеўся туды і сфальшаваў, яна сказіла ссохлыя губы.

СТОЛІК ТОЎСТЫХ:

1. — А накархаць мне на народ. Быдла страшыць, а пакажы бізун — быдлам і астанецца. Вы чыталі «Хам

ідзе»? Геніяльна напісана, хоць я і не ва ўсім згаджаюся з панам аўтарам.

2. — Пане дарагі! Тым часам калі нашаму святому пасяданню ў краю і быдла пачане калякі падстаўляць, дык адною панскаю пагардай быдла не сціхамірыш. Бізун патрэбен, бізун, і як найхутчэй, пане дарагі.

3. — Э, пыні, калі праўду, пыні, казаць, дык уся, пыні, бутафорыя з гэтым дурным адраджэннем нашага «быдла», пыні, гэта, пыні, глупства, пакуль няма, кажу, пыні, вялікай эканаміцкай спрэчкі ў нас, пыні, з гэтым быдлам... Эканаміцкая вайна, от, пыні, чаго можна баяцца, пыні...

4. — Так, так, шаноўны пане, выйдзе на тое, калі мы самі будзем спаць дый правіцельства не будзе нам спагадаць, выйдзе на тое, шаноўны пане, з'есць быдла нас і само не разжыруецца...

3. — І само, пыні, з голаду здохне, пыні... Нічога не будзе... І культура згіне.

## СТОЛІК У КУТКУ:

Польскі публіцыст. Слухайце, пане... Вы не так зразумелі маю апошнюю стаццю ў «Кур'еры Народным»... Мне цяпер ясна, што вы не ўцямілі маёй думкі... Не тое... Мне, як віжу, не ўдалося сказаць тое, што хацеў... Вот што... Я, разумеецца, не магу вымагаць ад вас, як ад песняра-рамантыка і песняра — у многім лірыка, не магу вымагаць, каб вы ў сваіх творах давалі новага чалавека, чалавека будучыны, чалавека, каторы наўчыў бы ваша грамадства, што рабіць. Праклятае пытанне — што рабіць? І апрача таго...

Маскоўскі дэмакрат. Увага, увага, увага! От што: можна гаварыць, можна пісаць на тэмы, што рабіць, па якой дарозе ісці, можна цэлыя томы спісаць, але пакуль гэта будзе толькі рыторыка, пакуль гэта будуць толькі словы і словы без жывога чалавека, пакуль у вашай маладой літаратуры не будзе мастацкага тыпу новага чалавека, датуль вы будзеце... будзеце... ну, таптацца на адной мясціне...

Беларускі аўтар. Добра... Але што гэта літаратура? Літаратура адбівае жыццё... Калі ў нас яшчэ няма такога тыпу, значыцца, жыццё не ствар...

Польскі публіцыст. Слухайце, паночку! Вы хапілі агульныя тэмы... Ці там літаратура — фатаграфія жыцця, ці літаратура — усё, і мінулае, і цяперашняе, і

будучае, і мажлівае, і немажлівае, і рэальна-жыццёвае, і жывушчае ў думках, і так далей, і так далей, уся душа істоты... Гэта не тое, а я хачу сказаць, што ваша літаратура дэмасу, народа, народа сялянскага і народа, што прачнуўся да жыцця, яна цяпер, асабліва цяпер, на першых сігах развіцця, яна павінна мець троху-многа свае асобна-карысныя дамаганні і законы... Ах, не тое... Вот што, у вас цяпер літаратура... То жарты на жаданне чытакі, то там тыпы жыцця — слабенькія, мізэрныя, абросшыя драбязою сваіх жыццёвых невялічкіх інтарэсаў, жалкенькіх ідэальцаў, то плак і плак без канца аб гаротнай долі, аб няшчаснай долі, аб незадачах мінуўшчыны і цяжарах цяперашняга часу... Ды досыць ужо вам! Вы так самі на сябе нагоніце нуду і немач безнадзейнага абы-якога жыцця — гультайства, і другіх псуяце, блудзіце ў трох соснах, нагаворыце жалобных слоў аб тым... гэта... А вы дайце новага, жывога чалавека, каторы па праўдзе б жыў і жыццём сваім паказаў, як трэба жыць, як глядзець у будучыну, дый не глядзець, а браць яе са ўсіх бакоў рукамі... Стварыце гэткі тып новага чалавека... хоць такога, якім бы ён па-вашаму, толькі па-вашаму павінен ба быць, каб, прачытаўшы ваш твор, высачэй галаву падняў чалавек, каб у яго жывей кроў пабегла па жылах, каб рукі самі хапаліся за працу, от што... А то, ведаеце, з гэтымі енкамі, што ж...

Беларускі аўтар. Добра, добра...

Маскоўскі дэмакрат. Дый нашто вам так карціць у вашай літаратуры гэта жалобнае жыццё? Ну напісалі, паказалі другім людзём і сабе, што вам дрэнна і што ў вас баліць, паплакалі троху, дый досыць. Шукайце новага чалавека, які ён павінен быць. А прычыны вашай нядолі вы ўжо палічылі, зразумелі, знаючы іх, шукайце раду, лекі. Эканаміцкае ярмо, гарэлка, цемната...

Польскі публіцыст *(праглядаў газету, нечым асабліва зацікавіўся)*. О-о-о... саўсім неспадзявана знайшоў на нашу тэму... Вы чыталі вячэрнія газеты? Гаварыце, гаварыце, я чую. Толькі так прагледзеў... Цікавая тэлеграма... Бог ведае што такое... Слухайце, паны! *(Чытае.)* З Магілёўшчыны пішуць: «У глухім кутку, далёка ад горада і ад жалезнай дарогі, у адной дзярэўні надоечы шчэ досыць малады селянін Антон Жабон, гукнуўшы дзяцей сваіх, хлопчыка і дзевачку, пад прыдарожны крыж, зарэзаў касою сына і страшна зрапіў сябе. Дзевачка ўцякла. Памёр у бальніцы ў вялікіх муках. Прычыны —

незразумелы; адны шукаюць іх у нездаволенасці самагубцы сваім бацькам, лесніком тутэйшых паноў, п'яніцаю і гулякам; другія гавораць аб хваравітай набожнасці пакойнага і яго цягаценню да ўсяго таёмнага; доктар знайшоў у мазгу нябожчыка невялікія заломы; дзед і прадзед Жабона — алкаголікі; Антон Ж. гарэлкі не ўжываў; жыў у беднаце, не ўсягды маючы хлеба. Удава жонка ад гора начала загаварвацца, баяцца, што адурэе. Самагубствы сярод тутэйшых мужыкоў наогул дужа рэдкі...»

Маскоўскі дэмакрат. Гм... Што за псіхалогія магла быць у самагубцы? Аднак...

Беларускі аўтар. Вот вам і тыпы...

Польскі публіцыст. Так... А мяне тут цікавіць адно,— чаму шукаюць, ці шукае там хто прычын у гэтым, як тут, хваравітай набожнасці і цягаценні да ўсяго таемнага... Мне гэта незразумела...

Беларускі аўтар. Вашмосці гэта незразумела? А...

Маскоўскі дэмакрат. Пашукаўшы добра прычын, яшчэ можна зразумець, хоць усё ж ткі для мужыка гэта незвычайна...

Беларускі аўтар. Паны, паны, вы не кіраваліся зразумець, і вам незразумела... А чаму ж мне, беларусу, і беларусу-рабынічу, бо бацька мой служыў прыгон, чаму мне саўсім па духу і зразумела як месіянства польскага народа, так і кіраванне да бога і чуда народа рускага па Дастаеўскаму, і гэтыя стараверы, і сектанты, духаборы і далей, і далей.

Маскоўскі дэмакрат і польскі публіцыст. Чаму? Ад чаго?

Беларускі аўтар. Чаго? А таго, што я сын свайго народа... А народ мой — народ-паэт, народ-лірнік, народ, каторы ў гістарычным жыцці сваім заўсёды больш схіляўся к патрэбам душы, чымся к патрэбам цела. Сілай духу свайго ён уладаў над крэпкімі і страшнымі ваякамі — літоўцамі, што заваявалі яго фізічна. [...] Дзеля цела ў жыцці ён дабіваўся хлеба штодзённага, а дзеля душы ён шукаў і шукаў без канца і стварыў цікавейшую гісторыю, багатую не заваяваннямі другіх народаў, а заваяваннямі духа, заваяваннямі ў вывучэнні самога сябе... Толькі ён не любіў запісваць, паказваць, выстаўляць. Успомніце змаганне хрысціянства з паганскай верай, а потым вялікі рух у справах веры ў пазнейшыя часы, кальвінізм, служэнне акультным навукам, езуіцтва, унія... Цяпер у майго

народа крызіс: старыя багі струпехлі, а новых... новыя мала ведамы... і сусветна новыя багі, багі цела, багі, што даюць ці могуць даць поўнае здаваленне толькі целу, гэтыя багі не надта падабаюцца беларусу... І вот, каб стварыць тып «новага беларуса», каб угадаць, якім павінен ён быць і будзе, гэты ўладар будучыны, трэба памірыць у душы беларуса старое з новым, трэба вышукаць, што ў яго душы жывуча са старыны і на чым будаваць новае... Трэба шукаць прычыны крызісу, бо п'янства, непісьменнасць, беднота — усё гэта абставы крызіса... А мы шукаем прычыны...

Маскоўскі дэмакрат. А па-мойму, адказ адзін: не вытрываў агульнанароднага крызісу гэты селянін Антон праз тое... Не, не так... Ніякага асаблівага крызісу й няма — зарэзаўся, бо дзяды былі алкаголікі, а ён не піў, ды хоць бы й піў...

Польскі публіцыст *(да беларускага аўтара)*. Выбачайце, паночку,— вашы думкі дужа цікавы, але троху заплутаны і, па праўдзе, парадаксальны... Гісторыя, прыгоншчына, псіхіка, абасабленне і зніштажэнне інтэлігенцыі і тое, што не ў народа, а ў інтэлігенцыі і ў часці народнай маладзёжы няма веры і святых заданняў, усё гэта радзіла адно другое, ішло адно за другім і магло косым бокам памагчы Антону зарэзацца, але тое, ад чаго ён зарэзаўся, яно таксама радзіцца магло і радзілася ад прычын, што я казаў, але яно цяпер глаўнае і самастойнае, і гэта ёсць — сацыяльна-эканаміцкае немажлівае ў нашы часы жыццё народа. Ён не меў чаго есці...

Маскоўскі дэмакрат. Скажу я, красамоўцы мае, усе мы троху забалбаталіся. Унукі нашы знайдуць прычыны і разгледзяцца ў нашых часах, а мы дужа блізкі да сваіх часоў, і калі што паднесць к самым вачам — нічога не ўвідзіш... Адно я знаю і буду гаварыць: літаратура ваша, беларуская, не марудзячы павінна выявіць беларусам новага чалавека-беларуса, вот і ўсё...

Польскі публіцыст. І вера новага чалавека будзе новаю вераю, і святыя заданні новага чалавека будуць новымі святымі заданнямі для вашых маладых і адраджоных... Стварыце новага чалавека!

Маскоўскі дэмакрат. Бярыцеся, дзядзька, за пяро і пішыце раман «Што рабіць?».

Беларускі аўтар. Дзякую за добрую раду... Шкада, што яна дзеля мяне не нова... Жыццё дасць адказ...

Маскоўскі дэмакрат і польскі публіцыст. Эх, вы, пясняр сялянскага здаровага народа! Адразу відаць псіхіка беларуса! Ды што вы — «жыццё», «жыццё»... Вы самі тварыце жыццё!

Беларускі аўтар. А што вы думаеце? І створым! І створым...

Маскоўскі дэмакрат і польскі публіцыст. О-о! Так, так... Вялікія словы, каб даў бог і працу.

Беларускі аўтар. А так! Уцямім прычыны і дадзім новага чалавека, бо ўцяміць прычыны — ужо стаць трохі новым...

У сусветнай літаратуры творы, у каторых паказваліся аднаму якому грамадзянству новыя шляхі жыцця, новыя заданні, такія творы больш, чым другія, дачасны і скора забываюцца новымі пакаленнямі. Але значэнне такіх твораў, што казаць, аграмаднае, і калі ў іх уплесць агульна-чалавецкія пытанні, яны не скора патрапяць у Лету.

Маскоўскі дэмакрат. Да чаго вы гэта?

Беларускі аўтар. Так... паміж іншага... А няхай плачам, апяваем нядолю — шукаем добрых заданняў... Не можна ж адразу стварыць сабе ідэал... Што? Не? Ідэал, што хутка дасцігглы — не вялікі ідэал... І наогул — дасцігглы ідэал — не ідэал... Што? Вядомыя праўды? Ну...

А вот, паночкі, уся вага і значэнне вашых слоў — гэта творамі паддаць сілы, энергіі, імпэту... так. Дый песняры нуды, смутку часта дабіваліся сваімі песнямі саўсім наадваротнага... *(Дзынг-дзынг-дзынг!..)* Дайце тры шклянкі вады і «Нашу навіну». А ўжо пара, ведаеце, і дахаты...

Польскі публіцыст. А так... Што іграюць?.. Вы не знаёмы з тым, вун сеў...

Маскоўскі дэмакрат. А я ўсё думаю,— цікава б было паехаць туды, на тое сяло, дзе гэты селянін-самагубца... Распытацца б...

Беларускі аўтар. А... Зрабіў дурату... Шукаў-шукаў, можа, свайго бога, і... Не, не шуканні бога зрабілі яго дурным, а тыя абставы, у якіх ён жыў і шукаў...

Маскоўскі дэмакрат. А часам і сапраўды быў дурнаваты?.. У мозгу дактары... Што?

Беларускі аўтар. Няхай, няхай шукаюць... Добра... На добрае выйдзе... Гісторыя, прыгон, няўдалыя рэформы з дараваннем волі, няўдалая рэвалюцыя сляпых і з цяжкімі ўмовамі адраджэнне... Эх! Няхай шукаюць... А новыя людзі і ўжо ёсць... Што? Вы думаеце! А ўжо ж...

9*

Дайце, пыні, часу,— якое грамадзянства, такія пісьменнікі,— знайдуць і новыя людзі свайго песняра... Знайдуць... *(Ляп-ляп-ляп!)* Я плачу... Зараз, зараз... Вазьміце... Пойдзем... І самая гэта з'ява: плачам, стогнем, хныкаем, не ведаем, куды дыбаць, і што гэта ўсім спрыкрылася — добра! Значыцца, рэакцыя ідзе добраю дарожкаю... Ох, як праўве! Няхай даспее... І ўся брудзь, і ўвесь гной сцячэ, болька ачысціцца, загоіцца... Нічога, нічога... Гісторыя не памыляецца, і хоць адным крыўдна-абразна і сумна, [redacted] другім добра, яна ідзе так. *(Махае пальцам прад сабою і вядзе па сталу.)* Пойдзем, пойдзем... Мы цяпер пад горкаю, [redacted] лепшыя нашы вун куды ўжо на горку ўзлезлі, а з часам і ўсе на гарэ будзем... А? Іду... Прахадзіце, калі ласка... А так... праўда, праўда... Тэлеграма дужа цікавая... Ох, заседзеліся... *(Выходзяць; чалавек у чырвоным, абшыты залатымі гузамі, адчыняе дзверы, глядзіць так, як бы мае крадзеную душу...)*

## XIII

Нешырокая мякка-пыльная, сумная дарога далёка-далёка пайшла і пайшла з горкі на горку, з лажчынкі на курганок, з логу цераз мосцік на раўніну... А з бакоў абапал ва ўсе канцы калышацца, шуміць зялёна-жоўтае жыта. Ось дунуў ветрык і пайшоў ганяць па ім волны, што прыгожа бягуць то ўверх то ўніз, то ўверх то ўніз, аж пакуль не супакоіцца ветрык. Салома-то буйная і колас добры — божухна, забарані ад граду і ад пякоты і дай умалот; верне наша ніўка працу мужыцкую. А па дарозе калдыбаюць дзве чалавецкія падобы... Вот, вот ужо віднеецца і крыж маўклівы прыдарожны, крыж пахілы...

Угодкі па сыну і ўнуку не ходзіць Аўтух спраўляць на месцячковы гай, дзе пахавалі парэзаныя кавалкі незразумелага Антона, не ходзіць і на дзеравенскі могільнік, на абдзірванелую магілку невялічкую, дзе могуць убачыць тутэйшыя людзі і пачнуць малоць языкамі і пальцамі паказваць.

Не! К гэтаму крыжу святому пляцецца ён, сюды цягне яго.

А сумна-прыгожа тут бяроза шуміць, далей лучыстая рэчка блішчыць сярод травы, лазы, аеру, а там лес паўстаў сцяною вялікаю, зялёнаю асілкаў расліннага царства, а з-за лесу панскі бровар бялеецца.

Пастарэў Аўтух, а Ходачка падрасла; як тая трасцінка — тоненька, худзенька, беленька, квола; у вачах, недзяцінуюдуму хаваючых, васількі жытныя адбіваюцца, сінеюць. А не пазнаць Аўтуха; быццам падрос, павышэў, хоць і сагнуўся пад белым хатылём; вочы глыбей уваліліся, валасы адраслі, але сам, увесь, нейкі чысцейшы стаў...

Аўтух! Аўтух! Вот ён, гэты крыж, за колькі сігоў ад цябе — што ў душы тваёй дзеецца? Чаго ты прыціснуў руку да сэрца, чаго ніжэй згорбіўся і чаго так цвёрда-пакутна пазіраеш спадылба выцвіўшымі вачамі на траўку каля крыжа? Хода! Дзіцятка беларус-

кае, сялянскае! Кланяйся, кланяйся ўслед за дзедам, ксціся, маліся. Ніхто не ездзіць па дарозе, ніхто не падзівіць, не зразумеўшы, ніхто не перашкодзіць. І тут траўка, як усюдых траўка, і гэты крыж, як крыжы, што без ліку па роднай зямельцы, і з вас некалі вырасце траўка, а маліся, кланяйся тут — ад бога так жыццё дадзена. Смяяліся, калі смех быў, і плачам, калі слёзы цякуць.

Не збівайся, Хода, услед за дзедам кажы, маліся...

А ў т у х. У царстве тваём рабоў божых спамяні... Кузьму, госпадзі, спамяні...

Х о д а. Кузьму, госпадзі, спамяні...

Так, так, сястрычка, хоць тонецька, шапялява, гавары, гавары...

А ў т у х. Лукаша, госпадзі, спамяні...

Х о д а. Лукаша, госпадзі, спамяні...

А ў т у х. Антона, раба твайго, госпадзі, спамяні ў царстве тваём...

Не ўважай, не заглядайся, маё дзіцятка, што цякуць слёзы па худых шчоках дзедавых і вісяць у маршчынах, акуратна кажы...

Х о д а. Антона... твайго спамяні... у тваём...

А ў т у х. Прасці яму, прасці яму і дай рай прасветлы...

Х о д а. Прасці яму... і дай яму рай... светлы...

А ў т у х. ...прасветлы...

Х о д а. Прасветлы.

А ў т у х. Маладзенца Івана, госпадзі, спамяні...

Х о д а. Івана, госпадзі, спамяні... Дзед! Ці гэта Іваньку?

А ў т у х. Маўчы... маліся... Іваньку... Домну, госпадзі, спамяні...

Х о д а. Дзед! Маму? Мама ж, ты казаў, жыва, толькі хварэе? А? Дзя-ду-улька!..

А ў т у х. Няго ж не... хварэе... у Магіславе ў жоўтым доме...

Х о д а. А ці... *(Хоча распытацца.)*

А ў т у х *(махае рукою, каб маўчала, пакуль ён даmoліцца)*. Госпадзі, спамяні... Божа, прасці! Злітуйся, мацер божа, над намі...

. . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . .

Перагнаўшы колькі раз сваю невялічкую лічбу малітваў, з асаблівай шчырасцю пакланіўшыся і прыціснуўшы шчэпці пальцаў к грудзям, Аўтух скідае старэцкі хатыль, садзіцца з Ходай на траўку і пачынае вынімаць лусты хлеба, чорнага, скрэмсанага, праснакі і камы пшоннай кашы, што зварыла яму бабылка ў Асмолаве. Рассцілае хусціначчку з кашаю і ксціцца, гледзячы на ўсход.

А ў т у х. Дай жа ім, божа, спакой вечны, царства нябеснае, рай прасветлы! Пухам зямліца... Святыя радзі-

цанькі, хадзіце к нам есці... *(Сам кашу есць, беручы скарынкаю, а Ходзе даў лыжку, што носіць з сабою.)* Еш, еш, Хадоська, не рассыпай, памінай татульку, бабу (не памятаеш нябожчыцу...), братульку... Еш, набірайся сілкі...

Х о д а. Дзед! А які ж гэта жоўты дом?

А ў т у х. Бальніца такая... людзей лечаць... усякіх...

Х о д а. А калі, ці скора мама палепшае і вернецца ўдвору, а?

А ў т у х. Мы-ы... калі? Вернецца, дасць бог...

Х о д а. А то я ўжо даўно-даўно не бачыла мамкі... Якая-то яна цяпер? Я ўжо й не помню, якая была яна... Вот Іваньку, дык помню, белыя валосікі... *(Задумалася і пачынае хмурыцца.)*

А ў т у х *(клапатліва)*. Еш, еш, дзетка... Раскажы, дык як гэта ўцякала ты ад паноў у сваю хату?..

Х о д а *(разгоўтаючыся)*. Я ж казала ўжо... даўно...

А ў т у х. Няма нічога, што казала, яшчэ раскажы...

Х о д а. Я плакала... Старая паня гаворыць на мяне: «Румза!», а я яшчэ горш... Паненка дала мне: «Еш з гэтай талерачкі, Ходзя, тут салодкае...» І пакінулі мяне ў вялікім нейкім пакоі... Я не ведала, як тое салодкае трэба есці, талерачка звалілася й разбілася... Я дужа спужалася, а прыйшоў стары плюгавы пан дый пачаў сварыцца. Я плакала...

А ў т у х. Ведаю, ведаю, мая котка, як ты жыла папанску... Відаць, не суджона табе ў панах жыць... Эх! Думаў я, што выйдзе з цябе хоць пакаёўка добрая — не! Мусіць, так лепей... Дзіцятка маё, да чаго я дажы... *(адвярнуўся)* ...ўся...

Х о д а. Дзядуль, а ці зайдзем мы паглядзець на сваю хату?

А ў т у х. А што на яе глядзець?

Х о д а. А так...

А ў т у х. Жыд-каваль Міхаль, калі помніш яго, жыве ў ей цяпер...

Х о д а. Зайдзем...

А ў т у х. Маўчы! Тут не людзі, а гады... Тры гады не быў тут на дзярэўні, як зямлю Самусёнку перадаў, і не пайду... Што ты разумееш... Скажуць, Аўтух у старцах з торбаю ходзіць... Леснікoм быў... А што яны разумеюць... Ці я старац? Што зямлю перадаў, якое каму дзела да таго; я арэнду бяру... браў... З даўгоў вылез... сына пахаваў, унука пахаваў... Успамянуў па-людску... Грошы ды грошы... Пахоў добры трэба... на адну гарэлку колькі вый-

дзе... Хто пойдзе, хто прыхінецца, хто будзе спагадаць, калі да людзей не па-людску... не вазьмі гарэлкі... А нявестку лячыў... Ці многа той зямлі было... От так і пайшло. А ці я сам здолею так працаваць, як зямелька вымагае... Знайду кут... і ўнучку ўзгадую... Што каму да таго, што я ў чужую старану пайшоў? А я гонар маю... Мала што ў жыцці бывае... А жыць далей трэба... Што ты, дзіцятка, разумееш? Эх, нічога... А паня — хай ёй бог аддасць, як радзеў ёй, вераю-праўдаю, сваё губіў, а панскае пільнаваў, а яна мяне са службы далоў... Хай ёй бог аддасць... Я аб паненцы не кажу... А што дубкі Броўда звёз — ці я вінават, што ў Мірона язык доўгі, сабачы, не выкарыў ён яму, за маё добрае, за маю хлеб-соль... Я ж не пайшоў абору падпаліваць, як той бунтаўшчык, дэмакрат Мяхвод... «Паноў паліць... паноў біць... Не панскі лес — наш, бог усім даў... Не панская зямля, а таго, хто мазалі ад яе на руцэ мае... Што вы спіцё? Чымся патроху гніць, лепей адразу альбо здохнуць, альбо пану галаву скруціць...» Дагаварыўся... І Якаўку тое будзе... Пакорміць вошай... Дурні! А што я адзін? Я служыў, працу пакладаў, з суседзямі спрыкляўся, а йто... Каб жа то ўсе... А то як на каго брахаць ці хоць бы лесніка лаяць, дык усе, а то прыйшло да дзела — адзін за другога... Як тыя вераб'і: «Хуррр!..» Хто дзе, хто куды, а таго няма — вошы карміць пайшоў... А што я... я не пайшоў красці, я не пайшоў таго... Толькі гаварыць мастакі... Дурні! А я ўсё ведаю... Сама сканае! Прыйдзе час... І Броўда сканае... нахапае панскіх лясоў, нажарэцца мужыцкай крыві, дый лопнуць яго лантухі... Маёнтшчык, пыні, тысячнік, а дубкі крадзе, каб схварэў... Тысячы дзесяцін лесу мае, дубкі крадзе, каб ты апох... А Аўтуха па шыі... Гы — погань! Я не кажу, паненка памагала... А незадалося сынка вывесць у людзі, каб іншы розум, ці бог яго ведае, чаго яму не хапала, лакеем быў бы, а так... Ой... І дачушка ў бацьку... не патрапіла сярод паноў жыць... Няхай... усё роўна... Толькі к жыдам у батрачкі не аддам; канаць буду — не аддам! Каб яны кпілі з мужыка, каб яны агоем звалі... А куды ж я аддам? Куды ж я аддам цябе, унучка, а? Ну куды ж я падзену цябе, каб ты зямлю слязою не паіла, дзеда не праклінала... Здохну я скора... Памру, няхай сабе памру... здохну... А на каго ж я цябе пакіну,— у жыдоў дрэнна, у панкоў не лепей; у свайго брата мужыка шчэ хіба, але дзе ж... Нідзе не салодка сіраціне-беспасажніцы ў батрачках векаваць... Жывеш-жывеш да лепшага дый здохнеш пад плотам...

Што хто ведае? Пойдзем да Багумільска, там нас мала знаюць, там людзі добрыя, пражывём... Ат! Божухна, чаму я не сканаў маленькі ў бацькінай хатцы? Не думай, Ходка, мы — не старцы, мы сваю зямлю маем, хоць... аддадзена назаўсёды, мусіць... у арэнду... бо грошы... затое Аўтух даўгоў не мае... Я сады ў шляхціца буду сцярэжч, ты пойдзеш грады палоць... Мы не старцы... А што зайдзім пераначаваць, капусты ў людзей сербанём, на тое мы людзі, на тое мы хрысціяне... І я не праганяў чалавека... А й жыд, і той пусціць пераначаваць... А і я жыда пушчаў... У жыда — не ў свайго брата, на кут не залезеш і вобуй не пасушыш... а... Мы — не старцы, Хадоська, чуеш? Дзед твой не старац... У-у... Ну, памолімся ды пойдзем... *(Збірае хатыль, бубніць усё і пачынае маліцца, але ніяк не настроіцца на належны лад... моліцца.)*

Ходка *(задумалася і гаворыць мімаволі).* Мамаачка!

## XIV

> І калі ў рэторце наўчонага будзе пачынацца чалавецкае жыццё — душа астанецца слепа аж да смерці свайго цела... а можа, і па смерці яго...

Мутны, прахаладаўшы Дняпро плёскаўся... Лайбы лезлі на бераг, крычалі лайбачнікі хрыпата... А пазадзе, у горадзе на гары званілі, ■ гуд горада заціхаў патроху... Круціўся з дрэва пажоўклы лісцік, на лагу скублі дзве лахматыя, бурая і нейкае масці каровы, агляdaліся на лес. А за логам шчэ нейкія жыдоўскія, мяшчанскія хаты, карчмы міналіся... Абмоклы сад, правідны, згалеў многа; за паломаным тынам, пад дулькаю, на мокрай траве — дулькі, што самі зваліліся...

Хлопчыкі з торбамі, з кніжкамі... Сівы дзед-мешчанін пад рэзвінамі з трэсенай саломаю ідзе ступою, піпку ссе...

Сонца бліснула!.. Цямнее... ізноў блісне.

Пустыя гародні... капуста шчэ вун стаіць ля рэчкі. Калюгі... фаэтоп з боку на бок гутаецца...

Гай, домікі, сад, палі... за высокім тынам вялікі дом.

— Адкуль вык? Сабачы?

— Жаноцкі ў доме...

Вароты... Палісаднік. Двор. На кінутым бульбоўніку і бацвішчы блішчыць раса. Кветкі памёрзлыя, рута, мята...

— Вот іх...

Па сцежачцы, па кругу ходзяць у доўгіх шэрых світках, жупанах чалавечыя падобы. даўгаполыя, паходжыя...

Ідзе, ідзе — баўціль! рукою. Пайшоў...— махіль! галавою... Балмоча... цішэе... Бубніць. Кручаныя воўцы.

Жорсткі па вачах стораж з пруцінаю за імі і пазірае.

Нейкі *(чорны, вус абголен, вус другі адрос; азірнуўся на прыезджых, рот разявіў страшэнна шырока).* О-по-чы! О-по-чы! Чала-век залез у ге-е-э-нну!

Другі. Кажу тое куды я... б'ешся ці на што ўцехай ад цябе туды хлебца... А конь брык, няхай сабе ён галава... а мне без вушэй... Пажалюся...

Грозны. Аюс у пуню! Дзе-дзе-дзе!.. Дзюшка, дзюшка, дзюшка! А выць!! Ць-ць-ць!..

Маладая *(бела-бела, вочы вялікія, масляныя, чорныя і пустыя, губы чырвоны, як ружа чырвона).* Мо-ой лю-бы, лю-лю-бы... Ненаглядны мой! Прыйдзеш? Праўда, прыйдзеш? Смутна мне і млосна на сэрцы, пры-ый-дзі-і... *(выхапіла з-пад шэрага капшука чорныя, цяжкія валасы).* Прыгожанькі мой!

Нехта *(праз рашотку ў акно).* Васкрасенія дзень, прасвяцімся, людзіе! Пасха господня, пас... *(Акно груквула і зачынілася.)*

Адзін. Мэ-э... гу-гу-у. *(Плача, трэ вочы кулакамі, гразнымі, чорнымі.)* Авой! Авэк! *(Высалапіў незнаёмым язык, доўгі і тоўсты.)*

Доктар. Домна Жабанёнкава... Так... Усю гісторыю добра ведаю... Збіраеце матэр'ялы?

Беларускі аўтар. Збіраю, а больш так, як кажацца, пазнаёміцца... цікавасць...

Доктар. А я працую над другім... Вашмосць, пэўне, чулі, як чатыры гады назад мужыкі забілі дзіцёначка, быццам народжанага антыхрыста... Працэс цікавы, усе псіхіятры і эксперты раздзяліліся... Маю вялікі шмат матэр'ялу... І цікава, да чаго прыбіўся, вечарком раскажу і пакажу... Убачыце псіхіку беларуса... У Магілёўшчыне было...

Беларускі аўтар. Ведаю... відзеў і «прарока», з яго пачалося там... *(Не хоча далей гаварыць і нервуецца ад гулу сігоў у праходзе і зыку ў асобных камерах за мурам.)* Домна — ціхая?

Доктар. Ціхая, але часам б'ецца... шалее... Ад непамернай сардэчнай нуды. І нуда яе паступова большае пры кожным абурэнні мімавольных і хваравітых успамінаў таго, з чаго пачалося... Сягоння якраз падходзіць часіна... Другая квадра... Пасадзілі ў асобны...

Сторaж. Адчыняць, пане?

Доктар. Адчыняй... Адступіце... *(Грук-грук-грук!)*

Домна! Домна! Даведацца цябе прыйшлі, не клапаці, не тужы...

Домна. Аэй... снедаць знайшлі... аэй... не хачу... позны палудзень падвечар... бягу я... аэй... торбу к горбу... ааэй... Стужкі на шыі... прыбраліся ўсе дзеўкі... і на кірмаш... я хоць галавою аб сценку... аэй... Свёкар... ён... За папом едзьце... А ямку не глыбокую... Ды калі ж я не хачу... аэй... не дам, не чапайце... аэй, не рушце мяне... баліць горла... аэй... у ручкі, у ножкі пацалую, не адразайце галаву... аэй... не рушце вы мяне... а галовачка мая бедная... Ы-ы... *(Кідаецца.)*

Доктар. Домна, Домна, не тужы... *(Глядзіць на яе.)*

Беларускі аўтар. У-ух!.. *(Уздыхае.)*

Доктар. Што вы? Ну як? Не ўглядайцеся так, яна баіцца пільнага пагляду...

Беларускі аўтар. Горка глядзець, доктар! Худая, абадраная, збітая, чорная — ух... Ці варта чалавеку радзіцца, каб жыць?..

Доктар. Вы мяне, дзядзьку, хворых дзівіце... Але гэта з непрывычкі... Не варта, пане дабрадзею, радзіцца на хваробу, а радзіцца на добрае жыццё гатоў сто раз радзіцца.

Беларускі аўтар. Пойдзем... Цяжка... *(Пайшлі, сторож зачыняе.)* Добра, доктар, вы знаеце гісторыю Домны: толькі праца і мукі, мукі і праца, гора, ніадкуль свету, радасці, урэшце гэткае няшчасце як для маткі і жонкі, і... і наканец бог адабраў розум... За што? За якія грахі? Страшна...

Доктар. За што? Ды я і не дапускаю тут гэткага пытання. Няможна тут пытацца,— за што. Нізавошта! Законы матэрыі ці тое, што вы гукаеце богам, ідуць сваім парадкам, адно выходзіць з другога і родзіць трэцяе, і толькі. У іх няма мук, дабра ці зла — гэта ёсць толькі ў людзей. А ўжо віна людская, чаму не содзяць у турмы п'яніц, чаму падзяліліся на паноў і смердаў, чаму не атручаюць безнадзейна хворых, а давяць лепшых і здаравейшых, чаму гадуюць у дзяцей гэткі светапагляд, што тыя, вырасшы, робяць самагубства...

Беларускі аўтар. Ах, не, доктар... Нашто ж тыя законы вашы далі чалавеку разуменне сваёй слепаты... А што вы думаеце? Мажа, гэта разуменне і патварыла бяды з Антонам, мужам Домны, і яе пакалечыла назаўсёды... А?

Доктар. Я вас не разумею. Я прызнаю фізіялогію

толькі. Дрэнна мне — значыцца, арганізм мой папсаваўся, нуда ў мяне — значыцца, жывот мой не варыць добра, і ў целе ад таго нешта ну як бы засурылася, гэта адбіваецца на нервах, і ўсё... Душа? Я не разумею... Ёсць мозг... А так, па-вашаму, праўда: калі ёсць нейкі дух, і ён несмяротны, ён не павінен псавацца, а чаго ж ён папсаваўся ў Домны? Дзеля яе няма ўжо свету, бо дух яе папсаваўся, і я, як доктар, кажу — папсаваўся назаўсёды, яна не паправіцца; каб пазваляў закон, я атруціў бы яе...

Беларускі аўтар. А Антон? Няўжо ж мукі яго, самагубства яго — не драма чалавецкага духу, а ненармальны выпадак, бо целу было дрэнна? А мукі сытых?

Доктар. І сыты хварэе, бо арганізм папсаваўся... Ніякай вышэйшай маркоты сусветнай няма!

Беларускі аўтар. Значыць — усё роўна... Значыць — рай на зямлі, калі знойдуць райскія законы жыцця целу... і зробяць мажлівым гэта жыццё на зямлі... Рай, калі ўсе свіннямі сытымі на зямлі будуць?..

Доктар. Усё роўна, але жыццё розуму, не душы; не, жыццё розуму будзе датуль, дакуль жыццё цела, і яно патрэбна для цела...

Беларускі аўтар. Лепш памерці, чымся жыць «вумнай» жывёлінай.

Доктар. Лепей быць здаровым чалавекам, чымся нейкай пакалечанай падобай здаровага чалавека...

Беларускі аўтар *(думае)*. І, і, мілы, любы доктар, жыць?

Доктар. Жыць... А што напалавіну памерла, няхай саўсім памрэ... Толькі, не, гэта я пагарачыўся — і тое, што напалавіну да смерці дайшло... мае жыць, бо хто ведае... будзе шчэ здарова... пачане жыць...

Беларускі аўтар. Жыць яно мае, бо, можа, яно толькі здавалася такім... такім нежыццёвым... *(Павесялелі.)*

## XV

— Як выйду за гай, як зірну ў свой край, затужуся я, зажуруся я...— пела мне дзядзіна мая, маленькаму.
Пела тужліва, але з надзеяй і верай, і слухаў бы яе, слухаў... Мне было добра-добра каля дзядзінкі Хрысцёны...

* * *

Гады мае, гады! На якім каню дагнаць вас у полі шырокім, за дуброваю зялёнай?..

* * *

Песні мае, песні душы маёй, песні без надзеі, без веры...
Мінулася!

Сцюдзёна мне было, жуда мяне жудзіла... там... у жыцці... Бо я забыўся быў, як пела сляпенькая дзядзіна мая...
І вот — жыць!

Схадзіў я на паклон крыжу твайму пахіламу, Антоне, пасядзеў пад бярозкаю шумна-ціхаю, падзівіўся на край родны беларускі і
— Жыць!

Вечны спакой табе, Антоне, і табе, Іванька!

Я цвёрда стаю... Расце нешта непамернае ва мне... Павадыры! Дзе вы? Браты, сястрычкі, ідзіце за мною. Дзядзінка! Выстагнаўся твой пляменнік.
— Жыць!

◇ ◇ ◇

# ГАПОН І ЛЮБАЧКА

**(Сцэнкі з натуры)**

Обачиване речей жалосных гвалтом
слова до уст гонит...

В. Цяпінскі

## I

Восень. Пара перад школьнымі заняткамі.
Да папа, айца Малахія, прыйшоў з візітам новы настаўнік тутэйшае царкоўнапрыходскае школы Гапон Гапонавіч N. Айцец Малахі — поп яшчэ малады, але сухі, з вялізнаю чорнаю барадзішчаю і з маленькімі, глыбока запалымі і пранізлівымі, як свярдзёлкі, вочкамі.
Новы настаўнік — малады чалавек у прыстойным сінім гарнітуры, рыжаваты бландзін, з троху крываватым носам. Глядзіць ён проста і ласкава, трымаецца сціпла, але паважна і дастойна.
Яны п'юць гарбатку і гамоняць.

Настаўнік *(асцярожна мяшае лыжачкаю ў шклянцы)*. Мне ўсё тут вельмі спадабалася, айцец Малахі. Усё спадабалася: і школа, і людзі, і мясцовасць. У вас тут такое добрае возера, а я вельмі люблю купацца. Прыйдзе лета, буду купацца. Але, вядома, як чалавек я новы, адзінокі, дык часам і сумна робіцца, пакуль асвойчуся. Такая ўжо наша настаўніцкая доля.

Поп. Нічога, нічога, Гапон Гапонавіч, прывыкнеце і ў нашай глушы. *(Падстаўляе талерку з пампушкамі.)* Пампушачак, калі ласка... Сама матушка пякла. І ў нас ёсць свае рэчы, вартыя ўвагі. Вось царква ў нас дужа старая. Кажуць, што ёй гадоў трыста. На жаль, я не паспеў яшчэ разабраць увесь царкоўны архіў. Заходзьце да нас часцей, і архіў спарадчыць мне дапаможаце. Я ж думаю, вам цікава, Гапон Гапонавіч?

Настаўнік *(каштуючы пампушку)*. Якія слаўныя пампушачкі... О, вельмі прыемна і цікава, айцец Малахі. Шчыра вам дзякую за ўсё. Выберу часінку і зайду, з вялікаю прыемнасцю зайду, айцец Малахі.

Поп *(наліваючы сабе яшчэ шклянку і паглядаючы, ці дапівае настаўнік)*. Піце ж, піце, калі ласка... Самавар вялікі... І што там дзякую ды дзякую і якую там часінку выбіраць. Часцей заходзьце, без усякіх цырымоній, і ўсё тут... Заўсёды каго-небудзь знойдзеце: не мяне — дык ма-

тушку, не матушку — дык мяне. І матушцы маёй весялей будзе, як з інтэлігентным чалавекам можна будзе пагаманіць, пасядзець, гарбаткі напіцца. У нас і Любоў Іванаўна часта бывае, і з другіх школ настаўніцы прыязджаюць. Не будзе вам нудна, Гапон Гапонавіч. *(Налівае і яму яшчэ адну шклянку.)*

Настаўнік *(асцярожна прымаючы шклянку)*. Яшчэ раз вельмі дзякую вам, айцец Малахі. Не магу сказаць, каб мне было ўжо так дужа нудна: чалавеку інтэлігентнаму і сорамна нудзіцца, калі ён мае сваё разумовае жыццё. Школьную працу я люблю, сілы ў сабе чую запас вялікі, хачу папрацаваць...

Поп. Так, так, Гапон Гапонавіч... Сыпце ж болей цукру... Працуйце, працуйце, трэба нам працаваць. Край тут глухі, народ цёмны, бедны, інтэлігенцыі мала. Я, псаломшчык, манапольшчык ды настаўнікі — вось і ўся інтэлігенцыя. Але якія, скажам, інтэлігенты з нашага псаломшчыка ды манапольшчыка, хоць яны і вельмі сімпатычныя людзі. У свяшчэнніку ды ў настаўніках уся моц, Гапон Гапонавіч. На жаль, настаўніцтва наша жыве хто як, кожны забіўшыся ў сваю шчылінку. А ваш папярэднік, мушу гэта зазначыць, і ў царкву не вельмі любіў хадзіць, хорам не ўмеў кіраваць, добра — Любоў Іванаўна выручыла, паставіла мне хор на ногі. Дык вось і прашу, Гапон Гапонавіч, заходзьце, бывайце, не цурайцеся. Пастараемся дружна жыць і дружна працаваць.

Настаўнік. З такімі людзьмі, як вы, айцец Малахі, спадзяюся і з хмараў сонца. Любоў Іванаўна таксама абышлася са мною вельмі ласкава. Матушку я меў гонар бачыць надоечы ў царкве...

Поп. Чаму ж вы не намаслілі сабе булачку масельцам? Калі ласка... Матушка ў мяне маладзенькая, вясёлая, кампанію любіць. Шкада, што першы раз вы прыйшлі да нас, а яе і ўдому якраз няма — пайшла да Любові Іванаўны. Сяруюць яны. Ну, што ж, Любоў Іванаўна трошку легкадумная, з няроўным характарам, але чалавек яна добры і кампанейскі. І вам, кажаце, спадабалася, Гапон Гапонавіч? Я вельмі гэтаму рад...

Настаўнік *(каштуючы булачку з маслам)*. Ах, якое слаўнае масла... Так, Любоў Іванаўна вельмі добрая, айцец Малахі. Калі трошкі нервовая, што ж, ці гэта не бывае ў наш век пары і электрычнасці.

Поп. У яе такі вялікі, чысты лоб. У дадзеным вы-

надку такі лоб, можа, не сведчыць аб выдатным розуме, але ён паказвае на чыстату і ўвазвышанасць натуры. *(Падсоўвае талерку з яблыкамі.)* Можа, яблычкаў? Салодзенькія.

Настаўнік *(бярэ з краю яблычак і каштуе).* Ах, якія ў вас салодкія яблычкі! Проста, як цукер... Так, натура ў Любові Іванаўны, здаецца, даволі ўвазвышаная. Любоў Іванаўна ўмее зразумець чалавека і абысціся з ім.

Поп. Праўда? Ну вось, я вельмі рад, што вы ўмееце цаніць людзей, Гапон Гапонавіч. *(Падсоўвае куфлік з мёдам.)* Можа, мядку?

Настаўнік *(каштуе мёду).* Які мёд! Ах, які мёд! Мусіць, рамчаковы?

Поп. Не, з калоды. Не люблю я поркацца ў гэтых рамчаках. Шмат клопату. Але адзін завёў на спробу. Можа, яшчэ гарбаткі? Пасля мядку, а?

Настаўнік. Не, ужо дзякую, айцец Малахі. Вельмі дзякую за ўсё. Ісці мне ўжо пара. І так, першы раз, а колькі адабраў у вас часу... Выбачайце, айцец Малахі. Я чалавек просты...

Поп. Ну, што вы, што вы, Гапон Гапонавіч! І я троху ўмею пазнаваць людзей. *(Таксама ўстае.)*

Настаўнік. Прашу перадаць маё шчырае вітанне матушцы. Можа, і мне калі зробіце гонар, айцец Малахі, даведаецеся хоць на хвілінкі мае келлі. *(Глядзіць на папа трошку па-сабаччу.)*

Поп *(вельмі ласкавы і нават усміхнуўся).* Добра, добра, Гапон Гапонавіч. Будзем суседзямі. Спадабаліся вы мне...

Настаўнік *(падстаўляе рукі жменькаю і схіляе галаву).* Благаславіце, айцец Малахі!

Поп *(матае над ім рукою).* Бывайце здаровы, Гапон Гапонавіч. Як я рад, што бог паслаў нам такога добрага настаўніка...

## II

Самы нудны зімовы вечар.

Школа. Гапонава кватэра. За сталом, на крэсле, сядзіць Любоў Іванаўна, або Любачка, або проста Любка. Яна невялічкая, але грубенькая, кругленькая, шыя такая тоўстая, гладкая. Яна бландзінка, троху вірлавокая, але вочы блакітныя і часам нават мілыя. Толькі лоб дужа вялікі, шырокі і пакаты. Яна яго троху закрывае начасанымі кудзеркамі. Умее картавіць, зусім, як дзіця, і часам

гэта выходзіць у яе вельмі міла. Сёння яна прыбралася ў ружовую блузку з брындачкамі і голымі рукамі.

Сядзіць яна, выставіўшы ножкі, прынесла гітару, трымае на каленях і брынкае жалосныя акорды.

Перад ёю пахаджае Гапон, сцяўшы папяросачку ў зубах. Курыць ён мала, болей для фасону і ад усякіх непрыемнасцей.

Яна брынкае, а ён ходзіць. Ён чалавек цярплівы і мог бы так хадзіць дужа доўга, але ж Любачка доўга не ўцерпіць, і баталія ў іх пачынаецца.

Любка *(уваазводзіць на яго з-пад нізу вочы і так, не ўзнімаючы галавы вышэй, пазірае і шэпча)*. Бусел паджары! Кот абадраны! *(Потым пытаецца вельмі голасна і з вялікім драматызмам.)* Ну, што яшчэ ў нас сёння будзе па праграме?

Гапон. Што яшчэ? Яшчэ я буду казаць вам з лагічнай цвёрдасцю, але супакойным і несварлівым голасам, што...

Любка *(перабівае)*. Каб падмасліць? З вас добры шмаравоз.

Гапон. Я не шмаравоз, і гэта не довад. Я чалавек як чалавек. А вось вы хто? Падумайце вы пра сябе.

Любка. Гм! Дыякан мяне пад бок, а я яго па спіне...

Гапон. Або, прыкладам, вашы гэтыя прыказкі... Ну, што вы гэтым хочаце сказаць?

Любка. Дыякан мяне пад бок, а я яго па спіне! І-га-га! *(Смяецца і рагоча, потым неспадзявана рве струны з усяе сілы.)*

Гапон *(спыняецца, становіцца перад ёю, складае рукі на грудзях і пазірае)*. Ну, вось... Заўсёды вы так: зарагочаце, па струнах трах. Пыл і дым. З непрывычкі, бывала, ажно страх мяне браў. Я думаў часам, што вы ненармальная нейкая. Але цяпер бачу вас навылёт. І вось пазіраю на вас зусім спакойна і нават з жалем.

Любка. Напаляон! Сабацы пад хвост.

Гапон. Навошта вы так брыдка гаворыце? Ці думаеце вы, што вы гаворыце?

Любка. А самі вы як гаворыце? Вы ніколі не скажаце: дерефня, бо ў вас заўсёды выйдзе: дзя-рэў-ня... Самі вы дзярэўня! Мужык мужыком век-вяком...

Гапон. Ах, вялікае панства: дзячышка... Але дайце мне скончыць маю думку, Любоў Іванаўна...

Любка. Каму Любоў Іванаўна, а каму Любачка.

Гапон. Гэта цяпер страціла сваё значэнне, пачакайце... А то вы балбочаце, абы вам балбатаць. Вы ўсё то

смяяцёся, то плачаце, а з маёю натураю жыць з такою жонкаю было б немагчыма. І, потым, трэба ўзяць тое пад увагу, што чалавек я здольны, вучыўся добра і цяпер яшчэ хачу паступіць у настаўніцкі інстытут, хоць без пратэкцыі нашаму брату, чалавеку з народа, вядома, цяжка. А вы? Якая вы мне пара? Вучыліся вы дужа дрэнна, хоць вы і дзякава дачка. Ледзьве скончылі двухкласную школу, выплакваючы, як кажуць вашы былыя аднакласніцы, пераходы з класа ў клас. Цэлых шэсць год былі вы настаўніцаю ў школцы граматы, экзаменаў на настаўніцу царкоўнапрыходскае школы так і не здалі, і сюды вас назначылі толькі за тое, што вы дзячышка, а не мужыцкая дачка... Чым жа тут дужа хваліцца?

Любка. Пане ксёндз, канчай сваё казанне, а то ўсе мухі здохнуць. *(Картавіць і фігуруецца.)* У мяне першы альт, мецца-сапрана, і я не дазволю сабою манкіраваць...

Гапон. Або гэтае ваша вечнае «манкіраваць»... Ну, да чаго, да чаго яно тут, скажэце, нарэшце? Вы нават не разумееце ўласцівага значэння слоў, якія ўжываеце без усякае патрэбы.

Любка. Вы хочаце сёння канчаткова ўзяць мяне на цыліндар?

Гапон. На цугундар, а не на цыліндар. Ату! Як вам не сорамна: вы кампраметуеце настаўніцкую карпарацыю сваім няведаннем самых звычайных культурных слоў.

Любка *(нічога не адказвае. Папраўляе валасы, закладвае нага за нагу, утаропліваe ў яго вочы, іграе і потым пяе, окаючы, як усе малапісьменныя беларусы, калі хочуць, каб дужа добра выходзіла па-расійску).*

Окрасілся месяц богранцом...

Гапон *(ходзіць моўчкі, потым іранічна бурчыць).* Так... Окрасілся... богранцом...

Любка *(кідае гэтую песню і раптам робіцца сумная. Апушчае вочы, мяняе тон і са слязьмі ў голасе, стогнучы, пяе).*

Ты ўспомніш, ізменшчык,
Когда жэ могла довірацца цібе!..

*(Схіляецца галавою на калені, на гітару і плача.)*

Гапон *(гаворыць нібы няўважна, але ўсё ж з мімавольнаю прыкрасцю).* Не ізменшчык, а ізменнік правільна па-літаратурнаму... І дазвольце і мне сказаць адну прыказку: Масква слязам не верыць...

Любка *(пакідае плакаць гэтаксама раптам, як і па-*

*чала).* А вы думаеце, я за вамі плачу? Той сапраўды кахаў мяне, а не на словах толькі, як вы. Ат, усе вы такія: кахаўся-кахаўся, а цяпер звянчаўся з другою... *(Задумваецца і развважае зусім спакойна.)* Ну, добра ж яму: узяў сабе нейкую даўганосую чаплю. А такая ж неахайніца, што я ў свеце такіх не бачыла.

Г а п о н *(усміхаецца і двухсэнсова заўважае).* Не люблю і я неахайных жанчын... Усадзіў бы яе, такую, галавою ў цэбар ды цёр бы яе, шараваў бы яе...

Л ю б к а. Вы гэта пра каго?

Г а п о н. Так, наогул, пра неахайных жанчын.

Л ю б к а. Але ж хоць сама яна даўганосая, а дзяўчынка ў іх якая слаўненькая радзілася! Носічак просценькі-просценькі... Што вы мацаеце за свой крывы нос?

Г а п о н. Па-першае, у мяне нос не крывы, а па-другое — гэта вам здалося, што я за яго мацаю... Акхі! Акхі! *(Кашляе, каб схаваць прыкрасць.)* І мне, ведаеце, сорамна, што вы такая вульгарная.

Л ю б к а. Сорамна вам? У вас яшчэ ёсць сорам? Кашляеце, як хворая авечка. Ха-ха-ха!.. *(Рагоча, каб яшчэ болей вывесці яго з цярплівасці.)*

Г а п о н. А вы смяяцёся, як сабака вяхае. І ведайце, Любоў Іванаўна, што я заўсёды скажу вам на вашу грубасць яшчэ большую грубасць. Дык не ўздумайце яшчэ калі і пры людзёх казаць мне так у вочы. Чуеце?

Л ю б к а. Чую, ну вас з вашымі навучаннямі. А што мне вы. Ого, колькі ў мяне было і ёсць кавалераў. Мне ж яшчэ 19 год. Я нават сажаляваю, што звязалася з вамі.

Г а п о н. Тым лепей развязацца. Але вам, паводле метрыкі, як я дакладна ведаю, 26 год, і правільна па-літаратурнаму сажалею, не сажаляваю.

Л ю б к а. Што вы мяне вучыце? Я вам не школьніца і не дазволю сабою манкіраваць. Вы думаеце, я не ведаю, што азначае на цугундар? Я ўспомніла: нямецкае цуг — ланцуг, а гундар — сабака,— на сабачы ланцуг. А вы мяне ўсё вучыце. Я ўсё наўмысля перакручваю і наскрозь вас бачу.

Г а п о н. Гэта вам, пэўна, матушка вытлумачыла.

Л ю б к а. А вы ўжо і да яе ліпнеце? Я вас наскрозь бачу. Ды рукі кароткі. Не па губе сала. Ай, якая ў яе каса! Вы падумайце: замужка, а носіць касу, як дзяўчына. Гэта яна на злосць свайму Малаху, я ўжо ведаю. Не думайце, не для вас яна косачку выпушчае...

Г а п о н. Я бачу, што сёння мы ні да чога не дагаво-

рымся... Я пагавару з вамі другім разам... *(Адыходзіць да печкі, прыхінаецца там і стаіць задуманы сам сабе.)*

Любка. Хочаш, каб ужо ішла? Праганяеш? І гарбаткаю не напоіш, Гапошка?

Гапон. Болей я вам не Гапошка, а Гапон Гапонавіч. Прашу вас не называць мяне так вульгарна...

Любка. Наставіць табе самаварчык, Гапонька? *(Усхопліваецца, зграбае яго за бруха, бо шмат ніжэйшая, чым ён, задзірае галаву і цалуе на ўсю сілу; у перапынках шэпча: «Любы мой Гапошачка, пацалуй мяне крышачку...»)*

Гапон *(цмокнуўшы яе ў вока, патрошку вызваляецца)*. Досыць гэтага, Любоў. Ты сама добра разумееш, што ўсё гэта было памылкаю з нашага боку, што мы не пара і я не магу жаніцца з табою.

Любка *(сядае, робіць колькі мінорных пераборaў на гітары, потым, незвычайна ўзвесяліўшыся, моцна брынкае па гітары і пяе)*.

А божа ж мой, божа мой!
Чаго я гарую?
Запрог сучку ў сані
І за хвост кірую...

## III

Напрадвесні. Ціхі вечар.
Любачкін пакой. На сценцы — адкрытачкі з рознымі сентыментальнымі малюнкамі, японскія вееры рознага колеру, размешчаныя вельмі маляўніча. У кутку мяккая пасцеля, заўсёды трошку скамечаная, але затое прытульненькая. У другім кутку — круглы стол, пад самавязным каляровым абрусом, і за ім вялікая канапа, на жаль, старэнькая, калекая і трошку зашмальцаваная.
За сталом на канапе сядзіць пападдзя, або матушка,— маладзенькая, ружовенькая, кругланосенькая дамачка.
Побач з ёю, прыхінуўшыся да канапавае спінкі і выставіўшы ножкі, сядзіць з гітараю Любачка.
Перад імі пахаджае Гапон і курыць.

Матушка. Ах, як я люблю Любачкіны рамансы! Любачка іграе і пяе іх з такою чуласцю... Праўда, Гапон Гапонавіч?

Гапон *(невыразна мармоча)*. М-м... так...

Матушка *(падсеўшы да Любачкі, колькі разоў яе цмокае)*. Любачка, мілая, заспявай: «Хасбулат удалой...»

Любка *(уздыхае, брынкае і з незвычайнаю чуласцю, задраўшы ўгору галаву, пяе)*.

Хасбулат удалой,
Бедна сакля твоя,
Золотою казной
Награджу я цібя...

*(Гарачыя слёзы душаць ёй горла, і яна роніць галаву матушцы на плячо.)*

Матушка. Ізноў вы, Гапон Гапонавіч, сваімі рэзонамі расстроілі мне Любачку... *(Гладзіць яе па валасах.)*

Гапон. У Любові Іванаўны механізм на слёзы без заводу... *(Асцярожна кладзе недакурак у попелку, але зараз дастае партабак, бярэ сабе папяроску, потым, падумаўшы, падстаўляе матушцы.)* Можа, вы?.. Ад непрыемнасці...

Матушка. Не, дзякую, Гапон Гапонавіч; дала айцу Малаху слова, што не буду болей ніколі курыць.

Гапон *(падстаўляе Любцы, крыва ўсміхаецца)*. Дык, можа, вы?

Любка *(хапае папяроску, разгоніста чыркае сернікам і прыпальвае, потым ад свае папяроскі дае прыпаліць яму)*. Эх! *(Уздыхае.)* Век я не курыла, а мусіла цалавацца — божачка ж ты мой! — з такім смярдзючым курцом, што мне ажно ўсе духі і душочкі сцінала ў грудзёх... А цяпер і я закурыла! Эх! *(Раптам запярхала ад дыму.)* Цьфу, якая брыдота! *(Кідае папяроску ў кут да печы.)* Эх! *(Крычыць вясёла.)* Давайце гульнём у флірт!

Матушка. А давайце, праўда! Я так люблю флірт... *(Паглядае на Гапона і гаворыць трошку далікатней.)* А вы, Гапон Гапонавіч?

Гапон. У мілай кампаніі — ахвотна...

Любка *(дастае з шуфляды карткі, і ўсе сядаюць)*. Цікава, як ён будзе гуляць...

Гапон. Як людзі да нас, так і мы да людзей... *(Доўга выбірае, потым усміхаецца і падае ёй картку, а яна яму.)*

Любка *(зірнула ў картку, ёй набеглі на вочы слёзы, яна змахнула іх і кажа з праўдзіваю горкасцю ў голасе)*. Ён даў мне картку: «У цябе вочы на мокрым месцы».

Гапон. Ну дык што? Вы далі мне: «Прыгож, як свіння ў дождж», і то я не плачу...

Матушка *(доўга выбірала і ніяк не магла сабе выбраць)*. Годзе сварыцца... Вось я дам вам абаім па добрай карталюшцы... *(Шукае.)*

Гапон *(да матушкі)*. І я вам дам... *(Сказаў і асцярожна, міма Любкі, падае ёю сваю картку.*

Любка *(спрытна выхапіла ў яго з рук картку і пра-*

*чытала)*. «Сохну па табе, сонейка маё». Нястыднік! Сарамотнік! *(Да матушкі.)* Я даўно казала, што ён да вас ліпне! *(Кінула яму ў вочы картку і сядзіць адвярнуўшыся.)*

М а т у ш к а *(пачырванела, як бурак, і мармыча.)* Любачка, гэта ж жарты...

Л ю б к а *(крутнулася)*. Ён і кахаецца жартамі! *(Сказала зусім паважна, але зараз бесклапотна махае галавою.)* Мне ўсё роўна, я яго даўно ўжо не кахаю!

Г а п о н. Дазвольце не паверыць, на маё няшчасце... *(Кажа, быццам жартуючы, але глядзіць на яе з праўдзівою млосцю.)*

Л ю б к а *(раптам.)* Досыць флірту! Давайце будзем варажыць. *(Дастае аракул, скруціла з прамакальнае паперы галачку і кідае.)* Каму гэты раз?

М а т у ш к а. Гапону Гапонавічу!

Л ю б к а. Зараз! Гатова! *(Крыкнула і чытае.)* «Яна цябе любіць, як сабака палку...» *(Прачытаўшы, з вялікаю радасцю рагоча.)*

М а т у ш к а *(каб зменшыць нязручнасць ад яе рогату)*. Любка, цяпер мне. Але дай, Любачка, я сама кіну. *(Кідае.)*

Л ю б к а. Гатова! Нумар 86... Вось ён нумар 86... «Лічы ў роце зубы». Што гэта значыць?

М а т у ш к а. Фі, глупы аракул! Я не хачу болей гуляць... *(Ізноў пачырванела.)*

Л ю б к а. А я... мне ж трэба кінуць... *(Кінула.)* Нумар 101... Дзе ж гэта ён? *(Трывожыцца.)* А, пад фартунаю...

Г а п о н. Ды вось ён, чытайце. *(Патыкаў пальцам.)* Цікава, што там пад гэтаю фартунаю... *(Смяецца.)*

Л ю б к а *(чытае)*. «Доля твая памерці: худая трава з поля вон...» Ах! *(Прачытала, ахнула, схапілася за сэрца і праўдзіва цяжка засумавала. Усім вельмі непрыемна... Потым яна моўчкі выходзіць.)*

М а т у ш к а. Куды ты, Любачка? Самавар глядзець?

Л ю б к а *(з дзвярэй, не азірнуўшыся)*. Маю справу... Пайду хлеба пазычаць...

* * *

М а т у ш к а *(ціхім голасам)*. Бедная Любачка! Яна вас яшчэ кахае, а вы... ой, нядобры, нядобры!... *(Пагражаецца на яго пальчыкам.)* І са мною б тое самае было, каб слухаць ды патураць вашым выдумляннням... *(Наводзіць гутарку і ўскінула на яго свае вішнёвыя вочкі на пухленькім і румяным твары.)*

Г а п о н *(падсядае няўпрыцям крышачку бліжэй).* Я сам не разумею, як можна было яе кахаць. Манюка яна, самі ведаеце, страшэнная, а піша з такімі памылкамі, што ажно страх, хоць настаўніцаю ўжо, дзякуй богу, дзевяты год.

М а т у ш к а. Ну, гэта глупства. За гэта не варта абмаўляць добрых знаёмых і ў іх жа хаце! *(Ізноў міла пагражаецца на яго пальчыкам.)* Мне толькі адно ў Любаччы не зусім падабаецца... Зарабляе ж яна мала, ніколі ў яе не хапае да выплаты пенсіі, пазычае ў мяне, потым едзе да інспектара і закатвае там істэрыкі, калі ён адмовіцца даць наперад... І так амаль не кожны месяц. А тым часам стараецца накупіць сабе як можна болей касцюмаў. І касцюмы ж, даруй божа! Матэр'ял — як лінючая анучка, а пашыта: спадніца са зборкамі, а блузка модная... чорт ведае што! Ажно шкода на яе глядзець, дальбог! *(Кажучы так, узрушаная матушка не заўважае і не адбірае сваю ручку з яго рукі.)*

Г а п о н. Дык вось бачыце... Я ў душы рамантык, я мару аб каханні ўвазвышаным і да гэткіх, як яна, адношуся з пагардаю за яе мяшчанства і неразвітасць.

М а т у ш к а. Аднака ж вы кахаліся. *(Гаворыць яшчэ цішэй і прыхінаецца па-сяброўску да яго сваім мяккім, цёплым плячом.)* Скажыце мне шчыранькую праўду... *(Міла просіць яго і паказвае роўныя белыя зубкі, так што робяцца ямачкі на шчочках.)* Скажыце, што ў вас было?

Г а п о н. Дадушы, нічога асаблівага...

М а т у ш к а. Не паверу! *(Жартліва кажа і страляе на яго вішнёвымі вочкамі з маслам.)*

Г а п о н. Ну, хадзіў да яе... найбольш пасля заняткаў, як сцямнее. *(Пачынае прызнавацца жартуючы.)* А яна ўвечары, як сцямнее, досыць прыгожая... Вочы бараннія, альт металічны і добры, хоць і не выраблены...

М а т у ш к а. Мне толькі не падабаецца, што яна трошку неахайная... *(Абводзячы пакой праваю, не занятаю ручкаю.)* Паналяпіла на сценку адкрытак па тры капейкі, панавесіла самаробных веераў — і думае, што вельмі хораша... А пасцеля ніколі не бывае заслана добра, наўлечкі заўсёды брудныя, бо рэдка мяняе, ну і наогул... Вось жа не паклала папяроску ў попелку, як вы, мужчына, а па падлогу кідзёх!

Г а п о н *(саромліва).* Мне здаецца, што ад яе і потам заўсёды трошку аддае...

М а т у ш к а. Кінем гэта... Скажыце, ну, а далей? Што

ў вас далей было? Ну? *(З вялікай цікавасцю, але быццам так сабе, дзеля жартлівага настрою, пытаецца і цярэбіць яго пальцы ў сваёй руцэ, а прысунулася яшчэ трошку бліжэй.)*

Гапон. Дадушы, болей нічога асаблівага... Ну, сядзелі з ёю ўпоцемку моўчкі... Бо аб чым жа мне з ёю, такою, гаманіць? Ну, яна брынкала часам на гітары...

Матушка. Ну, часам цалаваліся, пэўна... *(Млеючы ад цікавасці, падказвае яму, а ўзяла яго руку сваімі абедзвюма рукамі, аднэю трымае далонь у далонь, а другою згары негенька-негенька гладзіць, але ўсё па-сяброўску.)*

Гапон. Калі што і было, дык толькі дзеля гадзіся, каб не пакрыўдзіць яе. *(Кажа і вольнаю рукою пачынае гладзіць яе руку.)*

Матушка. Вы з усімі так... каб толькі не пакрыўдзіць?

Гапон. Толькі не з вамі... *(Мнагазначна і мімаволі хрыпата адказвае ёй на запытанне, смялей бярэ яе за рукі і трошку цягне да сябе, каб лепей трымаць іх...)*

* * *

Тым часам Любачка паспела збегаць да гаспадыні і пазычыць хлеба, скінула чаравікі і надзела валенцы.
Мякка, хоць і з самаварам у руках, падыходзіць яна бліжэй пад дзверы, адчыняе іх ціханька аднэю нагою — і бачыць, што госці яе сядзяць так цесненька... Падумала, што цалуюцца.
Гапон зараз узнімаецца і стаіць ля столу, адвярнуўшыся. Матушка ўтупілася ў карткі...

Любка *(моцна стукае гарачы, з параю, самавар на стол)*. Занудзіліся тут без мяне? А я цярпець не магу настаўнікаў з мужыкоў. Хам'ё! Шкода, што мужыкоў аслабанілі ад прыгону... Іх трэба яшчэ розгамі пароць... Цяпер нам, арыстакратам, за імі жыцця не стала...

Гапон. «Арыстакратам»? Як вы разумееце гэтае слова, Любоў Іванаўна? *(Стараецца, але не можа надаць голасу спакойны тон.)*

Любачка. Як разумею, так і разумею... Вучыце няўчоных... *(Перастаўляе самавар і яшчэ раз грукае, аж попел сыплецца.)*

Гапон. А ўсё ж, пры чым тут самавар? Ён жа не каменны... як сказаў Аляксандр Македонскі. *(Аправіўся і гаворыць насмешліва, але з прыкрасцю.)*

Любка. Пацалуйце яго, калі вам так хочацца, а я пагляджу на гэта з поўным патосам!

Г а п о н. Пры чым тут патос? *(Буркнуў, ужо мімаволі злуючыся.)*

Л ю б к а. Пры тым, што мне выключна няма цікавасці, каго вы будзеце цалаваць. Можа, не разумееце, што такое патос? А яшчэ з семінарскай адукацыяй настаўнік...

Г а п о н. Не ведаю, прычым тут «выключна»? Можа, Любоў Іванаўна хацела сказаць «уключна»... І калі самавар, дык — што, а не каго цалаваць... І потым, я не б'ю сваіх вучняў лінейкаю па руках.

Л ю б к а. А я б'ю і нікога не баюся. А калі мяне пераводзілі сюды, дык усе дзеці ў школе плакалі па мне. Адна дзяўчына, Верачка яе звалі, казала мне, што лепей родную матку страціць, чым такую настаўніцу, як я.

М а т у ш к а *(каб як-небудзь залагодзіць справу)*. Так, гэта праўда... *(Мімаволі гаворыць ніякім голасам.)* Гэта праўда... Любачку дзеці дужа любяць...

Л ю б к а *(беручы з другога століка цукерніцу і шклянкі)*. А вы, матушка, піце ў накладку... Дзе ўжо маё не прападала... І не пасабляйце, як кашаль у хваробе... *(Шклянка бракае ў яе з рук на падлогу і, зазваніўшы, рассыпаецца.)*

Матушка *(спалохалася і не ведае, што рабіць)*. Фі, Любачка... Я не чакала...

Л ю б к а *(падбірае шкло, у злосці паварачваецца да Гапона)*. А вы, інтэлігентны малады чалавек, ужо дамоў сабраліся? Мусіць, вы не ў кожнай кумпаніі можаце абхадзіцца? Я нічога не маю, калі вы болей і не прыйдзеце да мяне...

Г а п о н. Вось дык так! *(Злосна ўсміхаецца і рыхтуецца ісці.)* Ну што ж... Я вельмі рад... Нарэшце...

Л ю б к а. А я дык яшчэ радзейшая! Досыць! Да ўсіх д'яблаў... *(Узнімаецца, кладзе пабітае шкло на стол, бярэ другую шклянку і таксама гракае на падлогу — не разабраць, няўмысля ці сумысля...)*

Г а п о н *(знямеў ад такога грубіянства. Цяжка дыхае і мармоча, цярэбячы шапку)*. Што ж... можна было чакаць...

М а т у ш к а *(усхапілася і кідаецца да Любачкі)*. Супакойцеся, Любачка! Прашу вас...

Л ю б к а *(ізноў сагнуўшыся збіраць)*. Піце вы, матушка, у накладку і не бярыцеся бараніць усякіх несусветных пройдаў...

М а т у ш к а. Гм! *(Гмыкае, чмыхае і таксама не ведае, што рабіць — то чырванее, то бялее.)*

Гапон *(напранены)*. Скончана! Беспаўротна!! *(Кланяецца ў матушкін бок і драматычна выходзіць.)*

Матушка. Сорам вам, Любоў Іванаўна, так распушчацца...

Любка *(стаіць перад ёю, як задзёрыстая курыца)*. Сорамна вам, матушка, цалавацца з ім за маімі плячмі... Што? І вам нясмачна?

Матушка. Хамства! Хамства! *(Крычыць страшэнна піскливым галаском, хапае сваё пальто-манто і выляцае.)*

Любка *(крычыць, як шалёная, наўздагон)*. Я твайго Малаха не чапала! Не чапала! *(Кідаецца на канапку, плача, рыдае... ажно струны на гітары жалосна адгукаюцца.)*

## IV

Прыйшла цёплая пара, і можна ўжо купацца. Возера, бераг, зеляніва. Ляжыць Гапонава адзенне, а ён купаецца, пырскае, пушчае бульбаткі, сам сабе рагоча і крычыць: «У здаровым целе — здаровы дух. Хух-хух-хух!»

Падыходзіць поп Малах — і з пугаю ў рукэ. Падышоў ціханька, сеў на беражку і глядзіць, як Гапон пялешчацца.

Гапон. А! Дзень добры, бацюшка! Лезце і вы купацца, вада ўжо цёплая, добра! У здаровым целе — здаровы дух... Хух-хух-хух...

Поп *(маўчыць, потым шэпча)*. Купайся, купайся, паскуднік... Я цябе зараз пакупаю...

Гапон *(сцяміў, што тут нешта нядобрае)*. Ці чуеце вы, айцец Малахі? Можа б, і вы пакупаліся? *(Акунуўся і шыбка паплыў на бераг.)*

Поп падыходзіць з пугаю, і толькі ён на бераг, секануў яго моўчкі ў вялікай злосці пугаю па голым целе.

Гапон. А-я-я!.. *(Заекатаў вельмі непрыгожа і кінуўся назад у ваду.)* Бацюшка, што вы за жарты са мною строіце? *(Пастаяў, падумаў і ўзноў, нясмела, падаецца бліжэй да берагу.)*

Поп злаўчыўся і сячэ, але міма.

Гапон *(спачатку прыкінуўся)*. Айцец Малахі! Няўжо вы верыце гэтай шалёнай? Яна і мяне цэлую зіму прамучыла, і матушку зняславіла, і вамназводзіла... Нашто вы ёй верыце? Тут нейкае непаразуменне... Я вам усё скажу, як што было... *(Гаворачы гэтак, ён патрошку, хітруючы, падбліжаецца да берагу, каб выскачыць.)*

Поп гудзіць яму пад самым носам пугаю, так што бедны Гапон мусіць ізноў скокнуць далей у ваду.

Гапон *(адышоўся ў глыбокае месца)*. Бацюшка, будзем гаварыць па-добраму... Я так паважаю матушку, што мне няма чаго й казаць вам аб гэтым... А што яны пасварыліся, што ж я вінават? І, нарэшце, я ўжо падаў аб пераводзе мяне ў другую школу, каб не быць разам з гэтай шалёнаю... Яна вам назводзіла, а вы ёй верыце і робіце скандал... Вам жа таксама будзе горш, калі выйдзе скандал... Бацюшка! Айцец Малахі! *(Рашуча ідзе на бераг.)* Пусціце мяне з вады!..

Поп малоціць пугаю, падкасаў полы і гоніцца сам у ваду па калена за Гапонам.

Гапон *(крычыць благім матам)*. Ратуйце! Ратуйце, гэта разбой!

Поп. Зараз паратуюць! *(Рагоча ад злосці і трасе барадзішчаю.)* Ужо бягуць... Будзьце сведкамі, добрыя людзі, як я яго пакупаў... *(Сыпле пугаю шыбка і часта, але той ізноў уцёк у ваду.)*

Бягуць дзяк, царкоўны стараста і вартаўнік.

Гапон. Ратуйце, браткі! Бацюшка наш ашалеў... Трымайце яго...

Поп *(спакойна абтрасае мокрыя полы)*. Ты наперад ашалееш, паскуднае стварэнне! Глядзеце, як я яго выкупаў. Хай жаліцца на мяне цяпер!

Дзяк *(іржэ тоненька, як маладое жарабя)*. Ігі-гі-гі! Во Іордані крешчахуся... Гі-гі-гі!

Стараста. Не хадзі, настаўнік, курэй красці!

Вартаўнік. Досыць, бацюшка! А то ж яны тут акалеюць у вадзе...

Поп. Хай акалее, дух з яго вон! *(Завярнуўся і пайшоў моўчкі, а дзяк і стараста за ім.)*

Вартаўнік *(згроб Гапонава адзенне і падносіць яму, калі той вылез)*. Ах, паніч, паніч! Як жа гэта вы так абмыліліся? Трэба ж было глядзець. Ведаеце, які ён злосны... Зараза, а не поп.

Гапон *(трасецца, не можа саўладаць з сабою)*. Ідзі ты разам з імі да ўсіх д'яблаў!..

Вартаўнік. А мне што?.. Я ж нічога... Вашы справы, хто ж вас разбярэ... А калі ён вас так паблаславіў, дык і мне вас шкода...

# МУТЭРКА

**(Абразок з натуры)**

Даніла Мутэрка — вучыцель, [...] сын мужыка, 28 год, рэпетытар у мясцечку.
Блюма Ліпская — заможная месцячковая домаўласніца, супольніца ляснога гандлю пад фірмай «Браты Ліпскія», удава, 35 гадоў, сытная, мяккацелая і змучаная.
Соня — яе дачка, гадоў 14—15, без пары развіўшыся, па матцы сытная і пухлая, даволі гожанькая, з даўгімі косамі.

Акт адбываецца ў 1919—1920 годзе, узімку, пад польскай акупацыяй, у мястэчку ў доме Ліпскай. Пакой Мутэркін.

## ЯВА ПЕРШАЯ

Сцэна пустая. Потым прыходзіць Мутэрка.

Мутэрка *(нядбайна кідае кажух і шапку, дастае партабак і круціць цыгарку)*. Пакуру хаця гэтае смярдзючае табакі. Яна гэтулькі ж падобна да Стамболі другога сорта, як маё цяперашняе жыццё да ранейшага. *(Чуцен стук у дзверы.)* Хто там?

Ліпская *(вясёла-звычайным і дужым голасам)*. Даніла Пахомавіч, да вас можна?

Мутэрка *(памаўчаўшы)*. Ка-алі ласка... *(Не павярнуўся і сядзіць.)*

Ліпская *(не прычыняючы дзвярэй, наўмысля голасна)*. Выбачайце, Даніла Пахомавіч, я толькі на мамэнцік. Я маю вам сказаць, што сёння лекцыю дасцё хіба ўвечары. Сонечка адпрасілася да адной сваёй таварышкі, у якой сястра прыехала із Вільні. *(Павярачваецца да дзвярэй і голасна пытаецца.)* Гапка, Гапка! Ты ўжо пайшла? Не пазніся ты, бо трэба зараз дровы насіць,— чуеш?

Мутэрка *(насмешліва, без далікатнасці)*. І навошта гэтыя фокусы, мадам Ліпская? Кажыце проста, што мы засталіся ўдвух і можам аб'ясніцца...

Л і п с к а я. Даня, любы! Ты яшчэ гневаешся?

М у т э р к а *(перабівае)* Кажыце проста, што вам карціць паразумецца. Але ведайце, мадам, што ніякая сварка так лёгка мною не забываецца. І я... я ня хочу, каб мне ўсё мястэчка вытыкала вочы, што я, быўшы загадчык дзвюхкласавае школы, якімсьці палюбоўнікам у месцячковай крамніцы!

Л і п с к а я *(з гонарам)*. Што? Вам вытыкаюць вочы за маё каханне? І вы не хочаце? А каб мне вытыкалі, дык няхай сабе, так? Хваліць бога, я не такая бедная, каб мястэчка вытыкала мне вочы за мае хатнія справы. Я не крамніца, гэта фальш... І я не такая бедная!

М у т э р к а *(як бы наўмысля зарагатаў)*. Знайшла чым наставіцца, ха-ха-ха! Правільна, Блюма, ты не такая бедная, каб свайму «ка-ха-нку» купляць такую смярдзючую табаку, як гэтая варшаўская дрэнь.

Л і п с к а я *(узрадавалася)*. Данічка! І ты за гэта мяне мучаеш? *(Падыходзіць бліжэй.)* Ну, як табе не страмна, Данічка? Ведаеш, каточак, што я для цябе нічога не шкадую, але дзе ж цяпер дастаці добрае табакі? *(Хоча прылашчыцца...)*

М у т э р к а *(сцюдзёна адхіляецца)*. Эх! Скарэй бы ўжо прыйшлі бальшавікі!

Л і п с к а я *(пужліва аглядаецца)*. Якая з іх радасць?

М у т э р к а. Ніхто, усё ж такі, не зрабіў столькі для школы, як яны. Адчыніў бы я сваю школу і развітаўся б з вамі,— так!

Л і п с к а я. Я не разумею: а чым вам блага ў мястэчку? Ці вы меней зарабляеце прыватнымі лекцыямі, ці што? Нават настаўнікі польскіх школ не зарабляюць дзве і тры тысячы царскіх грошы ў месяц, а вы зарабляеце. І што значыць настаўнік польскай школы перад добрым рэпетытарам у мястэчку,— фі!

М у т э р к а. Так, я магу мець дзве і тры тысячы ў месяц, але не маю, вось што.

Л і п с к а я. Уй, Данііл Пахомавіч, вы зусім не лічыце тое, што за лекцыі з Сонечкай вы маеце ад мяне цёплы пакой, святло і добрае сталаванне. Памяркуйце, калі ласка, ці тут меней, як тры тысячы на царскія рублі?

М у т э р к а. Рублі, але не пяцёхсоткі...

Л і п с к а я. Што там значыць, ну?

М у т э р к а. Адным словам, мадам Ліпская, «палюбоў-нік» вам каштуе надта дорага. Я дасканальна разумею вас і шчыра спачуваю вам. Ха-ха-ха!

Ліпская. Данічка, ну што за тон, якія словы, фі, як толькі не сорамна чалавеку. *(Моўчкі.)*

І я верыла, што ён мяне сапраўды любіць... уй, божа мой! *(Бядуе.)*

Мутэрка. Бачыце, мадам Ліпская... так складаецца дзеля таго, што тут ёсць не толькі адна гэтая высокая ідэя сапраўднага, як вы кажаце, кахання мужчыны з жанчынаю... *(Моўчкі.)*

Бачыце, мадам Ліпская... тут ёсць яшчэ адна высокая ідэя — грамадская павіннасць чалавека перад сваім краем і народам!

Ліпская. А вы, Данііл Пахомавіч, гаворыце часам такім кніжным штылем, што я нічога не разумею. Я ў гэтым невінавата! Я заўсёды, як быў жыў мой муж і выпісваў з Пецярбургу «Ніву», я заўсёды чытала ўсе літаратурныя дадаткі.

Мутэрка. Мала, мала для нашага часу,— хваліцца няма чым. Але я магу і прасцей сказаць. Відзіце, пані Ліпская... Сёння я сустрэўся з польскім школьным інспектарам. Ён і пытаецца ў мяне...

Ліпская. Пасуліў польскую школу, што?

Мутэрка. Каб ён спадзяваўся, што я не адмоўлюся, то пасуліў бы; пісаць па-польску я ўжо навучыўся... Але ён ведаеш што сказаў? Чорт яго дзяры! — ён сказаў, што «народ з такой ін-тэ-лі-ген-цыяй», як я, варты свае долі... Ах, хо-олера!

Ліпская. Я нічога не разумею...

Мутэрка. Не дзіва, бо ты нічога, апрача дадаткаў «Нівы», не чытала. Ён хацеў падкалоць мяне тым, што мы не маем школ.

Ліпская. Дык хай дазволіць адчыніць школу, Данічка.

Мутэрка. Якую?

Ліпская. Ну, тваю... для цябе.

Мутэрка. Дазваляе. Але польскую.

Ліпская. Толькі польскую?

Мутэрка. На скарбовы кошт — толькі польскую... а можа, згодзіўся б і на беларускую.

Ліпская. Ці гэта не тое самае, што для цябе патрэбна?

Мутэрка *(узварушона ходзіць па пакоі перад сядзячай Ліпскаю)*. Мне, мадам Ліпская, з такім трудам далася мая цяперашняя расейская мова, што псаваць яе, выбачайце, ніколі не згоджуся!

Л і п с к а я. А некаторыя ж вашы вучыцялі ўжо адчынілі школы і вучаць па-беларуску.

М у т э р к а. З аднаго боку, немаведама, як у іх пойдзе. З другога боку, сходзіць з галавы нікому забараніць не можна,— так! А калі чалавек хоча жрр-аць, ён будзе вам вучыць не толькі па-беларуску, а хоць бы па-кітайску!

Л і п с к а я. Ах, праўда, як падумаеш, да чаго мы дажыліся, уй, божа мой! Не спадзяваўся мой нябожчык муж, што я буду наймаць для Сонечкі прыватнаго вучыцеля ў мястэчку, бо ў Вільні гэтак дорага каштуе жыць... Бывала, аб такой пары мы ходзім сабе ў тэатры, на канцэрты, у цырк на барбу, адным словам — весялімся. У вялікім горадзе ўсё ёсць, і раней, калі быў жыў мой нябожчык муж, мы да ўсяго былі даступны. Кожнае лета мы жылі сабе на дачы ў Падброддзі. Ну, здаровы клімат, вясёлыя дачнікі, усяго ёсць даволі, што купіць, што есці,— а як дзешава! Ах, ну я так любіла гутацца ў гамаку, між двух сасновых дрэў, і чытаць літаратурныя дадаткі к журналу «Ніва» або якія добрыя раманы. Вы можаце падумаць, якое здаровае паветра, як многа сасновага духу. Часам іграе аркестр салдацкае музыкі, і душа так радуецца! Цяпер нічога такога няма, цяпер ёсць адны непрыемнасці. Ісак Саламонавіч сказаў мадам Мееравай, што лясны гандаль «Браты Ліпскія» можа збанкрутаваць і зачыніцца. Ён цяпер так сказаў, а раней, калі быў жыў мой нябожчык муж, ён так не сказаў бы. І чаму цяпер гэта не можа быць? Усё можа быць! І бальшавікі могуць яшчэ дваццаць разоў вярнуцца,— хто мне скажа, што яны не могуць вярнуцца? Ну, хто: можа, Ісак Саламонавіч будзе строіць жарты з такіх рэчаў? Цяпер мы ўсе занадта злыя, занадта нядобрыя, занадта маем згрызот. Што мы вінаваты? Мы павінны спачуваць адзін аднаму і дараваць за ўсякую злосць. І я не маю сэрца на Ісака Саламонавіча, хай кажа тое, што ёсць праўда *(нейкі час маўчыць, потым бярэ яго за руку)*. Даня! Мой любенькі! Адпусціся, не прымай жа так сабе да сэрца, ці ж ты не відзіш, як хачу я тваіх ласкаў, як люблю цябе я... *(Туліцца да яго.)*

М у т э р к а *(нейкі час углядаецца ў яе, потым, не схаваўшы агіды, адпіхаецца)*. Не спадзейся, Блюма! Далей так жыць я не магу: або ты прымаеш хрысціянства і мы звянчаемся, або я кідаю ўсё і выязджаю ў Саўдэпію!

Л і п с к а я *(ашаламёная, з плямамі на твары)*. Уй, што ты гаворыш? Ты ж ніколі так не казаў! Ці ты жартуеш, ці ты пужаеш? Навошта мяне мучаеш, Даня, га?

М у т э р к а *(узяўшы яе за руку).* Слухай, Блюма! Зразумей ты маю душу. Я валюся ніжэй а ніжэй і ўжо віджу пад нагамі немінушчае бяздонне, але я не згубіў яшчэ жывадаўчага жадання спыніцца, удзержыцца, схапіцца за сук жыцця, у якім ёсць такія-сякія ідэальчыкі. Слухай, слухай далей! Можа, я цябе і мучаю, але мае мукі яшчэ горшыя, яшчэ бальнейшыя. Бо я ўзгадаваны і навучоны з ідэаламі, на ідэалах і традыцыях. Праўда, мае бацькі — сяляне, мужыкі, сярод якіх пануе дзікунства, цемната і грубіянства, але ёсць у іх і свая маральная навука. Гэтая навука пусціла яшчэ ў маей дзяцінай душы глыбокае карэнне. І вось цяпер гэтае карэнне знаходзіцца ў вялікай супярэчнасці з тымі адносінамі, у якіх я знайшоўся з табою, як мужчына з жанчынаю. Слухай, слухай далей. Ты ведаеш, я ўзгадаваўся ў вучыцельскай семінарыі, рос у бурсе на скарбовы кошт, бо добра ўчыўся і заўсёды меў круглую пяцёрку за паводзенне. І што б табе ні казалі аб вучыцельскіх семінарыях,— дай мне веры: маральная навука ў іх дзеля шчыльнага сужыцця семінарыі з царквою стаяла дужа высака. Семінарыя дала мне ўсё: кавалак хлеба (значыцца, прафесію), маю цяперашнюю расейскую мову (за якую мяне амаль не ўсюдых лічылі чыстым русаком), урэшце яна дала мне і мой цяперашні светагляд. З аднаго боку, я, праўда, падчыняўся савецкай уладзе, але ўкараняць яе — не ўкараняў і не буду; з другога боку, я не пабег да палякоў адчыняць бе-ла-ру-скі-я школы і, дасць бог, не пабягу. Такі мой светагляд... Не заўсёды яго так лёгка можна ўхаваць; не заўсёды ён так мала робіць болек... О, часам ён надта мяне мучае сваімі вымогамі. Вось, мучае мяне ён і сваёю супярэчнасцю з тымі адносінамі, у якіх я знайшоўся з табою, як мужчына з жанчынаю. Ты сама відзела, Блюма... ах, не ламай жа сабе пальцаў... ты сама відзела, што ні нацыянальнасць, ні рэлігія ніякай ролі дзеля мяне ў каханнях, вось, не мелі. Не кожны камуніст і атэіст патрапіць так любіць, як любіў цябе я,— не разглядаўшыся, з каго ты паходзіш і як ты веруеш. І тая маральная навука, на якой я ўзгадаваўся, бачыш, дапусціла падобнае каханне, хоць і вымагала іншага, свайго, культу. Бо я перш-наперш ёсць сумленны чалавек, а потым ужо чалавек такой-та нацыі, такой-та веры і гэтак далей. Але цяпер... ах, паслухай жа мяне спакойна, Блюма! Цяпер я не маю спакою, бо я не магу паглядзець абы-каму проста ў вочы і сказаць яму спакойна: маё сумленне чыстае! Не, яно не чыстае, маё сумленне, бо я, фактычна,

злодзей... Злодзей мусіць хавацца, я хаваюся,— значыцца, я злодзей. Гэтага, Блюмачка, ніякі мудрэц не здолее зняпраўдзіць, бо голая праўда так і б'е ў вочы. Дык вось жа я не хочу быць зладзеем і мець нячыстае сумленне. Няхай я цябе мучаю, але табе так толькі думаецца, бо не хацела ты, ажно дагэтуль, адчуць маіх уласных мук, зразумець, як больна мне...

Л і п с к а я *(з мукаю)*. Захацеў адчапіцца ад мяне?

М у т э р к а. Поп сваё, а чорт сваё... Ані, і не думаў! Можа, так на твой бабскі розум здаецца.

Л і п с к а я. Не магу! не магу! Ты ведаеш, што не магу-у!.. Дзеля мяне гэта немагчыма, не-не!..

М у т э р к а. А для маіх бацькоў, для мае радні, для ўсяго круга маіх даўнейшых знаёмых тое магчыма, што я хачу зрабіць? Ты падумала?

Л і п с к а я. Ты й не зробіш, ты толькі так. Я відзела, як ты адхіліўся ад мяне... відзела, уй, уй, божа мой, божа мой! *(Ламае рукі, хапаецца за галаву.)*

М у т э р к а *(усхапіўся на ногі)*. Прашу не абразіць!! Чуеце, мадам Ліпская? Прашу не абразіць! *(Ходзіць па сцэне.)* Падумаць толькі, да чаго я дайшоў ва ймя кахання, якое так дзіка папіраецца нагамі той, каторая... каторую... Падумаць толькі, да чаго я дайшоў! Я пагрэбаваў (на нейкі час) служэннем свайму народу і заняўся прыватнымі лекцыямі сярод месцячковых буржуйчыкаў. Я зрокся асабістай незалежнасці і самахоць улез ў аброць нянавіднага мяшчанскага кахання! Я стаўся... уваччу людзей... звычайным наложнікам багатае... бабы! Я стаўся пасмешышчам усяго мясцечка з цэлай ваколіцай! І да гэтага дайшоў я! Дык жа не-е! яшчэ не позна скінуць ганебныя ланцугі! І я іх скіну!..

Л і п с к а я. Ты нічога не зробіш, ты толькі мучаешся сам і мучаеш мяне. Уй, Даня, я не магу... *(Рынулася ніц на канапу.)*

М у т э р к а *(ходзіць)*. Ты не можаш вытрываць нават віду маіх мучэнняў, а я мушу іх цярпець. Ды я ведаю, што мне рабіць. *(Пачынае апранацца.)*

Л і п с к а я *(скрозь слёзы)*. Ты думаеш, я не заўважыла, як ты адхіліўся ад мяне? Я заўважыла: так адхіляюцца ад старой... нялюбай бабы. Ну, што ж, ідзі, куды хочаш,— усё роўна ты не любіш мяне...

М у т э р к а. Няпраўда! *(Прыстоіў ля дзвярэй.)*

Л і п с к а я. Праўда! Праўда! Я цябе любіла ўзапраўды, а ты толькі прыкідаўся...

Мутэрка *(не расчуўшы добра)*. Прадаваўся?! *(Падскочыў і сціснуў яе ад злосці.)* Што? Ты адурэла? Я цябе задаўлю, як жабу!

(Чуцен званок.)

Ліпская. Даніла Пахомавіч, пусціце, уй, чуеце — званок. То, можа, Соня.

Мутэрка *(пускаючы)*. Соня?

Ліпская *(абпраўляецца)*. Даня, я вас любіла зусім шчыра, і вы не маеце права так плаціць за маё сэрца. Вы падумайце, і мы пагамонім апасля. Цяпер трэба адчыніць дзверы. Я не магу, я схаваюся ў свой пакой. Прашу вас адчыніць.

Мутэрка. Ты перш-наперш мне скажы: бярэш ты свае словы да сябе?

Ліпская. Да сябе? Я бяру іх назад... Я адракаюся ад усяго, што сказала і што сама чула, абы б толькі было ізноў усё ціха. Толькі мае слёзы яшчэ не высахлі.

(Другі званок.)

Мутэрка. Ну, даруй, Блюмачка! *(Цалуе ў руку.)* Уцякай, пайду адчыняць.

Яны расходзяцца ў розныя бакі. Чуваць галасы Соні і Мутэркі. Потым ён прыходзіць адзін і цераз троху адчыненыя дзверы пытаецца: «Соня! Хочаце вы мець сягоння лекцыю?» Чуцен адказ: «Чаму не?» — «Ну, то я чакаю».— «Добра, добра, Даніл Пахомавіч, я толькі распрануся і зачашу валасы. Я зараз!»

## ЯВА ДРУГАЯ

Мутэрка, потым Соня.

Мутэрка *(адзін; пахадзіў троху, сеў, задумаўся)*. Эт, чорт дзяры. Ці не лепей за ўсё будзе мне кінуць мясцечка і заваліцца на дзярэўню да бацькі. Забіцца, казаў той, у нару і сядзець, пакуль мінецца завіруха й небяспека. Можа, Дзянікін прыйдзе, можа, чорт, можа, д'ябал, абы не гэтае паганае панаванне польскай шляхты. Дзівуюся, як могуць быўшыя расейскія афіцэры йсці ў польскае войска валанцёрамі? Дзе іхныя мазгі? Ідуць да тых, каторыя зачыняюць праваслаўныя цэрквы і манастыры, забараняюць адчыняць расейскія школы, наварачываюць наш рускі праваслаўны люд на каталіцтва і гэткім гвалтам далучаюць спрадвеку наш севера-западный край да Польшчы. Не, калі ўжо выбіраць, то лепей згоджуся на камуністаў. Прынамсі, свае людзі. А хто ведае? — дасць бог, выветрыцца

10 Зак. 419

жорсткасць камуністычных парадкаў, дасць бог, прымуць яны такія формы, што можна будзе вытрываць. А калі так, то чым я надта аддаляюся ад камуністаў? Што, я не хачу, каб мужыкам аддалі панскую зямлю? Што, я не хачу, каб фабрыкі былі б знацыяналізаваны? Што, я не хачу, каб прыціснулі такіх подлых буржуа, як гэтыя *(махае рукою на дзверы)*, што жывуць у нас па гарадах і па мясцечках і смокчуць кроў з мужыка? Чым жа я ў ідэі не камуніст? Адна розніца, што я не магу пакрыўдзіць нават бабы, а яны смела спускаюць кроў не толькі панам і падпанкам, а кожнаму, абы-каму. Ну, але паказаў бы тады і я, дзе ракі зімуюць, розным нашым белаляхам і беларусам. Сволачы! Эт, чорт дзяры, завалюся на дзярэўню да бацькоў і арганізую нейкую камуну. Цяпер не тое, што раней, калі сорамна было працаваць; цяпер нават гонар, калі чалавек з маёй адукацыяй пойдзе араць. Ну дажыліся! Каб ты згарэла, гэткае жыццё!

Соня *(стукае)*. Можна?

Мутэрка. Калі ласка!

Соня *(уваходзіць з кніжкамі і сшыткамі)*. Як у вашым пакоі цёпла, Даніїл Пахомавіч, але дымна.

Мутэрка. Ад табакі.

Соня. Навошта шмат курыце?

Мутэрка. Каб лягчэй было на сэрцы.

Соня. А вам цяжка. Даніїл Пахомавіч?

Мутэрка. А Соні хочацца мяне пашкадаваць?

Соня. Чаму не? Я ўсіх жалею...

Мутэрка. Ну, сядзьце ж, калі так, будзем займацца. Можа, дыктоўку напішам?

Соня. Ой, божа мой, штодня дыктоўку,— так ужо дадзела. І я не ведаю, чаму вы хочаце канешне па-старому правапісу, калі ўсё роўна прыйдуць бальшавікі і будзе па-новаму. Вось, сястра мае таварышкі казала, што ў Вільні, у той гімназіі, дзе Фаня вучыцца, таксама пішуць па-новаму. Бо так гаразд лягчэй, навошта па-старому, я не разумею.

Мутэрка. А Соня чакае камуністаў?

Соня. А хто іх не чакае? Кожны мужык пэўны, што яны не вясною, дык улетку будуць тут... Што вы так углядаецеся, Даніїл Пахомавіч?.. *(Папраўляе валасы.)* Здаецца, на мне нічога не напісана.

Мутэрка *(ціхім голасам)*. На вас, любая Сонечка, напісана тое, што вы надта сімпатызуеце камуністам, але не проч, каб састроіць вочкі і легіянерам,— угадаў?

Соня *(азіраецца на дзверы)*. Уй, як вам не сорамна... мама ўдаму. Вы не маеце права так гаварыць. Ну, будзем займацца, нарэшце.

Мутэрка. Будзем займацца... але як: па-старому ці па-новаму?

Соня. Я бы хацела па-новаму.

Мутэрка. І я таксама.

Соня. Што вы ўсё глядзіцё на мяне? *(Папраўляе ізноў зачоску.)* Данііл Пахомавіч сёння якійсь асаблівы...

Мутэрка. А Соня сёння так люба, так прыемна... чырванее, што мне хочацца глядзеці на яе без концу.

Соня. Уй, што гэта шамнула за дзвярыма? Вам не здалося?

Мутэрка. Я ў здані веры не маю.

Соня. Чаму так? Я чула, як быццам штосьці шамнула. А наагул вы веруеце, Данііл Пахомавіч? Якой вы палітыкі,— можна спытацца? Вы ўсё хаваеце аб сабе.

Мутэрка *(маркотна памаўчаўшы)*. Якіх я палітычных паглядаў, хоча сказаць Сонечка, так? Як вам тое вытлумачыць? Насамперш я беспартыйны. Ні да якой партыі ніколі я запраўды не належаў і, дасць бог, не буду належаць. Бо ўсякая, самая лепшая партыя, Сонечка, накладае на чалавека свае ланцугі, а я — прынцыповы супраціўнік усякіх ланцугоў. Найдаражэй за ўсё на свеце ёсць для мяне воля. Воля — гэта ўсё. Воля — змысл нашага земнага існавання. Ведаеце, як пяецца: «Ах ты, воля мая, воля, залатая ты мая!» — ці нешта ў гэтым родзе. А ставячы так высока сваю асабістую волю, я ўмею шанаваць яе ў кожным чалавеку. Я нікога не забіў і не заб'ю, ні ў кога я нічога не рэквізаваў і не рэквізую, нікога я не крыўдзіў і не крыўджу, хаця пры ўсім гэтым я, аднак, не высцерагся... царскага вастрогу.

Соня *(узварушоная)*. Што?! Вы сядзелі за палітыку ў вастрозе, Данііл Пахомавіч, і дагэтуль зусім не пахваліліся? *(Мімаволі пахіляецца наўперад.)*

Мутэрка. Сядзеў, любая Сонечка, прадстаўце!

Соня. Я першы раз чую. Завошта вас пасадзілі, Данііл Пахомавіч?

Мутэрка. Звычайна, за што: хацеў людзём волі, а сялянам, апроч таго, зямлі.

Соня. Дык вы сядзелі за палітыку, Данііл Пахомавіч, а я дагэтуль не ведала. Я вам ад шчырага дзявочага сэрца спачуваю. Трэба сказаць маме. Хай яна ведае, што і вы пацярпеўшы.

Мутэрка. А я прашу вас не казаць.

Соня *(здзіўлена)*. Чаму?

Мутэрка. Таму, што ваша мама — чалавек зусім іншага светагляду, чалавек буржуазнага складу думак, каторы ў наш век, ці, лепей кажучы, у наш крывава-чырвоны час, пужаецца самага маленькага знаку чырвонасці. Таму, што ваша мама з агідай адвернецца ад тых рэчаў, якім пры царскім рэжыме магла нават спагадаць.

Соня *(нясмела)*. А мне часам здавалася, што мая мама вам вельмі падабаецца.

Мутэрка. Як чалавек? ну, разумеецца, так яна мне дужа падабаецца.

Соня. Як чалавек і наогул...

Мутэрка. Што?

Соня. Як я магу сказаць? Можа быць, як чалавек, і наогул... як жанчына... бо мая мамачка была ў маладосці надта прыгожая... але яна і цяпер яшчэ не старая.

Мутэрка *(збіты з толку)*. Папалі пальцам у неба! Я не ведаю, скуль вы маглі падумаць?

Соня. Ой, вам не здалося, што нешта шамнула ля дзвярэй? *(Аглянулася і шэпча.)* А гэта не можа быць мама, што? Гапкі няма.

Мутэрка. Што вам усё здаецца? Мама спіць, а там, пэўна, котка бродзіць.

Соня. Трэба паглядзець.

Мутэрка. Чаго Сонечка баіцца,— нікога няма. Але як Сонечка баіцца, дык робіцца страшна падобнаю да свае мамы.

Соня *(канфузліва)*. Можа быць. Але будзем, нарэшце, займацца.

Мутэрка. Добра. А чаму вы не пахваліліся, што новага пачулі ад сястры вашае таварышкі.

Соня. Ой, яна так многа чаго казала. Яна прывезла шмат сахарыну. Іх на дарозе трэслі і нічога не знайшлі. Толькі, толькі...

Мутэрка. Ну, ну, што?

Соня. Мне сорамна казаць. На заезным двары нейкі польскі афіцэр хацеў пацалаваць Фаню. Мне так сорамна вам прызнацца.

Мутэрка. Цяпер такія прызнанні — звычайная гісторыя і ніхто іх не сароміцца. Я вам болей скажу,— я чуў ад адной свае знаёмае, што рабілі нямецкія афіцэры.

Соня. А што яны рабілі?

Мутэрка. Я вам пакажу,— вось, калі ласка, станьце сярод пакою.

Соня. Што такое? Можа, небяспечна? Вы гледзіцё на мяне такімі дзіўнымі вачыма...

Мутэрка. Нічога, не бойцеся, вы ўжо не такая маленькая дзяўчынка, каб усяго баяцца. Вось, так, стойце. Вы — паненка, гуляеце на бульвары. Я — нямецкі лейтэнант, я праходжу міма. Вы мне падабаецеся, я іду, кажу: «гут морген». *(Ідзе да яе, схіляецца і неўспадзеўкі цалуе, потым даволі шыбка, як раней, праходзіць міма і кажа звычайным голасам.)* Вось так рабілі нямецкія афіцэры ў часе нямецкай акупацыі нашага севера-заходняга краю.

Соня. Уй, што вы робіце? *(Чуцен стук за дзвярмі, потым голас Ліпскай: «Соня!» Соня хапаецца за галаву, кідаецца туды-сюды і потым бяжыць да дзвярэй.)* Што такое, мама? Я іду! *(Выбягае.)*

## ЯВА ТРЭЦЯЯ

Мутэрка, потым Ліпская.

Мутэрка *(адзін)*. Ну, пранясі хмару, госпад бог, старая карга пачула ці здагадалася. Царыца нябесная, ратуй мяне *(ксціцца, потым круціць цыгарку)*. А што ж я такога зрабіў, што маю баяцца? Я нічога благога не зрабіў, толькі паказаў, як рабілі нямецкія лейтэнанты. *(Чуцен стук за дзвярмі і няроўны голас Ліпскай: «Можна?»)*

Мутэрка. Калі ласка, вельмі прашу.

Ліпская *(неспакойная, твар у плямах)*. Уй, які сорам! Уй, божа мой, які сорам!

Мутэрка *(Хоча ўзяць яе за рукі)*. Што такое, мадам Ліпская, я нічога не разумею.

Ліпская. Фі, ён смее так казаць, што не разумее! Вон, вон, каб зараз вашая нага пакінула мой парог!

Мутэрка *(прычыніў дзверы)*. Але што такое, Блюма? Чаго ты халяруеш, я сапраўды нічога не разумею. Хацела памірыцца і ўзноў скандаліш.

Ліпская *(са слязьмі)*. Уй, божа мой, які ён нізкі чалавек, ён аскандаліў увесь мой дом, ён загубіў мяне і абразіў маю чыстую дачку, ён зрабіў так подла і нічога не разумее. *(Ламае пальцы.)* Вон, вон, вон! Пакіньце мой дом!

Мутэрка *(сядзіць разваліўшыся і курыць)*. Та-а-ак! Вось цяпер я бачу тваю сапраўдную любоў. Не хочаш прымаць хрысціянства і вярзеш на чалавека ліха ведае што,

усялякую брыду, абы адчапіцца. Дык што ж: купляла ты мяне толькі, ці што? Зневажай да яснага канца, кажы ўсё, што хочаш.

Л і п с к а я *(спакайней, але з вялікай злосцю)*. Я нічога аб тым не скажу, бо мне сорам падумаць, што я любіла такога нягодніка, як вы. Я хачу, каб маё вока век вас не відзела, каб маё вуха век аб вас не чула.

М у т э р к а. Ну, вядома, чыста буржуазная псіхалогія: каб усё было шыта-крыта, тады і добра. Памыляецеся, мадам Ліпская! Хай кожны чалавек ведае, што я выйшаў чысты з гэтага балота, якое вы ўдавалі за сваю любоў. Хай кожныя ростані ведаюць, што я хацеў, як сумленны чалавек, назваць вас сваёю жонкаю прад богам і людзьмі. Хай кожны сабака звягае, хай кожная жвінда жвіндае, што не я прадаваўся, але ты, паганая брыда, буржуйка, хацела купіць беднага вучыцеля з целам і душою. Хай жа ведаюць, што ты карыстала з майго цяжкога матэрыяльнага становішча і хацела купіць не толькі пралетарскае цела, але й вольную чалавечую душу. Хай ведаюць маю бяду, але хай ведаюць і тое, што я выйшаў адгэтуль з горда ўзнятаю галавою, што я вынес з дому Ліпскай, з гэтага балота, чыстую душу. Хай ведаюць, і паглядзім, каму з нас будзе мулка?

Л і п с к а я *(надта зазлаваная)*. Вы, пан Мутэрка, пагражаеце брахнёю? Хто ж вам дасць веры? Хіба такія ж авантурнікі, як самі вы. Вас многа такіх цяпер ёсць, я ведаю. Не ўсіх яшчэ выкінулі на сметнік бальшавікі. Не ўсіх яшчэ пагнаілі ў лагерах паны. Ды я вас не баюся! Ніводзін наш месцячковы не дасць вам цяпер лекцыі, пане Мутэрка! Пойдзеце да свайго бацькі і будзеце там есці лупленую бульбу. А калі станеце на мяне маніць непрыгожыя рэчы, дык я не такая бедная, каб мне хто смаліў вочы за такога вучыцялішку. Я знайду сабе абаронцаў!

М у т э р к а *(усхапіўся)*. Маўчы! А то я цябе тут...

Л і п с к а я Біцца хочаце, што? Я не баюся вас. Соня! Соня!

## ЯВА ЧАЦВЕРТАЯ

Мутэрка, Ліпская і прыбягае С о н я; яна ўтупіла вочы і стаіць ля вушака дзвярэй.

Л і п с к а я. Вось, Сонечка, я абрахавала, што пан Мутэрка, як гэткі слаўны рэпетытар, нам дужа дорага

каштуе. У мясцечку ёсць болей зручныя для нас вучыцялі...

Соня. Мне ўсё роўна.

Мутэрка *(нервова апрануўшыся і стануўшы ля дэвярэй)*. Дзякую, мадам Ліпская, я на вас не ў пратэнсіі і зараз прышлю хурманку па свае рэчы. Гапка складзе іх у парадку. *(Двусмыслена.)* Не тужыце па мне, Соня!

Ліпская. Фі!

# САЛДАТ І ЯГО ЖОНКА

**(Абразок з дарэвалюцыйнага часу)**

Дзеецца ў беднай сялянскай хаце ўзімку.

Ж о н к а *(калыша дзіця і пяе колькі разоў тое самае).*

Люлі-люлі, мой сынок,
Люлі-люлі, бедненькі!
А-а, а-а, а-а-а!..

Прыходзіць у старым салдацкім шынялю і ў сялянскай шапцы с а л д а т. Распранаецца і сядае за стол.

С а л д а т. Давай вячэраць.

Ж о н к а. Зараз, галубок, зараз! *(Завінаецца ля печы.)*

С а л д а т. А на дворы збіраецца на мароз.

Ж о н к а. Ведама, каляды, галубок. *(Ставіць міску на стол.)*

С а л д а т. Кінь ты сваё: галубок ды галубок.

Ж о н к а. Гэта ж я любя, Цімошачка.

С а л д а т. Не люблю, калі й Цімошачкам завеш.

Ж о н к а. А як жа мне цябе зваць, міленькі?

С а л д а т. Заві мяне хоць проста Цімахвеем... А то: галубок... Цімошачка... Не падабаецца мне. Што мы — дзеці?

Ж о н к а. Ну добра, добра, Цімахвеічка.

С а л д а т. Чаму ж сама не вячэраеш? Сядай за стол.

Ж о н к а *(з радасцю).* Зараз, Цімахвеічка, зараз. *(Вячэраюць абое.)* Можа, солі падаць?

С а л д а т. Дай сабе, троху падсалю... Ведаеш, жонка, я думаю на гэтае лета ў пастухі да вясковага статку наняцца. Ужо сёння гаманіў з гаспадарамі. Згаджаюцца даваць ссыпку збожжам, як і леташняму пастуху. Толькі ці справімся мы?

Ж о н к а. А чаму не справімся, Цімахвеічка? Справімся! Ты будзеш каровы пасціць, а я з дробязам упраўлюся.

С а л д а т. Як радзіць будзеш, хлапца на час вазьму.

Жонка. Мой дзядзька свайго Васілька на той час нам падашле.

Салдат *(падумаўшы і спахмурнеўшы)*. Толькі як з гэтым... парасём быць? *(Ківае на люльку.)*

Жонка. Старой Лявонісе на дзень буду аддаваць. Ён ужо не маленькі, другі месяц, як ад грудзей адняты. Улетку хадзіць добра будзе.

Салдат *(кладучы лыжку)*. Эх! Усё б у нас добра, Агата. І пастухом лета гатоў быць, каб толькі на ногі стаць, гаспадарку аправіць, і ўсё гатоў... а толькі нашто ты мне... чорта гэтага ў хату прыняла, нашто?

Жонка *(спалоханая)*. Не кажы на яго так, Цімох! Ён маленькі, ён невінават.

Салдат *(ходзіць па хаце)*. У-ух! Зняславіла ты мяне, Агата, на ўсё жыццё.

Жонка. Цімошачка! Родненькі!

Салдат. Мне здаецца, што ўсе людзі, як глядзяць на мяне, дык толькі аб тым і думаюць.

Жонка. Цімошачка, гэта — як табе злосць падкоціць. Родненькі, не гневайся, стрымай сваё сэрца! Ужо ж дараваў, ужо ж біў мяне, колькі хацеў. Я ж ад цябе дзіцятачка нашу... Цімошачка, родненькі!

Салдат. Не магу я стрымаць свайго сэрца... Не думаў я, што знайду ў сваёй хаце гэтага чорта...

Жонка *(адышла да люлькі, быццам бароначы яе)*. Не лай яго, Цімох! Невінаваты ён...

Салдат. Служыў я салдатчыну вераю-праўдаю. Не піў, не гуляў,— усё аб гаспадарцы думаў... Пра цябе думаў. Каму пасылкі, каму грошы з хаты прысылалі, а я ж стараўся рубель які сабраць, каб вам з бацькам на гаспадарку паслаць. Памёр бацька, не дачакаўся мяне, стары, а ты мне тут, байструка прыняла...

Жонка. Ну ўдар мяне! Вытні на ўсю сілу... У плечы ўдар, толькі вышэй. Па руцэ... Куды хочаш, каб толькі без калецтва. Табе палягчэе... *(Выставіла жаласныя, вінаватыя рукі.)*

Салдат. Усе кулакі аббіў я аб цябе,— няма мне палёгкі. Нашто ты прыняла байструка, праклятая? Нашто ты зняславіла мяне на ўсё жыццё?

Жонка. Удар мяне, родненькі, удар! Злосць адпусціць...

Салдат. Што мне з таго біцця? Я сябе самаго загубіў бы, здаецца, у-у... *(Б'е сябе кулаком па лобе, ірве валасы.)*

Жонка. Адпусціся ты, Цімох! Вып і вады! Я па-дам...

Салдат. Аб чым ты думала тады, Агата, скажы?

Жонка. Аб табе, міленькі, думала! Аб табе, роднень-кі. Вось як перад богам — аб табе!

Салдат. Не брашы, гадаўка!

Жонка. Каб мне язык адсох, калі я няпраўду кажу. Каб і рукі мне паадсыхалі, калі няпраўда.

Салдат. Скажы, Агата, ад каго?

Жонка. Не пытайся...

Салдат. Я табе ўсё дарую, толькі скажы мне гэта. Чуеш, Агата?

Жонка. Нашто табе ведаць?

Салдат. Лепей скажы, Агата! Скажы мне лепей — чыё гэта дзіця?

Жонка. Толькі болей краіць сэрца сабе будзеш дум-камі...

Салдат. Мне людзі скажуць.

Жонка. Не давай веры людзём, бо не ведаюць... По-мач у рабоце, і ў жніво, і ў касьбу, я ад усіх з падзякаю прымала, а дружбы ні з кім з мужчын не мела.

Салдат. А ты ведаеш, Агата, што? Я цябе кіну, калі не скажаш. Паеду на фабрыку. Калі не знайду працы, пай-ду назад на вайсковую службу або ў стражнікі наймуся. Ведаеш? А? Я табе дараваў, бо ты гэта з няволі зрабіла, аб гаспадарцы клапацілася, не для распусты, ведаю... але я не магу, не магу, калі ў хаце гэты байструк, гэты чорт невядома чый!

Жонка *(кідаецца да яго з ласкаю)*. Цімошачка мой, міленькі мой, залаценькі,родненькі, што ты задумаў? Не губі ты ні сябе, ні мяне. Можа, ён хутка памрэ, можа, ён што... *(Уздыхае.)* Чатыры гадочкі гаравала я без цябе, як магла старалася, каб гаспадарку, якая там ёсць, не апус-ціць. Сама не ведаю, як да грэху дапусцілася, сама не ве-даю... З гора... *(Абцірае слёзы.)* З нястаткаў... У рабоце бабе не кожны за адно дзякуй паможа...

Салдат. Не замаўляй ты мне зубоў, лісіца. Ба́кі мне забіваеш.

Жонка. Яй жа божачку, праўду кажу, родненькі! *(Б'е сябе тры разы ў грудзі.)* Каб я так на свеце жыла! *(Падходзіць да яго.)* Цімошачка... мой любенькі, мой слаўненькі... Ну, годзе... Дай я цябе пацалую... Можна? *(Глядзіць у вочы, потым цалуе яго.)*

Салдат *(таксама, толькі нейкі час павагаўшыся, ца-*

*луе яе)*. Пяшчотамі хочаш мне бакі забіць, нягодная! *(Пацалаваўшы, адпіхае ад сябе.)*

Жонка. Цімошачка! Сакалочак! Дай мне сваю руку! Хутчэй дай!

Салдат. Навошта яна табе?

Жонка *(хапае яго за руку і кладзе сабе пад грудзі)*. Чуеш? Трапечацца! Ці ж не рад? Сакалок ты мой дарагі, гэта ж наша, тваё. Як жа ты мяне кінеш з ім, Цімошачка, брахненька!

Салдат. Пусці! *(Ірве руку.)*

Жонка *(жартуючы скрозь слёзы)*. А вось жа не пушчу... А вось жа не пушчу... *(Цалуе яму ў руку.)*

Салдат. Эх! Гора маё! Чаму ён хаця не сканаў, пакуль я са службы не вярнуўся...

Жонка. Можа, ён памрэ яшчэ, Цімошачка,— ну што ён вінават?

Салдат *(сеў за стол, падпёрся рукамі і цяжка задумаўся)*. Я не ведаю... Я не ведаю...

Жонка *(калыша дзіця і дужа сумная)*. А-а, мой сынок! А-а, бедненькі!

Салдат. Ты кажаш: бедненькі... *(Ізноў доўга думае.)* Бедненькі... Агата!

Жонка. Што, мой даражэнькі?

Салдат. Агата! *(Аглядаецца на ўсю хату, на вокны, на дзверы.)* Агата!

Жонка. Што, галубочак? Аб чым ты думаеш?

Салдат. Агата! *(Не важыцца сказаць.)* Ведаеш... дай яму... на сон... Маку ці якога зелля...

Жонка *(валіцца на калені побач з калыскаю і сашчэплівае рукі на мужа)*. Не кажы! Страшна мне...

Салдат. Пераедзем куды-небудзь...

Жонка. Што ты задумаў? Мне страшна!

Салдат. Да якога-небудзь пана ў парабкі пойдзем...

Жонка. Цімох!

Салдат. Далёка адгэтуль... Ніхто нам нічога не скажа... Забудземся на ўсё... Добра нам будзе...

Жонка *(падпаўзае да яго на каленях, хапае за рукі, цалуе то ў адну, то ў другую руку)*. Цімошачка, родненькі! Татачка мой! Братулечка мой! Гэта злосць табе пад грудзі падкацілa... Пашкадуй ты мяне, нешчаслівую! Жонка ж я табе... Адна ж я табе найбліжэйшая ў свеце! Уздумай жа ты на тое, як мы любіліся, жалеліся, на йгрышчы гуляць хадзілі... Памятаеш, Цімошачка мой, як ты мяне ў гаёчку цалаваў?

Салдат. Не я, а ты на гэта забылася! Забылася на ўсё, у-у!.. *(Круціць ёй рукі і са злосцю адкідае ад сябе.)* Людзі во з гульні вясёлымі расходзяцца, каляды гуляюць, а ты... загубіла ты маю вясёласць...

На вуліцы шум і гоман, праходзяць людзі. Іграе нехта на гармоніку. Спачатку ціха, пасля дужэй пяюць вядомую песню:

Ой пайду я лугам, лугам,
Дзе мой мілы гарэ плугам...
Ён гарэ полеваламі,
А я плачу ўсё слязамі...

Жонка. Цімох! Цімох! Я ўсё ў сваім сэрцы нашу, і ні на што не забылася... Лягчэй мне было, як ты мяне за касу цягаў, біў мяне як мёртвую, лягчэй мне было... калі ты кажаш, што я забылася на ўсё... Золатца маё! Мая дружба верная... а так яно трапілася... *(Плача.)*

А песня яшчэ дужэйшая:

Занясу я яму есці,—
Ці не скажа ён мне сесці?
Запясу я яму піці,
Можа, будзе гаварыці?..
І наеўся і напіўся,
Сеў на пень дый зажурыўся...

Салдат. Пяюць... Агатачка мая! *(Цягне яе за плечы да сябе, абымае, цалуе і плача.)*

Жонка. Цімошачка! Браточак! Кладзіся, кладзіся ты спаць. І я зараз, мой любенькі, лягу з табою, прыбяру толькі нанач... *(Вядзе яго, як п'янага, на пасцелю, пасабляе класціся, цалуе, усё прымаўляючы.)* Цімошачка! Галубок мой, даражэнькі мой! Зараз лягу з табою... Абоймемся, прытулімся, пацалуемся...

Салдат *(лежачы як хворы)*. За што з мяне людзі смяюцца? За што? Што я каму зрабіў?

Жонка. За мяне, проклятую! За беднасць нашу. *(Стала побач з калыскаю і ўжо з распушчанымі валасамі калыша дзіця і ўся трасецца.)*

А на вуліцы, дзесь далёка, сціхае гармонік і песня.

# СВЕЦКІ ЧАЛАВЕК

**(Абразок з дарэвалюцыйнага часу)**

У беднай мужыцкай хаце. Выбітая, з мокрымі мясцінамі, зямля. Маленечкія вокны. Голыя чорныя сцены. Троху ўбогага шкумацця і лахманоў па кутках. Толькі ў адным куце весялей — дзе Міколаў ложак: на акне кавалачак добрага мыла, пушачка ваксы, высмаганая шчотка, пачак папярос, а на паліцы вялікі венскі гармонік. На ложку спіць здаровы мурлаты брысюга — гэта Мікола, не раздзеўшыся, у ботах, са збітаю на зямлю дзяругаю. Прыходзіць з сярпом на плячы матка — у лапцях, нястройная, непрыгожая баба.

Матка. Мікола! Мікола! Уставай, сынку! Час ужо ўставаць.

Мікола. М-му-у... *(Паварочваецца і сапе.)*

Матка. Падымайся, дзетка... Я ўжо іду ў поле, дык скажу табе, дзе што браць есці ўстаўшы.

Мікола. А-а-а... Мы-ы-ы... *(Адмахваецца і мычыць.)*

Матка. Устань жа, Міколка! Сёння пятніца, дык, можа, і ты будзеш з намі пажынаць. А то бацька крывіцца, што сала таго мала ў нас. Чуеш, Міколка?

Мікола. Апчхі! *(Чвякае вуснамі.)*

Матка. Зацірку ў клеці паставіла, бульба ў печы, Міколка. Чуеш? А я ўжо пайду на жніво.

Мікола *(патроху паварочвае галаву і расплюшчвае вочы)*. Ты гэта куды, матка?

Матка. Жытца дажынаць, Міколка. Ці ж ты не бачыш?

Мікола *(быццам жартуючы, быццам паважна)*. А ты, матка, бачыш? Некалі быў Міколка, а цяпер Мікалай Хведасеіч...

Матка. Калі ж мы, сынку, не прызвычаены да гэтага далікатнага абхаджэння. Ты ўжо нам даруй, сыночку, не гневайся на старых,— нас ужо не перавучыш.

Мікола. Так-с... праўду кажаш! Гарбатага выпрастае магіла. Ну, нічога! *(Сядае з гультайскай маруднасцю.)* Дык што ты, матка, стаіш над каркам? Чаго ты хочаш? Навошта перабіла мне сон?

Матка. Уставаць жа даўна час, мой ты сыночак. Зараз бацька вернецца з сенажаці, будзе крывіцца, што доўга спіш.

Мікола. А яму што? Хто яму не дае спаць?

Матка. Сам ведаш, сынку. Бацька ўжо стары, яму цяжка працаваць, ён вось і злуецца.

Мікола. Дык а мне-та што? Я прыехаў пашпарт выбраць, а не работу за бацьку рабіць.

Матка. Ну добра ўжо, добра: не буду я вас разбіраць... Але ж і нярана. Калі выспаўся, дык уставай, сынку. Паслязаўтрага свята: выспімся, дасць бог... Дык заціркa ў клеці, а бульба ў печы. Толькі не забудзься назад у печ паставіць і засланкаю зачыніць, а то ўкісне. Я ўжо пайду... *(Пастаяла, падумала і пайшла.)*

Мікола *(адзін.)* Ідзі... Яны хацелі б, можа, каб я ім тут яшчэ ўсю мужыцкую работу рабіў? Не, дудкі-с! Не на таго напалі! Даволі я быў дурнем, капаўся некалі, як жук у гнаі. Цяпер мы можам пажыць і дзеля свае прыемнасці. На колькі там таго прыехаў — і пячыся на сонцы, ліха яму!.. Ха... *(Смяецца.)* Прыеду ў Маскву непрыгожы, дык жа дзяўчаты любіць не будуць. *(Пацягваецца.)* Трэба, аднак, мыцца. Дзе яны конаўку дзяюць, чорт бы іх браў... *(Шукае конаўку.)*

Дзяўчына *(круценькая, лёгкая, курносенькая, у лапціках. Прыбегла і ўтаропілася, што Мікола адзін, а ён ужо ўсцешыўся, як кот на сала).* Дзень добры! Ай... Я думала, што цётка або дзядзька ў хаце... Вашага каня панскі ляснік з лесу павёў.

Мікола. А халера на іх — і на каня, чаго забег у лес, і на лесніка, чаго яго там накруціла.

Дзяўчына. Каб хто зараз кінуўся прасіць, дык можна дагнаць яшчэ ў дарозе... Можа, так аддаў бы.

Мікола. Дык жа няма каму бегчы. Ну, скручу я некалі галаву гэтаму лесніку, хай пачакае... А як жа ты маешся, Аўгінка? Хочаш, я табе сыграю? *(Бярэ гармонік і вясёла рыпае.)*

Дзяўчына. Ат, жывём... Дажынаем сёння. Прыбегла па другі серп, дзеля таго што...

Мікола. Што там серп... Вялікая справа — серп... Паспееш узяць другі серп... Слухай-ка... *(Раптам хапае яе і туліць да сябе.)*

Дзяўчына *(спачатку сарамліва).* Ай-яй! Яй жа

божачку, закрычу... *(Прыцішана крычыць.)* А ма-ма! Ма-ма!

М і к о л а. Што там мама, калі ты ўжо сама добрая мама... Нну... Слухай-ка...

Д з я ў ч ы н а *(бачыць яго дурныя жарты.)* Мікола, ці ты адурэў гэта? Ай! Ай! Ратуйце! *(Спалохана крычыць.)* А-а!..

М і к о л а *(заціскае ёй рот і ўсё цягне)*. Цішэй ты, лапацонка дурная... Цішэй! *(Раптам згледзеў на парозе бацьку — і выпусціў яе; дзяўчына закрываецца ад сораму рукавом і бокам-бокам выбягае.)*

Б а ц ь к а *(кароценькі, лысенькі, у кашулі да калена, босы; паглядае, бы шашок: асцярожна і злосна)*. Ай, слаўна! Ай, дык слаўна!

М і к о л а *(збянтэжыўся і ўзлаваўся)*. Ну дык што, калі слаўна? Пажартаваць мне з дзеўкаю няможна, ці што?

Б а ц ь к а. Добрыя жарцікі! Паскудства ты, Мікола!

М і к о л а *(не ведаючы, што казаць)*. Каму Мікола, а каму і Мікалай Хведасеіч...

Б а ц ь к а. А каму і сын, хоць і гультай, спіць да абеда, замест памагчы бацьку... Як табе ўжо і бокі не спохнуць, мой ты сыночак!

М і к о л а. А ліха цябе прасіла ў бацькі! Дужа ты ведаеш, што ты бацька? Гм...

Б а ц ь к а. Ня'дсох табе язык, такому сыну!

М і к о л а. Ну-ну... Пашукай мне конаўку: мыцца буду.

Б а ц ь к а. Вадзіцы табе прынесці скажаш? А мой сынок! Паварочваецца язык, каб ён табе адсох у тым свеце, дзе гэтак навучаюць...

М і к о л а *(смяецца з прымусу, у злосці)*. І ў цябе паварочваецца, пакуль гэтага не бачыў... ну? *(Падносіць бацьку пад самы нос кулак.)*

Б а ц ь к а. А во табе, басяк [...]!.. *(Б'е яго па руцэ — і зараз адскочыў, як верабей.)* Каб цябе зямля не насіла, басяка.

М і к о л а *(схапіў бацьку за грудзі і трасе)*. Толькі пісні ў мяне яшчэ, дык тут табе і садухі... Муха з кучкі гною! *(Выпускае, трохі штурхнуўшы.)* [...]

Б а ц ь к а. Ратуйце! Ратуйце, людзі добрыя, га! Бацьку хоча забіць, га! Лаецца, га! Забіць хоча, га! *(Сумысля абцірае слёзы.)* Мухаю мяне лае, га! А сам жа хто, га? Калі я Муха, дык жа і ты Муха, не шаршэнь, га!

М і к о л а *(супакойна закурыў папяроску).* І я — Муха? Ведай жа раз назаўсёды, дурная твая галава: я — Мікалай Хведасеіч Мухін... *(Паказвае на сябе пальцам у грудзі.)* Му-хін! Му-хін, а не Муха, а ты быў муха з кучкі гною і здохнеш мухаю, як лапацон дурны. Мужык мужыком век-вяком — ведаеш? Ты і гаварыць па-людску не ўмееш, толькі вякаеш.

Б а ц ь к а. А ты ж хто, калі не мужык? *(З абурэннем махае кароценькімі рукамі і абціраае лысіну.)* Што ў свеце тым пабыў, каб ён табе там не свяціў, какаць навучыўся... *(Дражніць.)* Как-ста... Как-ста... Дзверы пошкудзі ўсякай адчыняць ды зачыняць — дык панам вялікім зрабіўся, га?

М і к о л а *(трасе кулаком).* Во я табе пасвячу, вякала дурное! *(Кладзецца на ложак.)*

Б а ц ь к а. Ты мне пасвеціш? Бацьку роднаму, га? Шмяццяр [...]!.. Вон з мае хаты!

М і к о л а. Сам ты шмяццяр, а я швацар! *(Усхоплівaецца.)* Ты ераплянт бачыў? На грамахвоне іграў? Не? Ну дык і маўчы!.. *(Кладзецца.)*

Б а ц ь к а. Я добра бачу, што ты за цаца. Сеў бацьку на шыю... Вон з мае хаты, жулік [...]!..

М і к о л а. Не лезь ты мне асвою ў вочы! У нядзелю пашпарт выберу, злезу з твае шыі... А мужыком з табою не буду.

Б а ц ь к а. Во выйшаў сынок у людзі! Каб вы там пагарэлі з сваім светам! Свецкі чалавек! Пошкудзь ты, а не чалавек!

# НЕ АДНОЙ ВЕРЫ

Дзеецца ў цеснай каморачцы, узімку ўвечары, пасля фабрычнае працы. Таццяна, фабрычная работніца з вёскі, і яе жаніх, Адварды, таксама работнік на фабрыцы, сялянскі дзяцюк, п'юць гарбату.
Гаспадыня ў сваіх пакоях іграе на грамафоне.

Таццяна. Адвардзік, дай я табе яшчэ налію.

Адварды. І так ужо пяць кубкаў выпіў. Я да гарбаты не дужа. Пакуль не пайшоў у свет, дык і зусім рэдка піў, калі-нікалі.

Таццяна. І ў нас у дому толькі ў свята п'юць гарбату, і то не часта. Я, калі на фабрыку пайшла, тады толькі штодзень стала піць.

Адварды. Мала пажытку ад гэтага настою. Вядома, як тут у горадзе — без яе не абысціся. А каб на вёсцы, змалаціўшы вазы два, дадушы адвярнула б зусім. Там, добры кавалак сала з'еўшы, і вады нап'ешся. Праўда?

Таццяна. Ой, праўда! Добра жыць у вёсцы... Прыйдзе лета, паедзем дамоў. Адвардзік, чаму ж ты нічога не ясі! Будзеш пасля наракаць, што нявеста не ўмела трактаваць.

Адварды. Не буду, нічога... Ну, і горача ж у цябе: як ты тут жывеш? Адчыні-ка ваконца.

Таццяна. Пасля, мой любы: каб цяпер, угрэўшыся, не застудзіўся.

Адварды. І то праўда. Пакуру тым часам...

Таццяна *(дастаўшы пачок табакі і папяросную паперу)*. На-ка, Адвардзік: я табе купіла лепшае троху. Гэта ўжо не пачастунак, а падарунак.

Адварды. Во, гэта дзякую. Але нашто ж ты трацішся? На вяселле грошы спатрэбяцца.

Таццяна. Ай, ну, што там! Калі ж нам і падарункі рабіць, як не цяпер. Я дзеля цябе — сама не ведаю, што б аддала.

Адварды *(закурыўшы)*. Ху-у! Во напіўся! Ну, па-

сля гэтага і паляжаць хочацца. *(Кладзецца на яе пасцелю.)* Хадзі, Таццянка, адпачні і ты.

Таццяна *(вінаватая)*. Адвардзік, гаспадыня можа зайсці неўспадзеўкі.

Адварды. Хадзі, не бойся. Яна там на грамафоне іграе. Дый павінна спачатку пастукаць у дзверы: гэта ж не ў вёсцы, дзе кожны прэцца абы-куды, не пытаўшыся.

Таццяна. Не, Адвардзік, не трэба, я цябе прашу. Пасядзім так... Як жаніх і нявеста.

Адварды. Ат, не ўсё ж роўна табе... Ну, хадзі.

Таццяна. Адвардзік, не гневайся! Цяпер-то яно ўсё роўна. Але я не хачу, каб гаспадыня што падумала. Слухай, а дамоў сваім так яшчэ і не пісаў? Я даўно сваёй маме напісала. *(Цалуе яго і бярэ яго руку ў свае рукі.)*

Адварды. Не... І пісаць да шлюбу не буду. Баюся нават, каб ім адгэтуль мой стрыечны брат, Казюк, не напісаў. Калі даведаюцца, што ты не каталічка, а праваслаўная, дык не дазволяць, каб браў з табою шлюб. Пасля напішу.

Таццяна *(сумна ласціцца да яго)*. Адвардзік, ты ж ведаеш, я прыняла б каталіцтва, але наш поп такі нягодны. Ён дакументаў тады на шлюб не выдасць. А ксёндз гэтак табе зрабіць пабаіцца паліцыі.

Адварды. Нічога. Зробім, як трапіцца.

Таццяна. Адвардзік! А ты не будзеш на мяне сварыцца, як пабярэмся, што ўзяў з другое веры?

Адварды *(цалуе яе)*. Во, дзіўная! А мне што? Ці так людзі не жывуць? Ды яшчэ як любяцца!

Таццяна *(у радасці)*. Як мы цяпер з табою, Адвардзік? Праўда? *(Цалуюцца.)*

Адварды. Яшчэ як праўда! *(Цалуюцца. Грамафон сціхшы. Стук у дзверы. Яны адскакваюць адзін ад аднаго.)*

Таццяна. Не бойся, гэта гаспадыня.

Адварды. Чаго ж мне баяцца?

Гаспадыня *(праз дзверы)*. Тут нейкі дзядзька пана Адварда шукае.

Адварды. Хто ж гэта можа быць? Спытайся, дзе ён.

Таццяна. А дзе ж ён, цётачка?

Гаспадыня. А вось тут... Прымеце, Танічка! *(Прапускае ў дзверы Станіслава і ідзе назад і зноў там заводзіць сваю музыку, бо і ў яе госці.)*

Станіслаў *(Адвардаў брат; выглядае вясковым шляхцюком)*. А! Во ён куды схаваўся! *(Ідзе да Адварда.)*

А д в а р д ы. Брат! Якім гэта спосабам?

С т а н і с л а ў. А што: не чакаў? Ну, здароў... *(Цалуецца з Адвардам.)*

А д в а р д ы *(паказваючы на Таццяну)*. Гэта тут... адна мая знаёмая... Наша зямлячка... *(Ёй.)* А гэта Станіслаў... мой старэйшы брат... гаспадаром на вёсцы

Т а ц ц я н а Ах... брат... Як я рада... *(Як бы ў радасці, як бы і ў трывозе вітаецца з Станіславам.)*

С т а н і с л а ў. Добры вечар, добры вечар! *(З захаванаю насмешкаю аглядае дзяўчыну.)*

А д в а р д ы *(сарамліва)*. Распранайся ж, братка, сядай... Як там у нас? Усе жывы, здаровы?

С т а н і с л а ў. Нічога тым часам... Тэго... Але, можа, мы пойдзем да цябе, Адварды?

Т а ц ц я н а. Сядайце, калі ласка... *(Падстаўляе табурэтку.)*

А д в а р д ы. Гарбаткі во нап'ёмся... Пойдзем... Сядай жа, братка. Таццянка! *(Адходзіць з ёю далей і шэпча: «Гарэлкі, піва, закускі...»)*

С т а н і с л а ў. Не... Тэго...

А д в а р д ы. Нічога, нічога. Пасядзім, пагамонім... Яна зараз!

Т а ц ц я н а *(накідае хустку)*. Выбачайце, калі ласка! Зараз вярнуся... На хвілінку... *(Выходзіць.)*

С т а н і с л а ў. Мястовая штучка!

А д в а р д ы *(не гледзячы на брата)*. На фабрыцы разам працуем. Зямлячка наша...

С т а н і с л а ў. Тэго... Але — Таццяна. Мусіць, руская?

А д в а р д ы. Не, наша... Толькі рускай веры.

С т а н і с л а ў. Тэго, рускае веры. Гм. *(Памаўчаўшы, раптам.)* Дык гэта з ёю, братка, шлюб бярэш?

А д в а р д ы *(узварушана)*. А скуль ведаеш? Мусіць, пехта з фабрыкі напісаў?

С т а н і с л а ў. Сядай, сядай! Чаго ж ты спалохаўся?

А д в а р д ы. Хто напісаў?

С т а н і с л а ў. Сам не пахваліўся, дык хоць стрыечны брат здагадаўся паведаміць радню.

А д в а р д ы. А, звяга тая? Казюк?

С т а н і с л а ў. Хай сабе ён. А ты з гонару, што з рускай верай шлюб бярэш, нават пісаць нам, польскім, не захацеў. Добра ж ты, братка, робіш: на вяселле не запрашаеш...

А д в а р д ы. Не ведаю, як прымаць твае словы. Дык ты гэта, братка, на вяселле прыехаў?

Станіслаў *(насмешліва)*. Так... Хоць, тэго, і няпрошаны.

Адварды. Ну, і добра. *(Хапае самавар.)* Пайду папрашу гаспадыню наставіць. Зараз вып'ем, закусім...

Станіслаў. Чакай, чакай! Ці варта? *(Усміхаецца.)*

Адварды. Я зараз! *(Пайшоў з самаварам.)*

Станіслаў *(адзін)*. Пацеха! Але нічога, дам рады. Не будзе гэтага шлюбу. Вып'ем дык вып'ем. Слізчэй справа пойдзе... Сам выпіўкі дакладу...

Адварды *(прыносіць выпіўку і закуску, пачынае трактаваць брата)*. Зараз і Таня прыйдзе: ужо павярнулася, з самаварам там занялася... Балазе ж, братка прыехаў: і праўда — пагуляеш на вяселлі.

Станіслаў. У разе яно будзе, дык пагуляем.

Адварды *(наліваючы гарэлку ў чаркі)*. Будзь здароў, братка, і не кажы так: «У разе яно будзе». Напэўна будзе, ужо і запаведзі чытаюць.

Станіслаў. На здароўе! Будзь жа і ты здароў! *(П'е.)* А ў царкве?

Адварды. У царкве. Ці не ўсё роўна?

Станіслаў. Як на чый погляд, тэго... Ну, па трэцяй. *(П'юць.)* А ты ведаеш, братка, што ў нашае мамы цяпер вочы баляць дый баляць?

Адварды. Ды што ты? Чаго ж гэта? Даўно?

Станіслаў. Не дужа даўно, як Казюк ліст прыслаў. А баляць таму, што ад слёз не высыхаюць.

Адварды. Плача мама? Чаго ж яна плача?

Станіслаў. Эх, Адварды! Плача і плача, што маеш рускую браць.

Адварды. Ай, божа мой! Ну, што ты, Стасюк. Я ж невінаваты, што Таня рускай веры.

Станіслаў. Пі, братка, і мне налівай... Якое паскуднае імя: Таня!..

Адварды. Чым яно паскуднае? Наскае імя.

Станіслаў. А па-твойму — лепшае, чымся Ядзя або Стася?

Адварды. Ні лепшае, ні горшае: імя як імя. Закусвай, братка.

Станіслаў. Чаму сам не закусваеш? Гэта яна тут жыве?

Адварды. Але. Зайшоў да яе пасля працы... Сядзелі, гаманілі.

Станіслаў. Добрая ж яна штучка: да шлюбу прымае! Ха-ха-ха! І ты такую хочаш прывесці ў нашу хату?!

Адварды. Я жыць без яе не магу.

Станіслаў. А-а! Знацца, пакаштаваў салодкага мёду? Добрая справа! Вось будзе прыемнасць, як даведаюцца нашы кабеты...

Адварды *(п'яны)*. Што мне да таго, што скажуць нашыя кабеты? Але нашто ты траціўся на дарогу, браце?

Станіслаў. Каб ратаваць цябе. Няўжо ж ты яе возьмеш за сябе?

Адварды. Вазьму! Я кахаю... Калі не мне, дык болей нікому. Я на катаргу за яе пайду!

Станіслаў. Кінь гарадзіць. І не крычы, бо людзі пачуюць, аб чым гамонім.

Адварды. Я нікога не баюся, хай чуюць. Стась! Брат! Ведаеш? Я прапаў. Яна такая ласкавая, такая добрая... Яна дзеля кахання нічога не шкадуе... Яна сваёю слухмянасцю за душу мяне ўзяла. Жыць не хачу, калі шлюбу з ёю мець не буду.

Станіслаў. А ты ведаеш, братка, што і дзеткі твае па закону будуць ужо рускай веры? Як жа ты вочы ў касцёл пакажаш? Што табе, тэго, ксёндз на гэта скажа?

Адварды. Стась! Браце мой любы! Не рві майго сэрца на кавалкі. Як жа гэта можа быць? Цяпер нічога не парадзіш... Нашто было табе ехаць, га?

Станіслаў. А во — нашто... Бяры шапку, развітаемся з гаспадыняю, і па ўсім! Едзем!

Адварды. Куды? Куды ты мяне цягнеш? А Таня?

Станіслаў. Дамоў паедзем...

Адварды. Дамоў? А Таня? Шкада мне яе... Стась!

Станіслаў. А ліха на яе! Сама вінавата. Такіх тут многа: на вуліцы.

Таццяна *(прыходзіць з гатовым самаварам)*. Каго многа? Вось на гэта ўжо не спадзявалася. Не хацела пачуць, але пачула... *(Ставіць самавар на стол і апускае рукі.)*

Станіслаў. Чула, дык на здароўе, што даведалася праўды.

Таццяна *(са слязьмі)*. Адвардзік! Твой брат — і так на мяне кажа... А ты маўчыш.

Адварды *(п'яны)*. Таня! Эх! Разлучаюць... Бывай!

Таццяна. А, кідаеш... уцякаеш... Падманіў?! Адвардзік! Што ты? А? *(Плача.)*

С т а н і с л а ў. А ты важылася такая пайсці з ім да шлюбу?

Т а ц ц я н а *(глыбока пакрыўджаная).* Не ваша справа, такая ці гэткая. Што вы разбіваеце наша вяселле? Ці ж ён можа мяне пакінуць пасля ўсяго, што ў нас было?

С т а н і с л а ў *(збіраючыся выходзіць).* Маўчы ты... *(З пагардаю.)* Руская вера!..

А д в а р д ы. Бывай, бывай, радасць мая! Эх!! *(Стукае пляшкаю па стальніцы, налівае і п'е.)* Таня! Любая! Каханая! Вып'ем з табою апошні раз! Таня мая!

Т а ц ц я н а. Адварды! Няўжо ты кінеш мяне? Ты ведаеш, якую кідаеш, га? Адвардзік, ты выпіў... Ты абдумайся... *(Плача.)*

А д в а р д ы *(як дурны).* Ты — рускай веры... Я — польскай веры... Я невінават! Ты невінавата! Вып'ем, Таня! Не магу цябе кінуць...

Т а ц ц я н а. Адвардзік мой! Не кідай мяне, не кідай... *(Плача.)* Мы ж землякі, мы ж свае... Што ты ў касцеле, а я ў царкве? Я ж такая руская, як ты паляк. Каго ты слухаеш? Ты выпіў... Ты праспішся, абдумаешся...

С т а н і с л а ў. Ну, паненка! На́ табе адступнога! І адчапіся ты ад нашае галавы. І табе лепей, і нам лепей... *(Доўга поркаецца ў партманеце.)*

Т а ц ц я н а *(з агідаю).* Што мне вашы грошы? Што я — прадажная?

А д в а р д ы. Кінь, Стась! Яна гарда́я! Не возьме. Эх, зарэзала ты мяне, Таня!

Т а ц ц я н а *(на Станіслава).* Я вам не дарую гэтай знявагі. Я ў суд падам!

С т а н і с л а ў. Ха-ха-ха! У суд! А чым ты давядзеш, што з ім першым гэтак? А я табе ўсё давяду.

Т а ц ц я н а. Я... я сваім фабрычным пажалюся... Яны вам пакажуць, як крыўдзіць дзяўчат, вяселле разбіваць...

С т а н і с л а ў *(падносіць ёй пад вочы кулак).* А гэта бачыла? Я сам добры хуліган.

Т а ц ц я н а *(знямогшыся).* А ты, Адвардзік, маўчыш? Што мне рабіць? Божачка ты мой... *(Кідаецца тварам на падушку і плача.)*

С т а н і с л а ў *(на Адварда).* Хадзем! Грошы кладу на стол.

А д в а р д ы *(п'е).* Эх! Колькі ж гэта, браце, будзе табе каштаваць? І тут, і дарога... А ўсё за мяне! Усё за мяне! І Таня плача за мяне! Эх! Таня! Не плач! Разлучымся па-

добраму... Загубіла нас неаднакавая вера! Эх! Танічка! Таццянка!

Т а ц ц я н а. Не руш мяне.

А д в а р д ы. Э-эх! *(Цяжка ўздыхае.)* Ну, што ж? *(Цалуе яе ў галаву.)* Бывай! Дзякую табе. Не гневайся. Не плач, Таццянка!

С т а н і с л а ў *(надзяе шапку)*. Паплача дый перастане. Наша мама цяпер, можа, не гэтак плача. Хадзем, хадзем, Адварды! Ну! *(Цягне яго.)*

А д в а р д ы. У-у!! *(Безнадзейна махае рукою.)* Няшчаслівая мая доля... Бывай, мая першая і апошняя любоў! Бывай!

Т а ц ц я н а *(раптам усхопліваецца, кідаецца за ім, хапае за рукі, валіцца да яго, абвівае яго)*. Адвардзік! Даражанькі, любенькі, каханенькі! Няўжо ж ты кінеш? Няўжо ж ты не вернешся? Любы мой, пашкадуй мяне!

А д в а р д ы. Э-эх! *(Туліць яе.)* Не адна вера! Што рабіць?

С т а н і с л а ў *(на Таццяну)*. Адчапіся ты, смала! *(Адштурхвае дзяўчыну, а брата цягне за сабою.)*

Т а ц ц я н а. Пайшоў, кінуў... А калі не вернецца? Галовачка мая бедная! У нядзелю вяселле мелася быць... Во якое выйшла вяселле... *(Хапае недапітую бутэльку і п'е набгом.)*

# КАМЕНАЦЁС

У беднай рамесніцкай хатцы на ўскрайку горада. Сядзіць м а л а д з і ц а, нешта шые і падкалыхвае дзіцянё ў калысцы. Прыходзіць д з я ў ч ы н а, яе суседка-таварышка.

Д з я ў ч ы н а. Добры дзень табе! Забегла мімаходзь на часінку. Ведаеш: нудна ўвесь час у сваёй хаце.

М а л а д з і ц а. Пасядзі, Мар'ічка. І то нешта рэдка бываеш. Хоць мне троху павесялее.

Д з я ў ч ы н а. Некалі. Шыем дужа многа. А Настуля ўжо ў нянькі да паноў нанялася.

М а л а д з і ц а *(узрадавалася)*. Знайшла-ткі службу? Чаму ж ты адразу не казала? Ну, балазе знайшла. Колькі ж плоцяць?

Д з я ў ч ы н а. Тры рублі на месяц і на ўсім гатовым.

М а л а д з і ц а. Балазе столькі. А як жа яна з сваім малым?

Д з я ў ч ы н а. Мы казалі, каб у нас пакінула, а яна хоча, каб аднэй такой бабе аддаць, што чужых дзяцей гадуе. У яе штук дзесяць такіх дзяцей. Два рублі ў месяц бярэ.

М а л а д з і ц а. Ць, аяй! Цяжка ж сваё маленькае ў чужыя рукі аддаваць.

Д з я ў ч ы н а. Вядома. А яна не хоча ў нас пакінуць, бо, кажа, нам толькі прыкрасць.

М а л а д з і ц а. Ганарлівая дужа Настуля. А таго, можа, не ведае, што поеныя, ды чужымі рукамі, рэдка гадуюцца — паміраюць.

Д з я ў ч ы н а. Дык вядома. Але што ж рабіць? А я так, ведаеш, думаю, што найлепей зусім замуж не йсці. Гэтак жа цяжка дзеткі гадаваць. Я, здаецца, нізашта не пайду.

М а л а д з і ц а. Ах, мая ты Мар'ічка! Як прыйдзе твая часіна, дык і не падумаеш, цяжка ці не. Як у той прыказцы гаворыцца: горка рэдзька, ды ядуць, цяжка замужам, ды йдуць... А што цяжанька гадаваць, дык цяжанька. Некалі і ў мяне во такія кругленькія ды высокенькія былі!

*(Датыкаецца да дзяўчыніных грудзей.)* А цяпер — што ад мяне засталося? Ніхто і не скажа, і веры не дасць, што ўсяго ж толькі сёмы гадочак замужам. Траіх як пахавала ды гэтага на свет як прыняла, дык і ўся мая песня спелася.

Дзяўчына. Што ўжо табе шкадаваць! Усе так... *(Абглядаецца.)* А дзе ж гэта вашы?

Маладзіца. Мой жа каменне на шосы б'е. А бацька на рынак сядзець пайшоў... Ды што ён там з хвораю сярдзінаю ўтаргуе. Адно званне, што сядзіць, таргуе... *(Бачыць у акно мужыка.)* А во... ідзе ўжо мой абедаць.

Каменацёс *(гадоў 28, а можна даць і 35. У скураных апорках, але поверх іх накручаны анучы і абвязаны вяроўвачкамі: так мякчэй трымаць каменне)*. Ну, здароў вам! Прыйшоў падмацавацца троху. Замарыўся. Каменне гэтае пярэш-пярэш, усе рукі і ногі пазбіваў. Аж і Мар'ічка тут! А! Як жа, дзеўка, маешся? *(Мые і абціраe рукі.)*

Дзяўчына. Мадзеем патроху. Ні лепей, ні гаршы́.

Каменацёс. Відаць, відаць. Вось некалі і ў мае маладзіцы такія шчочкі былі. *(Цалуе дзяўчыну, а яна адбіваецца.)*

Маладзіца. Ну-ну! Маеш каго цалаваць. На другіх не зазірайся.

Каменацёс. А чаму не, калі яна здаровая, вясёлая?..

Маладзіца. Паглядзі ты на сябе. У чым дух трымаецца: скура ды косці, вочы зусім праваліліся...

Каменацёс. Што ж? Пры нашай рабоце каб хунт сала ў дзень, а то што...

Дзяўчына. А як жа ў вас цяпер з работаю?

Каменацёс. А так, як ты сама казала: «Ні лепей, ні гаршы́». Працуем гадзін 12—14 у дзень. Я набіваю адну кучку дробнага камення... на паўрубель выганяю. А ўчора прыйшоў адзін новенькі — не ўмее біць. Трэба па слою, слой трэба шукаць, а ён плешча, як баба пранікам плацце. Б'е, б'е, з духу выб'ецца, сядзе і думае. Вось і я некалі не ўмеў, дык за тры дні ледзьве адзін грудок набіваў. Цяжка!.. А вось навіна будзе ў нас: машыну такую прывязуць, што каменне драбніць.

Маладзіца. А-яй! Дык гэта ж без работы людзі застануцца. А ён цешыцца з гэтае навіны!

Каменацёс. І цешуся! Праўда, можа, і я на нейкі час без працы застануся, але нічога: другую працу знайду. Затое ж не будуць людзі сілу дарма губіць, б'ючы каменне

рукамі. Я помнік наставіў бы таму, хто гэтую машыну выдумаў.

М а л а д з і ц а. У цябе ўсё выдумкі. *(Да дзяўчыны.)* Ведаеш: надоечы выдумаў, што некалі дзяцей ад матак будуць адбіраць і аддаваць у такія прытулкі, дзе іх гадуюць.

Д з я ў ч ы н а. Ого! Наша Настуля аддала б свайго, але ж во і ты казала, што паміраюць там дужа дзеці.

К а м е н а ц ё с *(сядае за стол і рэжа хлеб).* Э, не тое вы кажаце. І так цяпер шмат памірае. А я думаю, каб людзі і не ведалі зусім, хто чый бацька, хто чыё дзіця, дык не было б крыўды сіротам, не было б такіх слёз па родных, як цяпер.

М а л а д з і ц а *(наліваючы яму есці).* От, выдумляннік! Б'е каменне, маўчыць праз цэлы дзень, дык выдумвае немаведама што. Хто ж гэта, якая маці адрачэцца ад свайго малога?

К а м е н а ц ё с. А ты, Мар'ічка, што скажаш?

Д з я ў ч ы н а. Нешта я не ведаю, як гэта што... Ат, я замуж ніколі не пайду... Да хаты во пайду ўжо... *(Смяецца.)*

М а л а д з і ц а. Пагуляй, Мар'ічка! Ты яго не слухай, мала што ён пляце.

К а м е н а ц ё с. Праўда, праўда... А то — я ў хату, а ты зараз за парог.

Д з я ў ч ы н а. Бо не трэба цалавацца... Дый пры жонцы! *(Смяецца.)*

К а м е н а ц ё с. Пры жонцы? *(Усе смяюцца.)* А чаму не можна пры жонцы? Але ж не хочаш, дык не буду. Не буду цалавацца, толькі так буду любавацца.

Д з я ў ч ы н а. Не прасмяхайце ўжо... калі я непрыгожая. Ну, пайду. Бывайце здаровенькі! *(На дзіця ў калысцы.)* У-у, міленькі! *(Выходзіць.)*

К а м е н а ц ё с. Эх, дзяўчына! Самой бы пара гэтакага міленькага мець. А як бедная, дык жаніхоў няма, а толькі «міленькага» падкінуць ёсць даволі. *(Есць поліўку, паважна і старанна жвучы чэрствы хлеб.)*

М а л а д з і ц а. А ў цябе вока на яе гарыць! Паўважаўся б хоць хлеба-солі.

К а м е н а ц ё с. Не, галубка. Гарыць, але ад працы. А ёй прыйшла пара дзяцей радзіць, ды па беднасці мусіць паставаць... *(Смяецца.)* Што, няпраўда?

М а л а д з і ц а *(сумна).* Як памру — тады бяры Мар'ічку за сябе.

Каменацёс. Ай, кінь сама плот гарадзіць... Усе памром. *(Весялей.)* А я вось часам думаю сабе: жыву я, жыву, каменне гэтае пяру-пяру... Дзяўчына падабаецца — пацалаваць няможна. Сала хочацца — купіла няма... Каб ты здаровая была, хачу — накарміць добра не магу... І ўсё жыву, і ўсё хочацца, каб даўжэй на свеце жыць. І чым болей хочацца жыць, тым весялей жыць... Усё ж ткі добра жыць на свеце!

Маладзіца. А мой во бацька ўсё смерці просіць...

Каменацёс. Ага! Што ж гэта ён — ізноў на барахолку пацягнуўся? І ахвота старому.

Маладзіца. Усё бядуе, што хлеб наш есць. «Можа, што ўтаргую»,— кажа.

Каменацёс. І колькі ўжо я прасіў яго: не думай, што наш хлеб ясі, кінь мардавацца з гэтым таргаваннем.

Маладзіца. Вядома ж. На тым тыдні сваіх паўрубля пратаргаваў. Але цяпер ён у Шмульзона памагачым. Шмульзончанка хварэе ўсё, дык Шмульзону і ў будцы сядзець няма часу.

Каменацёс. Добрая дзяўчынка — Шмульзонава дачка. Прыгожая, вучоная, з кожным простая і вясёлая. А вось хіба памрэць ад сухот. Шмульзон, бедны, усё плача ды моліцца, моліцца ды плача. А я думаю: ну што ж,— усе памром... Адзін раней, другі пазней. Вось як выдумаюць такую хітрую машыну людзей лячыць, як выдумалі машыну каменне біць, дык менш будуць людзі плакаць ды маліцца. Эх, жонка! Хочацца жыць, толькі яшчэ нядобра ідзе жыццё пакуль што. А ўжо нам лепей жыць, чым нашым дзядом было, а ўнукам нашым лепей будзе, чым нам цяпер.

Маладзіца *(смяецца)*. Толькі ж цалавацца з дзяўчатамі пры жонках не будуць, як ты сабе ні кажы. Ці пад'еў, ці яшчэ падліць?

Каменацёс. Не, ужо досыць. *(Жартуючы.)* Цяпер усё каменне ў пух разнясу!

Маладзіца *(пад'еўшы, хрысціцца)*. Разнясеш, асілак! Пераксціў бы лоб па абедзе, бязбожнік!

Каменацёс. Не, жонка... Давай лепей пацалуемся. *(Цалуюцца.)*

# ЧЫРВОНЫЯ РУЖЫ

**(Чатыры абразкі мінулага жыцця)**

У чорнай цямноце віхор вечных прастораў.

Там раскашуюць і смяюцца, і там церпяць і плачуць.

І там няведамая здань бродзіць і бродзіць, шэпча і шэпча: «Паўстань... паўстань... паўстань, праклящцем катаваны...»

І троху-патроху ўздымаецца глухі гоман і тупат агромністай грамады людзей... Нехта, як шалёны, з вялікаю злосцю галосіць: «Адвеку мы спалі!..» Нехта, як непрытомны ад вялікага імпэту, падпявае: «І нас разбудзілі!..»

Гукі ўсё дужэюць, дужэюць...

І раптам разлягаецца песня, дужэйшая за ўсё тое, што было чуваць дагэтуль. Усё заглушае новая мелодыя, бадзёрая і прыгожа-вялікая:

Паўстань, праклящцем катаваны!..

А сумныя вятры вечных прастораў шумяць-шумяць...

## I

## «НЕХ ЖЫЕ ПОЛЬСКА!»

Дзеецца святочным днём улетку, у карчме. Грамадка с я л я н, старых і маладых, скачуць, гуляюць — спраўляюць вяселле...

Голас з вуліцы: «Уцякайце! Уцякайце! Пан з аканомам ідуць! Гайдукоў вядуць!»

Усе, закрычаўшы: «Уцякайма! Уцякайма!» — разбягаюцца хто куды. У каморы застаецца адзін Л е й б к а і мітусіцца туды і сюды... Прыходзіць п а н, аканом з бізуном, на прозвішча Н я в о л ь с к і, а з імі — гайдукі ў белых халатонах з дубцамі. Лейбка доўга і нізка ўкланяецца.

П а н. А, хамы! А, быдла!

Н я в о л ь с к і. Усе разбегліся хто куды, ласкавы пане!

П а н. А, галганы! А, пся крэў! А, гультаі! Вольніцу пачулі!.. *(На аканома.)* Пан Нявольскі, добра ты ім казаў, каб па абедзе, як адзвоняць у касцёле, пшаніцу вазілі?

Н я в о л ь с к і. Добра казаў, ласкавы пане! Прасіў і пагражаў... Свята, кажуць. Разбягаюцца хто куды і не слухаюць.

П а н. А бізун на хамаў? А гайдукі мае? А дубцы на хамаў?.. Пан Нявольскі, які ты ў мяне аканом?!

Н я в о л ь с к і. Што ж я супроць іх усіх зраблю, ласкавы пане, калі ўсе не слухаюць?

П а н. Хто ж у іх завадэвуш?

Н я в о л ь с к і. Ды ўсе, мусіць, змовіліся, ласкавы пане! Мацей... Сцяпан... Дзяцей сваіх, з панскае волі, шлюбуюць...

П а н. А дзе ж гэтыя старыя падлы? Паклікаць мне іх зараз! Нагаямі іх пашлюбую! Да абеду мусілі вяселле скончыць, а па абедзе пшаніцу вазіць. А, пся крэў! Прывядзі іх, пан Нявольскі, зараз сюды!

Н я в о л ь с к і. Слухаю, пане ласкавы! *(Нізенька ўкланіўшыся, пабег.)*

П а н *(сеўшы)*. Кухаль мёду, Лейбка! Маеш добры?

Л е й б к а. Найлепшы, яснавяльможны паночку!

П а н. А што ў цябе тут хлопы рабілі? Што яны пра вольніцу казалі?

Л е й б к а *(падае кухаль мёду)*. Хочуць вольніцы, яснавяльможны паночку. Мацей, Сцяпан пра вольніцу гаманілі, а што — добра не ўчуў, яснавяльможны паночку.

П а н *(п'е мёд)*. А, ты не ўчуў? Патураеш хлопам, дурню Лейбка! А скачы-ка ты мне свае жыдоўскія скокі, глухі дурню! Зараз! Пся крэў, нагаямі вольніцу задам!

Л е й б к а. Уй, скачу, скачу, пане яснавяльможны! *(Прысілена вырабляецца перад панам, а пан злуецца і смяецца, адганяючы клопат.)*

Ідзе з М а ц е е м і С ц я п а н а м Нявольскі, а за імі іншыя старэйшыя сяляне.

П а н *(на Нявольскага)*. А дай, каханку, мне твайго бізуна! *(Бярэ бізун.)* А ходзьце бліжай, хамы! А ходзьце, мае дзеткі! *(Б'е Мацея па плячах.)*

М а ц е й *(валіцца на калені)*. Даруйце, паночку!

П а н *(на Сцяпана)*. А ходзь, мой Сцяпане! А вось вам вольніца, старыя дурні! *(Б'е Сцяпана.)*

С ц я п а н *(таксама валіцца на калені)*. З-пад шлюбу сёнейка нашыя дзеткі... Якое без людзей вяселле? Усе засталіся, загуляліся... Даруйце, паночку!

П а н *(да іншых сялян)*. І вы загуляліся, дзеткі? А ходзьце ж сюды бліжэй, хамы! *(Трасе бізуном.)*

С я л я н е:

— Мы што? Мы нічога, яснавяльможны паночку!

— Мы пойдзем на жніво, яснавяльможны паночку!

— Даруйце, яснавяльможны паночку!

П а н *(на аканома)*. Пан Нявольскі, каб усе зараз вазілі пшаніцу! А Мацею і Сцяпану дайце па дзесяць вольніц на стайні для добрага прыкладу!

М а ц е й *(жаласна)*. Паночку залаценькі! Даруйце маёй старасці... Я перайшоў гады...

С ц я п а н. Паночку даражэнькі! І мне той год ідзе, калі інвентарным статутам забараняецца сячы старога... Змілуйцеся!..

П а н *(з вялікай злосцю б'е іх бізуном па плячах)*. А вы мне яшчэ пра статуты гаўкаць будзеце? Вось вам тут статут і канступацыя! Пан Нявольскі! Па дваццаць вольніц усыпце старым дурням! А, якое паскудства! Вольніцу пачулі!..

Неспадзявана з'яўляецца н а ч а л ь н і к ад польскага падпольнага рэвалюцыйнага ўраду.

Н а ч а л ь н і к *(да сялян)*. Выйдзеце і пачакайце. *(Да пана.)* Маю да пана важную справу...

П а н *(важна)*. А хто пан такі?

Н а ч а л ь н і к. А вось, пане, хто... *(Дастае з кішэні і паказвае паперу.)* Хай усе выйдуць і пачакаюць! *(Загадна ківае на ўсіх рукою.)*

П а н *(усхопліваецца)*. Ах! Езус, Мар'я! Пане найдаражэйшы! Вон! Усе вон! І Лейбка вон! І пан Нявольскі выйдзі! *(Усе выходзяць.)*

Н а ч а л ь н і к. Так, пане! Я — начальнік ад нацыянальнага ўраду на ваш павет...

П а н *(трасе яго за рукі, скача ля яго)*. Ах, каханы пане! Пане найдаражэйшы! Мілы госцю! Як жа наша святая справа? Ах, пане... Пойдзем жа да палацу!

Н а ч а л ь н і к *(сеўшы)*. Тут лепей. Проша пана сесці і слухаць... *(Пан сядае ў трывозе.)* Пан мае даплаціць дадатковае ахвяры на справу сто тысяч злотых, сабраць як мага болей валанцёраў і зараз абвесціць хлопам ад імя нашага ўраду скасаванне паншчыны на вечныя часы...

П а н. Ой, пане!.. Скасаванне паншчыны?!

Н а ч а л ь н і к. Не перапыняй, пане! Вялікая рухаўка тут у вас пачынаецца за колькі дзён. Нашы аддзелы з'явіліся ўжо ў панскіх лясах. Маскалі, як нам вядома, таксама сунуцца сюды з нямалай сілаю...

П а н. О, Езус, Мар'я!

Н а ч а л ь н і к. Не перапыняй, пане! Польска паўстане з мёртвых, хоць далей нам будзе значна цяжэй. Беларусы

блага разумеюць нашы мэты. Трэба пацягнуць іх ласкаю. Трэба зараз абвесціць ім, пане, вольніцу ад польскага нацыянальнага ўраду...

**Пан.** Але ж, пане, гэтак толькі мовіцца?.. Хлопы застануцца нашы?

**Начальнік.** Проша пана, то не ёсць жарты. У паўстаўшай з мёртвых Польшчы паншчына не павінна быць. Пан — стары чалавек, то пан іначай мысліць. Але то ёсць для нас ганьба перад усёю Еўропаю, пане! Вольніцу мусім абвесціць. Хай пан сам гэта зробіць. Зараз, тут жа, пры мне!

**Пан.** О, Езус, Мар'я! Я не магу! Я сам не магу! Хай пан камісар ім абвяшчае. Гэта пана камісара абавязак. Мала што можа змяніцца...

**Начальнік.** Сорам, ганьба! Я мушу павядоміць аб такіх адносінах да справы наш урад. Пане! Рэвалюцыйны ўрад не жартуе! *(Стукае па стальніцы далонню.)*

**Пан.** Пане камісар! Не зневажай, пан, старога патрыёта. Я ўжо заплаціў у часе першую складку... Яшчэ складу, колькі ўрад справядліва загадае... *(Са слязьмі.)* Але, пане... дзе ж возьмем злотых, як скасуюць паншчыну?

**Начальнік.** Як выйграем справу, высокі сойм зробіць свае справядлівыя пастановы... нікога не пакрыўдзіць. Панства абыватэльства будзе здаволена за свае ахвяры а цяпер мусім абвесціць хлопам волю!

**Пан.** Я... я... ну, але то яшчэ пабачым. Як пастановіць высокі сойм... Не можа ж быць, каб хлопаў і ў сойм пасадзілі...

**Начальнік.** Проша пана, няхай жа пан пакліча хлопаў.

**Пан.** Эй, вы, там! Пан Нявольскі, гукай, пан, усіх! Ходзьце, мае дзеткі, усе сюды! Ну!

Прыбягае Лейбка, прыходзіць аканом Нявольскі, Мацей, Сцяпан і іншыя сяляне.

**Начальнік** *(ціха, пану)*. Пане, у такім разе мушу ім адкрыць, хто я, але каб зараз былі коні, еду далей...

**Пан** *(таксама ціха)*. Добра, пане камісар, добра! Толькі абвяшчай, пан, вольніцу сам.

**Начальнік** *(голасна)*. Ціха, брацця крывічы. З вамі гаворыць маімі вуснамі сам высокі жонд найсвятлейшай Жэчы Паспалітай Польскай! Я — яго камісар на ваш павет, значыцца, начальнікам усяго вашага павету...

**Сяляне:**

— Ціха! Ціха!

— А што ж гэта з намі будзе?

— А што ж тут яшчэ за навіна?

Н а ч а л ь н і к. Браты мае! Крывічы! Наш высокі жонд выгнаў маскалёў з айчыны і абняў у ёй найвышэйшую ўладу. Яго імем, браты мае, я абвяшчаю вам на векі вечныя, моцна і непарушна, поўную волю! Паншчына касуецца назаўсёды! З гэтага часу вы — вольныя людзі ў вольнай, незалежнай найсвятлейшай Жэчы Паспалітай Польскай... Вольныя з вольнымі, роўныя з роўнымі!.. *(Сяляне з подзівам азіраюцца, іншыя штосьці мармочуць.)*

Л е й б к а. Нех жые Польска! *(Сяляне глядзяць на яго; аканом Нявольскі, зірнуўшы на пана, пакачвае галавою.)*

Н а ч а л ь н і к. Мы вас паклікалі сюды, браты мае, каб азнайміць вам гэтую радасную навіну... Маскалёў з Варшавы польскае валечнае войска, з боскай ласкі, выперла! Па ўсім крулеўстве шмат іх пабіла! Цяпер, браты мае, каб давяршыць звыце́ства і ўмацаваць дадзеную вам волю, нам трэба толькі перабіць і тых маскалёў, што могуць яшчэ знайсціся ў вашай мясцовасці.

П а н. Смерць маскалю!

Н я в о л ь с к і. Смерць! Нех жые Польска!

П а н. Нех жые Польска! *(Да сялян.)* Крычыце ж, мае дзеткі!

С я л я н е:

— Нех жые!

— Ды няхай жыве!

— Даруйце нам, паночку!

П а н. Дарую! Усё дарую! Нех жые Польска!

Н а ч а л ь н і к. Я спадзяюся, браты мае, што вы, забыўшыся ў гэтую вялікую часіну на ўсе старыя крыўды, сваркі, і звадкі, і ўсякія непаразуменні, дружнай грамадою пойдзеце ў вайсковыя аддзелы бараніць бацькаўшчыну ад агульнага нашага ворага. (...)

М а ц е й. Паночку! А што я маю спытацца... што я маю сваім дурным старым розумам ведаць: калі маскалі, крый божа, здужаюць нас... іх сіла вялікая... Паны, можа, паўцякаюць, а што мы ў той час рабіцьмем? (...)

Н а ч а л ь н і к. Глупства гародзіш, стары! Як усе дружна пойдзем, дык не здужае нас ніякая сіла.

Н я в о л ь с к і. Віват Польска!.. *(Зірнуўшы на Мацея.)* А здраднікаў мы за вяроўку ды на асіну!.. Віват Польска!

**Голас з вуліцы.** Ратуйце!!! Казакі з лесу лятуць!!!

Усе разбягаюцца хто куды. Чуваць зводдаль пара стрэлаў...

## II

## «ВОЛЬНІЦА» ПРЫЙШЛА

Цераз колькі год «вольніцы». Людзі пастарэлі, хто памёр, хто нарадзіўся. Усё перамянілася, адно болей, другое меней. Лета, як і тое, што было колькі гадоў таму назад. **Пан** сядзіць на ганку і чытае польскія загранічныя газеты. З-за будынку, з-за кустоў, час ад часу вытыркаюцца галавою без шапак **выбарныя**, але не важацца адразу падысці.

**Пан** *(кладзе газету на калені і ківае галавою)*. Нудна стала жыць на свеце! Прапала наша святая справа, не паўстала Польшча з мёртвых, і не цешаць мяне нашы загранічныя газеты. І ахвяры мае на руханку за ніц пайшлі, і паншчыны няма, і нуда на сэрцы... балазе я да лесу на старасці лецяў не хадзіў, а то і двор бы мой забралі б маскалі на скарб... Па заграніцах, без шэлега ў кішэні, мусіў бы цяпер бадзяцца, як гэтыя гарачыя галовы... *(Трасе газецінай.)* А колькі добрых паноў пазабівана, а колькі гіне — о Езус, Мар'я! А найгорш зрабілася з таго часу, як далі хлопам волю. Усім стала кепска жыць: і панам, і хлопам... Гаспадарыць болей не магу, не магу! Гаспадарка нялюбаю зрабілася... Вось бы толькі знайсці такога пасэсара, каб грошы наўперад за цэлы год даў, і паеду за граніцу адпачыць на водах... О-ох-ць! Да чаго дайшло: мой былы аканом, Нявольскі, хоча быць маім пасэсарам! Дае толькі па 5 р. 50 к., за паўгода ўсяго наўперад — дый то нешта не едзе. Мусіць, не можа гатоўкі знайсці. І яшчэ горш: хлопкі мае маняцца, чуў, прасіць у мяне ранды!.. Да чаго дажыло наша старое пакаленне: хлопы лезуць у панскія пасэсары! *(Убачыўшы выбарных.)* А хто там і чаго? *(Выбарныя з шапкамі ў руках нясмела падыходзяць, а тады, быццам па камандзе, цалуюць пану ў руку.)*

**Мацей.** Пахвалёны пан Езус Хрыстус, паночку!

**Сцяпан.** Дай божа здароўя нашаму пану!

**Мірон.** Пахвалёны пану залатому!

**Пан.** Навекі! А чаго ж прыйшлі, галубцы?

**Мацей.** Даруйце нам, дурным, паночку, але прачулі мы, што рачыце зямельку сваю ў ранду здаць.

**Пан.** Ну?

Мацей. Дык вось просім, вяльможны паночку, ад трох вёсак: я, Мацей, ад Мазалёў, а ён во, Сцяпан, ад Пяшчанкі, Мірон жа ад Балотнага Куту...

Сцяпан. Усім кагалам, знацца, лягчэй, паночку.

Мірон. Справа вядомая: ніводная вёска і пашы свае не мае. *(Ціха.)* Нарэзалі каморнікі, каб іх за жывот рэзала!

Мацей. Ціха ты, няўвага!

• Пан. А якая ж вашая цана, мае галубочкі?

Мацей. Пан наш, а мы ў яго ласцы: як пан па справядлівасці скажа, так яно і будзе. *(Ціха.)* Цалуйце ў руку! *(Усе па чарзе цалуюць.)*

Пан. Дык вось як, галубцы, хай будзе... Ворнай зямлі без пашы не аддаю... Па сем рублёў за ворную дзесяціну, а паша пойдзе ў дадатку... *(Мужыкі, уражаныя, рухаюцца.)* Тысяча дзесяцін, дык разам сем тысяч. Але, галубцы, з аднэй умоваю: грошы наўперад за цэлы год.

Мацей. За год?!

Сцяпан. Знацца, за год?!

Мірон. Жартачкі — за год!!

Пан. І то, галубцы, гэта толькі дзеля вас, як дзеля сваіх, за тое, што на гэтай зямельцы вы мне, а бацькі вашы маім бацькам паншчыну спрадвеку адбывалі.

Мацей. Ды ўсяго было, паночку... Але дзе ж нам, пане наш ясны, гэткія грошы адразу выбраць? Хіба якую чвэртку ці троха і болей маглі б пастарацца і наўперад...

Пан. Не, толькі так! *(Патроху ўстае.)* Дык вось галубцы, падумайце.

Мацей *(валіцца на калені ды цалуе пану ў руку)*. Паночку наш вяльможны! А можа, па пяць за дзесяціну?

Сцяпан *(таксама валіцца і цалуе ў другую)*. Паночку наш ясны! Чвэртку ці троху болей, знацца, і наўперад!

Мірон *(абшчапіў пана за калені)*. Паночак залаценькі! Змарнаваліся без пашы дашчэнту!.. Змілуйся!..

Пан. Годзе, годзе, галубцы! Цяпер жа не паншчына: я вас не прысілю, а вы мяне дужа і не прасеце. Мне ўсе грошы патрэбны зараз, а не чвэртка ці троху болей. Вось як аддам ранду Нявольскаму, дык пазнаеце тады! Ну, памоўце ж тут, галубцы, а я тым часам і вярнуся. *(Ідзе ў пакоі, а яны яму кланяюцца ўслед.)*

Лейба *(падходзіць адзаду і раптам да сялян)*. Уй, вы, дурныя мужыкі! Ці так трэба прасіць пана? Трэба і

сюды цмок! І туды цмок! І так яго за ножкі! І гэтак яго за ножкі! А вы стаіцё, як тыя таўкачы. Што гэта вы за выбарныя?

Мацей. А кінь ты, братка Лейба! Ужо ж было гэта ўсё, цалавалі туды й сюды,— няма рады.

Лейба. Цалавалі? Як вы цалавалі? Дрэнна цалавалі!

Сцяпан. Братка Лейба, дык што рабіць? Наўчы нас!

Лейба. Ну, слухайце сюды, пст! Вы толькі слухайце! Я вам наладжу пазыку. Дастанеце пяць тысяч... Ну! Можа, пан надумаецца — і схадней аддасць. Ціха! Ціха! Вы слухайце! Ну, аддасцё вы за гэта цераз год... ну, ну... сем тысяч. Ну? Што? Пст! Збожжам, пяньковю, семем... Ведаеце вы Алтара Шульмана з Шамава? Не?! Ой, нічога вы не ведаеце! А Нявольскі хоча вам перабіваць! Вы ведалі? Гэткаму пасэсару ўсякі пазычыць. Што? А трэба, каб ён вам не перабіў! Ну?

Мацей *(засмуціўся)*. Эй, нічога не будзе,— ён нам пераб'е. Такая ўжо наша доля...

Лейба. Ну? Што? Чаму?

Сцяпан *(безнадзейна)*. Дзе ж нам, сваце Мацею, з такім пасэсарам у перацяжкі гуляць! Не шанцуе нам, дый годзе!

Лейба. Як то не шанцуе? Ну? Што? Чаму?

Мірон. Вядомая справа: кляпнула наша ранда...

Лейба. Дзе там што кляпнула? Нічога яшчэ не кляпнула! Не трэба журыцца! Не трэба шкадаваць грошы на добры інтэрас! Што вы махаеце рукамі? Слухайце, ну! Пст! Дайце мне толькі зараз сто рублёў. Я зараз паеду к Мэндалю Пэўзнеру, ён радня Алтару Шульману і пахтарам у пана Нявольскага. Ну што, ну што вы махаеце рукамі і галавамі, як коні ў той прыпар? Што такое? Ну дайце семдзесят пяць, ну пяцьдзесят, нарэшце, рублёў! Мэндаль параіцца з Алтарам! Мэндаль так зробіць, што пан Нявольскі не будзе вам перабіваць... *(Гаворачы так, і ён, і ўсе патроху адходзяць ад ганку і хаваюцца за кустамі. Чуваць, як пад'ехала фурманка.)*

Нявольскі *(уваходзіць на ганак, сядае і абцірае пот)*. Трэба сёння скончыць справу. Не будзь я Нявольскі, калі не вазьму гэтай пасэсіі. Здаецца, выходзіць нішто сабе... Заплачу я па 5 р. 50 к. за дзесяціну. Усіх выдаткаў на аднэй ворнай дзесяціне буду мець у год, ну, найболей 25 р. Пашы тут у мужыкоў няма. Калі даваць ім пашу на адра-

бот ворнай зямлі, дык выдаткі ў мяне на адну дзесяціну будуць яшчэ меншыя. Разам з платаю за ранду адна ворная дзесяціна будзе мне каштаваць у год найболей 30 рублёў. Засею найменш 500 дзесяцін азіміны... Прыбытку буду мець рублёў 60—65 з дзесяціны. Чыстага зыску рублёў 30! Трыццаць на пяцьсот — 15 тысяч! Ну, хай нават 12 тысяч! Нішто, дальбог, нішто. Трэба сёння скончыць справу.

Пан *(выходзіць на ганак)*. А-а! Пан Нявольскі!

Нявольскі. Маё шанаванне пану, ласкавы пане!

Пан. А я тут з хлопкамі сваімі амаль не змовіўся. Мусіць, чакаюць на падворку.

Нявольскі. Э, проша пана! Якія з хлопкаў рандары на панскай зямлі!

Пан. А так, пане... слушна, слушна! Як жа пан Нявольскі намысліўся?

Нявольскі *(цвёрда гледзячы пану ў вочы)*. Як адразу за цэлы год наўперад, дык пяць, пане ласкавы, болей ніяк няможна!

Пан *(просячы)*. Э, пяць з паловаю, пан Нявольскі! Былы мой аканоме!..

Нявольскі *(сцюдзяней)*. Дзякую пану за былую ласку, але болей не магу!

Пан. Ну! Так будзе: пяць тысяч адразу — і ўсе выдаткі па справе за кошт пана пасэсара...

Нявольскі *(падумаўшы дзеля гадзіся)*. Э-э! Хай нам пан бог дае! Згода, пане!

Пан. Дай жа божа! *(Паціскаюць рукі.)* А скуль жа пан Нявольскі дастаў гэтулькі гатоўкі? Мусіць, у пана Нявольскага ёсць добры павер? *(Смяецца.)*

Лейба *(цішком падыходзіць і расплываецца ў немым смеху)*. А навошта ёсць у пана пасэсара Лейба, калі не шукаць паверу гатоўкі? *(Крычыць.)* Мацей! Сцяпан! Мірон! Выбарныя! Чаго вы тут стаіцё, як дурныя? Ужо няма што вам стаяць! *(Падыходзяць збянтэжаныя выбарныя, а пан Нявольскі і Лейба глядзяць на іх і смяюцца.)*

## III

## МАЕ ДЗЯДЫ — ГРАБАРЫ

Ноч улетку. Палатно яшчэ няскончанай чыгункі. Навакол — нізкае, мокрае, балотнае месца; куп'ё і карослівыя бярозкі. Воддаль — крыжы на пясчаных выспах. Бліжэй, на грудку, грабарскія буды

з усякага громазду і галля. Гараць чырвоныя ў цямноце агні: грабары вараць вячэру. Ціхі гоман... **К а с т у с ь**, грабар з інтэлігентаў-народнікаў, ідзе адтуль сумны, задуманы. Сядае на бярвенні і з болем азіраецца...

К а с т у с ь. Гэта не катарга ў Сібіры... Гэта не праца нявольнікаў-неграў на плантацыях у капіталістага... О, не! Гэта мой бедны, родны люд капае чыгункі ў чужым краі. Гэта ён, сам цёмны і дзікі, будуе цывілізацыю новых, светлых вякоў... Баліць мне, баліць!

Хлопцы мае маладыя, браты мае родныя! Як падраліся вашы світкі! Як сатлелі вашы кашулі! Як па-старэчаму сагнуліся вашы спіны маладыя! Выперліся косці, запалі грудзі, без пары пагаслі вочы... А-а, браты мае родныя! Будуем цывілізацыю...

Па махах, па балотах пабягуць цягнікі з культурнымі людзьмі, з багатымі таварамі. І хто там уздумае, і каму якая справа будзе да таго, што тут, побач з гэтаю слаўнаю чыгункаю, пахаваныя ў гэтых пясчаных выспах і гнілых балотах, тлеюць вашы косці?

Хіба толькі сумны, дзікі вецер прыляціць сюды з роднага краю і справіць сваім свістам і выццём вечныя хаўтуры... Заплача тут жальбою матак, жонак і сясцёр, стагнаннем дзетак з нашых курных, убогіх хат... Эх!

Д з я д у л я *(падыходзіць і ўглядаецца)*. Ці ты гэта, Кастусёк?

К а с т у с ь. Я, дзядуля, я...

Д з я д у л я. Што ж ты сядзіш тут адзін? Аб чым думаеш?

К а с т у с ь. Э, шмат чаго думаецца, дзядуля. Думаю, ці многа нас жывых вернецца адгэтуль... Думаю, што з нашае справы выйдзе...

Д з я д у л я. Як бог судзіць, так і будзіць.

К а с т у с ь. Эх, дзядуля, адвярнуліся ад нас усе багі. Самі мусім даваць сабе рады. А што там нашы хлопцы гамоняць, дзядуля?

Д з я д у л я. Хто што... Адны баяцца, другія кажуць, што лепей хай заб'юць нас казацкімі нагаямі ці вышлюць па этапу дамоў, пасадзяць у астрогі, чымся нам патроху гніць на зелязніцы.

К а с т у с ь. Ці хадзіў ты, дзядуля, да хворых?

Д з я д у л я. Быў. Сёння ізноў захварэла колькі чалавек на трасцу. Міранёнак, мабыць, не выкачаецца, сканае, бедны.

К а с т у с ь. Бедны хлопец!.. А што падрадчык?

Д з я д у л я. Ізноў падсылаў дзесятніка намаўляць, каб адракліся ад пададзенае скаргі, як прыедзе начальства на разбор. А то, кажа, усім будуць розгі, адных згнояць у астрозе, а другіх вышлюць па этапу і без грошы па сваіх хатах... Страшыць, ведама.

К а с т у с ь. А яшчэ што?

Д з я д у л я. Яшчэ кажа, каб цябе не слухалі, бо, кажа, ты ўмысля бунтуеш народ. Шыбельнікам лаіць цябе... Але ты, Кастусёк, не зважай: грамадою абстоім цябе... Справа наша агульная і справа справядлівая.

К а с т у с ь. Не, дзядуля, аба мне вы не клапацеце. Во што: трэба нам усім зараз параіцца, бо ўжо начою могуць прыехаць начальнікі. Трэба ж параіцца, як будзем казаць.

Д з я д у л я. Трэба, Кастусёк, трэба. Гукнём іх... *(Ідуць к зямлянкам.)*

М а ц я ё н а к і С ц е п а н ё н а к вядуць хворага на трасцу М і р а н ё н к а.

М і р а н ё н а к. Братулькі мае! Родненькія мае! Заб'ець мяне ліхаманка... Вязеце мяне дамоў. Кінем мы гэтыя заробкі. Не хачу тут гінуць на чужыне.

С ц е п а н ё н а к. Кінь ты, братка, абдумайся. Сядзь тут на чысцейшым паветры, аддыхайся троху. Ну што нам рабіць? Ну, як мы павязём цябе?

М і р а н ё н а к. Як хочаце, так і вязеце... Ратуйце мяне Ай, ратуйце мяне! Брахненькі родненькія!

М а ц я ё н а к. Пасядзі, браточак, супакойся! Можа, ачуняеш, свежае паветра...

М і р а н ё н а к *(калоціцца)*. Не — я тут не ачуняю. Не хочаце вы мяне ратаваць. Загінуў я тут з вамі... Вось вы якія...

С ц е п а н ё н а к. Не наракай, братка. Бацькі нашы адзін аднаго ў бядзе не кідалі, і мы ж цябе не кідаем.

М і р а н ё н а к. Дык ратуйце ж мяне. Ратуйце мяне, брахненькі! Заб'е мяне ліхаманка, ай, заб'е мяне яна...

М а ц я ё н а к. Як жа нам, братка, ратаваць цябе? Ну, хочаш: пайду заўтра ў горад, куплю табе сольных агуркоў. Яны памагаюць ад трасцы.

М і р а н ё н а к. Ай, не дадуць мне рады сольныя агуркі,— нашто ты будзеш дарма траціцца? Лішні толькі дзень прагуляеш. Вязеце вы мяне дамоў. Брахненькі родненькія! Вязеце мяне заўтра дамоў!

С ц е п а н ё н а к. Як жа мы цябе павязём? За што ж

мы купім білеты? Усё наўперад выбралі, за харч павылічана...

Мацяёнак. А што мы будзем рабіць, вярнуўшыся дамоў? Пасэсар у суд падасць за няўстойку,— чым заплацім? Прысудзяць розгі за няўстойку. Мусім нядоімку адрабіць, што ён паплаціў, пагнаўшы нас сюды.

Міранёнак. Ну дык што? Ну хай сабе абсякуць,— вялікая бяда! Ай, не хочаце выратаваць мяне. А вашы бацькі дружылі з маім бацькам. А вы — дык вось якія... Аяй! Вядзеце мяне назад у буду,— што мне ваша свежае паветра... Хай там сканаю, як сабака... Аяй-аяй...

Сцепанёнак. Ну, хадзі, братка, павядзём...

Мацяёнак. Пацярпі! Ну, можа ж, неяк ачуняеш... *(Вядуць яго ў зямлянку.)*

Ідзе грамада грабароў. Нястройны, трывожны гоман, спрэчкі, жальба. Нехта пачынае пяяць: «Чаму ж мне не пець, чаму ж не гудзець, калі ў маёй хатачцы парадак ідзець...» Другія спыняюць яго: «Ну ўжо! Паддаў ты нам весялосці сваёю песняю!.. Змоўкні ты, вясёлы!..» Усе атачаюць Кастуся і дзядулю.

Дзядуля. Браткі мае! Хлопцы родненькія! Вы ж самі выбралі мяне на свайго старасту... Ці верыце ж вы мне? Ці верыце вы маёй сівой галаве? Дык жа слухайце, што я скажу!.. Падрадчык вас падбівае, каб не верылі Кастусю. А што тут — Кастусь? І я вам, стары, тое самае скажу. Ці ж можна далей моўчкі гінуць тут ад голаду і пошасці? Але Кастусь святлейшы за нас! Вось ён параіць, як трэба начальству казаць. Верце яму, як мне, як кожны сам сабе. Ён не падасланы бунтаваць, ён добра нас навучае. Ён такі самы бедны мужык, беднага бацькі сын, як і ўсе мы,— адно, што пісьменны, настаўнікам быў у нас... За народ стаяў, за тое скінулі яго з настаўніцтва, зелязніцы капаць мусіў пайсці...

Кастусь *(перабіваючы)*. Браты! Справа не ў маёй асобе,— што я? Верце, не верце...

Грабары:

— Ды мы ж верым, верым!
— Дзядуля праўду кажа!
— Кастусь ліху павучаць свайго ж брата не будзе!
— Ат, мала што падрадчык брэша!

Кастусь. Дык годзе аб гэтым, браты! Час для нас дарагі: барздзжэй трэба ўсёю грамадою параіцца, што рабіць і як казаць, калі прыедзе начальства на разбор. Ці разлічкі вымагаць і адпраўкі дамоў, ці кінуць работу і не

пусціць другіх грабароў на наша месца, пакуль начальства не паслухае нашых справядлівых дамаганняў. Што рабіць? А начальства можа прыехаць з гораду і гэтаю начою, як падрадчык пагражаў. Шукаючы заробку ці за нядоімку запрадаліся мы, і пагналі нас аж у гэты чужы, далёкі ад нашае бацькаўшчыны край, будаваць чыгунку. І што ж выйшла? Паставілі нас насыпаць палатно ў вадзе, у гнілых балотах. Абходзяцца з намі так дрэнна, быццам мы горшы за ўсякае скаціны. Начаваць нас запіраюць сотнямі ў цесных ды брудных будах, нават без лавак, без сталоў, без пасцелі. Адны блохі нас тут пазагрызалі, казюлькі апанавалі, але аб гэтым ужо і спамінаць не будзем... А вось харч — самі ведаеце, які па ўмове дакляраваны, а які даюць? Хлеб з высевак, напалам з зямлёю ды апілкамі, варыва з гнілое капусты і з чарвямі...

Г р а б а р ы *(шумяць, крычаць)*.

— Ашукалі, абдурылі!

— Саміх бы іх пасадзіць на гэтую капусту!

— Мы ім не скаціна!

— Што гэта за парадкі!

К а с т у с ь. Увечары — ячная нішчымная каша напалам з мышынымі каўцюхамі — вось і ўся наша яда пры цяжкой грабарскай працы. Не дзіва, што многія сталі хварэць,— хто на трасцу, хто на гаручку, а ў каго дзясны гніюць... За тое, што галадуем, кожнаму ўвесь час баліць галава, як ад хваробы каўтуна. У балотах жа гніём!.. І ўжо колькі нашых таварышаў памерла без аніякай помачы...

Д з я д у л я *(са слязьмі)*. Цэлы могільнік на вачах тут вырас... *(Паказвае на крыжы і хрысціцца; другія грабары таксама хрысцяцца, здзеўшы шапкі.)* Як так далей будзе, усе тут ляжам, мала хто вернецца дамоў...

К а с т у с ь. Вось, браты! Мы і павінны ўсё гэта сказаць начальству, як прыедзе на разбор. Калі б прыехаў пракурор, то яму ўсё можна казаць не баючыся: ён усіх бароніць па закону. А калі будзем маўчаць, ніхто не паратуе нас, усе тут загінем.

Г р а б а р ы:

— Хто будзе ратаваць нашага брата?!

— З нас кожны толькі цягне!

— Каб яны свету не бачылі, як нас тут мучаюць...

— На загубу загналі нас сюды!

— Мы ўсё скажам! Пачакай!

К а с т у с ь. Яшчэ во што трэба сказаць: за кожны

прагульны дзень з нас вылічаюць рубля, а за работу плацяць па 25—30 капеек на дзень, і шмат хто з нас блізу нічога не зарабіў... як, прыкладам, і наш стараста дзядуля, і хворы цяпер на трасцу Міранёнак, і яго сябры — Сцепанёнак і Мацяёнак, і шмат хто...

Дзядуля. Хіба ж усе ведаюць, сярэдзіна мне балела, не мог выйсці на работу, а падрадчык за прагул лічыць...

Сцепанёнак. Праўда, праўда! Во Міранёнак прасіць мяне і во яго, Мацяёнка: «Вязеце, кажа, мяне дамоў...» А як жа мы павязём?! Мы яшчэ і паловы тэй нядоімкі не адрабілі, што пан Нявольскі паплаціў за нашых бацькоў у воласць, запрадаўшы нас сюды падрадчыку...

Мацяёнак. На сабе яго павязём, ці што?

Кастусь. А закона такога: штрафаваць хворых — няма. Яны не маюць права хворых штрафаваць. У другіх дзяржавах нават лечаць хворых на кошт падрадчыкаў, хто захварэе на рабоце.

Грабары:

— Ведама... А ў нас гэта што робіцца?

— Ці гэта закон?!

— Ці гэта права?!

— Ці мы гэта вінаваты, што хварэем?

Кастусь. Толькі, браткі, цвёрда стойце за сваё! Не бойцеся ніякіх пастрашак, кажэце начальству ўсё, як ёсць. Помніце: адзін за ўсіх і ўсе за аднаго...

Грабары:

— Ведама...

— Смокчуць нашу кроў...

— Мы ўсё скажам...

— Начальства разбярэць...

— Дойдзем справядлівасці, няпраўда!

Кастусь. Яшчэ адно... Толькі ведайце, што я не за сябе баюся, не за дзядулю... Але як стануць часам пытацца, хто вас навучаў, хто пачынаў,— кажэце, што ўсе разам, усёю грамадою надумаліся, бо не маглі далей маўчаць...

Дзядуля. Не бойцеся, хлопцы, калі мяне, ці Кастуся, ці каго яшчэ забяруць... можа, арыштуюць... Дабівайцеся свайго, а то ўся справа прападзе, і той, каго забралі, пагіне, і вы ўсе пагінеце.

Грабары:

— Што там аб гэтым казаць...

— Не дадзём нікога забіраць!

— Калі каго забяруць, не выйдзем на работу, пакуль не выпусцяць.

— Усе за аднаго і адзін за ўсіх,— гэта справядліва.

— Гэтак найлепей!

Да грамады грабароў едзе н а ч а л ь н і к каральнай экспедыцыі з казакамі і паліцэйскімі. Ноч яшчэ цямней здасцца, бо агні патроху гаснуць... Падрадчык, грубы, шырокі, у даўгаполым каптане, абшытым маскоўскім картузе, бяжыць з ліхтаром; за ім, з ліхтарамі ж, яго паслугачыя... Чырванеюць твары і рукі, а постаць — чорная, грамада — чорная... Коні тапочуць, а ўсё сціхае...

Г р а б а р ы:

— Едуць!

— Едуць!

— Стой жа, браточкі!..

— Не ўцякай ніхто!

— Усе разам, грамадою, дружна!

Н а ч а л ь н і к *(пад'язджае, гоцае з каня і падлятае да грамады)*. Вы... вы... што? Бунтавацца? Шапкі далоў!! *(Усе скідаюць шапкі.)* Дзе староста?

Д з я д у л я. Я, пане начальніку, стараста. Мы ж не бунтуемся, мы хочам.

Н а ч а л ь н і к. Назаві зачыншчыкаў!

Д з я д у л я. Пане начальніку! Якія ж зачыншчыкі? Мы ўсе...

П а д р а д ч ы к. Ваша сіяцельства! Ён — грабарскі стараста, а ў яго ў самога рыльца ў пушку... сам добры зачыншчык...

Д з я д у л я. Бо трэба ж народ бараніць, пане нач...

Н а ч а л ь н і к *(б'е яго поўху)*. А-а, ты народ бараніць? Абаронца бунтаўніцкі! *(Казакам.)* Забраць старога грыба! *(Казакі хапаюць дзядулю. Грабары маўчаць.)*

К а с т у с ь *(выступае наперад)*. Пане начальнік! Калі ласка, выслухайце нас па закону... Дзядуля не вінават...

Н а ч а л ь н і к. А ты што за ўказнік... мяррзавец?!

П а д р а д ч ы к. Ваша сіяцельства! Гэта і ёсць самы чарвяк... Ён точыць... З гэтых, з гінілістых... З настаўнікаў прагналі...

Н а ч а л ь н і к. Нігілісты? *(Б'е Кастуся па твары.)* Ррраастраляю мярзаўца! *(Казакам.)* Забраць! Налажыць наручнікі! Цар вам даў зямлю і волю, а вы не задаволены, вы супроць цара ідзіцё, супроць яго начальства, супроць парадкаў. *(Казакі хапаюць Кастуся і звоняць жалезам, накладаючы яму наручнікі. Грабары падаюцца назад.)*

К а с т у с ь *(наўмысля супакойна, але голас яго дры-*

*жыць)*. Завошта ж, пане пачальнік? Палсухайце, што ўсе грабары скажуць. З намі абыходзяцца не па закону.

Начальнік *(казакам)*. Пакказаць яму закоп, ссукінаму сыпу! Сто бізуноў! Марш! *(Казакі вядуць Кастуся і дзядулю.)* Я без агітатараў разбяру справу. *(Да грабароў.)* Выхадзі, хто мае прэтэнзіі! *(Ніхто не выходзіць.)* Ну? Выхадзі, не бойся, кажы без агітатараў, без падказкі, пу! *(Усе маўчаць.)*

Падрадчык. Ваша сіяцельства! Гэта ўсё — літоўскія хахлы, дурны народ... *(Да грабароў.)* Ну што, хахлы, пойдзеце вы заўтра на работу? *(Усе маўчаць.)*

Начальнік. Што? Карова язык вам аджавала? Што маўчыцё, дуракі? Кажы, чым хто пе здаволепы? *(Б'е трэкам па сваіх траскучых вайсковых халяўках.)* Гэта што за паўзун?

Міранёнак *(паўзе ракам, хворы)*. Паночку залаценькі! Хворы я, хадзіць ужо не ўздолею... Пусцеце мяне дамоў!.. Забіла ж мяне тут ліхаманка! Хай мяне завязуць дамоў!.. Паночку любенькі, залаценькі!.. *(Ловіць руку, каб пацалаваць.)*

Начальнік *(да падрадчыка)*. Што такое?

Падрадчык. Ваша сіяцельства! Гэта — слабасільны, па прозвішча Міранёнак; ён просіцца дамоў з работы. Калі супроць скасавання яму штрафаў, па слабасільнасці, нічога мець не будзеце, ваша сіяцельства, я заўтра разлічу яго і выдам падарожны білет.

Начальнік. Слабасільны? Разлічыць і адправіць!

Міранёнак. А дзякую ж табе, мой паночак! А дай жа божачка пану здароўя!.. А можа, й Сцепанёнка з Мацяёнкам пусціце? Яны мяне завязуць, мы з аднае воласці, паночку...

Начальнік. Добра, добра! Заўтра разбяром, каго можна пусціць, каго — не. *(Да грабароў.)* Ну, што яшчэ каму? Га? Заяўляйце... скаты вы бязглуздыя! Бунтаўнікоў слухаеце? Чаго вам трэба? Хто вас прысіляў рабіць кантракты? Вы пагражаеце кінуць работу? Дарога будуецца для ваенных патрэб... мяррзаўцы! Хто адмаўляецца ад кантракту? Выхадзі! Пойдзе па этапу дамоў, а няўстойку з яго спагоняць у воласці... з гаспадаркі!

Голос *(ззаду, ціха, нясмела)*. Народ дужа перахварэў...

Начальнік. Гэтую справу да бога скіруйце.

Падрадчык. Па кантракту — мы не павінны іх лячыць.

Другі голас. Каб харч троху лепшы...

Начальнік *(да падрадчыка)*. Вы мусіце ім даваць па раскладцы.

Падрадчык. Па раскладцы і даецца, ваша сіяцельства!

Начальнік. Пакажыце мне пробу...

Падрадчык. Гатова, ваша сіяцельства! Сюды прынесці скажаце?

Начальнік. Пасля, пасля... *(Да грабароў.)* Дык чаго ж вы хочаце яшчэ? Вы слухаеце розных нігілістых, агітатараў, усякую дрэнь! Помніце: дарога будуецца для ваенных патрэб. За бунт — расстрэл. А што вам належыцца па справядлівасці — будзе зроблена... Ну, пойдзеце заўтра на работу?

Грабары:

— Ды як жа не пайсці?..

— Пойдзем...

— Ведамая справа...

Начальнік. Рrасходзісь па ззямлянках! *(Грабары моўчкі расходзяцца.)*

Міранёнак *(стогне)*. Дай бог яму здароўека! Адпусціў мяне... *(Сцепанёнку і Мацяёнку.)* Прасецеся, браточкі, і вы: пусціць...

Сцепанёнак *(бярэцца яго вясці)*. Хадзі ўжо... маўчы!

Мацяёнак. Пойдзем...

## IV

## ЧЫРВОНЫЯ РУЖЫ

Восень 1917 г. Вечар. Страўня ў доме садавода Нявольскага. Вокны глуха зачынены. На стале — самавар, лямпа з прыгожым шаўковым каптуром і вялізны пук незвычайна буйных харошых чырвоных руж. За сталом Нявольскі, гаспадар лецішчаў (дач) пад адным з большых гарадоў Беларусі; ён — садавод, росціць ружы і іншыя краскі; яшчэ не дужа стары, троху падобны да свайго нябожчыка бацькі, пасэсара Нявольскага, даволі самавіты і паважны пан-паляк. Адкінуўшыся ў фатэлі, чытае газету расійскае паступовае буржуазіі «Речь». Побач з ім — панна Марыня, яго дачка; слабенькая, кволенькая, паэтычная... Хінецца да бацькі і лістае то «Журнал Мод», то польскі часопіс «Tygodnik Ilustrowany».

Марыня *(настаўляе вуха к акну)*. Ізноў цягнік... Мабыць, воінскі з дэмабілізаванымі салдатамі.

Нявольскі. З трусамі, дэзерцірамі і марадзёрамі...

Марыня. А каторай гадзіне, татачка, мы заўтра выязджаем?

Нявольскі. Калі пакаванне скрынак будзе да вечара скончана, дык гадзіне а восьмай, як сцямнеецца, мы выедзем. *(Слухае таксама.)* Іх цяпер многа праходзіць розных...

Марыня. Каго, татачка?

Нявольскі. Цягнікоў, кажу, многа, дзетка, розных праходзіць.

Марыня. А, ну так... *(Паслухаўшы.)* Ведаеш, татачка, мне чамусь незвычайна прыемна слухаць шум ад цягніка позным вечарам у канцы лета ці ў сухія дні восенню. Так сумна і паэтычна — шуміць, шуміць, шуміць... Колькі ў гэтым шуме хараства! Аж неяк страшна робіцца: нейкі містыцызм з'яўляецца... Здаецца, гэта шумяць сумныя вятры вечных прастораў...

Нявольскі. Ты радзілася паэткай, Марынька! Толькі ўсяго трэба ў меру, нават паэзіі, каб не даходзіла да страху. *(Паварачвае і ахарашвае ружы.)*

Марыня. Дзякуй, татачка, за камплімент, але якая з мяне «паэтка», калі ў мяне і слоў такіх, што да паэзіі, няма. *(Абпраўляе ружы разам з ім, задумваецца і раптоўна прымае рукі.)*

Нявольскі *(устрывожана)*. Што табе, дзетка? *(Гладзіць яе дрыжачую руку.)*

Марыня *(туліцца да яго, аглядаючыся на акно)*. Даруй мне, татачка! Гэта ўсё мае нягодныя нервы.

Нявольскі. Акно зачынена акенніцамі, дзетка!

Марыня. Дык... наадварот... мне хацелася б яшчэ ясней чуць, як шуміць цягнік. Цяпер зусім сціхла: мабыць, цягнік прыйшоў на Нявольскую платформу. Ведаеш, татачка... Мне ўсё здаецца, што з адным з гэтых цягнікоў, якія так часта цяпер шумяць, прост адзін па адным, прыедзе наш Казя. А Казя цяпер так далёка...

Нявольскі. Я быў бы вельмі рад, каб яго плаванне на гэты раз спынілася і каб наш Казя пад час крызісу рэвалюцыі быў з намі. *(Нахіляе вуха ў бок дзвярэй.)*

Марыня. Вецер шумаціць асеннім лісцем... Ах, бедненькі наш Казя! Ён усё роўна не заспее ўжо сёлетніх нявольскіх руж... Да яго прыезду яны заснуць зімовым сном... *(Ізноў раптоўна прымае руку ад чырвонага пуку.)* Ружы заснуць...

Нявольскі. Што табе, дзетка? Ты расстроіла сябе ўспамінкамі. Хочаш, я вынесу ружы на веранду?

М а р ы н я. Не, татачка, не трэба. Прост, я падумала аб рэвалюцыі.

Н я в о л ь с к і. Рэвалюцыя... Не магу сабе даравацъ, што дзеля дагляду за ружамі мы засталіся тут аж дагэтуль. А галоўнае, што я хоць цябе адную не выправіў раней.

М а р ы н я. Усё адно я не паехала б без татусі. Дый дарма, татачка, цяпер сябе вінавапіш: бо забываешся на тое, што мы ўсё спадзяваліся, спадзяваліся, чакалі... *(Слухае, паслухаўшы, устае.)*

Н я в о л ь с к і. Дальш цягнік пайшоў...

М а р ы н я. А мне здалося, быццам на чым іграюць...

Н я в о л ь с к і. Можа, праезныя салдаты. *(Уздыхае.)*

М а р ы н я. Іграюць... і пяюць... А мне так сумна.

Н я в о л ь с к і *(устае)*. Ну, дзетка, спацькі ўжо пара. Ідзі кладзіся — і спі спакойна.

М а р ы н я *(кладзе яму рукі на плечы)*. І ты, татуся, не сядзі! Ідзі адпачываць і дакляруй мне, што таксама будзеш спаць спакойна.

Н я в о л ь с к і. Добра, дзетка, добра. Дабранач! *(Цалуе і задумаўся.)*

М а р ы н я. Дабранач, татачка! *(Таксама, цалуючы бацьку, мімаволі задумалася і прыслухалася.)*

Н я в о л ь с к і і М а р ы н я *(разам)*. На гармоніку дзесь іграюць... *(Развітваюцца яшчэ раз.)* Дабранач! Дабранач! Спі спакойна! Спі спакойна! *(Марыня выходзіць, пасылаючы з дзвярэй пацалунак; пан Нявольскі застаецца — задуманы, шархаючы апушчаную газетаю.)*

Н я в о л ь с к і. Рэвалюцыя!.. Так... Доўгачаканая, жаданая... Мне няма чаго баяцца тутэйшага народа — маіх ціхіх, спакойных беларусаў. Дваццаць год з гакам жыву я тут з імі ў суседскай прыязні і згодзе. Дваццаць год!.. Праўда, калі я быў яшчэ хлапчуком і студэнтам, а бацька, хай свят ляжыць, дзяржаў тут у старога пана пасэсію, можа, і былі яшчэ якія крыўды. Але тады ж і час такі быў. Можа, бацька-нябожчык часам лішне дорага браў з мужыкоў за пашу. Можа, часам і судзіўся за няўстойку, калі плаціў за іх нядоімкі ў воласць і ад сябе кантрактаваў іх падрадчыкам капаць зелязніцы ў чужым краі, а яны ўцякалі адтуль, спалохаўшыся цяжкай працы... Можа, нават даходзіла калі да розаг па суду... Але ж судзіў валасны суд, самі ж мужыкі каралі нядбалых, гультаёў і п'янчуг. Не думаю, каб даходзіла калі да поўнае нормы — 19 розаг. А пасля, як бацька памёр і я ад-

роксся ад гэтых пасэсій, і заняўся садаводствам, і збудаваў гэтыя лецішчы,— не рабіў я ім ніякае крыўды. А ці ж я не памагаў ім у страшныя гады, калі збяднелы народ цярпеў ад недароду ці ад пошасці? Ніколі, ніводнага разу не параіў я ім перасяляцца на Амур і памагаў няшчасным, якія варочаліся адтуль назад на раскіданыя гнёзды. Чырвоным лічыла мяне начальства ў бурны 1905 год. Сам я жадаў, каб прыйшла яна, рэвалюцыя, каб паўстала з мёртвых мая многапакутная маці-Польшча, каб з ёю разам аджыўся і гэты бедны Забраны Край і каб згінуў навекі гэты здзек над вольнай асобай чалавека ў Расіі, гэтае праклятае царскае самадзяржаўе... А цяпер! Цяпер... Вось яно спраўдзілася, маё жаданне, і я... і ў душы маёй нейкія падрахункі і страхі... Мне сумна і страшна!..

Выходзіць у белым капоце М а р ы н я і кідаецца з наўмыснай вясёласцю к бацьку.

М а р ы н я. Ну, чаму ж, татачка, не пайшоў яшчэ спаць? Татачка не павінен смуціцца! Мы заўтра выедзем. *(Маўчыць троху.)* Заўтра ж, татачка, выедзем. *(Даўжэй маўчыць.)* Калі б нават што... калі б нават што здзеілася... *(Нявольскі нервова здрыгаецца, яна палахліва кінула вачмі.)* Сёння ж тут яшчэ начуюць некаторыя нашы летнікі *(дачнікі)*. З намі наш верны слуга Ясь. Вось яшчэ дзесь іграюць і гамоняць...

Н я в о л ь с к і *(думаючы сваё)*. Так, яшчэ іграюць і гамоняць, Марынька...

М а р ы н я. Урэшце, калі б сюды зайшлі якія праезныя здэмабілізаваныя, я выйшла б наўперад, стала б вось так... *(Становіцца як для прамовы.)* Узяла б за руку свайго татуську і сказала б ім... *(Нявольскі стаіць пануралы.)* Таварышы! Хай жыве рэвалюцыя! Шапкі далоў! Вы бачыце перад сабою чалавека, які скрозь цэлае сваё жыццё стаяў за прыніжаных і зняважаных, хацеў волі і долі простаму люду...

Н я в о л ь с к і. Ну, Марынька! Не канфузь мяне.

М а р ы н я. ...Які ўсімі сіламі свае душы хацеў вызвалення вольнай асобы чалавека ад старога рэжыму, ад здзеку і ўціску!.. *(Нявольскі вышэй паднімае галаву.)* Які змагаўся за ідэалы, за культуру...

Н я в о л ь с к і *(горка)*. Марынька! Яны не зразумеюць цябе. Скажы ім лепей аб хлебе і аб міры...

М а р ы н я *(са слязамі)*. Таварышы! Вы бачыце перад сабою таксама бацьку, сын якога, мой мілы братка

Казя, за якога мы маем поўнае права на пашану і гонар, бароніць Расію ад ворага, як і вы, хоць ён паляк, а не расіец... *(Узнервавалася.)*

Н я в о л ь с к і *(шчыра)*. Эх, ляпей бараніў бы ён цяпер айчызну Польшчу, што паўстае, бы Лазар з мёртвых... Ну, Марынька, Марынька! Супакойся, дзетка! Выпі сцюдзёнае гарбаты... *(Поіць яе гарбатаю.)* Супакойся, супакойся!

М а р ы н я. Даруй, татачка! Я ўжо нічога... А калі ж гэта, татусю, так несправядліва: чаму рэвалюцыя карае не толькі вінаватых, але і зусім-зусім нявінных людзей. *(Уздыхае.)* Вось жа цябе, татачка, так шануюць усе тутэйшыя сяляне...

Н я в о л ь с к і. Рэвалюцыя, дачушка, слепа, як стыхія, як усякая навала. Яна не разбірае, ёй некалі разбіраць, хто вінаваты, хто нявінны. І нават тутэйшыя сяляне, Марынька, могуць шанаваць ува мне ці наогул, па-іхняму, у пане — добрага, справядлівага чалавека, але ад гэтага яны не перастануць ненавідзець усіх нас, усіх, хто так ці гэтак пан, хто смачна есць і чыста ходзіць, хто не з імі...

М а р ы н я *(угледзеўшыся ў чырвоныя ружы)*. Татачка! Але навошта кроў? Я не хачу!

Н я в о л ь с к і. Марынька, я вынесу ружы на веранду. Яны дражняць цябе сваім крывавым колерам. Ты, дзетка, супакоішся... *(Гладзіць яе па галоўцы.)*

М а р ы н я. Не, татачка, не трэба. Я вазьму сябе ў рукі. *(Слухае.)* Во ўсё яшчэ іграюць дзесьці, нават як бы крычаць, ці што...

Н я в о л ь с к і. Ды не, дзетка: гэта вецер шуміць, і толькі. Як зазвычай увосень.

М а р ы н я. Татачка! Што я татку папрашу: тут гэтая настаўніца, што хоча вучыць дзяцей па-беларуску, нават польскіх...

Н я в о л ь с к і. Ну-ну! Бо яна і каталіцкіх дзяцей, што нядобра ўмеюць па-польску, таксама лічыць за беларускіх... Хацела вучыць, але гэта ёй не ўдалося...

М а р ы н я. Татачка, я ведаю, што яна несправядліва рабіла. Яна такая фантазёрка, усё з сваёй Беларуссю носіцца.

Н я в о л ь с к і *(перабіваючы)*. Глупства! Фантазіі!

М а р ы н я. Я ведаю, што татачка не спагадае гэтым фантазіям. Але настаўніца тая цяпер такая няшчасная, адна з маткаю, і схапіла сухоты...

Нявольскі. Ну, і хай ёй памагаюць яе беларусіны, якіх у цэлым свеце не ведаюць, як беларускі народ, а калі і ведаюць, дык пад назовам беларусаў, значыцца, рускіх і праваслаўных.

Марыня. Татачка! А яна сама каталічка...

Нявольскі. Рэнегатка нашага польскага люду!

Марыня. Татачка, яна думае, што тата перашкодзіў ёй з гэтаю школаю, можа, які жаль мае на тату. А цяпер яе, бедную, поп выганяе з школьнага будынку за тое, што царкоўны дом, каб адчыніць там расійскую школу,— дык яна хворая на сухоты, без грошы, не мае куды дзецца. Ёй бы трэба лячыцца. Татачка! Хай татачка ёй чым пасобіць...

Нявольскі. Я пасабіў бы ёй, але яна гэты падсобак скіруе не на сябе, а на свае беларускія фантазіі, на гэтую, нячутую спрадвеку, крыўскую школу. Я не магу ёй у гэтым пасабляць, дзетка.

Марыня. А мне яе шкада, татачка, хоць яна такая нейкая недарэчная дзяўчына. Мне так хочацца, каб усім людзям было добра, каб ніхто ні на кога не меў жалю. Цяпер столькі разліваецца людской крыві. Ах, навошта кроў, татачка?

Нявольскі. Цябе, дзетка, чырвоныя ружы сваім колерам турбуюць. Ідзі спі, дзетка! Я ўжо падумаю аб гэтай настаўніцы, хоць і не знаходжу сэнсу ў яе фантазіях.

Марыня. Дзякую, татачка! Дабранач! *(Нявольскі вядзе дачку да дзвярэй, варочаецца, стаіць у задуме.)*

Нявольскі. Навошта кроў? Калі я гляджу на свае пышныя, сакавітыя чырвоныя ружы, мне здаецца, што я знаходжу страшны адказ.

Гэта было так даўно і, здаецца, так нядаўна, у дні маёй маладосці і гарачага творчага настрою. У разнікоў я скупліваў тады кроў зарэзанае жывёлы і цэлымі вёдрамі ліў яе на грунт пад ружы. Кроў была густая, чорная, запечаная. Людская кроў — весялейшая... Фу, якое брыдкое слова я сказаў! Я хацеў сказаць, што людская кроў і з выгляду павінна быць лепшаю, чысцейшаю... Але мой работнік, Мацяйчук, часам казаў, загіпнатызаваны нябачанай раней масаю крыві, сумны ад яе, млеючы ад яе цяжкага паху, казаў так: «Вось і чалавек... жыве, жыве — дый памрэ!»

Тады яго словы не прылягалі да майго сэрца, не кляліся цяжкім каменем на думкі... *(Задумваецца.)*

Ад гэтай жудаснай для мяне цяпер поліўкі — бледныя, пажаўцелыя і хударлявыя ружы рабіліся пышнымі, сакавітымі і чырвонымі, як сама кроў... *(Нервова махае рукамі, быццам адпіхае ад сябе ружы на стале, і закрывае вочы далонню.)*

Можа, яно так і трэба... Але, пане найвышэйшы, не дапусці, забарані! *(Панурана схіляецца.)* Вось яны, буйныя, раскошна-аксамітавыя, дзіўна-араматныя крывавыя ружы, узгадаваныя маёю думкаю, маімі рукамі на бедным, бяздольным грунце крыві. Ах, нашто, нашто? Глядзячы на іх тады, раней, у часе маладосці, я адчуваў вялікую слодыч дасягнутага здаволення, мусіць, нешта падобнае да таго, што перажывае паэта і ўсякі творчы дух у часе закраднай, вялікай творчасці. Я любаваўся іх хараством, як чыста, ідэальна закаханы дзяцюк любуецца хараством любай, чыстай, ідэальнай дзяўчыны. Але цяпер яны мне нагадваюць, як і беднай маёй Марыньцы, кроў... Бедная мая Марынька, як і ўсе тыя, на чыю маладосць і росквіт прыпадаюць навальныя разрухі ў агульным жыцці ўсіх людзей!..

Тады я ліў кроў на грунт, не думаючы аб зарэзанай жывёле, з якой яна выцекла. А цяпер, цяпер я — тая нешчаслівая, невядомая рэвалюцыі жывёла. Я ўжо стары, я ўжо магу пайсці дабром на грунт, але і мой дух здрыгаецца ад жудасці, не хоча смерці. А яны ж, дзеткі мае мілыя, яны маладыя, яны ні ў чым не вінаваты. *(Нейкі час маўчыць, тады з глыбокім болем гаворыць далей.)*

Ціха... Усё ціха... Толькі дзесь, як бы ля станцыі, увесь час не сціхае гармонік і людскі шум... Пасёлак з лецішчаў, створаны за дваццаць з лішкаю гадоў вось гэтымі рукамі, з рэдкай і, можа быць, лішне раскошнай для беднай Крывіі культурай крывавых руж, гэты пасёлак і сёння спіць так, як спаў многа-многа начэй за тыя дваццаць з лішкай гадоў. Не, не так... Даўней пасёлак спаў, поўны сытага гультайства, дробненькага рамансавання і мяшчанскага задаволення ў прыезных з места заможных расійскіх урадоўцаў і яўрэйскай гандлёвай буржуазіі, жор, піў, гуляў і распуснічаў, выклікаючы захаваную да часу, глухую нянавідасць у галодных, убогіх навакольных вёсках. Вось дзеля чаго стварыў я свой культурны куток Нявольскае! Вось дзеля каго і для чаго расціў я прыгожыя нявольскія ружы! І ці ж я не вінават? О, кара лёсу!

Цяпер пахаванае, глухое смела выйшла з вёскі напаверх... *(Прыслухваецца да музыкі і п'яных галасоў, якія ўсё бліжэй.)* Выйшла напаверх і з прагавістасцю шукае спосабу памшчэння. Час расплаты наступіў... Скрозь павіс страшны дух помсты за ўсе нашы вольныя і нявольныя грахі, скрозь шукае ён крывавай стравы.

Выедзем заўтра, і мае крывавыя нявольскія ружы, слаўныя на ўвесь край і за граніцаю, за колькі дзён будуць стоптаны і раздушаны. *(Стук у дзверы.)*

Нявольскі. Хто там?

Слуга. Я, пане. Тэлеграму прынеслі. Распісацца трэба.

Нявольскі. Увайдзі! Тэлеграма? Можа, ад Казі?

Слуга *(уваходзіць і падае тэлеграму і кнігу для распіскі).* Паночку, пасыльны кажа, што п'яныя салдаты бродзяць у пасёлку... Трэба тушыць святло, каб часам у дом не ўламіліся...

Нявольскі *(дастае грошы пасыльнаму).* Дай пасыльнаму. Тушы ў сябе лямпу і кладзіся спаць. Панна Марыня спіць?

Слуга. Спяць, паночку.

Нявольскі. Ідзі.

Слуга. Дабранач, пане!

Нявольскі. Дабранач!

Нявольскі *(нервова хапаецца за тэлеграму).* Гэта ад Казі... Дай бог, каб усё было добра... Хлопчык такі яшчэ наіўны і гарачы... Ах, расхадзіліся за гэты час мае нервы... *(Чытае, бялее, апускае рукі, схіляе галаву, маўчыць у атупенні, сударажна плача, ізноў чытае, праціраючы вочы ад слёз, і сіпла, прыдушана крычыць.)* «Казя забіт. Маёмасць вышлем. Калегі». За што? За што? Як я скажу Марыньцы? Як я скажу? Казя мой! Казя мой! Казя мой! Сын мой дарагі! Мой златавалосы, сінявокі хлопчык... *(Ламае рукі, ірве валасы, плача кінуўшыся галавою на стол. Тым часам ізноў прыбягае слуга устрывожаны.)*

Слуга. Пане, пане! Салдаты бродзяць ля дому. Тушэце барзджэй лямпу.

Нявольскі. Што? Якія салдаты? Якія матросы? Не ўсё роўна? Жыццё — вечнае змаганне... Казя мой напаіў грунт пад новую эпоху...

С л у г а *(са страхам)*. Паночку даражэнькі! Тушэце ж вы лямпу! Што гэта вы кажаце? Чуеце, які шум?

Н я в о л ь с к і. Хай шумяць хвалі жыцця... Усё роўна...

С л у г а. Паночку! Што гэта вам? Гэта ж не ўсё роўна: святло скрозь акенніцы можна ўбачыць... Я патушу лямпу... *(Тушыць.)*

Н я в о л ь с к і. Святла ўжо няма. Цёмна. Дзе мая Марынька?

С л у г а. Не, пане, паненку пакуль што не трэба палохаць... Хай спяць. Калі будзе трэба,— абудзім... А вось, можа, дасцё якую бронь. П'яныя там — і нашы тутэйшыя, і кацапы — лаюцца, бушуюць...

Н я в о л ь с к і. Якую бронь? Нічога няма. Няма нічога...

С л у г а. Можа, пан, левальвер ці што схаваўшы? Лепей аддайце мне, бо ў вас, калі знойдуць,— не падаруюць...

Н я в о л ь с к і. Ідзі ты спаць. Пакінь мяне аднаго. Усё роўна... Дзе мая Марынька?

Раздаецца страшны ўдар у парадныя дзверы. Голас: «Адчыняй, чортаў буржуй!» Нявольскі чыркае сернік, дастае рэвальвер, аглядае, ці з набоем, тады ізноў хавае. Ідзе адчыняць дзверы.

С л у г а. Я пайду паненцы скажу. *(Пабег.)*

Н я в о л ь с к і *(пытаецца скрозь дзверы)*. Што вам трэба?

М а ц я й ч у к. А вось нам пана якраз і трэба...

С ц е п а н ю к. Давай, пан, самагону!

М і р а н ю к. А то дрэнна будзе пану! Ламай дзверы!

На вуліцы безупынку галосіць гармонік і быццам тупае нешта шматногае і цяжкое.

Н я в о л ь с к і *(намагаецца быць супакойным)*. Я сам адчыню. Нашто ламаць дзверы? Што вам трэба? *(Адчыняе.)*

М а ц я й ч у к *(выпіўшы)*. Пан хай не баіцца... Мы нічога... Мы выпілі самагону, але мы нічога. Пан жа мяне знае: Мацяйчук я... Мой бацька ў панскім садзе працаваў, кроў на градкі ліў... А гэта во Сцепанюк, а тут яшчэ Міранюк — усё нашы хлопцы. Надумаліся: пойдзем да пана, у пана ёсць выпіўка... пачастуе...

С ц е п а н ю к. Аружжа, пан, маеш? *(Свеціць электрычным ліхтарыкам.)*

Міранюк. Пан, цяпер наша права...

Нявольскі. Ніякай выпіўкі не маю. Выхадзеце вон...

Мацяйчук. А пан — не маніш?

Сцепанюк. Трэба зрабіць рэвізію!

Міранюк. Валі, хлопцы! Ванька, Санька! Разапскія халеры, пры за намі на рэвізію! Мы тутэйшыя, мы ведаем...

Марыня *(выбягае і кідаецца к бацьку).* Татачка, родненькі, татачка! *(Цягне яго.)*

Нявольскі. Супакойся, Марыня!!

Ванька *(прабіваецца наўперад).* Пусці, рабята! *(Свеціць ліхтарыкам на дзяўчыну.)* А, мамзэля! *(Хоча схапіць.)*

Нявольскі. Не смей, грубіян!

Марыня. Таварышы!.. Мы... Я... Калі ласка... Не чапайце... Татачка, аддай ім усё, што яны хочуць...

Санька. Рабяты, усё народнае! Бяры!

Мацяйчук. Усё народнае. Бяры, Ванька! Бяры, Санька! Я тутэйшы! Я дазваляю! *(Салдаты разбягаюцца па ўсіх пакоях, хапаючы што пад рукамі.)*

Слуга. Пан! Паненка! Там улезлі з задніх дзвярэй, хапаюць усё, б'юць... *(Чуваць звон бітага.)*

Ванька. Напіліся буржуі нашай кровушкі! Праклятыя!

Санька. Мы ў акопах без хлеба дохнем, вошы кормім, а яны тут... А, буржуі! Дабраліся да вас!..

Марыня. Татачка! Хай сабе, хай сабе! Толькі выйдзем адгэтуль, выйдзем...

Нявольскі *(страшна гаворыць).* Марынька мая! Казя наш... Казя... не жыве... Вось тэлеграма...

Марыня млее. У цямноце шум, гвалт, гармонік, на вуліцы песня: «Мы на страх усім буржуям па ўвесь свет пажар раздуем! У-ха!»

# ЖАЛОБНАЯ КАМЕДЫЯ

Гай. Убогі куток мястовага магільніка. На магіле нябожчыцы — пашарпаны ветрам вянок з аблезлымі стужкамі; збоку — пара гнілых стоўпікаў ад паламанай лавачкі.

Прыгожая відаль: шмат маладзенькай зеляніны па ўзгорках і маленькія хаткі, налепленыя па схонах гор; у даліне праходзіць жалезная дарога.

Пуста. Ціха. Слабы ветрык зрэдку падкалыша лінючы шматок стужачкі, ды дзесь спакойна, патрошку пяе салавейка.

Паціху, сумна падыходзіць л і т а р а т а р, што кахаў нябожчыцу. Азірнуўшыся, каб хто не ўбачыў, дробненька хрысціцца і прысаджваецца на стоўпік у глыбокай задуме.

Л і т а р а т а р. Агатачка мая любая! Вось ужо і тры... тры гады, як няма цябе! Ляжала ты ў труне такая жоўтая, такая схварэлая, страшная — не пазнаць было цябе. Ах, божа ж мой, божа ж мой, як было сумна... Я нёс цябе, мёртвую, на сваім плячы — тую, з якою часта былі мае грэшныя думкі... Невялічкая жменька свядомых беларусаў, абліваючыся потам, на вясновым сонейку, па нялюбай гарадской вуліцы, па бруку, а тады па загародным пыле, нясла цябе, Агату Невядомскую, ад бальніцы да магільніка ў беднай сасновай нефарбаванай труне. Збіваліся з нагі, мяняліся часта. Эх, ці маглі вы, людзі гарадскія, чужыя нам, зразумець, што дзеялася тады ў кожным сэрцы нашай невялічкай пахавальнай працэсіі? Без клопату праходзілі вы міма... *(Успамінае.)*

Сухотніца, маладая дзяўчына ляжала ў больніцы на смяротным ложку і глядзела на яго... гм! — свайго любага! А ён?.. *(Круціць ад прыкрых думак галавою.)* А ён? Ён прыйшоў даведацца яе толькі дзеля цікавасці... Не! Сорам! — толькі дзеля таго, каб яна, уміраючы, не наракала, што і ён, як і ўсе, апроч роднае мамачкі, кінулі, забыліся, не маюць часу...

Сядзеў зводдаль на стульчыку і з жывёльным страхам думаў: «Каб не набрацца хваробы». У-у, дробная чалавечая натура! А яна, сухотніца, гледзячы на яго, здаровага

і ёй любага, прыгожага, хацела, мусіць, здагадацца, што мае цяпер на думцы: любіць яе такую... ці не? не любіць? Шавяліла сваімі мярцвяцкімі вуснамі: «Ах, чаму я раней ні разу не пацалавала яго?» І сарамліва ўсміхнулася, намагалася ўсміхнуцца, каб зразумеў любенькі, чаго шаволяцца гэтыя зусім мёртвыя, папяровыя, але яшчэ нейкія прыгожыя, тоненькія вуснячкі... Так, пэўна, ёй хацелася, каб пацалаваў яе і такую ў самыя вусны. Хоць у руку... Наўмысля выстаўляла наўперад жоўтую, худую-худую, з доўгімі, ажно страшнымі пальцамі руку, каб здагадаўся ён. Па вінаватым ваччу яго зразумела, што здагадаўся ён, і чакала... чакала, закашлялася, хрыпела, сіпела, махнула рукою на ўсё... Што ёй цяпер да таго, што ён бачыць яе такую непрыгожую, страшную ў лютай хваробе? Канец ёй... Ах, мала было гэтае твае няўвагі на яго — чаму ты не адвярнулася ад яго з пагардаю? Ах, не паможа табе гэта захаваная горыч у паміраючых вачах — чаму ты не плюнула яму, не прагнала яго? Бо сядзеў і думаў толькі: якое ж яго няшчасце, што не чыю другую, а яго любую схапілі гэтыя злыя сухоты! Ах, пакуль ён цяпер знойдзе сабе другую!

Даруй мне, добрая Агатачка! Знайшоў ужо сабе другую! З другой цалуюся-мілуюся... Але ж ты не будзеш на мяне гневацца, калі б нават ведала там, на тым свеце, што гэтак раблю... Плачу я па табе! Нашто ты памёрла? Для справы беларускае ты без пары загінула, і асабістага шчасця не зазнала ты. Згарэла, як мятлушка на агні. Вось зараз прыйдуць людзі аддаць табе чэсць на трэція ўгодкі па табе... Ці пачуеш ты, ці адчуеш ты? Пайду на другія магілачкі, каб не ўбачылі мяне аднаго тут з табою... *(Стаіць, аднак.)*

«З табою»! У, фарысей, фарысей я! Ашуканец, самаашуканец! Тут — прах, зямля, жоўтыя косці, і болей нічога. Чалавек — як усякі жывы арганізм: памёр, згніў, рассыпаўся, і няма яго быўшае формы навекі... Нічога няма. Нашто той жаль? Нашто развагі? Людзі самі стварылі пакуту сабе... Не, ад прыроды дадзена. А можа, некалі розум людскі, таксама ад прыроды дадзены, знішчыць гэтае чуццё жалю па ўмершых сваіх? А? Не, заслабы я дзеля гэтага, заслабы. Шкода мне цябе, Агатачка! Даруй, што я зняважыў магілку тваю сваімі думкамі. Брыдкі я чалавек... зраднік, ашуканец, фарысей... *(Пайшоў, пастаяў... дастаў з кішэні, з-пад палы, пляшку і п'е нагбом; пайшоў.)*

Разглядаючыся, пазнаючы, ідзе **м а ц і**. Клепчыць пры дарагой магілцы і тады, прыпаўшы, плача.

**М а ц і.** Дачушка ты мая родненькая! А цяперака ж усе птушачкі з выр'я паварочаліся, а ты, мая дачушачка, паляцела ў вырай навекі, ніколі ўжо не вернешся. Лепей жа бы я цябе ў людзі аддала, чым я цябе на той свет, дачухна мая, прыбрала... Лепей жа бы ты, мая дачушка, красавалася і жыўшы весялілася, чым во ляжыш у сырой зямельцы, на цвёрдай пасцельцы... Ягадка мая недаспелая! Без пары ты адвалілася, на гэтым свеце не павесялілася... А ты ж у мяне адна была, як ружа ў садочку цвіла. Хто ж маёй старасці цяпер прыгледзіць? Дачушачка мая міленькая, нашто ж ты без пары прыбралася, у доўгую дарожку без пары сабралася дый пайшла — мяне адную кінуўшы. Ніколі ж ты ка мне ў госцейкі не прыйдзеш... Буду цябе чакаць-чакаць і ніколі не дачакаюся... Адна я цяпер на свеце, дачушка мая! Прасіся ж там, каб хутчэй і мяне прынялі, дзе ты. Цяжанька мне, дачушка! Адна я без цябе... *(Уздыхае.)* Адна...

Зноў выходзіць **л і т а р а т а р** — ужо трошкі хмельны. Смела хрысціцца, тады падыходзіць да маці, цалуе ёй у руку, сядае пры ёй на траву, потым на стоўпік.

**М а ц і** *(адбіраючы руку)*. Дзень добры, паночак! І вы прыйшлі даведацца, мой галубок, нябожчыцу нашу, хай свята ляжыць...

**Л і т а р а т а р.** Прыйшоў, цётка Невядомская, прыйшоў. Вы не адна: я з вамі, мы ўсе з вамі... Зараз прыйдзе ўся грамада наша даведацца вашае дачушкі. Так, праўду кажаце, хай свята спачывае сяброўка Агата! Вечная ёй памяць.

**М а ц і** *(плача)*. Дзякуй вам, паночак, і ім усім дзякую, што не забываецеся на яе. Пакінула мяне дачушка... Хоць людзі не пакідаюць...

**Л і т а р а т а р.** Толькі не плачце ўжо, цётачка. Я ўсё чуў, што вы тут гаманілі з сваёю дачушкаю. Пасля гэтых размоў, цётка Невядомская, самыя шчырыя слёзы — не патрэбны...

**М а ц і** *(абціраючы слёзы)*. Ах! Плачам сваё гора суцішаю. Дай жа ёй божачка рай прасветлы, царства нябеснае...

**Л і т а р а т а р.** Яе рай — у памяці народнай, у сэрцах нашых!

**М а ц і.** Пакінула мяне дачушка сіратою. Бацька без пары памёр, нахадзіўшыся па свеце, нацягаўшыся труду;

дачушку ў людзі выводзіў, і дачушка за ім уздагон пайшла. Пакінулі мяне...

Л і т а р а т а р. Ці памятаеце вы, цётка Невядомская, як мы былі з вамі ў больніцы за тры дні да яе смерці?

М а ц і. Чаму ж не памятаю, галубок? Вы ёй торту, дзякуй вам, прынясці тады. Не мела ўжо смаку дачушка мая.

Л і т а р а т а р. То быў апошні раз, як я бачыў сяброўку Агату, мучальніцу за справу адраджэння нашага. *(Пахіляе галаву.)* Я бачыў тады ў паміраючых вачох усю нашу пакутную бацькаўшчыну. Сэрца маё краілася ад болю, цётачка, але я казаў: «Папраўляйцеся, дарагая сяброўка, папраўляйцеся...» Я думаў тады: як можна ёй памерці, калі ёсць гэтулькі працы, а працаўнікоў у нас так мала.

М а ц і. Сядзелі мы тады, а яна як закашляе, закашляе, дачушка мая, аж падушку на грудзёх цісне худымі ручкамі. Думаю сабе: калі перажыве пару, як сады цвітуць, то будзе яшчэ жыць... Аж не: якраз у самае харасство... Яблыначкі як малаком аблітыя былі. Сканала начою, адна, без усіх, у больніцы... *(Горка плача.)* Хоць бы ж адна жывая душа пры яе канцы была, божа ты мой, божа!

Л і т а р а т а р *(скідаючы слязіну)*. А пра бульбачку, цётка, не забыліся?

М а ц і. Як жа я забудуся! Маразы былі маёвыя. Памерзла мая бульбачка, рана троху пасадзіла яе. Прыйшла я ў больніцу дый кажу, дурная, пры ёй: «Памерзла, кажу, дзеткі, наша бульба ранняя». А яна як паглядзіць на мяне сваімі вялікімі маркотнымі вочкамі — душу перавярнула ўва мне, спалохала мяне, кажа: «Як і я, кажа,— змерзла ў самую вясну свайго жыцця...» Ах, божа мой, божа мой! *(Вырываецца сударажны плач.)* «Не, кажу, дзеткі: бульбачка яшчэ аправіцца ад марозу...» Завалакліся мне вочы цёмнаю слязою, думаю сабе: бульбачка аправіцца, а на цябе, маё дзетухна, мала надзеі, дужа ж вялікую нуду на сэрца ты сабе ўзяла. Сушыць тая нуда — горш як марозам б'е... Тады яна яшчэ болей засмуцілася. Надта ж яна сумавала, думала: што з яе гэтай школаю беларускаю няўдача сталася.

Л і т а р а т а р. Эх, цётачка, цётачка! Хто ў нас не прыняў гэтае нуды? Але ж верыце вы цяпер, што народ наш не загіне, што недарма гэтыя ахвяры для яго, цётка Невядомская, га?

**Маці.** Чаго ж яму гінуць? Цяпер узяліся за работу. Але дачушкі мае няма. З сялянамі тады ў справе гэтай школы рады не магла даць: хто польскай веры, давай, кажа, польскую школу, а хто рускай — давай яму рускую... Пан перашкоды ўсялякія рабіў. Поп з будынку нас выкінуў пад голае неба, хацеў, каб царкоўная школа была. Ой-ёё, долечка ты наша! Згінула дачушка ад нуды. Некаму было бараніць яе. Бывала, пачуе што аб беларусах, у газеце вычытае,— як пачне цалаваць мяне: «Мамачка, мамачка! Каб ты ведала, як справа наша пашыраецца!..» Але не часта гэтак было. Усё нейкі чарвяк сушыў яе, думкі сушылі. І давялі да гэтай магілкі... *(Плача.)*

**Літаратар.** Эх, цётачка! Ускалыхнуўся ўжо народ наш! А хто не дачакаўся, хай ім тут аб гэтым салавейкі пяюць. Годзе плакаць, цётачка дарагая! Супакойцеся! Вось зараз ідзе грамада наша трэція ўгодкі па нябожчыцы Агаце спраўляць...

Ідуць грамадою інтэлігенты і рабочыя людзі, мужчыны і жанчыны, дзеці. Здзяюць шапкі, стаяць нейкі час ціха, у задуме, пахіліўшы галовы к магілцы і апусціўшы рукі. Толькі салавейка супакойна шчоўкае.

**Старшыня нацыянальнага камітэта** *(невысокі чалавек з бледным, змучаным тварам, лысы, у чорным пальце і з кіёчкам. Шэра-сталёвыя вочы хаваюць пад сваім спакоем і вытрыманасцю вялікую моц кіраўніка, аддавага сваёй справе ці сваёй думцы да фанатызму. Пацалаваўшы маці ў руку і адным момантам пакрывіўшыся на выпіўшага літаратара, пачынае прамову).* Браты беларусы! Дазвольце мне, як старшыні вашага нацыянальнага камітэту, сказаць першае слова ўспаміну дарагой таварышцы на яе святой для ўсіх нас магілцы... Настаўніца аднэй з першых легальных беларускіх школ, найсвятлейшай памяці сяброўка Агата Невядомская, згасла на 23-й вясне свайго фізічнага жыцця, аддаўшы сябе ў ахвяру нашаму ўсенароднаму вызваленню. Тры гады мінулася з тае пары, калі памершую ад сухот самаахвярную працаўніцу на ніве культурнага адраджэння і сацыяльна-нацыянальнага вызвалення занеслі мы сваёй засмучонай сямейкай на апошні спачынак. Шмат чаго змянілася за гэтыя завірушныя тры гады, многа за гэты час нашых лепшых таварышаў без пары знайшло долю нябожчыцы Невядомскай, але затое мы можам тут сказаць ёй словамі напісу на крыжы: «Спі спакойна, дарагая сяброўка!» Спі спакойна! Праца, дзеля якой ты аддала сваё маладое жыц-

цё, не спыняецца, а расце і буйнай хваляю разліваецца па ўсёй нашай вялікай бацькаўшчыне. Не загінуў край наш родны! Не загінуў люд працоўны! Канчаюцца ўжо здзекі чужынца! Светлай зоркай узыходзіць воля над мужычай хатаї беларуса. Дарагая сяброўка! Сёння, тут, пры тваёй маме... *(усе пахіляюцца ў бок маці)* ... узгадаваўшай нам цябе і адцярпеўшай усе мукі маткі-беларускі... *(усе яшчэ болей пахіляюцца перад маткаю)*... дазволь, дарагая сяброўка, сказаць табе вечную памяць, вечную славу!..

Грамада. Вечная памяць! Вечная слава! *(Становяцца на калені і пяюць верш Янкі Купалы):*

Не пагаснуць зоркі ў небе,
Покі неба будзе,
Не загіне Край Забраны,
Покі будуць людзі...

і г. д.

Літаратар. *(Займае месца, на якім стаяў старшыня нацыянальнага камітэта, глядзіць нейкі час у зямлю, а тады, як конь, высока ўскідае галаву і пачынае гаварыць).* Браты! Я, як часовы старшыня настаўніцкага хаўрусу, да якога належала нябожчыца, кажу тут: вечная слава памёршым, бодрае жыццё жывучым! Прыслухайцеся, як хораша пяе салавейка на гэтым сумным месцы вечнага супакою... *(Чуваць салаўя.)* Яго песні абуджаюць ува мне, сваёю хвалою вечнаму хараству, нейкі — так сказаць — філасофскі настрой. Глядзіце: мінулася толькі тры гады, але дзеля нашай беднасці, дзеля нашай занятасці штодзённай пільнай працаю, а можа, і дзеля нашай некаторай нядбаласці — магілка дарагой таварышкі не агледжана, драўляны крыж трупехне, вянок ужо разарваўся. Словы на йстужцы «На вечную памяць» — злінялі, аблезлі і як быццам развеяліся ў паветры... Ці ж не горкім насміханнем гучаць яны аб «вечнай» памяці? Няма нічога вечнага пад месяцам, як кажуць,— нічога, апрача вечнай у нашым чалавечым разуменні матэрыі. І хто ведае: прыйдзе спрадвечны час, і ўсё мінецца, усё згіне, не будзе гэтага магільніка, як вось з гэтымі драўлянымі беднымі крыжамі пакрыўджаных сацыяльна людзей, так вось і з тымі каменнымі манументамі зазнаўшых усякае жыццёвае раскошы сацыяльных багатыроў, не будзе вядомых цяпер нам з геаграфіі (ці нават ужо толькі з гісторыі) старонак і народаў, не будзе нашых кніг з іменнямі герояў, з гісторыяй нацый, не будзе нічога таго, што нам цяпер так дорага і люба, што дзеля нас цяпер так свята і абсалютна і

што кіруе нас аддаваць яму на ахвярнік сваё асабістае шчасце,— нават сваё жыццё... Сумна! І ў нашыя слабыя сэрцы можа запаўзці спакуслівая думка: ці варта ж, калі так, аддаваць сваё асабістае шчасце, свае асабістыя радасці і ўцехі, аддаваць на тое, каб некаму жылося трохі лепш? Ці варта цярпець голад і холад, крыўду і здзек, бачыць мучэнні сваіх блізкіх людзей... *(усе скоса пазіраюць на змучаную, заплаканую матку)*... і памерці ад няўпроснай, няўмольнай хваробы на 23-й вясне свайго жыцця, калі пяюць салавейкі і ўсё хоча жыць, жыць сваім асабістым, магчымым і даступным шчаслівым момантам, у сваёй жывой форме, на такі кароткі час ад мёртвае матэрыі ўзятай?.. О, браты мае дарагія і ўсе, хто можа зразумець, хто можа адчуць! — Варта! — адказваюць на гэтае пытанне тыя, хто меў сваім ідэалам светлую будучыню ўсяго чалавецтва, хто не мог быць асабіста шчаслівым, задаволеным, супакойным пры агульнай сацыяльнай нешчаслівасці, нездаволенасці, несупакойнасці. Варта! — адказваюць на гэтае пытанне тыя, чые імёны запісаны залатымі літарамі ў памятніках усяго чалавецтва, і тыя, чыіх імёнаў ніхто і нідзе не захаваў, не захавае... А ці ўсе мы здольны быць такімі? — спытаемся цяпер у саміх сябе. А ў якой меры здольны?..— падумаем цяпер. І пасля гэтага светлы абраз нябожчыцы Агаты Невядомскай, што аддала сваё жыццё маладое на ахвярнік беларускага сацыяльна-нацыянальнага вызвалення, ідучы да яго несамавітым і цярнёвым шляхам культурна-адраджэнцкай работы, гэты абраз, гэты абраз... стане ў нашых сэрцах... у нашым ваччу... ува ўсёй велічы, ува ўсім арэоле... Вечная памяць!.. Вечная слава!.. (Закрыўшы вочы далонямі, адыходзіць.)

Г р а м а д а. Вечная памяць! Вечная слава! *(Усім зрабілася ніякавата ад яго нервацыі і як быццам нейкай фальшывасці і тэатральнасці.)*

Р а б о ч ы *(просты і сімпатычны, але калі гаворыць, робіцца недалікатным і гострым)*. Я выступаю тут прадстаўніком ад тых работнікаў-беларусаў, якія добра ведалі таварышку Невядомскую, калі яна працавала троху ў нашай школцы, гэта яшчэ пры немцах. Праўда, не да школ і навучання было тады, бо на вуліцах людзі з голаду валіліся і паміралі. Тады кожны болей клапаціў аб тым, каб як прыдбаць лішні кавалачак хлеба. Нам і цяпер, пад уладаю польскіх паноў, таксама няма часу думаць і разважаць, ці варта змагацца, ці не... Бо калі нечая рука душыць цябе за горла, дык не разважаючы схопішся за

гэтую руку і адвядзеш яе, каб не душыла. І хоць мы, свядомыя работнікі, шчыра паважаем і тых працаўнікоў, якія родам з паноў, а стаяць на адной з намі платформе, але ж я мушу зазначыць, што таварышка Невядомская не з паноў была. Вось тут яе маці, ніякая паня, а падзённіца на чорную работу, мыць панам падлогі і гэтак далей. А бацька быў з сялян, што мусіў з маладых гадоў зарабляць кавалак хлеба па фальварках ці ў горадзе на якой, ізноў жа, чорнай рабоце... Тут, можа, трэба сказаць аб тым, што нябожчыца таварышка Невядомская працавала, як каму здаецца, выключна на грунце нацыянальным, а свядомыя работнікі павінны дапасоўваць свае нацыянальныя імкненні цалкам да класавых інтарэсаў. Але ж я мушу зазначыць, што яна ніколі не зыходзіла ў сваёй нацыянальнай рабоце і з грунту бядняцкага, супрацьпанскага. Набыўшы адукацыю, не пахілілася яна да польскай панскасці, хоць была з каталіцкай сям'і, а прыстала да беларускай мужыцкасці. Гэткіх выпадкаў у нас пакуль што надта яшчэ мала... І дзякуй ёй за тое, што яна і нашых цёмных таварышаў-работнікаў усведамляла нацыянальна і настройвала рэвалюцыйна, бо калі таварышка Агата рабіла каго «беларусікам», дык ён ужо ўцякаў з ксяндзоўскай «лігі работнічай» і ішоў у класавы прафесіянальны хаўрус работнікаў. Вось у гэтым яе заслуга. І цяпер вось, цераз тры гады па яе смерці, сэрца сціскаецца ад болю, што яна памерла без пары і памерла дзеля таго, што не было сродкаў лячыцца як трэба. Аднак жа не паддамося жалю! Без ахвяр нічога не даецца і смерць таварышаў не спыніць нас у змаганні! На іхніх магілках мы набіраемся яшчэ большага рэвалюцыйнага запалу! На іхніх магілках мы хочам пяяць тую жывую песню, якую пялі з намі паўшыя барацьбіты, якая наймацней злучае нас, жывучых, з імі, памершымі!.. *(Запяяў, а за ім уся грамада.)*

Адвеку мы спалі, і нас разбудзілі,
Сказалі, што трэба рабіць,
Што трэба свабоды, зямлі чалавеку,
Што трэба зладзеяў пабіць! —

і далей.

Літаратар *(выскоквае як непрытомны)*. Браты мае! Гэта песня, гэтыя гукі ў маім сэрцы, у маіх вушах як дзень, так ноч! Я чую: ужо ўся наша старонка, увесь наш народ пачынае дрыжаць адным гукам... З гэтым гукам мы пойдзем наперад! Разам з намі пяюць яго душы

нашых нябожчыкаў! І як разойдземся, дык тут, на гэтай дарагой для нас магілцы, у ззянні цёплага веснавога сонейка або ў цеплыні маёвай ночы разасцелюць свае чыстыя белыя крылы грамады тагасветных жыцельнікаў і будуць дзіўным хорам пяяць... будуць пяяць... *(Запыхваецца, а шмат хто на яго дзівіцца.)*

Рабочы *(няўважна перабіваючы)*. А цяпер я раю зрабіць пасільны збор на папраўку магілкі і на падтрыманне маткі нябожчыцы...

Грамада.

— Ат, навошта ён гэта кажа тут...

— Знявага для нябожчыцы й для маткі...

— Будзьма ўжо разыходзіцца...

— Я сёнейка градкі свае канчаю...

— І я дзеля паненкі-нябожчыцы ляху сваю кінула.

— Ай, мяне ж даўна ўжо ўся работка чакае...

— Цыц, дзеткі, не плач, зараз пойдзем, малачка табе дам...

Старшыня нацыян[альнага] каміт[эта]. Грамадзяне! Збор мы зробім пасля, адпаведным часам і ў іншым месцы, а цяпер з пяяннем «Вечнай памяці» разойдземся да штодзённай працы... *(Падае руку маці.)*

Маці. Не, паночак, я пасяджу яшчэ. Дзякую вам за ўсё, што вы тут сабраліся, добрым словам спамянулі маю Агатачку...

Старшыня нацыян[альнага] каміт[эта] адкланьваецца ■ ёю, за ім — літаратар, і ўсе патроху, з пяяннем расходзяцца. Дзве бабы даўжэй стаяць над маткаю, але і яны пайшлі. А матка, адна, усё яшчэ плача на магілцы ў свае беднае дачушкі.

Маці. Усе пайшлі, дачушка, засталася ізноў адна я з табою. Памянулі цябе, дачушка, як важнага пана, але не вернуць яны мне цябе ніколі ўжо, ніколі-ніколі не вярнуць. Адна я цяпер на свеце, дачушка мая!

Сядзіць нейкі час моўчкі, аглядаючыся. Тады, як бы надумаўшыся, хмарыцца, хмарыцца і раптам прыпадае да магілачкі і вые — глуха, нема...

Паліцыянт *(падбягаючы і смаргаючы яе)*. А но! Дзе тутай был вец [1] большэвіцкі?

Маці. Не ведаю, аб чым, панок, пытаешся... Нічога тут не было, толькі даведацца дачушкі маёй прыходзілі добрыя людзі...

---

[1] Мітынг.

П а л і ц ы я н т. З камітэту беларускего? Цо? [1]

М а ц і. Але, мой паночку... Нашы беларусіны...

П а л і ц ы я н т *(хапаючы і цягнучы яе)*. А но, пся крэв, ідзь за мпон!..[2] Спузьнілэм сень [3], холера!

Пайшлі і яны. Патроху пяе салавейка. Здалёк гудзіць у даліне дарога, потым раптам праносіцца з вялікім шумам цягнік. Цішэе зноў. Вецер калыша аблезлую стужачку.

---

[1] Што?

[2] Са мною.

[3] Спазніўся.

# КАМЕНТАРЫІ

У дадзены том уваходзяць аповесці «У чым яго крыўда?», «Моланхолія», «Ціхая плынь» і драматычныя абразкі.

Пры ўстанаўленні аўтэнтычнага тэксту твораў, іх датаванні і пры напісанні тэксталагічнага каментарыя выкарыстаны наступныя матэрыялы:

I. З архіва пісьменніка, які захоўваецца ў Цэнтральнай навуковай бібліятэцы імя Я. Коласа АН БССР (фонд 7):

1. Машынапісны тэкст «Зборніка апавяданняў», які рыхтаваўся да друку ў 1928 годзе, але выдадзены не быў, захаваўся не поўнасцю (воп. I, адз. зах. 34).

2. Машынапісныя тэксты драматычных абразкоў «Салдат і яго жонка» (воп. I, адз. зах. 28), «Свецкі чалавек» (воп. I, адз. зах. 30), «Не адной веры» (воп. I, адз. зах. 31).

3. Рукапісы:

а) драматычны абразок «Каменацёс» (воп. I, адз. зах. 29);

б) драматычны абразок «Жалобная камедыя» (воп. I, адз. зах. 20);

в) «Храналогія маіх твораў» — пералік напісаных, часткова апублікаваных твораў і тых твораў, над якімі М. Гарэцкі працаваў або меўся працаваць у бліжэйшы час. Уяўляе сабой запіс, зроблены чорным чарнілам на 2-х лістах. Ёсць яшчэ адзін ліст — без загалоўка, у якім таксама пералічваюцца творы. Запіс зроблены простым алоўкам (воп. 1, адз. зах. 43);

г) «Спіс маіх твораў» — ліст паперы, на якім чорным чарнілам зроблены пералік твораў, іх агульная колькасць склала 70 назваў (парадкавы нумар 71 — закрэслены, назва «Рускі» — пакінута; ёсць паметы (воп. I, адз. зах. 43);

д) «План мае творчасці» — план, складзены паводле тэматычных і жанравых адзнак. Запіс зроблены чорным чарнілам на лісце паперы (воп. I, адз. зах. 43);

е) «Запісная кніжка» (воп. 2, адз. зах. 19).

4. Асобныя прыжыццёвыя выданні:

а) Гарэцкі Максім. Рунь.— Вільня: Беларускае выдавецкае таварыства, 1914 (воп. 2, адз. зах. 9);

б) Гарэцкі Максім. Антон: Абразы жыцця.— Вільня: [Друкарня «Швітурыс»], 1919 (воп. 2, адз. зах. 11);

в) Гарэцкі Максім. Мутэрка: Адбітак з «Нашае думкі».— Вільня, 1921 (воп. 2, адз. зах. 12);

г) Гарэцкі Максім. У чым яго крыўда?: Апавяданне.— Мн.: Дзяржаўнае выдавецтва Беларусі, 1926 (воп. 1, адз. зах. 32);

д) Гарэцкі Максім. Ціхія песні: Апавяданне.— Мн.: Дзяржаўнае выдавецтва Беларусі, 1926 (воп. 2, адз. зах. 14);

ж) Гарэцкі Максім. Ціхая плынь.— 2-е выд.— Мн.: Беларускае дзяржаўнае выдавецтва, 1930 (воп. 2, адз. зах. 17).

II. З Цэнтральнага дзяржаўнага архіва-музея літаратуры і мастацтва БССР (фонд 66):

1. Машынапісныя тэксты драматычнага абразка «Жалобная камедыя» ў двух варыянтах з назвамі:

а) «Жалобная камедыя» (воп. 1, спр. 1269);

б) «Памінкі» (воп. 1, спр. 1270).

III. Прыжыццёвыя публікацыі ў перыядычным друку:

1. Урыўкаў, якія сталі пазней раздзеламі аповесцей:

«У чым яго крыўда?»

а) «Наша ніва», 1913, 25 студз.

«Меланхолія»

а) «Вольная Беларусь», 1918, 17 сак.;

б) «Беларускае жыццё», 1919, № 10, 11, 12;

в) «Наша думка», 1921, 18 і 25 лют.;

г) «Узвышша», 1928, № 3.

«Ціхая плынь»

а) «Известия Смоленского Совета», 1918, 1 мая;

б) «Наша думка», 1920, 31 снеж.;

в) «Беларускія ведамасці», 1922, 15 студз.;

г) «Беларускі звон», 1922, № 19

і ў зборніку «Заходняя Беларусь», 1923.

2. Драматычных абразкоў і іх частак:

а) «Наша ніва», 1913, 20 лют., 1 сак.;

б) «Гоман», 1918, 11 студз.— 7 мая;

в) «Вольны сцяг», 1920, № 2;

г) «Вольны сцяг», 1923, 26, 28 верас.;

д) «Полымя», 1926, № 1;

е) «Маладняк», 1928, № 6;

ж) «Узвышша», 1929, № 5.

IV. Прыжыццёвыя публікацыі ў кніжках для дзяцей:

а) Родны край: Першая пасля лемантара кніжка да чытання /Уклала Л. Гарэцкая.— 2-е выд.— Вільня: Беларускае выдавецкае таварыства, 1919;

б) Родны край: Другая пасля лемантара кніжка да чытання /Злажыла Л. Гарэцкая.— Выд. перароблепае і дапоўненае.— Вільня: Віленскае беларускае выдавецтва Б. Клецкіна, 1923 і перавыданне, 1929.

в) Родны край: Трэцяя і чацвёртая пасля лемантара кніжка да чытання/Уклала Л. Гарэцкая.— Вільня: Віленскае [беларускае] выдавецтва Б. Клецкіна, 1921 і перавыданне, 1927.

г) Самковіч, Пратасевіч, Гарбацэвіч. Наш сцяг: Чытанка для 4-га года навучання.— Выд. 3-е стэрэатыпнае.— Мн.: Беларускае дзяржаўнае выдавецтва, 1926 і выд. 4-е стэрэатыпнае, 1927.

Пры падрыхтоўцы тома былі выкарыстаны звесткі, прыведзеныя ў каментарыях да «Выбраных твораў» М. Гарэцкага ў 2-х тамах (Маст. літ., 1973).

12 Зак. 419

Аповесці «У чым яго крыўда?», «Меланхолія», «Ціхая плынь» складаюць важкую частку мастацкай спадчыны М. Гарэцкага. Праца над гэтымі творамі прыпадае ў асноўным на паслякастрычніцкі перыяд і ахоплівае даволі значны прамежак часу — з 1916 па 1930 год. Усе тры аповесці, застаючыся самастойнымі творамі, разам з тым успрымаюцца як ідэйна і тэматычна звязаныя між сабой часткі вялікага эпічнага палатна, якое М. Гарэцкі збіраўся разгарнуць у кнізе, што рыхтавалася ім у 1928 г. да друку пад назвай «Зборнік апавяданняў». Змест гэтага «Зборніка...» дае падставы меркаваць аб тым, што М. Гарэцкі ўкладваў у традыцыйныя паняцці іншы сэнс: пад «Зборнікам апавяданняў» ён падразумяваў «Збор твораў», тым больш што так яно і было ў сапраўднасці, паколькі «Зборнік...» уключаў, па сутнасці, усе важнейшыя з напісаных да таго часу празаічныя творы. Сама ж кніга, відаць, разглядалася М. Гарэцкім як свайго роду аналаг «Камароўскай хронікі». Толькі ў адрозненне ад «хранікальнай эпапеі», над якой пісьменнік працягваў няспынную працу, у «Зборнік...» павінны былі ўключацца надрукаваныя альбо перагледжаныя творы. У «Зборніку апавяданняў» аповесці размешчаны адпаведна пад нумарамі 23, 24 і 25.

Гісторыя напісання аповесці «У чым яго крыўда?» (гл. с. 375—381 тэксталагічнага каментарыя) сведчыць аб тым, што змест гэтага твора, яго ідэйны пафас могуць быць зразумелы толькі ў кантэксце агульнай эвалюцыі светапогляду пісьменніка, у кантэксце яго ідэйна-эстэтычных пошукаў. М. Гарэцкі даволі шчодра выкарыстаў у новым творы сюжэт дарэвалюцыйных апавяданняў «У лазні», «У чым яго крыўда?», бо яны выраслі на рэальнай сацыяльна-бытавой аснове, на матэрыяле той рэчаіснасці, якую малады пісьменнік выдатна ведаў. Час толькі пацвердзіў вялікую пазнавальную і ідэйна-мастацкую каштоўнасць апавяданняў ранняга перыяду. Іх тэкст, уключаны ў аповесць пасля істотнай перапрацоўкі, набыў, зразумела, іншае ідэйна-сэнсавае гучанне, што абумоўлена новай ідэйнай задумай, новым поглядам аўтара на свайго героя. Выкарыстанне тэксту апавяданняў у аповесці не адмяняе, не закрэслівае іх як самастойныя творы, не ставіць пад сумненне іх мастацкую вартасць.

У апавяданнях былі пададзены асобныя моманты жыцця героя-рамантыка, ахопленага высакароднай ідэяй служэння народу. І Клім Шамоўскі, і Костусь Зарэмба страсна марылі пра тое, каб несці ў вёску святло навукі. Да глыбіні душы іх абурала пануючая ў вёсцы цемната, адсутнасць культурных запатрабаванняў, грамадзянская пасіўнасць селяніна, яго нежаданне палепшыць сваё становішча. «...ён, Клім, вучыўся не дзеля таго, каб «заграбаць» грошы, ...ён іншы, ...ён жа не чураецца вёскі, любіць яе і шануе, як родны сын, ...ён хоча кіравацца ўсімі сіламі, каб бачыць яе цвярозай, светлай, здаволенай жыццём ды сумленнай» («У лазні», с. 51). Але жорсткая рэчаіснасць разбівала наіўныя спадзяванні маладых асветнікаў. У аповесці, напісанай болей чым праз дзесяць гадоў, М. Гарэцкі па-ранейшаму з глыбокай сімпатыяй ставіцца да свайго героя, са спачуваннем, шчырай спагадай расказвае пра яго няздзейсненыя намеры. Але ў адрозненне ад апавяданняў пазіцыя Гарэцкага-пісьменніка прынцыпова іншая. Ён не толькі не збліжае сябе з героем, але логікай развіцця сюжэта, аб'ектыўна-разгорнутай формай выкладання, аўтарскай інтанацыяй падкрэслівае рознасць іх пазіцый. Аповесць «У чым яго крыўда?» уяўляе гісторыю духоўнага станаўлення, адзін з першых этапаў

фарміравання ґероя, які стаў скразным у творчасці М. Ґарэцкага. Вось вельмі паказальны штрых. У апавяданні сябра галоўнага героя звалі Андрэй. «Насмешлівы і праўдзіва-разумны» юнак шмат у чым прытрымліваўся супрацьлеглых, чым у Кастуся Зарэмбы, поглядаў на рэчаіснасць, ён асцюжаў рамантычныя парыванні свайго таварыша. У аповесці ж герой носіць імя Максім Г., і ён па-ранейшаму карэкціруе думкі, выказванні Лявона Задумы, не пагаджаецца з ім. Такой, здавалася б, нязначнай тэкставай зменай Максім Гарэцкі ўносіў істотную папраўку ў вызначэнне аўтарскай пазіцыі, у трактоўку вобраза Лявона Задумы.

Асабістая драма героя, чыстыя, шчырыя пачуцці якога не ацанілі аднавяскоўцы, падаваліся аўтарам апавяданняў як падзея, вартая самай пільнай увагі мастака. Праз яе павінны былі прачытвацца сацыяльныя, грамадскія супярэчнасці часу. У аповесці ж сапраўдныя параметры гэтай драмы вызначаюцца не толькі псіхалагічным станам героя, яго перажываннямі, але і яскравымі бытавымі малюнкамі, каларытнымі сцэнамі жыцця беларускай вёскі, іншых сацыяльных пластоў грамадства. І гэтыя сцэны, пададзеныя не праз лісты героя, не праз яго суб'ектыўнае ўспрыманне, як то было ў апавяданнях, а ў форме шырокага эпічнага ўзнаўлення жыцця, ураўнаважваюць наіўна-юнацкія ўяўленні Лявона Задумы. Тое, што для Кастуся Зарэмбы было сапраўднай драмай, у аповесці паўстае хутчэй як эпізод, як цікавае здарэнне ў аднастайным жыцці вёскі. Пісьменнік з добрай усмешкай сталага, умудронага жыццём чалавека, з лёгкім гумарам апавядае пра «крыўду» свайго героя. Ён добра ўсведамляе сацыяльныя, грамадска-эканамічныя карані той неўладкаванасці, якая нараджае канфлікт паміж нецярплівым рамантыкам-максімалістам і жыхарамі невялічкай, глухой беларускай вёскі Цёмналессе, адзнакамі цывілізацыі ў якой былі царква, размешчаная за дзесяць вёрст, валасная канцылярыя, пабудаваная ў мястэчку, што раскінулася вёрст за пятнаццаць ад вёскі, і чыгунка. Адлегласць да апошняй вымяралася ўжо добрай сотняй вёрст.

Раскрыццё сацыяльна-грамадскіх вытокаў «крыўды» героя і складае ідэйны змест твора. А ў адпаведнасці з гэтым аповесць «У чым яго крыўда?», калі параўнаць яе з апавяданнямі, вытрымана ў іншым стылявым ключы, у іншай танальнасці. На змену эпісталярнаму стылю прыйшоў стыль эпічнага твора.

Герой аповесці не ідэалізуецца аўтарам, ён не выступае як непасрэдны выразнік аўтарскай пазіцыі. Вось лаканічная сцэнка, якая красамоўна перадае аўтарскія адносіны да героя, выяўляе тон апавядання.

«— Сыночак!..

— Ну, што? — з ніяк няскрытай злосцю ў голасе перабіў пытанне сын.

— Трэба ж ткі табе сядзець цалюткі дзень у хаце! — яна перамяніла рукі і прыхінулася прасцей да цёплай печы.— Прайдзіся ты на вечарушкі, пагуляй з людзьмі...

— Што я там знайду? — адказаў сыночак, мімаволі натапырыўшыся, як той індык» (с. 13).

Зусім відавочна, што М. Гарэцкі далёкі тут ад таго, каб цалкам перадаручаць герою ўласныя думкі і меркаванні. «Сыночак», які натапырыўся, бы той індык,— гэта вобраз, створаны ў традыцыях аб'ектывізаванай манеры.

Тое, што ў апавяданнях толькі называлася, што было пададзе-

12*

на у форме беглага пераказу героем пэўных падзей, здарэнняў, у аповесці вылілася ў шырокія, разгорнутыя, дэталізаваныя апісанні жыццёвага ўкладу, нораваў, звычаяў працоўнага сялянства (гл. с. 378—381 тэксталагічнага каментарыя да аповесці). І ў гэтых па-майстэрску зробленых апісаннях мы фактычна не бачым таго, чаго баяўся ўбачыць Лявон Задума: «Знайду тупагаловых дзевак,— падумаў ён,— буяншчыкаў-хлапцоў, [...] брыдкую лаяніну, гульню на грошы ў карты, гідкае скалазубства, насміханне над маімі думкамі аб лепшым, зусім не гэтакім жыцці» (с. 14). Не бачым не таму, што падобных з'яў нібыта не ведала дакастрычніцкая вёска, а таму, што, па-першае, у эпічным творы, якім стала аповесць «У чым яго крыўда?», падобныя з'явы ўраўнаважваліся пазітыўнымі, станоўчымі момантамі народнага жыцця. А па-другое, галоўным чынам на змрочныя бакі вясковай рэчаіснасці звяртаў увагу герой апавядання, якое было напісана маладым празаікам з асветніцкіх пазіцый. Клім Шамоўскі, Кастусь Зарэмба вялікія надзеі ўскладалі на асвету, на аграпамічныя веды, таму яны так востра, так хваравіта рэагавалі на любую праяву цемнаты, забабоннасці, гаспадарчай неўладкаванасці. Асветай, прапагандай ведаў збіраліся яны ўплываць на жыццё, на норавы і ўяўленні жыхароў вёскі. Аповесць «У чым яго крыўда?» пазбаўлена такой мэтанакіраванай асветніцкай устаноўкі. Ярка выпісаныя бытавыя малюнкі і сцэны, накшталт сцэны ў лазні, гасцяванне Лявона ў Залужжы і асабліва скокі ў хаце Задумаў, уражваюць сваёй паэтычнасцю, цеплынёй, натуральнасцю. Перад намі не маралізатарскія сентэнцыі і ацэнкі пакрыўджанага, залішне ўзбуджанага героя, а шматфарбнае, шматгалосае, разнастайнае жыццё, у якім ёсць і змрочныя з'явы, і светлыя, радасныя хвіліны, што даюць надзеі на лепшае. Інакш кажучы, перад намі — эпічны твор, панарама народнага жыцця.

Вось каларытная, яркая сцэна ў лазні.

«Павярнуцца хацеў Лявон,— няма як... Унізе ў гразі — блазнота. Іншы плакаў ад дыму ці яшчэ ад чаго, цёр вочы і плёскаў сцюдзёнаю гразнаю вадою, але і тую яму нехта другі забараняў браць, адкідаў яго руку і казаў: «Не трасцу трасеш — сам прынясеш». Іншы сядзеў непарушна, ушчаміўшы галаву між сагнутага, выпнутага султыжкамі калення. Той шчыпаўся, той штурхаўся, той жартаваў: мацаў суседа абпэцканаю мокраю рукою па ваччу, а калі той круціўся, сціскаў на ўсю сілу яго нос у сваіх кінцах і ласкава пытаўся: «Ну ці бачыў, братка, Маскву?» (с. 19).

І іншыя шматлікія ўрыўкі з аповесці таксама ўяўляюць своеасаблівыя драматызаваныя сцэнкі. Як жывыя, паўстаюць перад намі героі, мы бачым іх постаці, іх твары, жэсты, погляд іхніх вачэй, а галоўнае, адчуваем іх унутраны свет, непаўторныя схільнасці натуры кожнага, іх памкненні і жаданні. Бачым, адчуваем і верым у іх паводзіны, верым у праўду іх характараў.

Пры гэтым М. Гарэцкі ўмее паказаць дынаміку падзеі, яе развіццё, рух. Ён удала пазбягае статыкі. Яго апісанні вельмі пластычныя, аб'ёмныя. Апавядальная плынь цячэ нязмушана, натуральна — як само жыццё. А якія трапныя, ёмістыя, дакладныя азначэнні знаходзіць М. Гарэцкі! Як тонка адчувае ён слова, яго адценне!

Аповесць даволі густа населена дзеючымі асобамі. І кожная з іх мае сваё непаўторнае аблічча. Выкладчык Пашкін «кароценькі, але вагою на пяць пудоў, і з вялікаю, буйнаю галавою, ён жа старшыня і кіраўнік тутэйшага гуртка эксперантыстаў, родам вель-

мі окаючы расіец-кастрамец, сорак пяць з зацяжкаю хвілін пералічаў усе адзнакі, па якіх найлепей пазнаваць малочную «карову» (с. 30). А выкладчык Дуб-Дубовіч, «беларус папоўскага або шляхецкага карэння», прыхільнік кадэтаў, «сорак пяць хвілін — праўда, без зацяжкі — расхваліваў як мог дзяржавінскую оду «Бог» (с. 30).

Важна падкрэсліць, што аповесць «У чым яго крыўда?», як і іншыя аповесці, уключаныя ў «Зборнік апавяданняў», пазбаўлена аднalінейнасці, вузкай тэндэнцыйнасці. Нават там, дзе пісьменнік звяртаецца да сатырычных фарбаў, дзе гучыць выкрывальная інтанацыя, чуецца іранічна-з'едлівы тон, мы ўсё роўна знаходзім рэалістычна-праўдзівую характарыстыку, аб'ектыўную ацэнку. Так, услед за характарыстыкай «кароценькага, але вагою на пяць пудоў» выкладчыка Пашкіна, які на працягу цэлай гадзіны пералічаў адзнакі малочнай каровы, чытаем: «І ў беднай галаве (Лявона Задумы.— *М. М.*),— не гледзячы на Лёксачкін абраз, які засеў там на ўсе вякі і на ўсе часы,— усё ж ткі мусілі застацца з лекцыі тыя галоўныя адзнакі: «вялікае малочнае люстэрка», «глыбокія малочныя равочкі на баку» (дзе якраз праходзіць нейкая жыла) і «кароткія ж равочкі на хрыбціне» (бог святы спомніць, паміж каторых там пазвонкаў)» (с. 30).

У прыведзеных урыўках, як бачым, арганічна зліліся разнародныя вобразна-выяўленчыя пачаткі — рэалістычна дакладная характарыстыка, тонкі гумар, іронія, з'едлівая насмешка, сарказм (чаго вартая нават адна толькі пагардлівая спроба Дуб-Дубовіча залічыць японцаў да ліку адсталых, але прабуджаных да культурнага жыцця!), спачуванне і г. д. А ўсё гэта разам узятае і ўтварае непаўторны, самабытны стыль прозы М. Гарэцкага.

Аповесць «У чым яго крыўда?» узнаўляе ранні, юнацкі этап духоўнай біяграфіі героя, пачатак яго станаўлення як асобы, як грамадзяніна. «Крыўда», якую нанеслі Лявону Задуму цёмналесцы, пасмяяўшыся над яго пачуццямі, выказанымі ім у лістах да дзяўчыны, не заглушыла таго здаровага, жыццядзейнага, што сфарміравала ў душы Лявона тая ж вёска, маральна-этычны вопыт народнага жыцця, гады вучобы, прачытаныя кніжкі і г. д. Вось гэты вопыт і прадвызначыў далейшы лёс героя.

Аповесць «Меланхолія» з поўным правам можна разглядаць як працяг аповесці «У чым яго крыўда?». Тут апавядаецца пра далейшае жыццё Лявона Задумы, які ўжо закончыў сельскагаспадарчую школу і едзе працаваць памочнікам каморніка ў глухі куток Віленшчыны. Мары пра далейшую вучобу на гісторыка-філалагічным факультэце не пакідаюць юнака. У лісце да таварыша ён так растлумачвае сваю прыхільнасць да гуманітарных ведаў і тое, чаму ён раздумаўся паступаць «у Межавы інстытут у Маскве ці па палітэхніку ў Кіеве»: «Я думаю, што ў нашым вызваленчым руху настаўнікі і літаратары яшчэ доўга будуць больш патрэбны, чым каморнікі і аграномы» (с. 53). Задума па-ранейшаму не страціў надзеі вывучыць «чужаземныя мовы». Тут цікава б было параўнаць погляды Лявона Задумы і героя дакастрычніцкага апавядання «Рунь», які «хацеў словам адраджаць чалавека ў беларусе (не ў другім кім, бо ён — сын беларускага народу і найлепі мог паслужыць Беларусі). Але запала яму неяк у галаву, што, вось, прарокі слова ў нас знаходзяцца, а прарокаў-эканамістаў няма.

Ён хацеў так. Сабраць у свеце ў адных сваіх руках столькі грошы, каб, напрыклад... купіць усю Вільню, і потым з гэтымі гра-

шамі рабіць эканаміцкае адраджэнне Беларусі. Гэта, у паследку, была яго манія, і некаторыя лічылі яго блізка што ненармальным» («Рупь», 1914, с. 4—5).

Зусім відавочна, што аўтар «Меланхоліі» ўнутрана палемізуе з героем сваёй ранняй творчасці, абвяргае аднабаковы характар яго вывадаў і меркаванняў. Гэтая палеміка якраз і была сведчаннем істотных змен, якія адбыліся ў светапоглядзе пісьменніка.

У аповесці «Меланхолія» М. Гарэцкі паглыбляе вобраз Лявона Задумы, юнака тонкай натуры, чулага, уражлівага, унутрана-засяроджанага, юнака, які шмат раздумвае над сэнсам жыцця.

Аднак высакародным памкненням Лявона Задумы не суджана было збыцца. Не адчуваючы ўнутранай задаволенасці ад працы, не маючы маральнай падтрымкі з боку тых, хто яго акружае, герой хутка пакідае каморніцкую службу (а гэта таксама палеміка з вобразам прарока эканамічнага адраджэння!) і з сумным настроем, без акрэсленай жыццёвай мэты вяртаецца да бацькоў у родную вёску. Там ён не знаходзіць душэўнага заспакаення і зноў думае развітацца з жыццём. Толькі ў самы апошні момант пад уражаннем нечаканай сустрэчы з панамі Задума ўсведамляе недарэчнасць свайго рашэння, асуджае свае намеры.

«Сорамна зрабілася, што ён, каго тут першага высунула спаняволеная і цёмная мужыцкая грамада бліжэй да волі і навукі, да праўдадырства і змагання, што ён ходзіць тут як непрыкаяны, наракае, тужыць і думае аб смерці [...].

Фу, брыда! Прэч, нарэшце, гэтую нягодную думку. Ці ж я жыў? Ці ж я змагаўся? Ці ж я шукаў якіх новых шляхоў, калі тыя, якімі ішоў дагэтуль, не вядуць да мэты?» (с. 113).

І Лявон Задума дае сабе слова шукаць новыя шляхі барацьбы за лепшае жыццё: «Краіна мая родная! Мы, твае верныя сыны, яшчэ перабудуем цябе! Не будзеш ты такая сумная і ўбогая!»

І ішоў усё шыбчэй і шыбчэй, шаптаў сам сабе словы радасці і ўцехі, чуў сябе моцным і адважным, хацеў ляцець...» (с. 114).

Трэба сказаць, што даследчыкі творчасці М. Гарэцкага да апошняга часу недастаткова ўвагі надавалі «Меланхоліі». У падтэксце некаторых ацэнак улаўлівалася думка, нібыта ў аповесці празмерна многа песімізму. Нездарма, маўляў, галоўны герой — скептык, хворы на меланхолію — спрабуе скончыць жыццё самагубствам. Зусім відавочна, што «песімізм» твора — перабольшаны, бо яго змест не пацвярджае падобных вывадаў. Ды і нельга атаясамліваць пазіцыю героя з пазіцыяй аўтара, а ў выказваннях першага бачыць непасрэдны адбітак светапогляду мастака. Хаця ў аснове сваёй «Меланхолія» напісана ў даволі складаны для пісьменніка перыяд жыцця і творчасці (у 1916—1921 годзе),— гэта глыбока аптымістычны твор. Змрочныя думкі і выказванні Лявона Задумы, народжаныя канкрэтнымі абставінамі, у якіх ён аказаўся, не з'яўляюцца сведчаннем песімізму М. Гарэцкага. Каб паказаць, як Лявон Задума прыйшоў да тых пэўных, глыбокіх высноў, якія ён робіць у канцы твора, пісьменнік якраз і вымушаны быў правесці яго праз пакутлівыя сумненні, расчараванні. Аўтар «Меланхоліі» знарок ставіць героя ў складаныя жыццёвыя ўмовы, каб выпрабаваць яго характар на трываласць. І ён вытрымлівае гэтыя выпрабаванні.

Адметная рыса характару Задумы ў тым, што ён не прымае чужых думак, меркаванняў, а хоча сам ва ўсім разабрацца, да ўсяго дайсці самастойна. Ён вельмі востра рэагуе на любыя, здава-

лася б, нязначныя праявы жорсткасці, душэўнай чэрстваснці, сацыяльнай і нацыянальнай няроўнасці. Чужую крыўду і боль Задума ўспрымае як сваю ўласную. Прыгадаем яго сутычку з чыноўнікамі на пошце. «...першая прысунулася да акенца маладзіца з лістом.

— Панічок, напішыце вы мне адрэс,— ціхенька і ласкава прамовіла яна і памкнулася пакласці ліст на акенца. Але паштавік крутнуўся ўбок.

— Я не абязан пісаць вам адраса!

Яна піякава адышла назад» (с. 70).

Задума не мог спакойна назіраць за гэтым здзекам над бяспраўнай жанчынай. Чэрствасць, абыякавасць, бяздушнасць сталі нормай паводзін прадстаўнікоў пануючага класа. Задума спрабуе пратэставаць, але пратэст яго аказваецца наіўным і смешным. Зрэшты, не будзем патрабаваць ад героя нейкіх больш рашучых, усвядомленых дзеянняў, бо ён жа, як вядома, робіць толькі першыя самастойныя крокі па шляху спасціжэння законаў класавага грамадства: Задума дагэтуль яшчэ ні разу не бываў у вялікім горадзе, не жыў там, і яго сацыяльны вопыт яшчэ даволі абмежаваны. Прыгадаем, напрыклад, змест яго першага ліста з дарогі да таварыша, прасочым за логікай ягоных разважанняў і кірункам інтарэсаў: «Дагэтуль нідзе не быў я далей за М. і Г., і вось сёння, першы раз у сваім жыцці, убачыў я вялізарны вакзал, аграмадныя паравозы, машынны свет, няўпынны людскі рух і ўсякую іншую цывілізацыю.

Убачыў я таксама ў першым класе процьму багатых дарожных паноў, пышны цвет расійскае панскае культуры на Беларусі, і побач з гэтым, толькі ў другім канцы будынку, у трэцім класе, убачыў я Беларусь, нашу беларускую мужыцкую культуру, прадстаўнікі якой, як няшчаснае, бруднае і затуканае быдла, валяюцца покладам на падлозе, у лапцёх, у лахманох, у мэтлухах, з убогімі торбачкамі і з прыцішанаю, скованаю ад чужой пагарды моваю на засмяглых вуснах» (с. 54).

Разважанні Задумы ідуць, як бачым, у выразна акрэсленым рэчышчы грамадскіх інтарэсаў, хоць ён яшчэ і не мае ўяўлення, дзе ж шукаць выхаду з такога становішча.

Не знайшоў Лявон Задума агульнай мовы і з каморнікам, што праводзіў землеўладкаванне, і з сялянамі, якія высяляліся на хутары і якія глядзелі на каморнікаў як на чужых людзей, як на прадстаўнікоў улады. «Ужо праз колькі дзён заўважыў я, што не толькі ад гэтага старога каморніка з паповічаў, з якім я працую, але і ад мяне яны адгарадзіліся кітайскім мурам, хоць я бачу ў іх тых жа самых сваіх родных цёмпалесцаў і абходжуся з імі як селянін з сялянамі» (с. 59).

Тут варта звярнуць увагу на тое, што выхад на хутары не выклікаў у душы Задумы асаблівай радасці і ўздыму, бо ён бачыў, што такая мера мала што зменіць у становішчы сялянства: камеральная праца не мае ніякага сэнсу, «бо ні зямлі, ні праўдзівага землеўпарадкавання яна не дае і даць не можа» (с. 59). Кароткачасовае знаходжанне ў Вільні, няўдалае наведванне Беларускага клуба, дзе Задума спадзяваўся ўбачыць актыўную культурна-асветную працу, яшчэ больш ускладніла і без таго цяжкі псіхалагічны стан, прымусіла яго вярнуцца да бацькоў. І гэты зварот у родную вёску — невыпадковы. Хоць песімістычны настрой героя дасягае сваёй кульмінацыі ў час знаходжання ў бацькоўскай хаце, глыбокі

ўнутраны сэнс мае тое, што іменна ў родным Цёмналессі адбываецца яго духоўнае абнаўленне, што ён пераадольвае ўнутраны крызіс. А гэта пераадоленне з'яўляецца вельмі важным момантам для разумення ідэйнай накіраванасці ўсяго твора.

Аптымістычны пафас аповесці «Меланхолія» забяспечваецца не толькі фіналам, але перш за ўсё самім зместам — шматлікімі малюнкамі сялянскага жыцця, разгорнутымі паэтычнымі апісаннямі прыроды і асабліва — успамінамі героя пра сваё незабыўнае маленства. Праз гэтыя малюнкі, сцэны, апісанні якраз і раскрываецца аўтарская ідэйная пазіцыя, яго жыццесцвярджальная філасофія, яго мужная вера ў будучыню. Варта падкрэсліць, што выяўлены тут ідэйна-эстэтычны прынцып уласцівы не толькі «Меланхоліі», але, як мы бачылі, і аповесці «У чым яго крыўда?», а таксама аповесці «Ціхая плынь». Гэта і зразумела, паколькі аповесці — пасля іх адпаведнай дапрацоўкі або перапрацоўкі — разглядаліся М. Гарэцкім як часткі вялікага эпічнага твора, галоўная тэма якога (і тут зноў варта прыгадаць «Камароўскую хроніку»!) — народнае жыццё у разнастайных канкрэтна-гістарычных, сацыяльна-бытавых, нацыянальна-своеасаблівых яго праяўленнях. М. Гарэцкі паказвае жыццё, працу, побыт цёмналесцаў як мастак-эпік. Яго апісанні пазбаўлены зададзенасці, перадузятасці. Ён нідзе не згушчае фарбы, не дэфармуе жыццёвы матэрыял, а паказвае рэчаіснасць такой, як яна ёсць, імкнучыся да захавання натуральных прапорцый і суадносін светлых і цёмных фарбаў. Вось, напрыклад, сцэна прыезду Лявона ў вёску. Радасць сустрэчы пануе ў хаце. Але падпіўшы бацька ўносіць дысананс у гэты прыўзнята-ўрачысты настрой, што вельмі засмуціла госця. Тым болей, што бацька нізавошта накінуўся на малодшага сына. Але вось той жа бацька малоціць у гумне разам з маці, Лаўрыкам і Лёксай, запрошанай на дапамогу. Колькі сапраўднай дабрыні, чалавечнасці, шчырасці ў гэтых людзей!

«— А, устаў-ткі! — дужа ласкава прывітаў Лявона бацька, не кідаючы махаць цэпам.— І ахвота ж была. Я думаў, што ты жартуеш. Спаў бы сабе пасля дарогі.— Лявонічка, што ж ты гэта выдумаў,— таксама не спыняючы работы, толькі мяняючыся на руку, сказала і маці.— Бацька табе смехам учора казаў, а ты ўзяў ды прыйшоў. Ідзі ты спі».

А з якім высокім пачуццём уласнай годнасці паводзіць сябе Лёкса, набрацца з якой марыў Лявон Задума з аповесці «У чым яго крыўда?». Лёкса «супакойна падышла да малацьбітоў з сваім цэпам, супакойна сказала: «Гэты ўжо будзе ямчэй» (відаць, мяняла каля асеці цэп),— і стала малаціць з імі разам, у чатыры цапы».

А з якім радасным натхненнем малоціць збожжа сялянская сям'я! Колькі тут сапраўднай высокай паэзіі! З якой любоўю і павагай паказвае М. Гарэцкі сваіх герояў! «Тра-та-та!.. Тра-та-та!..— Бацька біў так, што аж снапы варушыліся. Лёкса малаціла падзявочаму; яе цэп не лятаў высока, але бічук лажыўся ўвесь і лажыўся ёмка, дзеўка была здаровая. Толькі бедны Лаўрынька «гладзіў», хоць і стараўся паказаць перад братам і сваю сілу і сваё ўмельства...» (с.99).

І яшчэ: «...дамалацілі, зграблі ў кучу, адбілі атору... прыйшла матка, вясёлая, гукнула снедаць, ...усе ішлі спрацаваныя, абкураныя вялікім сівым пылам, ды вясёлыя, здаровыя [...]. Усе будуць мыцца сцюдзёпаю, прыемнаю вадою... У Лёксы чорна ад пылу пад носам, а яна тым часам прыгожая, лёгка і супакойна ідзе снедаць і

перад снеданнем будзе з асаблівацю спаміж усіх рабачаёў прысмнасцю мыцца сцюдзёнаю, толькі што прынесенаю з калодзежа вадою» (с. 101).

Не менш хараства, непадробнай паэзіі і ва ўспамінах галоўнага героя: «Якая любота пайсці на ляда і паміж зарасняў, ля пня, назбіраць трэсак, злажыць і падпаліць. Налажыць хворасту, і калі агонь праб'ецца на гару і абхопіць жоўтымі языкамі суччa — легчы тут, грэцца, глядзець, як агонь шугае, ліжа галінкі, дыміць і яснее; і думаць аб восені, ціхім змрочным вечары, доўгай чорнай ночы; успамінаць леташні год» (с. 107).

Прыгаданыя малюнкі сялянскай працы, успаміны героя, глыбока паэтычныя апісанні прыроды якраз і з'яўляюцца змястоўнай формай адлюстравання народнага жыцця. Яны дапамагаюць чытачу адчуць, што песімістычны настрой героя — з'ява часовая, пераходная. І што юнак з такой моцнай эмацыянальнай памяццю, з такім арганічным успрыманнем народнай маралі, з такімі глыбока гуманістычнымі адносінамі да людзей — рана ці позна выкіруецца на правільны шлях, адродзіцца да новага жыцця, хоць і багата давядзецца яму спазнаць пакут, каб яго мары і спадзяванні сталі сапраўднасцю.

Аповесць «Меланхолія» — сведчанне паспяховага авалодвання М. Гарэцкім сакрэтамі пісьменніцкага майстэрства, сакрэтамі псіхалагічнага аналізу.

Аповесць «Ціхая плынь» паводле аднадушнага прызнання крытыкі належыць да найбольш значных, найбольш дасканалых у мастацкіх адносінах твораў М. Гарэцкага (Грунтоўны разгляд аповесці гл. у прадмове да І-га тома дадзенага выдання, с. 28—34).

«Ціхая плынь» — гэта твор, пры адлюстраванні жыцця ў якім і пры раскрыцці характараў, выяўленні ўнутранага свету герояў пісьменнік зыходзіў з прынцыпаў усвядомленага гістарызму. Лёс герояў аповесці не проста раскрываецца на шырокім грамадскім фоне, а як бы вырастае з канкрэтных сацыяльных, грамадскіх умоў. Так, першы раздзел аповесці мае назву «Забыты край». Але гэта не традыцыйны гісторыка-этнаграфічны экскурс у мінулае. Тут даецца вытлумачэнне прычын таго становішча, у якім героі твора знаходзяцца ў сучасны момант. Становішча ж іх — незайздроснае, бо жыхары «забытага краю» аказаліся на задворках гісторыі. «Старыя граматы і акты гаспадарства, у кругабегі вялікіх разбурэнняў пазаглабаныя ў бібліятэкі чужых краёў, нямала пішуць пра вялікае Лугвенева ў сівой мінуўшчыне. Цяпер яно — забыта шумным светам і ціха спіць» (с. 125).

Ушчэнт абрабавалі прадстаўнікі пануючага класа працоўнага селяніна, не пакінуўшы яму аніякай надзеі на лепшае. «Скрозь цэлае лета, як толькі святы дзень, хадзілі да князя асмолаўцы, каб дабром дайсці да ладу з несправядлівымі абрэзамі і выпрасіць палёгку на пашу і на ўругу» (с. 126). Але не знайшлі справядлівасці асмолаўскія сяляне, не захацеў нават выслухаць іх стары князь, з'ехаў у свет, кінуўшы ўсе гаспадарчыя справы на новага аканома, які пільнуе толькі свой асабісты інтарэс. А для бяспраўнага селяніна нідзе няма паратунку, няма выйсця.

У аповесці створаны глыбокі, рэалістычна-праўдзівы вобраз вёскі, у якой пануюць страшэнная беднасць, галеча, паступова замірае жыццё. «Дзікай травою красуюць палеткі. Гніюць і правальваюцца стрэхі. Хлопцы едуць у шахты і на фабрыкі, і наогул «у свет», але шлюць яны адтуль часцей лісты з уклонамі старому

і маламу, чымся пяць, тры, а то хоць бы адзін рубель. І штогоду наязджае валаснос начальства спагаляць пядоімкі, наязджае з грудам асмолаўскіх махляроў рабіць продаж мужыцкай маемасці з торгу. І смяюцца начальнікі і махляры: прадаваць бо не дужа чаго ёсць. А тыя асмолаўцы возяць а возяць князёў спірт, болей а болей нялюдзеюць і хаваюцца самі ў сабе. Ат, ліха з ім, са светам, тлумным і незразумелым...» (с. 128).

Інакш кажучы, жыццё і побыт сваіх герояў, асаблівасці іх псіхалогіі, іх характару М. Гарэцкі высвечвае гістарычнымі, сацыяльна-эканамічнымі фактарамі. У несправядлівым сацыяльным ладзе бачыць ён прычыны гаротнай сялянскай долі, вытокі грамадскай пасіўнасці селяніна і нават сумны матыў яго песень. Глыбокі аналіз сацыяльнай рэчаіснасці ў спалучэнні з аналізам унутранага свету героя якраз і складае адметную і вельмі прывабную якасць «Ціхай плыні» як мастацкага твора. М. Гарэцкі не ілюструе загадзя вызначаны сацыялагічны тэзіс вобразамі герояў. У канкрэтных бытавых праявах раскрывае ён перад чытачом гісторыю аднаго з тых, хто жыве ў «забытым краі»,— сумную, трагічную гісторыю вясковага хлапчука Хомкі.

Гэта вельмі тыповая гісторыя. Дзяцінства Хомкі, яго вучоба ў школе (раздзел «Горкая прамудрасць»), сумесныя паездкі з бацькам, які возіць на продаж спірт з княскага бровару, дарожныя прыгоды і здарэнні («Школа жыцця»), першае наведванне кірмашу, удзел у бойцы гарадчан і асмолаўцаў («Кірмашовыя прыемнасці»), заўчаснае выпраўленне ў салдаты, першыя дні знаходжання на фронце і такая жахлівая смерць хлапчука («Парогі») — вось падзейны бок зместу «Ціхай плыні». І ў кожным паасобным здарэнні выразна бачацца непрымірымыя сацыяльныя супярэчнасці тагачаснай эпохі. Прыгадаем, у якіх невыносных умовах вымушаны былі вучыцца вясковыя дзеці. «Зіма, сцюжа, куты ў будынках пакаюць ад лютага марозу. У невялічкай хатцы, аддадзенай паводле прыгавору грамады пад школу граматы, малюпаценькія шыбы ў акенцах пазамярзалі на цэлую цалю, ажно маразяны хлоп вісіць».

А колькі гора, душэўных пакут давялося перажыць Хомку ў час вучобы. Чаго варты вынайдзены настаўнікам спосаб адвучыць дзяцей ужываць нялюбыя яму мужыцкія словы — як, дык, хай, ці і г. д. «Слухайце, дуб'ё! Як я ні ўчу вас гаварыць правільна і чыста, вы ўсё якаеце і дыкаеце». І пачаў настаўнік уручаць драўляную бірку з ненавіснымі словамі таму, хто першы скажа хоць адно з іх. «У каго бірка застанецца да абеду, той будзе пакінуты без абеду, у каго застанецца да канца дня, таго я пакіну сядзець у класе да позняга вечара».

А з якім глыбокім майстэрствам намаляваны М. Гарэцкім сцэны ў заезным двары, асабліва здарэнне з прапажай падпінка. Як крыўдна і балюча было Хомку, калі яго западозрылі ў крадзяжу і пачалі абшукваць, нібы злодзея. «Хлопчык бялее, сэрца яго б'ецца рэдка-рэдка, але страшэнна дужа, і ў нагах — прыкрая мляўкасць. «Як яны могуць думаць на мяне?» (с. 154).

Не толькі паасобныя сцэны, але ўся аповесць вызначаецца выключнай глыбінёй і тонкасцю сацыяльнага і псіхалагічнага аналізу, аб'ёмнасцю і пластычнасцю малюнка. «Ціхая плынь» — гэта ўзор сталай аналітычнай прозы, твор глыбокай сацыяльнай ідэі, якая знайшла сваё гарманічнае мастацкае ўвасабленне.

Даволі значнае месца ў мастацкай спадчыне М. Гарэцкага займаюць творы драматычнага жанру. Ужо ў самым пачатку сваёй

дзейнасці пісьменнік не абмяжоўваўся якой-небудзь адной жанравай формай, а ахвотна спрабаваў свае сілы ў розных жанрах, у тым ліку — у драматычных. Першым драматычным творам М. Гарэцкага быў «кароткі жалобны абразок» «Атрута», апублікаваны ў 1913 г. У абразку пісьменнік-гуманіст страсна выкрываў такое сацыяльнае зло, як п'янства, праўдзіва паказваў жыццё і побыт беларускай дакастрычніцкай вёскі.

Сюжэт твора нескладаны. Селянін Раман прапівае апошнюю капейку, збывае нават такія неабходныя ў гаспадарцы рэчы, як хамут, хоць у хаце галодныя дзеці, цяжкахворая жонка. У рэдкія хвіліны прасвятлення ад п'янага чаду Раман пачынае ўсведамляць, на якія нясцерпныя пакуты асуджае ён сваю сям'ю, блізкіх («Татуля! Ганна! Ці я ж нічога не разумею? Ці мне ж не баліць? І ці я не заракаўся? [...] Ратуйце мяне...»), але не мае сілы перамагчы сябе. Трагічна заканчваюцца падзеі ў хаце селяніна: памірае жонка, гіне маленькі сын, а самога Рамана праклінае яго бацька.

Пафас гэтага твора — у абароне скрыўджанага, бяспраўнага чалавека, які не бачыць выхаду з існуючага становішча.

Абразок «Атрута», вядома, яшчэ нельга лічыць значным у ідэйна-мастацкіх адносінах творам, бо ён напісаны ў асноўным з асветніцкіх пазіцый. Гэта быў толькі першы вопыт, першая, а таму і недастаткова ўпэўненая спроба авалодаць складаным жанрам.

У тым жа 1913 г., калі абразок «Атрута» быў надрукаваны, М. Гарэцкі выступіў з вялікім артыкулам праграмнага характару, дзе пераканаўча абгрунтоўваў рэвалюцыйна-дэмакратычны кірунак у беларускай літаратуры. Аўтар артыкула «Наш тэатр» («Калядная пісанка») звяртаўся да беларускіх пісьменнікаў з заклікам стварыць вартыя працоўнага народа драматычныя творы, якія б далі жыццё нацыянальнаму тэатру. Роля тэатра ў сацыяльным і нацыянальным абуджэнні селяніна-працаўніка, рабочага, рамесніка, у выхаванні грамадзянскіх пачуццяў надзвычай вялікая: «Пакажыце беларусу са сцэны, хто ён, чым ён быў, што ён цяпер, чым бы ён мог быць, гукніце яго са сцэны да новага жыцця — і божа мілы! — гэты гаротнік беларус, пераканаўшыся, ужо знойдзе здольнасці парваць ланцугі рабства, патрапіць крыкнуць: «Жыве Беларусь!» — так дужа, што аж векавыя муры няволі, як тыя сцены ерыхонскія, пасыплюцца ў прах. А ў такім разе доўг нашых пісьменнікаў, каторы яны павінны сплачваць, гэта — у драматычных творах паказаць беларусу, у якой пушчы ён блудзіць і дзе ляжыць яму дарога на поле, шырока-далёкае, роднае поле вольнага жыцця» (Калядная пісанка, с. 15).

Артыкул М. Гарэцкага цікавы яшчэ і тым, што ў ім знайшла непасрэдны водгук палеміка адносна шляхоў развіцця беларускай літаратуры, якая ўзнікла ў 1913 г., на старонках «Нашай нівы» і ў якой удзельнічаў Я. Купала. Пазіцыя М. Гарэцкага тут блізкая да пазіцыі Купалы, выразніка перадавых рэвалюцыйна-дэмакратычных поглядаў, абаронцы інтарэсаў прыгнечанага народа. Гарэцкі выразна гаворыць пра гэта, цытуючы назву аднаго з артыкулаў пра «сплачванне доўгу». Літаратура, тэатр, падкрэслівае Гарэцкі, павінны шырока, усебакова, праўдзіва паказаць жыццё, побыт, духоўны свет, маральнае аблічча працоўнага беларуса, яго гістарычнае мінулае, абудзіць яго чалавечую годнасць, натхніць яго на барацьбу з сіламі цемры і прыгнёту.

У рэалізацыі шырокай праграмы, намечанай у артыкуле «Наш тэатр», павінен быў прыняць непасрэдны ўдзел і яго аўтар. Дра-

матычная аповесць «Антон», завершаная ў лютым 1914 г., якраз і стала практычным укладам М. Гарэцкага ў развіццё беларускай драматургіі.

У жанравых адносінах «Антон», які ў падзагалоўку мае назву «Абразы жыцця»,— твор своеасаблівы. Яго нельга аднесці без пэўных агаворак да драматычнага роду, хаця многія адзнакі драматычнага жанру, перш за ўсё дыялагічная форма, тут захоўваюцца. Канфлікт вырашаецца таксама ў адпаведнасці з законамі драматычнага мастацтва — праз сутыкненне характараў.

І ўсё ж з большым правам твор можна назваць драматызаванай аповесцю. (Калі ж гэта — драма, дык хутчэй т. зв. драма для чытання.) Асноўная аўтарская думка не вычэрпваецца цалкам той ідэяй, якая раскрываецца ў сутыкненні галоўных герояў, праз канфлікт. Таму і не выпадкова, што дзеянне ў творы працягваецца пасля таго, як герой сыходзіць са сцэны. Няма ў «Абразах жыцця» і ўласцівых сцэнічным жанрам актаў, карцін, з'яў. Твор складаецца з раздзелаў, кожнаму з якіх папярэднічае разгорнутая рэмарка і эпіграфы з Багушэвіча, Купалы, Бядулі, Л. Талстога, Гаршына, вуснай народнай творчасці і г. д. Рэмаркі па свайму зместу ўспрымаюцца як фрагменты эпічнага твора. Шырока карыстаецца аўтар прыёмам унутранага маналогу і такім сродкам эпічнага пісьма, як «плынь свядомасці» героя.

Драматызаваная аповесць Гарэцкага з'яўляецца творам, у якім пастаўлена праблема духоўнага жыцця чалавека. Філасафічнасць складае адну з каштоўных яе якасцей.

Падзеі, адлюстраваныя ў аповесці, прыпадаюць на пачатак XX стагоддзя. Гарэцкаму ўдалося перадаць тагачасную грамадскую атмасферу, змены і зрухі ў жыцці, ломку і разбурэнне старога ўкладу. Пісьменнік паказвае, як на змену старому, аджываючаму класу прыходзілі прадстаўнікі новага сацыяльнага саслоўя — буржуазія, кулацтва, гандляры. Яны неслі з сабой не толькі драпежніцкія спосабы гаспадарання, але і драпежніцкую мараль, жорсткую, бесчалавечную філасофію.

У сферу аўтарскага адлюстравання трапляюць разнастайныя бакі рэчаіснасці, жыццё розных сацыяльных груп: духавенства, панскай чэлядзі і інш. Паказвае аўтар і людзей, кінутых на самае дно жыцця, пазбаўленых нармальных сувязей з грамадствам. Жабракі — гэта ахвяры несправядлівага правапарадку. Але яны добра засвоілі мараль эксплуататарскага ладу, яго жорсткія законы. «Грэх у мех, а спасенне наверх», «альбо ў торбу ды аб вугал» — дэкларуе адзін з жабракоў. Сфера іх жыцця, іх побыт, норавы — гэта прымітыўная копія тых адносін, якія пануюць у класавым грамадстве. Тут мы бачым тую ж вострую канкурэнцыю, жорсткую барацьбу за месца пад сонцам, тую ж глыбокую пагарду да «патрэбы духа». Жабракі — гэта спекулянты, гандляры ўласным калецтвам, людзі, якія паразітызм узвялі ў важнейшы жыццёвы прынцып.

На гэтым вось сацыяльна-бытавым фоне, ва ўмовах абвастрэння класавых супярэчнасцей, у абстаноўцы пераацэнкі духоўных каштоўнасцей мінулага разгортваецца канфлікт твора.

Праўда, пасля вырашэння асноўнай сюжэтнай калізіі дзеянне не заканчваецца. Яно пераносіцца з вёскі і панскага маёнтка ў іншае асяроддзе — у горад. Перад чытачом раскрываецца гарадскі пейзаж, праходзяць — як у кінематографе — эпізадычныя фігуры людзей, якія стаяць на самых розных прыступках сацыяльнай

лесвіцы. Пісьменнік дае магчымасць паслухаць, пра што спрачаюцца, аб чым мараць людзі гарадскога дна і ідэалісты-рамантыкі, афіцэры і чыноўнікі-казнакрады, аматары лёгкага жыцця і «звездаосцы», прыхільнікі і ворагі беларускага адраджэння.

Сувязь дынамічных «гарадскіх» раздзелаў з папярэднімі часткамі грунтуецца на адзінстве ідэйнай задумы.

У аснове канфлікта аповесці — сутыкненне розных поглядаў на жыццё і чалавека, сутыкненне дзвюх маральна-этычных канцэпцый. Герой аповесці селянін Антон імкнецца жыць па законах праўды, дабра, справядлівасці. Чалавечнасць, спагадлівасць да чужога гора, чуласць — вось тыя прынцыпы, на якіх грунтуюцца яго жыццёвыя паводзіны. Галоўная, вызначальная рыса ў характары Антона — тое, што ён «патрэбы духа», духоўны пачатак ставіць вышэй «патрэбы цела». Падобныя погляды не прымаюцца, аднак, людзьмі, у сяроддзі якіх усё больш трывала ўмацоўваюцца нормы капіталістычнага свету. Так, бацька Антона, панскі ляснік Аўтух, лічыць яго слабым на розум, непрыстасаваным да жыцця. Ляснік марыў вывесці сына ў «людзі»,— зрабіць панскім лёкаем, але той не захацеў ісці па бацькавай дарозе, не прыняў яго жыццёвай філасофіі. Антон спадзяецца добрым словам вярнуць бацьку на шлях сумленнага жыцця, але той застаецца глухім да ўгавораў. «А я бацьку прасіў, а я бацьку маліў, я худога слова яму не сказаў, а ён пад старасць яшчэ горш пачаў... У лесніках служыць... Людзём крыўду робіць... А хто з добрых людзей з ім у згодзе! А смяюцца толькі ўсе. А хто яго «панскім сабакам» не лаяў? А сваркі тэй, а слоў брудных ды на старога [...] Нікога татка не любіць, злуе... Толькі па лесе са стрэльбай, як той воўк, як той чараўнік, адзін-адным ад золак да позняга цягаецца-бадзяецца...» [1].

Натура Аўтуха сапсавана, маральна разбэшчана. Ён моліцца двум багам: таму, якому пакланяліся панскія паслугачы, лёкаі, і — богу, створанаму мараллю новага, буржуазнага грамадства,— богу эгаізму і нажывы. Аўтух са спакойным сумленнем абкрадвае сваіх гаспадароў, пускаецца на цёмныя махінацыі з гандлярамі і спекулянтамі, з «хлебным і пяньковым купцом». Ён нават не супраць збыць у павадыры старцам свайго ўнука. Увогуле з жабракамі Аўтух вельмі хутка ўстанаўлівае дзелавы кантакт, бо і сам ён духоўны жабрак.

Антона турбуе не толькі жыццёвы лёс яго блізкіх. Ён бачыць, што навокал пануе няпраўда, эгаізм, карыслівы разлік. Законы сумлення і справядлівасці занядбаны. «...і ўсе п'юць, і ўсім клопату як бы няма, шчэ й з мяне кпінкі кпяць... І ніхто ўжо веры не мае; у каго паўчыцца, у каго рады папрасіць?» (с. 206).

У спадзяваннях знайсці апору, зразумець, як павінен чалавек жыць на зямлі, Антон скіроўвае свае думкі да бога. Але і тут яго чакае глыбокае расчараванне. «Да бога звярнуўся — маўчыць нема бог...» — гэтыя купалаўскія радкі, пастаўленыя эпіграфам да аднаго з раздзелаў, нясуць важную сэнсавую нагрузку. І другі ўрымелька з Купалы — «Не мур павінен храмам звацца, а цэлы свет, зямля...» — гэтак жа арганічна ўплятаецца ў ідэйную канву аповесці, раскрываючы змест і накірунак аўтарскай думкі. Антон не знаходзіць жаданай дапамогі і палягчэння ні ў боскім слове, ні сярод людзей. Ён адчувае сябе духоўна адзінокім, незразуметым,

[1] Гарэцкі Максім. Антон: Абразы жыцця.— Вільня, 1919. У тэксце дадзенага тома — с. 206.

нікому непатрэбным. «Цяжка, калі чалавек не мае прытульнага чалавека ў жыцці». Смутак яго па людской еднасці глыбокі, крыўда і жаль — невымерныя.

Духоўнае адзіноцтва, расчараванасць, няўдалыя пошукі «свайго бога», нежаданне быць вінаватым перад дзецьмі «ў сёмым калене» («Чым будуць вінаваты дзеткі мае, калі зародзяцца за грэх бацькоў сваіх малапамятнымі») (с. 206) прыводзяць Антона да злачынства. Смерць героя, пацягнуўшая за сабой ланцуг новых драм, была выклікам несправядлівай грамадскай сістэме, «тым абставам, у якіх ён жыў і шукаў...». Гэта быў выклік і афіцыйнай рэлігіі, у якой расчараваўся наіўна-даверлівы чалавек. Канаючы на бальнічным ложку, Антон не просіць даравання. «Так і памёр без споведзі».

Трагічная смерць Антона, вар'яцтва яго жонкі становяцца прадметам гарачай спрэчкі сярод персанажаў, якія ўпершыню з'яўляюцца ў «гарадскіх» частках аповесці. Адным з актыўных удзельнікаў дыскусіі выступае «беларускі аўтар», блізкі па сваіх поглядах да аўтара твора. Дзякуючы такому вось кампазіцыйнаму прыёму пісьменнік атрымаў багатую магчымасць з розных пунктаў гледжання ацаніць асноўную калізію «Абразоў», характар героя, а з другога боку — выказаць свае погляды на шэраг актуальных праблем эпохі — праблем сацыяльна-палітычнага, грамадскага парадку, праблем, звязаных з гісторыяй беларускага народа, шляхамі развіцця яго культуры. Закрануты пісьменнікам і пытанні літаратурна-творчага жыцця.

Вядома, з вышыні шматгадовага вопыту лепш відаць пэўная адцягненасць аўтарскіх разважанняў, іх абстрактнасць, дэкларацыйнасць. Катэгорыя нацыянальнага разглядаецца тут без належнай дыферэнцыяцыі. Ёсць пэўная аднабаковасць, палемічная завостранасць і там, дзе пісьменнік гаворыць аб мінулым беларускага народа.

Зрэшты, не гэтыя абумоўленыя канкрэтнымі абставінамі крайнасці і непаслядоўныя сцвярджэнні вызначаюць сутнасць аўтарскіх поглядаў. Галоўнае ў аповесці — гэта ідэя ўслаўлення беларускага народа, думка аб яго духоўнай веліччы, маральнай прыгажосці. «А народ мой — народ-паэт, народ-лірнік, народ, каторы ў гістарычным жыцці сваім заўсёды больш схіляўся к патрэбам душы, чымся к патрэбам цела» (с. 257). Пісьменнік гаворыць пра міралюбівы характар беларускага народа, яго добразычлівасць у адносінах да суседзяў, прыроджаную сціпласць. Гарэцкі выступае тут як пісьменнік-патрыёт і разам з тым як інтэрнацыяналіст, прыхільнік дружбы і брацтва людзей.

Тэзіс аб «патрэбах духа» і «патрэбах цела» можа ўяўляцца занадта адцягненым, калі не ўлічыць наступнага. У «Абразах жыцця» Гарэцкі зрабіў спробу выправіць тую аднабаковасць поглядаў на ролю эканамічных, гаспадарчых фактараў у грамадскім прагрэсе, што мела месца ў некаторых апавяданнях зборніка «Рунь». Ён імкнецца па-новаму паглядзець на ўзаемаадносіны духоўнага і матэрыяльна-канкрэтнага, утылітарнага пачаткаў. На змену культу «прарока эканамічнай думкі», практычных ведаў прыходзіць услаўленне чалавечага духу, услаўленне жыцця, у якім пануе духоўнасць. «Значыць — усё роўна... Значыць — рай на зямлі, калі знойдуць райскія законы жыцця целу... і зробяць магчымым гэта жыццё на зямлі... Рай, калі ўсе свіннямі сытымі на зямлі будуць?

[...] Лепш памерці, чымся жыць «вумпай» жывёліпай...» (с. 267),— так палемізуе «беларускі аўтар» з доктарам, які прызнае «толькі фізіялогію». Але і «аўтар», са свайго боку, не пазбег крайнасці. Аддаючы перавагу духоўнаму, ён як бы забывае, што ў грамадстве, калі яно ствараецца на разумных і гуманных пачатках, духоўнае не супрацьстаіць матэрыяльнаму, а знаходзіцца з ім у складанай узаемасувязі.

Вялікае месца ў спрэчках «беларускага аўтара» з апанентамі займаюць пытанні развіцця нацыянальнай літаратуры. У гэтых спрэчках выразна чуецца водгалас вядомай дыскусіі, якая вялася па старонках «Нашай нівы» ў 1913 г.

Пазіцыя Гарэцкага блізкая поглядам рэвалюцыйна-дэмакратычных пісьменнікаў. Ён рашуча бароніць народнасць і рэалістычныя асновы літаратуры, моцнай сваёй сувяззю з рэальным жыццём. Гарэцкі пярэчыць тым, каго не задавальняе журботны тон твораў беларускіх пісьменнікаў, іх «...плак без канца аб гаротнай долі, аб няшчаснай долі, аб незадачах мінуўшчыны і цяжарах цяперашняга часу» (с. 256). Ён не прымае літаратуры ўяўна бадзёрай, ружовай, павярхоўна-заклікальнай. Гэтак жа чужымі аказваюцца для Гарэцкага і парады тых, хто хацеў бы, каб нашай літаратуры былі ўласцівы «свае асобна-карысныя дамаганні і законы». Такія «законы» здольны падарваць літаратуру, загубіць яе. Гарэцкі выступае за глыбокае, арганічнае спалучэнне нацыянальнай праблематыкі і «агульна-чалавечых пытанняў».

У дакастрычніцкі час М. Гарэцкі больш не звяртаўся да драматычнага жанру, калі не лічыць кароткай сатырычнай «сцэнкі з натуры» «Гапон і Любачка», якая была напісана ў 1914 г. і з'яўлялася пачаткам задуманага тады сатырычнага твора.

«Гапон і Любачка» сведчаць аб тым, што сакрэтамі драматычнай формы М. Гарэцкі авалодаваў даволі паспяхова. Яму ўдалося стварыць змястоўную, жыццёва праўдзівую сцэнку, акрэсліць каларытныя постаці дзейных асоб. Гарэцкі з'едліва, дасціпна высмеяў духоўнае ўбоства, унутраную спустошанасць, мізэрнасць людзей, якія ўсур'ёз прэтэндавалі на званне інтэлігентаў. Гэта поп Малахій, настаўнікі царкоўнапрыходскай школы Гапон Гапонавіч і Любоў Іванаўна.

Да драматычнага жанру М. Гарэцкі зноў звярнуўся толькі ў паслякастрычніцкі час, калі воляю абставін вымушаны быў жыць і працаваць па-за межамі Савецкай Беларусі.

Як вядома, у 1919 г. М. Гарэцкі разам з рэдакцыяй газеты «Звязда», супрацоўнікам якой ён тады з'яўляўся, пераехаў у Вільню. Раптоўны захоп горада войскамі буржуазнай Польшчы перашкодзіў пісьменніку вярнуцца ў Беларусь. Ён працуе выкладчыкам беларускіх настаўніцкіх курсаў у Вільні, у Беларускай Віленскай гімназіі, піша шэраг мастацкіх твораў, навуковых прац.

У студзені 1922 г. М. Гарэцкі быў арыштаваны прадстаўнікамі акупацыйных улад, якія абвінавачвалі яго «ў прыналежнасці да партыі камуністаў, у арганізацыі тайных баявых дружын з мэтаю замаху на дзяржаўную ўладу, у друкаванай і вуснай прапагандзе». Неўзабаве пісьменнік, паводле яго ўласных прызнанняў, «са здзекам быў выкінуты з Вільні ў нейтральны пас паміж польскім і літоўскім фронтам» (Аўтабіяграфія.— У кн.: Пра час і пра сябе.— Мн., 1966, с. 95). Спачатку ён быў у Коўна, потым — у Дзвінску (зараз — г. Даўгаўпілс), дзе чытаў лекцыі на настаўніцкіх курсах. У Дзвінску ў 1922 г. была напісана большасць драматычных абраз-

коў: «Жартаўлівы Пісарэвіч», «Салдат і яго жонка», «Свецкі чалавек», «Не адной веры», «Каменацёс», «Чырвоныя ружы», «Жалобная камедыя».

Складанасць агульнай палітычнай абстаноўкі ў краіне ў 1919—1922 гадах, неспрыяльныя ўмовы, у якіх вымушаны быў у гэты час жыць і працаваць М. Гарэцкі, адсутнасць сталай сувязі з Савецкай Беларуссю, куды ён змог вярнуцца толькі ў кастрычніку 1923 г.,— усё гэта, безумоўна, не магло не пакласці пэўнага адбітку на змест і агульную ідэйную накіраванасць напісаных у гэты час мастацкіх твораў, у тым ліку і некаторых драматычных абразкоў («Жартаўлівы Пісарэвіч» і інш.). Тым не менш драматычныя творы, і асабліва такія з іх, як «Каменацёс», «Чырвоныя ружы», «Жалобная камедыя», сталі прыкметнай з'явай у творчай біяграфіі М. Гарэцкага, важным крокам у станаўленні яго светапогляду.

Драматычныя абразкі пашыралі ідэйна-тэматычныя абсягі творчасці пісьменніка, узбагачалі праблематыку, уводзілі новага героя. Ім станавіўся прадстаўнік розных сацыяльных груп, не толькі селянін, пан-эксплуататар, але і абуджаны рэвалюцыяй працоўны чалавек, рамеснік, нарэшце — рабочы. Новы ж герой садзейнічаў умацаванню гуманістычных, сцвярджальных пачаткаў у творчасці М. Гарэцкага. Пашыраліся і выяўленчыя магчымасці Гарэцкага-пісьменніка, больш багатай станавілася яго стылёвая палітра, у прыватнасці ўзмацняўся сатырычна-выкрывальны пафас твораў. Аб'ектам сатырычнага высмейвання выступалі носьбіты бездухоўнасці, мяшчанскай, абывацельскай маралі, палітычныя прыстасаванцы, прадстаўнікі эксплуататарскіх класаў, асуджаных рэвалюцыяй.

Вось герой «абразка з натуры» — Даніла Мутэрка, былы загадчык двухкласнай школы, зараз рэпетытар у мястэчку. Дзеля задавальнення сваіх эгаістычных, карыслівых інтарэсаў Мутэрка паступаецца сумленнем, чалавечым гонарам. Ён стаў палюбоўнікам багатай местачковай крамніцы ўдавы Блюмы Ліпскай, але, упадабаўшы яе дачку Соню, хоча парваць з Ліпскай. І свае ранейшыя непрыстойныя паводзіны і цяперашні ўчынак ён старанна маскіруе гучнымі дэмагагічнымі фразамі. Мутэрка імкнецца нацягнуць на сябе маску добрапрыстойнага грамадзяніна, сумленнага, прынцыповага чалавека. Ён таленавіта разыгрывае перад Ліпскай, яе дачкой і самім сабой пошлы фарс раскайвання. Маўляў, ён ірве з Ліпскай, кіруючыся ідэйнымі, маральнымі, патрыятычнымі меркаваннямі, таму што сувязь з жанчынай «буржуазнага складу думак», з жанчынай, якая «ў наш крывава-чырвоны час пужаецца самага маленькага знаку чырвонасці», перашкаджае яму, «прынцыповаму праціўніку ўсякіх ланцугоў», споўніць свой доўг перад народам. Крывадушша, амаральнасць і дэмагогія становяцца вызначальнымі прынцыпамі паводзін Мутэркі. Мутэрка прызнаецца, што хоць і падпарадкоўваўся савецкай уладзе, але «ўкараняць яе — не ўкараняў» і «ўкараняць» не стане. І тут жа гатовы залічыць сябе ледзь не да камуністаў, прыхільнікаў нацыяналізацыі, да сяброў працоўнага сялянства. Ён абураецца «подлымі буржуа... што жывуць у нас па гарадах і па мясцечках і смокчуць кроў з мужыка» (с. 290). Ён не супраць таго, каб нават арганізаваць у роднай вёсцы «нейкую камуну».

З непрыхаванай асалодай здзекуецца Мутэрка, увайшоўшы ў

ролю выкрывальніка, над пачуццямі старэйшай за яго жанчыны. «Памыляецеся, мадам Ліпская! Хай кожны чалавек ведае, што я выйшаў чысты з гэтага балота[...] што я хацеў, як сумленны чалавек, назваць вас сваёю жонкаю перад богам і людзьмі. Хай кожны сабака звягае, хай кожная жвінда жвіндае, што не я прадаваўся, але ты, паганая брыда, буржуйка, хацела купіць беднага вучыцеля з целам і душою. Хай жа ведаюць, што ты карыстала з майго цяжкога матэрыяльнага становішча і хацела купіць не толькі пралотарскае цела, але й вольную чалавечую душу». Як бы не абуралася і не крыўдавала абраджаная ў сваіх пачуццях мадам Ліпская, але і яна аказалася здольнай трапна ацаніць свайго крывадушнага палюбоўніка: «Вас многа такіх цяпер ёсць, я ведаю. Не ўсіх яшчэ выкінулі на сметнік бальшавікі...» (с. 294).

У вобразе Мутэркі М. Гарэцкі яркімі сатырычнымі фарбамі гнеўна закляйміў тып прыстасаванца, дэмагога, абываценя.

Разнастайныя паводле тэматыкі, цікавыя зместам і драматычныя абразкі «Салдат і яго жонка», «Свецкі чалавек», «Не адной веры».

У першым з іх М. Гарэцкі тонка, з вялікім майстэрствам пісьменніка-аналітыка даследуе душэўную драму салдата Цімафея і яго жонкі Агаты. Не можа Цімафей дараваць жонцы, якая ў час яго адсутнасці нарадзіла дзіця, мучае яе папрокамі, дакорамі, зводзіць сябе. Крыўда, жаль, спачуванне, злосць і нянавісць — усё гэта пераплялося ў душы салдата. Ён гатовы нават на злачынства, каб пазбавіцца ад душэўнай пакуты, змыць з сябе ганьбу.

Абразок «Салдат і яго жонка» прасякнуты глыбокім гуманістычным і антываенным пафасам. Іменна вайна выступае ў творы як галоўны вінаваўца чалавечай драмы, вайна, якая не толькі знішчае і фізічна калечыць людзей, але і прыносіць ім вялікія душэўныя пакуты, пазбаўляе іх шчасця.

Жыццёва праўдзівую фігуру вясковага юнака, які адрокся ад усяго роднага, ад маралі і звычаяў працоўнага люду, паказаў М. Гарэцкі ў «Свецкім чалавеку» — «драматычным абразку з дарэвалюцыйнага часу». Набыўшы пасаду швейцара ў горадзе, дарваўшыся да «прыгожага» жыцця, учарашні селянін узненавідзеў усё, што звязвала яго з вёскай. Ён дэманструе здзіўляючую маральную глухату, душэўную чэрствасць, дух ваяўнічага, наступальнага мяшчанства. «Даволі я быў дурнем, капаўся некалі, як жук у гнаі. Цяпер мы можам пажыць і дзеля свае прыемнасці» (с. 302).

З вялікім унутраным задавальненнем хлопец здзекуецца з бацькі, з маці, з іх мужыцкай гаворкі, каб сцвердзіць сваю перавагу: «...а ты быў муха з кучкі гною і здохнеш мухаю, як лапацон дурны. Мужык мужыком век-вяком — ведаеш?.. (...) Ты ераплянт бачыў? На грамахвоне іграў? Не? Ну, дык і маўчы» (с. 304).

У абразку «Не адной веры» М. Гарэцкі паказаў, як рэлігійныя забабоны калечаць душу чалавека. Фабрычны работнік Адварды, каталіцкага веравызнання, збіраецца ўзяць шлюб з праваслаўнай. Але ён не знайшоў у сабе сілы, каб узняцца над старымі ўяўленнямі і абараніць сваё шчасце. Шчыра кахаючы дзяўчыну, Адварды тым не менш аказаўся ахвярай цемнаты, забабоннасці. Ён паслухмяна ідзе ўслед за братам, прававерным абаронцам старога ўкладу.

Асаблівую цікавасць у плане пошукаў пісьменнікам новага героя ўяўляе драматычны абразок «Каменацёс». Безыменны герой гэтага твора якраз і нясе ў сабе рысы чалавека новага тыпу. Яму ўласцівы гістарычны аптымізм, жыццялюбства, схільнасць марыць

пра заўтрашні дзень. «Эх, жонка! Хочацца жыць, толькі яшчэ нядобра ідзе жыццё пакуль што. А ўжо нам лепей жыць, чым нашым дзядом было, а ўнукам нашым лепей будзе, чым нам цяпер».

Каменацёса радуе, што людзі нарэшце прыдумалі спецыяльную машыну, якая разбівае камяні і гэтым аблягчае фізічную працу. Ён верыць у здольнасць чалавечага розуму, верыць у тое, што будзе вынайдзена і такая машына, якая стане людзей лячыць. І тады «менш будуць людзі плакаць ды маліцца» (с. 315).

Клопаты каменацёса пра людзей шчырыя, сардэчныя. Ён глыбока спачувае чужому гору, гатовы дапамагчы таму, хто трапіў у цяжкое становішча. Ён па-новаму глядзіць на свет, на ўзаемаадносіны паміж людзьмі, вылучаючы на першы план пачуцці свабоды, шчырасці, чалавечнасці.

Пэўную цікавасць уяўляюць варыянты аўтографа «Каменацёса», з якіх мы даведваемся, што герой удзельнічаў у руска-японскай вайне, быў на барыкадах: «А сама ведаеш, памерці не дужа баюся. Вось жа і на вайне з японцам пад агнём быў, і на барыкадах у Маскве ваяваў, а жывы застаўся [...] Смерць, дык смерць — вялікая бяда! Эх, не ўдалося нам тады... Ну, нічога, некалі ўдасца».

Вобраз рабочага прадвызначыў і асноўную ідэйную накіраванасць «Жалобнай камедыі» — драматычнага абразка, сваім выкрывальным пафасам блізкага да «Мутэркі». Гэта глыбока праблемны твор аб месцы інтэлігенцыі ў рэвалюцыйна-вызваленчай барацьбе народа. У «Жалобнай камедыі» М. Гарэцкі па-майстэрску малюе партрэты рознага роду палітычных дэмагогаў і прыстасаванцаў, раскрывае іх маральнае банкруцтва. Прадстаўнікі грамадскіх арганізацый сабраліся на могілках, каб справіць трэція ўгодкі па заўчасна памершай настаўніцы. Яны адзінадушна характарызуюць нябожчыцу як выдатнага дзеяча на ніве культурнага адраджэння. Але толькі прадстаўнік рабочага класа дакладна вызначыў асноўную заслугу настаўніцы, якая не адрывала нацыянальныя імкненні ад класавых інтарэсаў, «ніколі не зыходзіла ў сваёй нацыянальнай рабоце і з грунту бядняцкага, супрацьпанскага», а «цёмных таварышаў-работнікаў усведамляла нацыянальна і настройвала рэвалюцыйна» (с. 349). І вось калі рабочы ўносіць прапанову «зрабіць пасільны збор на папраўку магілкі і на падтрыманне маткі нябожчыцы», дык удзельнікі жалобных памінак і ўсе, хто выступаў з напышлівымі, рытарычнымі прамовамі, паказваюць свой сапраўдны твар:

«— Ат, навошта ён гэта кажа тут...

— Знявага для нябожчыцы й для маткі...

— Будзьма ўжо разыходзіцца...

— Я сёнейка градкі свае канчаю...

— І я дзеля паненкі-нябожчыцы ляху сваю кінула...

— Ай, мяне ж даўно ўжо ўся работка чакае...

— Цыц, дзеткі, не плач, зараз пойдзем, малачка табе дам...» (с. 350).

Ідэя вернасці інтэлігенцыі народу, ідэя адзінства нацыянальнай і сацыяльнай барацьбы надае «Жалобнай камедыі» высокае грамадска-палітычнае гучанне і становіць сабой важны момант у ідэйнай эвалюцыі М. Гарэцкага.

Адным з найбольш глыбокіх, сацыяльна змястоўных і сталых у мастацкіх адносінах драматычных твораў Гарэцкага, напісаных у паслякастрычніцкі час, з'яўляецца абразок «Чырвоныя ружы». Уласна, гэта не абразок, а, паводле аўтарскага вызначэння, «чатыры

абразкі з мінулага жыцця», аб'яднаныя адзінствам тэмы, адзінствам ідэйнай задумы — раскрыць у мастацкіх вобразах гістарычна абумоўленую непазбежнасць адплаты панам-эксплуататарам за іх здзекі над працоўным людам, раскрыць непазбежнасць сацыяльнай рэвалюцыі.

Падзеі, адлюстраваныя ў «Чырвоных ружах», ахопліваюць болей чым пяцідзесяцігадовы перыяд у гісторыі беларускага народа — ад часоў, калі яшчэ існаваў прыгон, і аж да восені 1917 года. Аднак пісьменнік — і ў гэтым арыгінальнасць кампазіцыі твора — адмовіўся ад хранікальна-паслядоўнага, падрабязнага ўзнаўлення рэчаіснасці, а засяродзіў увагу толькі на асобных, але, з яго пункту гледжання, важных момантах, якія і даследуюцца ў чатырох абразках. Кожны з абразкоў мае сваю дамінуючую тэму, а іменна — тэму сацыяльнай і нацыянальнай свабоды, тэму зямлі, тэму палітычных і эканамічных правоў працоўных, тэму рэвалюцыі як заканамернага выніку гістарычнага працэсу.

Дзеянню ў першым абразку — пад назвай «Нех жые Польска!» — папярэднічае, як у музычным творы буйнай жанравай формы, своеасаблівая уверцюра, у якой у агульных рысах акрэсліваецца асноўны матыў твора, яго ідэйная скіраванасць. Гэта матыў спрадвечнай пакуты народа, матыў няўхільнага нарастання ўсенароднага гневу і ўсенароднай помсты крыўдзіцелям, заклік да аб'яднання абуджаных на барацьбу з прыгнятальнікамі. Славутыя радкі «Міжнароднага гімна» (Інтэрнацыянала), перакладзенага Я. Купалам на беларускую мову і апублікаванага ў ліпені 1921 г. у газеце «Савецкая Беларусь», — «Паўстань, прагляццем катаваны!» — вызначылі змест і пафас уступу да «Чырвоных руж», надалі своеасаблівую афарбоўку вобразнай сістэме твора.

У першым абразку мы бачым праявы тыповых, вякамі замацаваных узаемаадносін паміж панамі і прыгоннымі, якія мараць пра волю. Бізуном і нагайкай сцвярджае пан свае права і сваю ўладу. Калі ж прадстаўнікі пануючага класа, якія імкнуліся стварыць «незалежную, найсвятлейшую Жэч Паспалітую», спрабавалі прыцягнуць на свой бок беларускае сялянства, абяцаючы яму «скасаванне паншчыны», свабоду, роўнасць («вольныя з вольнымі, роўныя з роўнымі»), прыгнечаныя не паверылі панскім абяцанкам. І гэта быў першы, няхай яшчэ нясмелы крок на шляху іх ўсведамлення сябе як класа.

Наступны абразок — «Вольніца» прыйшла», у якім дзеянне адбываецца пасля адмены паншчыны, пацвердзіў справядлівасць меркаванняў сялянства: атрымаўшы «волю», яно аказалася яшчэ больш бяспраўным, чым раней. Уладальнік вялікай гаспадаркі аддае ў арэнду тысячу дзесяцін ворнай зямлі і пашы не беззямельным сялянам, а эканому Нявольскаму. Праблема зямлі не магла быць вырашана ва ўмовах несправядлівага правапарадку, ва ўмовах класавага грамадства — такая думка аб'ектыўна вынікае са зместу твора, але да яе ўсведамлення яшчэ не ўздымаюцца героі твора.

У трэцім абразку — «Мае дзяды — грабары» — М. Гарэцкі пашырыў сферу праяўлення класавых супярэчнасцяў паміж народам і прыгнятальнікамі. Ён паказаў палітычную і эканамічную бяспраўнасць селяніна, уцягнутага ў арбіту жорсткай капіталістычнай эксплуатацыі. Абразок «Мае дзяды — грабары» — мабыць, адзін з самых яскравых у беларускай савецкай літаратуры твораў, які з вялікай мастацкай сілай і пераканальнасцю выкрывае бесчалавечную сутнасць капіталістычнай сістэмы. Бясспрэчна, тут чуецца вы-

разная ідэйная пераклічка з вядомай «Чыгункай» М. А. Някрасава, у якой створаны запамінальны вобраз прыгнечанага беларуса.

У рэчышчы някрасаўскай гуманістычнай традыцыі малюе М. Гарэцкі жыццё і працу беззямельных сялян, вымушаных шукаць паратунку ад галоднай смерці на будаўніцтве чыгункі ваеннага прызначэння. Але і тут іх спадзяванні аказваюцца дарэмнымі. Адзін з герояў твора так раскрывае трагедыю падманутых, абрабаваных грабароў: «Гэта не катарга ў Сібіры... Гэта не праца нявольнікаў-неграў на плантацыях у капіталістага... О, не! Гэта мой бедны, родны люд капае чыгункі ў чужым краі. Гэта ён, сам цёмны і дзікі, будуе цывілізацыю новых, светлых вякоў... Баліць мне, баліць!

Хлопцы мае маладыя, браты мае родныя! Як падраліся вашы світкі! Як сатлелі вашы кашулі! Як па-старэчаму сагнуліся вашы спіны маладыя! Выперліся косці, запалі грудзі, без пары пагаслі вочы... А-а, браты мае родныя! Будуем цывілізацыю...

Па махах, па балотах пабягуць цягнікі з культурнымі людзьмі, з багатымі таварамі. І хто там уздумае, і каму якая справа будзе да таго, што тут, побач з гэтаю слаўнаю чыгункаю, пахаваныя ў гэтых пясчаных выспах і гнілых балотах, тлеюць вашы косці?» (с. 325).

На будаўніцтве чыгункі працуюць дзеці Мацея, Сцяпана, Мірона — тых сялян, якія марылі пра волю і спадзяваліся ўзяць у пана зямлю ў арэнду. Аднак побач са знаёмымі імёнамі — Мацяёнак, Сцепанёнак, Міранёнак — тут ужо паяўляюцца і новыя дзейныя асобы. Сярод іх — Кастусь, грабар з інтэлігентаў-народнікаў. Іменна Кастусь, настаўнік, звольнены з пасады, бо «за народ стаяў», вядзе сярод рабочых рэвалюцыйную работу, заклікае іх змагацца супраць невыносных умоў працы. «Начаваць нас запіраюць сотнямі ў цесных ды брудных будах, нават без лавак, без сталоў, без пасцелі. Адны блохі нас тут пазагрызалі, казюлькі апанавалі, але аб гэтым ужо і спамінаць не будзем... А вось харч — самі ведаеце, які па ўмове дакляраваны, а які даюць. Хлеб з высевак, напалам з зямлёю ды апілкамі, варыва з гнілое капусты і з чарвямі...» (с. 328).

Аднак не ўдалося рабочым дабіцца справядлівасці, знайсці праўды. Карная экспедыцыя з казакамі і паліцэйскімі жорстка расправілася з бунтаўнікамі. Так яшчэ адно пакаленне працоўных на ўласным вопыце пераканалася ў бясплённасці спроб атрымаць волю і свабоду з рук эксплуататараў. І яшчэ раз адклалася ў гістарычнай памяці народа вялікая, неабдымная, як свет, крыўда, усенародны гнеў і запал нянавісці да прыгнятальнікаў, набліжаючы тым самым немінучы час расплаты з крыўдзіцелямі.

Так паступова пісьменнік паглыбляў думку аб гістарычнай непазбежнасці ачышчальнай буры-рэвалюцыі, непазбежнасці рэвалюцыйнага абнаўлення жыцця.

Гэтая думка знаходзіць сваё завяршэнне ў апошнім абразку, які і даў назву ўсяму твору. Дзеянне ў ім адбываецца на дачы ліберальнага пана Нявольскага, сына таго пасэсара, што некалі ўзяў у арэнду панскія землі і па віне якога беззямельныя сяляне гінулі ад холаду і голаду на будаўніцтве чыгункі... Трывожныя дні восені 1917 г. Трывогай ахоплены і пан Нявольскі. За вокнамі чуецца незацікаючы шум праходзячых цягнікоў — гэта вяртаюцца з фронту дэмабілізаваныя салдаты. Дачка Нявольскага панна Марыня нават спрабуе ў гэтым трывожным вечаровым шуме ад цягнікоў адчуць своеасаблівае хараство: «Здаецца, гэта шумяць сумныя вятры вечных прастораў...» (с. 333). Яна гатова выступіць перад салдатамі з

палкай прамовай: «Таварышы! Хай жыве рэвалюцыя!» (с. 335). Нявольскі таксама суцяшае сябе тым, што рэвалюцыя для яго нібыта доўгачаканая і жаданая і што ён асабіста ніколі не крыўдзіў тутэйшых людзей, жыў з імі ў прыязні і згодзе. Нявольскі лічыць, што ён усё сваё жыццё быў праціўнікам царскага самаўладдзя, стаяў «за прыгнечаных і зняважаных, хацеў волі і долі простаму люду», змагаўся за ідэалы дабра і справядлівасці.

Аднак адцягненыя разважанні пана, якому прыемна было пагуляць у ліберала, не здольны схаваць яго сапраўдны твар, сутнасць яго класавай псіхалогіі. Калі рамантычна-ўзвышаная Марынька просіць Нявольскага дапамагчы хворай на сухоты настаўніцы-каталічцы, якая «хоча вучыць дзяцей па-беларуску, нават польскіх» (с. 336), дык паслядоўны змагар «за ідэалы, за культуру» (с. 335) груба абзывае настаўніцу «рэнегаткай нашага польскага люду». Вось як пагардліва выказваецца шчыры народалюбец пра беларускі народ, з якім ён дваццаць год пражыў нібыта «ў суседскай прыязні і згодзе»: «Ну, і хай ёй памагаюць яе беларусіны, якіх у цэлым свеце не ведаюць, як беларускі народ, а калі і ведаюць, дык пад назовам беларусаў, значыцца, рускіх і праваслаўных» (с. 337).

Нявольскі шмат гадоў вырошчваў чырвоныя ружы, тварыў прыгажосць. Але ён ніколі не задумваўся над сэнсам таго, што гэтая прыгажосць дасягалася крывёю зарэзанай жывёлы, крывёю, якой палівaўся грунт пад кветкі. «Ад гэтай жудаснай для мяне цяпер поліўкі — бледныя, пажаўцелыя і хударлявыя ружы рабіліся пышнымі, сакавітымі і чырвонымі, як сама кроў...» Сёння гэта чырвань пужае Нявольскага, выклікае ў яго трывожныя асацыяцыі і ўяўленні. Ліберальны пан дакарае сябе за свае ранейшыя ўчынкі. Але дарэмна чакаць, што ён успомніць пра тое мора чалавечай крыві, якую пралілі прыгонныя яго бацькоў, дзядоў і прадзедаў.

Адчуваючы страх перад непазбежнай расплатай, Нявольскі хаваецца за самаробную філасофію аб несправядлівасці рэвалюцыі, якая, маўляў, увасабляе дзікую, неўтаймаваную стыхію. А стыхійная рэвалюцыя нібыта і павінна быць сляпая, разбуральная, жорсткая. «Яна не разбірае, ёй некалі разбіраць, хто вінаваты, хто нявінны» (с. 336).

Як бачым, Нявольскі старанна хавае не толькі ад дачкі, але і ад самога сябе горкую праўду адносна таго, што надыходзячая рэвалюцыя — не асабістая помста галодных тым, хто «смачна есць і чыста ходзіць», а гістарычна апраўданая расплата за стогадовую крыўду і здзек над абяздоленым, абрабаваным народам. Нявольскі ж, які добра засвоіў урокі ліберальнай дэмагогіі, спрабуе зняць з сябе асабістую віну і ўскласці яе на рэвалюцыю. Нявольскі хоча выдаць сябе за ахвяру рэвалюцыі. Тым самым ён з вінаватага ператвараецца ў абвінаваўцу. Ён прысвойвае сабе права абвінавачваць тых, хто здзяйсняе рэвалюцыйную справядлівасць.

Носьбітамі гэтай справядлівасці выступаюць не проста безыменныя сяляне, тым больш не натоўп ахопленых пачуццямі помсты людзей, а ўнукі ўжо вядомых нам Сцяпана, Мацея, Мірона, дзеці Сцепанёнка, Мацяёнка, Міранёнка — г. зн. выступаюць сяляне, якія ўжо маюць свае ўласныя прозвішчы — Сцепанюк, Мацяйчук, Міранюк. І тое, што чалавек набыў нарэшце права мець прозвішча,— важны момант у развіцці яго свядомасці.

Аўтар «Чырвоных руж», безумоўна, не ідэалізуе сялянства, не прыпісвае сваім героям рыс і якасцей, уласцівых свядомым бараць-

бітам за справу рэвалюцыі. Сцепанюк, Мацяйчук і Міранюк не толькі не перашкаджаюць салдатам, учарашнім франтавікам, зрабіць у доме пана рэвізію, але і заклікаюць іх да гэтага.

«М і р а н ю к. Валі, хлопцы! Ванька, Санька! Разанскія халеры, пры за намі на рэвізію! Мы тутэйшыя, мы ведаем [...]

С а н ь к а. Рабяты, усё народнае! Бяры!

М а ц я й ч у к. Усё народнае. Бяры, Ванька! Бяры, Санька! Я тутэйшы! Я дазваляю! *(Салдаты разбягаюцца па ўсіх пакоях, хапаючы што пад рукамі.)*

С л у г а. Пан! Паненка! Там улезлі з задніх дзвярэй, хапаюць усё, б'юць... *(Чуваць звон бітага.)*

В а н ь к а. Напіліся буржуі нашай кровушкі! Праклятыя!

С а н ь к а. Мы ў акопах без хлеба дохнем, вошы кормім, а яны тут... А, буржуі! Дабраліся да вас!..»

...У цямноце шум, гвалт, гармонік, на вуліцы песня: «Мы на страх усім буржуям на ўвесь свет пажар раздуем! У-ха!» (с. 341.)

Раптоўны выбух нянавісці з боку сялян і прыбыўшых з фронту салдат не з'яўляецца, аднак, сведчаннем таго, што ў творы паэтызуецца стыхійны пачатак як нібыта вызначальная рыса рэвалюцыі. Наадварот, ідэя рэвалюцыі як увасабленне разбуральнай сілы актыўна абвяргаецца ўсім зместам «Чырвоных руж» і перш за ўсё вобразам ліберала Нявольскага. Логікай развіцця падзей, лёсам герояў твора М. Гарэцкі падкрэслівае гістарычную абумоўленасць, заканамернасць рэвалюцыі. Паводзіны ж сялян і салдат, якія сутыкнуліся твар у твар з прадстаўнікамі эксплуататарскага класа, псіхалагічна зразумелыя і зусім лагічныя. Сказанае пацвярджае і зварот М. Гарэцкага да паэмы А. Блока «Дванаццаць», радкі якой спяваюць удзельнікі рэвізіі панскага дома. Інакш і не маглі паводзіць сябе ўнукі Сцяпана, Мацея, Мірона, якія павінны былі прайсці вялікую школу рэвалюцыйнага выхавання. Гэты нялёгкі працэс знойдзе сваё мастацкае ўвасабленне ў «Віленскіх камунарах» (1931—1933). Праца над «Чырвонымі ружамі» якраз і была важным крокам па шляху да стварэння рамана, у якім перакана́ўча раскрыты выхад працоўных мас на арэну актыўнай гістарычнай дзейнасці.

Вядома, М. Гарэцкі рос разам са сваімі героямі. Мастацкае даследаванне тэмы рэвалюцыі было адначасова і працэсам станаўлення светапогляду пісьменніка.

Прынцыпова важным момантам у характарыстыцы «Чырвоных руж», этапнага, праграмнага твора, з'яўляецца тое, што тэкст уступу да першага абразка са словамі «Паўстань, праклццем катаваны...» М. Гарэцкі выкарыстаў у адным з апошніх сваіх твораў — «Скарбы жыцця» (Лебядзіная песня)».

*М. І. Мушынскі*

## У ЧЫМ ЯГО КРЫЎДА? (с. 7)

Друкуецца па выданню: Гарэцкі Максім. У чым яго крыўда?: Апавяданне.— Мн.: Дзяржаўнае выдавецтва Беларусі, 1926, дзе і змешчана ўпершыню.

Датуецца прыблізна 1925—1926 гг.

У аснову сюжэта аповесці пакладзены апавяданні «У лазні» (1912) і «У чым яго крыўда?» (1914). (Гл. дадзенае выданне, т. 1, с. 47—53, с. 116—128).

Напісанне М. Гарэцкім аповесцей «У чым яго крыўда?» і «Меланхолія», відаць, узаемазвязана.

Актыўная мастацкая распрацоўка пісьменнікам тэмы інтэлігенцыі напярэдадні і пачатку 20-х гадоў і, у прыватнасці, праца над аповесцю «Меланхолія», а дакладней над урыўкамі («Як Лявон хадзіў на пошту» (1920) і «Меланхолія» (1921), якія сталі пазней яе раздзеламі (гл. каментарыі да аповесці «Меланхолія»), абумовілі зварот пісьменніка да названых вышэй апавяданняў. Магчыма, у гэты час у М. Гарэцкага ўзнікла задума стварыць на аснове сюжэта твораў малых жанраў больш глыбокі і больш маштабны мастацкі твор, замест якога б папярэднічаў зместу аповесці «Меланхолія» і адначасова атрымаў бы ў ёй свой працяг.

Завершанай аповесць «Меланхолія», відаць, яшчэ ў гэты час не была, і нараджэнне новай задумы не магло не зрабіць на яе далейшую творчую гісторыю пэўнага адбітку.

Названай вышэй прычынай тлумачыцца і выбар імёнаў герояў аповесці «У чым яго крыўда?». Галоўным дзеючым асобам у ёй былі дадзены імёны герояў з урыўкаў, якія сталі пазней раздзеламі аповесці «Меланхолія».

Клім Шамоўскі (з апавядання «У лазні») і Канстанцін Зарэмба (з апавядання «У чым яго крыўда?») у аповесці зліліся ў адзіны вобраз Лявона Задумы; Саўка (з апавядання «У лазні») і Паўлік (з апавядання «У чым яго крыўда?») — у вобраз Лаўрынькі; Ганначка (з апавядання «У чым яго крыўда?») перайменавана ў Лёксачку.

Прататыпамі пералічаных вышэй герояў былі рэальныя асобы. Вобраз Лявона Задумы ў празаічных творах М. Гарэцкага («У чым яго крыўда?», «Меланхолія», «На імперыялістычнай вайне», «Камароўская хроніка»), па сутнасці, носіць выразна аўтабіяграфічны характар. Прататыпам вобраза Лаўрынькі ў гэтых жа творах з'яўляецца Гаўрыла Іванавіч Гарэцкі, малодшы брат пісьменніка, зараз вядомы вучоны-геолаг, акадэмік АН БССР.

Сапраўдным у аповесці пакінута імя Лёксачкі. Як сведчыць дачка М. Гарэцкага, Галіна Максімаўна, прататыпам яе вобраза была дзяўчына, якая ў маладосці жыла ў адной вёсцы з пісьменнікам і падабалася яму.

Аповесць «У чым яго крыўда?» не з'яўляецца механічным спалучэннем двух апавяданняў — гэта новы мастацкі твор, у якім героі паказаны ў дзеянні, шырока разгорнута жыццёвая панарама, выразна раскрыта псіхалогія душы чалавека. Значна ўдасканалены пісьменнікам стыль, мова.

Выкарыстоўваючы тэкст апавяданняў, аўтар у аповесці стварае новыя сцэны, малюнкі, канкрэтызуе іх, больш падрабязна раскрывае ўмовы і абставіны жыцця герояў.

Апавяданне «У чым яго крыўда?» перапрацавана больш істотна, чым апавяданне «У лазні». Апошняе з іх выкарыстана галоў-

ным чынам у IV раздзеле аповесці. Апрача ўжо адзначанай замены імёнаў у ім дапісаны пачатак, істотна перапрацаваны і дапоўнены канец, апушчана сцэна расказу Банадыся пра ведзьмака.

Пачатак жа апавядання, дзе расказваецца аб тым, што «Вучань апошняга класа каморніцкага вучылішча, казённы стыпендыят Клім Шамоўскі к калядам прыехаў удвору і ўжо другі тыдзень жыў у бацькавай хаце ў роднай вёсцы Мардалысава», у якой 25 двароў, М. Гарэцкі значна пашырыў і зрабіў першым раздзелам аповесці, замяніўшы месца дзеяння Мардалысава на Цёмналессе, дзе «хат дваццатак».

У «Спісе маіх твораў» апавяданне «У лазні» мае памету: «У ч. я. к.?», што азначае ўключэнне яго ў аповесць «У чым яго крыўда?».

Астатнія раздзелы аповесці М. Гарэцкі напісаў на матэрыяле апавядання «У чым яго крыўда?», якое пададзена ў форме лістоў: «Да яе», «Таварышу», «Дамоў», «Яму ад бацькі», «Яму», Пісьмо ад Паўліка», «Яму ад яе», «З яго пісьма да бацькоў», «Ізноў таварышу». На іх аснове пісьменнік разгарнуў сюжэт, увёў масавыя сцэны, узбагаціў бытавымі падрабязнасцямі, г. зн. падзеі, прыгаданыя ў лістах, падаў у развіцці. Самі лісты, з перапрацаваным тэкстам без загалоўкаў, па-майстэрску спалучыў з агульным палатном твора. Напрыклад, на аснове толькі двух сказаў з ліста «Яму ад бацькі»: «Паведамляю цябе, што ў хаце, дзякуй богу, усе цяпер здаровы. Праўда, на той нядзелі матка, ішоўшы з абедні, троху прастудзілася і прахварэла дні са тры, але цяпер, хвала богу, палепшала і каля печы сама ўпраўляецца» М. Гарэцкі стварыў яскравы жыццёвы малюнак у VIII раздзеле аповесці:

с. 44. «Усе ў Задумавых былі здаровы, толькі матка, ішоўшы з царквы на той нядзелі, застудзілася і дзён пяць пралежала на печы. Лаўрынька з Ганулькаю ■ самага рання выхадзілі ў школу ў Залужжа, і бацька заставаўся адзін у хаце ■ хворакю. Яму было шмат работы, і ён гневаўся.

Матка, бачачы, як яму цяжка адпаму цягнуць на двор цэбар з мешанкаю свінням, саскаквала з печы, як маладзенькая, і бегла хоць дзверы за ім зачыніць.

А ён гневаўся, і злаваўся, і крычаў на яе:

— Ляжы ты ўжо, калі хворая ляжыш! Што я, сам не зачыню дзвярэй? Пасобіш ты мне гэтым!

Яна ж мала таго, што саскаквала з печы зачыняць дзверы, часам не магла ўцерпець, каб не выбегчы на падворак паглядзець, ці добра ядуць свінні. Тады пачынаў біць яе кашаль, як у кадушку, і яна праганяла яго сцюдзёнаю вадою, бо ў варанай, казала, няма ніякага смаку.

Бацька за гэта сварыўся на яе.

Ды-ткі і досыць даставалася яму: вады прынясі, скаціне корму падавай, дроў няма — дроў насячы, а ўсё як сам дык сам, проста хоць ты гвалту чалавек крычы!

— Будзе мне з вашае навукі пацеха, хто там ведае. Вучоныя — за бацькавым каркам,— бурчэў ён часам пад навеццю; але трэба адзначыць, што ён сам дужа хацеў, каб Лявон вучыўся, а бурчэў — дык толькі так сабе, каб спагнаць злосць і пакараць, што стыпендыя — стыпендыя, а бацька ж таксама нешта значыць з сваёю дапамогаю, і бацьку тым часам няма палёгкі.

І як жа не злавацца: каровы галодныя рыкаюць, авечкі бляюць, свінні скігочуць,— ну не дай божа яшчэ і бабскую работу спраў-

ляць. Быццам ведаюць нягодныя жывёліны, што гаспадыня хворая, і ад сіроцтва пяюць у вушы гаспадару».

У лісце таго ж адрасанта ў IX раздзеле аповесці прыведзеныя вышэй радкі гучаць:

с. 51. «Жывём па-даўнейшаму, усе здаровы, толькі матка была троху прастудзіўшыся, і кашаль яе дужа мучыў, а цяпер троху кашляе, але здарова».

Вось як выкарыстаны М. Гарэцкім матэрыял некаторых лістоў з апавядання пры напісанні ім новых раздзелаў аповесці, іх фрагментаў.

| У апавяданні | У аповесці |
|---|---|
| (З ліста «Таварышу») с. 119. Кніжкі, кніжкі й кніжкі. Увечары хіба прайдуся да лесу па дарозе, занесенай снегам, з маленькім брацішкам дый зноў у хату. | II раздзел: с. 10—13. |
| с. 119—120. Матка пачне: «Сыночак! ~ Скварыся сам у сабе, не бачачы следу... | III раздзел: с. 13—16. |
| с. 120. А з чаго пайшло? ~ Разышоўся я, і ўся мая старая філасофія к чорту! | Апошняя ч. V раздзела: с. 25—29. Вось гэтак то і стаўся перакрут у думках. ~ і не важылася пацалаваць яго. |
| с. 122. Няўжо ж табе не прыходзіла ў галаву думка на панскім балі ~ бо яны — простыя?» | Апошняя ч. VII раздзела: с. 41—42. Лявон уздумаў па свае перажыванні на вучнёўскім балі ~ А праўды дачакаемся. |
| с. 122. Ведаеш, тут у нас у клубе на вечарынцы ~ Што ты на гэта думаеш? | Ч. VIII раздзела: с. 43. У гарадскім клубе, на Дваранскай вуліцы ~ але не ўпрасілі, мусілі выйсці — ну, і болей нічога. |
| с. 122—123. А ў нашым вучылішчы 80 % сялянскіх дзяцей... ~ Эх, жыццё! | Пачатак VIII раздзела: с. 42—43. І пацякло яно — звычайнае, штодзеннае, будзённае жыццё... ~ сам дырэктар аб 11 гадзіне паехаў па кватэрах і злавіў яго. |
| (З ліста «Да яе») с. 116—117. Усе нашы вучні з'ехаліся і хваляцца ~ і ў сэрца, лезуць і жмуць пад грудзьмі... | VI раздзел: с. 29—36. |
| (З ліста «Яму ад бацькі») с. 124. А то дзядзька твой маладзы з дзядзінаю ўжо выехаў ~ Дадушы, думаў — не вытрываю. | Ч. VIII раздзела: с. 44—47. Папрасіў бы каго з сваіх ~ але бедны бацька ўсё яшчэ так мучыўся, што ён месца сабе не знаходзіў. |
| с. 125. Слаўноўскага пана жонка ў захвіцэнні была доўга ~ нечага яму, маламу, многа знаць ды грошы на глупства траціць. | Ч. VIII раздзела: с. 43. У Цёмналессі і каля Цёмналесся навін асаблівых не было... ~ што няма чаго яму, маламу, многа ведаць ды грошы на глупства траціць. |

Істотна перапрацавана пісьменнікам у аповесці «Пісьмо ад Паўліка». Частка яго матэрыялу, трапна спалучаная з часткай матэрыялу ліста «Яму ад бацькі» і адначасова больш шырока разгорнутая, выкарыстана М. Гарэцкім у фрагменце VIII раздзела:

с. 47—50. «Тым часам спусціўся на зямельку вечар. ~ але пастанавіў усё ж напісаць Лявону аб усім і ўкрадня ад усіх».

У «Плане мае творчасці» маецца запіс:

«У чым яго крыўда?» — Лявон у Цёмналессі. Увечары з бацькамі. |Іван гострыць галяк.| У лазні. У полі на снезе. Ігрышча. У пансіёне. Піша лісты. У Мікітавых. Адказы на лісты».

Абведзены пісьменнікам сказ і пастаўленая простым алоўкам стрэлачка ад яго абазначаюць перанос гэтага сказа ў папярэдні твор: «Вяселле»[1]. Астатнія — з'яўляюцца як бы кароткім пераказам зместу аповесці, яе сюжэтным планам і сведчаць аб адпаведнасці тэксту аповесці «У чым яго крыўда?» прыведзенаму вышэй запісу.

Пасля выхаду кнігі «У чым яго крыўда?» у свет у часопісе «Маладняк», 1926, № 4 была змешчана рэцэнзія на яе, падпісаная крыптанімам Ал. (М. Аляхновіч). Яе аўтар адзначыў «цікавы сюжэт» аповесці, па-майстэрску пададзеныя «малюнкі мінуўшчыны». У прыватнасці, ён пісаў:

«Ёсць таксама нарысы выкладчыкаў, вучняў і заняткаў даўнейшае дарэвалюцыйнае ... школы, тае школы, праз якую несправядлівы сацыяльны парадак царызму аддзіраў, як кусок жывога цела, сялянскіх хлапцоў ад масы працоўнага сялянства, бацькоў, радні, рабіў іх «вучонымі панамі» і прымушаў «расплывацца патроху ў гнілым балоце з'едзеных молем чорных польтаў». Сярод значных празаічных твораў года аповесць «У чым яго крыўда?» была вылучана М. Крывічом (М. Байковым) у аглядным артыкуле «Наша проза за 1926 год» (Полымя, 1927, № 4).

М. Гарэцкі меўся ўключыць гэты твор у «Зборнік апавяданняў». У «Змесце», складзеным да «Зборніка...», аповесць пазначана 23-м па ліку творам пад назвай «Крыўда» і раздзеламі:

I. Самота
II. У лазні
III. Каханне
IV. У школе
V. Дакументы
VI. Будні
VII. Крыўда.

Сам тэкст аповесці ў «Зборніку апавяданняў» адсутнічае.

З прыведзенага вышэй бачна, што М. Гарэцкі меў намер (а магчыма, і здзейсніў яго, але адпаведны матэрыял не захаваўся) не толькі замяніць назву твора, але і ўзбуйніць раздзелы (замест дзевяці зрабіць сем), кожнаму даць загаловак. Падобнае ён зрабіў

---

[1] Тэкст яго не адшуканы, аднак запіс у «Плане...» да гэтага твора (У Петраковай хаце. Гуляюць у карты. Пархвенаў (Лявонаў?) сум. Іванава пакута. |Чарнушка і абразы. Тамашы.| Настаўнікава адзінота. Вяселле. Зімовая раніца) сведчыць аб тым, што М. Гарэцкі меўся напісаць твор, у аснову якога павінна было легчы апавяданне «Зіма» (1915—1917 гг.).

з дакументальна-мастацкімі запіскамі «На імперыялістычнай вайне» пры падрыхтоўцы іх для «Зборніка апавяданняў» (гл. дадзенае выданне, т. 3).

* * *

*Эпіграф да I раздзела* — словы з народнай песні.

М. Гарэцкі запісаў ад сваёй маці, Ефрасінні Міхайлаўны, больш 300 народных песень, музычную апрацоўку якіх зрабілі А. Ягораў і М. Аладаў. У 1928 годзе быў выдадзены зборнік: Гарэцкі М., Ягораў А. Народныя песні: З мелодыямі.— Мн.: Выданне Інстытута беларускай культуры, куды ўвайшла і дадзеная песня.

(Выкарыстаныя ў тэксце аповесці словы: с. 23, 29 *«Расці, хмелю, глыбока...»* таксама з народнай песні, якая ўключана ў названы вышэй зборнік.)

*Эпіграф да II раздзела* — радкі з верша Я. Купалы «А хто там ідзе?» (1905—1907).

С. 10. *«Песні жальбы»* — першы зборнік вершаў Я. Коласа (Вільня, 1910) [1].

*«Жалейка»* — першы зборнік вершаў Я. Купалы (Пецярбург, 1908).

С. 22.

*«Мой родны край, краса мая,*
*З табой навек расстаўся я!..* —

Магчыма, радкі М. Гарэцкага, якія ўзніклі пад уплывам прачытанага раздзела Я. Коласа — «Леснікова пасада».

С. 23.

*Мой родны край, як ты ж мне мілы!*
*Забыць цябе не маю сілы...*—

Відаць, свядома змененыя радкі з раздзела Я. Коласа «Леснікова пасада». У Я. Коласа: «Мой родны кут, як ты мне мілы!..»

*«Наша ніва»* — легальная штотыднёвая грамадска-палітычная і літаратурная газета на беларускай мове, якая выдавалася ў Вільні з 10.11.1906 да 7.8.1915 года.

*«Вихри враждебные веют над нами»* — рэвалюцыйная песня, тэкст якой быў даволі істотна перапрацаваны Г. М. Кржыжаноўскім (1872—1959) з польскай песні В. Свянціцкага (1848—1900) «Варшавянка».

*«Адвеку мы спалі і нас разбудзілі»* — песня, аўтар слоў і музыкі якой невядомы. У той час яна лічылася гімнам беларускіх рэвалюцыянераў-дэмакратаў.

*Бундавец* — член дробнабуржуазнай нацыяналістычнай апартуністычнай арганізацыі Бунд (ад яўр. Bund — саюз), якая галоўным чынам аб'ядноўвала паўпралетарскія слаі яўрэйскіх рамеснікаў заходніх абласцей Расіі. Заснаваная ў верасні 1897 г. у Вільні. Бунд першы час вёў сацыялістычную прапаганду, але затым, у ходзе барацьбы за адмену выключных законаў супраць яўрэяў,

---

[1] У тэксце аповесці — фактычная недакладнасць (магчыма, свядомая): дзеянне адбываецца ў пачатку 1910 года, а зборнік «Песні жальбы» выдадзены восенню 1910 года.

Тое ж тычыцца і радкоў, выкарыстаных пісьменнікам з раздзела Я. Коласа «Леснікова пасада» (гл. ніжэй), якія ўпершыню быў апублікаваны ў газеце «Наша ніва», 1912, 19 ліп. Пазней стаў першым раздзелам паэмы «Новая зямля».

скаціўся на пазіцыі нацыяналізму. Спыніў сваё існаванне ў сакавіку 1921 года.

*Эпіграф да VI раздзела* — радкі з верша Я. Купалы «Вучыся» (1907).

С. 29. *Эпітрахіль* — адна з частак адзення святара, якім пакрываецца шыя і два доўгія канцы апускаюцца спераду. Эпітрахіль — сімвал божага дару, і таму без яе святар не праводзіць ні аднаго з богаслужэнняў.

*«Падушачкі, падушачкі ды ўсё пухавыя~каго люблю — таго пацалую»* — словы з народнай песні.

С. 30. *...адкінуць «старыя словесы» і не «па замышленію Баяню»...* — Змененыя радкі з тэксту выдатнага помніка літаратуры Кіеўскай Русі «Слова аб палку Ігаравым» (1187).

С. 32. *Шапірограф* — (ад прозвішча вынаходніка Шапіро і графо — пішу) прыстасаванне для друкаванага размнажэння тэксту без выкарыстання тыпаграфскага набору.

*...«цэ два аш пяць о аш» ($C_2H_5OH$).* — Хімічная формула этылавага спірту.

С. 33. *Епархіялка* — вучаніца епархіяльнага вучылішча, сярэдняй навучальнай установы, якія былі створаны па Уставу 1843 года, галоўным чынам для дачок святароў. Навучальны курс (6 класаў) быў блізкі да курса жаночых гімназій, скончыўшыя яго мелі права на званне хатніх настаўніц па тых прадметах, па якіх яны мелі добрыя поспехі, і прымаліся настаўніцамі пачатковых (сельскіх) школ. Епархіяльныя вучылішчы былі ліквідаваны дэкрэтам Савета Народных Камісараў ад 24 снежня 1917 года.

*...ў чарнасотніцкім «Саюзе рускаво народа».* — «Чорная сотня» — члены рэакцыйных грамадскіх арганізацый у Расіі ў пачатку XX веку, якія дапаўнялі карны апарат царызму. У перыяд рэвалюцыі 1905—1907 гг. у сувязі з абвастрэннем класавай барацьбы ўзніклі: у Пецярбурзе «Союз русского народа», у Маскве «Союз русских людей» і інш. Нягледзячы на некаторую розніцу праграм чарнасоценных арганізацый, агульнай для іх дзейнасці была барацьба з рэвалюцыйным рухам. У ходзе Лютаўскай рэвалюцыі 1917 г. чарнасоценныя арганізацыі (якія яшчэ засталіся да гэтага часу) былі афіцыйна ліквідаваны. Тэрмін «чарнасоценец» выкарыстоўваўся пазней у адносінах да крайніх рэакцыянераў, ваяўнічых праціўнікаў сацыялізму і г. д.

С. 35. *...вальс «На сопках Маньчжуры»...* — Напісаны ваенным дырыжорам І. А. Шатровым (1885—1952). Прысвечаны памяці салдат, якія загінулі ў кровапралітных баях пад Мукдэнам у Маньчжурыі (люты 1905) у час руска-японскай вайны.

С. 42.

*Адно мы добра ведаем:*
*Хоць вечна мы блукаемся,*
*А ўсё ж такі, хоць некалі,*
*А праўды дачакаемся.* —

Адвольна працытаваныя радкі з верша Я. Коласа «Наша возьме» (1907). У Я. Коласа:

Адно мы добра ведаем:
Хоць вечна мы блукаемся,
А ўсё ж такі, хоць некалі,
А праўды дапытаемся.

С.43. *...багаты дывертысмент...* — У дадзеным выпадку канцэртная праграма з разнастайных нумароў, не звязаных сюжэтам.

*Эпіграф да VIII раздзела: «Свядомасць азначаецца быццём...»* — Гл.: Маркс К., Энгельс Ф. Тв. 2-е выд., т. 13, с. 7: «Не сознание людей определяет их бытие, а наоборот, их общественное бытие определяет их сознание».

С. 48. *...з сваёю маразянаю казою...*— Маюцца на ўвазе самаробныя драўляныя санкі.

## МЕЛАНХОЛІЯ (с. 53)

Друкуецца па машынапісе, які з'яўляецца часткай матэрыялаў «Зборніка апавяданняў», раздзел «Прыехаў» і частка раздзела «Малацьба», якія адсутнічаюць у машынапісе аповесці і ўзноўлены ў выніку тэксталагічнага аналізу твора, друкуюцца па часопісе «Узвышша», 1928, № 3.

У завершаным выглядзе аповесць пры жыцці аўтара не друкавалася.

У перыядычных выданнях змяшчаліся некаторыя раздзелы будучай аповесці, але большасць з іх публікавалася як асобныя ўрыўкі, без арыентацыі на які-небудзь твор (акрамя «На гаі»).

Упершыню па матэрыялах «Зборніка апавяданняў» з невялікімі скарачэннямі апублікавана ў часопісе «Полымя», 1968, № 8 (адсюль перадрукавана ў «Выбраных творах».— Мн.: Маст. літ., 1973).

Датуецца 1916—1921, 1928 гадамі.

Як завершаны твор аповесць «Меланхолія» павінна была ўбачыць свет на старонках «Зборніка апавяданняў». У «Змесце» «Зборніка...» яна значыцца пасля аповесці «У чым яго крыўда?» (гл. каментарыі да гэтага твора) з наступнымі раздзеламі:

I. Сумныя лісты
II. Па пошце
III. Паварот
IV. Прыехаў
V. Малацьба
VI. На могілках
VII. Калоніі.

Аднак у самім машынапісным тэксце твора IV раздзел: «Прыехаў» адсутнічае, змест V — «Малацьба» сведчыць пра яго незавершанасць (няма апісання малацьбы).

У выніку вывучэння гісторыі тэксту твора выяўлена, што адпаведны гэтым раздзелам матэрыял змешчаны ў часопісе «Узвышша», 1928, № 3 пад назвай «Меланхолія» з эпіграфам, які тэкстуальна супадае з эпіграфам да ўсёй аповесці.

Паколькі апублікаваны ў часопісе тэкст пададзены без загалоўкаў, а толькі пазначаны лічбамі III, IV, V, VI, то для поўнай перакананасці, што ён адпавядае названым вышэй раздзелам, спатрэбіўся доказ. Дапамагло пры гэтым аўтарскае тлумачэнне да III часткі ўрыўка: «Першыя і апошнія часткі гэтага апавядання, пад асобнымі назвамі, друкаваліся даўней у розных беларускіх газетах. Апрача таго гл[ядзі] апав[яданне] «У чым яго крыўда?» (Белар[ускае] дзярж[аўнае] выдавецтва, Мінск, 1926 г.)».

Супастаўленне і вывучэнне тэкстаў далі магчымасць пераканацца ў тым, што III і IV часткі ўрыўка «Меланхолія» адпавядаюць раздзелу «Прыехаў», а V і VI — неабходнай частцы раздзела «Малацьба», г. зн. той, якая адсутнічае ў машынапісе.

Значную ролю пры гэтым адыграла адна невялікая дэталь — кошык. У канцы раздзела «Паварот» герой з песімістычным настроем ідзе на вакзал, каб адправіцца дахаты, да бацькоў:

«З дзвярэй вакзальнага будынку даходзіў гул і гоман. Шнырылі газетнікі, бегалі нашэльнікі, а ў парозе, *дзе здаў Лявон на сховы кошык*, цэлая банда розных людзей...»

«Узяўшы білет і *здаўшы кошык...*»,— Лявон паехаў.

У самым пачатку часопіснага ўрыўка бачым яўны працяг апісання папярэдніх падзей:

«Сам ён прыехаў, *а багаж яго яшчэ не прыйшоў*. «Мусіць, на перасядцы забавіўся»,— сказалі яму зусім нядбайна ў багажнай каморы».

Крыху пазней даведваемся:

«Было ўжо пасля паўдня, калі прыйшоў другі цягнік, і яму *выдалі багаж — невялікі кошык*, не ўзяты з сабою ў вагон толькі дзеля ідэалістычнага погляду на справы і малога ведання розных магчымасцей у дарозе».

Далейшае апісанне прыезду героя дахаты, яго сустрэчы з роднымі якраз і адпавядае назве раздзела «Прыехаў».

Аналагічным спосабам устаноўлены і працяг раздзела «Малацьба». Пэўную ролю пры гэтым адыграла імя дзяўчыны — Лёкса, а таксама пачатак пятай часткі ўрыўка, тэкст якога (за выключэннем аднаго разначытання: няможна //не можа) супадае з пачаткам машынапісу раздзела «Малацьба»: с. 92. «Душа маўчыць ~ Добра жыць на вёсцы»

На глыбокую ўнутраную сувязь урыўка з машынапісам аповесці ўказвае «План мае творчасці», дзе «Меланхолія» канкрэтызуецца наступным чынам:

«Меланхолія» — На пошце. Сон. Па вуліцы да вакзалу. **У вагоне. Станцыйка. Прыезд. За сталом. Прачнуўшыся ў хаце.** + | О мілыя часы маленства. | **Малоцяць. Снедаюць. Чарада будзённых дзён. Пастух.** На гаі.

Выдзеленае намі ўяўляе пераказ зместу часопіснай публікацыі. Пункт «Плана...», абведзены пісьменнікам рамкай са знакам +, азначае, што тэкст публікацыі павінен быць дапоўнены. У працэсе працы выяўлена, што гэтым дапаўненнем якраз і з'яўляецца машынапіс раздзела «Малацьба», г. зн. матэрыял, якога ў часопіснай публікацыі няма.

Нягледзячы на адсутнасць раздзела «Прыехаў» і часткі раздзела «Малацьба» ў машынапісе аповесці, рэдакцыйная калегія палічыла мэтазгодным уключыць часопісны тэкст у твор, паколькі ён цалкам адпавядае яе зместу і з'яўляецца выяўленнем аўтарскай волі.

Прычынай адсутнасці неабходнага матэрыялу ў машынапісным тэксце, відаць, трэба лічыць тое, што ён выкарыстаны М. Гарэцкім для часопіснай публікацыі.

Дата ў канцы ўрыўка «Меланхолія» (1921) сведчыць пра тое, што ён напісаны значна раней, чым апублікаваны (1928), а аўтарскае тлумачэнне: «...Апрача таго гл[ядзі] апав[яданне] «У чым яго крыўда?» (Белар[ускае] дзярж[аўнае] выдавецтва, Мінск, 1926 г.)».— дае падставу меркаваць, што пераглядаўся ён аўтарам пасля выхаду ў свет аповесці «У чым яго крыўда?». Адсутнасць аўтографа ўрыўка перашкаджае вызначыць характар унесеных у тэкст змен, а разам з тым — дакладна вызначыць першапачатковы

жанр твора і ўзнікненне яго канчатковай назвы, бо вядома, што задума напісання аповесці пад назвай «Меланхолія» ў М. Гарэцкага ўзнікла не адразу. Як выявіла публікацыя ўрыўка «На гаі» ў газеце «Вольная Беларусь», 1918, 17 сак., першапачаткова пісьменнік меў намер стварыць шырокае эпічнае палатно — раман «Крыж» (урывак меў падзагаловак: З рамана «Крыж»).

У архіўных матэрыялах: на асобным лісце паперы, дзе даецца пералік мастацкіх твораў у іх храналагічнай паслядоўнасці (напісаны простым алоўкам), «Крыж» (жанр твора тут не пазначаны) датуецца 1916 годам.

Гэтым жа годам М. Гарэцкі датуе і ўрывак «На гаі», акрамя таго, ўказвае месца напісання: Гжацк, 1916 г. (запіс зроблены пад тэкстам урыўка).

У «Храналогіі маіх твораў» «На гаі» пазначаны таксама пад названым вышэй годам, з паметай 10—11/XI, Гжацк.

Пасля заканчэння Паўлаўскага ваеннага вучылішча М. Гарэцкі служыў у Іркуцку, а пасля пераведзены ў Гжацк, дзе быў з кастрычніка па лістапад 1916 года. Магчыма, тут у пісьменніка і ўзнікла задума стварыць раман, аднак, як выявілася з вывучэння творчай лабараторыі пісьменніка, ажыццёўлена яна ў аповесці пад назвай «Меланхолія».

Урывак «На гаі» пасля значнай ідэйна-сэнсавай і моўна-стылёвай перапрацоўкі стаў у ёй кульмінацыйным раздзелам — «На могілках». Іншы ідэйны пафас яму і, наогул, усяму твору, надаў істотна перапрацаваны і дапоўнены аўтарам канец урыўка (гл. варыянты газеты «Вольная Беларусь»).

Частка раздзела «На могілках» (а хутчэй за ўсё тады яшчэ ўрыўка «На гаі») была надрукавана ў выглядзе асобнага апавядання для дзяцей: «Могільнік», у чытанцы «Родны край»[1], 1921, 1927. Тэкст «Могільніка» найбольш адпавядае 110—111 старонкам аповесці: «Вось ужо колькі іх тут ляжыць, што знайшлі сабе вечны прыпынак, вечны спакой. ~ Хіба часам яшчэ каго на вечны спакой прынясуць з плачам, ціхім гоманам; камкамі зямлі забарабаняць па беленькай, звонкай сасновай труне...»

У газеце «Наша думка», 1921, 18 і 25 лютага быў змешчан яшчэ адзін раздзел будучай аповесці. Ён публікаваўся як асобны ўрывак пад назвай «Як Лявон хадзіў на пошту» (пад тэкстам мелася дата: 8/VII-20). У аповесці, пасля адпаведнай перапрацоўкі,— гэта раздзел «На пошце». Унесеныя пры гэтым праўкі падкрэсліваюць імкненне пісьменніка да мастацкай выразнасці, сцісласці і лаканічнасці ў падачы матэрыялу, больш дакладнага ўжывання моўна-стылёвых сродкаў.

Яскравым прыкладам сказанага з'яўляюцца скарочаныя і выключаныя кавалкі тэксту (гл. варыянты газеты «Наша думка»).

У «Храналогіі...» урывак «Як Лявон хадзіў на пошту» датуецца 1920 годам.

Адносна раздзела «Калоніі» (раней яго тэкст друкаваўся ў «Беларускім жыцці», 1919, № 10, 11, 12 як самастойнае апавяданне «Кросны» з прысвячэннем: «Пасвячаю сваёй жонцы») у пісьменніка былі розныя намеры — уключыць у аповесць: аб гэтым сведчыць пералік раздзелаў у «Змесце» «Зборніка апавяданняў»,— і не

---

[1] Укладальнікам чытанак была Л. Гарэцкая, жонка пісьменніка, якая працавала ў той час «вучыцелькай 1-ае Віленскае Беларускае Гімназіі».

ўключаць, як вынікае з «Плана мае творчасці». Тут «Калоніі» («Кросны») як маючы быць раздзел аповесці не названы.

На вялікі жаль, невядома, калі быў складзены «Змест» «Зборніка...», што ж тычыцца «Плана...», то ён мае дату: 24/VII-1928 г.

Машынапісны тэкст «Калоніі» ў параўнанні з апавяданнем «Кросны» адрозніваецца скарочаным тэкстам, зменай некаторых імёнаў (Каруся — Стэфця, Праксэда — Петрунэля), моўна-стылёвымі рознабытаннямі.

У машынапісе «Зборніка апавяданняў» «Калоніі» змешчаны ў канцы аповесці «Меланхолія» без парадкавага нумара раздзела, у той час як папярэднія пранумараваны. Аналіз яго зместу сведчыць аб тым, што тэкст гэты застаўся недапрацаваны пісьменнікам: ён не ва ўсім узгоднены са зместам папярэдняга раздзела аповесці «На могілках» і таму дадзены намі з некаторым інтэрвалам.

У «Храналогіі...» «Кросны» («Калоніі») датуюцца 1917 годам.

Тэкст раздзелаў «Сумныя лісты» і «Паварот» у прыжыццёвым друку пакуль не выяўлены.

Амаль ідэнтычны, але з іншым сэнсавым гучаннем тэкст: с. 95—96. «О, мілыя часы маленства! ~ Бараны былі б ... не шкода!» выкарыстаны М. Гарэцкім у аповесці «Ціхая плынь» (с. 180—181).

Узноўленае звяно тэксту, прапушчанае ў машынапісе аповесці «Меланхолія», дае магчымасць чытачу пазнаёміцца не толькі з поўным тэкстам твора, але і ўбачыць сувязь з аповесцю «У чым яго крыўда?». Зараз яны ўспрымаюцца як арганічна-блізкія творы, якіх яднае агульная тэма, героі, форма падачы матэрыялу. (Напісаны на аўтабіяграфічным матэрыяле.) Чытаюцца — як дылогія, аднак у тэкстах выяўлена неадпаведнасць падзей у часе:

У аповесці «У чым яго крыўда?» аўтар піша: «Гэта дзеялася тады, калі яму, Лявону, Рыгораваму сыну, на прозвішча Задума, ішоў дваццаты год, і ён быў ужо *ў апошнім класе сельскагаспадарчай школы*».

Пад лістамі, якія герой адрасуе родным, каханай, таварышу стаіць дата: *1910 год.*

У аповесці «Меланхолія» ў лісце да таварыша напісана:

«Скончыліся, нарэшце, апошнія практычныя заняткі, і ты можаш павіншаваць мяне: *я скончыў школу...*», а пад лістом дата: *1913 год.*

У першым выпадку дата выдуманая, у другім — дакладна аўтабіяграфічная. І калі б не выраз: *«і ён быў ужо ў апошнім класе сельскагаспадарчай школы»* — у аповесці «У чым яго крыўда?», то ўсё было б лагічна, бо Лявон прыязджаў на канікулы, відаць, не толькі на апошнім годзе навучання і таксама мог быць закаханы ў дзяўчыну раней.

Аповесць «Меланхолія» дае матэрыял для больш поўнага і правільнага раскрыцця ідэйна-мастацкай эвалюцыі пісьменніка, яго творчай задумы, фарміравання светапогляду.

* * *

С. 53. *Т. Еўлашэўскі* — [Тодар] Фёдар Еўлашоўскі (1546—1604), беларускі грамадскі дзеяч і пісьменнік.

*Эпіграф да аповесці* — радкі, узятыя з «Успамінаў» Фёдара Еўлашоўскага. У Ф. Еўлашоўскага так: «Под тым же часэм..., чловек мудрый и велкекго захованя у люди ... Ова не веде, з чого впадл в мелянколию, о всем собе зле тушачи ... же мыслил о учинене

якей смерти собе...» (Гл. «Помнікі мемуарнай літаратуры Беларусі XVII ст.».— Мн.: Навука і тэхніка, 1983.)

С. 57. *...доктар Скарына...*— Скарына Францыск (Георгій; каля 1490 — каля 1551), беларускі першадрукар, вучоны, асветнік і культурны дзеяч, перакладчык і пісьменнік эпохі Адраджэння.

*...правадыра паўстанцаў Каліноўскага...*— Каліноўскі Кастусь (Канстанцін Вікенцій Сямёнавіч; 1838—1864), беларускі рэвалюцыянер-дэмакрат і мысліцель, кіраўнік паўстання 1863—1864 гг. па Беларусі і ў Літве.

*Мацей Бурачок* — адзін з псеўданімаў паэта-дэмакрата Багушэвіча Францішка Казіміравіча (1840—1900).

С. 58. *...зацягнуў землеўпарадкаванне...*— Гутарка ідзе пра выкананне сталыпінскай аграрнай рэформы, назва якой ад прозвішча аднаго з ініцыятараў і выканаўцаў яе — П. А. Сталыпіна. Выклікана барацьбой сялян за ліквідацыю памешчыцкага землеўладання і рэштак прыгонніцтва ў рэвалюцыю 1905—1907 гг. у Расіі.

Пачалася паводле ўказа ад 9 лістапада 1906 г., спынена пастановай Часовага ўрада ад 28 чэрвеня (11 ліпеня) 1917 г.

Рэформа ўмацавала сялянскую буржуазію, паскорыла рост капіталізму ў сельскай гаспадарцы, аднак не вырашыла аграрнага пытання і не спыніла нарастання новай рэвалюцыі.

С. 60. *...пішу сёння ў Маскву, у народны універсітэт імя Шаняўскага...*— Маскоўскі гарадскі народны універсітэт імя А. Л. Шаняўскага, адкрыты ў 1908 годзе на сродкі ліберальнага грамадскага дзеяча ў галіне народнай асветы ў Расіі А. Л. Шаняўскага (1837—1905).

Ва універсітэт прымаліся асобы не маладзей 16 год, незалежна ад нацыянальнай прыналежнасці, рэлігійных і палітычных перакананняў.

С. 74. *...і вось, на маё шчасце, будзе тут Купала, Колас ці яшчэ хто з паэтаў ці з рэдакцыі «Нашае нівы»...*— Я. Купала ў 1913 годзе працаваў у рэдакцыі «Нашай нівы». У гэты час ён сустракаўся з Я. Коласам, які разам з жонкай Марыяй Дзмітрыеўнай наведваў яе родных і сваякоў у прыгарадзе Вільні.

С. 80. *...як тады, на Івана Галаварэза...*— Царкоўна-хрысціянскае свята, якое адзначалася 29 жніўня (11 верасня).

С. 105. *...ў купальскую ноч...*— Купалле (Купала), старажытнае свята летняга сонцастаяння ва ўсходніх славян, якое святкавалася ў ноч з 23 на 24 чэрвеня. Купальская ноч лічылася ноччу цудаў. У народзе аб ёй існуюць розныя легенды-павер'і.

*...у рабінавую ноч...*— Рабінавымі называюць цёмныя ночы канца лета — пачатку восені з громам, маланкай, праліўным дажджом або толькі з бесперапыннымі зарніцамі.

С. 118. *Ен кажа «пахвалёны»...*— Вітаецца; прынятае ў хрысціян-католікаў прывітанне поўнасцю гучала так: «Пахвалёны Езус Хрыстус».

С. 123.— *Брава, брава, «пан Тадэвуш»!* — Відаць, падразумяваецца герой паэмы Адама Міцкевіча (1798—1855) «Пан Тадэвуш» (1834), эпапеі польскага нацыянальна-вызваленчага руху пачатку XIX ст.

## Варыянты газеты «Вольная Беларусь»

С. 105.

13—14 пасля: і ліха ведае што... // Так успомніў Лявон тутэйшае паданне аб тым, як ехаў нешта раз а позняй пары Цімох слабаджан-

скі ад цесця ■ талакі і з маленькім батрачком-паваждаем і ні аб чым не думаў, а хлопчык драмаў на калёсах; як раптам конь пачаў порскаць, паставіў вушы дыба і пачаў упінацца. «Нэ, нэ!» — сказаў Цімох і пачуў, як з лазняку, з балота, ні то хто адгукнуўся: «нэ, нэ», ні то баран заблекатаў. А з долу, ад рэчкі, халадком цягне і вада на месяцы блішчыць, блішчыць, толькі пустэльна і нібы страшнавата сярод гэтай начавой прыгожасці. Цімох узбудзіў хлопчыка, каб было весялей, і толькі ж яны пад'ехалі па шляху да той рэчкі, як з-пад мосту выскачыў чорны баран і кінуўся ўбок, у зарасні. Пакруціўся ў кустах і зачапіўся рагамі за галле. «Дзядзька,— кажа хлопчык,— нечый баран у полі астаўся; зловім, завязем дахаты». Кінуў Цімох вожкі мальцу, падбег да чорнага барана, выкруціў яго з вербалозу і панёс на калёсы. І здаўся яму баран дужа важкім і надта змірным. Палажыў яго ў нагах, даў рогі мальцу ў рукі, і паехалі сабе. А конь усё храпе. Да таго ішоў лёгка, а як палажылі барана, пачаў цягнуць праз сілу, як слова, вялікі воз. Зрабілася Цімоху акропна, прысунуўся ён бліжэй да хлапца, а на таго ўжо напаў гэткі сон, што не можа векаў падняць. Патаўкаў яго Цімох — толькі мычыць хлапец, не прачынаецца, а баран ляжыць, касматы, крутарогі, вачамі блішчыць. Саўсім затрусіўся Цімох, а конь насілу дыбае, аж пара з яго паваліла,— да таго стаміўся. І жвір пад каткамі пішчыць. Дзела, выходзе, відаць, нячыстае. Даўміўся Цімох, якога *барана* вязе, і ўжо не ведае, як адкасацца, і чуе — валасы шапку ўздымаюць. «Эх,— думае сабе,— чаму быць, дык быць»,— схапіў барана за рог леваю, а праваю рукою раптам яго: «Ва ймя атца й сына...» Як пыхнуў той баран з калёс, як зарагатаў па-чалавеччу на ўсё балота, аж водгукі ■ Панскага лесу пакаціліся, такі страшны рогат па ўсяму полю і логу, па моху і купніку загрымеў. Знік за лозамі ў белаватым, туманным бяздонню ночы, залітым бліскучасцю нямога месяца, чорны баран, а Цімох думае: «Балазе ж найшоў раду вытурыць цябе з калёс!» — абшчапіў хлопчыка ды пугаю па каню, па каню. Куляю ўляцелі на сонную вуліцу пад вокны канцавой хаты. Сабакі пачалі брахаць,— павесялелі мае талачане.

14–16 замест: З ціхаю ~ забылася! // З ціхай прыемнасцю ўспомніў аб тым Лявон і пачуў на душы падобнасць да такога ж самага страху і містычнай боезкасці, як было ў маленстве. І потым, узварухнуўшыся ад успамінаў і страціўшы ачараванне, пашкадаваў, што цяпер, сярод зразумелай праўдзівасці, няма ўжо ані веры, ані настрою, і праз тое пуста і цяжка.

С. 106.

18–19 замест: Хлопчыка ~ і ўжо // Хлапца Лявон не знаў, а дзеўку ведаў, як раней была яна невялічкая, нечая ■ Б., ды

С. 108.

35–37 замест: А потым ~ навекі... // к палягчэнню ўздыхаючы, пасле плаку, і ляжаць, і прасіць у дзеда ўслады і ласкі... І лежч з ім тут навекі. Божа мой!

С. 109.

12–14 замест: Апусціўся ~ сумам... // Ён пераксціўся з радасцю і стаў на калені пры магілцы.

— Супакой, госпадзі, душу ўсопшага раба твайго Лукі...

25–26 замест: І казала ~ трывожна. // На вуліцы сабакі загаўкалі трывожна. Старыя людзі кажуць, што чуюць сабакі, як па заплячэнню ад гаю да смяротніка смерць шумаціць.

[27–28] замест: брата ~ канаючага // нявестку Зосю,— схапілі яго, паміраючага

С. 110.

[5] замест: Прымі ~ свайго... // Няма цікавасці, няма жаданняў... Дзед! Прымі ўнука свайго. Ляжа ён з табою побач...

Дзядуля! Ты пражыў шмат гадоў, знаў гайдамаччыну і прыгон, служыў і многа чаго ў жыццю знёс, пакуль папрасіў пакорна: пашлі Ты па мяне смертухну.

А твайму Лёвачцы дваццатая веснaчка, а ўжо няма чароўнасці; чуеш, дзедка! Няма каму пажаліцца, ніхто не дасць услады і ласкі. Згублена чароўнасць існавання, дык прымі ж, дзядуля, яго! Ах, нашто была тая навука?

Лявон устаў і пачаў кеміць, дзе павінны быць могілкі пакойных браткоў і сястрыцы, і цёткіна? Тут, ні тут? Чужая старана, пакуль бадзяўся па табе, адвык ад свайго, забыўся, толькі дзяціныя радуніцы былі ў памяці, і ён іх выявіць.

— Здаецца,— гэтыя, згладжаныя...

Памаліўся за іх, што не бачыў ні разу, і рыхтуецца зара пабачыць родненькіх, бязгрэшнымі дзеткамі памершых, пабачыць на тым свеце, дзе няма балесці, смутку і ўздыхання. Ой, зараз, незабавам!

Пайшоў сярод могілак да хаткі, што пад заімшэлаю стрэшкаю пад купамі зялёнага галля прыціхла.

Вот у тым, вальнейшым вугольчыку кладзішча, свежыя насыпачкі з бурых і рудых камкоў. І крыжоў няма. Калі там! Нарадзілася шмат людзей; клопат вялікі маюць аб кавалку хлеба ў тутэйшым жыцці,— куды там да крыжоў, некалі.

[34] пасля: фігуры... // Ці зайдзецца там сэрца ваша ад жаласці; ці, можа, прыскорбна вам, вялікім, святым, зробіцца ад суяты нашае, жывой суяты?

[34–35] замест: пагаруюць ~ пачастуюцца... // паядуць; вас пачастуюць у славах прыгаворкамі — святых радзіцелькаў — людзі жывыя.

С. 111.

[35] пасля: з надпісам //: «Дзед мой Лукаш Гаўрылавіч Літвіновіч».

[37] пасля: і лепей // шчэ.

А яна?

...Далятае грукат вуліцы мястовай. Са сталовай чуваць бразгатня нажоў і відэльцаў. За другімі дзвярмі — вясёлы гоман і смех. А тут яна за раялем. Цененькая, быццам былінка, троху набок галоўку схіліўшы няўгледна і прыгожа бегае пальчыкамі па пішчыках і, мусіць, забылася і не ўважае, што ён тут, маўчлівы і вачараваны гукамі дзіўнымі, балюча змагаецца з вялікім разладам душы, воч з яе не зводзіць, шукаючы падмогі ў віханню сваім, па якім шляху пайсці: да яе, да роднага гаю, ці да будзёншчыны? Не, ні сыйсціся ім, ні пара яны...

Ці даведаецца яна, шляхцянка белакволая, далікатная, ці даведаецца ў той сваей вадаверці мястовай, што схавае ён сваё каханне гарачае, свае мукі вялікія, сваё расчараванне жыццёвае, схавае от тут, пад старой бярозаю, сярод поля ціхага, нудлівага, пры лозе з краскамі ўбогімі, ляжа побач з дзядулькам сваім, вяскоўцам лапцёвенькім, сярод люду запрацаванага, тваімі ж прэдкамі ўгнячонага,— ці даведаецца яна?

А калі і то, ці пашкадуе сярод шляхецкіх, прыгожых, заможных, далікатных хлапцоў, ці пашкадуе яго, што так верна любіў

і што прыпынак вечны знайшоў у гэтым глухім кутку? Ці выявіць сабе поле, гай, равочак наўкол яго, статак свіней і кароў на могілках? Парыюць свінні чалавецкія могілкі, а каровы, часаўшыся, крыж паваляць...

Ой, больна!

І гэта замест барацьбы, змагання з няпраўдаю, заміж зваяванпя лепшай долі свайму народу ўгнячонаму, заміж кахання, жыццёвых чар і шчасця, заміж жыцця маладога.

— Крыж!..

Крыж [illegible] надпісам, што брацішка рукою слабаю надрукуе чымяк:

«Тутака пахавалі Лявона Літвіновіча (1890—1910 гг.)».

С. 112—113.

40—6 замест: Жывуць ~ краіне? // А можа не? Які народ, такія паны. Не. А маем права праклінаць прэдкаў вашых. [...]. Тыя веру змянілі, ды не здолелі «хлопаў» перавярнуць. Край згубілі, пад уладу чужых аддалі. Вот і панаехала ж і ў вашыя дзедаўскія родныя і рукамі бацькоў нашых здабытыя маёнткі-гнёзды, панаехала праклятых.

А народ адзін, няшчасны і пакінуты.

Праўда, шкода вас, трагічна і ваша панская доля, ды — ну вас, пракляцце на вас за нядбаласць вашу.

Вы панавалі, і родны край прапанавалі. Сляпыя!

Вот згнілі вашыя палацы, заглохлі і высечаны сады і алеі, заплылі і зараслі копаныя рукамі дзядоў маіх пруды і стаўкі, з'едзены мышамі дарагія малюнкі і кнігі, усё гіне і прападае без карысці дзеля роднага народу.

Пракляцце на вас!

Вот выходжу за край гнілога жалкага гнязда вашага і што я бачу? — Быццам толькі што пракладзеныя, гразныя, вузенькія дарожкі, там-сям шырэйшыя, абсаджаныя па загаду царыцы-немкі бярозамі; гаці, ляды і балоты; куча хатак, як куча гною; цераз дзесятак вёрстаў — убогая цэркаўка мужыцкая ці касцёл,— і ўсё, і ўся культура відочная, усё спадкаемства, што пакінулі сынам гэтай старонкі бацькі іхныя...

Бо вы панавалі, балявалі, па заграніцах ездзілі, а дома жылі замкнуўшыся ў сваіх палацах сярод бясконцага, пустэльнага мужыцкага мора, што крывавымі мазалямі з убогай зямлі золата вам выскрабала...

Так абурыўся Лявон і сам сабе дзіваваў, што шчэ здолен так распаляцца па прызвычцы, як быццам то не ўсё роўна цяпер.

С. 113.

8—9 замест: трошку ~ бок. // пільна зірнула ў яго бок і кіўнула чуць прыкметна, калі датыкнуўся брыля. Можа, дзівілася, адкуль ён сярод тутэйшай пустэльнасці?

10 пасля: павярнула. // Лявон пайшоў па шляху ў другі бок, не к дому, а ў Б.

— Самагубства...— часам шаптаў ён.

С. 113—114.

11—14 Нейкаю трагічнасцю ~ што і як...— адсутнічае.

**Варыянты часопіса «Беларускае жыццё»**

С. 114.

30—31 замест: /у чатырнаццатую ~ дужа // а на санях седзя ездзіў нават князь Манамах,— дадаваў патрон, набіраў повен рот паветра,

моршчыў старэючыя голеныя вусны, надуваў, быццам пузыр, маж-джэрыстыя шчокі і моцна

С. 115.

35–37 замест: рабіў ~ на свеце...» // і крычаў за пераборку: «Міхася!»

— Чаго заўгодна? — вылятала малодшая дачка гаспадыні, чарнявая, пульхлая і заўжды разамара, запэцканая Міхася,— прыбіраць?

— Прыбіраць?! Ах, ты, пампушка, чорныя слівочкі, твае вочкі... Яшчэ ж толькі пачынаем, а ты — прыбіраць. Табаку па-дай.

— Маеце,— смеючыся дастае дзяўчына з другога столу пушач-ку ад манпансье, у якой, заместа кісета, хаваў патрон табаку.

З наўмыснай, падчыркнутай ветласцю падсувае ён пушачку хлапцу. І ізноў кароткае: «Проша». А сам робіць грубую кручон-ку і пытаецца.

— Пампушка, дзяўчаты будуць?

— Але! — рагоча Міхася і кумільгам уцякае за пераборку.

— Ат, дурніца! — буркае стары каморнік, адкладае ўбок кру-чонку і дражніць галосна дзяўчыну: — але, але, гоп! А потым мала клапоцячы аб тым, што абодва лекарствы ад тугі і смутку заста-ліся не кранутыя хлапцом, ён набухторываў шклянку і выпіваў як мае быць, з пагардаю глядзеў на бедную чарачку і са смакам да-ядаў бараноў задок, кажучы: «Астаткі сладкі». Урэшце браў кру-чонку, зацягваўся, з хітраю ўхмылкаю загадкова пазіраў на аплі-канта і мармытаў сабе пад нос: «Ат, усё, пане, тло...»

38–44 замест: з меншаю ~ галаву. // штовечара прыходзілі шляхоц-кія дзяўчаты. Яны там паціху жартліва шчакаталі, як сарокі, дра-паліся, шушкаючы, на пераборку да шчылін і раптам са смехам уцякалі, калі аплікант узнімаў галаву ад плана на тыя шчэлькі.

С. 116.

12–13 пасля: таньчыць... // І так спрытна перабіраў ён пішчыкі, ажно самі ногі хадыром хадзілі ўва ўсіх вясёлых гулянніц.

Але там умелі маўчаць. І толькі смялейшая за ўсіх чарнабры-вая Карольця (бровы ёй быццам намаляваў хто чорным вугалём), толькі яна сярод агульных моўчак піскліва пыталася з жарцікамі ў голасе: «А чаму ж паніч не гукае? І Монця тутака... хі-хі...»

І раптам Монця, а можа, гаспадыніна Міхася хапалі яе за рот, яна пырхала, адбівалася, узнімаўшы вялікі гвалт і рогат, сярод якога аплікант дзеля гадзіся вымаўляў чутным голасам: «Проша! Проша!» — і вялікую дзіру пракаліваў у ватманскай паперы дры-жачым цыркулем. І кідаў работу.

26 пасля: вочы... // Цераз плечка наперад лягла каса і вілася на паўдарозе, там, дзе азначаліся пышна-нясмелыя грудкі. На пуль-хлых апрыскліва-недачэпных губках бегала ўсмешка. Здавалася, губкі яшчэ шаволяцца і як тады, у той незабытны мамэнт, з ба-люча-грэбуючым, а люба-дарагім, грудным смяшком адказваюць на яго яглепне.

28–30 замест: Там, адбіваючыся ~ вугалём). // — Ша, дзеткі! Ціху, ну! — адказваў ёй патрон,— маеш, Карольця, ахвоту паслухаць маю мелодэклямацыю? — пытаўся затым у яе.— Ну, гоп-гоп, але?

— Але,— адмаўляла дзяўчына.

Тады ён, надаўшы свайму сіпатаму ад гарэлкі басу жартлівай пяшчоты і сумавання і трасучы гармонік на калене, каб гукі былі дрыжачыя, іграў і пяяў:

Як цэцярук у лесе балбоча,
Так маё сэрца да цябе сакоча!
Не верашчака, каўбаса, сяляпка,—
Ніц мі не міло, без цябе каханка!..
Рве ся мэ сэрцэ, як тая атоса;
Калі таргаець праклята калёса!
Рве ся мэ сэрцэ, як гуж у хамуце,
Калі прыеду і сяду на куце.
Ды ўжо ж насохся, як лапаць на печы...
Горкая доля!.. Хто ж мяне палечыць?!

С. 117.

[7] пасля: варушыцца... // Босая шляхцянка з судном у руцэ, шлёпае і чвікае, бяжыць ад хаты на крыніцу. Каўнерчык моднай блюзкі змяты і склычаны, і расшпіліўся, і не ўліпае ў яе здаровую, белацелую, а подаўна нямытую і брудную шыю.

Хляба...

С. 118.

[6] пасля: па ўсім... // — Як што, пане? — абураўся хлапец,— а тое, што нас *каморнікаў* (*вучань* пачырванеў) пасылаюць на смерць, бо мы мусім працаваць сярод цёмнай галоты. Дайце перш асвету.

— Го! Бізуна ім, а не прасветы, дык не будуць бунтавацца,— мармытаў за работаю патрон, наўмысля не зварочваючы ўвагі на маладое абурэнне.

— Як вы так, як вы можаце...— з гневам ускідаўся аплікант, але на парозе стаяў Казюк.

[36] пасля: голас. // Не праходзіла і пяці мінут, як ён ужо галасна і злосна вылічаў свае правы.

Калі ж каморнікі маўчалі, усё маўчалі, дзед ужываў другога спосабу. Ён раптам галасіў, як шалёны, на ўсю сілу:

С. 119.

[16–18] замест: То, пане ~ гразі... // — грымеў Казімер на вуліцы, шлёпаючы па глыбокай гразі,— будзе ён ведаць, як зневажаць мяне! То, пане, табе не вёска! Я яму пабегаю за дзяўчатамі, старому выпсе, гіцлю!

Аплікант думаў: «Гэта, мусіць, датычыцца патрона!!»

А здаля ледзь чутно дасягаў Казюкоў голас:

— Каменем у галаву і каморніку, і члену! Велькая наўда нам, што не-пра-мен-ны, халера!

[19–23] замест: механічна ~ з Амерыкі. // круціў паказальныя пальцы і трапляў іх адзін у адзін, варожачы на Сымончыху: прыйдзе яшчэ яна ці не?

Мужык Сымончыхі памёр, прыехаўшы з Амерыкі, у гэтым леце.

[38] пасля. слёзы? // А казала Каруся, што Сымончыха карадзіцца *задарма*, выдае сябе за сіраціну так, на хітрыкі; яна, дзей, самая багатырка ў ваколіцы, адно сказаць тумарка, бо ці мальска хавае сотняў грошы на дне скрыні, пад шкумаццём, ого! Муж высылаў шмнога і сам прыехаў багата. І яшчэ казалі Карусі людзі, што калісьці Сымончыха заплаціла ў краме паперамі, дык яны зямлёю смярдзелі.

Тым часам Сымончыха ўсё хныкала і жалілася і ўсё цягала ў рыззі худых, пузатых ад бульбы і пушнога хлеба дзяцей.

С. 121.

[4] пасля: наўкола. // Абы-дзе на курганочку бялела снегам зеленка-

ватая рунь. Снег быў паўсюдых, ды стаяў і нарабіў патапечы. І смутна было, што гэтак растапілася дарога, па якой у сухія, халадковыя і ядраныя дні, вечарочкам, прыемна было ўздымаць марозны пыл, ідучы пад альшэўнікам з мястэчка і маючы ў кішані карэспандэнцыю.

Смутак і нуда апанавалі аплíканта. Шукаў ён нявязку ў з'ёмцы і горшай за свае долі не мысліў сабе. Смутак і нуда быццам мякчэлі пры шугаючым полымі, а калі на тое — дык глыбачэлі і рабіліся яшчэ датклівейшымі.

[25] пасля: дыму. // «Восень на сходзе. Калоніі зроблены і адзначаны барознамі,— разважаў аплікант, маўкліва грэючы рукі,— зроблены, зроблены»...

— А Франукова маці так усцешылася, што аж самлела на новай калёніі,— насміхала Міхася далей,— Антось Кароткі ёй барозны ганяў... Ен гарэ, а Сымончыха то адзаду цюхае, то наперад забяжыць, крычыць за Антося на валоў: «Цоб-цобэ!» Лётала-лётала дый самлела, Антось зямлёю адціраў.

[32] пасля: назад. // Скульбядзёнак у той час варочаўся з Салячнікаў,— так жа спалохаўся, мысліў, што ваўкалакі ходзяць! Уцякаў, каню дыхавіцу нагнаў, і самога дзісь да хвэльчара павезлі...

[44] пасля: казаў) //, прывінчаны да трыногі.

Казюк сёння быў светлы, здаволены, што не паддаўся жонцы. Калі абедалі, яна не давала яму хлеба.

— Дай мне кавалачак,— прасіў Казюк.

— А, як зямлі, дык не хочаш, задарма два сажні Стасюку аддаў, а хлеба хочаш,— не дам хлеба.— І не дала.

— А, каб ты падавілася, калі табе ўсяго мала,— сказаў ёй стары і быў рады, што ён лепшы за яе.

А Казючыха па мокрай цясцянай раллі, з жэрдкаю ў руках, у дзіравых калёшах з чужых, вялікіх ног, цэлае паабеддзе мерала сваю калонію. Намерала «сабе венцай».— «Не, гэта я ашукалася». Ізноў мерае. Файка (піпка) у гразь з зубоў паляцела. Шукае, мацае старая ў цямноце па зямлі. І мужа кляне: «Ці ж гэта мне аднэй трэба клапаціцца аба ўсём. Ах, ты, шашок...»

І можна было б і аплíканту ўсміхнуцца з яе, як зрабілі ўсе, і нават Казюк, калі праходзілі міма.

Але нуда яшчэ больш зацíснула ў абцугі яго сэрца.

С. 122.

[6] пасля: авечкі //; тужыла і сышала трушком з палявога бульбянішча да хлева самая позняя свіння. І Міхася бразнула на яе жалезнымі калячкамі і ланцугом, што нясла, і сказала: «З нашага коміну дым ідзець».

[30–31] замест: тоўстая ~ Стэфця. // Каруся.

— Што там?

— Не ведаю... Можа, грошы ў яе пакралі зладзеі...

[34] пасля: Сымончыха. // Патроху набіраўся грудок суседачак, а Карольцін бацька з-за прасла, са свайго двара пазіраў на ўсіх, як затуканы звер, з-пад лба, ссаў файку і хутаў зызлыя рукі ў рукавы чорнага дублёнага кажуха.

**Варыянты газеты «Наша думка»**

С. 62.

[12] пасля: На пошце //

Дарога ў мясцечка ляжыць праз Цёмны Лес — спрадвечны, магутны, яшчэ сапраўдны лес, добра вядомы жыхарам усяго павету.

14 замест: добры ~ мястэчка. // вёрст сем і з гэтага ўзгорка зусім блізка перад сабою, за вярсту, не болей, увідзеў ён Цёмны Лес і ахапіўся ціхай радасцю. Цёмны Лес — слава ўсяго краю і душа яго людзей.

18–21 замест: Шнуры ~ сонцы. // Цёплае, густое, араматнае павет-ра — здалёку над жытам лягчэйшае і пераліваецца, бліскучае, на сонцы. Заківаюцца ціхія, спакойныя каласы, і на шчаку ад іх-нага боку прыемна дыхне цёплая, любая і ціхамірная радасць жытняга поля.

22–30 замест: нейкіх ~ старонцы // баб. У разнаколерных спадні-цах і кохтах, з кошыкамі. Ідуць, як для баб, даволі шыбка, а ўсё гамоняць і гамоняць. Што — няможна яшчэ добра пачуць, а ўжо далятаюць паасобныя словы і сказы: «Ці пра-аў-да?» — «А божач-ка ты мой!» — «А ідзі ж ты яшчэ...» — і смяюцца і ідуць, босыя, толькі пяткі пад спадніцамі падлятаюць.

С. 62—63.

31–10 замест: што ляжаў ~ ўзяты... // ляжаў збоку дарогі, схаваў-шы перад тулава ў жыта, а ногі спусціўшы ў канаву. І цяпер устаў і пайшоў з імі разам, бо, відаць, з аднае дзярэўні ( у гэтым краі беларусы не кажуць вёска). І ён ідзе з кошыкам у маліну ў Цёмны Лес, устаўшы, пэўна, чуць толькі золак. Чырвоная кума-човая сарочка, сялянскія саматканыя штаны. У лапцях — значыц-ца, у маліну, а не ў мясцечка на кірмаш.

З правага боку ля дарогі разляглося жыта, а з левага боку, за гарою, раптам паўстае ўваччу царква сярод гаю, ніжэй — сяло П. і даўно пакінуты, абязвечаны, стары млын-вятрак без крылля. Ды ўсё чыста наўкол абмяжаецца лесам. Яго паска цягнецца ўсцяж, усюды, без адзінае пярэрвы, там вышэйшая, а там ніжэй-шая. І толькі за сялом ледзьва відаць яна вёрст за пяць, а можа, і за дзесяць — далёка, далёка прападае; сплываецца ў малочна-сінім тумане. У доле зелянеецца мужыцкая — зялёныя шнуры ды чарней-шыя межы — ярына, якую тутэйшыя мяккаэрыя беларусы назы-ваюць *ярьрю;* ля самага ж сяла — папар, а па-тутэйшаму *паріня.* Як казяўкі поўзаюць, віднеюцца каровы. Быццам якіясь чорныя кусточкі і белыя плямкі — пасуцца авечкі. Неба сіняе-сіняе, вялі-кае, бяздоннае расхінула свае абоймы над зямлёю. Падзівуешся наўкол, і хіба толькі з-за вакаёму (гарызонту), з чужыны нясмела і зрэдку пакажа аблачынка свае рэдкія, блядыя, няроўныя краі, што зараз і растае,— сіне, ані воблачка! Яшчэ ж дужа рана, га-дзін сем, можа, а сонца пачынае млець. Будзе гарачы дзень. Па-куль што лёгка: ногі ідуць і не чуюць зморанасці, а вочы і душа плывуць за хвалямі па калоссю. Жаўцеючае жыта ціха калыхаец-ца, а як зірнеш далей — хвалі бягуць адна за адной, то ў той бок, то ў той, а найболей пад Цёмны Лес, і там іх ужо не відно. І ня-ма тут дзе ім разгуляцца, бо вось ён лес. Часцей лётаюць авадні, цягне чымсь асаблівым, сваім, лесавым.

Дарога ўвайшла ў вузенькі калідор сярод дрэў, які лепей на-зваць тунелем, бо і ўверсе надта густа сплялося вецце. Там-а-тут па дарожцы трапляецца і лезе пад ногі карэнне стогадовых дрэў-во-латаў. Святая ціша і прахаладзь; нават прыкра, што бабы гамо-няць, ойкаюць і скачуць, як козы, збіўшы ці не збіўшы босую нагу аб карэнь у зямлі. Было б зусім прыемна чуць нешта жуда-снае, трывожна-супакойнае ў найменшым шорасе лесу. Было б зусім натуральна адчуваць даўна-мінулы, даўна-пражыты час і зрыхтованай істотаю чакаць, што вось-вось з'явіцца з-за грубага,

каравага камля бярозы старадаўны крывічанін з стрэламі і лукам ці выйдзе вядзьмак-чараўнік з сівою барадою і вусамі, з капою белага валосся замест калпака, у доўгай белай вопратцы, падпяразапы лыкам, з даўгім кійком у ссохлай, белай, а магутнай руцэ. Косы сонца не пранікаюць скрозь ператкапае суччо бяроз, сосен і елак, асабліва ж скрозь лапы хвой, і густы сцень ляжыць на дарозе. Зусюль чуецца халадок і яшчэ нешта гэткае, што бывае толькі ў лесе і не ў абы-якім, а толькі ў такім, як Цёмны Лес. Унізе гушчары ляшчыны, дробнага альшэўніку, лазы і маладых асінак. Часам, як зірнеш, так усё зарасло, што і пралезці немагчыма. Страх падумаць, што Цёмны Лес цягнецца на дзесяткі вёрст удоўжкі, а ў іншых месцах і ўшыркі, і што можна ў ім заблудзіцца. Жудаснае, гнятучае чуццё выклікаюць гэтыя спрадвечныя лясыя асілкі сваёю веліччу, гушчынёю, паўсёдным змрокам. Яны давяць чалавечую душу, шэпчучы ёй аб яе адзіноце і мізэрнасці. Але яны даюць і супакой. Нават шкада, што тут, па дарозе ў мясцечка,— толькі вузкая ў тры вярсты стужка Цёмнага Лесу сярод двух поль, што вось за тымі вялікімі, цвёрдымі разложыстымі дубамі цёмная гушча лісця пачынае радзець. Не, гэта яшчэ не поле, а толькі Леснікова Паляна, хваліць бога.

С. 63.

15—23 замест: Ён сашчыпнуў ~ сэрцы. // і няспелымі, тож белаватымі ягадкамі. Няскора яны паспеюць тут: бадай як жыта пажнуць, як надойдзе і малінавы канец. Ішоў Лявон далей і заўважыў, што памыліўся: гэта яшчэ не Лeснікова Паляна, а проста невялічкая палянка, за каторай часцей і часцей трапляюцца такія самыя прагалінкі, ці проста галы...

25—33 замест: Потым ~ сцежачкі. // Вось тая, ледзьва відная сцежачка ў бок ад дарогі ля сцесанай троху і заплыўшай смалою, кучматай і вілкаватай сасны. Здаецца, дужа прыкметная сасна, а як лёгка прамінуць і яе і сцежачку. Сцежачка вельмі скарочвае дарогу ў мясцечка, па ёй пянькамі можна выйсці зараз на шлях з Г. на М., пры якім і ліпіць тое беднае мясцечка Ш. Раней, помніцца Лявону, зараз, ад дарогі, вісеў пры сцежцы на дубе драўляны уніяцкі крыж, увесь сточаны і чорны ад старасці, падпаясаны шматком сівага ад дажджу палатна.

А цяпер таго крыжа няма; проста на дубе баўтаецца быццам кавалак бабскага фартуха, а побач з дубам ляжыць цераз самую сцежачку зломаная бярэзіна. Хто хоча — абходзіць, ёсць слабенькі тор, а хто хоча — лазіць цераз высака ўзняты камель ці пад ствол. Хоць бы ляснік парэзаў яе ці мужыкі б укралі. Яшчэ троху прайшоўшы — пень, дасканальна гнілы, і здаецца, неўзабаветкі заваліцца...

С. 63—64.

34—15 замест: І раптам ~ мукамі. // Раптам, неўспадзеўкі для свайго ранейшага ходу думак, збачыў Лявон пад куст ляшчыны, разаслаў свой шэры жупан (у двары хадзіў заўсёды ў сваіх хатніх вопратках), лёг дагары, расцягнууся, прыпаў усім целам да зямлі, а душою зліўся з лесам. «Ці яна і наогул усе яны — інтэлігенты, а па-мужыцку проста паны, ці яны зразумеюць маё шчасце *ляжаць у лесе на жупане?*» — задаў сабе пытанне Лявон, адпачываючы салодка і здарова ад дарожнай зморанасці. Разважаў і ляжаў звычайны сялянскі хлапец: у белай [вы]шыванай сарочцы, чорных штанах і ботах з халявамі. Адно было не зусім як у сялянскіх хлопцаў: шапка. Не любіў маскоўскага картуза; не любіў яго і

насіў «шляхоцкую» з кароткім, круглым полем шапачку; і не зусім шляхоцкую з маленечкім польскім картузом (брыльком), бо і такой, панскай, не любіў, а выбіраў, купляючы, троху падобную да ангельскай. Інтэлігентны твар і шапка збівалі з толку месцячковых крамнікаў і дзевак на цвінтары пры царкве, бо хто яго ведае: па ўсім — дзяцюк сялянскі, а галава ні то шляхоцкая, ні то якаясь троху панская.

С. 64.

30 пасля: паны. // Найгорш тое, што і яна, і нават без усяго ўсякага, ■ каб зрабіць яго беларускасці прыемнасць, напнула б на сябе вышываную сарочку ■ бусамі і каснікамі і кароткую і вузенькую, але даматканую спаднічку і гоцала б, як святая патароча, на панскім ігрышчы.

31–36 замест: ўжо ~ радасці. // відзеў ужо яе з вялікім болем перад сабою ў гэным «белорусском костюме». І ціша Цёмнага Лесу адхінулася ад яго, як ад заразы, і не давала яму, напсаванаму, свае вялікае радасці спрадвечнага супакою.

40 пасля: і правільным. // «Знялюбела б ты мне, як той папянок (папоў сын), што сказаў мэндалевай дачцы, скончыўшай гімназію: «Літвіновіч таму не любіць бліскучых гузікаў і какарды, што хоча быць арыгіналам...»

С. 65.

2 пасля: ай-я-я-я! // І хлопцы і дзеўкі бяруць яе, панайшлі здалёку, хоць яшчэ вельмі рана. Ёсць вёрст за дваццаць.

Лявон троху прыстоіў ля кустоў і сашчыпнуў і з'еў некалькі надта ж буйных, салодкіх, смачных лесавых малінін.

3–6 замест: Той самы ~ вымоваю: // Нейкі хлопец недалёчка стаіць і паглядае, муліцца, каб спытацца і пытаецца:

15–23 замест: паляне ~ карова. // Лесніковай Паляне ходзіць навязаная на доўгай вяроўцы рыжая карова, скубе канцы быльных траў. Махае хвастом, чмыхае мордай [п]а баках ад мошак, разам дрыгае-тупоча нагамі, і мне траву, і звоніць балабонам.

27–34 замест: І калі ~ злосці. // Заўважыла яго, але наўмысля, каб ведаў, што ей — няхай сабе, хто б не ішоў, круціць у руках недавіты вянок, быццам пільна ўе, і далей цягне-мармыча песню, быццам пільна пяе, нікім і нічым не адхілёная ад свайго занятку. «Маніш ты, дзеўка! Толькі і думаеш, хто я гэткі, скуль і ці гляджу на цябе». Не, не ўзнімае галавы і ціха, безуважна, машынальна вымаўляе:

Дарогаю ды шырокаю,
Туды б ішла ды сіротачка...

Але бяздушна спетая песня мае свой гэткі нудны, гэткі тужлівы, гэткі лесавы матыў, аж цяжка ад яго. Быццам ваўкі выюць, быццам і камары звіняць, быццам і Цёмны Лес гудзіць. А хай цябе з такою песняю! Цягне душу з цела:

Туды б ішла ды сіротачка...
Сустрэў яе ды сам госпад бог...

Незразумелая таска кляшчамі сціснула Лявонава сэрца. Хай цябе, хай цябе з такою песняю. Так і звініць камаром увушшу. А гэта што за дзіва? На вокнах леснікоўай хаты — фіранкі, чаго зроду, звеку, спрадвеку не было ў тутэйшых мужыкоў. Не паспеў мінуць ён хаты, як дзяўчынка ззаду, з пня, крыкнула:

35–37 замест: Ста-а-аська-а! ~ голасам. // — Марыся! Бачыш?

С. 65—66.

38–1 замест: Аж ён ~ дарогу. // Фіранка ў акне на гародчык закалыхалася,— гэта кінулася ў вочы Лявону, як мімаволі агляпуўся. А толькі зірнуў, як сабака-ганчак раптам, знецяйку, як загаркоча на яго з-за вугла пуні, як пакоціцца кумільгам, як заскача ля чалавека:

— Гар-гар! Гар-гар-гар!!!

Аж сэрца замлела, спужаў, каб ты прапаў. А ў руках хоць бы травінка.

— Вэн, вэн! — ціха крычаў Лявон і адбіваўся ад яго выспяткам.

С. 66—67.

2–9 Пайшоў ~ Мусю. // Нёман,— на, на, на! Не смець, пу, пайшоў! — пачуў Лявон з ганку і, узняўшы вочы, увідзеў дзяўчыну з простай, без хусткі галоўкаю, з нявыказана прыемнаю ўсмешкаю на чыста-дзявоцкіх вуснах і апранутую так, як апранаюцца настаўніцы з простых сем'яў, прыехаўшы на лета да бацькоў.

— Можа, гэта і будзе мая жонка,— бліснула троху містычная, троху жартаўлівая думка.

З сапраўдным любаваннем заглядзеўся на яе хлапец і слухаў яе сімпатычны, чысты голас:

— Не бойцеся, ён не кусашчы.

— Як на які час, дачушка! — сказаў стары ляснік, выходзячы са стрэльбаю па плячах з-за той жа пуні, і ветліва даткнуўся брыля, і кіўнуў хлопцу галавою.— А найлепі-то я прапушчу [в]ашэці, бо там па дарозе будзе бегчы яшчэ адзін мой сабака.

Лявон, не маючы ў пару слоў, заківаў з вялікай удзячнасцю дзяўчыне і яе бацьку, надзеў шапку, яшчэ раз цераз плячо паглядзеў на яе стройненькую фігурку і пайшоў побач з леснікам. Нёман вінавата віляў закручаным «правілам», пацёрся ля гаспадара і пабег за Марысяю.

— Марыся! Гой-гой! — крычала меншая дзяўчынка.

— Я табе пагойкаю, свавольніца,— не азірнуўшыся і з ласкай буркнуў пад доўгія, белыя вусы сівы ляснік і потым з пытаннем кінуў вокам на Лявона:

— Васпан да мясцечка?

— Ага... Спяшаюся на пошту.

— Ай, вось добра, што сказалі. Можа б, мелі ласку,— троху канфузліва стаў прасіць стары,— занесці і нашае пісьмо, заказанае пасланць.

— Чаму ж, з прыемнасцю.

— Дык я зараз. Марыся! Марыся! — клікаў стары, пабегшы назад трушком.— Давай сюды пісьмо!

Паненка зноў выйшла на ганак і аддала бацьку пісьмо, нешта саромліва і ціха сказаўшы яму.

— Эт, глупства, што там! — адказаў на яе словы ляснік,— усе свае людзі. А скуль, браце?

Лявон назваўся.

— Го, то я і бацьку вашага добра знаю, калісьці мелі кумпанейства. Але ж пан гэтак увабраўся,— што хто і пазнае,— з падвоенай ветлівасцю і значна сціплей (скрамней) казаў стары і нават трошачку, ледзьва прыкметна, а ўсё ж, відаць, не зусім смела падаў руку Лявону.

Марыся дужа пачырванела, кіўнула галоўкаю на звычайнае знаёмства і разам развітанне і шыбка пабегла ў хату.

С. 67.

11–20 замест: Выйшаўшы ~ чуе: // — Як жа, як жа,— гаманіў па дарозе ляснік,— калі Марыська ўчыцца толькі пачынала, яшчэ і старая мая ногі цягала, меў тады сваё леснікоўства недалёчка ад вашай вёскі і з бацькам вашым добра знаўся. Заходзьце на ўзвароце квасу напіцца, пагамонім, і мая Марыся рада будзе знаёмству з адукаваным чалавекам, будзьце ж, панок, ласкавы. А я швэндаюсь па лесе, пільную квітковых баб, каб не дужа ламалі.

Лявон падзякаваў, падакляраваў зайсці, бо трэба ж і квіты з пошты занесці, і шпарчэй засягаў з лесу, каб не вельмі спозніцца, бо ўжо пэўна было гадзін восем. Яго гадзіннік быў у направе ў мясцечку, а ў лесніка спытацца аб часе пасцясняўся,— можа, ён не мае гадзінніка.

Выйшаўшы з лесу, увесь астатні кавалак дарогі да мясцечка, па «бальшаку», пад прысадамі з рэдкіх, старых і пакалечаных бяроз, думаў Лявон аб сваіх новых знаёмых. Было ясна: радаваўся. Толькі не мог даравацъ сабе прыкрай, блазенскай, дурацкай той думкі: «Можа, гэтая і будзе мая жонка».— «Што думка жартаўлівая, я выдумаў, каб абязвініць сябе, а што містычная, то проста дурата,— дурацкая, проста дурацкая думка»,— караў ён сябе спосабам, падобным, аднак жа, да той думкі. А караў за тое, што гэта ж была знявага для тае, каторую не можа вырваць ■ свайго сэрца, для тае, каторую пакінуў, каб зрабіць самаўбійства.

С. 68.

30–34 замест: Але вось ~ крамнік. // З Мэндалевай крамы сыпнуў грудам народ, выскачыла нізенькая, грубая баба ў лапцях і з замасленым, запэцканым вузельчыкам у руцэ, збялелая са страху і ад прыкрасці, а следам Мэндаль, даўгі, як жэрдка, рыжы гандляр, з селядцом, і — плясь! яе па твару.

36–38 замест: Яна маўчала ~ краму. // — А, людцы, а, родныя! Каб жа я крала...— пяцілася ад яго баба, ■ ён перахапіў селядцовы хвост у другую руку ды яшчэ раз, ды яшчэ, па твару — плясь! плясь!

Калі селядцовая галава адляцела, тады Мэндаль адступіўся і спакойна пабег да свайго тавару.

39–40 замест: за рог ~ сценкі. // скарэй за сценку і абцірала рукою белы, як крэйда, з чырвонымі, у селядцовым расоле паскамі, з прыліпшымі лускамі непрыгожы, шырокі твар.

С. 69.

25–27 замест: Тут ~ ліст. // Глядзіць: стаіць канапа, а на ёй сядзяць тры бабы. Адна з пісьмом, а дзве ■ пасылкамі. Проці канапы — дзверы ў «тэлеграфісцкую», а трошку воддаль — у «касірскую».

28–33 замест: Паштовыя ~ дзевятае... // У кожных дзвярах па акенцы. Ні ў тэлеграфісцкай, ні ў касірскай нікога не было. Лявон пастаяў, пастаяў, падзівіўся праз акенцы, што на гадзінніку ўжо 8 з палав., і прысеў на канапцы. Сядзеў, здавалася, даволі доўга.

38–39 замест: Уголас ~ па-літоўску. // Лявон сагнуўся, каб дастаць вокам скрозь акенца цыферблат і ўвідзеў $8^3/_4$.

— Колькі, братка, набаўтала? — з наіўнай простасцю спыталася ў яго баба з пісьмом.

— Без чвэрці дзевяць.

— Во, што то значыцца навука, [не тое што] мы, цёмныя, ні-

чога не разуме[ем, як] тама чыкаець? — і засмяялася [пясмела-] шчыра, і бядуючы над сабою, але [больш] дзеля гадзіся, бо так усе кажуць.

— Не была б то грамата,— [пад]дзержыла другая.

— Ведама,— дадала сонная трэцяя.

40 замест: Хвілін ~ пятнаццаць // «Чаго ж, самдзеля, ніхто [не] прыходзіць?» — пачуў прыкрасць Лявон, і ў той жа час у тэлегра-[фісцкай]

С. 70.

12 замест: Тады ~цёткі. // Тады пацягнулася к акну другая, з пасылкаю. Паштавік узяў пасылку ў рукі, падзяржаў яе і крутнуўся к прасіцельцы:

— А што пасылаецца?

Баба нахінулася бліжэй і сарамліва прызналася:

— Ведама, што, панічок: табак, паперка, пісьмо, сернікі і... гэта і...

— Што «і»?

— І сала,— адважылася баба.

— А што там за сернікі?

— Спічкі,— паясніла прасіцелька.

— Как?! Пасылаць узрыўчатыя ве[шчаства]. Да я нікагда гэтава не дазволю. Прашу пусціць другіх.

Адсунулася і яна, забраўшы сваю пасылку.

20—1 замест: другі ~ поглядам. // у касірскую паштмайстар, даволі высокі чарнабароды чалавек. Сеў у сваім пакойчыку на стулік і маўкліва заняўся выманнем розных папер з столу.

С. 70—71.

25—6 замест: Ён пачуў ~ грошай. // Тады і Лявон стануў ля акенца, паклаў пасыланыя пісьмы, ёй, і тое, лесніковае, і чакаў. На пошце прабіла дзевяць гадзін. «Уга,— падумаў Лявон,— гэта ж начальнік пошты спазніўся аж на цэлую гадзіну»,— падумаў і глядзеў, чакаючы.

— Ізвініце (выбачайце)! — сказаў адзаду нейкі круглы пан і праціснуўся ў дзверы касірскай. Начальнік пошты ўстаў, прывітаўся з панам і падсунуў яму крэсла. Гэта быў месцячковы доктар. Зараз у іх пачалася ажыўленая панская (расійская) гутарка.

Бабы слухалі, хоць і не разбіралі, і заглядаліся на іх, стоячы за Лявонам, адылі адна шэпча другой: «Ну, рыбулька, прыйдзецца мне пайсці не паслаўшы...»

Лявон чуў і чакаў моўчкі. Паштавік паспеў напісаць, што трэба для заказаных пісьмаў і падаў квітанцыйную кнігу, хто яго ведае, навошта — начальніку. Доктар гаманіў а гаманіў, начальнік слухаў і часам нешта сам казаў. «Во зюкаюць»...— сказала адна. «Бо, ведама ж — паны»,— адказала другая. У прыёмную прыйшло яшчэ колькі сялян.

— Панічок, во мая пасылка і во за перасылку і за вашу турбацыю рублёк грошы,— падсунулася нейкая новая маладзіца.

Паштавік пачырванеў троху, што чутна сказала, а ўзяў і стаў пісаць.

— Перасылка вам каштуе восемдзесят капеек,— прывёў ён справу ў яснасць,— бо дваццаць капеек «гасцінца» не бог ведае, што за пацеха.

— Дайце квітанцыю! — звярнуўся Лявон да паштмайстара, голасна, каб ён пачуў.

Той маўчыць і слухае доктара, а доктар гаворыць, аж пыхціць

і брызгаецца, толькі лоб хустачкаю цярэ. Тым часам прыбягае яшчэ паненка, ува ўсім чыста чорным, і сама чорная, як той жучок. Паштавік паслушна скоранька адчыніў ёй забаронныя дзверы, і яна пыхнула ў касірскую.

— Ці няможна паслаць грошы? — панскім голасам і па-панску (па-расійску) запыталася яна, прыемна вітаючыся з доктарам і начальнікам пошты.

— Чаму ж няможна, а злашча для паненкі,— жартам адказаў начальнік і папярэдліва пасадзіў чорную на стул.

С. 71.

[11] пасля: сэрца. // Ад пошты яго думкі пераляталі на ўсё жыццё, з'яўляліся вобразы, з'яўлялася мімавольная, механічна-мазгавая творчасць, як ува сне, якая патроху пераходзіла ў творчасць свядомую, здавальняючую. Лявон мысленна пісаў на паперы назоў свайму твору, выбіраючы лепшае слова: рабы, хамы, падляганнікі...

І тварыў, і тварыў (нават мог бы імправізаваць уголас).

«Ідзе ён, прыгнуўшыся, туляючысь. У белай старой сярмязе, у стоптаных лапцях. Ідзе — баіцца. Па тратуару ён не ідзе, каб не запэцкаць каго з іх, у чыстым, у чорным, у панскім. Каб сваім убогім хатыльком не таўхануць каго з іх, далікатных і непадступных, дый насмешлівых. Ён месіць балота з боку вуліцы, шчэміцца наўкол дрэўцаў, што ля тратуару, ідзе, пэўне, у ўезны (паветавы) з'езд. Можа, на суд? Можа, яго судзяць за што? Ён тужліва і смешна скідае шапку перад гарадавым і перад усякім бліскучым гузікам і какардаю. Скідае перад «імі». Усё роўна — «яны». Ці «ён» — суддзя, ці — пан вялікі, ці — начальнік які. Можа — воінскі, можа — земскі, можа — прыстаў станавы. Хто падзівуецца, а хто і не ўважае анізвання на яго мужыцкую, на яго дурную прызвычку здароўкацца ў горадзе. А другі радыкальных паноў падумае з грамадзянскай засмучонасцю: «Гэта не ветлівасць. Гэта рабства, няйначай». А той, аб кім пан гэтак думае, а той «хамуйла» абміне пана, як скулу, дасць дарогу і зірне з-пад лоба, з-пад нізу, як з-пад якога падыспаддзя. Як чакаючы ўдара пад палкаю. Плюскаючы вачмі, як быццам паб'юць яго. Драўляныя самадзялковыя гузікі ў сярмязе. Маргелка. На руцэ вясла лыкаў або бублікаў, калі што прадаў і не надта пітушчы. Ён тут чужы, гэты чалавек лясоў і балотаў. Папіхайла пнёў, і балот, і гнілых калод. Ён тут у чужым свеце. Але яго тут знаюць. Знаюць, што ён ніжэйшы. І ён іх знае. Ведае, што яны зробяць з ім усё, што захочуць. І ведае, што яго лічаць за нешта ніжэйшае. І ведае, што адылі ён такі самы, толькі бедны і цёмны, і дзеля таго так паглядае, як бы баючыся, што дадуць па галаве кіём. Як пабіты сабака. Як пакрыўджанае дзіцянё. Як воўк у клетцы. Як конь, што пугаю па саменькіх вочах яго насцябалі. Як усе яны разам, выглядаючы аднымі вачыма, у каторых ёсць тое ўсё, усё разам. Як тая негрыцянка з дзіцёначкам на ўлонні, што на малюнку ў кніжцы «Халупка дзядзькі Тома». Больна. Шчэмка, зніблівa. Войстрае пачуццё распнутай людскасці. Пякучае пачуццё крыўды. Ай, каб ішоў ён горды, вар[т]ы, паважны. Моцны духам. І багаты. І чыста апрануты. Адылі... Дух жа ў яго спакойны. Дзесьці на сподзе яго душы ёсць гордасць, што ён гэткі. Гардзіцца тым, што ён і гэткі жыве. Іменна гэткі, скрыўджаны. Дурань святы! Іга-га-га-га!! — зарагатаў мысленна Лявон так, як рагатаў на «бальшаку», на вольным паветры ўголас, а не мысленна. Дурні святыя, іга-га!!

Працёк час.

Ідзе ён па тратуару, у ботах, і ў шэрай пінжаком шытай адзежыне. З двума радкамі, даўгімі двума радамі шэраньkіх гузікаў, купленых у краме. І ў казыру маскоўскім — таксама з крамы. Адным словам,— шляхціц. Пасэсару нос падатрэ. І не дужа каму абходзіць дарогу. А бяднейшых наўмысля не заўважае, бо і яны — рабы, але ўжо і за яго ніжэйшыя. Сустракаючы паважнейшых, тоўстых з какардамі і гузікамі для адзнакі ад горшых, стрэўшы гэткіх, скідае, гад, шапку, перастае лушчыць семячкі і на адзін мах (міг) глядзіць, як негрыцянка. Не тое што — глядзіць, а нешта мігкае ў яго такое ў вачах, толькі зараз хаваецца, і ўжо даволі лоўка хаваецца. Ён багатыр: замест скрыўджанай дзядоўскай гордасці, той мізэрнай дурнасвядомасці, нажыў гордасць крыўдзіцеля, самалюбаванне, хоць і рабскае, але вышэйшае, ага!

Працёк час.

Ідзе ён у чорным пальце, што носяць паны, і ў брылі, і ў штанах «навуліцу» (навыпуск), кіёчкам махіль, махіль! і не відзіць таго свайго родзіча, што ў белай сярмязе і ў маргелцы і з вяслам бублікаў ці лыкаў абмінае яго асцярожненька, з тратуару далёка саступае. Дыміць папяроскаю, і гэтак важна ідзе, што кожны сам дарогу дае. А з агідаю моршчыцца, калі другі яго родзіч, той, у шэрай пінжаком шытай адзежыне, палічыўшы, відаць, за «жыдка» яго, валіць проста, хам, плячом на яго і кідае сваёю слюнявую шалупашкаю, шалухою ад сланечніка, сваім хамскім семячкам проста яму на бліскучыя боцікі. І толькі на выгляд з такою агідаю паморшчыўся, а на сподзе душы баіцца, каб яго не абразілі, як простага, не сказалі б яму крыўды, як жыдку, ці гэткіх слоў, як роўнаму: «Слухайце! Гэта не вы, паночак, Ярмолін сынок, дзядзькі Ярмолы, га?» Каб так не спыталіся, баіцца ён тут, а зазвычай баіцца як нячысцік ладану, каб не зляцець з таго панства свайго, каб зноў не зраўнавацца з тымі рабамі, за якіх вышэй цяпер. Баіцца, гад, каб не страціць той мажлівасці любавацца сабою, як вышэйшы за іх. Таму вось так, не з поглядам сабакі пабітага, дарма пакрыўджанага, а з выглядам падласага ды подлага сабакі скідае брыль перад рабом, яшчэ вышэйшым за яго. Дык навошта жадалі яму замест сярмягі — пальто, замест маргелкі — брыль, замест лыкавага вясла — кіёчак або стэк, навошта, калі яны нішчаць у яго нават гордасць затуканага? А чаму ж і не? Ці ж не лепей горды хам за святога папіхайлы-раба?»

[12] замест: Потым ~ падышоў... // Імправізацыя Лявонава з парадку стройнага збілася, думкі для самога сталіся няяснымі, і ён к акенцу, збоку чарады, ізноў падышоў.

[20] замест: Усе азірнуліся... // — У нас гатовых квітанцый нет (няма),— ціха і злосліва паштавік дае адказ і на сваё начальства аглядаецца.

А ў Лявона кроў кіпіць, сэрца замірае і рукі, потныя, дрыжаць, зірнуў ён на гадзіннік — без чвэрці дзесяць гадзін. Зараз, значыцца, зачыняць пошту. Тут, даў бог, доктар і паненка з паштмайстрам развіталіся, паштавіку, надта занятаму, галавамі паківалі і выйшлі за парог на вольнае паветра. Бабы ўздыхалі і клялі паштовага начальніка, што дзяржыць іх, ліха яго ведае, навошта.

«Другую нядзелю хаджу, а ўсё дарма, і ўсё тут гэты круглы, як чурбан, панок круціцца, каб і ён з імі з усімі лопнуў, каб яго»... — так пазюкаўшы, пакляўшы, пайшлі і яны за парог на вольнае паветра.

С. 72.

6–7 замест: пачаў ~ Лявона. // замкнуў і ўвідзеў у прыёмнай аднаго хлапца-бунтоўніка, Лявона. Пытаецца:
12–15 замест: узняўся ~ носе. // раптам адмахнуўся, і сама рука моцна ўдарыла па шчацэ і па вуху таго. Так у гузічках і заваліўся на канапку.
16–19 Той збялеў ~ тут трэба? — адсутнічае.

## ЦІХАЯ ПЛЫНЬ (с. 124)

Друкуецца па выданню: Гарэцкі Максім. Ціхая плынь.— 2-е выд.— Мн.: Беларускае дзяржаўнае выдавецтва, 1930.

Упершыню пад назвай «За что?» і падпісаная псеўданімам «Дед Кузьма» апублікавана ў перакладзе з беларускай на рускую мову ў газеце «Известия Смоленского Совета», 1918, 1 мая.

Датуецца 1917—1930 гг.

У «Храналогіі маіх твораў» «За што?» пазначана «1917, 1918» гадамі, прычым каля апошняга маецца запіс: «травень».

З ліста М. Гарэцкага ад 26 верасня 1918 года да З. Жылуновіча (Ц. Гартнага), які ў той час займаў пасаду загадчыка выдавецкага аддзела Беларускага нацыянальнага Камісарыята, выяўляецца, што аповесць «За што?» пісьменнік меў намер апублікаваць у зборніку «Жніво», аб гэтым сведчаць наступныя радкі: «...Я ўжо меўся выязджаць гэтымі днямі ізноў у Смаленск... Паеду, мусі быць, у суботу 15/ІХ. Са Смаленска пашлю ў «Жатву»: 1) «Знібее сэрца» — 3 стр.; 2) «Прысяга» — 7 стр.; 3) «Кросны» — 16 стр. і 4) «За што?» — 36 стр. Калі ўсяго друкаваць няможна, друкуйце «Кросны» і «За што?». Апавяданні пісаны ў розную пару і не аднакім правапісам; выбачайце і рабіце «як лепей» [1].

У газеце «Дзянніца», 1918, 17 і 24 снежня змешчана паведамленне, што зборнік «Жніво» друкуецца і што ў ім «між іншымі будуць змешчаны творы: Цішкі Гартнага, М. Гарэцкага, Я. Пятровіча і Х. Чарнушэвіча». Як вядома, зборнік свету не пабачыў.

Першае асобнае выданне аповесці на беларускай мове мела назву «Ціхія песні» (1926). Аўтарская спасылка ў ім дала звесткі аб першадруку твора: «Першы раз друкавалася ў перакладзе па-расійску ў першамайскім нумары «Изв[естий] Смол[енского] совдепа» за 1918 г.».

Удакладняюць сказанае словы пісьменніка ў артыкуле «Смаленск — Мінск — Вільня» («Звязда», 1927, 9 жніўня): «Пасля Кастрычніка я жыў у Смаленску і ў самым канцы 1917 г. ці ў самым пачатку 1918 г. пачаў супрацоўнічаць у «Известиях Смоленского Совета». Я даваў спачатку фельетоны і пераклады з сваіх жа апавяданняў у беларускай мове пад псеўданімам Дзед Кузьма».

Апавяданне ў творах, падпісаных гэтым псеўданімам, вялося ад імя старога чалавека, умудронага вялікім жыццёвым вопытам. Вось, напрыклад, як пачыналася аповесць «За что?» у першадруку:

«...Пожалуй, не занимательна она для читателей любовных романов и футуристических стихов. Ведь даже вы, мои юные друзья, выходцы из белорусской деревни, дети наших старшин и кулаков, панских кучеров и кухарок, взятые от сохи и бороны и, благодаря русской школе, вышедшие в люди, даже вы не понимаете да и не любите Успенского и не слышали о Златовратском. При чтении

[1] З публікацыі В. Скалабана «У навальнічным 1918-ым...» — Літ. і мастацтва, 1983, 25 лют.

«Деревни» Бунина ваше сердце не сжимается от боли, но отвращение к упылой жизни грязных хат растет и окрыляется и поднимает вас в ваших собственных глазах. И я с печалью вижу, как американская корочка ваших душ, созданная литературой кинематографа и бульвара, скрывает пустоту и отделяет вас от народа. Беспомощно висят концы оторванных нитей. И от того, что могло бы их связать, вы безрассудно отвергнулись.

Народническая литература не отжила, однако. Есть обширный класс людей, который не поймет иных произведений наших дней, где преломляется цветами радуги панское дегенератство, называемое в высоком стиле утонченностью!

Этот класс найдет, надеюсь, в несложной истории Осмоловского Левки отражение своих дум и настроений».

Да выхаду першага асобнага выдання на беларускай мове некаторыя раздзелы аповесці змяшчаліся ў перыядычным друку ў выглядзе асобных урыўкаў, самастойных апавяданняў.

Пададзеная ніжэй табліца дае ўяўленне пра гісторыю напісання аповесці, змену яе назвы, кампазіцыйную перапрацоўку.

У «Храналогіі...» і «Спісе маіх твораў» пазначаны яшчэ адзін урывак аповесці: «На заезджым двары», які датуецца 1921 годам. Аўтограф урыўка не захаваўся, асобнай яго публікацыі не выяўлена. У аповесці адпаведны гэтай назве тэкст змешчаны ў раздзеле «Школа жыцця».

С. 148—156.

«Чорныя будынкі высоўваюцца з шэрай і снежнай начавой плямы ~ Ды вось санкі заскрыпелі, і пачынаецца ізноў дарога...»

Канкрэтызуем звесткі, якія датычаць гісторыі тэксту аповесці.

Як вынікае з прыведзенай табліцы і раней сказанага, урыўкі «Бірка» і «На заезджым двары» ў рускім варыянце аповесці адсутнічаюць. Запісы ў «Храналогіі...» і «Спісе маіх твораў» паказваюць, што гэтыя тэксты напісаны аўтарам пазней. Яны датуюцца тут 1921 годам (у «Спісе...» ідуць з паметай «Ц. п.»). Выкарыстаны М. Гарэцкім у асобных выданнях аповесці.

Урывак «Бірка» быў напісаны ў 1920 годзе (аб чым сведчыць дата пад тэкстам: «9/XII — 1920»), у гэтым жа годзе ён быў і апублікаваны. У «Храналогіі...» ж М. Гарэцкі датуе яго, відаць, годам перапрацоўкі, у выніку якой са значнымі сюжэтна-кампазіцыйнымі, моўна-стылёвымі зменамі тэксту ён стаў другой і трэцяй часткамі IV раздзела аповесці «Ціхія песні» з эпіграфамі да іх: «На слова «бірка» цяпер забываюцца...», «Як на тое ліха, быццам чорт узлез на хлопца...» Герояў урыўка — Міхалку і Іваньку — пісьменнік увасобіў у вобразе Хомкі, учынкі Панаські Міхасёнка перадаў Машы-леснікоўне.

Пазней гэты перапрацаваны тэкст зноў пераглядаўся аўтарам. Пасля невялікіх стылёвых правак і змен (хлопчык Лявонька названы Лявонькам Задумам), без эпіграфаў стаў другой часткай раздзела «Горкая прамудрасць» аповесці, якая атрымала назву «Ціхая плынь».

Апавяданне «За што?», змешчанае ў «Беларускіх ведамасцях», мела памету — «далей будзе», аднак, у сувязі з тым, што газета каля 20 студзеня 1922 года спыніла сваё існаванне, адпаведны працягу тэкст быў змешчаны у часопісе «Беларускі звон» пад назвай «Урывак з повесці «За што?».

Перапрацаваны тэкст апавядання ўключаны аўтарам у I раздзел аповесці «Ціхія песні», а тэкст урыўка — у II раздзел. Абодва

| №№ п/п | Публікацыі твора | | | З якіх частак складаліся | Якім раздзелам адпавядаюць пасля перапрацоўкі ў асобных выданнях | |
|---|---|---|---|---|---|---|
| | Назва | Дзе публікавалася | Дата апублікавання | | Ціхія песні | Ціхая плынь |
| 1. | «За что?» /с белорусского/ | «Известия Смоленского Совета» | 1918, 1 мая | I<br>II<br>III<br>IV<br>V<br>VI | I<br>II<br>V<br>IV [1 ч.]<br>VI<br>VII | Забыты край<br>Герой гісторыі<br>Млявыя сненні<br>Горкая прамудрасць /1 ч./<br>Кірмашовыя прыемнасці<br>Парогі |
| 2. | «Бірка» /урывак/ | «Наша думка» | 1920, 31 снеж. | I, II | IV [2 і 3 ч.] | Горкая прамудрасць /2 ч./ |
| 3. | «За што?» /апавяданне/ | «Беларускія ведамасці» | 1922, 15 студз. | — | I | Забыты край |
| 4. | «Урывак з повесці «За што?» | «Беларускі звон» | 1922, № 19; | — | II | Герой гісторыі |
| 5. | «Хомчын канец» /З апавядання «За што?»/ | зб. «Заходняя Беларусь» | 1923 | — | VII | Парогі |
| 6. | «Ціхія песні» | Мн.: Беларускае дзяржаўнае выдавецтва | 1926 | I<br>II<br>III<br>IV<br>V<br>VI<br>VII | — | Забыты край<br>Герой гісторыі<br>Школа жыцця<br>Горкая прамудрасць<br>Млявыя сненні<br>Кірмашовыя прыемнасці<br>Парогі |
| 7. | «Ціхая плынь» | Мн.: Беларускае дзяржаўнае выдавецтва | 1930 | Забыты край<br>Герой гісторыі<br>Горкая прамудрасць<br>Школа жыцця<br>Млявыя сненні<br>Кірмашовыя прыемнасці<br>Парогі | — | — |

яны з новымі папраўкамі сталі раздзеламі «Забыты край» і «Герой гісторыі» ў аповесці «Ціхая плынь». Найбольш істотныя перапрацоўкі фрагментаў іх тэксту ў гэтым выданні суправаджаліся зменай назвы твора. (Гл. асноўны тэкст с. 134, р. 10—32; (у каментарыі) варыянты аповесці «Ціхія песні», с. 408—409; 410).

Апавяданне «Хомчын канец», змешчанае ў зборніку «Заходняя Беларусь», мела аўтарскае тлумачэнне: «Некатор[ыя] раздзелы гэтага апавядання друкаваліся ў віленскіх беларускіх газетах за 1922—1923 гг.». Тэкст гэтага апавядання неаднаразова перапрацоўваўся пісьменнікам. У аповесці «Ціхія песні» яно выкарыстана ў заключным, г. зн. VII раздзеле.

Пры падрыхтоўцы твора да перавыдання ў 1930 годзе М. Гарэцкі ўнёс у гэты тэкст апрача моўна-стылёвых змен і кампазіцыйныя: падзяліў яго на дзве часткі і змясціў пад назвай «Парогі». Радкі з верша Янкі Купалы «Песні вайны» (1914), узятыя эпіграфам да першай з іх, узмацнілі ідэйна-сэнсавае гучанне не толькі гэтай часткі, але і ўсёй аповесці. Першапачатковы эпіграф да раздзела выкарыстаны да другой яго часткі.

Тэкст аповесці «Ціхія песні» ў новым выданні («Ціхая плынь»), як бачым, значна перапрацаваны. Акрамя таго, тут зняты эпіграфы да ранейшых раздзелаў:

I — ...Дзікай травою красуюць палеткі.
Гніюць і правальваюцца стрэхі...
II — Паснулі сланечнікі і макі.
III — Ды вось санкі заскрыпелі, і пачынаецца ізноў дарога...
IV — Скворец известен всем...
V — Шумяць над яго ўпоенай сонам дробненькай постаццю лозы і веюць трывогі: «Прачніся!»

Эх, не да канца ты паэт, сабака!

VI — ...і ён, наш бедны, сарамлівы Хомка, асалапеў ад радасці...

Эпіграф да VII раздзела, як ужо сказана, выкарыстаны да другой часткі раздзела «Парогі».

Пасля выхаду з друку аповесць «Ціхія песні» была заўважана крытыкай і атрымала станоўчую ацэнку. П. Б. (П. Бузук) адзначыў, што «Ціхія песні» Гарэцкага — з'ява, безумоўна, новая і свежая ў беларускай літаратуры», спыніў увагу на «яскравых малюнках беларускага быту», падкрэсліў імкненне аўтара аднавіць слоўнік, «ужываючы словы ў новым сэнсе» (Полымя, 1926, № 5).

Крытык А. Лясны (А. Мардвілка) у рэцэнзіі на твор пісаў: «Новая кніжка Максіма Гарэцкага з'яўляецца нібы працягам першых дзвюх, выдадзеных у гэтым жа годзе БДВ. [Маецца на ўвазе «На імперыялістычнай вайне» і «У чым яго крыўда?»] ... М. Гарэцкі ў апошніх двух апавяданнях апісвае нядаўняе мінулае ... якое яшчэ жыве ў сучасным, як кроплі ўчарашняга дажджу застаюцца назаўтра ў мокрай зямлі. Загэтым яго творы нічуць не пазбаўлены інтарэсу сучаснасці. ... Паасобныя малюнкі ў апавяданні прасякнуты моцным і шчырым пачуццём аўтара, якое надае твору мастацкую суцэльнасць, а іхняя каларытнасць можа захапіць чытача і зрабіць на яго вялікае ўражанне. Стыль кніжкі арыгінальны, добры і лёгкі, а мова багатая і так блізкая да народнай беларускай мовы, як бадай ні ў аднаго з нашых пісьменнікаў» (Маладняк, 1926, № 5).

Аповесць «Ціхая плынь» павінна была ўвайсці ў «Зборнік апавяданняў». У «Змесце» яна значыцца 25-м па ліку творам з ты-

мі ж раздзеламі, што і ў апошнім асобным выданні. Размяшчае яе пісьменнік перад дакументальна-мастацкімі запіскамі «На імперыялістычнай вайне» (яны ідуць пад № 26). Такая паслядоўнасць, як і ўдакладненне ў аповесці прозвішча хлопчыка-школьніка Задума, была не выпадковай. М. Гарэцкі імкнуўся стварыць шырокае эпічнае палатно нядаўняга мінулага, паказаць праз лёс двух аднавяскоўцаў (Хомкі і Лявона), што несла імперыялістычная вайна народу. (Тэкст аповесці ў машынапісе «Зборніка...» адсутнічае.)

Імя галоўнага героя аповесці «Ціхая плынь» Хомка, якое мы ўпершыню сустракаем ў апавяданні «За што?», засталося нязменным ва ўсіх наступных публікацыях і выданнях. (У рускім варыянце — Лёўка Шпак, ва ўрыўку «Бірка» — Міхалка і Іванька.)

Паводле сведчання Галіны Максімаўны Гарэцкай, прататыпам вобраза Хомкі быў аднавяскоавец пісьменніка — Восіп Нажынскі, якога напаткаў такі ж лёс, як і галоўнага героя аповесці.

У «Запісной кніжцы» (1936—1937 гг.) пісьменніка ёсць запіс: «На імперыялістычнай вайне пагінулі» і дадзены пералік імён, сярод якіх значыцца і «Восіп Максімаў», г. зн. сын Максіма Нажынскага. Як сведчыць Галіна Максімаўна, носьбітамі ўсіх пералічаных імёнаў былі рэальныя асобы, аднавяскоўцы М. Гарэцкага, а запіс, зроблены ім, прызначаўся для «Камароўскай хронікі».

У аўтарскім разуменні імя Хомка было намінальным. У артыкуле «Наш тэатр» (Гоман, 1916, 27, 31 кастр., 3, 7 лістап.) ён пісаў: «Беларус — гэта Хомка, што веры не дае. На словы ён быццам то і згадзіўся, каб не скрыўдзіць каго, а тым часам, пакуль усяго сваімі вачамі не паглядзіць, датуль не дасць поўнай веры, датуль і не пераканаецца».

Без змен у аповесці пакінута імя маці героя — Домна.

На аснове аповесці «Ціхая плынь», а дакладней, яе ранейшых публікацый, М. Гарэцкім напісаны апавяданні для дзяцей: «Хомкін сон», «На пастаці», «Канец лета», «Досвіткі», «Сонейка», «Бірка». Змешчаны яны ў кнізе «Родны край», 1923, 1929 (апавяданне «Бірка»[1] ўваходзіла ў выданне гэтай кнігі, у прыватнасці, за 1921 і 1927 гады), апрацаваны з улікам спецыфікі чытача, прадугледжаны пазнавальныя і выхаваўчыя моманты. У аповесці блізкі ім тэкст:

С. 147—148. «І ўсе хлопчыкі, звязаўшы аброці ў пукі ~ Прабяжы троху, зараз абагрэемся ў заездзе».— «Хомкін сон».

С. 156—157. «Жніво. ~ І шамае жыта...» — «На пастаці».

С. 130—131. «Ці даводзілася вам праязджаць па вёсцы ў канцы лета ~ шмат вялікіх і маленькіх «пірагоў», на сонейку, дзе будуць яны пячыся».— «Канец лета».

С. 152—153. «Светач вісіць на шосце ля полу. ~ Ну-ка, Хомка, уставай!» — крычыць ён сам».— «Досвіткі».

С. 161—162. «На падворку, дзе сонейка цалуецца з залатою саломкаю ~ набірае жоўтага пылу на свае бахматыя ножкі».— «Сонейка».

С. 139—144. «На слова «бірка» цяпер забываюцца ~ чым яго добрым пацешыць».— «Бірка».

* * *

С. 128. ...*праведнага Егавы*...— Маецца на ўвазе Іегова, бог у іудзейскай рэлігіі.

...*начытаны ў бібліі і брусавым календары.*— Біблія (грэч. bib-

---

[1] «Бірка» змяшчалася яшчэ ў кнізе «Наш сцяг».

lia — кнігі) — зборнік «свяшчэнных кніг», які складаецца з мноства частак, напісаных у розны час (VIII ст. да н. э.— II ст. н. э.). Біблія складаецца з Новага запавету, які лічыцца «словам бога» ў хрысціянскай рэлігіі і Старога запавету — у хрысціянскай і іудзейскай рэлігіях.

Брусаў каляндар — пад гэтай назвай вядомы каляндар з прадказаннямі, складанне якога прыпісваецца Якаву Брусу. (Брус Якаў Вілімавіч (1670—1735), дзяржаўны дзеяч і вучоны, паплечнік Пятра I). Сам каляндар, які стаў узорам для ўсіх пазнейшых выданняў з прадказаннямі, быў адгравіраваны ўпершыню ў 1709 г. на медзі і складаўся з 6 асобных лістоў.

С. 129.

*...купальскія або рабінавыя ночы...*— Гл. вышэй, с. 385, каментарый да аповесці «Меланхолія».

Мусіяш — антыхрыст. У драматычным абразку «Антон» Гарэцкі выкарыстоўвае блізкую сюжэтную сітуацыю. Герой твора — доктар — прыгадвае падобнае трагічнае здарэнне, якое адбылося на Магілёўшчыне «чатыры гады назад», калі «мужыкі забілі дзіцёначка, бышцам народжанага антыхрыста...».

С. 133. *...рулі з пастаялкі...*— Хлеб, накрышаны ў малако, якое адстаялася ў халодным месцы (склепе).

## Варыянты газеты «Наша думка»

С. 140.

1–3 замест: але ён ~ належнаю // Але вучыцель гэты надта здаволіўся ад свайго плану і ажыццёвіў яго з належнай

7–10 замест: На брусочку ~ казаў». // З кожнага боку зрабіў па тры нарэзы, налічыўшы да дванаццаці. Цыфра да 10 азначалася лікам нарэзаных палачак, а 10 — крыжыкам. Потым проці нарэзаў напісаў 12 беларускіх слоў, самых непрыгожых для яго [...] вуха, а іменна: 1 як, 2 дык, 3 хай, 4 ёсць, 5 няма, 6 нічога, 7 ён, 8 казаў, 9 але, 10 дабрыдзень, 11 добра, 12 дрэнна.

Першыя тры словы сурова забараняліся для ўжытку, пачынаючы з першага аддзялення, першыя шэсць — з другога, а ўсе разам, як і наогул уся беларуская размова,— у трэцім аддзяленні.

23 пасля: і дыкаеце. // Але я дам вам рады і навучу вас,— вырасшы, падзякуеце мне. Ведайце, што з той мужыцкай, хамскай моваю, якую вы ўмееце ад сваіх матак і бацек, нідзе няма ходу, ні ў салдатах, ні на службе ў свеце, нідзе. Бацькі вашы няўчоныя, дык і не дзіва, а вас жа на тое школяць, каб у людзі хоць троху вывесці. Тым часам, вы ніяк не адвыкаеце ад хамства.

С. 141.

20 замест: І хлопцы раздурэліся. // Нават шмат каму з хлапцоў зрабілася весёла ад гэтае вучыцельскае выдумкі, і япа ім не здавалася страшною, бо кожны спадзяваўся лёгка спіхнуць яе з рук.

С. 142.

38 пасля: да цёмнага. // «Не дай бог свінні рог, а мужыку панства»,— казалі ў Асмолаве некаторыя бацькі, дачуўшыся ад сваіх дзяцей, як іх муштруе за простую мову новы вучыцель. Ён быў сын незаможнага гаспадара з суседняй парафіі і ў настаўнікі папаў, вярнуўшыся з свету, дзе навучыўся гаварыць па-панску. Адукацыю меў невялікую: царкоўнапрыходскай школы, але каб быць вучыцелем школы граматы ў той час было даволі і гэтага. Пабыўшы ў Маскве ўсяго толькі два ці тры гады, наш вучыцель, як хло-

пец зроду здольны, а заядлы, быццам святы Іосафат Кунцэвіч, вельмі лёгка няўся панскай гутарцы і цяпер з форсам і смакам вымаўляў сваё: «што-ж, уж, как-ста, что-ста». Не за тое вінавацілі яго асмолаўцы, што гамоніць па-панску і выбівае з іх дзяцей простую мову, бо самі таго хацелі, але за тое, што вельмі задаецца сваім панскім языком і пагарджае кожным, хто не ўмее зламаць язык па-ягонаму.

— Как? как? Паўтары яшчо-та раз, ну! — чапіўся ён, бывала, яшчэ на парозе школы, з самае раніцы, як толькі вучні пачыналі збірацца і ў страсе казалі яму няўломнае для іх панскае слова:

— Здрасцвіця!

— Уш я-та цібе задам: здрасцвіця! Уш я-та цібе научу кгаварыць: здраствуйце! — накідаўся настаўнік і зараз даваў у рукі бірку.

Той, хто ўчыўся ў асмолаўскай школе граматы за гэтым панам настаўнікам, або гаспадзінам вучыцелем, пэўна, да самае смерці будзе ведаць, што за штучка была бірка, яго выдумка. Адно шчасце, што пажыла яна нядоўга, да вялікадня ў тым годзе.

Колькі з-за яе пралілося горкіх дзяцінных слёз, колькі выдзерта віхроў, пабіта рук лінейкамі, намулена бедных кален гарохам і колькі сварак адбылося між самымі блізкімі таварышамі.

Яшчэ ў першым-другім аддзяленні можна было выкруціцца ад боскай кары. Рэдка заставаліся малыя без абеда з біркаю ў руках за якое-небудзь «дык» або «няхай». Але астатні год — прост хоць у пятлю галавою. Здаецца, так стараліся ўсе гаварыць правільна, але кожны ж божы дзень у нечыіх руках заставалася «дудка», як жартам празывалі бірку. Кожны хацеў збавіцца ад яе, і часта лаўкачы, як і Лявонька, пушчаліся нават на подлую зраду, або, як цяпер кажуць, на правакацыю. Дастаўшы бірку ў рукі, яны заклікалі ў куток таварыша і наўмысля пачыналі размаўляць папросту. Не паспяваў той, не сцяміўшы, сказаць «добра», ці «нічога», ці абыякое іншае простае слова, як прадацель радасна крычаў:

— Ага, маеш бірку! Ты сказаў «нічога», а трэба сказаць «нічыво».

У руках няшчаснага ўжо тырчала бірка, і яго вучыцель пакідаў у школе да цёмнага.

І панавала над беднымі «прастамоўнымі» дзеткамі страшная бірка, як біч божы. Іншы раз пакараныя вучні з пужлівай пытлівасцю доўга ўзіраліся на гэты кавалак палкі з усіх бакоў, нічога асаблівага ў ім не знаходзілі, але яшчэ болей набіраліся дурнога ўпуду ў адносінах да яе. Бірка ўвасоблілась у дзяцінных думах у розныя страшныя абразы, як грозны бог Іегава ў іудзеяў, яна набралася ў іх вваччу нейкае патаемнасці, хаваючай за сабою страшныя грымасы нячысцікаў, лесавікоў, машэкаў і розных іншых асоб в нашай міфалогіі. Меншыя дзеткі прост верылі, што ў палцы сядзіць злы дух, запраданы чараўніку-вучыцелю, і толькі з няволі, баючыся, датыкаліся да яе і з агідаю бралі яе ў свае неразумныя ручкі.

С. 143.

[1] замест: Найбольш ~ Шпак. // Толькі шкода, што, загубіўшы бірку, загубіў і свой атэстат аб навуцы Міхалка, дурнаваты хлопец, надта дрэнны, слабы вучань, але добры чалавек і шчыры таварыш. Вучыўся ён, нябога, здаецца, гадоў пяць ці шэсць, у кожным аддзяленні седзячы па два гады, а ўсё з-за таго, што ніяк не мог наламацца «па-правільнаму».

С. 144.

[34–44] замест: Раскінуў ~ пацешыць. // Потым: адзін канец папалам, другі канец папалам. Патрышчыўшы, схапіў кавалкі і кінуў на дрывотню. Усе скамянелі. А Міхалка заплакаў і пайшоў са школы астатні раз.

І ўжо пасля гэтага настаўнік новай біркі не зрабіў і аб Міхалцы ніколі не спамінаў.

## Варыянты газеты «Беларускія ведамасці»

С. 124.

[4–7] замест: З левага ~ Масковію. // На ўсходніх узмежках Беларусі, з левага боку Дняпра, за дзень летняе хады ад яго, абкружонае з трох бакоў хмызнякамі рэчкі Плёскі ды балотнаю патапечаю, спрадвеку прытулілася нашае Асмолава — пад узгорачкам пры вялікім некалі шляху з Горада на Шчасны.

С. 124—125.

[34–2] замест: каменныя ~ нічога. // камяні-крыжы, сівыя і бахматыя, са згладжанымі даўгім часам насечанымі літарамі і незразумелымі нейкімі знакамі, пабітая цэгла; чорны аскялёпак дрэва; дзікае сухазелле са звінячымі былінкамі,— больш нічога.

С. 125.

[32–[illegible]] замест: нямала ~ даўгі, // паважна сведчыць аб сівой мінуўшчыне мясцечка, аб яго краснай пары пад уладай унукаў і праўнукаў князя Лугвенія. А ў мясцечку анічога не захавалася. Разбурылася старыннай тутэйшай архітэктуры сінагога са страхою, падобнай троху да стрэх кітайскіх куміркяў, сфатаграфаваная кадаком даўгога,

С. 126.

[12] пасля: Можа, і так! // Сярод старых ліпін і кляноў стаіць ветхі замак князёў Кандыба-Лугвенічаў.

[26–34] замест: прадаў ~ прыехаўшы. // прадаў нямецкім агентам кавалак лесу, скінуў старога аканома-латыша, пасадзіўшы на яго ваканцыю новага чалавека, нейкага эстонца, і пасле першых восенных маразкоў з'ехаў ізноў за граніцу.

С. 127.

[18–25] замест: апрануўшыся ~ дарогі // апранутыя ў шэрыя жупаны, падбітыя аўчынамі, ад купцоў сваю і панскую п'яньку, канапляное семя і лён, і з нейкім грэбуючым брыдкім цікам паглядаюць на белыя світкі асмолаўцаў; яны пільнуюць свой свайго; як варочаюцца дамоў з бакалейным і красным таварам, не даюць дарогі

С. 127—128.

[41–3] замест: Тое, што ~ свеце. // Блізкасць Лугвеніна з яго корчмамі і князёўскім броварам губіць нашу вёсачку. Стары шлях сведкай таму, колькі змёрзла на ім нядбалых асмолаўцаў на дарозе са станцыі Шчаснае, з-за Дняпра, куды цягаюць спірт. Бацька Дняпро сведкай таму, колькі залілося з п'янаю пагардаю і няўважнасцю да жыцця.

С. 128.

[5–18] замест: і наогул ~ прамысляць...» // Часцей шлюць дамоў пісьмы з паклонамі, радзей — грашавыя пераводы. Штогоду наязджае начальства з грудам крэдытораў (пазыччыкаў) і гандляроў да Асмолава на продаж мужыцкай маёмасці з торгу. І смяюцца: прадаваць бо няма чаго. А нашыя дзядзькі і бацькі ўсё цягнуць і цягнуць князеўскі спірт, усё больш і больш замыкаюцца ў сабе. Ат, бог, і з ім, са светам, клумным і незразумелым; бог і з ім, з гора-

дам, чужым, амбітным, кіраўнічым. Усё шчыльней пільнуюць дружбы асмолаўцы, хаваючыся адзін ад аднаго, з шынкарамі Лугвеніна, кажучы ім у хмялю: «Отто ж, пыні, і вашая доля не лепшая: згнецены вы ў мясцечку, як тыя селядцы ў селядцоўцы, трэба ж хлеб прамысляць». І ўсё дружней клянуць іх за здрадніцтва, сышоўшыся разам у адной хаце асмолаўскай.
[20–34] і няньчыць ~ хаце? — адсутнічае.

С. 128—129.
[39–24] замест: «...І пройдзе ~ пусцілі... // «Трэба адно забіць са свяшчэннымі псалмамі дзіцёначка-мусіяша, што нарадзіўся ў майго суседа, і зробіцца Лугвеніна пупам зямлі, запануе мір і красаванне народаў, а сам я ўзнясуся на неба». Задурыў прарок мужыкоў: забілі хлопчыка.

С. 129.
[41] пасля: сэрца. // ...У старой, пахіленай хатцы, ля самага краю Асмолава, і нарадзіўся сціплы (скромны) герой нашае гісторыі Хомка, што ўпаследку дастаў прозвішча Шпака.

## Варыянты аповесці «Ціхія песні»

С. 125.
[32–33] замест: пішуць ~ спіць... // сведчаць аб сівой мінуўшчыне Лугвенева, аб яго красных часах пад уладаю ўнукаў і праўнукаў князя Лугвеня. А ў Лугвеневе анічога не захавалася.

С. 126.
[12] пасля: Можа, і так! // А цяпер у старых ліпах і клянах стаіць стары аблуплены палац дурнаватых князёў Кандыб-Лугвенічаў.

С. 134.
[10–32] замест: Безвыходнасць ~ бульбы. // Чыё замуравелае сэрца не кранецца гэтым безнадзейным восенным дажджом, гэтай адвечнай музыкай безвыходнасці, падобнай да сумнай чарады думак у чалавека, што папаліў усё чыста ў душы сваёй і кажа ў роспачы: «Што ні здарыцца — няхай на маю галаву...»

Авохці мне, як чарадою вякоў снуюцца словы гэтыя па зямельцы нашай! Чуюцца ў гудзе дуброў нашых, у посвісце ветра, у карканні варон над пустым полем; у маркатанні авечак узімку на сцюжы ў дзіравай аўчарні; у трэсканні лучыны, што маркотна пускае дым у зімовыя досвіткі; у песні п'янога дзядзькі, што плетухаецца адзін па калюгах непаладжанай дарогі сярод абы-як, абы з рук уробленых палёў, ■ курганка ў лагчынку, з долу на ўзгорак, ад гаю да лясочку, да роднай хаты — грудка шэрага гнілля паміж гэтакіх жа другіх грудкоў-хат. Ці не гэтай песні навучаліся мы шточасіны пад сэрцам матак нашых? Ці не яна, найвялікшая прамудрасць у кананні, чуецца ўжо і ў нашым першым крыку пры нараджэнні, калі няма чым прыняць новага чалавека, новага госціка. Пакора безвыходная і пачуванне тых кардонаў, за якія не выскакнуць ніколі а ніколі... Што б ні здарылася — няхай на маю галаву!

Ці чутна вам, як аб тым жа шапацяць струпехлыя стрэхі нашых хат, жабы кумкаюць у выгарах-балотах і гудзіць пясочак палёў нашых пад гонам ветру?

Авохці мне! Вякі — адна, тая самая, песня.

Плача дзіця ў зачыненай хаце, пяе песню бацькоў.

Ці не маскоўскія князі і баяры, падпіраючы ■ усходу; турэцкія султаны і пашы, скубучы з паўдня; ляхі-магнаты, хітрыкамі

пнучыся з захаду; немцы-дваране, крыжам ды мечам адылі асветаю налягаючы з поўначы, з мора; а прыгон, і гандляры, і гарэлка, гнетучы ў пасяродку,— ці не яны выціснулі з народу майго тое гістарычнае румзанне: што ні зробіцца, а няхай на нашыя галавы?

У зачыненым дзікунскім вігваме кінутае плача дзіцянё, пяе песню бацькоў.

Во ўзнялося яно на ножках, крывых пад намоклым падалом кашулёнкі, лубянай адзаду. Уздыхнула глыбока і ізноў прысела. І падол той — як магдэбургская палавіна кулі, як звон навокал біла — цельца дзіцяці. Узяў палку і аглушона забарабаніў ёю па бляшанцы з-пад газы, што падаравала яго матцы Малка Лейзарыха за бабскія паслугі.

— Брынг! Брынг!

А-пхэ! Гідкае дзіцянё, герой наш. У соплях, нямыцька, худы, а жывот яго — як той бубен, выпнуўся ад чорнага хлеба і бульбы.

С. 145.

[2] пасля: і // Розныя людзі да пахаў адносяцца па-рознаму. Казалі, напрыклад, пра аднаго школьнага дырэктара, што ён кожнага дня ўзімку па абедзе хадзіў на рынак у краму са скурамі, садзіўся там на лепшы стульчык і добрую часіну, часам болей, часам меней, разгарнуўшы на грудзях сваё старое, троху аблезлае рыжае лісічае футра, з бачным знакам прыемнасці на ўсім абліччы, дыхаў скураным паветрам, пакуль не здавольваўся. Казаў ён знаёмым, што гэткім асаблівым спосабам лячыў свае слабыя грудзі, як лечацца паветрам у сасновым бары. Смяяліся тамтэйшыя скалазубы з старога дырэктара, разносілі пагалоску, што дырэктараў бацька быў, мусіць, шавец...

С. 147.

[14] пасля: пута //, хоць і не дужа туга спутаў. Ну, няхай сабе ходзіць так! Тады схапіўся за аброць ля яе вуха, калі была спусціўшы галаву на траву, пацягнуў і шыбка, як трэба, падскочыў, бо кабыла высока маханула галавою ад зыку. Здыргануў аброць з кабылінай галавы, з-за вушэй, тады адбег назад і луппануў яе па баку, баючыся, каб не ўбрыкнула.

[18–21] замест: Коні ~ ракі, а // Заганялі іх далёка, дзеля чаго закасвалі штаны аж да калена. А заганялі так на тое, каб самыя бяглівыя і ўнадлівыя коні не маглі скора вылезці і трапіць у шкоду, бо хлопчыкі меліся на нейкі час адлучыцца ад іх: яшчэ едучы на пашу, змовіліся-зрадзіліся ісці ад коні ў ракі. Загналі... Коні абскубалі купнік, вязнучы з путамі на самае бруха. Адгэтуль ім некуды забегчы ў шкоду: далёка ў балота не пойдуць, бо там за мужыцкімі Боцікамі пачынаецца непраходны для каня Панскі Мох, а Боцікі (званыя гэтак за тое, што выходзячы з іх, кожны меў чорныя боцікі з гразі, як з лепшай гамбургскай скуры), гэтыя Боцікі — у самым далёкім куце папару, адкуль далёка да ўсякае шкоды. Адны хацелі бегчы ў ракі зараз. Другія ж баяліся, што загналі ў балота коні спутаных, што конь можа зачапіцца за корч путам, заваліцца і ўтапіцца ў гразі,— дык калі ўсе пойдуць, ніхто не ўбачыць і не падбяжыць з ножыкам, каб засадзіць засуканую аж па самае плячо руку пад корч і парэзаць пута. І гэта было толькі адмоўкаю, хоць бы вось і ў Грышкі, каторы разаслаў ужо жупан і дастаў з кішэні старыя карты і пушачку з сернікамі — хацеў адгуляцца. А Цішка не хацеў ісці, бо яго жарабок, парваўшы пута, выскачыў з балота, і цяпер яго ніяк няможна было загнаць назад.

просты бегаў па лагу. А то іншым прост не хацелася жарыцца на гэтай пякоце, бо лепей жа сесці пад крушынавым кустом на пасцеленым жупане, у халадку, ды расшпіліць каўнер і адганяцца ад аваднёў зялёнай веткачкай. А ў каго не было сернікаў, тыя хацелі нашчыпаць крушынавых ягад і гуляць у проліўкі або нашчыпаць белага рамону і сініх красак і гуляць на шчаўкі. Цішка тым часам ужо практыкаваўся: падкідаў ягады далоняй угару, шыбка пераварачваў руку і падстаўляў яе: калі на руцэ клалася ажно сем ягадак, дык і то ён, ізноў іх падкінуўшы і ізноў перавярнуўшы руку, не праліваў ніводнай. Ёмка ўмеў ён гуляць у проліўкі! І ўсё ж ткі пайшлі ў ракі, бо лавіць іх — прыямней за ўсякае гульні, ■ не тое, што пролівак. Як пайшлі яны, дык

С. 135.

42 пасля: Асмолава... // А Хомчын прадзед, як дзейкаюць асмолаўскія бабы, пракляў свайго сына, значыцца, гэтага Хомчынага дзеда, што смаліў жывую свінку. І сканаў ён — не паспеўшы зняць праклёну, бо смерць яго была неспадзяваная, хмельная: апрогся гарэлкаю на хрэсьбінах, як радзіўся Хомчын бацька. Дзеля таго і не ручыла ні ў чым усяму яго роду.

С. 157.

8 пасля: мятлушка. // О, змыслы нашага сялянскага жыцця! Уцеха і радасць, і харацтво!

Во і лес. Сцень і халадок. Рэдкія ў вышыні птушыныя галасы. Гушчарнік. Там пасуцца коні. Хлопчыкі пяюць, галосяць на ўсякія лады, як толькі іх сіла. Песні без краю, без пачатку, без аддыхі. Хто — жалобную, хто — хаця ў скокі пусціся, а нехта, з нахілам да няведамай яму навукі філалогіі і бывалы ў царкве, цярпліва прабуе і так і сяк, як праўдзівей і харашэй,— ён соткі раз пяе розна: «Госпадзі па-мі-луй! памілай! памілый! памілой!» — Усяк выходзіць на яго погляд ладна.

С. 179.

24–25 замест: Пачалася ~ палкоўнік. // «Гарачае стравы», як з'iначылі іхныя базыкалы, паднёс вораг таго ж вечару.

С. 179—181.

35–10 Ён улез ~ было цёмна.— адсутнічае.

С. 181.

37–38 замест: «Што гэта ~ Яго // «Камень ці палка адскочыла»,— памысліў, схапіўся пальцамі — і здзівіўся, што на пальцах кроў.

С. 181—182.

42–3 замест: са слязьмі ~ сэрца. // трудна вымавіць языком, і са слязамі крыўды, глыбокай і кроючай душу, нячутна і самаму сабе пытаецца Хомка шэптам.

— За што?»

*Т. С. Голуб*

## АТРУТА (с. 185)

Друкуецца па кнізе: Гарэцкі Максім. Рунь.— Вільня: Беларускае выдавецкае таварыства, 1914.

Упершыню — газ. «Наша ніва», 1913, 20 лют. і 1 сак., пад псеўданімам «Максім Беларус».

Датуецца годам апублікавання.

## АНТОН (с. 193)

Друкуецца па кнізе: Гарэцкі Максім. Антон: Абразы жыцця.— Вільня: [Друкарня «Швітурыс»], 1919.

Упершыню — газ. «Гоман», 1918, 11 студз.— 7 мая.

Датуецца 1914 г., завершана 22 лют. 1914 г. згодна аўтарскай даты ў кнізе.

Урыўкі пад назвай «Лес», «Дарога ў жыцце» друкаваліся ў чытанцы «Родны край», 1919.

## ГАПОН І ЛЮБАЧКА (с. 269)

Друкуецца па часоп. «Узвышша», 1929, № 5, дзе было ўпершыню апублікавана.

Датуецца 1914 г.

Першая публікацыя твора суправаджалася заўвагай аўтара: «Сцэнкі «Гапон і Любачка» былі напісаны мною ў 1914 годзе, перад самаю вайною, і з'яўляюцца пачатковымі ўрыўкамі з задуманага мною тады сатырычнага твора. Разам з некаторымі іншымі маімі рукапісамі яны засталіся на сховах у літоўскага настаўніка В. К. Білюнаса ў м. Белая Аліта, на Нёмне, дзе мяне тады раптоўна захапіла мабілізацыя. Пасля вайны я толькі даведаўся, што В. К. Білюнас памёр ад тыфусу ў часе нямецкае акупацыі, а сям'я яго знаходзіцца дзесьці ў Расіі. Я лічыў, што паперы мае згублены, але нядаўна, зусім неспадзявана, атрымаў іх з Сібіры ад сына нябожчыка В. К. Білюнаса т. В. В. Білюнаса. Падаючы сцэнкі ў друк, шчыра дзякую т. В. В. Білюнасу і таму невядомаму мне настаўніку беларускае школы ў Томшчыне, які даў яму мой адрас». У фондзе М. Гарэцкага ёсць рукапісны тэкст пад аднайменнай назвай, аднак напісаны ў форме апавядання, хоць дыялог у тэксце пераважае. У «Храналогіі...» твор пад назвай «Гапон і Любачка» адносіцца да 1920 г. Аўтар мог пазначыць гэтай датай або перапрацоўку сцэнічнага твора, прысланага яму менавіта ў тым годзе, або завяршэнне другога, празаічнага твора пад той жа назвай.

## МУТЭРКА (с. 283)

Друкуецца па кнізе: Гарэцкі Максім. Мутэрка: Адбітак з «Нашае думкі».— Вільня, 1921.

Упершыню — часоп. «Вольны сцяг», 1920, № 2 пад назвай «Вучыцель Мутэрка».

Датуецца годам апублікавання.

## САЛДАТ І ЯГО ЖОНКА (с. 296)

Друкуецца па машынапісе з фонду М. Гарэцкага.
Упершыню — часоп. «Полымя», 1968, № 8.
Датуецца 1922 г. згодна «Храналогіі...»
У «Храналогіі...» меў іншы варыянт назвы — «Мужык і жонка». Твор быў напісаны ў Дзвінску (зараз Даўгаўпілсе, Латвія).

## СВЕЦКІ ЧАЛАВЕК (с. 301)

Друкуецца па машынапісе з фонду М. Гарэцкага.
Упершыню — часоп. «Полымя», 1968, № 8.
Датуецца 1922 г. згодна «Храналогіі...»
Напісана ў Дзвінску.

## НЕ АДНОЙ ВЕРЫ (с. 305)

Друкуецца па машынапісе з фонду М. Гарэцкага.
Упершыню — часоп. «Маладняк», 1928, № 6.
Датуецца 1922 г. згодна «Храналогіі...»
Напісана ў Дзвінску. У першай публікацыі меўся падзагаловак: «Абразок з нядаўняга мінулага».

## КАМЕНАЦЁС (с. 312)

Друкуецца па рукапісе з фонду М. Гарэцкага.
Упершыню — часоп. «Полымя», 1968, № 8.
Датуецца 1922 г. згодна «Храналогіі...»
Напісана ў Дзвінску.

## ЧЫРВОНЫЯ РУЖЫ (с. 316)

Друкуецца па часоп. «Полымя», 1926, № 1.
Упершыню (не поўнасцю) друкавалася ў газ. «Вольны сцяг», 1923, 26 і 28 верас.
Датуецца 1922 г. згодна «Храналогіі...»
Напісана ў Дзвінску.

## ЖАЛОБНАЯ КАМЕДЫЯ (с. 342)

Друкуецца ўпершыню па рукапісе з фонду Цэнтральнага дзяржаўнага архіва-музея літаратуры і мастацтва БССР.

Датуецца 1922 г. У фондзе Цэнтральнай навуковай бібліятэкі АН БССР М. Гарэцкага таксама ёсць рукапіс «Жалобнай камедыі», апошняя старонка якога з дэфектам. У Цэнтральным дзяржаўным архіве-музеі захоўваюцца два варыянты п'есы.

*М. П. Кенька*

## Тлумачэнні некаторых слоў у творах М. Гарэцкага[1]

*Адылі* — а пасля, а далей; аднак.
*Азўка* — праворны, шустры, бойкі.
*Амбарас* — непрыемныя турботы, непакой.
*Амягаць* — знемагаць (ад смагі, смеху, жадання чаго-небудзь і г. д.).
*Апокуль* — гультай, абібок.
*Асець* — сушыльня ў гумне (з падвальнай печчу) для прасушкі снапоў перад малацьбой.
*Асцягла* — заўзята; вельмі настойліва.
*Атора* — дробная салома з абмалочанымі каласамі.
*Базыкалы* — пустасловы.
*Балонка* — шкло ў раме акна.
*Балясіны* — драўляная апора печы.
*Болка* — воблака.
*Брўкша* — бручка.
*Бусайла* — гуляка, грубіян.
*Вадохрышчы* — царкоўна-хрысціянскае свята, якое прыпадала на 6 (19) студзеня.
*Важашкі* — дубчыкі.
*Валей* — лепш.
*Вык* — віка.
*Вялікдзень* — вясенняе царкоўна-хрысціянскае свята ўваскрэсення міфічнага Ісуса Хрыста.
*Газардоўны* — азартны, заўзяты.
*Галўза* — гарэза, весялун, непаседа.
*Гатоўка* — наяўныя назапашаныя грошы.
*Гоні* — няпэўная мера даўжыні ў 60—100 сажняў.
*Грамніца* — свечка, якую асвячалі ў царкве або касцёле на грамніцы (свята хрысціян, якое прыпадала на 2 (15) лютага).
*Гўгаль* — куколь, пустазелле, якое расце ў злакавых раслінах.
*Гурына* — від нітак.
*Даматўр* — дамасед.
*Ёдка* — балюча ад холаду, марозна.
*Ёлка* — гаркавата.
*Жмогусы* — жыхары заходняй часткі Літвы.
*Завалачыць* — забаранаваць.
*Загнет* — гарызантальная пляцоўка перад топкай у печы.
*Злашча* — тым больш; асабліва.
*Зніз* — апранутыя адна на адну вопраткі.
*Зямец* — пчаляр.
*Ілля* — царкоўна-хрысціянскае свята, якое адзначалася 20 ліпеня (2 жніўня).
*Кабат* — састаўная частка беларускага народнага жаночага касцюма ў выглядзе безрукаўкі (гарсэт).
*Кадак* — тып фотаапарата.
*Калаўўрка* — вартоўня пры царкве.
*Каляды* — царкоўна-хрысціянскае свята Хрыста, якое адзначалася 25 снежня (7 студзеня) і ў наступныя дні да вадохрышчаў.

[1] Даюцца пераважна тыя значэнні слоў, у якіх яны ўжыты пісьменнікам.

*Квакýха* — квактуха.
*Кукóбіць* — пялегавацъ, песціць, мілавацъ.
*Кумíрня* — невялікая язычніцкая малельня з кумірамі (статуямі язычніцкага бога).
*Кýрчына* — асобная жэрдка (паліца) у хаце пад столлю для гаспадарчых патрэб; гл. таксама ў аўтара, с. 136.
*Кýхлік* — невялікі збаночак.
*Латáць* — лотас, вадзяная расліна з жоўтай кветкай.
*Латýшка* — гліняная або драўляная міска.
*Лéска* — плеценая агароджа з арэхавых ці яловых дубцоў (пруцікаў).
*Лучáць* — злучаць; цэліцца; выпадкова пападаць у адпаведны час.
*Магéрка* і *маргéлка* — невялікая лёгкая мужчынская шапка з лямцу (воўны).
*Мост* — падлога ў хаце.
*Мычка* — жменя льну, падрыхтаваная для пражы.
*Намётка* — касынка.
*Напóвірку* — несці груз удваіх на палцы.
*Настáліваць* — наварваць сталлю.
*Нáўды* — нядзіўна, няма нічога асаблівага, няма чаму дзівіцца.
*Незюклíвы* — негаваркі.
*Пáгада* — Будыйскі храм у краінах Далёкага Ўсходу.
*Падóл* — месца на рацэ, сажалцы, дзе мыюць бялізну.
*Пазалáчваны* — пазалочаны.
*Пакрóў* — царкоўна-хрысціянскае свята, якое прыпадала на 1(14) кастрычніка.
*Партплéдзік* — дарожная сумка або чахол для пледа і пасцельных рэчаў.
*Пасáд* — рад снапоў, раскладзеных на таку для малацьбы.
*Паскóнныя* — з грубай шорсткай тканіны (апошняга гатунку канаплі).
*Пастáць* і *пóстаць* — частка поля, занятая жнеямі ў час жніва.
*Пасэ́сар* — арандатар.
*Пол* — ніжнія нары каля сцяны ў сялянскай хаце, якія служылі як ложак.
*Пракýда* — надзвычайнае здарэнне; свавольнік, выдумшчык.
*Праскýркі* — паўночная мальва.
*Пыні* — маўляў, кажа.
*Рáдуніца* — царкоўна-хрысціянскае свята памінання памёршых, якое адзначалася пасля вялікадня, галоўным чынам на 9-ты дзень (аўторак).
*Разкí* — участкі зямлі.
*Рышт* — канава.
*Сáжань* — мера даўжыні ў 2,134 м.
*Сáнкі* — ніжняя сківаца ў людзей або жывёлы.
*Сахá* — слуп, падпорка ў гумне.
*Сýвалка* — рэшткі валакна пасля трапання льну або канаплі.
*Судзíнне* — посуд.
*Сýднік* — шафка для кухоннага посуду.
*Султы́жка* — костка, масол.
*Супарáт* — упарты чалавек; свавольны; супастат, мяцежнік.
*Сцéнка* — незасеяная паласа поля, пакінутая для праезду на конях з вазамі.
*Сяніца* — пуня, будынак для сена.
*Тарпá* — скірда.

*Ток* — месца ў гумне, якое прызначана для ручной малацьбы злакавых раслін (жыта, пшаніцы і г. д.).
*Тра́м* — бэлька пад столлю.
*Тума́р* — тысячнік.
*Тура́цца* — хутка ганяцца.
*Угру́нь* — бягом.
*Узмо́шча* — узгорачак каля лесу.
*Уру́га* — лепшы кавалак пашы.
*Фарбо́ты* — карункі.
*Фах* — рамяство, праца.
*Ца́ля* — мера даўжыні ў англійскай сістэме мер роўная 2,54 см., у Вялікім княстве Літоўскім карысталіся цаляй роўнай 2,7 см.
*Цвінта́р* — пляцоўка вакол царквы.
*Цэрамо́к* — абкладзеная дошкамі магіла, якая мае выгляд хаткі.
*Ціка́ць* — падглядваць; падкрадвацца.
*Чаля́дка* — прыслуга, наймічка.
*Шке́ліць* — кпіць, насміхацца.
*Шубі́на* — палка, зручная для кідання.
*Шу́рка* — мера дроў у чвэрць сажня.
*Яглі́цца* — імкнуцца; квапіцца.
*Ярмо́лка* — мужчынскі галаўны ўбор набожных яўрэяў.

# ЗМЕСТ

## АПОВЕСЦІ



## ДРАМАТЫЧНЫЯ АБРАЗКІ



**МАКСИМ ИВАНОВИЧ ГОРЕЦКИЙ**

СОБРАНИЕ СОЧИНЕНИЙ
В ЧЕТЫРЕХ ТОМАХ

ТОМ 2

Минск, издательство «Мастацкая літаратура»
На белорусском языке

*На першым форзацы:*
*Беларуская сельскагаспадарчая акадэмія ў Горках. Тут у 1926—1928 гг. жыў і працаваў Максім Гарэцкі.*

*На другім форзацы:*
*Возера на тэрыторыі парку-дэндрарыя БСГА.*

Рэдактары А. Дз. Куліш, С. Р. Прыгодзіч. Мастак В. П. Масцераў. Мастацкі рэдактар Л. Я. Прагін. Тэхнічны рэдактар Г. П. Тарасевіч. Карэктар А. Т. Глушчанка.

ІБ № 1624

Здадзена ў набор 18.05.84. Падп. да друку 12.12.84. АТ 01301. Фармат 84×108¹/₃₂. Папера друк. № 1. Гарнітура звычайная новая. Высокі друк. Ум. друк. арк. 21,84+0,42 укл. Ум. фарб.-адб. 23,10. Ул.-выд. арк. 25,27. Тыраж 8000 экз. Зак. 419. Цана 2 р. 90 к. Выдавецтва «Мастацкая літаратура» Дзяржаўнага камітэта БССР па справах выдавецтваў, паліграфіі і кніжнага гандлю. 220600. Мінск, праспект Машэрава, 11. Мінскі ордэна Працоўнага Чырвонага Сцяга паліграфкамбінат МВПА імя Я. Коласа. 220005. Мінск, Чырвоная, 23.

**Максім Гарэцкі**

**Збор твораў у чатырох тамах**
**Том II, с. 50**

**Заўважаныя памылкі**

| Надрукавана | Трэба чытаць |
| --- | --- |
| Не ўсё ж тыя вянчаюцца,<br>Што вясною распускаюцца,<br>Не ўсё ж тыя вянчаюцца,<br>Што любяцца ды кахаюцца...<br>З нар[однай] песні | Не ўсе ж тыя сады цвітуць,<br>Што вясною распускаюцца,<br>Не ўсе ж тыя вянчаюцца,<br>Што любяцца ды кахаюцца...<br>З нар[однай] песні |

Зак. 419.